# Янка Брыль

ТОМ
ТРЭЦІ



## ПТУШКІ І ГНЁЗДЫ

*Раман*

## ГРАНІЦА

*Раздзелы з рамана*

## НАРЫСЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1980

*...Тады яе, нашай любай і страшнай Зямлі, яшчэ ніхто не бачыў зводдаль, у блакітным ззянні.*

*Самотная, яна паволі, вусціішна круцілася ў чорнай бездані, загадкава паслухмяна і вельмі дакладна паварочвала да святла то адзін, то другі бок жывога глобуса, мокрага ад крыві і шурпатага ад руін.*

*На тым баку, дзе была ноч, па хрусткім снезе, да касцей прапякаючы босыя ножкі, у белай кашульцы бегла дзяўчынка. Ад вёскі, дзе лютавалі забойцы, у другую, яшчэ не знаёмую вёску, дзе таксама чакала — хто ведае што...*

*Яна не крычала, адна ў сцюдзёным бязмежжы, на вачах у высокіх і абыякавых зорак,— яна ўжо толькі шаптала адзінае слова, якім чалавек пачынае жыццё, слова вялізнай сілы і... зусім бездапаможнае.*

*Яе сустрэлі коннікі. Яны былі са зброяй і спяшаліся туды, адкуль чуліся стрэлы і крык, дзе пачынаўся пажар.*

*Дзяўчынку паднялі на рукі, пад кажух, сказалі, адкінуўшы і суровую жорсткасць і паходны мужчынскі цынізм, што ты не плач, маленькая, ужо не бойся, мы — людзі.*

*У родным цяпле яна, як парастак, адышла, дажыла да першай усмешкі, расцвіла пасля пладаноснай красой, здабыла святое права называцца словам маці.*

*І сын яе — новыя светлыя вочы бяссмерця — сёння ўжо марыць, услед за першымі, пра міжзорны палёт.*

*...Ну, а навошта яны, што былі ў тую ноч — бясконца доўгую! — хто ў салдацкіх акопах, хто ў партызанскім сядле, хто за дратамі фашысцкага лагера,*

*навошта яны ўспамінаюць, расказваюць, пішуць — многа як быццам, а ўсё яшчэ, кажуць, і мала і бледна?*

*Горкая памяць ахвяр...*

*Светлая памяць сяброў...*

*Трывожная дума пра тое, што будзе...*

*І да мяне з далечыні мінулага вось ужо дваццаць год — часта, часамі зусім нечакана — прыходзяць вобразы і галасы, трывожаць і просяць даць ім другое жыццё...*

*...Для гэтай кнігі я аддаў свайму герою многае з перажытага. А ўсё ж яна — «не аўтабіяграфія, а — біяграфія адной душы», расказ пра яшчэ адзін шлях да святла, пра яшчэ адно месца ў страі яго абаронцаў.*

*Кніга напісана не па праву заслуг і пакут. Толькі па праву любасці да Чалавека — які ён ёсць, які ён будзе, бо павінен быць.*

# СЦЮДЗЁНЫ ВЫРАЙ

*Аповесць першая*

## «ХЛОПЦЫ, НАСТАЎ НАШ ЧАС...»

### 1

— Па́дна! Аўф! Падна!..

Такую каманду — польскае «па́дній», лажыся, абсечанае на свой лад, і зручнае, да брэху адшліфаванае «аўф», устань,— як аўтамат, нястомна і бяздушна паўтарае гітлераўскі старшы унтэр Шранк.

Адбываецца гэта ў чэрвені саракавога года, калі і атлусцеламу тылавіку вельмі проста было ўявіць сябе звышчалавекам.

І тут, у вялікім шталагу, стацыянарным лагеры палонных, грымяць на слупах рэпрадуктары, словам і маршам трубяць перамогу над чарговай краінай Еўропы, цвікамі і падковамі салдацкіх ботаў таўкуць яе, пад ногі зрынутую Францыю, яе Парыж, яе нікому не патрэбную свабоду.

— Падна! Аўф! Падна! Ляжаць, праклятыя польскія свінні!..

Сотня былых франтавікоў — у чорных, марскіх, і ў сухапутных, колеру хакі, неданосках — ляжыць, прыпаўшы грудзьмі да выбітай, як ток, зямлі і цяжка дыхае на гарачы пыл і стаптаныя рэшткі травы.

Усім вядома: цяпер, як заўсёды, пачнецца поўзанне...

Калі б знізу заглянуць пад гэтыя насупленыя бровы над зямлёй — убачыў бы ў вачах, вядома, і нянавісць, рознай сілы і адкрытасці, і стому, у залежнасці ад узросту таксама розную: каму не на карысць, а каму дык і проста не на жыццё.

Найменш заўважыў бы страху,— прывычка.

А вось смяшынкамі свецяць адны толькі вочы.

Усміхаецца правафланговы.

І відно гэта толькі, бадай, яму аднаму.

Схіліўшы долу светлачубую галаву, на якой нейкім цудам, толькі па ўласнай ахвоце, трымаецца пілотка, хлопец успамінае.

Таксама «падній», хоць [redacted] іншых вуснаў. Калі ён быў яшчэ польскім рэкрутам — даўжэзны год таму назад.

Скамандаваў тады капрызна-злосны, нявыспаны з перапою ці валацугі паручнік Слядзіньскі, такі сабе маладзенькі ды выпінасты ўзводны «вудз», правадыр, па салдацкай мянушцы — Пінгвін. Ляжаў узвод марской пяхоты, нядаўнія вясковыя ды гарадскія дзецюкі з-пад розных Торуняў ды Нава́градкаў.

Лаянка, што сакатала над імі,— не хвацкая, не смешная, а такая ўжо да нудоты агідна штодзённая, лішняя, што ёй бы не [redacted] рота выходзіць... Пакуль скамандаваць «хамам» паўзці, Пінгвін мяшаў з брудам і іх саміх і іхніх маці, жаваў, пеpажоўваў і з асалодай выхарквaў самую ліпкую поскудзь казарменнага фальклору, шчодра запраўленую адчуваннямі стомы, і абавязку, і ўласнай вышэйшасці. З грэбліва-пакутніцкай усмешкай на далікатнай, выпешчанай мордзе.

Бялявы хлопец, які і там, у войску, быў правафлангoвы, глядзеў, як усе, у зямлю. Малебен гэты трываў нядоўга, аднак рэкрут паспеў заўважыць перад самымі вачыма, паміж нерасцвіўшых рамонкаў, светлыя, тлустыя, небывала выразныя пясчынкі, успомніць, што ў сонечнай вышыні — пушыстыя, белыя хмары-баранчыкі, адчуць, што на душы ў яго — свой, чалавечы, вясёлы настрой.

Ад кнігі, якую днямі ўзяў з палкавой бібліятэкі. «Дивны дела твои, господи!..» (Пайшоў манах у грыбы ды з лесу бабу прынёс у мяшку.) Кніга тая — «Прыгоды бравага ваякі Швейка». Па слепаце начальства яна трапіла ў казарму або як? Нібы знарок, каб увечар ты нарагатаўся [redacted] аўстра-венгерскай ваеншчыны, а ўранні ўбачыў яшчэ адну, на гэты раз польскую, інсцэніроўку агульначалавечых старонак.

Знізу... Ды не — не знізу, хоць і павалены загадам пана паручніка, глядзеў тады правафлангoвы на яго, па тупасці, па лаянцы — ледзь не таксама, як Шранк, звышчалавека.

«Не тое ўсё гэта,— думаў тады салдат,— ну, не найгоршае яшчэ, што можа быць. Я вытрываю, не паддамся! Я...»

Тут мімалётны ўспамін абарвала каманда:

— Паўзці! Цум доннарвэтар ніхт нох маль, паўзці!..

Палонныя паўзуць. Так, як і ўчора і пазаўчора,— паволі, зберагаючы сілы, выдатна, як пад шнурок, трымаючы раўненне.

Шранк забягае ззаду доўгай лінейкі і зноў, як учора, бачыць: не адстае ніхто. Няма каго як быццам падганяць. Іменна толькі як быццам, бо раптам ён заўважае, што ногі ў вышэйшых — даўжэйшыя, адстаюць. Кідаецца да гэтых ног і б'е наскамі моцных, наглянцаваных ботаў у стаптаныя, запыленыя падэшвы і абцасы. Забегшы спераду, ён заўважае зноў, што лінейка паўзе ідэальна. І гэта, цум доннарвэтар, перастае быць цікавым.

Звышчалавек у званні старшага унтэра камандуе ўстаць, пастроіцца па тры і з песняй — марш! Пры гэтым ён і сёння не забываецца напомніць, што чым лепшы будзе спеў, тым хутчэй абед.

Па шырокай лагернай вуліцы, абапал якое стаяць спачатку маладзенькія дрэўцы прысадаў, а далей — цагляныя, нізкія, доўгія блокі, з песняй ідзе сотня дашчэнту вымучаных, выкачаных у пыле людзей, а перад імі — немец у седлаватай шапцы, з галунамі на каўняры, з выглядам, вартым меднагалосых труб і кветак.

Польская песня пра вясновую раніцу, пра церпкую расу і румяную Чэсю, што выганяе на пашу валоў,— песня, якую не зацягала, не затаптала казарма, народная песня, якая вышэй за ўсе войны,— гучыць пераможным маршам.

А унтэр Шранк — здалёк відно — успрымае гэты спеў, усё гэтае незразумелае «фэрфлюхтэ, проша пана», як трыумф свайго камандзірскага генія, як належнае нацыі, арыйцу.

Ён перарос герояў Гашэка: ён і агідны, і смешны інакш, чым Швейкавы начальнікі, чым той шляхецкі фюрэрчык Слядзіньскі.

Шранка палонныя-палякі ахрысцілі Бамбавозам. Ён таксама дзябёлы, грымучы, нахабны і недасяжны для помсты, як тыя самалёты, што бамбілі іх у дні вайны, амаль зусім безабаронных і тады. Калі ён біў штрафніка, крыкам паставіўшы на stillgestanden [1], відаць было: гэта — далёка не ўсё, што можа і чаго хоча гэты... нечалавек па прафесіі. Калі ён надоечы вёў па лагернай вуліцы ў камендатуру мараканца,— як на повадзе, залыгаўшы за шыю разматаным і скручаным палотнішчам цюрбана,— па пісталеце ў руцэ і па ўсмешцы ясна было, што́ ён ахвотна зрабіў бы з абстрыжанай, несамавіта светла-шэрай галавой маладога, смуглага афрыканца ў французскай форме. Зрабіў бы і зробіць — абы сігнал — гэты двухногі рэзервуар нянавісці і самаўпэўненага нелюдства, прытоеных толькі да часу...

Агромністы натоўп з усіх праходаў паміж блокамі плыве на цэнтральную вуліцу.

Песня!..

Большасць не разумее яе, як і Шранк. Гэта — французы, арабы і негры з іх каланіяльных войскаў, галандцы, трохі англічан, бельгійцы. Навічкі, што прыбылі сюды днямі, не разумеюць не толькі слоў гэтай песні, але і наогул не могуць пакуль што ўцяміць, да чаго яна і з якой такой радасці. Але ж чуваць з натоўпу і галасы:

— Брава, хлопцы! Няхай жывуць штрафнікі!..

I словы гэтыя кветкамі ляцяць на бесказыркі, пілоткі, непакрытыя галовы тых, што спяваюць.

А песня гучыць, як ніколі, магчыма, не гучала,— на злосць праклятай няволі, на злосць плюгаваму Бамбавозу!..

I ўжо не толькі ў вачах правафлангована, але і ў іншых, амаль прыкметна для тых, што абапал дарогі, іскрыцца горкая, гордая радасць пратэсту і веры.

Правафланговы цяпер — запявала, і моцны голас яго звініць задорна, як на свабодзе.

I самай раскошнай кветкай з натоўпу ляціць проста ў хлопцава сэрца роднае беларускае слова:

— Арол, Руневіч! Маладзец, Алесь!..

---

[1] Смірна.

## 2

У гэтым шматтысячным чалавечым мурашніку палонныя з польскай арміі адчувалі сябе ветэранамі.

Іх прыгналі сюды летась у верасні, яшчэ ў цэльты — брызентавыя палаткі на вялікім пустыры, які быў толькі што абцягнуты навенькім калючым дротам, падрыхтаваным загадзя і ўдосталь. Іх рукамі пабудаваны гэтыя цагляныя блокі, на дзвесце пяцьдзесят чалавек кожны, пракладзены і ўкатаны шлакам вуліцы, пасаджаны дрэўцы. Усё — па загадзя прадуманым плане і, відаць, надоўга. Гэта яны, каго не адразу пагналі на працу ў вёскі, маёнткі, на заводы, амаль да самай вясны, пакуль не зроблены былі блокі, удосталь паспыталі, як спіцца пад лопат брызенту, у берлагу і перацёртай саломы, калі прачынаешся часта пад снегам, грэешся сам ад сябе ды ад мізэрнага, абы ты жыў, казённага пайка.

Сотні дзён і начэй гаворана і думана было палякамі, што гэта швабам не Польшчу асядлаць з усіх бакоў, што вось вясна сваё пакажа, вясна ды Англія з Францыяй...

У красавіку, калі ў лагер прыгналі чалавек з трыццаць англійскіх маракоў, узятых пад Нарвікам, палякі сустрэлі іх вельмі радасна.

Сыны Альбіёна трымаліся з ворагам горда. Зойдзе ў іхні барак які-небудзь нават гер гаўптман ці лёйтнант, пафанабэрыцца наконт таго, што Энглянд хутка і немінуча будзе капут, а тады, знакам арыйскага рыцарства, кіне на стол пераможаных пачак ці два цыгарэт. Так і ляжаць яны, ніхто не кране, хоць курыва свайго няма. Нават калі іх частуе каторы з палонных, англічане спачатку спытаюцца, ці не з нямецкіх гэта рук. Праўда, так было толькі спачатку, а ўсё ж — на зайздрасць прыгожа.

Пасля прыгналі галандцаў — блакітна-шэрую масу і цёмна-сініх гвардзейцаў з белымі аксельбантамі. Адны з гэтых людзей былі на дзіва крыўдна нетрывушчыя: толькі і нылі каля кухні, наіўна чакаючы дабаўкі; чысценькія шнуры другіх красамоўна даводзілі, што да зямлі яны нават не дакраналіся. Галандцаў лагер сустрэў непрыхільна.

Калі ж неўзабаве па цэнтральнай вуліцы ў далей-

шыя пустыя блокі паплыла ўжо не соценная, а шматтысячная французская рака, калі ўжо не толькі за вузкімі спінамі іх каляровых афрыканскіх ваякаў загайдаліся вялізныя мяхі «трафеяў», але і самі гаспадары «непераможнай лініі Мажыно» ішлі некаторыя настолькі забарахолена, што нейкі грэнадзёр — малы, пузаценькі, акадэмічна важны, з чамаданам — вёў за сабой на повадзе карміцельку-казу,— ветэранаў прарвала пагардлівым смехам і словамі... нават пра здраду:

«Дасядзеліся, дапіліся!..»

Не горш, як тых маракоў-англічан, сустракалі бельгійцаў, пра мужнасць якіх з цынічнай «аб'ектыўнасцю» грымела нават нямецкае радыё.

Ашуканыя і пакінутыя ў дні вайны не толькі саюзнікамі, але і ўласным урадам, палякі цяпер, пасля разгрому нават Францыі, у горкім адчаі маглі суцяшацца тым, што ваявалі яны — не горш за ўсіх, куды там! — нават лепш за многіх. З новай сілай ажылі, новымі легендамі пачалі абрастаць молатыя ды перамолатыя за восень і зіму расказы ўдзельнікаў і сведак.

Права на гордасць давала ўжо не толькі суровая, страшная праўда фактаў, не толькі яшчэ ды яшчэ раз узбітая над тою праўдай пена ва ўсякім узросце блазенскага, на хмельнай выдумцы настоенага самалюбавання,— палякі ганарыліся нават і стажам няволі, тым, што яны — ветэраны, якія тым часам усяго паспыталі: і гора, і здзеку, і смаку пратэсту ды ўцёкаў...

Штрафкампані, штрафная рота, нейкая сотня найбольш непакорных, пакуль што толькі з салдат польскай арміі, лічылася лагернай гвардыяй.

Па адным, па двум ці па трох гэтых «гвардзейцаў» прыганялі сюды то з арбайтскамандаў[1], дзе яны асмельваліся выказваць якое-небудзь нездавальненне, то з тых — далейшых ці бліжэйшых ад лагера — вёсак і гарадоў, каля якіх каго накрылі на днёўцы або злавілі ноччу.

Уцекачоў было найбольш. Настойлівыя смельчакі ці проста свабодалюбівыя, паэтычна настроеныя рызыканты, яны ныралі ў цёмную ноч, яшчэ не ведаючы

[1] Рабочых камандаў.

дый мала думаючы пра тое, што іх чакае, калі зловяць. Ужо суровай зімою па многіх арбайтскамандах гордай легендай пайшла, пашапацела вестка пра самыя першыя ўцёкі, дзе два матросы неслі, пакуль не папаліся, трэцяга — з адмарожанымі нагамі. Шапталіся, збіраліся зімой, а вырай пачаўся, вядома, з вясны. Тады была і створана гэтая штрафкампані, своеасаблівы канцлагер у лагеры.

Адзін з блокаў абгарадзілі зноў жа калючым дротам, паставілі туды камендантам найгоршага гада з лагерных унтэраў — Шранка. Ён падабраў сабе з радавых вахманаў, канваіраў, двух адпаведных памочнікаў. Утрох яны і будзілі штрафную, і клалі спаць, і кармілі, і вадзілі на працу, і займаліся з ёю так званай гімнастыкай.

Суткі тут пачыналіся ўвечары, калі выдаваўся хлеб. Сто шэсцьдзесят грамаў хлеба, да якога — кавалачак, не большы за запалкавы карабок, ці мармеладу, ці штучнага мёду, ці крывяной каўбасы. І «чай» — горкая мята, што памагала, як гаварылася, ад абжорства. Зрэшты, гэта быў не які-небудзь спецыяльны, а агульны лагерны паёк. Хлеб і «да хлеба» глыталі адразу, бо практыка паказала, што пакідаць палавіну на ранне — лішняя пакута.

«Ён табе, браце, заснуць не дасць: багатаму, сам ведаеш, не спіцца...»

У лагерным фальклоры было і такое, што як толькі ў барак заходзіў нехта з іншага блока, абавязкова было каму крыкнуць:

«Хавайце хлеб!»

Той хлеб, што з'яўляўся адзін раз у суткі і тут жа знікаў.

Снеданне — «чай», абед — тры чвэрткі літра бурды, што афіцыйна значылася супам: вада, трохі бульбы ці высевак, на падкалоту, акрашана далёкім пахам нейкага загадкавага тлушчу. Бывалі і кавалкі кармавых буракоў, два ці тры ў кацялку, з адпаведным наварам. Словам — голад, бязмежны і беспрасветны, які найбольш адчувала-такі штрафкампані...

Дзень пачынаўся свістком на двары, пасля якога ў барак урываліся вахманы з кіямі. Марудзіць было небяспечна. Уранні і ўвечары муштра ішла паўгадзіны, тут жа, у загарадзі штрафной, апоўдні — гадзіну на

лагернай плошчы. Для загартоўкі нерваў на тыя «падна» і «ауф» выводзілі ад стала, пасля таго як людзі пасядзяць каля яды, абавязкова моўчкі гледзячы на цёплы, нейкім жыццём напоўнены салдацкі кацялок... Паколькі лагер яшчэ ўсё разбудоўваўся, на работу далёка не гналі. Капалі хлопцы канавы пад трубы водаправода і каналізацыі, насілі каменне і цэглу, цягалі вялізнымі бочкамі ваду. І ўсё гэта пад пільным вокам і з вечным вяканнем над галавой.

Сон — на голых папярочных дошчачках, без такіх нават, як у агульным лагеры, сенніка і падушкі, толькі ■ благенькай коўдрай. Адбой і — мёртвая цішыня. Захоўваючы яе, «гвардзейцы» навучыліся пералазіць сябар да сябра, каб адну коўдру падаслаць, другою накрыцца, а легчы спіной да спіны. І шэпт, і смех былі даведзены, як тое раўненне, да ідэалу і вышэй, нават і сам Бамбавоз не прычэпіцца.

Хоць той, вядома, знаходзіў, да чаго прычапіцца. Ён дзёрся крыкам і біў — аддаючы належнае на кожны новы дзень.

## 3

Алесь Руневіч трапіў у штрафкампані з маёнтка.

У каманду, якая там працавала з прадвесня, сабралі адных беларусаў.

Паміж СССР і Германіяй была дамоўленасць наконт абмену польскімі палоннымі па месцу іх жыхарства; пачаўся быў нават і абмен, пад гарачую руку, а потым справа з ім пастунова аціхла.

У вёску, дзе Алесь быў зімой, дайшла са шталагу чутка: туды як быццам прывезена многа палякаў з савецкага боку. Бальшавікі іх выпусцілі з палону, а немцы — зноў за дрот. Пасля гэтая чутка пацвердзілася самым жывым, пераканальным чынам: на Алесеву арбайтскаманду, у групе папаўнення, трапіў улан, што пабываў у савецкім палоне.

Палон той успамінаў ён нядрэнна: «І хлеб давалі, і чай, і кашу, і нават махорку». Паказваў жоўтую трохкапеечную манету, на якой быў і герб, і літары СССР, і дата 1933 — цудоўны і неабвержны доказ. Чуў, што Саветы адправілі сюды сем эшалонаў паля-

каў, якія жылі перад вайной на захад ад Буга, а швабы туды толькі два, дый то найбольш інвалідаў або яўрэяў.

— Яўрэі ў шталагу,— расказваў новенькі,— сабраны ў адзін блок, над уваходам у які напісана: «Для адпраўкі нах Руслянд». Кажуць, што хутка адправяць туды і вас, беларусаў з украінцамі. І сам я з вамі паехаў бы, хлапа́кі. І так, і сяк — няволя да канца вайны, дык лепш ужо, псякрэў, быць там, дзе лепш...

За восень і зіму Руневіч і сябры яго, хто з усходу, з-за Буга, тры разы запаўнялі анкеты, для таго нібыта, каб вярнуцца — і то неўзабаве — дахаты. З дзён і начэй, з гадзін і мінут паволі складалася тое чаканне, поўнае маладой, неспакойнай тугі і надзеі, без аніякай звесткі ад сваіх, без аніякай упэўненасці, што і да іх дайшло тваё першае слова: жыву!..

І вось напрадвесні саракавога года было нарэшце аб'яўлена: «Беларусы — да маткі».

Колькі дарэмнай радасці!.. Іх жа проста пазвозілі са змешаных арбайтскамандаў у каманды нацыянальныя, аддзялілі для чагосьці ад палякаў і ўкраінцаў, зноў сказаўшы старое, да болю агорклае: «Працуй і чакай».

Сорак сем хлопцаў — з розных, пешых ды конных, палкоў, з розных, лясных, палявых ды балотных, мясцін Заходняй Беларусі — сабраны былі ў вялікім маёнтку. У старой цаглянай адрыне ім адгарадзілі кут, збілі нары, заслалі іх саломай, паставілі жалезную печку і, як усюды на камандах, закратавалі акно, а на дзверы павесілі завалу і замок.

Яднала землякоў туга па радзіме, яшчэ не зусім развеяная надзея на той абяцаны абмен, а галоўнае — маладосць. Яднала і цешыла. Вялікая сіла, што памагала і ад холаду, і ад голаду, і ад гора.

Алеся ўзялі ў палон толькі ў мундзіры, так, як ляжаў у акопчыку за кулямётам. Бялізны, праўда, у тым акопе парваць не паспеў... (Быў такі звычай у польскіх казармах: кожны салдат, атрымаўшы ў суботу бялізну, стараўся, па традыцыі, здаць яе праз тыдзень як мага больш падзёртую. Гэта быў нават шык такі, спаборніцтва і маладых бяздумных рогат.) На фронце, а потым у палоне, стала не да гэтага. Неўзабаве, яшчэ да прымаразкаў, бялізна сама падзерлася так,

што Алесю прыйшлося аднойчы ў нядзелю проста даруваць яе на кавалкі, якія могуць прыдацца, памыць і развесіць на дроце. А з ім і другія, яшчэ чатырох, паразвешвалі рэшткі бялізны, стаяць на холадзе ў адных мундзірчыках ды ў портках на голае цела, любуюцца,— смешна:

— Ну вось, абрадзініцца толькі катораму: будзе ў што спавіваць!..

У маёнтку, на новай камандзе, беларусаў сустрэлі дэзінфекцыяй. Забралі вопратку, звалілі яе ў спецыяльна падрыхтаваным закутку, куды напусцілі газу, а голую каманду замкнулі пры тым закутку ў адрыне. Стукай, крычы, галасі — адзін чорт.

І тут сярод іх, яшчэ мала знаёмых паміж сабою, аб'явіўся той залаты чалавек, які заўсёды знойдзецца ў любым натоўпе, з якім заўсёды лягчэй на душы.

Невядомы Алесю дагэтуль Мішка Венік, няраслы хлапчына [redacted] заечай губой, знайшоў у кутку, пад нагамі, нешта накшталт паласатай посцілкі, накрыўся ёю, як рызай, узняў руку са складзенымі шчопцямі і загалёкаў на папоўскі лад:

— Радуйся, варона, радуйся, сарока, радуйся і ты, верабей-цудатворца!..

Адрына выбухнула рогатам. А неўзабаве голы, азяблы хор падпяваў ужо свайму бацюшку, па-анёльску чулліва і нават стройна:

— Удивительно, удивительно, удивительно-о-о!..

Аднак маладосці хапала ім не на ўсё.

Стаялі над хлопцамі два вахманы і мясцовы батрак, шчуплы, рыжавусы дзядзька ў сіняй форме пажарніка, [redacted] вінтоўкай і штыхом пры боку.

Старэйшы вахман, нейк фарфорава-пашлавата прыгожанькі унтэр Хэльмут, які выгульваўся тут пасля франтавога ранення, удачліва пасучыся пры салдатках, амаль штодня быў «пад мухай» і пра каманду мала дбаў, спадзеючыся на другога вахмана. Любіў толькі сяды-тады зайсці ў барак і прычапіцца да лупатага і рахманага дзецюка з дзіўным прозвішчам Кэнць. Чапляўся унтэр ад лішняй дасціпнасці. Стане перад хлопцам, уталопіцца грозна і лічыць:

— Айн, цвай, тшы, штыры, пэнтш — Кэнтш!..

І рагоча, проста такі па-дзіцячы здаволены самім сабою і жыццём.

Другі вахман, тоўсценькі, мітуслівы яфрэйтар Глянцпапір, да мабілізацыі гандляр яйкамі, звягаў пабабску тонепька, многа і злосна.

А стары рыжавусы пажарнік надта любіў расказваць палонным, стоячы пры іх дзе-небудзь у полі ці каля горбы кампосту, што ён не проста аднафамілец, але ж і блізкі сваяк — то пляменнік, то ўнук — славутага Эрнста Морыца Арндта, «паэта, якіх вельмі мала». А па-другое, у тую вайну сам ён, обер-яфрэйтар Ганс Оскар Арндт, быў у рускім палоне. Але, як і належыцца нямецкаму салдату, прабыў ён там, у фэрфлюхтэ Сібір'ён, толькі шэсць дзён. Вывучыў рускую мову, зарэзаў вартавога-казака, пераадзеўся ў яго вопратку і ўцёк. Падрабязнасці гэтай гісторыі мяняліся, удасканальваліся амаль штодня, аднак галоўнае заставалася непарушным: «зэкс таген ім ганцэн» — шэсць дзён у цэлым на ўсё, на дарогу ў Сібір ды назад і на мову, якой ён цяпер, дарэчы, карыстаўся вельмі скупа, толькі ў злосці,— падганяючы сваіх слухачоў, каб лепш працавалі, або калі яны смяяліся з яго расказаў.

Усе тыя тры карабіны і шэсць патранташаў падпарадкоўваліся не столькі лагернай камендатуры, колькі аконаму маёнтка Штундэру.

Быў, праўда, і пан, патомны ўладар маёнтка, бязногі кайзераўскі афіцэр фон Лепар. Казалі, што нядаўна ён сам гаспадарыў, але дрэнна, і, паводле нейкіх там законаў нацыянал-сацыялізма, пану выдзелілі адпаведную зарплату, а маёнткам пачала распараджацца сама дзяржава, з рукі якое дзейнічаў гер Штундэр.

Наколькі ён быў гаспадарлівы — палонных мала цікавіла, а што пан ён круты ды паганы, яны даведаліся вельмі хутка.

Дагэтуль хлопцы бывалі на розных камандах — у асобных баўэраў, у маёнтках, на фабрыках, у лагеры,— харчаваліся з розных катлоў, але такога здзеку з ядой яшчэ не бачылі.

На іх пратэсты ні вахманы, ні аконам спачатку не звярталі ўвагі.

Тады каманда не выйшла на работу.

Унтэр Хэльмут зусім нечакана стаў за палонных.

— Яны таксама салдаты,— сказаў ён Штундэру тут жа, каля дзвярэй адрыны,— яны многа працуюць і яны павінны, бясспрэчна, gut fressen [1].

Аконам уступіў, бурда пагусцела, прыбыло трохі хлеба, з'явілася нават сякая-такая акраса. Аднак ненадоўга. Тым больш што унтэра неўзабаве адклікалі ў шталаг.

Гаспадарлівы Штундэр падсунуў палонным нядошлага кныручка, смярдзючае мяса якога настолькі псавала баланду, што нават з голаду нельга было цярпець.

Тады каманда зноў узбунтавалася.

— Не выйдзем на работу і есці не возьмем, пакуль не выклічаце з лагера камісію...

Было ж, казалі, на адной камандзе, што прыязджала камісія ды заступілася. А ў шталаг наязджала нават праверка з міжнароднага Чырвонага Крыжа. У тыя дні, расказвалі, хто бачыў, і яда была лепшая, і вахманы так не крычалі, а сам лагерны камендант, грозны і недасяжны бог у маёрскіх пагонах, проста віляў каля тых ягамосцяў з партфелямі.

Тут, аднак, выйшла інакш.

Рыжы пажарнік, мабілізаваўшы ўсю сваю фантастычную мужнасць, надзеў на «качаргу» кінжальны штых і з рускім матам ды з фэрфлюхтарам пачаў пароць палонных, выганяючы на двор. Тут прыбег і яфрэйтар. Каманду пастроілі і загадалі: «Марш!» Калі ж яна не скранулася з месца, былы гандляр яйкамі з бабскім віскам кінуўся на першага ў крайняй двойцы і з маху цяў яму прыкладам у грудзі. Алесь хіснуўся, але падэшваў з зямлі не скрануў. Немцы загналі палонных у адрыну і замкнулі.

І гамана, і маўчанне бунтароў усё выразней пачалі падзяляцца на боязь — «А што ж цяпер будзе?» — і на наіўную ўпэўненасць, што вось прыедуць з лагера і разбяруцца...

Алесь таксама ўжо то баяўся глыбока ў душы, то яшчэ цьмяна верыў у тую легендарную камісію. А звыш таго, ён нёс ужо глухі, неадчэпны боль у грудзях, і боль гэты вёў за сабою глыбока схаваную радасць: «І я — за ўсіх, і я — за праўду!..»

---

[1] Добра жэрці.

За сцяною — «Ну што ж, нарэшце гэта скончыцца!..» — загула і спынілася аўтамашына.

Ключ у замку лузгануў звычайна, як і заўсёды, завала грукнула аб брук — таксама.

Тады ж пачуўся гвалт, і ў адрыну праз раптоўна расчыненыя вароты ўварвалася салдатня са штыхамі на карабінах.

Толькі крыху пазней стала ясна, што іх было ўсяго чацвёра, дый то чацвёрты — пажарнік.

Праз момант палонныя зноў стаялі строем, перад якім, у баявой гатоўнасці, тыя чатыры штыхі і збоку — нечакана — унтэр Хэльмут.

Хэльмут быў той, ды не той. За сотні вёрст паляцелі кудысьці і блазнаватыя кепікі з Кэнця, і тая дзіўная салдацкая салідарнасць... Паміж арлом на задзірастым фасадзе шапкі і значком вермахта на грудзях — пошла прыгожанькі твар быў ужо не фарфоравы, не ўсмешлівы, а стандартна жалезны.

Побач з Хэльмутам, успёршыся на кульбу, стаяў высокі, худы і нясклёпісты Штундэр, з вельмі рашучым выразам на індычай фізіяноміі.

Хэльмут, менш чым заўсёды зважаючы, што разумеюць яго, дый то сяк-так, два ці тры чалавекі, прамовіў тонам самага высокага, безапеляцыйнага прысуду:

— Я не прыехаў слухаць вас ды разбірацца. Я ведаю ўсё сам. Я навучу вас паважаць два словы: немцы і Германія. Узяць яго!

На ўладны жэст начальніцкай рукі два прыезджыя салдаты кінуліся да Руневіча, штыхамі адкінулі яго ад правага фланга і пагналі да машыны.

За сабою Алесь пачуў унтэрскі голас:

— Rechts um! [1] Р-работай — марш!

Азірнуўся на тупат сяброў, але адзін з маўклівых дагэтуль салдатаў гаркнуў знячэўку і тупа штурхануў яго штыхом.

І вось ён сядзіць на заднім сядзенні адкрытай вайсковай машыны. Абапал — два штыхі, два непрыступныя твары пад каскамі. У насцярожаным атупенні Алесь усё ж такі заўважае ў вялізнай люстранай шыбіне ветравога шкла, разам з гэтымі каскамі ды шты-

---

[1] Направа!

хамі, як быццам больш чалавечны твар маладога шафёра ў пілотцы, з расшпіленым каўняром мундзіра, і, нарэшце,— самога сябе. Твар яго — нейкі на дзіва, да жаху чужы і нейкі да смеху свой, ягоны, з іх вёскі, з іх хаты, мамін і Толеў, і ўсіх, каму ён раскажа калісьці аб гэтай прыгодзе... Так, ён у гэты іменна момант адчуў, што нічога не будзе, самага горшага сёння пакуль што — не будзе!.. А ўсё ж усміхнуцца не здолеў.

Батракоў, з якімі яны, палонныя, перакопвалі кампостныя горбы, рассявалі па руні салетру, накідалі на трактарныя прычэпы гной, цяпер тут не было. Ну, пэўна ж, яны недзе ў полі. Сабралася толькі чародка малых, якія стаялі пакуль што воддаль.

І толькі нейкі нягеглы дзядок, якому не наўме ўжо, відаць, і кухаль піва, немаведама як і адкуль з'явіўшыся, стаіць побач з машынай. Якое там — стаіць: ён нават усміхаецца, выставіўшы недаедзены клык, адзнаку непрыкрытай батрацкай беднасці, узнімае руку, якая ўжо ўсё аддала фон Леперам, і сіпла каркае:

— Хайль Гітлер, Хэльмут, і вы, гер Штундэр! Што — нарэшце вы яго маеце?..

«А я ж цябе, хрэна старога, ні разу не бачыў»,— думае Алесь, міжвольна адзначаючы ў думках, што гэты клык і крывую ўсмешку раба не забудзе, як твар свой паміж штыхоў у гэтым незвычайным люстры.

І вось яны едуць.

У шыбе з'явіўся яшчэ адзін — Хэльмутаў — твар. Жалезная маска з яго сышла, а на фарфоры з'явіўся выраз задавальнення: і маёнтак, і парабкоўскі пасёлак (ну няхай сабе толькі жанчыны ды дзеці) бачылі, як спраўна быў ліквідаваны путч!..

«Герой — ляжачай карове на хвост наступіў,— успомніў прымаўку Алесь. І адчуў, што ўсміхнуўся. Сяк-так.

Аналізаваць усё, што здарылася і тым больш што яшчэ здарыцца, ён не можа дый не імкнецца. Значна пазней ён падумае, што Хэльмут, відаць, атрымаў у шталагу наганяй за першую патачку палонным, якіх так распусціла, чорт вазьмі, нямецкая дабрата, і яму прыйшлося цяпер выправіць памылку перад радзімай і фюрэрам. Значна пазней Руневіч будзе думаць і пра

ўвесь саламяны агонь іх наіўнай і рызыкоўнай смеласці...

Цяпер жа ён толькі адчувае, што ўсё абышлося, што найгоршага — сёння не будзе...

Майская зеляніна прысадаў і збожжа. Вёска. Цыгуначны пераезд з паласатым, як быццам спрадвеку задзёртым шлагбаумам. Зноў толькі поле за прысадамі. І сонца. На блізкім даляглядзе — лес.

Да горада, дзе шталаг, кіламетраў, здаецца, з пятнаццаць. Унтэр Хэльмут важна маўчыць.

Маўчаць і падуладныя.

І толькі як у лес уехалі, пачулася:

— Гальт!

Яшчэ не вылезшы з машыны, ён зусім дзелавіта гаворыць:

— Тут і закончым.

За два месяцы вахманства ў маёнтку унтэр сяк-так ведаў арбайтскаманду, хоць ён — і цвярозы, і п'яны — быў да яе амаль зусім абыякавы. «Доўгі Алекс» не толькі добра спявае,— ён і па-нямецку разумее лепш за ўсіх. І Штундэру не варта было так горача пераконваць, што путшар, падбухторшчык — іменна ён, Руневіч: Хэльмут ведае гэта і сам. Тырада перад строем «Што такое немцы і што такое Германія!..» была і разлічана перш за ўсё на яго, на путшара. Няхай разумее і цяпер, што я кажу, і няхай падрыжыць...

Аднак пакуль рабіць абяцаны канец, фарфоравы прыгажунчык адышоўся крокаў на тры і, адвярнуўшыся толькі ў профіль, пачаў праяўляць шчодра апетую Рэмаркам непасрэднасць.

«...Мы мочымся серабром»,— міжвольна ўсплыла ў Алесевай памяці фраза з «Вяртання».

— Так, мы зробім поўны парадак, а самі паедзем далей...

«...Мочымся серабром, а думаем золатам...» — дадаў палонны ад сябе і ледзь прыкметна ўсміхнуўся. Другі раз.

Хэльмут ужо стаяў перад ім.

— Што, нарабіў у порткі? — неяк знячэўку спытаўся ён і па-свойму, усім і сабой здаволены, зарагатаў.— А гэта ж яшчэ, мой мілы, не ўсё! Ты паспытаеш у нас, што азначае штрафкампані!..

Так Руневіч пачуў гэтае слова ўпершыню.

## 4

Ды ўсё праходзіць.

У другой палавіне чэрвеня, адбыўшы свой месяц, Алесь выйшаў на волю.

Гэта — не агаворка: такое ў хлопца было адчуванне, калі ён з цеснага катуха штрафное роты, з-пад Бамбавозавай апекі, вырваўся ў агромністую загарадзь агульнага лагера.

Няволя, голад і туга на гэтым, праўда, не канчаліся, аднак на такім прасторы, у такім шматлюддзі, на пляцы і ў блоках лягчэй было хавацца ад вахманаўскіх вачэй, ад лаянкі, удараў ботамі і кулакамі. Казённае і самадзейнае зверства аховы расцярушвалася тут, у параўнанні са штрафкампані, з дзесяткаў тых самых ахвяр — на многія ды цякучыя сотні і тысячы.

Адчуванне пэўнай волі ўзмацнялася яшчэ і тым, што нештрафных амаль не ганялі на працу. Дакладней кажучы, для работы пры кухні, на будаўніцтве, паліваць дрэўцы і вуліцы бралі таго, хто пападаўся пад рукі, а ветэранам, каторы спрытнейшы, стала цяпер вельмі зручна туляцца ад працы ў агромністых натоўпах навічкоў.

Добра было пахадзіць, патаўчыся ў шумлівым і неабдымным чалавечым мурашніку, зрэдку толькі пачуўшы знаёмае ці зразумелае слова.

Алесю нецікавымі здаваліся французы: неспадзявана вялыя і вельмі ж многа іх, на першы погляд ды без ведання іх мовы — аднастайна, сумна аднолькавых.

Многа было таксама і мараканцаў з французскіх паўночнаафрыканскіх дывізій. Смуглявыя, яшчэ больш за паноў сваіх вялыя, яны або валяліся на выпаленай сонцам і вытаптанай падкутымі ботамі траве, у самую спёку і то затуліўшыся ў шынялі ды panastaўляўшы каўняры, або сушылі на дратах памытыя каля калонкі лёгкія палотнішчы светлакаляровых цюрбанаў.

Ажывалі арабы, з маўклівых, панылых рабіліся шумнымі толькі гуляючы ў косці,— проста на зямлі, падкурчыўшы ногі ў абмотках,— а яшчэ больш на лагерным рынку, дзе цэлы дзень кішэла спекуляцыя, ці, лепш сказаць, змаганне чалавечай прагнасці з усемагутнай сілай голаду.

Алесю дзіўна было, незразумела, якую вартасць, у параўнанні з кавалкам хлеба, мае, скажам, нейкі бінокль, бранзалет, залаты гадзіннік ці нават шынель? А людзі хапалі гэтыя рэчы — адны дрыжачымі рукамі, моўчкі глытаючы радасць, другія нават рагочучы, радыя, што ашукалі...

А побач, глядзіш, другі такі ашуканец, наіўны аматар не проста выжыць, але ж і цацку прынесці дахаты, сам стаіць з учарашняй ці пазаўчарашняй удачай і прагнымі, тужлівымі вачыма з'ядае кавалачак хлеба ў чужой руцэ.

Сорак, восемдзесят, сто дваццаць грамаў — чвэртка, палавіна, тры чвэрткі пайка, шэры наздрасты кавалачак салдацкага хлеба быў такі фантастычна магутны эквівалент, што да зеніту яго, да поўнай вагі, цэны, здаецца, і не даходзілі. Нават самы азартны гандляр не мог не пашкадаваць самога сябе хоць на чвэртку-паўчвэрткі пайка...

Неграў — з французскіх каланіяльных часцей — было няшмат, і таму, відаць, яны карысталіся вельмі вялікай увагай. Алесю яны цёпла напаміналі маленства, школу і экзатычныя кнігі пра падарожжы па Афрыцы і, больш за ўсё,— «Хаціну дзядзькі Тома». А назіраючы, як некаторыя з ветэранаў не могуць нацешыцца ды надзівіцца з «чорных дзікуноў», думалася пра дзікунства наогул... Мыецца, скажам, негр каля калонкі, а навокал збіраецца цэлы натоўп: яшчэ раз падзівіцца, што вось ён выцірае свой чорны, наглянцаваны твар ручніком, а ручнік — застаецца белы! Мала таго — неяк адзін асабліва дапытлівы польскі дзядзька з саламянымі вусамі пад мятай палявой канфедэраткай, як следапыт, пайшоў за неграм у прыбіральню і праз хвіліну выскачыў адтуль, з дзіцячай радасцю на бягу крычучы землякам: «Войтак, Адась, як бога кохам, ушыстко чарнэ!..» А «чорны дзікун» неўзабаве, пад пахіхіканне белых, спакойна, ледзь не велічна прайшоў міма, пакалыхваючы характэрна адкінутай назад, дробненька кучаравай галавою, пабліскваючы попельна-шэрымі пятамі босых ног, сухія лыткі якіх былі не вельмі па-вайсковаму абкручаны абмоткамі.

Сенсацыяй было здарэнне каля рэвіра, лагернай санчасці. Лёгка параненага француза перавязваў ня-

мецкі фельчар, фельдфебель. І раптам чорны з чародкі палонных, што прыглядаліся, стоячы побач, зрабіў яму заўвагу. Па-нямецку і ветліва. Немец ударыў яго і аблаяў. На гоман збегся — заўсёды гатовы — натоўп. Немцу сказалі, што гэты чорны — славуты медык і ведае некалькі моў. Фельдфебель пажадаў яго ўбачыць яшчэ раз. Ды негр не выйшаў з барака. «Не хоча»,— сказалі пасланцы. Тады натоўп, галодны інтэрнацыянальны натоўп прывітаў гэтыя словы задаволеным крыкам, смехам, свістам, апладысментамі. І немец падаўся адтуль, стуліўшыся, як пад халодным ліўнем.

Руневіч свістаў ды галёкаў разам з усімі, здаецца, больш за многіх рады, што, і не ведаючы чужых моў, можна, выходзіць, усім так здорава зразумець галоўнае.

Аднак без мовы — пагана...

Вось ён, Алесь, у пары з другім дзяжурным па блоку, стаіць з катлом у чарзе каля кухні. Чарга вялікая і, як усё тут цяпер, міжнародная. Пар на пяць за Алесем стаяць з катлом два маладыя, вясёлыя негры. Гамоняць штосьці, рагочуць, пабліскваючы авечымі бялкамі вачэй і зайздросным багаццем зубоў. А потым адзін падыходзіць і становіцца перад Руневічам.

— Ну, ну! — гаворыць той, казытліва ўзяўшы чорнага пад пахі.

Негр рыўком павярнуўся, драпежна ляснуў зубамі, і, разам з сябрам сваім, які застаўся з катлом на іх месцы, яны так молада, так задушэўна зарагаталі! За імі — і нашы хлопцы і ўся чарга, хто бліжэй. І так шкада было, што нельга вось з людзьмі пагаварыць!..

На ўсё такое Алесь глядзеў спачатку толькі з-за дратоў штрафкампані.

І не дзіва, што выхад з-за іх хоць трошкі, хоць неяк напомніў пра волю.

Галоўнае ж — тут, у агульным лагеры, не было той муштры, што зверствам сваім выганяла з цябе і так небагатую сілу.

Алесь калісьці быў дужы хлопец — ці з касою, ці ў лесе,— а «падна» і «аўф» давялі за месяц да таго, што, устаючы з зямлі, цяпер яму вельмі хацелася абаперціся аб што-небудзь, тады пастаяць, пакуль перашуміць у галаве і супакоіцца ў вачах...

У польскім блоку, куды Руневіча перавялі са

штрафной, пра казарму напамінала толькі малітва, уранні і ўвечары, абавязковая тут таксама, як казыранне немцам-начальнікам, і, раз у тыдзень, паверка. Палонных афіцэраў тут не было: для іх былі недзе асобныя лагеры, афлагі. Хапала затое унтэраў, асабліва старшых. Яфрэйтары ды капралы, пераважна хлопцы абавязковай службы, да гэтага часу амаль канчаткова растварыліся ў салдацкай масе. Зрэдку толькі які-небудзь звыштэрміновы служака, нібы праз сон, падаваў прышыбееўскі голас. Зрэшты — нясмелы. Бо нават плютановыя і сяржанты (узводныя і фельдфебелі), у тым ліку былыя ротныя шэфы (старшыны), асобы найбольш непрыемныя для салдат, і тыя сталі тут дэмакратамі, хоць, вядома ж, ніяк не маглі, не хацелі забыцца пра свой мінулы хлеб, і новыя функцыі нібы начальнікаў, хоць і ў няволі, спраўлялі з прыкметнай ахвотай. Прызначалі дзяжурных, назіралі за парадкам, праводзілі пастраенне на паверцы, двойчы ў дзень паднімалі лянівую вольніцу на малітву.

Алесю, які яшчэ падлеткам, на маміна гора, сам пакінуў маліцца, смешна было цяпер, ужо не салдату, скаванаму суровай дысціплінай, а палоннаму, станавіцца з дарослымі людзьмі ў лінейку, паміж трох'яруснымі нарамі і доўгім няшчыльным сталом, і цягнуць старасвецкую ды ксяндзоўскую хвалу пану богу за ўсё, што з табой ні здараецца.

Праўда, і самі палякі спявалі далёка не ўсе з належнай адданасцю справе. Было аднойчы так, што ў самы разгар літаніі ў расчыненае акно з двара зазірнуў мараканец — здаравенны, чорнабароды, у бледна-ружовым цюрбане. Нейкі час ён з недаўменнем, але ж і спакойна глядзеў і слухаў, нібы стараючыся зразумець, ці не яму адрасавана песня. Пасля, не дачакаўшыся канца, ён азірнуўся, выцягнуў з-пад шыняля белы жмутак тавару, распасцёр яго вопытным жэстам перад сабой, дзелавіта прамовіў:

— Камарад, кальсон!..

Набожную нудоту рванула маладым, здаровым рогатам. Нават і дабравольны шэф ледзь узяў сябе ў рукі, каб крыкнуць:

— Ад-ставіць смех! За-чыніць акно! Яшчэ раз — н-на м-малітву!

Спалі на сенніках і падушках са стружак, ператво-

раных за зіму ў шалпатлівую, пыльную сечку. Бяду сваю елі без вахмана над душой. Ну, а ўжо не папасціся на работу, у пару ўцячы з блока ды знікнуць у чалавечым моры — гэта залежала ад удачы і спрыту кожнага паасобку.

Алесю пакуль што ўдавалася.

Находзішся, наглядзішся, наслухаешся і зразумелага, і не — ажно сумота возьме за душу, сумота найбольшай самотнасці — сярод такой небывалай і дзіўнай, ненатуральнай безлічы людзей...

Куды лепш было паміж тымі, што загаралі дзенебудзь у самым глухім кутку агромністай лагернай загарадзі, у глыбокай, не збітай нагамі траве, з такімі самымі, як і на волі, кветкамі.

Адкрыеш сонечнай пяшчотнасці худыя, удараныя прыкладам грудзі і, соладка ачмурэўшы ад спёкі, слухаеш, як балюча пяе ў табе сваю тужлівую, няўмольную песню цар-голад.

Або пад звонкі лепет сапраўдных жаўранкаў над сапраўдным калоссем за драцянай сцяной агароджы глядзіш на лёгенькія, белыя хмаркі і думаеш, нібы малы, што ёсць жа на гэтым шалёным свеце куток, дзе любяць, нябось, і цябе...

## 5

Палонным, якія працавалі на арбайтскамандах або хадзілі на работу са шталагу ў горад, выплачвалі па трынаццаць лагермарак у месяц. За гэтыя боны, вузкія, белыя паперкі з чырвоным трохкутнікам, можна было купіць толькі тое, што не ахоплівалася картачнай сістэмай: брытву, кавалачак поснага мыла, пачак махры, падобнай на жытнюю сечку, чамадан, губны гармонік, а то, сабраўшы бонаў семдзесят — акардэон.

Аркестр польскага марскога флоту трапіў у палон амаль у поўным складзе, толькі, вядома, без інструментаў. Адной камандай хадзіў ён у горад на работу і да лета ўзброіўся акардэонамі.

Першы канцэрт, дазволены лагеркамендатурай, легальна лічыўся от сабе — святочнай пробаю сіл. А ў сапраўднасці, як шапталіся ў польскіх бараках, ён

прысвячаўся героям Нарвіка, той самай групе англійскіх маракоў, што яшчэ ўсё трымалася ў адносінах да немцаў з найбольшай у лагеры годнасцю і карысталася выключнай павагай большасці ветэранаў.

«Англія не прайграла яшчэ ніводнай вайны, яна яшчэ сябе пакажа...»

Чуліся, праўда, і іншыя галасы. Адзін з найбольш сталых па ўзросту палякаў, лысы сержант, сказаў аднойчы, у вячэрняй дыскусіі, што «ключык ад усяго, мне здаецца, трымае ў сваёй кішэні пан Сталін». Сержанту не пярэчылі, аднак і радасці ніхто асабліва не праяўляў.

Палонных беларусаў, што радаваліся вызваленню сваіх людзей з-пад ненавіснага панства і ўз'яднанню родных мясцін з краінай, якую яны заўсёды лічылі Радзімай, частка палякаў або ненавідзела, або не магла зразумець і па-чужому маўчала.

Былі, вядома, і такія сярод польскіх сяброў па нядолі, што і разумелі «крэсавякаў» [1], і зайздросцілі ім, і плацілі за чалавечую дружбу тым самым. Так бывала на змешаных арбайтскамандах, тое ж цяпер адчуваў Руневіч у польскім блоку — што ад каго.

Для большасці ён быў, аднак, ці абыякавы, ці чужы.

Большасць яшчэ ўсё глядзела на Англію — адзіную, найбольш жаданую надзею вызвалення.

Перад аркестрам, на лавах, вынесеных з блокаў, сядзелі імянiннікі — з экзатычнымі марскімі бародкамі, з люлькамі ў зубах, пазакладаўшы нагу за нагу, амаль усе з непакрытымі галовамі, высокія, светлыя, некалькі рыжых — як на падпал.

А ўжо за імі — мора галоў і шматгалосы гоман у чаканні чагосьці і сапраўды незвычайнага.

Алесь сядзеў на даху драўлянага барака, у групе шчаслівых, то весела, то зусім абыякава адчуваючы, як растае пад ім і так нагрэты на сонцы толь.

Усё гэта — нішто.

Галоўнае — перад трыма радамі аркестрантаў (першы сядзіць, другі стаіць за ім, трэці стаіць за другім на лавах), горда ўзброеных зіхатлівымі шчытамі акардэонаў, з'яўляецца дырыжор, пажылы, нават сівы марак. Ён дастойна, з лёгкай усмешкай кланяецца

---

[1] Жыхароў «усходніх крэсаў».

англічанам, другім паклонам прымае іх прывітальныя словы і ўсмешкі, тады паварочваецца тварам да зіхатлівых шчытоў і ўрачыстым, велічным жэстам уздымае рукі.

Спачатку ціхім, пасля нарастаючым шумам марское хвалі паплыла над натоўпам журботна-задушэўная «Палома» [1]. Без слоў яна цяпер, але ж гаворыць сэрцу вельмі многа. І не таму, што і польскія словы да гэтай музыкі ёсць, што марскі пехацінец Руневіч іх ведаў. Не, не толькі таму,— сама мелодыя, сама гармонія гукаў гаварыла так многа, так невымоўна хораша і родна, што душа твая пачынала за песняю хвалявацца.

Спачатку бачыш, як нараджаецца з гукаў карціна суровай, шэрай пустыні, па хвалях якое, барознячы пеністы след, ідзе яшчэ адзін — які па ліку? — карабель. О, якое бязмежжа, якое бязлюддзе!.. Усплёскам хвалі, небывалым па сіле, уздымае свой голас адно адзінае пачуццё. Яно амаль усё — о не, не ўсё! — перадаецца ўсплёскам слоў:

Ах, не пазбыцца вечна жывой тугі,
Вечна чужыя сцелюцца берагі!..
Нас не прыгорне к сэрцу сцюдзёны свет —
Хай жа лютуе бура і ўдаль ірве!..
Хлопцы, настаў наш час,
Мора ўжо кліча нас...

Бліскучыя шчыты пяюць, кожны па-свойму і ўсе адно, а ў Алесевай памяці, нібы хваля на хвалю, то нагрувашчваецца, то зноў раскочваецца былое...

Хлопцы, настаў наш час...

Пад гэты спеў павольна, раскалыхана ідзе, плыве, мерна і жорстка грукаючы па мокрым бруку падкутымі чаравікамі, цяжкая, шэрая польская рота.

На плячах, на галовах — жалеза: кулямёты і каскі. Дажджлівы ранак з цяжкімі, нізкімі хмарамі. Душы прыгнечаны гэтым апошнім выхадам — з казармаў у акопы.

Песня тут недарэчы,— спяваюць яе механізмы, нібы ключом, заведзеныя поклічам каманды.

Кулямётчык Руневіч ведае, дзесьці схапіў міма-

---

[1] Неапалітанская песня «Галубка».

ходзь на шляху самавука, цяпер прыпомніў і нясе з сабой смешныя, горкія, страшныя словы аднаго з найбольш закончаных салдафонаў, Паўла Першага:

«Солдат есть простой механизм, артикулом предусмотренный».

Толькі аднаго з тых прадугледжаных механізмаў прарвала нейкім жывым, чалавечым пратэстам... Напярэдадні, чысцячы зброю, рота спявала. Без каманды, сама, пад настрой. Гэтую ж песню марское тугі... І вось на словах «Хлопцы, настаў наш час...» маўклівы, ужо даволі немалады рэзервіст, які чамусьці не спяваў, зусім начакана апаў грудзьмі ў нацельнай кашулі на замазучаную сталь «максіма» і дзіўна не па-мужчынску заахаў наўзрыд...

А яны — учарашнія рэкруты, героі пасля шасцімесячнага абучэння,— яны гаварылі, што гэта, бачыце, не кадравік, толькі што з дому, ад бабы...

Жонак у іх не было, слова «дзеці» яны абміналі, яшчэ глыбей, у самых недасяжных тайніках хаваючы вобразы самых любімых і самых няшчасных — маці.

Добра, што іх тут няма.

І як нядобра, што вось яны — стаяць і плачуць на абочыне — дзве, тры, чатыры мамы мясцовых хлопцаў.

А хлопцы — усе і тыя чатырох — зусім абыякава ідуць, механічна калышуцца, ціха бразгаюць цяжкім, панурым металам вайны, што заваліў цяпло жывой душы.

Хлопцы, настаў наш час...

Дагэтуль усё здавалася толькі забавай. Спрадвечнай, вясёлай, агіднай, аднак — забавай. І маршы, і казармы, і начальнікі, службовая строгасць якіх хоць і да слёз, да абурэння часамі даводзіла аднак больш весяліла здаровых, бесклапотных юнакоў. «Мне што — адслужыць ды дахаты вярнуцца, не больш!..»

Нават калі яны, улетку трыццаць дзевятага, капалі акопы на мяжы тэрыторыі «свабоднага горада» Гданьска, усё здавалася ім толькі забавай. Граніцы, у поўным разуменні гэтага слова, тут не было: дваццаць метраў нейтральнай паласы і — вораг, гітлераўцы, якія ўжо фактычна ператварылі «свабодны» Гданьск

у свой, нямецкі Данцыг. Стаяць, выскаляюцца, кепікі строяць па-польску:

— Копай, копай, а кто заплаці?..

Нібыта самі напрошваюцца на поўху.

Ды ім адказвалі, па загаду, спачатку маўчаннем, а потым, адыходзячы, пацешна ваяўнічай песняй:

Нікт нам не зробі ніц,
Нікт нам не рушы ніц,
Бо з намі Сміглы, Сміглы,
Сміглы-Рыдз!..

Забавай здавалася нават першая начная перастрэлка, што ўспыхнула за два дні да пачатку вайны. Эх, здорава заекаталі над далінай, над морам іх кулямёты! «Забава» гэтая была не на самай граніцы, а на схіле парослага букамі ўзвышша, дзе ў глыбокіх, пакручастых акопах і ў бліндажах засела Алесева рота.

Бліндажы, ці, лепш сказаць, проста зямлянкі, нібы наспех былі накрыты, двума накатамі танклявага сасонніку. Хоць і рабіліся яны, разам з добра замаскіраванымі акопамі і падвойнай лініяй калючага дроту, як быццам грунтоўна, усё лета.

У свой бліндаж Руневіч з сябрамі па кулямётнаму разліку дасталі ў пакінутых жыхарамі дамах стары, без толку балбатлівы будзільнік; над уваходам, маючы на ўвазе не толькі сваіх, чорнаю фарбай намазалі: «Староннім уваход сурова забаронены»; злавілі, прывялі і навязалі, для поўнай дамавітасці, пярэстага, несаліднага шчанюка. Пазней, у час першага артабстрэлу, цюцька шчасліва сарваўся і ўцёк, а самі гаспадары бліндажа, шэсць радавых і плютановы, сталі куды больш сур'ёзнымі...

У той жа першы дзень, калі аціхла пад вечар, да Руневіча з другога крыла абароны прыйшоў зямлячок, вясёлы Коля Баярын са стралковай роты, і прывалок аднекуль — «у адведзіны без нічога не ходзяць» — вядро вішнёвага варэння. Ды Алесю было ўжо не смешна.

Душу яго разрывалі туга і адчай. І ўдзень, і ў бяссонную ноч, і ў наступнае ранне...

Вось ты калышашся, мора — чароўнае, ціхае мора! — і празрыстыя хвалі так мілагучна, нячутна, пяшчотна выгінаюцца ад шчодрай ласкі ранняга вераснёўскага сонца.

І як жа добра — крутою сцежкай у ляшчэўніку, пад высачэзнымі, шапатлівымі парасонамі букаў — асцярожна, амаль бясшумна, беручыся за галлё, спусціцца, да вады, зняць з галавы дурны жалезны гаршчок, распеapразацца, разуцца, каўнер расшпіліць і ціхенька, каб толькі сонца бачыла, зайсці па самыя калені ў мора.

«Здарова, сонца!..

Няўжо ты тое самае, як і там, адкуль мяне «паклікалі» сюды, там, дзе маладзенькая, мною пасаджаная рабіна сарамлівым дзяўчом ірдзіць перад старым акенцам, у якое ты гэтак часта свяціла і мне?

А я — не той самы.

Бо ўсё, што мы, салдаты, робім, што і мне — часамі нават і праз горкі сум — здавалася дагэтуль забавай, стала жудаснай і нялюдскай работай.

Нядаўна яшчэ — свабодны, самастойны, закаханы ў прыгожую праўду любасці да чалавека, упэўнены ў шчырасці, у сіле свайго пратэсту супраць вайны, цяпер я — толькі механізм, бязвольны, прадугледжаны чужым артыкулам.

Гэта, сонца, жахліва — што ўжо вайна, што ўжо і мы, на самай блізкай дыстанцыі, сышліся са словамі:

Хлопцы, настаў наш час!..»

«Палома» змоўкла даўно. Акардэоны спявалі пасля штосьці іншае. Потым наогул закончыўся незвычайны канцэрт.

Але высокі, светлы юнак, што сядзеў на бараку, яшчэ ўсё чуе яе — тую песню марской, чалавечай тугі.

Ён ляжыць у зацішным кутку на траве, глядзіць на белыя хмаркі — высока-высока! — і кажа той песні душою, без слоў:

«Не, ты не кліч мяне да тых халодных і тужлівых хваль, дзе ні дні і ночы бушавала агнём і жалезам нянавісць, дзе толькі цудам мяне абміналі асколкі і кулі, дзе без пары абарваліся шчасце, свабода і маладосць!..

Вядзі цяпер да сонечных, да непаўторна радасных, што калыханкай шумелі мне ў самым пачатку!..»

# ПАДАРОЖЖА Ў НАЙЛЕПШАЕ

## 1

Шчодра напоены святлом, далёкі і блізкі, нібыта ў радасным сне, вялікі чарнаморскі горад.

Над безліччу рэек чуваць гудкі і чаханне паравозаў.

І — галоўнае — тата вярнуўся!..

Вось яны, хлопчыкі, самі сустрэлі яго і ідуць з вакзала дахаты ўтрох, па светла-шэрых, шурпатых квадратах шырокага тратуара. Малыя ў белых панамках спяшаюцца абапал вялізнага, барадатага бацькі ў чыгуначнай форме. За рукі ягоныя ўзяцца нельга: у адной руцэ — вельмі добра знаёмы, заўсёды загадкавы дзед Чамадан, у другой — шырокая і адкрыта дабрадушная цётка Карзіна. У дзеда — яшчэ ўсё невядома што. А ў цёткі ляжыць вялікімі гронкамі цьмяна-празрысты вінаград, з-пад якога раз-пораз выглядае паласата-крамяны бок кавуна. Меншы хлопчык, Алесь, трымаецца за край карзіны амаль увесь час аберуч і ўсё заглядвае туды, шчабечучы бацьку процьму цікавых навін. Большы, сямігадовы Толя, толькі адной рукой трымаецца за ручку чамадана, побач з бацькам, і гаворыць менш. І тата падморгвае меншаму:

— Ён, мусіць, каўбасу абнюхаў кішынёўскую. Як кот.

Пасля, ужо дома, Алесь аберуч трымае зярніста-чырвоны кавуновы скрыль і есць яго — ажно за шыю пацякло.

А тата, нізка схіліўшыся над ім, смяецца:

— Ну што? І гаварыць няма калі!..

Гэта — адзін з найранейшых, здаецца, успамінаў. Вельмі просты і вельмі выразны. Да ап'янення пахам каўбасы, духмянай і салодкай свежасцю раскроенага кавуна...

Ну, а мора? Дзе тое мора далёкае, што адгукнулася цяпер на песенны пошум нявольніцкіх акардэонаў?..

На трэцім годзе Алесь цяжка і доўга хварэў... А зрэшты, і ва ўсіх, відаць, бывае так, што першыя ўспаміны расплываюцца ў ружовай, мілай імгле чала-

вечага досвітку, і памяць захоўвае толькі паасобныя малюнкі.

Мора, напрыклад, помніцца Алесю так. Косыя рознакаляровыя лодкі, найлепш — бела-чырвоныя, бела-блакітныя. Мноства сонца на варухлівай вадзе. Пад табой такі цёплы, што аж гарачы, пясочак, а за табой — да самага неба — глiністы абрыў, за якім недзе горад, і дом, і балкон... Іх не відно. Над абрывам відзён толькі белы, вельмі доўгі грабеньчык плота і, перад плотам, той мамін палын, які адтуль сюды зусім не пахне. Палын — ці, можа, іншая трава — расце і на ўступах абрыву. Там то ляжаць, то пасуцца белыя і шэрыя барадатыя козы. Адна ляжыць так блізка, што відно, як варушыцца, ходзіць ад жвайкі бародка.

А да ўсяго абавязкова прыплятаецца тое, як мама — дома яшчэ, у кухні — палошча бутэльку. Спачатку шэрай вадою, з попелам, а потым штораз чысцейшай. Каб наліць туды малака з сабою хлопцам, на мора.

Алесь не памятае, як ён потым, дзе і пры кім або з кім піў малако, бо ў памяці — на фоне сонечнага мора з двухкаляровымі лодкамі — засталося перш за ўсё тое папялістае боўтанне хваль за празрыстай сцяною бутэлькі...

Памяць падказвае то паасобныя малюнкі, то абрыўкі іх, то проста адну якую драбніцу, часамі нават і не яркую. А вось вяртанне з бацькам з вакзала ідзе чамусьці як першы ўспамін.

Чыгуначны праваднік, ён быў вечна ў дарозе. Былі дзесьці нейкія Кішынёў, Казацін, Валачыск — цяпер такія смачныя назвы,— адкуль тата прывозіў ім кавуны, каўбасу, вінаград... Пасля ён быў доўга дома. Ляжаў. І было вельмі сумна... Ды зноў жа, з гэтага суму помніцца не ўсё. Найлепш — слова «Гаус», прозвішча доктара, якое вядзе за сабой высокую, чорную каракулевую папаху, акуляры, тэрмометр, трубу і дзіўныя пахі з бутэлечак і карабочкаў... І яшчэ адно, што ідзе з таго суму. Прыцемкам ён, усімі забыты Алесь, сядзіць у змрочным пакоі адзін. Сядзеў бясконца доўга, пакуль не лізнуў на стале, у памятай газетнай паперцы, сіні дроб купарвасу. Чаго і як ён трапіў на стол — невядома і сёння. І ніхто тады не даве-

даўся, нават сам тата, чаго так горка плакаў ягоны пястун...

Замест бацькі ў дарогу паехаў Сярожа, старэйшы брат, студэнт. Жыве дагэтуль моцны і радасны пах гарачай мамалыгі, якую ён, усемагутны брат, спрытна найкройвае ніткай. І, вянчаючы гэтую радасць, найменшы ў сям'і разумненька паўтарае ранейшае, мамiна:

— Дзякуй богу, што ў нас хоць гэта ёсць. Людзі не так галадаюць.

Яго падводзяць да бацькі, а той працягвае вялікую, павольную руку і кладзе яе на астрыжаную галоўку.

— Праўда... сынок... праўда...

— Ідзі, Алесь, пагуляй,— шэпча мама.

— З Толем ідзіце,— зноў кажа бацька.— А я... хутка... папраўлюся... будзе... добра... Ідзі...

І ён паправіўся. Не гэтак, праўда, хутка, як абяцаў, а ўсё ж паправіўся. Але добра не стала. Апіраючыся на сваю цяжкую, вішнёвага колеру, гузаватую кульбу, ён хадзіў па кватэры памалу і раз-поразу садзіўся адпачыць.

Паміж ім, мамай і Сярожам пачаліся, штораз дык часцей, нейкія гутаркі пра нейкую вёску, і мама чамусьці ўсё плакала... Найлепш Алесю помніцца з усіх такіх гутарак адно: як татаў сябар, дзядзька Мікіта, што часта прыходзіў да іх, грукнуў кулаком па стале, накрытым квяцістай цыратай, і крыкнуў:

— А я не паеду! Век гэтак цяжка не будзе, хутка наладзіцца ўсё.

Алесь потым чуў, што Сярожа хоць і не грукаў па стале, а ўсё ж таксама адмовіўся ехаць з імі ў нейкую там буржуйскую Польшчу...

Алесю помніцца брудна-белы таварны вагон, у якім усяго вельмі многа — і бочкі нейкія, і пасцелі, і людзі.

«Та-та-тах! Та-та-тах!..» — спяшаюцца колы, і недзе спераду, чуваць час ад часу, прарэзліва клічучы некага, свішча задыханы паравоз.

— Бачыш, Алесь, валоў? — пытаецца бацька.— Вунь дзе, глядзі, хахол паехаў на валах.

— А што гэта — валы?

— Ну, як табе сказаць?.. Карова — гэта такая добрая цётка, што дае малако. А вол — каровін муж. Ці не, не муж, а так сабе дзядзька... Ха, ха, ха!..

— Ну, ужо ж у цябе, Мікола, і розум! — здзіўляецца сумная мама.

Алесь — ён, вядома, і тут на каленях у таты — паднімае над галавой ручкі і гладзіць яго барадатыя шчокі.

— А ў нас там будуць такія валы?

— У нас — ну, не. Мы сабе купім каня. Такога вось,— ён падкідае Алеся каленам,— гоп-па-па!..

Іхні высокі, усемагутны Сярожа, які саскочыў з падножкі вагона, ужо калі цягнік пайшоў, даўно не махае сваёю студэнцкай шапкай — яго ўжо няма. І ў таты няма ўжо слёз на вачах. Толькі мама панура маўчыць. Ды ён, Алесь, амаль не заўважае гэтага.

— А што там такое чырвонае, тата?

— Гэта, брат, мак. З яго потым алею нагоняць, а цяпер бачыш, як хораша — колькі чырвонага поля!..

— А ў нас там будзе такое?

— У нас? Будзе трошкі, чаму ж.

— Ах, будзе, будзе...— уздыхнула мама.— Што там будзе яшчэ — адзін бог святы ведае.

Бацька маўчыць, а потым сумна ўсміхаецца.

— То ты плакала — ехаць у вёску, то плачаш, што едзем... Нехта мог бы падумаць, што ты ў мяне паняй стала. За восем гадоў, Кацярына...

— Ах, пакінь...— кажа маці. І зноў яна плача.

## 2

Алесю толькі што пайшоў пяты год, калі яго перасадзілі з гарадскога на вясковы грунт. З таго часу і пачынаюцца яго амаль суцэльныя і больш выразныя ўспаміны, з асноўным у іх — новым, нязведаным хараством прыроды, загадкавым, чароўным хараством, якое паланіла нібы толькі што раскрытую душу.

У прагнасці сваёй да новага малы як быццам забыўся нават пра мора. Толькі часамі яно прыходзіла — сонцам і бела-чырвонымі, бела-блакітнымі лодкамі, бязмежжам і зіхатлівай сінечай, і цёплым, салёным плёскатам хвалявала да мілых усмешак праз сон. А дзень, Алесева ява, быў перапоўнены новым, бясконца цікавым — адно за адным!..

...Вакол хаты быў сад. Пад каравымі stваламі разгалістых яблынь і высокіх груш, паабгрызаных у вайну казацкімі коньмі і прысмаленых ды прысушаных палявымі кухнямі, густы малiннік змяшаўся з куслівай крапівой і вялізнымі лапухамі. Потым, улетку, з яблынь і груш ападала туды сакавітая спеласць. Сама ападала або Толя яе атрасаў. І трэба было, каб не апякаць рук ды ног, браць кiёк, расхінаць крапіву, а тады ўжо прыступаць яе нагой — падэшва, нябось, не баіцца! — і паднімаць сваё яблыка або грушу. Тата казаў, што каб тут, разам з крапівой, не было і малiнніку, дык ён узяў бы касу і выкасіў усю брыду. А так — яе шчасце.

Яе і хлопцаў. Бо хоць там і пячэцца — маліны такія салодкія!.. Толькі паложыш яе, як цукерку, як духмяна-шурпаты пухір, на язык, толькі прыціснеш трохі — смаката! А то дык кажуць яшчэ сма-ка-тэйна!.. І там яшчэ хаваюцца ды шмыгаюць, пацешна падкідваючы азадкамі, суседскія трусы.

Да Толі з Алесем прыходзілі яшчэ Валодзя і Сцёпка, і разам яны паролі тых трусоў з малінніку тычкамі. Трусы смешна ўцякалі, а Толя крычаў тады, што ён — Пётр Вялікі і што ён на кані.

Аднойчы бацька парасстаўляў малых ад плота, загадаў ім схавацца ў кустах, а сам, толькі з Алесем на плячы, пабрыў па тым малінніку і нагнаў на хлопцаў адразу трох ці чатырох трусоў. Аднаго з іх «Пётр Вялікі» ледзь не схапіў за заднюю лапу, але ж спатыкнуўся і нырнуў у куст. А спрытны, ціхенькі Валодзя схапіў-такі другога, белага, і, паваліўшыся таксама, на ўвесь свет загалёкаў:

— Дзядзька, дзядзька, сюды!..

Яны падбеглі ўсе, і тата ўзяў таго труса за вушы і падняў. Як ён пішчаў і дрыгаў лапкамі, лупаты, як было добра і неяк боязна пакратаць яго за мякенькую поўсць, за румяную смешную мызачку! Як ён папёр пасля, адпушчаны, пад лапухі, у іх прахалодную, сцішнаватую засень!..

...Алесь сядзіць на вялізным і казытліва, горача духмяным возе сена. Едзе! Высока-высока над скошаным лугам, дарогай у збожжы, па пашы, дзе многа дзяцей, і кароў, і авечак. І воз так страшна калывае на калдобінах!.. А потым, у вёсцы, трэба згінацца пад

голлем духмянай ліпы, дзе халадок. Перад Алесем сядзіць дзядзька Сымон, Валодзеў бацька, спусціўшы босыя ногі над крыжам накрытай дзяругай кабылы. Тата з Толем едуць ззаду, на другім возе. І гэтак хочацца, і гэтак боязна азірнуцца назад!.. Гумно з зялёнай ад моху, вялізнай страхою шырока разявіла чорную пашчу, і вось яны, прыгнуўшыся з дзядзькам Сымонам, прасунуліся ў яе, у цемру і халадок. Тут толькі ластаўкі пішчаць ды лётаюць, а ўверсе страшна, дзівосна звісае касматае і сівое ад пылу павуцінне... А дзядзька Сымон такі добры!.. Тата і мама аднойчы гаварылі паміж сабой, што ён дагэтуль неяк «трымаў у арэндзе» іх гаспадарку і вельмі ж усё запусціў, гультаіна. А ён вось з'ехаў з воза сам і наставіў рукі Алесю.

— Харошы хлопчык, Мікола,— сказаў ён тату.— Няхай здароў гадуецца.

Тата смяецца:

— Ну, ты — харошы? Ідзі, брат, сюды!

Бярэ Алеся на рукі, лезе з ім па драбіне, а потым — што ж гэта? — шпурляе на торп. Заплакаць хочацца ад крыўды і ад шорсткасці, што зноў палезла за каўнер, наскрозь, ажно ў порткі. Аднак ён не плача, бо Толя ўжо тут, і ён папіхае Алеся яшчэ раз у сена, крычыць: «Плакса-вакса!», а сам куляецца цераз галаву. Ды ўжо і тата тут. Папрасілі яго, як учора прасілі, і ён таксама кульнуўся ў сена цераз галаву, смешна накрыўшыся доўгімі нагамі!..

Потым дзядзька Сымон падае сюды сена з воза, а яны адбіраюць і топчуць.

— Трэба добра пад сцяну ды пад страху запіхаць,— кажа бацька і, учапіўшыся аберуч за лаціну, топча сена, глыбока лезучы нагамі пад застрэшша.— Памагайце, мужчыны!..

Толя спрытна пераймае тату, весела гопае, учапіўшыся рукамі за ніжэйшую лаціну.

Алесь ніяк не можа за яе ўтрымацца, бо лата і шырокая, і моцна прыціснута да страхі — нават і пальцаў не падсадзіш. І ён пакідае гэтую нецікавую гульню, зусім не разумеючы, навошта тут яна. Куляцца лепш. А скокнуць з бэлькі, га?!

Ён просіць у бацькі паставіць яго на папярочную бэльку. І ногі яго спачатку дрыжаць, як у малога, не-

абвучанага бусліка, якога гоняць з гнязда ў першы палёт, ён баіцца пусціць бацькаву руку, сутаргава чапляецца за яе, пасля пушчае-такі, нават выпростваецца і, заплюшчыўшы вочы, адчайна, напоўнены жахам і радасцю, ляціць у бяздонне амаль двухметровае глыбіні!..

За ім недзе — Толя, які цяпер — таксама Пётр Вялікі, і крычыць.

Аднак жа скокнуў першы не ён! І гэтак радасна крычаць пра гэта і смяяцца, і пырхаць ад шорсткага сена, прасіцца:

— Татачка, зноў!..

...У нядзелю бацька пазычыў вудачку — у іх яшчэ ўсё нічога няма,— узяў свой сіні чыгуначны чайнік і, нарэшце, павёў іх, Алеся і Толю, да рэчкі.

Ціхмень — рака як рака, нешырокая, ціха плыве ў тарфяністым рэчышчы, між берагоў то крутых, то адхонных, парослых аерам. Аднак тады, першы раз у жыцці, яна здалася Алесю агромністай і чароўнай.

Увойдзеш па калені ці яшчэ вышэй, бо ты ўвесь голенькі, і — эх! — прыціхнеш, глядзіш у ваду... Тут вось і ўспомніцца мора, далёкае мора... Але не так, каб шкадаваць, каб не думаць, што вельмі ж прыемна цяпер падварушваць пальцамі нагі жоўты і пругкі рачны пясочак на дне. Шэрыя рыбкі называюцца печкурамі. Яны поўзаюць зусім блізка ад ног, ледзь не ў самыя пальчыкі торкаюць... А тут Толя вадою знячэўку — як плюх-не!.. Ты да яго, а ён — боўць, боўць рукамі і нагамі і паплыў. Рукамі дастае да дна, а ўсё ж такі плыве!..

Ды хіба ж так ён плыве, як тата! І хіба ж яму, таму Толю, так добра цяпер, як Алесю!.. Алесь ляжыць на татавай шырачэзнай спіне, учапіўся абедзвюх за татаву шыю. І страшна плысці па вялізнай вадзе, і радасна,— ажно слёзы ў вачах, аж мокры падбародачак дрыжыць, нібы ад холаду... нібы толькі таму, што вельмі ж смешна!..

А потым над Ціхменню цішыня. З дзірак у чорным абрывістым беразе раз-поразу вылятаюць імклівыя, нібы ржавыя, ластаўкі-беражанкі і з піскам, мачаючы крыльцы ў люстранай, амаль нерухомай вадзе, шыбуюць над рэчкай. Над чаротам і над аерам у завадзі зусім бязгучна лётаюць або трымцяць на месцы сінія

стракозы. А белыя кветкі, што называюцца гускамі, яшчэ цішэй ляжаць на вадзе, між вялікіх зялёных талерак-лістоў. І толькі жаўранкі пяюць недзе ў гары, паміж зялёнаю зямлёй і чыстым блакітам неба. І толькі сонца, ласкавае перадвячэрняе сонца глядзіць і бачыць зверху, хто там сядзіць у завадзі, хто там маўчыць, баючыся дыхнуць...

Усе маўчаць — тата, Толя, Алесь. І ўсё праз паплавок, які ляжыць на вадзе,— белае пёрца з надзетым коркам. І ўсё ніяк не варушыцца. Сто, тысячу, сто мільёнаў гадоў... І нават тата нічога не зробіць.

А потым ён, паплавок, прачынаецца сам. Ён паварушвае адным канцом, пасля патузваецца наперад... Бацька моўчкі бярэ Алесеву руку... Белае пёрца з коркам нырае ў ваду... Тады яны з татам я-а-ак пацягнулі!.. Алесь нават вочы заплюшчыў ад бляску, які шыбануўся ад гусак на бераг, нібы люстэркам блiснуўшы хлопцу ў саменькі твар!..

Пярэсты акунь шалпатаўся ў атаўцы нядаўняй пакошы, на ўсе бакі настаўляючы свой калючы, як пілка, грэбень. І так страшна было дакрануцца!.. Але тата яго не збаяўся, узяў. А з бацькавай жмені, калі ён другой рукою зачэрпаў поўненькі чайнік вады, акунь нырнуў у яго, матлянуўся там наўкруга і заціх. І ціхі быў, колькі хлопцы туды ні глядзелі.

А ім ужо не хацелася цішыні. Дахаты, толькі дахаты, каб паказаць здабычу маме, Валодзю, Сцёпку і ўсім-усім, хто тут не быў, расказаць яшчэ раз!..

Вельмі важна таксама — ужо цяпер, адразу ад рэчкі, самому паднесці не такі ўжо вельмі і цяжкі чайнік. Ды бацька кажа, што цяжка, не трэба. І рукі і ногі малога кажуць таксама.

І ён бяжыць то побач з чайнікам, па амаль зусім не калючай пакошы з ласкавай атаўкай, то па чорнай мяккай сцежцы, «першы за ўсіх», шчабеча і спяшаецца туды, дзе заходзіць над іхняй вёскай харошае сонца, дзе іхняя мама, якую чакае вялікая радасць!..

## 3

Каля студні — карыта. Старое, аж зялёнае ўсярэдзіне ад бросні. Акунь там то стаіць, унурыўшыся носам у куток, то шмыгае ад рук — з канца ў канец.

Алесь ужо не баіцца ягоных калючак, бярэ яго жменяй спаднізу. Дастане і глядзіць, як смешна ён пазяхае сваім шырокім ротам, нібы хочучы штосьці хапнуць.

А пад вечар сталася нечаканае. Бацьку і Толю, калі яны ішлі з поля, Алесь спаткаў на вуліцы. І адразу спытаўся, чаму гэта рыбка перавярнулася жыватом угару і не варушыцца?

— Бо ты,— сказаў тата,— замучыў яе.

— Як... замучыў?

— Ну як... Не трэба было браць яе ў рукі, з вады вымаць.

Алесь падумаў трошкі і вырашыў:

— А я больш не буду.

— Ну і добра. Не трэба. Сёння ты, голубе, і мяне не чапай... Ідзіце з Толем лепш пагуляйце.

У садзе, куды яны пайшлі, Толя сказаў яму, што тата вельмі шкадуе маму, бо яна ўжо два дні не ўстае.

Сумныя, доўгія дні!.. Бледны, высушаны хваробай мамін твар, нейкі чужы, абыякавы да ўсяго. Раі дакучлівых мух і мляўкі смак халоднай, нішчымнай зацірકі. Уранні бацька варыў яе на прымусе, а сам ішоў у поле. У садзе былі яблыкі, грушы і слівы. Хлопцы жывіліся імі, не вельмі квапячыся на тую зацірку. Ужо няможна было гуляць так свабодна, як раней бывала,— бегаць на пашу, на другі канец вёскі. Трэба было сядзець каля мамы. Мухі ганяць, падаваць ёй вады. Сумныя, доўгія дні!..

І так ім, хлопцам, як вытрываць, а тут яшчэ, апроч волі ды сонца, у пустым каровіным хляве — такая нябывалая спакуса!.. Бацька купіў ім, нарэшце, замест абяцанай каровы цялушку.

Ах ты, пярэстая,— якая любата! Прыціхнеш, выставіш руку — тпрусенька, тпруська! — а яна расставіць вушы, утаропіцца і тэп, тэп па саломе — ідзе. Падыдзе амаль зусім блізка, выцягне шыю і асцярожна дакранецца да рукі халаднаватай, шэрай вільгаццю пысы...

А потым неяк, позняй дажджлівай раніцай, бацька пабудзіў Алеся і Толю і павёў іх у сад. І што ж гэта? Цялушка іхняя ляжала ў мокрай траве ўся голая, по-

бач з ёю чарнела прорвай яма, а трошкі далей была кінута страшна-пярэстая шкура...

— Ты яе, тата, замучыў?

— Не, брат Алесь, яна аб'елася ды здохла.

— І ты больш не будзеш?

— Ну, пэўна ж, не буду. Закапаем яе і не буду: ні карміць, ні чакаць... Ты плакаць хочаш? От дзівак! Каровіна маці заўсёды жывая. Я цяпер не цялушку куплю, а яе. Будзе даваць малако. Ну, што?.. Бачыш, Толя не плача.

— А яна яшчэ будзе ў нас жыць?

— Хто?

— Каровіна мама.

— Вядома! Яна заўсёды жыве. Бачыў, колькі іх ходзіць на пашы?

Засыпаўшы і ўтаптаўшы нагамі яму, бацька ўзяў жэрдачку, два матузы і пачаў нацягваць на жэрдачку шкуру цялушкі.

— А гэта, тата, чаму?

— Чаму? А вось аддам яе такому дзядзьку, што вырабіць яе, і будуць вам з Толем новыя лапці. Такія вось,— ён паказаў нагамі,— чык, чык, чык!..

Алесь, нарэшце, усміхаецца.

...Сумныя, цяжкія дні!.. Так нецікава сядзець каля мамы, што Толя ўчора пакінуў яе і пабег. А за Толем, вядома, Алесь.

І мама ўранні сказала:

— Пакрычы ты на іх, Мікола, або хоць рамяня дай... Бо я тут зайдуся за дзень без вады... Або мухі жыўцом заядуць...

І вось хлопцы кленчаць каля стала, яшчэ ўсё пахныкваючы, і, злосныя, не хочуць нават і зірнуць адзін на аднаго.

На шафцы ў кухні шыпіць і смуродзіць газай прымус. А ў каструлі булькоча зацірка. Учора зранку зноў прыходзіла Мальвіна, іх незнаёмая раней сястра, што не была з імі ў горадзе, а ўжо даўно замужам «у трэцяй вёсцы». Прынесла збан малака, загорнуты ў капусныя лісты кавалак жоўценькага масла і цэлы сыр у торбачцы, што называецца клінок. «Усё гэта маме, бо мама хворая». А іх зацірка будзе сёння з малаком!..

Потым прымус змаўкае.

— Ну, уставайце, нягоднікі, мыцца.

Толя даўно ўжо мыецца сам. Алесю сёння памагае тата. Сам выцірае яго ручнікам. Толя ўжо адвыкае патрошкі, а Алесь кожны дзень, уранні і ўвечары, дае ўсім «бусі». Звычайна бацька нагінаўся да яго, а цяпер ён падняў Алеся і пытаецца:

— Ну што?

Замест звычайнага «добрай раніцы» малы абнімае яго барадатую шыю і кажа:

— Я больш ніколі не буду.

— І я таксама. Ты думаеш, што мне... А маму трэба шкадаваць.

Толя яшчэ ўсё злосны. І ён гаворыць:

— Я есці не хачу. Я буду сядзець каля мамы.

Ды бацька ўносіць з кухні не толькі зацірку, але ж і малако, відаць, забыўшыся, каму яно, і масла ўносіць, і сыр на талерцы. І вось яны садзяцца зноў і зноў, як учора, ядуць, Толя з Алесем, бо тата есць з хлебам зацірку.

— Малацьбіты! — смяецца ён, гледзячы на сваіх памагатых.

Пад'еў і зноў пайшоў, як кожны дзень. Вунь калыхнуўся з касой у акне, у другім...

Толя потым натрос многа яблыкаў — цэлую кучу насыпаў на стол,— унёс з каморкі кнігу з цацкамі, і, на змену, яны сядзелі пры маміным ложку. Нават і не на змену, і разам.

Маміны вочы заплюшчаны. Расплюшчыць іх час ад часу, а потым зноў не глядзіць. Толькі закруціць моўчкі галавой. І трэба мухі ганяць ад яе. Каб яны ўсе падохлі!..

## 4

Марозны, ясны адвячорак. Алесь кленчыць на лаве перад акном і праз наледзь глядзіць на цудоўнае неба на захадзе. Барвовае, і сіняе, і залатое. І сумна ад яго — яшчэ, здаецца, больш... Малы ўпіраецца лбом у шыбу і адчувае спакваля, як ціхенька казычуцца рагі ад холаду, што растае пад гарачым.

— Што ты робіш, дурненькі? Прастудзішся яшчэ больш,— кажа мама з-за прасніцы.

Алесь трэ пальцамі там, дзе адтала. Рыгу, рыгу, рыгу!..— рыпіць мокрае шкло.

— Што ты робіш? Прадушыш акно!..

— Ы-ы, нічога не можна...

— Тата ўжо хутка прыедзе.

Паміж акном і плотам — голы вішняк. Гоп! — на галінках прыселі дзве птушкі. Не вераб'і, а сініцы, бо ў іх зялёныя спінкі, волле жоўтае, а галоўкі чорныя з белымі шчокамі. «Ці-сік, ці-сік» — снуюць яны то ўверх, то ўніз па галінках, карычневых нават здалёк. А потым — гоп! — і яшчэ адна птушка. Чырвоная, пузатая,— снягір!.. Сеў на галінку — цёпла-чырвоны, неблiскучы ёлачны шарык.

— Мама, птушкам не холадна?

— Чаму ж, дзеткі, не. Зіма — усім зіма.

— А чырвонаму?

— І яму. І чырвоны не лепшы.

Ды вось раптам усе тры птушкі пырхнулі з вішні. Ледзь-ледзь паспеўшы здагадацца, пачуць, што гэта хтосьці стукнуў брамкай, Алесь гукае:

— Тата!..

І праўда — бацька ў доўгім кажусе, перацягнуты рэменем, вымае падваротніцу і адчыняе вароты. Паказваецца іхні сівы конь-сібірачок. Эх, упяўся! А за ім — многа дроў. Пярэстыя. Тата скажа пасля, як і ўчора, увайшоўшы ў хату: «Ну, Кацярына, бяроза — як звон, як малако!..»

— Тата! — стукае ў раму Алесь.— Тата, я тут!

Той падыходзіць да яго акна, упіраецца ў шыбу калматай шапкай і смяецца:

— Ну што?..

Пасля доўга няма. А потым ён уваходзіць у хату, скідае кажух і вешае на цвік рэмень з бліішчастай спражкай, на якой — двухгаловы арол і літары: ЮЗЖД — «Юго-западная железная дорога». Бацька садзіцца на тапчан і памалу, з усмешкай, пачынае развязваць сваю лясную торбу.

Алесь, як каток за саломінай, водзіць вачыма за вялікімі бацькавымі рукамі. Там часамі не толькі прымёрзлы хлеб застаецца, але і скварка ці кавалак каўбасы. Ды такія ж яны смачныя! Можа, смачнейшыя нават, як з таго калісьці гарадскога дзеда Чамадана... «Божа ты мой нявольніцкі, як жа пахне мне з тае тор-

бы цяпер!..» Торба чамусьці вельмі ж поўная, і тата падманваецца, не хоча яе развязваць. Алесь злуецца, пачынае хныкаць, і тады з тае торбы — шшух! — сыплюцца сонечна-рыжыя, казачна-духмяныя таўкачы яловых шышак...

І няхай сабе Толя валочыцца!..

...Цьмяна гарыць пад столлю лямпа, а тата расказвае.

Ноччу на рэйках стаіць доўгі-доўгі цягнік, а паравоз чмыша парай: «Шшуп-чох! Шшуп-чох!..» Ветру няма разгону. Тоўкся ён, тоўкся паміж саставамі, а потым вырваўся на пусты перон, сарваў татаву круглую сінюю шапку і — эх! — пакаціў, пакаціў... Тата бяжыць за шапкай, а вецер з ёю ўцякае. А з вагона адчыняюцца дзверы, і нейкі барын крычыць: «Чэ-ла-эк! Сюда!..» Тату няма калі, шапка — вось-вось, а барын лаецца: «С-сукін ты с-сын!..» І папускае палкай. І тату гэтак балела...

— І мы бывалі не промахі,— расказвае ён.— Прыношу я раз такой сволачы чай. «А пенка где? Только с пенкой, дурак!..» Што ж, выйшаў я з купэ, дай, думаю, як хлопцы нашы расказваюць... Лёгенька плюнуў у шклянку, панёс. «Видал, скотина! Сразу так не мог?..»

Смяецца бацька, смяюцца ўсе, а малыя за ўсімі.

З печы Алесю і Толю добра смяяцца, добра глядзець. На іхніх лавах, навокал стала, сядзяць мужчыны-суседзі. Самы цікавы з іх — дзядзька Раман. Ён гаворыць не «трэба», а «тлеба», замест «варона» — «валёна», а на Параску, жонку сваю,— «Палятка». У вайну ён ёй, кажуць, і пісьмы такія пісаў: «Далягая Палятка!..» І самога яго называюць Ляман. Толя, які ўжо ўмее чытаць, кажа, што дзядзька Ляман якраз такі самы, як тыя татары, што калісьці ездзілі на маленькіх і шустрых сібірачка́х, вазілі пад сёдламі сырое мяса і палілі вёскі. З сапраўднымі лукамі, стрэламі, у калматых шапках і кажушках з вывернутай аўчыны.

Сёння дзядзька Ляман сядзіць без шапкі, шырока расставіўшы на стале локці, з бліскучай лысінай пад самай лямпай. Гаворыць ён вельмі мала, а калі загаворыць, дык Толя штурхае Алеся локцем і шэпча яму: «Далягая Палятка...» І хлопцы хіхікаюць.

Дзядзька Васіль расказваў пра вайну — як ён хадзіў «Даёш Аршаву!» — і кулачышчам калі стукне па стале, дык лямпа — бах! — Ляману на самую лысіну і патухла!.. А Толя з Алесем у смех. Лямпа не разбілася, яе зноў запалілі і павесілі, цяпер ужо якраз на кручок, бо яна, відаць, толькі ліпела на самым краечку.

— Ціха вы! — крыкнуў бацька на печ. Ён злосна зморшчыўся, але дзе там!.. Тады ён зняў з цвіка рэмень з тою спражкай, што ЮЗЖД, ды як плясне, дык Толю, што крайні ляжаў, дасталося па мякішы. І Толя плача. Алесь, зашыўшыся ў кут, пад пляцёнкі цыбулі, прыціх і слухае. Толя перш плача ад болю, пасля ад жаласці да самога сябе, пасля тату на злосць, а потым ужо ціха тоўхае Алеся нагой пад бок і з прыплачам шэпча:

— Ы-ы-ы, да-ля-га-я Па-лят-ка!..

І хлопчыкі рагочуць зноў.

...Толя з восені ходзіць у школу. І за гэты час бацька не горш за яго навучыўся чытаць па-польску. У нядзелю, калі ён пасля снедання галіўся, Толя зноў дастаў з торбачкі сваю новую кнігу з харошымі цацкамі і пачаў уголас чытаць.

— Што, што? — спытаўся бацька.— Пакажы!

Узяў яго кніжку і сам чытае, яшчэ раз:

Ойцец млуці грох ў стадоле,
Матка з серпам пошла ў поле...

— Нагарадзіў! Тады ўжо жаць няма чаго, калі гарох малоцяць. Пісакі!..

Кончыўшы галіцца, ён пайшоў у каморку, прынёс кніжку, прысеў да стала і надзеў акуляры.

— Гэтага я вам, здаецца, яшчэ не чытаў...

Ах, гэты заяц з татавай кнігі! Як ён паводжваў вусамі і, стаўшы дыбка, настаўляў то адно, то другое вуха!.. А навокал быў такі самы, як за вокнамі, белы пушысты снег...

— Тата, а дзе ён цяпер?

— Цяпер? Пад кустом недзе. А ўвечар зноў падкрадзецца да нашага саду. На загуменні я сёння бачыў сляды. Пачакай, касавокі! Я табе снопік аўса падсуну.

— А навошта аўса?

— Навошта? А мы паглядзім праз гуменнае акенца.

І вось яны ўвечары ціха ідуць, адзін за адным, па глыбокай і сёння не вельмі рыплівай сцежцы. Бацька ў доўгім кажусе, за бацькам — Толя, а ззаду Алесь. Дыхаючы ў цёплы, пушысты шалік, ён стараецца і ісці, і носам пашморгваць — як найцішэй... Бацька ціхенька адчыняе палавіну гуменных варот і, на доўгім таку, у цемры, трымаючыся за татавы рукі, яны асцярожненька падыходзяць да тыльнай сцяны, дзе акенца.

— Ёсць. Ажно два,— шэпча бацька, цікнуўшы ў яго.

І першага ён паднімае Алеся.

На снезе — так недалёка, што добра відаць,— стаіць аўсяны сноп, а два зайцы цярэбяць яго, раз-поразу становячыся дыбка.

Зірнуў і Толя. А потым зноў Алесь.

Там, далёка за снапом і зайцамі, гасцінец — як у кнізе. І, можа, дзядзькі едуць абозам?.. Можа, і снег там пішчыць? Можа, зайцы таму і становяцца дыбка, каб паслухаць?..

— Што, крыкнем? — шэптам пытаецца тата.— Толькі ўсе разам...

— Ур-ра! — закрычалі яны.

Потым Толя, а потым Алесь яшчэ раз зірнулі ў акенца.

— Ага, памчаліся!..

— Давайце і мы, як яны,— сказаў Толя, калі выйшлі з гумна.— Ты, тата, будзь мядзведзь, а мы зайцы, і ты ад нас уцякай. Раз, два, тры!..

Эх, і лёгка ж бегчы па ўтаптаным снезе ў новых лапцях!.. Гоп, гоп!.. А тата — вялізны і цяжка цюхкае спераду — Мішка-мядзведзь. Алесь — першы, ага! І вось ён толькі хацеў ухапіцца за палу даўжэзнага кажуха, але Толя, дагнаўшы яго, таўхануў — таксама хацеў ухапіцца! — хлопцы стукнуліся, і меншы «заяц» упаў. Ды так-такі ружовым чмысікам на «Мішкаў» жорсткі валёнак і ў снег!..

— Бывае, брат, і горш. Ну, нічога. Пакуль жаніцца — загоіцца,— кажа бацька, узяўшы Алеся на ру-

кі.— Глядзі, вунь тая самая вярба... Як на яе варона казала?

Заплаканы «заяц» адсоўвае з рота заслінелы шалік, крычыць:

— Што, здохла, старая качарга? Даўно пара было!..

Так — у той самай цудоўнай татавай кнізе.

## 5

Да наступнай зімы яны абжыліся: яшчэ ўсё восень была на двары, а ў іхніх вокнах — новенькія дубэльты.

Алесь падкурчыўся на лаве і глядзіць праз цьмяныя шыбы на гразкую вуліцу.

Толькі яшчэ на бэзе сям-там трымаюцца лісты, а ў суседскіх вялізных грушах — і гола, і пуста...

«Добра было б па шкляначцы мітрыволю [1] за вокны: яны не сырэлі б...»

Так гаварыў калісьці, устаўляючы дубэльты, бацька.

Аднак таго таямнічага «мітрыволю» няма, і вокны сумныя, заплаканыя. Адсырэла і адтапырылася няспраўна заложаная папера, і з-пад яе відаць вуголле...

Таты таксама няма. Зусім няма. І Алесю хочацца плакаць.

Упёршыся лбом у шыбу, ён успамінае, як пад вокнамі па гразі шлёпала бацькава высокая, сутулая постаць у «рускай» шапцы былога чыгуначніка і ў старой вясковай куртцы. Ішоў і кашляў: «Бу-ху, бу-ху!..»

Тата харкнуў крывёй у хустачку і задумаўся. Ён ляжыць на тапчане. І сумны-сумны... А ў хаце — больш нікога, толькі яны ўдвух.

— Маліся,— сказаў ён Алесю.— Каб я паправіўся.

Малы глядзіць на бацьку здзіўлена, з недаўменнем.

— Станавіся вось тут на калені... Малітва рабёнка... услышыцца...

Алесь паслухмяна кленчыць побач з бацькавым

[1] Vitrioleum — серная кіслата.

узгалоўем і спалохана, з вялікім пытаннем у светлых вачах глядзіць то на бацьку, то на «бога», які высока на покуце.

Той там заўсёды злосны. Прыціснуў адною рукою кніжку да грудзей, другую наставіў шчопцямі на Алеся і панура глядзіць, не змаргне... «Бог», як і тата, называецца Мікалай, а прозвішча яго — Цудатворац.

— Гавары, сынок: госпадзі наш, ты добры...

Алесь паўтарае за ім.

— Госпадзі, дай...

— Госпадзі, дай,— шэпча Алесь і, чакаючы, пазірае на бацьку.

Чаму ж гэта ў яго так раптам і так дзіўна захадзілі-закалыхаліся грудзі? Чаму ён адвярнуўся да сцяны?..

— Тата,— шэпча малы.

Ды ніхто не адказвае.

Ён пытаецца-шэпча яшчэ і яшчэ раз, і гэта ўжо сцішна...

Ён устае з каленак, падыходзіць два крокі да тапчана.

І вось, у адказ на яго маўчанне, бацька паварочваецца ад сцяны і абнімае яго, туліць да казытлівай і мокрай шчакі і горача, як ніколі, і страшна цалуе: і твар, і валасы, і ручкі...

Цяпер Алесь глядзіць праз цьмяныя, запацелыя шыбы на гразь і шэпча другое пасля «мітрыволю» таямнічае слова:

— Наўрад... Наўрад...

— Ат, бог не без літасці, казак не без шчасця,— казала ў тыя дні мама.— Паправішся, Мікола, вось паглядзіш.

А тата ўздыхаў:

— Ой, наўрад...

І пасля ён ляжаў у труне. У чорных палатняных тапачках. А на дварэ ж было так холадна, так гразка!.. Ён не хацеў ужо ні смяяцца, ні плакаць. Каля яго, таксама ў труне, ляжала старая сіняя шапка з чырвонымі кантамі, тая самая, што вецер каціў яе па жвіры, ад вагона да вагона...

— Наўрад... Ой, наўрад...— шэпча малы і ціха плача, сашчапіўшы ў зубах усе чатыры цёплыя, засліненыя пальцы.

Прыйшоў нарэшце са школы Толя.

— Ну, Алесь, не раві,— сказаў ён, здымаючы сваю торбачку.— Мы зараз, брат, нешта з табою зробім — ого!..

Спачатку замкнулі з сярэдзіны сені. Тады паставілі сярод хаты табурэтку, на ёй — шкляную мухалоўку, медную ступку з таўкачом і дзве пустыя бутэлькі. Толя зняў са сцяны над тапчаном невялікі квяцісты дыванок і надзеў на Алеся, як рызу ў таго старога папа, што прыязджаў хаваць іх тату. Увапхнуўшы ўсярэдзіну адзін рог малое падушкі, Толя зрабіў такім чынам «напалеонаўскі капялюш» і надзеў яго попіку на галаву. Замест крыжа даў Алесю медны таўкач і паказаў, як стаяць над табурэткай, трымаць яго аберуч перад грудзьмі, як кланяцца і мармытаць: «Госпадзі памілуй, госпадзі памілуй...» А сам надзеў на галаву другую падушку, большую, укленчыў перад «папом» і яго «алтаром», прысеў на пяткі, развёў рукі, заплюшчыў вочы і заспяваў:

— Свяціцелю Мікала-а-ю,
Дзе ж я цябе пахава-а-ю?
Пад зялёнаю вярбо-о-ю,
Распішуся над табо-о-ю!..

— Госпадзі памілуй, госпадзі памілуй,— гудзеў і кланяўся Алесь.

А бог Мікалай Цудатворац глядзеў на іх, як заўсёды, панура і злосна.

Маці трапала лён у хляве, адразу за каморкай. Можа, пачуўшы лямант у хаце, а хутчэй за ўсё так сабе, падышла яна да сяней і не змагла іх адчыніць — замкнутыя. Дастала з-пад лаціны даўжэзны ключ, праз дзірачку ў вушаку адамкнула засаўку, ціха ўвайшла праз сені ў кухню, зняла з цвіка татаў рэмень, ш-шах! — адчыніла дзверы ў хату і давай шалёстаць — і папа, і дыякана! На гэты раз бацькавым ЮЗЖД больш дасталося Алесю. Насцябала бязбожнікаў і паставіла на калені. Попік нават і «рызу» скінуць не паспеў.

О, маці білася моцна!.. Але смешнае ўсё ж заставалася смешным. Як толькі яна адкрычала сваё і выйшла ў кухню, хлопцы, вядома, пачалі патроху штурхацца і хіхікаць.

# ЯВА ПРЫХОДЗІЦЬ ЗА СНОМ

## 1

Аддзелены ад той пары цэлым пятнаццацігоддзем малалецтва і маладосці, процьмай малых і вялікіх падзей, Алесь ляжаў цяпер у лагернай нестаптанай траве, задумана глядзеў у высачэзную просінь, на лянуюплынь недасяжных, пяшчотных аблокаў...

Пакуль не сталася дзіва.

З усіх тых рэпрадуктараў, праз якія, б'ючы па душах пераможаных, цэлымі днямі грымяць то бравурныя маршы, то трыумфальныя зводкі, раптам пачулася да хрыпаты магутнае, нямецкае:

— Польскі ваеннапалонны Аляксандр Руневіч, нумар сто трыццаць тры, павінен зараз жа з'явіцца да лагернай камендатуры!

Сядзеў і думаў, устрывожаны, пасля ішоў, не надта, вядома, спяшаючыся, а рэпрадуктары ўсё грымелі, паўтараючы тое самае тройчы. Урачыста, як быццам ён тут, у гэтых многіх тысячах, богведама які герой. І грозна, як быццам яго там, у першым ад брамы блоку, найменш пакараюць смерцю...

А там яго проста яшчэ раз — каторы ўжо раз? — аблаялі праклятай польскай свіннёй, гультаём, сімулянтам і гэтак далей, а тады даручылі яшчэ аднаму, незнаёмаму вахману. Шэра-зялёным порткам, увабраным у нехлямяжыя жоўтыя крагі — трафейныя,— пілотцы з цэшкай і акулярам на востранькім носе.

«Ну ж і чмысік у фатара,— сам сабе ўсміхнуўся Алесь, супакоены не вельмі ўжо і прыкрым паваротам справы.— Як тая ціўка на вясельным каравай...»

— Schau nicht so dämlich! [1] — буркнуў на палоннага вахман, неяк вельмі ж па-штацку, нібы бяскрыўдна ці нават разгублена гледзячы спадылба.— Хадзем на кухню! Пад'ясі і марш. Праз цябе мы спазняемся на цягнік. Тыя двое даўно ўжо наеліся і чакаюць.

Неўзабаве Руневіч — раней за ўсіх у блоку, бо абеду яшчэ не выдавалі — сёрбаў з кацялка незвычайна

[1] Не глядзі такім дурнем!

гарачую бурду і слухаў аднаго з тых двух, з кім разам ішоў на каманду.

Гэта быў Мішка Венік, якога днямі прыгналі ў шталаг па хваробе. Два разы толькі ён паспеў зайсці з санчасці да Алеся і расказаў, па-свойму нязменна весела, што на былой камандзе, у маёнтку фон Лепара («каб ён па вушы заляпаўся!..»), гора паўзе сабе, як і паўзло да іхняга бунту.

— Думаў, дурыла, што хоць тут перадыхну,— гаварыў цяпер Венік, пацешна, нібы рупліва варушачы заечай губой,— а доктар кажа ўчора, што зомэр, гезунд, і сёння мне р-раўс ізноў. На табе, кажуць, Руневіча і Ханьчука: наляжаліся яны, завалы, у лагеры — арбайт ундэ імар фэстэ![1] Жары хутчэй, а то павалім ды адбяром!..

Не так ужо заўсёды і смешна бывала, што ён гаворыць ці вычварае, гэты няўрымслівы, блазнюкаваты дзяцюк. Дзе ж ты яго, смешнага, і набярэшся многа, столькі балбочучы? Аднак бывала з Венікам і весела, і хлопцы яго любілі. На губку толькі гэтую паглядзіш, як варушыцца, і то ўжо весялей.

Незнаёмы Алесю Ханьчук, маўклівы хлопец са шрамам на сківіцы і недарэчна зухаватымі вусікамі пад здаравенным гарбатым носам, за некалькі дзён суседства з Венікам у санчасці прывык ужо, відаць, да смешнага, на якое і загадзя і пасля адказаў роўненькай, як на фота, усмешкай.

— Толькі адна гадзіна цягнікам,— тупаў побач і дакучаў, як асенняя муха, вахман.— Адна гадзіна — і будзеш есці смачна і шмат. Пайшлі хутчэй. Ого! Баўэры ў Касаве кормяць зээр гут, за тыдзень будзеце — во!..

Тут ён спыніўся і, з вінтоўкай на рэмені, расставіў рукі абапал шчок, шчочкі пры гэтым смешна надзьмуўшы.

— Зануда ты,— сказаў яму Венік.— Надзьмешся, а потым яшчэ, чаго добрага...— Ён натапырыўся, зрабіў грозныя вочы, тады надзьмуўся і сам, узняў шматзначна палец і, нібы лопнуўшы, здорава цмокнуў языком.

---

[1] Зомэр — лета, гезунд — здаровы, раўс — прэч, арбайт унд імар фэстэ — працуй як след, мацней!

Ханьчук паслухмяна чмыхануў у вусікі сваёю роўненькай фотаўсмешкай. Алесь засмяяўся таксама: новая штучка ў Веніка, доўга, відаць, муштраваўся.

— Марш! — крыкнуў вахман.— Годзе тут жэрці! Годзе плясці па-свойму, невядома што! Яшчэ і смяюцца!.. Я немец, цум доннарвэтар, і я вам... Марш!..

Алесь і «супу» свайго гарачага не даеў, і кацялок ледзь паспеў спаласнуць. Пад бабскі лямант вахмана яны дайшлі амаль да самай брамы; там ужо толькі ён змоўк: пакуль палонных выпісвалі ў прахадной, яму самому трэба было і маўчаць, і цягнуцца на «смірна».

Ды вось яны і за варотамі. Размораная спёкай, так добра ўжо знаёмая вуліца — прамая, як канал, і доўгая — да самага вакзала.

— Ну, пайшла наша свінка просценька баразёнкай! — не вытрываў Венік.— А злосны, гад, які — няхай бог панам барануе!..

## 2

«Толькі адна гадзіна цягніком...»

Толькі адна гадзіна жахлівага крыку ў вагончыках кароткага вузкакалейнага саставу.

Крычалі, спявалі і рагаталі эсэсаўцы. «Кукушка» везла іх не больш, мусіць, за ўзвод. І гвалт, які яны ўзнялі амаль ад самага вакзала, быў толькі маленькай часткай трыумфу, якім у тыя дні была ахоплена Германія газет і рэпрадуктараў, механічна-бяздушных вахманаў і гарлапанаў з узнятымі для «хайль Гітлера» рукамі. З такім вось дзікім, аскаленым рогатам, як гэты.

Палонныя, праўда, загнаны ў асобнае купэ. Эсэсаўцаў ім не відно.

У мутнай, злавеснай паводцы іх лямантў, перад вачыма Алесевай памяці ляцяць, мільгаюць, варочаюцца, як у пене хваль, нядаўна, на пероне, бачаныя твары, па-чалавечы разнастайныя і, разам з тым, па-салдацку стандартныя.

Руневіч сядзіць каля апушчанага акна і з прыроджанай прагнасцю пазнавання глядзіць, як кружацца, паволі каруселяць за цягніком напоеныя сонцам палеткі, бягуць насустрач акну тэлеграфныя слупы,

азлобленыя строга аднолькавымі гронкамі белых і сіне-зялёных кубкаў-ізалятараў, як час ад часу махнецца светлая сцяна, чырвоны чарапічны дах, зіхатлівыя вокны...

Побач з Алесем таксама моўчкі сядзяць Ханьчук і Мішка Венік.

А ў другім канцы малога вузкага купэ, за Венікам,— расчыненыя дзверы і другое акно, на калідоры, заслоненае шэра-блакітнай, нядошла вузкай, вастраплечай вахманскай спіной.

Вачэй заплюшчваць не трэба: гэта не паможа забыцца, дзе ты. Аднак Алесь заплюшчвае. І ў цемры няма яму адзіноты: з цемрай і крыкам прыходзяць блізкія і заўсёды жывыя, толькі кранi іх — гатовыя да паслуг, успаміны...

Сёння яны пачынаюцца не ад мужнасці — ад салдацкай анучы... Хоць бруднай, ды белай, узнятай над бруствeрам на штыку.

Тры хлопцы каля станкача, жывы астатак кулямётнага разліку, былі ў той дзень амаль апошнія з тых, што сталі з салдатаў палоннымі. Дзень быў апошні. Пахмурны поўдзень. Нямецкая артпадрыхтоўка, несусветная малацьба сухапутнай і марской артылерыі. Пасля тром кулямётчыкам — з узгорка, з іх часовага акопчыка — стала відно, як берагам мора, з ляска, з разбітых казармаў, з яра пайшлі групкі і групы з белымі імправізаванымі сцягамі капітуляцыі. Ужо бяззбройныя рэшткі іх гарнізона, які тры тыдні, амаль адразу акружаны, сцякаў крывёй у няроўным змаганні.

Даўно і зноў ды зноў аглушаныя бомбамі, снарадамі і мінамі, закарэлыя і зноў мокрыя ад гразі, галодныя, бяссонныя, аброслыя кулямётчыкі ўзнялі свой «сцяг» у адну з тых страшэнна павольных хвілін, калі яны апынуліся паміж тымі сцягамі над морам і густым ланцугом варожай пяхоты, што паднялася ў сваіх акопах і ўжо ішла далінай на іх узгорак, да іх старога, адчайна самотнага «максіма» з апошняй, трохі не ўсёй ужо стужкай патронаў. Пяхота тая была ўжо так недалёка, што кулямётчыкі выразна бачылі чорныя рагулькі аўтаматаў перад блакітна-шэрымі грудзьмі — першыя аўтаматы, убачаныя польскім войскам.

Невядома, з якой мэтай — для большага страху ці

для большай стойкасці,— у першыя дні кампаніі па акопах быў пушчаны шэпт: швабы расстрэльваюць камандзіраў і кулямётчыкаў, ім — палону няма... Яфрэйтары, капралы, плютановыя пазрывалі з пагонаў сярэбраныя галунчыкі, і афіцэры, якія ўсё ж засталіся з пагонамі, як быццам і не заўважалі гэтага, хаця яшчэ тыдзень назад яно магло быць выразным намёкам на дэзерцірства.

Пяхота з аўтаматамі — бліжэй, бліжэй... Смерць ці не смерць?.. Ды вось тры кулямётчыкі ўбачылі, што афіцэр, які ішоў наперадзе,— неяк нечакана вусаты і не ў касцы, як увесь ланцуг, а ў шапцы з вялікаю цэшкай,— выняў з кішэні хустачку і памахаў іхняй анучы.

І вось яны — яшчэ ўсё з жахам і ўжо з надзеяй, з радасцю вызвалення ад смерці — знялі рамяні з кінжаламі і ўзняліся на поўны рост над зямлёй. Удзень, першы раз за тры тыдні.

Тады ўспомнілі, хто яны, і, не змаўляючыся, інстынктыўна рванулі наперад і ўбок — далей ад свайго станкача...

У руцэ вусатага афіцэра быў пісталет.

— Dienstgrad? [1] — спытаў немец, не паднімаючы пісталета.

Алесь, да якога чамусьці было скіравана пытанне, не зразумеў.

«Ну вось... Няўжо ж яны ўбачылі наш кулямёт? Як ён па-іхняму, як?» — буксавала ў адчаі думка.

— Dein Dienstgrad, zum Teufel, du?! [2]

Не разумелі нічога і іншыя хлопцы.

Тады вусач працягнуў левую руку, паказаў на Алесеў пагон.

Маланкай ірванулася здагадка, белым бляскам халоднага жаху напомніла акопны шэпт: «Камандзірам палону няма...» І хлопец як мага хутчэй закрыўся словамі:

— Рэкрут! Я рэкрут!..

Ірвануў-расшпіліў два верхнія гузікі мундзіра, выняў з-пад кашулі і сарваў са шнурка цёплы апазнавальны жэтон, які ім выдалі дзён за два да пачатку вайны.

---

[1] Званне?

[2] Тваё званне, чорт вазьмі, ты?!

Афіцэр зразумеў. Больш таго — узяўшы на белую далонь гэты шэры і круглы металічны значок з надрэзам пасярэдзіне, ён прачытаў:

— Ба-ра-но-ві-тшэ. Рускі? — спытаўся, як быццам усцешана здзіўлены.

За нейкую долю секунды раней, чым бледны, аброслы, выкачаны ў акопнай гразі... ужо не салдат, а палонны паспеў згадзіцца, нядаўні страшны вораг таксама весела сказаў:

— Russki gut! Russki auch pif-paf auf unserer Seite! Du auch Russki? Und du? [1]

Ён тыцкаў на іх пальцам, і ў адказ усе яны вельмі ахвотна, чуючы ў гэтым яшчэ больш надзейны ратунак, згадзіліся. Не толькі Сасновіч, яшчэ адзін беларус, але і Круль, паляк.

Блакітна-шэры чалавечы плот, які спыніўся быў на некалькі мінут, цяпер, зрушаны з месца загадам вусатага, зашалпатаў мноствам ботаў па мокрым іржышчы — пайшоў.

А іх, нявольнікаў, дзве штакеціны з гэтага плота — два ландштурмісты пагналі ў тыл.

Пажылыя немцы, прыкметна ўсцешаныя такім паваротам справы, прыпыніўшыся ў тых акопах, з якіх яны нядаўна выйшлі, пагаварылі штосьці паміж сабой, парасшпільвалі сумкі і дасталі для хлопцаў адзін — акрайчык хлеба, а другі — банку мясных кансерваў, пачатую і загорнутую ў паперу. Была тут і пагарда пераможцаў («Wieviel, he-he-he, Tage, Polski, nix gefressen?..» [2]), было, магчыма, штосьці ад таго, што «рускі аўх піф-паф», аднак, прасвечвала, здаецца, і простая чалавечнасць бывалых людзей.

Прысеўшы на яшчэ цёплай, здаецца, саломе варожага седала, над якім яны яшчэ так нядаўна стрыглі ашчаднымі чэргамі са свайго станкача, хлопцы, даўно галодныя, прагна жавалі ворагаў хлеб, дзіўна звычайна, і сцюдзяніста-мясныя, здаецца, металічныя, як каскі і штыхі, кансервы.

Руневіч еў іх наогул упершыню ў жыцці, міжвольна ўспомніўшы ржавыя бляшанкі, што ў маленстве,

---

[1] Рускі добра! Рускі таксама бах-бах на нашым баку! Ты таксама рускі? І ты?

[2] Колькі, хе-хе-хе, дзён, паляк, не жор?..

знойдзеныя дзе-небудзь разам з калючым дротам і пустымі патронамі, напаміналі незразумелае і зманліва цікавае слова «вайна».

Потым былых кулямётчыкаў, разам з мноствам былых стралкоў, артылерыстаў, маракоў, гналі па мокрым бруку на захад.

Дождж, якому ўсё было абыякава, то спорна сыпаў, то абы церушыўся, а блакітна-шэрыя канваіры то проста механічна, то з тым самым варожым металам у голасе крычалі: «лёўс!» і «шнэлер!» — «давай!» і «хутчэй!».

Немцы былі найбольш пажылыя, не адзін з іх, магчыма, еў з тых бляшанак, іржавых яшчэ ў Алесевым маленстве. І не было цяпер, у страі, на вачах у начальства, нават ценю бывалае чалавечнасці. Наадварот, было нават самадзейнае зверства. Калі нейкі палонны, яшчэ не абстуканы да належнай дысцыпліны, адбегся са строю, каб на хаду схапіць за мокрае гічанне бручку,— адзін з канваіраў не толькі зверам зароў на яго, але і ўдарыў прыкладам і тупа, усё ж баючыся ці не хочучы прабіць да жывога, штурхаў хлопца штыхом, заганяючы ў строй.

А ўжо сапраўдны крык палонныя пачулі ўвечары, у польскім пагранічным горадзе.

Не вахманскі, дарожны, адзіночны крык,— ён быў памножаны на сотні маладых, поўных заядлай веры галасоў.

Гэта былі эсэсаўцы і гітлерюгенд. Спачатку яны крычалі, заганяючы палякаў на мокры брук турэмнага двара. Было ўжо цёмна, і гэты брук Руневіч неўзабаве адчуў сваім дашчэнту знясіленым целам. Падкупленыя момантам адноснай цішыні і нерухомасці, палонныя пачалі апускацца долу. Лёг і Алесь, ледзь не шчасліва падлажыўшы пад шчаку далонь... Ды тут на слупах і ў вокнах пустой турмы раптам успыхнула святло і зноў пачуўся крык:

— Устаць, фэрфлюхтэ польнішэ швайне! Пастроіцца!

Які там мог быць строй! Натоўп нядаўніх салдатаў толькі яшчэ гусцей збіўся ў чатырохкутніку двара, адціснуўся трохі ад ворагаў, а край натоўпу сяк-так выраўняўся — без ранжыру, проста няроўнай сценкай знясіленых і няшчасных людзей.

Пачулася «каманда» з лаянкай — па-польску на нямецкі лад:

— Штуй! Шакрэў, курва матш!

Лейтнант СС, маладзенькі, падкрэслена спраўны, памалу пайшоў перад строем. Час ад часу спыняўся і, прыплюшчыўшы вочы пад казырком, гаварыў, то важна зніжаючы голас, то паднімаючы яго да крыку:

— Што? Узялі Берлін? Дзе ваша Англія? Дзе ваша Францыя? Дзе ваш Рыдз-Сміглы, курва матш? У с..., крэтыны! Усё ваша — там! Цяпер мы з вамі... О, майн гот, што за морда?

Ён утаропіўся ў нізкага, аброслага мужчынку.

Алесь, які стаяў у першым радзе, збоку і зверху скасавурыўся на сябра, што быў ад яго праз тры чалавекі. Пазнаў. Гэта быў касіньер, якога ён днём прыкмеціў у калоне. Адзін з тых рабочых-добраахвотнікаў, якім не хапіла зброі, якія — па даўняй паўстанцкай традыцыі — выйшлі на кулямёты, на артылерыю, на бамбавозы... з косамі, асаджанымі старчма. На чалавеку, над цывільным клёшыкам, вісеў мундзір, знойдзены, відаць, на полі бою, разам з вінтоўкай, што замяніла касу. Твар быў багата абраслы, здаецца, сівеючай шчэццю, а галава — абкручана бінтам, брудным і з чорнай крывавай праталінай.

— Хто табе шапку даў? Р-раз-бой-нік! Многа выпіў нявіннай нямецкай крыві? Gute Mütze, perfekt! [1] Пакажы!

Яны рагаталі — чародка яго падначаленых, у светла-карычневых і ў чорных, як і ён, мундзірах,— яны здаволена галёкалі, а ён працягнуў руку і тузануў крывавы бінт салдата жменяю, як тузаюць за валасы.

Палонны стрымана крыкнуў ад болю, закрыўся рукамі і адступіўся ў сценку сваіх. Натоўп калыхнуўся і загудзеў.

— О, вы, прошэ пана, яшчэ нездаволены? — Чорны немец павярнуўся да падначаленых.— А ну, пакажыце палякам, дзе іх начлег!

Узброеныя рынуліся на бяззбройных, ударамі рук, ботаў, прыкладаў і крыкам пачалі заганяць іх у калідоры, а там — у камеры. Ганялі іх навалам і сюды-туды,— ці то ад маладое бесталковіцы, ці ад руплівасці

[1] Добрая шапка, выдатная!

шчырых і прагных росту служакаў, знарок, па плану і ў ахвотку шаломячы першых ворагаў трэцяга райха і фюрэра...

Пазней, калі аціхла ўсё і патухла святло, у камеры, сяк-так прысеўшы ў збоі цел каля сцяны, Руневіч думаў: «Няўжо гэта — зусім, зусім сур'ёзна ўсё — і разгром, і няволя, і перамога, і сіла? Сіла — у таго самага ледзь не прыдурка, больш смешнага, чым грознага ў сваёй палітычнай, хутчэй — шарлатанскай мітусні, што пачалася так нядаўна, была такой далёкай ад сябе?.. Далёкай, хоць не абыякавай. І ты ж не так сабе, толькі дзеля цікавасці, чытаў калісьці і слухаў па радыё весткі з іспанскіх франтоў, не так сабе, бяздумна спаў у казармах раз на дзве-тры ночы раздзеты — цэлыя тры месяцы да пачатку вайны... Аднак у пэўнай меры, разам з усімі — бяздумна».

Неяк у жніўні, капаючы акопы, салдаты забаўляліся малюнкамі, набытымі па дарозе у бойкіх падлеткаў, прадаўцоў газет. Малюнак — састаўны: чатыры аднолькавыя, звычайныя свінні. А складзеш іх — пятая — Гітлер. І самы смех з таго, што з чатырох падхвосцяў выходзяць ягоныя вусікі...

А ноччу, калі Руневіч, стоячы на варце, многа, пачалавечы думаў пад вечнымі, і ў кнігах апісанымі, і ўсё ж бясконца таямнічымі зоркамі,—метраў за дваццаць ад яго паста свяціла вокнамі, спявала скрыпкамі афіцэрскае казіно. У светлых праймах мільгалі і застывалі на момант, страсна выгіналіся пары, захлёбвалася «задушэўнасцю» моднае танга «Накцюрн», а над усім гэтым — за нейкія пяць кіламетраў ад ворага, за некалькі дзён да пачатку страшэннай катастрофы — лунала таксама моднае, хоць і не новае: «Давайце смяяцца, бо невядома, ці свет патрывае яшчэ тры тыдні!..»

І ён праліпеў яшчэ трохі, іх рэстаранна-казарменны свет, а потым — пад несціханы строкат, гул і гром — тры тыдні ляцеў у такую вось чорную, дзіка-крыклівую прорву няволі і ганьбы...

Быў, вядома, і гераізм. Ва ўсёй сваёй зямной складанасці, яшчэ не адчышчаны намаганнямі зацікаўленых да бляску патрэбнай легенды. Адно Руневіч бачыў сам, пра другое пачуў, пакуль іх гналі яшчэ польскімі дарогамі, а шэпт, неўтаймаваны і пад варожым па-

крыкваннем канвою, то аціхаў, то зноў снаваў па нястройнай калоне, як шум па калоссі абжатай нівы.

Пра тое, што ўсе яны, сваім адчайным змаганнем з непараўнана мацнейшым ворагам, ужо ўвайшлі ў гісторыю як гераічныя абаронцы Узбярэжжа, ніхто яшчэ і не здагадваўся. Прыгняталі разгром і няволя. Горка было ад думкі, што яны тут, відаць, так нечакана і ганебна падкачалі, а ўсюды, нябось, трымаюцца!.. Горка было, хоць думка такая і грэла надзеяй... І гаварылася ў калоне толькі пра выключныя выпадкі гераізму.

Да жудасці прыцішана, захоплена ледзь не да крыку,— калі б тут можна было закрычаць,— гаварылі пра камандзіра сухапутнай абароны ўзбярэжжа палкоўніка Домбэка, які адстрэльваўся з ручнога кулямёта да апошняга патрона, пасля страляў па немцах, што падбягалі веерам, з пісталета, тады закрычаў той жменьцы, што заставалася пры ім: «Не здамся!» — і застрэліўся.

Другім героем і шэпту і прыглушаных выгукаў быў радавы Порвал, дабрадушна маўклівы і крыху нехлямяжы здаравіла, сілезскі шахцёр, салдат, адважны некрыклівай і надзейнай смеласцю.

Калі першая рота — якая там рота: адны недабіткі — заўважыла, што правы фланг абароны, ад мора, капітуляваў, стралкі таксама ўсталі ў акопе, кінулі вінтоўкі і, памахаўшы белым, пайшлі насустрач лініі нямецкіх аўтаматчыкаў.

Не выйшаў з акопа толькі адзін — паручнік Слядзіньскі, Пінгвін. Ён быў не проста звыш меры звяглівы,— калі яго перад самай вайной перавялі туды камандзірам роты, ён яшчэ і страшыў: «Вось пачнецца, дык можна будзе вас, хамаў, нарэшце, страляць, як сабак!..» Яму, аднак, не пусцілі сваю гарачую ў спіну, хоць і шапталіся некаторыя хлопцы. Не да таго было, дый ён неўзабаве прыціх. А вось цяпер, застаўшыся адзін і ні пры чым, ён загалёкаў штосьці, стрэліў з-за бруствера з пісталета і трапіў Порвалу ў левую руку над локцем. Шахцёр павярнуўся, сыкнуў толькі: «Ах ты, пэр-руне!..» — па-мядзведжы, уразвалку, падышоў да Пінгвіна і, не зважаючы на яго пісталет, капануў ваяку ў бледны тварык пудовым мокрым чаравікам.

— Сам ён, курва, нябось, не застрэліўся. Жыць, какаш, трэба? А мне?

— Сам ён ідзе вунь там, наперадзе. Ужо, здаецца, у нядрэнным гуморы. Я меў шчасце іх бачыць.

— Ну, хлопцы, ён жа афіцэр. Ён абавязаны...

— Пакалышы ты ведаеш каго? Слана за тыя самыя. Што ж, Домбэк, па-твойму, не афіцэр?

— Я быў каля палкоўніка. І я...

— Ціха, шваб падыходзіць!..

Так хвалявалася, так гаманіла мазольная маса.

«І мы ж адбегліся ад свайго кулямёта,— думаў цяпер, у вагоне, Алесь.— Што ж гэта ўсё-такі — ганьба ці не? Як мне глядзець на гэта — беларусу ў форме польскага салдата?..»

Польскім салдатам ён сябе не адчуваў, як і ўсе яны, беларусы. І гэта было натуральна для тых, каго звышчалавекі — накшталт Пінгвіна, вышэйшыя і ніжэйшыя па рангу, і нават некаторыя з радавых — не лічылі сваімі, нават і раўнапраўнымі людзьмі. Фашысцкі дух пілсудчыны, шляхецка-каталіцкая пагарда да «хамаў» і «схізматыкаў», што ў дадатак яшчэ «заражаныя камунізмам».

А ўсё ж беларусы, народ цягавіты і смелы, не агіналіся і на вайне — пакуль стаялася, стаялі добра, лепш за другіх палякаў.

«Гэта ўсё праўда,— думаў Руневіч.— Але ж ведаў я ў тыя дні і другое. Што біліся мы, беларусы, не толькі за тую часовую, санацыйную Польшчу, якая нас прыгнятала, і за Польшчу вечную — за народ, за яго культуру, за яго жыццё, на якое абрынуўся смяротны вораг не проста дзяржаў, але ж народаў — гітлерызм.

Ведаў, думаў пра гэта і я. І я не хаваўся за спіны другіх — хадзіў у атакі, ляжаў пад агнём, здаваўся з апошнімі... Не быў героем, але ж і бабай не быў — першы нумар у штурмавым кулямётным узводзе. Хоць вельмі ж не хацелася быць механізмам, прадугледжаным нечым артыкулам. Хоць была і яшчэ адна акалічнасць, што блытала справу...»

За некалькі дзён да пачатку вайны, у прапагандней мітусні і гамане, якая то шугала да нябёс гісторыі саламяным полымем самаўпэўненасці і надзеі на англа-французскіх саюзнікаў, то асядала горкім попелам адчаю і спадзяванняў толькі на волю калісьці ласкавага да Польшчы пана бога, адна з тых газет, што траплялі

ў казармы, надрукавала раптам вялікі партрэт... Варашылава!.. Проста выбух, зусім нечаканы на фоне афіцыйнай антысаветчыны. І подпіс быў пад партрэтам — здаецца, штосьці даволі ўдала імглістае пра чалавека, у руках якога спачывае лёс вайны і міру.

Гэта — пакуль у Маскве ішлі, цягнуліся перагаворы з англічанамі і французамі.

А неўзабаве ўсіх ашаламіла вестка: Саветы і Гітлер падпісалі пакт неагрэсіі!..

Як зразумець было гэта далёка ад роднага свету, у вірлівай каламуці чужой варожай прапаганды? Як няпроста, нялёгка было разабрацца ва ўсім, захаваць сваё найдаражэйшае, сваё адзінае, што дае табе права лічыць сябе чалавекам!

На самай грані смерці і жыцця з вуснаў нямецкага афіцэра пачуў ён дзіўнае «рускі аўх піф-паф!». Ад той незразумелай спачатку весткі, чортведама навошта звязанай са здаволенай усмешкай гітлераўца, прыйшла да Алеся, да ўсіх беларусаў вялікая чалавечая радасць... Крыху пазней яны належным чынам усвядомілі, што ж адбылося там, за Бугам. Яны — бяздомнікі і пасынкі ў чужой дзяржаве — зноў увайшлі ў сваю вялікую сям'ю, зноў далучыліся да савецкай Радзімы!.. Яны? Салдаты польскай арміі, недабітыя «крэсавякі», нямецкія нявольнікі? Трохі, вядома, не так. Вольнымі сталі іх сямейнікі, іх землякі, іх далёкая, шматпакутная Заходняя Беларусь.

Яны ж, перамяшаўшыся з палякамі, пакуль што ляжалі густым покатам на мокрым бруку, пасля ў турэмных камерах, пасля пад брызентам сцюдзёных палатак...

Яны вось едуць пакуль што кудысьці, да новага пана, яшчэ ўсё пад канвоем, па крываваму праву штыха...

Іх свабода — і сёння пакуль што далёка, далёка на Усходзе...

Аднак сёння, на дзевятым месяцы палону, Алесю многае ўжо бачыцца ясней, чым у тую кашмарную першую ноч, калі і радасць, і адчай, і горкі сум то праясняліся трохі, то зноў жахліва блыталіся ў адно, танулі ў страшэннай стоме цела і душы, у стоме бяздоннай,

якую ўсё-такі прабіваў час ад часу жахлівы нечалавечы крык...

Такі самы крык, як цяпер, калі ўжо і «Франкрайх капут!», калі «захоплена яшчэ адна вяршыня на шляху фюрэра да аваладання... о, так, безумоўна! — да аваладання цэлым светам!..»

На свеце чэрвень, ясны дзень. А хлопцу, які сядзіць каля вагоннага акна, побач з двума землякамі, таксама падаўленымі крыкам з адчыненых акон саставу, хлопцу ўвесь свет здаецца ноччу ў турме, а п'яныя песні і рогат эсэсаўцаў гімнам вайне, жудасным рэхам знішчэння, антычалавечнасці,— што вось бушуе ўжо каторы месяц над зямлёй і разгараецца і будзе разгарацца яшчэ больш.

Свае, калісьці пражытыя Алесем, цяпер зноў пражытыя ім кадры ўспамінаў нечакана і радасна дапаўняюцца новай канцоўкай.

Яму ўяўляецца, ён бачыць і чуе вельмі выразна, як гэтая іх фашысцкая прага паняволіць увесь свет, бушуе мутнымі хвалямі, раскочваецца крыкам, рогатам і б'е ў вялікую сцяну. Вялікую, магутную сцяну, за якой яго, Алесева, далёкая, як Толя піша, «мірная, шчаслівая Радзіма».

Ды не! — яна, фашысцкая нянавісць, не б'е ў каменны мур савецкай недасяжнасці. Як яны, гітлераўцы, асцярожна маўчаць, як маскіруюць сваю варожасць, сваю нянавісць! Яна толькі тут, на гэтым беразе Буга, што стаў гістарычным, бушуе раскалыхана, п'яна крычыць і рагоча.

«Дык ліха ж вас бяры, крычыце! Мой свет — мая вера, надзея, любоў — са мною. І я вярнуся за сцяну, якую вам не прабіць сваім бушаваннем. Лямантуйце, мы ўжо тут трохі прывыклі да гэтага страху, мы ўжо выдатна, спіной і жыватом, навучыліся разумець, дзе мы, хто мы і для чаго вы нас морыце тут. Мы ўжо нядрэнна навучыліся распазнаваць, дзе немец, дзе фашыст, дзе вечнае, народнае, а дзе такое вось, як гэты дзікі крык...»

...«Толькі адна гадзіна цягніком...»

## 3

Проці сонца, якое ўжо хілілася на захад, па асфальце шашы поўз калматы вазішча канюшыны, а за ім, у цяньку, лена ішлі тры палонныя.

Чым далей ад шталага, ад начальства, тым вальней адчуваў сябе вахман. Зусім ужо не па-салдацку трымаючы вінтоўку, ён ішоў побач з дрыгатлівай, духмянай сцяной канюшынных галовак і гутарыў з баўэрам, які то адказваў яму, то сам пачынаў — зверху ды моцна, нібы з вялізнай буслянкі глухому.

Алесь жаваў ды смактаў мляўка-салодкую сцяблі-ну і слухаў. Немцы гутарылі на мясцовым платдойчы, цяжка было зразумець: ён вучыў калісьці ў школе і цяпер на слых стараецца засвойваць літаратурны, агульнагерманскі гохдойч. Ды ўсё ж і да пла́та сяк-так прывыкаеш, і ў гутарцы гэтых двух памеранцаў можна таксама дабрацца да сэнсу.

І гэтыя дзяўблі адно, у тон вагоннаму дзікаму крыку,— пра нямецкія танкі, падводныя лодкі, «брутарэгістартоны», лінію Мажыно, «месершміты» над Лонданам... Слова капут — «Франкрайх капут», «Энглянд капут» — паўтаралася мноства разоў. І так, і сяк успамінаўся Чэрчыль, Чэмберлен, Петэн, яшчэ больш, ва ўсіх варыяцыях прасцяцкай павагі і вернападданніцкага захаплення — Гітлер. А пасля ўжо, калі вахман і баўэр набілі аскому высокай палітыкай, пайшла звычайная сялянская гутарка пра добрае лета, пра касавіцу, пра недахват мужчынскіх рук...

І дзіўна было Алесю, што і вахман, з выгляду мяшчаністы, вастраносенькі акулярнік,— не клерк які-небудзь ды не дробны гандляр, а селянін таксама. Ён гаварыў пра сваё — пра жонку, трое малых і чатырнаццаць моргенаў [1] за Штэцінам, гаварыў, як гаворыцца пра самае галоўнае ў жыцці, і толькі час ад часу азіраўся на палонных, што вяла шкрэбалі за возам. Дый азіраўся так, як быццам ззаду ішлі яго коні, з яго канюшынай...

— Куль-ту-ра,— мармытнуў у вусікі Ханьчук.— Толькі хваляцца, што культура, а ніводнага слупіка ні-

[1] Морген — чвэртка гектара.

дзе няма, каб хоць ведаў чалавек, колькі туды кіламетраў. Вось валачомся з паўдня...

Венік, які, нібы памагаючы Ханьчуку, маўчаў ужо даволі доўга, зноў успомніў пра свой характар.

— Эй, фатар, гаўза бальд? [1] — гукнуў ён вахману.— Тут есці хочацца, а ты балбочаш!..

Вахман нібы адмахнуўся:

— Quatsch nicht so dämlich! Sind wir schon da [2].

І зноў балабоніць сваё, пазіраючы ўверх, на канюшынную вялізную буслянку. А неўзабаве, на ўзгорку, ён азірнуўся.

— Ка́саў! — гукнуў і паказаў рукой пад сонца, у даліну.

Гэта было мястэчка. «Баўэрнштэдхен» — так ганарацца, відаць, і яго жыхары,— думаў Алесь, на хаду разглядаючы свой новы — як надоўга толькі? — прыпынак. Ён працаваў у адным такім мястэчку больш за месяц. І Касаў толькі тым адрозніваецца ад вёсак, што мае рынак з крамамі, аптэкай, малачарняй, паліцэйскі ўчастак і рэшткі каменна-цаглянага муру, які ў далёкім мінулым рабіў з паселішча маленькую крэпасць. Ад рыначнай плошчы, як промні ад зоркі, разыходзіцца пяць ці шэсць вуліц. Абапал бруку стаяць тынкаваныя, вясёлай афарбоўкі, або цагляныя домікі пад чырвонаю чарапіцай, з суседскай цікаўнасцю пазіраючы адзін на аднаго з-пад халадочку кляновых ды каштанавых векавечных прысадаў. Перад дамамі — агародчыкі з кветкамі, а на дварах, на крытых ямах — горбы гною і перад самым кухонным акном — прыбіральня. («І тут бываюць ідыліі — пры адкрытых дзвярах...») Каля адрын — поўна ўсялякай тэхнікі для двара і для поля, а на дахах — чароды галубоў, не так для прыгажосці, як на мяса. У мястэчку вялікая, двухпавярховая школа, у якой цяпер шпіталь для раненых з французскага фронту; дзве піўныя, бліжэй да рыначнай плошчы; адна кірха ў цэнтры, другая, меншая, трохі наводшыбе, на цяністым, добраўпарадкаваным, шчодра засеяным кветкамі могільніку; ладнае возера з купальняй, мураваны грамадскі свіран, паравы млын і стаўбун электрычнага трансфарматара...

---

[1] Эй бацька, дом будзе хутка?

[2] Не пляці па-дурному! Мы ўжо прыйшлі.

Зусім наводшыбе, у самым канцы доўгай вуліцы, стаяла старая, панурая, нібы знарок для палонных драўляная, штуба — хата з іржавымі кратамі на вокнах, абгароджаная высокай сеткай калючага дроту.

Каманда была яшчэ на рабоце, у гаспадароў. У штубе — толькі нары ды нары. Двухпавярховыя, засланыя шэрымі, шурпатымі, як вывернутыя трыбухі, коўдрамі «з крапівы». У галавах — шынялі, сумкі, чамаданы. На адной пасцелі красаваўся акардэон, даволі часты і пажаданы спадарожнік арбайтскамандаў.

Вахман не даў палонным нават прысесці.

— Пакіньце манаткі і пойдзем да баўэраў,— загадаў ён з парога і, як найбольш пераканаўчы аргумент, дадаў: — Там вас накормяць.

Лаючы ордунг, парадак, згодна з якім трэба было зноў валачыся на тую самую рыначную плошчу, яны пайшлі за ім з ужо зусім пустымі, гатовымі да работы рукамі.

На плошчы, каля дома з шыльдачкай «Бюргермайстар», хлопцаў чакалі новыя «карміцелі». Дзве фрау і баўэр, каржакаваты сівавусы дзед у саламяным капелюшы і шлейках на белай, увабранай у порткі кашулі.

Як толькі палонныя з вахманам падышлі да гэтай тройкі, дзед нечаканым і, мусіць, хітрым рыўком адарваўся ад баб, цапнуў Алеся за локаць і ці то сам сабе, ці то камусьці другому, каго ён хацеў, нават з законнай крыўдай у голасе, пераканаць у сваёй праваце, шапялява крыкнуў:

— Dieser hier! [1]

Калі палонны крутнуў свой локаць з немцавай рукі і паглядзеў на дзеда з абураным недаўменнем, той пачаў дзелавіта тлумачыць:

— Keine Angst! [2] Ты будзеш у мяне працаваць. Гут работа, гут клеба, пан'е!..

І тут жа, каб замацаваць удачу, да канвойнага:

— Вахман Клебар, я пайду, калі так. Ты запішы паляка за намі. За Карлам Камратам. Няма калі мне з бабамі гáдкі разводзіць. Ком, пан'е, ком!..

— Па-нямецку гаворыш? — спытаўся ён у Алеся, як толькі яны адышліся.

---

[1] Гэты!

[2] Не бойся!

— Нікс,— закруціў галавою палонны.

Аднак старому гэта як быццам і не патрэбна было. Спяшаючыся побач з высокім, дужым дзецюком — «доб-рым, відаць, работнікам»,— баўэр пад грукат сваіх дзеравяшак па бруку то задаволена шапялявіў пра гарачае лета, то пра сям'ю свайго сына, Карла Камрата, які, вядома, на вайне, якому ён, Вілем Камрат, вядома ж, і палоннага вядзе, а не сабе, бо сам са сваёй фраў жыве даўно асобна...

Сынаў домік, як аказалася, новы, у агародчыку, светла-блакітныя сцены. А на двары, як і належыцца,— і горба гною і прыбіральня перад акном. Парадзісты чырвоны певень стаяў на самай гнаявой вяршыні і калашмаціў там нейкія кішкі, дабрадушным клохканнем клічучы з бруку курэй. У адчыненых дзвярах кароўніка відаць былі апушчаныя над жолабам галовы чорна-пярэстых кароў. Адтуль чулася звонкае, пасвойску для Алеся любае цырканне сырадою ў пустое яшчэ вядро.

— Эльзі! — гукнуў ад ганка дзед.— Эльзі, дзе ты, унучка?

— Я, опа! [1] Тут я, ну? — пачуўся дзявочы голас, і на парозе кароўніка паказалася поўная, стройная і румяная немачка. Светлавалосы «бубікопф» [2], сукенка ў гарошак і цыратовы светлы фартух.

— Вось вам Gefangener [3], Эльзі. Я вам выбраў. Наўлепшага з трох. Ты яго накармі, бо ім ужо ў іхнюю штубу пара. Ды завіхайся, дзяўчына!..

Яна праляскала некалькі крокаў па непадмеценым бруку маленькімі, спрытнымі дзеравяшкамі і, усміхнуўшыся Алесю, павіталася:

— Добры вечар. Вы пачакайце хвілінку...

— Ах, Эльзі! Ён жа, унучка, не ўмее па-нашаму!..

— Ну вось, яшчэ мне навіна!..— Ды паглядзеўшы на палоннага: — А ён — прыгожы хлопец. Праўда, опа?

Алесь — яму здалося — зачырванеўся. Немачка здзіўлена прышчаміла зубамі румяную ніжнюю губку і змоўкла. «От дзе ліха,— падумаў палонны,— і чут-

---

[1] Опа — дзядуля.

[2] Стрыжка пад хлопца.

[3] Палонны.

ка́я ж ты!..» А сам, нібы і сапраўды нічога не разумеючы, адвярнуўся.

— Ты ў мяне, Эльзі, заўсёды толькі жартачкі,— зашапялявіў дзед.— Хуценька дой ды на кухню. А ты,— звярнуўся ён да палоннага,— сядзь сюды во, на лавачку, і мы з табой пагаворым. Як цябе — Герман? Оскар? Ганс?

— Алекс,— буркнуў палонны, сядаючы.

— Польскі?

— Weissrusse[1].

— А што — гэта таксама народ?

Яшчэ ўсё памятаючы, што ён «не ўмее па-нямецку», Алесь з даўно знаёмай прыкрасцю і крыўдай за сваю Беларусь сказаў:

— Баранавічы, Вільня, Мінск...

— О, фарштэй! На-ва-гру-дак, Ка-рэ-лі-тшы, Гара-дзіш-кі! Увесь шаснаццаты год прасядзеў там, на лініі Гіндэнбурга. Сто пяцьдзесят другі пяхотны полк! — падкрэсліў ён з гонарам і засмяяўся, паказаўшы над ніжняй губою карэнне жоўтых з'едзеных зубоў.— Нам толькі бабаў там не хапала. Чалавек быў яшчэ малады. Дый стралялі мы там больш ад гароху, чым з вінтовак. Oh, es war gut! [2]

Алесю язык свярбеў, каб сказаць, што сам ён якраз з-пад таго Навагрудка, што там у іх і дагэтуль стаяць у ярах нямецкія бліндажы, што ты там, стары сукін сын, не адну, відаць, нашу хату разабраў на сухенькія дровы, не адну нашу вёску з торбай пусціў. Першы, відаць, і там дабягаў... Ды палонны яшчэ ўсё «не ўмеў» па-нямецку, маўчаў.

— Ну, я пайду,— сказаў нарэшце дзед, устаючы.— Пайду да свае фраў. Хады адгэтуль, як мне цяпер, толькі трынаццаць мінут. А ты, Алекс, сёння фэстэ еш, ну, а заўтра фэстэ касіць. Гутэ нахт!

Падаў хлопцу вялую руку і скрабянуў чамусьці па яго далоні скурчаным каравым пальцам.

На вячэру сабралася ўся сям'я. Прыехалі з поля два хлопцы — большы, цыбаты і амаль дарослы голасам, і меншы, дробны і светленькі. Яны ездзілі ўкошваць травы. Прыйшла аднекуль поўная, спакойная му-

---

[1] Беларус.
[2] О, было добра!

тэр, гаспадыня, а з ёю сінявокая дзяўчынка з доўгімі косамі.

Вячэралі ў кухні.

Кухня, як і ўсюды, дзе ўжо Алесь бываў, была ў іх ахайная, з белай кафельнай сценкай над плітой, з паліцай, на якой стаялі стандартныя белыя слоікі, аздобленыя блакітнымі гатычнымі літарамі смачных слоў: соль, перац, цукар, гарох... Пры яркай электрычнай лямпачцы відаць былі два надпісы, таксама готыкай і таксама вядомыя,— адзін над плітою: Sich regen bringt Segen [1], а другі пад Хрыстом у цярновым вянку: Das tat ich für dich [2].

Эльзі пазавіхалася каля пліты і падала на стол славутую «пэлькартофэльн» [3] і жоўтую кашу-яечню, якая ў Алесевых Пасынках называецца «тыцкала». Спакойная, поўная мутэр устала, за ёю ўсталі ўсе, нават і палонны, які сядзеў дагэтуль трохі воддаль ад стала; мутэр зірнула на Хрыста, схіліла галаву, за ёю ўсе схілілі галовы, тады яна заплюшчыла вочы і пачала, даволі ўрачыста, у цішыні:

— Komm, Herr Jesus, будзь нашым госцем і благаславі ўсё, што ты ласкава даў нам. Аман.

Дзяўчынка з косамі, Крыстэль, шчабятала даволі дасціпна.

— Была б тут сёння наша ома [4], напэўна, зноў сказала б,— яна скрывіла галоўку і затрэсла падбароддзем:— «Вячэра, унучачка, вельмі смачная. Смачней, чым на вяселлі [5]. У нашым родзе Кампатаў усе пэлькартофэльн любілі. Праўда, Эма?» — спытаўшыся ў маці, нібыта ў нявесткі, малая не вытрывала і пырхнула смехам.

— Я сёння так стамілася,— адказала гаспадыня, вяла жуючы,— што мне ўсё не да смаку.

— Затое, муці [6], я ем ахвотна. Хаця я і лепш, як вядома, вару за нашу Эльзі. Праўда?

— Праўда, праўда, дачушка,— нехаця адказала маці.

---

[1] Руплівасць прыносіць благаславенства.
[2] Я зрабіў гэта дзеля цябе.
[3] Бульба ў лупінах.
[4] Ома — бабуля.
[5] Нямецкая прымаўка.
[6] Мама, матуля.

Эльзі тым часам наабірала сабе поўную талерку бульбы, памяла яе лыжкай, палажыла чарпак яечні і моўчкі пачала акладацца.

«Любіць пампушка і можа»,— падумаў Алесь, цікнуўшы туды спадылба.

— Палажы яму, Эльзі, яшчэ,— па-свойму стомлена, вяла азвалася гаспадыня.— Сам бяры. Ах, майн гот, ты ж нічога не разумееш. Эсэн, эсэн, ам, ам,— паказала яна на яду і заплямкала ротам.

— Я не галодны,— ▮ усмешкай буркнуў Алесь і, толькі сказаўшы, схамянуўся, што гэта выйшла ў яго па-нямецку.

Эльзі зірнула на паляка здзіўлена, пачырванела і, пагразіўшы яму пальцам той рукі, у якой была лыжка, пакруціла галавой:

— Oh, du Lump!.. [1]

— Што ты гаворыш, дачка? Як жа так можна? — па-свойму, не павышаючы тону, здзівілася маці.

— Нічога. Можна.

І ўсміхнулася Алесю такім чынам, нібыта паміж імі штосьці ўжо ёсць.

Зрабілася нават у кухні відней. Алесь забыўся, што ён «не галодны», дрыжачымі рукамі наабіраў сабе яшчэ талерку бульбы, узяў чарпак і — «хоць вочы гарадь, але ж душа радуецца» — раз і яшчэ раз зачэрпаў сабе таго самага «тыцкала». І немцы, здаецца, глядзелі на гэта нічога — прыхільна.

Разгаманіліся. Усе наперабой пыталіся, адкуль ён, колькі яму гадоў, дзе навучыўся па-нямецку, ці ёсць у іх, у Расіі, картофэль, ці верыць Алекс, што Энглянд будзе таксама хутка капут, як і Франкрайх, ці праўда, што ў іхнім шталагу негры заелі двух вахманаў насмерць, а трэцяму адгрызлі вуха, што...

Са спакойнай грунтоўнасцю мутэр расказала яму пра сваю сям'ю. Эльзі і Крыстэль — дочкі, адной васемнаццаць, другой трынаццаты. Большы хлопец, Курт, іх сын, і яму ўжо шаснаццаць гадоў, гаспадар. Меншы хлопчык, Оскар, наняты пастушок, ажно са Штэціна. Фатэр іхні на вайне з самага пачатку. У Польшчы быў, цяпер у Францыі. Стары чалавек, які прыводзіў Алекса, гэта іхні опа, фатэраў фатэр.

---

[1] О, жулік!..

— Ён жыве ў нашым старым доме, і мы яму з яго омай, маёй свякроўю, даём на ўтрыманне. Ён добры, хоць і бурчыць, як усе старыя людзі. Прыходзіць цяпер памагаць, вучыць Курта, камандуе. Заўтра ён прыйдзе, паедзеце разам у поле... А-ёй, хлопча, нядобра гэта — вайна. У цябе, нябось, таксама мутэр недзе чакае і плача?..

Алесь памаўчаў і прызнаўся:

— За дзесяць месяцаў толькі нядаўна пісьмо атрымаў. Першае і пакуль што адно.

Яна ўперлася ў яго дабрадушна-тупым позіркам неяк млява блакітных вялікіх вачэй, а потым спыталася — зусім сур'ёзна:

— Ну, а чаму ж вы не аддавалі наш калідор, наш Данцыг? Чаму вы не паддаліся адразу, без бою? Вас бы ўжо даўно, можа, пусцілі б дахаты. Фюрэр — гут, фюрэр не хоча вайны. А ўсе на нас. І Польшча і Францыя ўжо за сваё атрымалі. А чаго ад нас хочуць праклятыя томі?

У кухні зноў пацямнела. І лыжка пацяжэла, і «пэлькартофэльн» з «тыцкалам» здаліся прэсна-вялымі і нуднымі, як гаспадыніны вочы і голас...

Ды вось пачулася брамка, зашкрэбалі металам па камені крокі — і гаспадыня нечакана ажыла:

— Ах, вахман Клебар комт! Ну, Алекс, гутэ нахт!.. Заўтра ўранні ты зноў пад'ясі. Гутэ нахт!..

Сонца ўжо было не відаць. Толькі макаўкі ліп і каштанаў заліты яго развітальным святлом, а шкляныя чарапічыны-акенцы дахаў, павернутых на захад, адпырсквалі, нібы гуляючы люстэркам, промні.

«Цікава, што тут за хлопцы? — думаў Руневіч, ідучы перад вахманам.— Можа, знаёмыя ёсць або з нашага боку. Дзе там угадаеш!.. А ўсё ж як добра вось так чакаць, знаёміцца, пазнаваць усё новых і новых. Не ўгадаеш — і гэта прыемна...»

## 4

І ён, вядома, не ўгадаў. Нават не мог і падумаць, што яго тут сустрэне.

Яшчэ здалёк, падыходзячы, ён убачыў, што за дра-

тамі, каля іхняй штубы, стаяла ўжо, мусіць, уся каманда. Нават і Венік з Ханьчуком былі ўжо тут. Каля адчыненай драцяной брамкі курыў, успёршыся на «качаргу», другі вахман, чорны, плячысты карантыш.

— Руневіч! Эй, Алесь! — крыкнуў хтосьці з натоўпу палонных.

Спачатку голас гэты дыхануў на сэрца пакуль што незразумелым, ды вельмі знаёмым, родным цяплом, потым Алесь пазнаў таварыша і крыкнуў сам, таксама радасна:

— Бутрым! Дык гэта ты?! Дык ты жывы?!

І вось ужо яны — так непрывычна, няёмка, упершыню за час іх знаёмства — абняліся і цісну́ць адзін аднаго, як мядзведзі...

— Морда нябрытая, морда!..— захоплена гудзе Бутрым, а потым нібы для зручнасці, адапхнуўшы Алеся на даўжыню сваіх рук, глядзіць і, нарэшце, здзіўляецца: — І-іх!..

Руневіч таксама глядзіць — не надзівіцца: Бутрым, той самы Уладзік Бутрым, высокі і дужы, як быў, толькі прыкметна худзейшы. Ды з чубам, як быццам ён толькі што з дому, яшчэ не пастрыжаны ў казарме, як у той дзень, калі яны сустрэліся ўпершыню.

— Усе каманды об'еў, зда-ра-ві-ла! — шчасліва смяецца Алесь.— Ну, дзе ж ты быў дагэтуль? Дзе ты падзеўся тады, каля Рэды?..

Ах, ліха матары — нібыта ўчора ўсё тое было, нібыта дні не цягнуліся і не цягнуцца тут гадамі!..

На іх глядзелі. Пра іх і гаварылі штосьці. Тыя, цэлы натоўп, што навокал.

— Добры вечар, хлопцы! — сказаў нарэшце Алесь.— Можа, хто з Наваградчыны ёсць?

Нішчымнай паўзе не даў залішне зацягнуцца Мішка Венік.

— Смаргонь давай, лапцюжнікі, што там яго Наваградак! Ну, з-пад Смаргоні ёсць каторы? Доўга я буду пытацца?

Вялы дзяцюк у пехацінскім мундзіры, у кепцы і ў дзеравяшках неяк нехаця адказаў:

— Я са Смаргоні. А што?

— Што? Людзі, бачыш, цалуюцца...— Мішка папсвойму натапырыўся на земляка, зрабіў грозныя вочы

і, хвацка цмокнуўшы языком, загадаў: — А ну, давай абаранак! А-а, ужо не пячэш?..

Пакуль той, вялы, сабраўся з адказам, у гутарку іх умяшаўся другі, каржакаваты і весела шыракароты, у чырвоным чэшскім галіфэ.

— Ужо наеўса, кажа. Ні сабе ні пячэ, ні на продаж. Абжыўса!..

— А ты, гарачыя порткі,— спытаўся Венік,— відаць, з-пад Гродна, сакун?

— Далей трохі. З Сакольшчыны. Можа, даводзілася быць?

— Не быў яшчэ. На тым тыдні заеду. І назбіралася ж вас тут, абібокаў, з усіх канцоў свету. Пачну, відаць, патрохі адпускаць дахаты...

Мішка і тут прыйшоўся даспадобы: хлопцы ахвотна абкружылі яго чародкай, яшчэ ахвотней смяяліся.

Ціхі насаты Ханьчук знайшоў ужо сваіх палешукоў і, пачырванеўшы ад радасці, усё ж такі ціха, як быццам нават таямніча, пасміхаючыся ў вусікі, гаварыў-шаптаўся збоку з трыма землякамі.

— Што ж, няма тут нашых дык няма,— сказаў Алесь.— Хадзем, Бутрыме, і мы пашэпчамся, хоць ты і не наваградскі. Дзе ты спіш?

Гаспадарлівы Уладзік адразу, на двары, дамовіўся са сваім суседам, што той пяройдзе на новае месца.

І вось яны ляжаць зноў побач, амаль пад самай столлю, «на другім паверсе». Толькі што ложкі тут не жалезныя, як у казармах былі, а проста нары, збітыя з негабляваных дошак. Павернешся — скрыпяць ды калываюцца абодва «паверхі» адразу, як быццам ляжыш ты на возе снапоў.

Уся каманда, чатыры дзесяткі палонных, ляжыць ужо і аціхае перад сном. Толькі ў кутку, каля Веніка, чуваць бубненне і час ад часу ўспыхвае не вельмі прыглушаны смех.

Алесь і Уладзік паспелі ўжо тым часам перакінуцца першымі весткамі, хто дзе і як пражыў гэты час ад іхняй ростані на фронце.

Бутрым трапіў у палон за некалькі дзён да іхняй капітуляцыі, дый так яшчэ, што запісалі: загінуў без вестак. Утрох яны не вярнуліся з разведкі, адзін толькі ён застаўся ў той перапалцы жывы, паранены ў нагу. Спачатку гібеў у шпіталі для палонных, пасля праца-

ваў у маёнтку, пакуль не прывезлі сюды, у беларускую каманду.

Падзяліўшыся з сябрам амаль тым самым хлебам перажытага, Алесь глядзеў цяпер на яго ў вячэрнім рэдзенькім змроку, прыўзняўшыся на левым локці, і думаў, успамінаў.

«А яшчэ я пішу свайму дарагому, што Лёнік наш усё плача: — А чаму дзед татку завёз, толькі кажух ды боты прывёз?..»

На другім тыдні іх вайсковай службы, у першыя дні знаёмства Уладзік — шчырая душа! — нават і жончынага пісьма не змог чытаць адзін. А здымак яе паказаў яшчэ да пісьма.

Алесю нават няёмка было перад сябрам, так яна спадабалася яму, тая Бутрыміха, на фота. Гэта што — сказаць, крутнуўшы галавою: «Ну ж, брат, і бабку ты сабе адхапіў! Сястры ў яе часам няма? Ці, можа, у вас там, за вашым Нясвіжам, усе такія?» Сказаў, пасмяяліся, а чужая чарнявая ў белым берэце, па модзе надзетым «моцна на левае вуха», прыснілася яму так нечакана, так хвалююча, што нібы і не было на свеце ніякага Бутрыма, а былі толькі чорныя вочы яе, і гарачыя губы, і поўныя, дужыя, загарэлыя рукі. Алесь прачнуўся з іх цяплом на шыі і ўсю раніцу так прахадзіў, нават пасля сцюдзёнай вады. І не змог бы ўжо, мусіць, разам з Уладзікам яшчэ глядзець на тое фота, як ні хацелася...

К чорту! Ён і цяпер адчуў салодкі водгалас тае няёмкасці, падумаўшы, што здымак у Бутрыма, відаць, не згубіўся.

— Хлопец твой ужо добра падрос? — спытаўся прыглушана, каб узяць сябе ў рукі.

Пытанне пра пісьмы з дому было адным з самых першых пытанняў, якімі яны абмяняліся ў пачатку размовы.

Уладзік на гэта быў шчаслівейшы: ён атрымаў іх ужо аж чатыры.

— Араць паедзе, браце, пакуль мы выкараскаемся з гэтага нямецкага г...,— таксама прыцішана забубніў Бутрым. Ён памаўчаў.— Яны гэта, бабы, могуць... Ручку яго абрысавала мне ў другім пісьме. А мо і праўда не яна, а сам? Тры з палавінай гады было якраз у гэтым месяцы, шостага. «Гарбузянятак табе сынок па-

лажыў у канверт, каб, кажа, тата мой мяне...» Сама, зараза, прыдумала! — Зноў памаўчаў.— Каб таму, браце, рукі адсохлі, хто гэты свет зрабіў такім дурным. Жыццё! І праўда, што як сарочка дзіцячая: кароткае і за... Ну што я, скажам, перакасіў каму-небудзь, пера-араў? За што мы, скажы мне, з табою бадзяемся? Чаму ён, Лявон мой, павінен расці без мяне, а я тут ныць без яго? І людскія, і нелюдзі — на ліха яны мне, немцы? За якія грахі я павінен ім тут адрабляць? За тое, можа, што петаваў на бацькавым загоне з самага малку, а потым што паны мяне, каб іх журам пагнала, пагналі біцца за іхняе?..

Ён павярнуўся наўзнак і заціх, як нябожчык.

Зрэшты, і ўся каманда спала ўжо, здаецца, на абодвух ярусах.

Бутрым старэйшы за Алеся ажно на тры гады. Ужо гаспадар самастойны, адзін у бацькі сын. Думаў — усё, не возьмуць у войска, ажаніўся. А тут успомнілі, узялі...

Здаравенны і добры. Гаворыць — нехта сказаў бы — груба, усё называючы поўным, дакладным імем. Але ў ягонай гаворцы гэтая грубасць зусім не ўражае, як не ўражае яна нікога там, дзе гной, і кветкі, і хлеб жывуць па-суседску, адно з аднаго.

Алесь ляжаў ніцма, падлажыўшы далоні пад грудзі, і глядзеў цераз краты ў акно.

За драцяной агароджай іхняй штубы відаць была пясчаная палявая дарога, густа і неяк родна, па-нашаму для ўсіх, абсаджаная бярозамі. У пройме між веццем дзвюх бяроз ціха свяціў вялікі месяц у поўні, а пад месяцам, як парафіяне перад высокім алтаром, пагойдвалася, кланялася жытняе калоссе. Мусіць, таксама шэпчучы...

— Ты спіш?

Алесь, замест адказу, павярнуўся да Уладзіка, як толькі мага цішэй, а ўсё ж не ціха скрыпнуўшы нарамі.

— Гляджу я, браце,— бубніў Бутрым,— на клыпы свае: вунь дзе яны ў мяне з-пад коўдры вылезлі!.. А Саветы ж яшчэ даўжэйшыя!.. Бачыў на карце? А песню помніш: «Ад Кранштата да Уладзівастока»?.. Цяпер яшчэ далей — ад Брэста. Што і казаць! Дачакаліся людзі, хто іх, вядома, чакаў. Дрэнна толькі, што нас яны адгэтуль не бяруць...

Зноў памаўчалі. Потым Уладзік павярнуўся на бок, падсунуўся да Алеся і з адчувальным цёплым прыдыхам зашаптаў:

— Есць тут у нас адзін смаркуль. Заўтра я табе пакажу. От такое сабе трапло, мамін сыночак. Хаця і да мамы не вельмі спяшаецца: тут яму вельмі ж усё даспадобы... А компасам хваліўся разоў колькі. Дык потым компас гэты ўзяў ды прапаў...

Бутрым прыўзняўся і дастаў з-пад ашмётка-падушкі свой мяты, латаны мундзір. Алесь са здагадкай успомніў, як ён старанна клаў яго, лажучыся, пад галаву...

— Садзі сюды руку,— шапнуў Уладзік.— Пад пахаю мацай. Знайшоў?

Алесь абмацаў зашыты на згібе, цвёрды кружок.

— Дай палажу. Пад галавой яно смялей...— Улёгшыся, зноў на спіне: — Дахаты, браце, толькі дахаты... Інакш на ліха нам і шоры валачыць?.. Ну, спі, Алесь, заўтра дагаворым.— А потым яшчэ на дадатак, як быццам самае галоўнае, чаго нельга было не сказаць: — Добра, браце, што ты прываloкся!..

## 5

У шталагу, у тым польскім бараку, куды Руневіч быў пераведзены са штрафной, жыло-хавалася некалькі кніжак, адна з якіх нечаканым, даўно нябачаным шчасцем трапіла і ў Алесевы рукі.

Аповесць Серашэўскага «Заморскі д'ябал».

Прыемны быў, перш за ўсё, сам факт сустрэчы з ёю іменна тут, у палоне. А па-другое — Алесь знайшоў у гэтай выпадковай кнізе думку, сугучную сваёй — той галоўнай і радаснай думцы, якая грэла яго і жывіла ў найгоршым, што ні здаралася. Запісаў яе нават у свой памяты салдацкі блакнот.

«Будзь самім сабою і не саромейся, што ты як быццам бездапаможны! Узвышайся над іншымі высакароднасцю: будзь чысты, мужны, добры. Няхай імя тваіх суайчыннікаў заўсёды спалучаецца ва ўяўленні чужынцаў з самымі ўзнёслымі вобразамі. Аднак галоўнае,— як толькі зможаш, вяртайся да сваіх. Там твая ніва. Праз свой народ — для чалавецтва!»

Вяртайся да сваіх...

Каб не той іхні бунт на камандзе, Алесь ужо быў бы далёка. Хто ведае, можа, шчаслівая зорка завяла б ужо аж туды, дзе яго месца — адзінае ў свеце?..

І ён спачатку, увосень ды зімой, гаварыў з сябрамі пра ўцёкі ўголас. А з вясною гэтыя іх агульныя так сабе гутаркі перайшлі на больш канкрэтны шэпт, загняздзіліся ў паасобных сяброўскіх групках — па два, найбольш па тры чалавекі.

Былі і ў Алеся два хлопцы — там, у маёнтку,— нядрэнныя хлопцы, але слабакі. Яны як быццам толькі чакалі, што ён іх даставіць дахаты, і гэтае іх спадзяванне не памагала справе, не радавала, а ў хвіліны сумнення ў палохала. І самому Алесю хацелася мужнай дружбы, моцнай, сяброўскай рукі і душы, каля якое, стаміўшыся, добра пагрэцца. Яны ўжо збіралі на дарогу хлеб, саскрэбвалі са штундэравых штуляў [1] мармелад ці маргарын і хавалі гэтыя штулі, галодным нутром ведучы ім аж надта дакладны ўлік...

У адзін з тых, радасна насцярожаных і нясцерпна галодных, красавіцкіх дзён на Руневіча цэлым сонцам упала першае пісьмо з дому.

Сем месяцаў ён, нібы просячы піць,— хоць бы кроплю вады на засмяглае сэрца — настойліва запаўняў стандартныя бланкі, што выдаваліся ім вахманамі па тры на месяц. Кароткія пісьмы на васкаваным бланку, другая, чыстая палавіна якога прызначалася для адказу. А спачатку толькі гатовыя, з гатовым, надрукаваным тэкстам паштоўкі. «Ich bin gesund...» [2]. Закрэсліваў словы «Leicht verwundet...» [3], а далей ужо ішло ўпартае, як пазыўное SOS: «...знаходжуся ў нямецкім палоне, і мне тут добра...» Ліха б вас, чэрці акуратныя, пабрала!.. Усё так здорава прадбачана, нават і бланк наглянцаваны нечым ліпкім, як стэарын, каб цэнзару лёгка было сціраць крамолу.

Маці і брат, дзве найбліжэйшыя ў яго жыцці істоты, дзве прычыны яго пякучай тугі і няўцешнага болю няведання, стаялі перад вачыма такімі, якімі Алесь іх бачыў апошні раз... Больш дакладна: якімі яны паў-

---

[1] Лустаў.

[2] Я здаровы...

[3] Лёгка паранены...

ставалі ў яго ўяўленні з апошніх Толевых пісьмаў, атрыманых перад самай вайной.

Мама — у вечнай сваёй трывозе, непадкупнай для знарок завышана аптымістычных Алесевых пісьмаў. Толя — у першых радасцях свайго кахання, якое, як ён у тыя дні даведаўся, было ўзаемнае!.. Не толькі гэта, вядома, было ў яго, Толевых пісьмах: была і трывога — за Алеся, за сябе самога, за тое, што пачнецца-такі, відаць, вайна...

Цяпер, у палон, ён пісаў, што вайна падхапіла яго і загнала была ў нягоршае, чым Алесева ў Гдыні, пекла — у акружаную Варшаву. Як жыла тады маці — балюча нават і думаць. А потым палавіна яе слёз — Толя вярнуўся замаразкамі з палону, адзін з тых шчаслівых, каго абмянялі. Цяпер маці як быццам здаровая і плача толькі па адным, па меншым. А большы тым часам, як, напэўна, гаварыла яна не раз,— «не вытрымаў, не прычакаў Алеся» — ажаніўся.

Ды хіба ж пра ўсё гэта так было сказана ў пісьме?.. Дваццатае ды трыццатае перачытванне яго за два месяцы — чым далей, тым усё спакайнейшыя ды раўнейшыя кругі, цішэйшы водгалас першага ўражання.

Тоўсценькі, мітуслівы яфрэйтар Глянцпапір (нельга было не думаць, што гэта проста пераапрануты гандляр яйкамі), дастаючы са свае сумкі пісьмо і даючы яго палоннаму № 133, не мог, вядома, і ўявіць, што за скарб ён трымаў у руцэ.

Просты, стандартны савецкі канверт з гербам у левым кутку, з маркай у правым, з прастадушнай парадай: «Хочешь, чтобы письмо дошло быстро, пиши адрес правильно»,— канверт, які дагэтуль быў зайздроснай, ледзь не абстрактнай для Руневіча рэччу ў руках яго шчаслівейшых сяброў, азначаны быў паштовым штэмпелем іх сельскай пошты, а адрас старанна, прыгожа вывела рука, почырк якое Алесь, здаецца, пазнаў бы і вобмацкам.

Дрыготкімі рукамі ён адарваў краечак канверта, выняў знаёмы, родны, як хлеб маленства, лісток са сшытка ў клетачку, густа і роўненька пастрочаны фіялетавымі радкамі дробных літар, схапіў вачыма словы: «Дарагі наш Алесь! Мы з мамай і з маёй Аняй толькі і думаем...» — і адышоўся з чарады сяброў убок...

Гэта было адно з тых пісьмаў, якімі Толя нястомна, упарта, дзень за днём лавіў яго, Алесеву, хвалю, клічучы з невядомасці першае слова...

Апроч тых, звычайных для староннягa чалавека фактаў, якія Толя паведамляў, відаць, у кожным сваім папярэднім, страчаным для Алеся, пісьме, быў яшчэ ўсхваляваны расказ пра «наша [redacted] Аняй вялікае шчасце» («З зімы чакаем цябе, дарагі, ужо ўтраіх: мама, Аня і я...»), пра вечары ў «чырвоным кутку», пра першы ў іхніх Пасынках савецкі самадзейны спектакль («Як жа нам не хапае цябе! Хлопцы і дзяўчаты не раз успамінаюць...»), пра «Ціхі Дон» («Не перадаць, які гэта шэдэўр!..»), пра радыё, што ўжо не ціхенька, у навушніках, а на ўсю хату пяюць там Мінск і Масква («Не нацешуся Глінкам, Чайкоўскім, народнымі перламі!..») — словам, пра ўсё незвычайнае, новае, што прынесла туды ў мінулым верасні свабода, пра ўсё, чым жыў цяпер Толя.

І вось са слоў яго і [redacted] падтэксту, якога было — куды там! — непараўнана больш, Руневіч адчуў, здавалася, [redacted] найбольшай сілай, канчаткова, што час для выраю — прыйшоў.

Ды справа, як вядома, павярнулася інакш.

У тым, што сталася, Алесь не каецца. Інакш зрабіць з тым іхнім бунтам ён не мог.

Часу, вясны,— што ж, таксама ўжо лішне не варта шкадаваць.

Дый кампаньёнаў тых — таксама.

Замест вясны ёсць лета, якое не толькі пагрэе, але ж і накорміць.

Замест тых двух сяброў, што заслабыя для рызыкі, ёсць новы, дужы... Дый не новы, а ўжо даўні сябар, неяк вельмі ж свой, патрэбны, як успамін пра родны дом, мілы Бутрым, які быў недарэчна, так непатрэбна загінуў калісьці без вестак, а сёння так нечакана і так дарэчы знайшоўся!..

Світае... За кратамі, паміж веццем дзвюх бяроз, там, дзе быў месяц, які ўжо адсунуўся і паблек, калоссе перастала кланяцца, заціхла, чакаючы сонца.

Алесь прыўзняўся, заўважыў, што фортачка прычынілася, піхнуў яе на двор, і на яго расхрыстаныя грудзі ціха дыханула прахалодай. Павярнуўся наўзнак.

«Трэба заснуць і мне»,— шапнуў ён у душы, без слоў, палажыўшы на грудзях далоні. Пад імі спакваля адчулася цяпло і маладое, упартае тахканне сэрца. Масток яшчэ ўсё ные ад прыклада...

І так жа хочацца, каб хтосьці пагладзіў цябе па чупрыне, па лобе гарачым... Тая, што жыве яшчэ толькі ў марах, пакуль невядомая, толькі жаданая. Каб прыйшла яна з роднага свету, наблізіла вочы да тваіх вачэй, заглянула ў душу, прыпала да губ тваіх цеплынёй...

«Будзе, будзе яшчэ і свабода, і шчасце...» — думаў Алесь і яшчэ раз шапнуў, цяпер ужо так, што сам з усмешкай пачуў свае словы:

— Трэба ж заснуць і мне.

Аднак доўга яшчэ не мог.

## ХЛЕБ НАДЗЁННЫ І РЭХА ГАДОЎ

### 1

Пасля таго як у славутым Камп'енскім вагоне было падпісана трагічнае для Францыі перамір'е, і ў Касаве, у выкананне загаду пра ўсенародны трыумф, на цэлую дэкаду былі вывешаны ўсе сцягі, а кірхі бомкалі-пераклікаліся двума званамі тройчы на дзень, ажно падскоквалі пеўнікі на шпілях.

Ідэі нацыскай звышчалавечасці ўбіваліся ва ўсе мазгі да металічнай нудоты настойліва.

І вынікі былі.

Алесь адчуў іх у сям'і сваіх новых гаспадароў.

Неяк цыбаты, даволі-такі сімпатычны з твару Курт купіў машынку, каб абстрыгчы Оскара. Але хітры, гультаяваты хлапчук, які і сапраўды аброс на службе цэлай капою валасоў, не паддаўся, уцёк. Тады гаспадарык паклікаў з канюшні паляка.

— Слухай, Алекс,— сказаў ён на двары,— давай я цябе абстрыгу. Сёння нядзеля, і я хачу навучыцца стрыгчы. А табе — ты ж гефангенэр, табе гэта ўсё роўна.

Уражаны, можа, не столькі самой прапановай, як тонам, самым сур'ёзным тонам, якім яна была выказана, Руневіч паглядзеў на блазнюка і, не сказаўшы нічога, пайшоў у канюшню.

Дух часу загаварыў у Курце больш энергічна. Праз некалькі мінут ён зноў паклікаў палоннага на двор, да самага ганка, працягнуў яму ў адной руцэ боты, у другой шчотку і баначку крэму і, як мог суровей, загадаў:

— Пачысць! Але як след і хутка!

Гэта — не ўсё. На Курце былі ўжо не тэніска і нармальныя штаны, а форма гітлерюгенда. Не поўная, праўда, без шапкі і ботаў, але ж з галоўным — са свастыкай на павязцы.

Высокі, плячысты юнак у палапленых вайсковых неданосках,— дарослы, начытаны, біты жыццём мужчына,— Алесь стаяў перад немчыкам, успёршыся на вялікія васьміраговыя вілы, спачатку звёўшы густыя светлыя бровы, пасля — з усмешкай на поўных, падкрэсленых абадочкам губах...

Успомніўся афіцэрык-эсэсавец на турэмным двары, перад натоўпам палонных. З выгляду — мала старэйшы за Курта.

«І ты ўжо тузаў бы за акрываўлены бінт? Ці толькі яшчэ рагатаў бы, як тыя — і ў чорным, і ў светла-карычневым?..»

— Ja, horch mal, du,— пачаў Руневіч.— Запомні ты сабе, mein lieber Freund, адно.— Гаварыў на дзвюх мовах адразу: лягчэй было іменна так.— Ich bin für dich nur Soldat. І больш ты да мяне mit solchen Schweinereien [1] ніколі не лезь. Зразумеў?

Спытаўшыся — адказу не чакаў, пайшоў назад у канюшню.

Разгублены Курт пабег у дом, паекатаў там то пасмужчынску, то па-дзіцячы і выйшаў на ганак з мамай. Яны паклікалі палоннага трэці раз. Ды ён, як быццам, не пачуў. Тады гаспадыня, а сын за ёю, падышлі да расчыненых дзвярэй канюшні.

— Алекс! — сама паклікала гаспадыня і, калі ён

---

[1] Так, слухай, ты... Мой мілы друг... Я для цябе толькі салдат... З такім свінствам...

выйшаў на віднае, здзіўлена спыталася: — Алекс, чаму ты не паслухаў Курта? Два разы не паслухаў. Алекс, варум?

Поўная, мілавідная мутэр у драўляных выступках, у нейкім па-курынаму стракатым плацці і белым кухонным фартуху — яна глядзела на яго з даволі-такі дурнаватым здзіўленнем на твары... Хутчэй — з недаўменнем, якое было безнадзейна-шчырае.

— Алекс, варум?

У голасе гэтым быў і дакор: «Мы ж цябе кормім, далі табе працу, табе ж у нас так добра, а ты... Варум?» Якраз як у першы вечар: «Чаму ж вы не паддаліся без бою?.. Наш фюрэр не хоча вайны!..»

І як ён, Алесь, ні растлумачваў ёй чаму,— нічога так і не зразумела.

Праўда, есці яна яму і потым давала не горш, чым дагэтуль, але ж той выраз шчыра-прыдуркаватага недаўмення палонны пачаў заўважаць у яе вачах, здавалася яму, усё часцей.

Курт не заўсёды, вядома, трымаўся на ўзроўні звышчалавека. Часамі ён з хлапечай непаслядоўнасцю, увайшоўшы ў вясёлы настрой, спрабаваў нават зачапацца з Алесем — падужацца, пажартаваць,— але палонны быў цяпер непрыступны.

Іншая справа з Оскарам, якога, дарэчы, усё-такі злавілі і пастрыглі ўсёй сям'ёю. Жвавы падшыванец, да таго ж сірата і не свой у гэтай сям'і, ён адчуваў сябе з палонным добра, нават пасябраваў з ім, то сур'ёзна — о, вельмі сур'ёзна! — гутарачы пра ўсё, то, як званочак, рагочучы на высокіх плячах вясёлага Алекса.

Другім такім «інтэрнацыяналістам», дзіцем з яшчэ непасрэднай душой, была і Крыстэль.

Ці абіраючы вішні, калі яна стаяла высока на драбінах, у лісці, і, як птушка, вельмі многа бачыла незвычайнага, ці мыючы ў кухні пасуду, ці ідучы па двары, яна, здаецца, заўсёды спявала, проста крычала пацешным малечым крыкам якую-небудзь песеньку. Хоць бы пра дзіўнага Гэнсхен, нямецкага Яначку, які надзеў свой капялюш, узяў кіёк і вырушыў у далёкі свет — адзін, без мамы і таты. У менш сур'ёзным настроі Крыстэль падскоквала, як верабей, паведамляючы сабе і ўсім вельмі радасна, гучна:

Ich kann fideln
Auf der Geige!
Pilip — sisi!
Pilip — sisi! [1]

Паўтаралася песня безліч разоў, і самым галоўным было ў гэтай песні задорнае «піліп сісі», раней не чутае Алесем і пацешнае.

Дух часу заўважаўся, аднак, і на гэтых, найменшых.

Калі аднойчы Алесь, гуляючы з Оскарам, неасцярожна наступіў яму на нагу, хлопчык адбегся і першае, што ён з прыплачам злосна сказаў, было агульнае амаль для ўсіх:

— О, польнішэс швайн!..

Крыстэль спявала не толькі пра скрыпачку ды пра Гэнсхен. Часта яна пераходзіла і да больш ідэйнага, сучаснага рэпертуару — адчыніўшы акно, галёкала «Marschieren wir in Frankreich ein» [2] ці заклікала з вішні «Gegen England» [3].

І нават гэтая дзіцячая бяздумнасць, як і Оскарава злосць, яшчэ і яшчэ раз напаміналі Алесю пра затручанасць наваколля.

Ды з дзецьмі ўсё-такі было лягчэй.

Праходзячы каля палоннага, Крыстэль абавязкова старалася зачапіць яго, папхнуць худою загарэлай ручкай ці тузануць за мундзір і адбегчыся, нібы просячы: «А ну, дагані!» Разварушыць Алеся ёй удавалася, вядома, не заўсёды.

Аднойчы, калі ён быў асабліва пануры, сінявокае, светлакосае дзеўчаня, зачапіўшы яго, адбеглася і, стаўшы ў позу, прамовіла:

— Oh, Alex! Sie sind so schön! Ich liebe Sie so sehr!.. [4]

Сарвалася з тэатральнага тону, пырснула звонкім смехам і пабегла.

Адкуль маглі паходзіць гэтыя словы, на што яны маглі намякаць, Алесь здагадваўся. Гэта было і нецяжка.

---

[1] Я ўмею граць
На скрыпачцы!
Дылі-дылі,
Дылі-дылі!..

[2] Мы маршыруем па Францыі.

[3] На Англію!

[4] О, Алесь! Вы такі прыгожы! Я люблю вас так моцна!..

Неяк у кухні, кормячы яго, пампушка Эльзі была, як заўсёды ў такіх выпадках, павышана руплівая. Прабягаючы міма палоннага богведама каторы ўжо раз, яна, нарэшце, спынілася і нечакана пагладзіла хлопца па схіленай над талеркаю галаве. Адказаць, хоць чымнебудзь, на гэта ён не паспеў, і не таму, што проста вельмі здзівіўся,— яна шмыганула з кухні ў адчыненыя дзверы пакоя, дзе за швейнай машынай, увесь час было чуваць, сядзела маці.

Здзіўляцца Алесю было чаго: Эльзі зрабіла вельмі смелы і небяспечны пачын...

З восені мінулага года тут, у Германіі, дзейнічаў закон пра абсалютнае захаванне расавай чысціні і арыйскага гонару нямецкіх жанчын.

На камандзе, дзе быў у тыя дні Руневіч, закон гэты ўвайшоў у жыццё даволі своеасабліва.

Штуба і там была, вядома, абнесена дротам. І кожны вечар каля дроту збіралася вясковая моладзь, каб падзівіцца на палякаў. Хлопцы-падлеткі, што не падышлі яшчэ пад мабілізацыю, так толькі перабрэхваліся ды хіхікалі. А дзяўчаты проста-такі нылі каля дратоў, заблытваючыся прычоскамі ў калючках, падавалі палонным цыгарэты і, найбольш, яблыкі,— каб паглядзець на далёкіх, цікаўных і адгароджаных, Адамаў зблізку. Нават прасілі ў вахмана:

— Паклічце, калі ласка, вунь таго брунеціка, што без шапкі, што пазаўчора капаў бульбу ў Вінараў...

Вахман клікаў, брунет падыходзіў, збянтэжана ўсміхаўся, пазбаўлены магчымасці і наступаць, і абараняцца словам, а маладзенькая Mädel [1] — яшчэ адна Ева — глядзела на яго зусім прастадушна, таксама моўчкі, не зводзячы вачэй, а потым працягвала праз дрот руку з вялікім і румяным яблыкам, відаць, прынесеным персанальна.

Пры ўсім гэтым, як фон для ідыліі, адбываўся двухбаковы, падзелены дротам і рознымі мовамі, абмен заўваг і ацэнак, аднолькава адкрыты і вясёлы, з выбухамі смеху то на адным, то на другім баку агароджы, то рапам — калі да слоў далучаліся ўсім зразумелыя мігі і жэсты — з абодвух бакоў.

На мігі і жэсты вялікі майстар быў вахман Паўль,

---

[1] Дзяўчына.

нядаўна мабілізаваны вясковы дзядзька, вельмі рухавы каля жанчын, смяшлівы і недурны.

Неяк увечары ён увайшоў у штубу з лістом паперы, крыкнуў «ахтунг!», пастаяў, паглядзеў на паперу, пачухаўся, плюнуў і пачаў тлумачыць змест яе па-свойму.

Спатрэбілася толькі чатыры словы: «поляк», «дойчэ Марушка» і «Гітлер». Паўзы паміж гэтымі словамі адпаведна і красамоўна запаўняліся міжнароднымі жэстамі, ахамі, охамі і выразамі твару. Усё разам гэта перадавала сэнс гістарычнага дакумента ў цэлым зусім дакладна і пераканаўча.

Калі паляк памкнецца да нямецкай Марусъкі, дык Гітлер яму за гэта... Рабіўся крыважэрны жэст ніжэй пояса: шах-мах і за акно!..

І ўсё гэта пакрылася нямецка-польска-беларускім рогатам.

— О донарвэтар, ніхт нох маль!..— з усімі разам смяяўся канвойны і, пакруціўшы каля скроні пальцам, заключыў: — Яны там сядзяць пішуць, а я вам тут чытаю...

Закон гэты не столькі, мажа, дзейнічаў, колькі проста вісеў над галовамі немак чорнаю хмарай, якая час ад часу падавала больш ці менш суровы голас затоенага і вельмі пільнага грому. Недзе дзяўчыну засталі з палонным. Яго паслалі адразу ў канцлагер, а яе пастрыглі нагала і абвозілі па бліжэйшых вёсках, напаказ. Адна фрау-салдатка (амаль усе фрау — салдаткі) дала палоннаму хустачку, і пра гэта, заслужана ганьбуючы яе, грымела потым раённая газетка. Ахтунг, фрау унд мэдаль,— гэта вам не тая, не кайзераўская вайна!..

У тую вайну ў адной з прыморскіх вёсак, дзе Руневіч быў на камандзе, доўга працавалі рускія палонныя,— «цвай Донказакен», абодва здорава танцавалі ўпрысядку (стары баўэр паказваў Алесю даволі дакладна), і адзін з іх, Васілій, «во такі чуб!..», пакінуў па сабе памяць.

Колькі б разоў Алесь, возячы гной, ні праязджаў каля салатавага доміка з мансардай, у адным з яго вялікіх вокнаў рассоўваліся над вазонамі беленькія гардзіны, і тая казацкая памяць — чарнявая Анхен, усміхалася палоннаму і зусім па-зямляцку, па-свойску прыплюшчвала вока.

«А ты гэта чаго?» — падумаў цяпер, у кухні, Алесь, прыемна ўражаны новым сігналам.

Эльзі была наліўная, румяная, як яблыка,— і паглядзіш, і ўспомніш на адзіноце.

Ды вось неяк, калі яны, Эльзі і Крыстэль, апоўдні ўходжваліся з пасудай, а палонны яшчэ еў каля стала, спазніўшыся з-за работы, усёй ідыліі з румянай ды наліўной прыгажосцю прыйшоў нечаканы канец. Па-баўэрску прыйшоў, ад традыцыйнай «здаровай свабоды» нораваў, памножанай на адчуванне расавай вышэйшасці... Малая Крыстэль раптам зацiснула носік, крыкнула на Эльзі: «Швайн!», а тая голас яе пакрыла звонкім, задушэўным смехам. Алесь бразнуў лыжку на стол і пайшоў. І ўжо ніколі больш Эльзіна прыгажосць і залёты не кранaлі яго па-ранейшаму.

Опа і ома прыходзілі сюды даволі рэдка, асабліва ома.

Старая, відаць, разы са два збіралася загаварыць з палякам, глядзела нават на яго, нямогла трасучы падбароддзем, ды так дагэтуль і не сабралася аказацца.

А дзед, ці ўзяўшыся за якую работу, ці седзячы з палонным за сталом,— усюды стараўся як мага лепш зарадзіць яго для ўдзячнай, самаахвярнай стараннасці. Сахор, сякеру, касу — усё ён паспяваў падсунуць Алесю так спрытна і ў час, з такім выглядам, што хоць ты дзякуй яму за прыхільнасць. І ўсё з шапяляваю прыгаворкай: «Іммэр фэстэ, юнг, іммэр фэстэ!..» А калі елі: «Іммэр шнэлер!.. Няма чаго сядзець!..» Лусту сваю, найчасцей памазаную самаробным мармеладам, опа клаў на далонь і рэзаў на кавалачкі, за кожным разам абціраючы аб кант хлеба нож, і адзін за адным кідаў тыя кавалачкі ў рот, паспешліва запіваючы кавай. Праз тонкую наздрастую лустачку на каравую далонь або на валасатыя пальцы часта капне чырвоная кропля рэдкага мармеладу. Стары старанна злізваў яе, пэцкаў жаўтлява-сівыя вусы, саскрабаў астатак плямы нажом і нож аблізваў таксама.

Калі ж гаворка ішла тым часам пра вайну, пра «цэлы свет капут!», як толькі пажадае фюрэр, або «чаго ўсе хочуць ад нас?», опа трымаў свой вялікі, самаробны кухонны нож угару вастрыём, нібыта кайзераўскі штых ці нават крыжацкую мізарыкордыю, і гаварыў,— гэты капцюх, што мог смуродзіць за сталом ды

прыгаворваць «О, гезунд!» [1], гэты «бядак» на дваццаці гектарах,— з агідна шчырай, і новай, і спрадвечнай урачыстасцю:

— Мы змагаемся за наш хлеб! Нам патрэбна жыццёвая прастора!..

Крывавы пісяг мармеладу з куточка рота поўз на дрэнна паголены старэчы падбародак хама, якому ўсе, як плануецца фюрэрам у сусветным маштабе, павінны служыць.

— Мой сын, мой Карл рабіў Полен унд Франкрайх капут. Ён Камрат, ён — дойчэ зольдат! Ён пойдзе і на Англію. Яна павінна быць таксама пакарана. Юдэн, пал'якэн, французэн, энгляндэн — усё дзярмо! Вялікая Германія...

Пад гэткае плявузганне Алесь нечакана і вельмі выразна ўспомніў аднойчы сонечны бераг польскага мора, зацішак пасля кананады... Ад іх кулямётнага гнязда над абрывам на букавым узлессі немцы былі за нейкі кіламетр — на могільніку, які далей ад берага пераходзіў у парк. Неяк уранні, калі заціхла чарговая артылерыйская апрацоўка польскай лініі, некалькі немцаў выйшлі з могілак да вады, пакупацца. Голыя, сям-там прыкрыўшыся рукамі, здалёк — амаль поўнасцю зліваючыся з пясчаным фонам. Зліваючыся весела, у насмешку з «праклятых палякаў», зноў прыглушаных, убітых у зямлю агнём.

«Юдэн, пал'якэн, французэн, энгляндэн — усё дзярмо!..»

«Можа, і твой работнічак, і твой змагар за хлеб і прастору быў там? — думаў Руневіч, гледзячы на старога.— Можа, гэта яго я заўважыў, зноў узняўшы над зямлёй галаву, зноў павёўшы біноклем па варожым беразе? Можа, гэта яму ўдалося дапаўзці назад ад берага — пад чаргою майго станкача?.. Тады, каб заўважыць яго, патрэбен быў бінокль. Цяпер я вас бачу і так. З кожным днём выразней».

Алесевы думкі ўсе былі на радзіме, дома. Больш чым раней. Назначаны для ўцёкаў дзень поўз да яго павольна, аднак і няўхільна. І часта хлопец, думаючы пра немцаў, якіх бачыў навокал, успамінаў цяпер Бутрымавы словы:

---

[1] О, здарава!

«І людскія, і нелюдзі — на ліха вы мне тут?..»

У доме Камратаў людскім, калі гаварыць пра дарослых, здаваўся толькі адзін чалавек.

## 2

Гэта быў стары батрак з дзіўным для Руневіча, як быццам славянскім, прозвішчам — Ракаў.

У доме Камратаў усе, ад Оскара да опы, называлі яго, без іроніі, гер Ракоо. Стары гэты жыў недзе на іншай вуліцы, у нанятым пакойчыку, удваіх са сваёю старэнькай фрау, якая, ён казаў, глядзіць дому і таму ніколі не паказваецца сюды, на месца мужавай работы.

Гер Ракаў быў прышлы работнік, і толькі для працы ў полі. Неяк загадкава для Алеся салідны — нібы ён быў калісьці «вялікім чалавекам», тады набраўся культурнасці, для паўнаты якой не хапала, здаецца, толькі гальштука — нават за плугам ці з касою. Гаварыў стары ціха, на мясцовым плаце, ад чаго гаворка яго злівалася для Алеся ў амаль незразумелае, манатоннае, але нязлоснае бурчанне. Аднак у найбольш адказныя моманты, хочучы, каб палонны зразумеў яго, гер Ракаў мог і паўтарыць тое самае, ды яшчэ на гохдойч, у меру сваёй магчымасці выразна. Хадзіў ён у благенькім, выцертым, але заўсёды чыстым і зацыраваным касцюмчыку, у чаравіках, у шэрай несмяротнай кепачцы і пры вусах, дарашаватых і сціпла апушчаных канцамі ўніз. Пад вусамі часта з'яўлялася добрая, ціхая ўсмешка. А ў шаравата-блеклых, стомленых вачах ужо да смерці затаіўся ніцы сум, добра-такі прыпраўлены перапалохам.

Гэтыя вочы даволі хутка прыпомнілі Алесю чытанае калісьці, у старой беларускай газеце, бойкае апавяданне невядомага аўтара, засакрэчанага ініцыяламі. Там нейкі дзядзька, як заўсёды стомлены, размарыўся ў царкве дрымотай і заснуў у зацішным кутку. Ніхто не заўважыў яго, і дзядзька прачнуўся толькі пад вечар, адзін у царкве, перад вялікай іконай, з панам богам, як ён казаў пасля, з вока на вока. І пачалася ў іх размова пра жыццё — і пра часовае, на грэшнай зямлі, і пра вечнае, на небясі. Абараняючыся ад праведных боскіх папрокаў, мужычок узмаліўся:

«Пане божа, то ж колькі бунту ў маёй душы, столькі і пуду ў нагах!..»

Такое вельмі пасавала і да гера Ракава.

Бунт у ягонай душы быў.

Працуючы ў полі, асабліва адны, без Курта, гер Ракаў і Алесь знаходзілі ўдосталь часу пагутарыць на розныя тэмы — ад самых звычайных, скажам, якія косы ў вас, а якія ў нас, і да самых высокіх, значэння проста гістарычнага.

З усіх такіх гутарак Алеся найбольш уразілі дзве.

Неяк уранні, калі яны ў два плужкі абганялі бульбу, стары спыніўся на павароце і сказаў:

— Хай коні пагрызуць травы, а ты паслухай, Алекс, што было...

І расказаў, што ўчора жонка яго ездзіла ў горад і ўбачыла ў вагоне «штосьці страшнае». Сядзелі там двое старых, «як я з маёю фрау»,— ён маўчыць, а яна ўсё глядзіць ды глядзіць, усё лічыць ды лічыць: «айн, цвай, драй, фір, айн, цвай, драй, фір...» І не спыняецца, як гадзіннік. Нейкія блазны пачалі хіхікаць. А тады ён, стары, гаворыць ім: «Тут жа няма нічога смешнага! У нас было чатыры сыны, і ўсе яны загінулі: два яшчэ ўвосень, у Польшчы, а два нядаўна, у Францыі. А за што?..»

— Вось як, мой хлопча,— закончыў гер Ракаў.— Вось што такое вайна. Мы ведаем, каму яна трэба. Золата, хлопча, золата — над усім. Што ж, будзем далей рабіць. Гансэ, гі!

Другім разам яны ўжо ўтрох, з гаспадарскім сынком, касілі на лузе, даволі далёка ад дому. Курт стракатаў па роўным касілкай, а яны абкошвалі нізкі і звілісты бераг рачулкі. Калі касілка пакінула іх і чуваць была зводдаль, з-за ўзгорка, стары, не заходзячы новага пракоса, прапанаваў палоннаму прылегчы.

— Адны пяць мінут адпачынку. І я раскажу табе, Алекс, штосьці вельмі смешнае. Я сам нядаўна пачуў. О, нашы людзі ўмеюць прыдумаць! Толькі ты не раскажаш, што чуў гэта ад мяне? Ты чуў ужо, ты ведаеш, як гэта ў нас? Быў чалавек і — няма. Маўчы і думай: пятля? сякера? Заксэнгаўзэн?.. Людзі знікаюць, хлопча, і след прападае... Ну што ж, пачнём.

Тут гер Ракаў даў яшчэ адзін доказ свае загадкавай

саліднасці: ён выняў з нутраной кішэні пінжака, што ляжаў на пракосе, маленькі блакнот з алоўвачкам, вырваў з блакнота лісток і прылёг на пакошы.

— Лажыся, Алекс, і глядзі. Я буду гаварыць паволі і на гохдойч і буду яшчэ пісаць. Ты зразумееш. Слухай. Фюрэр пайшоў да варажбіткі, якая варожыць па літарах. Напісала яна вось так.

Ён паволі, друкаванымі літарамі, вывеў на лістку: Hitler.

— Напісала і чытае па літарах: «Hier im Tisch liegt eine Revolution» [1]. «Не! — крыкнуў фюрэр,— гэта зусім немагчыма! У мяне ёсць эсэс, эса і гітлерюгенд!..» Тады яна напісала вось так.

Стары перавярнуў лісток і старанна вывеў: SS, SA, HJ.

— «Майн лібэр гот! [2] — сказала варажбітка.— Гэта ўсё табе не дапаможа. Глядзі». І чытае Адольфу па літарах: «Solche Scheisser, solche Arschlöcker hat jeder» [3]. Ты зразумеў мяне, Алекс? Ты...

І ціхі, салідны гер Ракаў затросся на локцях ад смеху. Куды падзеліся з яго вачэй той ніцы сум і той пажыццёвы спалох! Ён ажно слёзы выцер, выняўшы з кішэні чыстую, складзеную квадрацікам хустачку.

— Толькі ўжо, Алекс, я прашу цябе... Я табе, хлопча, веру...

Крамольны лісток з блакнота ён вельмі старанна падзёр на дробныя кавалачкі, падумаў, устаўшы, куды іх падзець, падышоў да рачулкі і шырокім узмахам сыпануў на быструю ваду.

— Ну, хлопча, будзем далей касіць.

Столькі пра бунт у душы.

Што ж да пуду ў нагах, дык пра гэта найбольш красамоўна гаварылі адносіны гера Ракава з мясцовым шуцманам, паліцэйскім.

Які там ні горад Касаў, але парадак быў у ім гарадскі: у цэнтры, на скрыжаванні, стаяў рэгуліроўшчык.

Як па стандарту — здаравенны і трыбухаты, ледзь той рэмень трымаецца спражкай на пупе, у фанабэры-

---

[1] Тут, у стале, ляжыць рэвалюцыя.
[2] Божа мой мілы!
[3] Такія з...ы, такія с... падлізнікі ёсць у кожнага.

ста-суровым шлеме «пікельгаўб», гер шуцман, якога усе жывое ведала тут па прозвішчу і імені, узвышаўся на плошчы няўмольным і непрыступным увасабленнем правапарадку.

Быць з гэтым богам «з вока на вока» для гера Ракава азначала — яшчэ здалёк, перасеўшы на самы левы бок воза, трымаць руку закрытым семафорам, паказваючы, куды ты павінен павярнуць. Да павароткі той метраў за сто, вуліца па-вясковаму пустая, а сухая старэчая рука ў шэрым тандэтным рукаве дрыжыць, адстаўленая ўбок, падрыгвае, аднак і не думае апускацца. І толькі на павароце рука гэтая заслужана апускалася, брала лейцы ў другое рукі, а тая, у сваю чаргу, уздымалася ў прывітальным «хайль Гітлер!»

Справіўшы ўвесь такі абрад, стары батрак, як здавалася палоннаму, увачавідкі вылазіў з агульнага, абавязковага для ўсіх параднага ярма, і ў шаравата-бляклых вачах яго заставаўся той самы нязбытны сум і спалох, за якімі — па выгляду — ні смелай думкі, ні дужага смеху.

«Чым ён ударany? Хто і завошта яго так моцна ўдарыў? І чаму ён так горнецца да мяне?» — часта думаў Алесь.

Са старым было добра.

Вось яны, скажам, удвух вязуць апошні воз сена з далёкага лугу. Пара дагледжаных коней, нібы святкуючы дакосіны, ідзе дружна і весела, нягулка члапаючы падковамі па нагрэтым за дзень асфальце, час ад часу нават пафыркваючы. Гумавыя скаты калёс коцяцца настолькі бязгучна, што, заплюшчыўшы вочы, вельмі лёгка ўявіць сябе на палубе катэра, які паволі плыве па спакойнай вадзе. Спераду, з лейцамі ў руках, сядзіць гер Ракаў. Алесь ляжыць за ім, раскошна выцягнуўшыся на духмяным, цёплым і казытліва-шорсткім сене.

Клёны абапал шашы растуць дзвюма суцэльнымі сценкамі. Галлё, праўда, не злучаецца над шашою, і даланястае лісце не чапае чамусьці сена і людзей, а толькі варушыцца воддаль... Ды, мусіць, і не варушыцца нават — так ціха. У вузкіх, зялёна-ажурных праймах лістоты, паміж дрэвамі, справа раз-поразу, бясконца паказваецца вялікае, барвова-стомленае сонца, што не заходзіць яшчэ, а ўсё збіраецца,— па-даб-

раце, з-за любасці да ліпнёвых прастораў. На зямлі, за прысадамі, каласіцца, цвіце, зелянее і залаціцца багатая спеласць, а небам плывуць, таксама нібы па-святочнаму, не спяшаючыся лішне, ласкавыя аблокі.

Стары рабацяга, не надта турбуючыся — слухаюць яго, разумеюць ці не, час ад часу бурчыць сабе штосьці, хутчэй за ўсё — прагрэсіўнае.

А ты думаеш пра сваё.

Так, Алесевы думкі цяпер, як ніколі, здаецца, дагэтуль, усе на радзіме...

— Што? Што вы кажаце?

Ён не мог не спытацца, бо гер Ракаў ажно павярнуўся, хочучы штосьці паведаміць. Алесь прыўзняў галаву, пільна прыслухаўся і пачуў:

— Жыта жаць пачалі.

— Ага. Вунь жняярка. Бачу.

— А прыгожа як, хлопча, бачыш? Нямеччына прыгожая, вялікая, ого! У дваццаць сёмым годзе, памятаю, я...

— Ага,— кіўнуў галавою Алесь.

Дый сам расказчык, не перастаючы бурчаць, зноў павярнуўся да коней, нібыта поўнасцю раскрыўшы ўсё, што было на душы.

А палонны падумаў спачатку:

«Яна, дзядзька, і сапраўды прыгожая ды вялікая. І ты, як малое, захапляешся ёю ад чыстага сэрца, хоць яна табе нават градкі адной не дала. За тваю працавітую, чалавечую ціхасць...»

Пасля ў Алесеву душу новым павевам гаючай свежасці дыхнула надзённае, найважнейшае.

«Яна прыгожая, Германія, але навошта мне яна такая, як цяпер? — вярнулася пытанне з яшчэ большай, як дагэтуль, сілай і натуральнасцю.— І людскія, і нелюдзі — навошта вы мне ўсе: для рабства? Не!..»

І ён задумаўся пра іншую — пра далёкую, родную прыгажосць.

## 3

Зажынаюць, па звычаю, толькі ў цотныя дні: у аўторак, чацвер і ў суботу.

Маці зажала ў чацвер пад вечар. Прынесла з поля

і паставіла на покуце тонкі снапок, здаецца, яшчэ ўсё моцна нагрэтага поўднем калосся.

А на загоне засталіся начаваць лапінка свежага ржышча, дзве пасмы жыта, паложаныя накрыж, а на саламяным крыжы — лустачка хлеба з соллю.

Заўтра прыйдуць жанцы.

Алесь яшчэ не жанец, яго пакідаюць дамаўнікам. Яму, праўда, ужо чатырнаццаць год, але маці, нягледзячы на схілак шостага дзесятка, яшчэ ўсё маладзіца, лічыць яго малым. Дый дома трэба ж такі каго-небудзь пакінуць: і сад, і хата, і жывёла прыйдзе з пашы...

І вось яны — уранні — жнуць. Маці, Толя, іх парабак Іван і суседава дзеўка Марыля.

Жанчыны гнуцца ды разгінаюцца лёгка. Нават і мама. «Абы толькі ногі мае не балелі так моцна...» Сярпы ў іх руках — што жывыя, шарк, шарк — і жменя. Падчэпіць сярпом пад каласы, уздыме цяжкую жменю перад вачыма, над нівай, і паложыць на перавясла. Яшчэ, яшчэ раз — і сноп. А за снапом другі, трэці, чацвёрты... Захочаш напіцца, азірнешся на збан у цянёчку пад снапамі, а ён ужо вунь дзе далёка!..

Марыля ўваткнула серп у сноп, папраўліла хустку над вачыма, ад сонца, і памаленьку — цып, цып, цып — пайшла па ржышчы, асцерагаючы і так папораныя лыткі. Як добранька ў мяккай баразне паміж бульбай! Бульба яшчэ ўсё дацвітае, і палеткі яе — цёмна-зялёныя, удоўж перамежаныя сівымі баразёнкамі, як паласатая посцілка ці палавік,— густа папырсканы зверху белымі і ліловымі кветкамі. Марыля стала дый паглядзела — усенечкія людзі жнуць, толькі жмені калосся ды белыя хусткі мільгаюць. А гарачэча — вачэй не ўзнімеш. Пайшла зноў. Пасміхаецца, як бульбяныя жывыя лісточкі мякка чапаюцца за калені. Падняўшы паліваны збан амаль да самых вачэй, набгом нацягнулася ўжо не вельмі халоднай вады з кісславата-пахучым хлебным настоем. Нават мокрыя крошкі смачна плывуць ад размоклай лусты і самі проста глытаюцца разам з вадой. А назад ідучы са збанам, спалохала на пожні коніка. Вялікі, падла, узняўся, як самалёт, і далёка такі сігануў над іржышчам.

«Ён, кажуць, добра бародаўкі скусвае...» — прыхо-

дзіць у леную памяць. Ажно на руку сваю паглядзела. Малая, загарэлая, блішчыць...

Іван — вясёлы. Дый прыгожы, як цыганчук які, кучаравы і чарнавокі. Трымае збан і просіць:

— Ну, пацягні, Марылько. Хоць глыток.

— Колькі ж я піць буду? Каб узбэнчыло? Я ж толькі што напілася.

— Ну, я цябе прашу.

Марыля здаецца на просьбу і, смеючыся, п'е яшчэ раз, абы адчапіўся.

— На. Палягчэло?

— Ох,— уздыхае Іван.— Хоць прылажуся ў тым месцы, дзе твае губкі былі.— І, нацягнуўшыся, дадае: — Дальбог жа саладзей!..

І Марыля рагоча, задаволеная, трасучы пад новай, ярка-квяцістай кофтачкай багатымі маладымі грудзьмі.

Сярпы зашаркалі зноў.

А конікаў гэтых — і меншых, і большых, і немач іх ведае — ажно ў вушах цісікае...

Пра што яна магла думаць, Марыля?..

Добрае жыта, але чужое. А ёй толькі два злоты ў дзень. І пад'есць хоць, не тое што дома. Бацька з Захарам недзе там калоцяць сёння, што пазаўчора ўжалі на гары ды падсушылі. Калі сённяка змеле, дык Марыля расчыніць, вярнуўшыся. Мішка не дачакаецца. Мыць раздзела надоечы — худзенькі, хоць ты плач. Мама-нябожчыца прыгаворвала: «Пакідайце хлеб на бабовы цвет». А хіба ж зімою лягчэй без яго? Цяпер хоць шчавель які, ці кропля малака, ці ўжо і бульба-скараспелка. А тут яшчэ і на сукенку ці на туфлі збяры, яшчэ і смейся ды спявай, як тая Дуня Драчова, што на вяселлі сваім танцавала з падбоем на пяце.

«Дык жа хоць на вяселлі! А мне ж ад вялікадня ўжо дваццаць восьмы!..»

Толю семнаццаць год. Гімназіст на канікулах. Без шапкі, у белай майцы, дужы і загарэлы. І жнец нішто сабе. А потым — глядзі ты! — так задумаецца, што ажно стане і глядзіць...

«Выліты татка,— думае маці.— Бо і смяецца, абышто якое, а то і замаркоціцца невядома чаго...»

Маці ўсё бачыць, хоць сама і тут, як заўсёды, такая

сур'ёзная, не адагнецца. І завіхаецца спраўна, і думае. Ёсць пра што думаць...

Перад смерцю Мікола казаў, каб сыноў не вучыла, бо нічога сама не вырабіць. От сабе, класаў чатыры ці сем — дый усё. Сам-то, і гаварыць няма чаго, вучыў бы хлопцаў, ну дык а што ж яна?.. Хіба ж ёй прывыкаць гаспадарыць самой?.. Сяк-так паднялася на ногі, крыху абжылася,— каторы ўжо год, як вярнуліся ў пустыя вуглы, на голае поле. Сяргей пісаў: «Памагу»,— і прыслаў адзін раз пяць чырвонцаў, а другі раз тры. А колькі ж болей прышле: у самога сям'я... Ох, недарэмна гаворыцца: удава — шалёная галава. Усё ў яе выйшла навыварат, не па-людску. Трэба было не парабка наймаць, добрых людзей не смяшыць, а свайго, старэйшага, пакінуць гаспадаром, а меншы ўжо хай бы вучыўся. А то вось і гэты за тым уплянтаўся. Хацела не пусціць, ды пабаялася, каб не зрабіў сабе чаго: так плакаў, рэспуст, і страшыў яшчэ, намякаў... І рэменем ужо не паможаш: і не маленькі, і ўпарты ж, як неведама што. Дала дзесяць злотых ехаць на той экзамен, і сама падумала: «Дай божа, каб не здаў!» А ён гэта, вісус, ледзь што не лепей за ўсіх. Абодва здатныя да навукі. І настаўнікі гаварылі, што трэба далей пасылаць, і Толя ўпрошваў, і той, з Расіі, піша зноў, што паможа.

«Па тваёй, сынок, помачы я тут і шораў не павалаку... Ужо ж і здароўе не тое. От дзе папалася! Ну, што ж — бог не без літасці, казак не без шчасця... Паглядзім...»

Апоўдні маці пайшла падаіць кароў і прынесла з Алесем абед: яна — гаршкі з капустай і кашай, а ён — вялікі збан малака з тварагом. Хлеб і сала прынеслі адразу, ура́нку. Паставілі ад сонца снапы, зрабілі халадок. Марыля з Іванам, рагочучы, палеглі жыватамі на снапах. Толя накроіў хлеба і сала; пачалі есці, пахрумстваючы свежымі агуркамі.

Алесь сядзіць і пазірае.

— Даць табе кашы? — спыталася маці, калі ўсе пад'елі.

Ён-то і папалуднаваў ужо дома, але еў бы і тут, толькі што крыўдна яму, чаму не адразу, не разам...

— Еш, еш, сынок, нарабіўсё,— смяецца Іван, а за ім і Марыля.

— Не хачу,— кажа маме Алесь.

— Што за «не хачу»? — крывіць яна.— Яблыкі гэтыя жарэш дзень пры дні, ужо і сам ззелянеў. Нябось, паедзеш на свой хлеб — будзеш есці, там не папросяць.

Улагоджаны такім міжвольным, сурова-ласкавым намёкам, Алесь лажыцца на сноп перад гаршком, набірае поўную лыжку тлустай панцаковай кашы і, забыўшыся на сваё аднекванне, есць па поўніцы.

А Толя, лежачы побач, шэпча яму са свайго цянька:

— Иван Федорович Шпонька очень любил поесть каши со своими косарями...

«Шпонька» паперхваецца кашай, і хлопцы рагочуць. Ах, гэты Гогаль!..

Калі ж маці, Іван і Марыля заціхаюць, супачываючы ў цяньку снапоў, Толя падсоўваецца да Алеся і шэпча:

— Хачу з табой пагаварыць. Пра вельмі важнае для нас...

— Ведаю я тваё важнае,— таксама шэптам адказвае Алесь.— Яно на покуце ляжыць і называецца «Сочинения графа Льва Толстого. Часть тринадцатая»...

Калі яны ехалі з горада, Сяргей даў ім некалькі кніжак. Усе яны перачытаны ўжо і ўдоўж і ўпоперак. Летась хлопцы пазычылі ў суседняй вёсцы, у сваяка, тоўсты том Гогаля, пратрымалі яго аж дагэтуль, дый то не хочацца аддаваць. Алесь дык і яшчэ ім толькі дыхае. У школе, а для Толі ў гімназіі, былі польскія кнігі, а цяпер, на канікулах, іх не хапае. Прыходзіцца па некалькі разоў перачытваць тое самае, нават і сумнаватае. Не дзіва, што прысмокчашся да Гогаля!..

А тут зусім нечакана Толя даведаўся, што ў глухаватага Макарца, у яго, найменшай у Пасынках, хаціне ёсць на гарышчы цэлы куфэрак кніг. Макарэц набраў іх недзе, як гаварылі, «пры бальшавіках» у панскім двары ці ў мястэчку. Усё ў тым куфэрку было — і часопіс «Нива», і «Стрелковый устав», і Талстой...

— Балда ты ўсё-такі яшчэ,— шэпча Толя.— З ім хочаш як найлепш, а ён...

— А што, няўжо ты цяпер не пайшоў бы, не пачытаў?..

Гэта ўжо — здуру ці са злосці за «балду» — сказа-

на амаль уголас... І маці, што нібыта спала, аказваецца з-пад локця:

— Куды гэта пайшоў бы, пачытаў бы, га? Хто з вас меншы, хто большы? Дахаты, Алесь!.. Пустыя гаршкі забяры. Ды глядзі мне там, неслух!.. Ну — Марыля, Іван — уставаймо!..

## 4

Калі зірнуць здалёк, па-даросламу, і ў гэтага «балды» ды «неслуха» пачатак сталасці быў па-свойму складаны, нялёгкі.

Вось ён, Алесь, зноў насваволіў. Дарма, што ўжо і форма куплена, не толькі экзамены здадзены ў тую гімназію, дзе павінна пачацца змаганне за свой шлях у жыццё... Рабіў з хлебнага квасу, варэння і соды «віно» і разбіў паліваны слоік з вішнёвым варэннем. А маці нагадзілася з поля і сваёю суровай, моцнай рукой адлупцавала яго як след.

Застаўшыся зноў адзін, дамаўнік пакуль што нічога не робіць — не крышыць зелля свінням, не ідзе ўкапаць бульбы, а сядзіць у хаце, нібы ў знак пратэсту,— на падлозе, спіною да халоднай печы, і думае.

Пра тую грубую гаспадарлівасць, што ўмее толькі біцца ды крычаць...

І пра сваю «другую маму»...

Пачалося праз Рыся Лясоту.

Сынок багатага асадніка, ледзь не на цэлыя чатыры гады старэйшы за Алеся, Рышард прыйшоў у іх сёмы клас з суседняга мястэчка, дзе яго летась выключылі са школы за паводзіны. Бойкі і спрытны прыгажун, Лясота сам і вельмі хутка набіўся да Руневіча з дружбай. Толя ўжо быў у гімназіі, і Алесь, у многім цяпер адзінокі, паддаўся спакусе дружыць са старэйшым.

У Рыся заўсёды былі папяросы і грошы, ён фундаваў і ліманад, і марожанае. Ён паказваў такія адкрыткі, нават цэлыя альбомы і часопісы, насіў у кішэні такія рэчы, ад якіх трынаццацігадоваму Алесю было хоць і брыдкавата, але ж і вельмі цікава. Рысь навучыў яго і курыць, і яшчэ больш — ілгаць, ахоўваючы іх таямніцы, навучыў і таму, што хлапчукоў нармаль-

на вясёлых і чыстых робіць схільнымі да падазронай адзіноты. Слізняк агідны!.. Захацеў потым нейкіх прысягаў з пацалункамі і слязьмі — «на вечную дружбу, да самага канца». Дастаў кнігу пра нейкіх спліністаў. На патаемных сходах тых «людзей, закаханых у смерць», усё напаміналa «пра галоўнае» — і клуб іх, як дамавіна з сярэдзіны, і сталы, як труны, і кубкі для віна, як чэрап мерцвяка... Чыя прыходзіла чарга, таго саджалі ў вялізны шкляны шар і апускалі на марское дно. Гэта было як быццам вельмі здорава — пагля-дзець, што робіцца ў глыбінях, а потым, калі ад націску вады шар той лопне — памерці!.. Па прапанове Лясоты хлопцы вырашылі стаць спліністамі. Спачатку добра пагуляць, а потым Рысь украдзе дома пісталет, і ў назначаны дзень яны застрэляцца. «Назначаных дзён» было, вядома, некалькі, а пісталет прынесці — Рысю ніяк «не ўдавалася». А «гулянне» іх усяго і было, што ў папяросах, у марожаным, у тых самых адкрытках ды шэптах. Толькі па нейкай інерцыі Алесь не стаў з выдатніка пасрэдным вучнем, спыніўся к вясне дзесьці на палавіне дарогі, трошкі вышэй за Лясоту. І толькі чытаў, як заўсёды, запоем.

Гэты запой і прычыніўся да канца сплінізму.

Неяк напрадвесні школа ладзіла спектакль. Алесь, як часта бывала, іграў галоўную ролю і ў мястэчка павінен быў выйсці зранку. Ды ён чытаў якраз «Дзяцей капітана Гранта», і пасланцы ці, лепш сказаць, праверщчыкі, засталі яго на апошніх старонках, амаль зусім пад вечар...

Па даручэнню дырэктара школы ім занялася пані Ванда, што кіравала і сёмым класам і самадзейнасцю. Свой урок, гісторыю, яна, наўздзіў усім, перамаўчала, і толькі пасля заняткаў паклікала Руневіча ў настаўніцкі пакой.

— О-о-о! — ціха прайшло па класе.

Алесь хоць горка, а ўсё ж падміргнуў сябрам па кутку і пайшоў, гатовы ўсё прыняць, як і раней бывала, «па-іхняму»,— табе сваё, а мне сваё, я галаву схілю, а слёз ты маіх не пабачыш.

Так і было, пакуль класная гаварыла са злосцю.

Але потым яна палажыла яму на плечы рукі, моўчкі паглядзела ў вочы і пачала:

— Олек, хлопчыку муй, цо з тобон ест? Ты ж быў

харошы, вясёлы, ну, а цяпер? Глядзі мне ў вочы і гавары, што з табой?

I гэтае «глядзі», і сумныя, мілыя вочы зрабілі сваё. Ён нечакана расплакаўся і расказаў ёй амаль пра ўсё. Ах, каб жа можна было расказаць пра ўсё!.. Яна такая добрая, куды дабрэйшая, чым хто-небудзь думаў. Аднак Алесь расказаў ёй толькі пра Рыся, пра іхні сплінізм...

— I не сказаць нічога мне! — зжахнулася пані Ванда.— Божа мой, што вы за дзеці! Не, муй каханы, гэтага болей не будзе.

I тут яна, накрыўшы хлопцаву душу небывала вялікім, салодкім здзіўленнем, абняла яго і, як ласкавая, мілая маці, прытуліла галавой да грудзей, пасля пацалавала ў лоб і зноў папрасіла, каб ён паглядзеў ёй у вочы. Дарма, бо ён унурыўся яшчэ ніжэй...

— Заўтра пасля заняткаў зойдзеце да мяне. Ты і Лясота.

Як жа добра было б, каб не горкая думка пра здраду!..

Але Рысь толькі ўсцешыўся.

Назаўтра яны стаялі перад ёю ўшчэнт, да самага маленства абяззброеныя, абяцалі найлепшае, плакалі, і яна, шчаслівая, пацалавала абодвух.

— Файная баба! — захапляўся Рысь, праводзячы Алеся за мястэчка.— Нам, браце, трэба так рабіць, каб яна часцей нас шкадавала...

Цяпер, з далечыні гадоў, Алесю нават брыдка ўспамінаць... Тады яму трэба было хоць бы крыкнуць ад болю і абурэння. А то дык — яшчэ лепш! — падскочыць ды пляснуць панічыку ў морду. А ён толькі адчуў, як горкую тугу і боль, што на светлае шчасце яго наплывае зноў тая самая Рысева гразь... Яму стала страшна, ён паглядзеў на спадарожніка, нібы апошні раз, і шпарка рушыў далей адзін. Не азірнуўся, хоць той і крычаў...

На дапамогу Алесю прыйшла пані Ванда — яго, да сціпнай радасці прыгожая, любоў.

Настаўніца вельмі хутка адчула, дзе шчырасць, і Рышард адпаў — з усім сваім страшэнна нудным ныццём, з ужо такім балючым для Алесевай душы цынізмам.

Пані Ванда лячыла Алеся свядома, на сённяшні яго

погляд — нават трохі смешна. «Хадзем пакапаем градкі — гэта не толькі мілы адпачынак, але і лепшы апетыт... Старайся есці найбольш, хоць і не хочацца: ты благі, і ў цябе разладзіліся нервы... Калі не можаш заснуць, лічы да тысячы, да дзвюх: сон найлепш супакойвае... Прачытай абавязкова вось гэта: тут пра харраство прыроды, а яно, як і музыка, узвышае душу...»

Лячыла і падсвядома, тым толькі, што была сама сабой, што любіла не толькі сваю гісторыю ды спеўкі, рэпетыцыі, спектаклі. Апошнія месяца паўтара яна замяняла настаўніка-паланіста, і з ёю нават сумнае праходзіць было лёгка і цікава.

На спеўках Алесь, як ніколі раней, стараўся, бываў натхнёны не толькі харaством, скажам, гуральскай песні пра развітанне з любімымі Татрамі або чароўнай Моцартавай «Ком, лібэр май», якую яны, па звычаю добрага выкладання, спявалі па-нямецку. Хлопца і хвалявала і паднімала яго таямніца...

Было, аднак, і іншае.

Мужа настаўніцы, паштовага чыноўніка, вусатага, з залысінамі пана Станіслава, які з марозу да марозу хадзіў па мястэчку без шапкі, Алесь не тое каб пабойваўся, а проста не любіў, нават стараўся думаць, што яго няма... Калі ж пані Ванда спынілася аднойчы і пастаяла каля школьных варот з вясёлым, кучаравым матэматыкам, у вароты гэтыя гвазнуў за імі добры такі камень, а хто яго кінуў — так яны і не ведалі!..

Была не толькі рэўнасць...

Аднойчы пані Ванда грыміравала яго перад спектаклем, падводзіла бровы, далонь з алоўкам трымаючы перад хлопцавым тварам. Усхваляваны гэтай беленькай, духмянай блізкасцю, ён — міжвольна і, як ніколі, смела — дакрануўся губамі да яе рукі, нават вачэй не заплюшчыўшы. Яна ж, як быццам і не заўважыла.

Пані Ванда не толькі лячыла Алеся...

Пасля заняткаў, а то часамі і на перапынку, калі настаўніцкі пакой бываў пусты, «другая мама» выклікала яго туды і, забыўшыся, дзеля чаго выклікала, многа і моўчкі цалавала Алесевы вочы і шчокі, упіралася ў ягоны лоб сваім, і так глядзела ў душу яму карымі, ненаглядными, страшнымі... Прасіла аднойчы шэптам, зусім ужо не як настаўніца, пацалаваць яе

так, «як ён цалуе маму...». А ён гарэў, як п'яны, і не мог...

Дзіўная! Сёння твой вучань — мужчына, вочы якога ўжо добра працёрты жыццём. І ён хацеў бы цяпер быць табе ўдзячным за падарунак яго амаль бяздогляднаму малалецтву. Хацеў бы, ды цяжка. Штосьці *не тое* з'яўляецца паміж вамі, да светлых, шчаслівых успамінаў далучаецца горкае, крыўднае, нават нячыстае...

Чаму ты не паглядзела яму ў вочы раней, калі ён быў яшчэ зусім дзіця? Чаму не ўзяла яго ў матчыны рукі тады?..

Шмат цяпер гэтых «чаму».

Чаму ён, скажам, так слухаўся Рыся? Не ад бязволля толькі — не. Ён не быў баязлівец і падхалім, з ім любілі дружыць.

Чаму ад сэрца да сэрца падлетка паўзе прываблівая гадзіна патаемнага граху, перадаючыся ахвотна, па дружбе?

Чаму сама ты, разумная і добрая, так дзіўна, да падазронасці дзіўна гуляла нервамі хлапчука, нібы не ведаючы, куды падзець сваю раскошную пяшчотнасць?

Чаму наогул у жыцці агіднае так часта змешана з высокім, часта ганебна — да безвыходнага болю?..

Алесь без горычы, па-сталаму ўсміхнуўся на возе нямецкага сена, успомніўшы іншыя «чаму», што ў тыя дні задала яму маці.

Свая, сапраўдная мама, якую часта не ўмеюць спачатку цаніць.

«Чаму» тых было тры.

Аднойчы ён прыйшоў са школы ў новай кашулі, крэмавай, з адкладным каўняром. На пытанне, адкуль яна, адказаў, што настаўніца падарыла.

— Чаму?

Схлусіў, што хто яе ведае, можа таму, што вучуся выдатна, ці за спектаклі...

А неўзабаве з мястэчка прыехаў крамнік Мотэлэ, добры знаёмы, і папрасіў Руневічыху заплаціць за адрэз на кашулю, якую «ваш хлопец набраў, няхай здаровы носіць, разам з настаўніцаю пані Вандай»...

— Чаму ты так зрабіў?

Ён пачаў блытаць — адразу і пасля, калі паехаў

Моталэ,— а яна, каб дабрацца да праўды хутчэй, узяла несмяротны бацькаў рэмень...

Алесь ніколі не прасіўся, маўчаў «па-рыцарску», «па-казацку», як Бульбаў Астап. Але на гэты раз рыцарства не было — было агідна, сорамна, і ён прызнаўся, адкуль гэты крэмавы ды шаўковы каўнер «пад Юльюша Славацкага». Прызнаўся скупа і асцярожна:

— Кажа: «Ты папрасі ў свае мамы тры злоты, і я пашыю табе кашулю». Я не прасіў у вас, бо думаў, што ўсё роўна не дасце. А ёй сказаў, што вы дазволілі набраць у Моталэ напавер...

Назаўтра мама разбудзіла яго да сонца. І не таму, вядома, каб у яго «палепшаў апетыт», не для «мілага адпачынку». Захварэла Іванава маці, ён пайшоў туды, у сваю вёску, і нешта заначаваў. А сеяць трэба.

— Пакуль табе ў школу — рассею, і пойдзеш.

Спачатку яна сеяла — спраўна, не горш за любога мужчыну,— а ён пабіваў перад ёю раллю. Калі ж прыселі адпачыць — яна на пачатым мяшку аўса, а ён на баране,— маці доўга глядзела моўчкі на свайго апошняга і нарэшце сказала тое трэцяе «чаму».

— І чаму ты, сынок, нягодны такі? Скажы мне, чаго табе трэба яшчэ? Ну, скажы?

Алесевы вочы зайшлі, пацяплелі слязьмі.

Зямля пад бараною і ў руках крышылася тлустымі грудкамі і пясчынкамі, здавалася — дыхала, прасіла сонца і дажджу. І жаўранкі маліліся, ці не — сваволілі яны, плялі, як бязмежную сетку, сваю шчабятлівую радасць у чыстым блакіце.

Як жа добра было б і табе расказаць, ад чаго табе цяжка! Шчасліва дыхнуць і зірнуць... Ну, вось і маме ў вочы!.. Ды як ты скажаш?.. Як?..

І ён маўчаў. Добра, што хоць не лгаў. Ужо не мог.

А потым успомніў пра Толю. І напісаў яму пра ўсё, нават плакаў, і добра было ад тых слёз. Пісаць пра ўсё было цяжка, і ён наблытаў усё ж такі, так што Толя, як аказалася неўзабаве, не ўсё зразумеў.

«Дарагі мой Алесь! — пісаў ён па-польску.— Каб жа я мог па-сапраўднаму ведаць, што замуціла так моцна пагоду твайго сэрца, каб я мог памагчы табе! Кінь ты гэтую погань, усіх гэтых Рысяў ды Шмысяў! А чаго трэба ёй, пані Вандзе? Не бядуй, я папрашу маму, яна і табе дазволіць вучыцца далей. Зноў будзем

разам. Прыедзеш сюды за тыдні два да экзаменаў — памагу табе з алгебрай, хіміяй,— далей ішло па-руску,— конечно, шпрехен зи дейч, Иван Андрейч,— і да канца па-свойму, па-беларуску: — Паглядзіш, усё будзе добра. Мы тут часта рагочам з маім Чыкуном, перачытваючы «Мёртвыя душы», ажно пуза трашчыць, і я думаю не раз, як бы ты тут прыдаўся...»

Жывое, роднае, чым дыхнула з гэтага пісьма, пачалося крыху пазней, у павятовым горадзе.

Алесь знайшоў на ўскраіне драўляны домік з зялёным ганкам, куды дагэтуль даволі часта пісаў, асабліва апошнім часам, і пачалі яны зноў жыць з Толем удвух. Нават нялюбая алгебра, нават усе тыя «пэрфект» ды «плюсквампэрфект» нямецкай мовы Толя мог ажывіць. А што ўжо гаварыць пра іхнюю, скажам, гульню ў шашкі, «як Чычыкаў і Наздроў», пра гутаркі, пра іхняе, утрох з Валодзем Чыкуном, бадзянне па маляўнічым гарадку, дзе ўсё было Алесю цікава!.. Засынаючы, стомлены працай і шчасцем, Алесь часта бачыў праз солад дрымоты, што Толя яшчэ ўсё сядзіць над кнігай. А то разбудзіць потым і цябе, каб прачытаць мясціну, падзяліцца ці смехам, ці хваляваннем...

Дні непакою, упартай працы, боязь і хваляванне экзаменаў, а потым, як прынялі, вялікая, заслужаная радасць перамогі.

Маці прыехала па іх і ўсё-такі рада была, што ён здаў. І як жа добра было сустрэцца нават з іхнім возам — тут, у горадзе, за сорак кіламетраў ад дому! — з іхняй Каштанкай, якая не толькі ўсё разумела, а нават і футутукала ціхенька, калі ён падышоў да яе першы раз і павёў напаіць з гарадское студні.

Была і пані Ванда. Перад гэтым, яшчэ да экзаменаў. Шосты і сёмы класы іх школы прыехалі сюды, у горад, на экскурсію. Настаўніца адна знайшла іх, застала хлопцаў дома і, пакуль Толя, стрымліваючы смех, разганяў сваім мундзірам з галунамі духату і папяросны дым у іхнім пакойчыку, у сенцах «другая мама» цалавала Алеся, што выйшаў ёй адчыняць, шаптала яму настаўленні і таропка хрысціла сваім каталіцкім крыжам, як перад першым боем,— перад матэматыкай, з якое заўтра пачыналіся экзамены.

І Алесю, хоць ён быў і рады і горды, найбольш было чамусьці сорамна перад Толем...

## 5

Нямецкія коні рупліва і дружна ідуць, нягулка члапаюць падковамі па нагрэтым за дзень асфальце. Гумовыя колы коцяцца ціха пад гарою духмянага сена. Худы, вусаты батрак, дабрадушны і запалоханы, сядзіць з лейцамі моўчкі, трохі спусціўшы пад коньмі старэчыя ногі ў клёшыку і зношаных чаравіках.

Палонны, што ляжыць за ім, маўчыць таксама, увесь ва ўспамінах.

Сонца садзіцца цяпер над чужымі прасторамі. І тут спакойна, велічна, абяцаючы шчасце спачыну па працы, чароўную цішыню...

«Не, не тое ўсё гэта,— у думках гаворыць Алесь.— Няма тут чагосьці найбольш істотнага. Для чаго ты і знойдзеш патрэбнае слова, а то і не знойдзеш...

Лёсе мой жорсткі! Калі ж ты дазволіш мне зноў убачыць першыя мэндлі на ўзгорку за роднаю вёскай, адчуць іржаную духмянасць, пачуць сардэчную музыку жніўнай песні?..

Слоў там як быццам і няма. Жыве яна, песня, тугою і верай, жыве невымоўным, да слёз хвалюючым сумам спрадвечнай і неўміручай паэзіі, проста сама для сябе... Як куст шыпшыны, пяшчотна-ружовыя кветкі якое цвітуць пры пясчанай, журботнай дарозе, пакрытыя пылам... Як песня аўсянкі — не аднастайны, не, а невычэрпна тужлівы, салодкі, наіўны напеў над аціхлым пад вечар калоссем на ўзлеску...

Чую яе, тую песню, лаўлю душою ў свеце маёй памяці. І зноў здзіўляюся, якія дзіўныя, незразумелыя шляхі ў нашых думак і пачуццяў.

Ну вось цяпер — чаму я ўспомніў іменна той жніўны дзень, калі Толя хацеў пачаць са мною, хлапчуком, дарослую гутарку? Тую, якое я бяздумна не прыняў, значэнне якой зразумеў пазней. Чаму я бачу не тое, што адбываецца дома ў нас сёння, цяпер, а бачу — як штосьці вельмі істотнае — Толю тых даўніх дзён, калі я пакрыўдзіў яго сваёю блазенскай няўвагай, калі ён адышоўся ад мяне з горкімі, нявыказанымі думкамі сваёй сталасці?..

Вось ён стаіць перада мною, як жывы, як сённяшні,— той семнаццацігадовы Толя, гімназіст, які зно-

сіць пад вечар снапы і, спыніўшыся воддаль ад іншых жанцоў, заслухаўся ў жніўную песню.

Яму відаць і чуваць, як Марыля, з сярпом у апушчанай правай руцэ, зірнула на захад з-пад левай, паслухала і сказала:

— Гэта Стэпка Нішчымная зноў загалёкала. Галасок! Ажно з дваццатага поля чуваць. І жне і спявае, не адагнецца...

«Ды не, не Стэпка гэта,— думае Толя.— Гэта спяваюць і поле, і сонца, і людзі, і я... Так сардэчна, высока і сумна...»

Ён не спявае — слухае, стоячы над градою яшчэ не пастаўленых у мэндлі снапоў. Песня толькі ў ягонай душы, у вачах.

І суму ў іх многа таксама...

Я не адразу зразумеў твой сум...»

Праз два дні была нядзеля. Іван яшчэ досвіткам пацягнуўся з вудамі на Ціхмень, а яны, прачнуўшыся на сене пазнавата, і таму, што дзень быў пахмурны, вырашылі да рэчкі не ісці, пакупацца дома, а тады — найлепшае — пачытаць. Нагрэлі вады, падаслалі багата Каштанчын хлеў, унеслі туды балею. Толя змываў Алесю спіну без дурыкаў, абліваў яго потым — таксама. Ну, і Алесь шараваў яго шырокую, загарэлую «засланку» (маці кажа: «Мужчынішча — плечы, як засланка!») яшчэ нічога, так сабе. А вось калі дайшло да аблівання — не вытрываў. Узяў вядро халоднень-кай, не разбавіўшы з чыгуна, загнаў «святога Анатолія» ў кут і, як той рук ні настаўляў, як ні прасіўся, сказаў:

— Цяпер мы з вамі пагаворым! Кайся!..

І пляхнуў. Аж той загалёкаў і кінуўся біцца. Ды з гэтым не выйшла: Алесь выскачыў голы на двор, бразнуў дзвярыма і ўзяў іх на заскак. Сяк-так дагаварыліся на мір.

Пасля чыталі на сене, для большага святла адчыніўшы гуменныя вароты, хрумсталі «цакаўныя», мокрыя сёння яблыкі.

— Паслухай. Толькі кавалачак,— сказаў потым Толя.

І прачытаў. З той самай растрэсенай кнігі Талсто-

га. Штосьці пра тое, помніцца, што кожны чалавек павінен мазалём зарабляць свой хлеб, пра шчасце стаць побач з тымі, хто корміць і адзявае людзей, пра радасць адчуць сябе сярод іх, працоўных і прыгнечаных, сваім чалавекам.

— Гогаль усё-такі лепш,— сказаў нешта такое Алесь, кіўнуўшы на свой раскрыты тоўсты том.

Тады Толя сеў на пасцелі. Моўчкі глядзеў кудысьці сумна... А потым пачаў:

— Вось ты мне — брат, мама нам — маці. А хто нам Іван?.. Я вучуся, а ён, толькі на тры гады старэйшы за мяне, робіць на нас з табою хлеб. Ён нам у вочы як быццам нічога не кажа... Ды я і сам разумею, што ён думае, што думаюць пра багацейшых бедныя. І праўда заўсёды з імі. І камуністы кажуць так. Вось і ў Талстога пра гэта. І я табе не для смешачак прачытаў... Мне ўжо агоркла ўсё!..

Ён памаўчаў, па-свойму паглядзеў у нейкі дальні сум і да рэшты збянтэжыў Алеся зусім нечаканым і нават страшным вывадам.

Абодвух маці вучыць не зможа. Не выцягне ў яе ні гаспадарка, ні здароўе. Аднаму катораму вучыцца — што ім гэта дасць? Ён, напрыклад, не хоча разлукі... Дый наогул — галоўнае не ў гэтым... А вучыцца ім можна і дома, самім. І пра гэта напісана ў кнізе, якую ён ужо другі месяц чытае — адну...

Ён не хоча разлукі...

Прыехаўшы з гімназіі на свае першыя, зімовыя канікулы, Толя здзівіў Алеся небывалым, нечаканым. Увечары, калі палеглі спаць, абняў яго і неяк вельмі ж сур'ёзна, казычучы вуха, шапнуў:

— Як я рады, што прыехаў!..

Алесю было тады проста няёмка, нават і смешна. Пасля ж, калі ён ад уласных злыбедаў дабраўся ў Толеў гарадскі пакойчык, хлопец і сам — неяк зусім па-новаму — адчуў, што такое разлука, сустрэча, дружба.

«Падлеткамі мы сталеем, як і расцём, вельмі хутка,— думаў на возе палонны.— А ты,— ён усміхнуўся зноў да далёкага брата,— ты хацеў, каб я пасталеў табе проста адразу. Усё прыйшло ў свой час — і старасць, і новыя расставанні.

Што ж, няшмат ужо засталося, пакуль мы з Бутрымам збяром трохі хлеба і падамося туды, дзе кончыцца яна — найгарчэйшая з нашых разлук. Цяпер мая чарга прыйсці дамоў. І я — прыйду!..»

## 6

Ну, а Толя прыйшоў да Алеся раней.

Другім пісьмом. За тры дні да таго запаветнага вечара, калі яны з Уладзікам меліся выйсці.

Прачытаўшы і гэтае пісьмо бадай з той самай прагнасцю, што і першае, Алесь спачатку задумаўся, а пасля паказаў яго Бутрыму.

Быў вечар, ужо без сонца, яны стаялі каля штубы, у загарадзі, дзе таўклося яшчэ некалькі сяброў, якім таксама, хоць і стомленым, не адразу хацелася ў пыльную духату, на скрыпучыя, мулкія нары.

Стоячы тварам да дроту, Бутрым паволі чытаў вачыма, усё ж такі паварушваючы, для самога сябе, сухімі, бясколернымі губамі. Калі ён апусціўся позіркам па фіялетавых радочках слоў да апошніх: «Твой Толя», Руневіч спытаўся:

— Што?

— Г...,— спакойна адказаў Бутрым.

Алесь адчуў, як пахаладзела ўсярэдзіне. Праўда, адразу ж з'явілася маленькая, добранькая думка, што Уладзік мог ляпнуць так проста, для складнасці. Бо яны ж яшчэ пастушкамі, кожны недзе на сваёй пашы, і самі гаварылі, і чулі такое па сто разоў на дзень. Але думку гэтую тут жа накрылі крыўда і злосць.

— Дык што, табе пісьмо майго брата — г...?

Такім тонам, на самай мяжы апошніх слоў, пасля якіх ідзе мардабой, Алесь, за ўсе свае дваццаць тры, гаварыў вельмі рэдка, а ўжо за дружбу з Бутрымам не паспеў ні разу. Але здаравілу свайго гэтым ён не здзівіў.

— А во — надзьмуўся! Я — пра тое, што брат не раіць табе ўцякаць. Што ж ён думае — з мамінай печы, з-пад жончынай коўдры,— нам тут з табою, як кажуць, сядзі ў будзе ды чакай, што будзе? А дудкі! Насядзеліся...

— Ведае ён, што гаворыць.

— Ну, дык ведай і ты. Хрэн з табою. А я ўжо якнебудзь...

Бутрым не дакончыў, магчыма, і не ведаючы яшчэ, не вырашыўшы з ходу, што рабіць і казаць.

А Руневіч і наогул замоўк, яшчэ ўсё злосна ды пакрыўджана палез у самога сябе.

Моўчкі пасунуліся ў штубу, распрануліся, палеглі.

Павярнуўшыся да сцяны, Алесь па прывычцы, ды сёння не вострым, не вельмі відушчым вокам глядзеў праз краты на хмурае неба і шэраг бяроз, якія чагосьці сумна, нават у тон яго думак — насцярожана, з непакоем шапталіся...

Перад вачыма зноў радкі:

«...І я, і мама просім цябе: не рабі ты нічога сам... Чакай хуткага вызвалення. Мы тут робім усё для цябе, што трэба. Днямі я паслаў у Маскву, у Наркамат замежных спраў, просьбу, каб за цябе пастараліся...»

І думкі горкія:

«Эх, Толя, Толя! Як ты ўсё збунтаваў, пераблытаў. Як быццам я тады, на возе сена, не так сабе, а прадчуваючы нешта, успамінаў цябе. І наогул, і тое рашэнне — пакінуць гімназію, якім ты быў збунтаваў увесь мой свет.

Пастой!.. Няўжо табе і сёння многае больш зразумела, чым мне? Я тады быў падлетак, уражаны адразу, здзіўлены, а потым і рад, і ўдзячны, што паслухаўся.

Ну, а цяпер? Што мне рабіць цяпер?..»

Цяпер былі тыя ўзрушана-трывожныя дні, якіх ён так доўга чакаў, да якіх рыхтаваўся з зімы. Вясной, замест волі, уцёкаў, прыйшла штрафкампані. Сёння ж іх воля абрываецца гэтым пісьмом, пасля якога — зноў настройвайся на чаканне...

А воля — вунь яна, за гэтым дурным, іржавым жалезам на акне, за дротам на слупах, за пяском на дарозе! Нават на гэтым пяску, дзе ён паставіць першы свой след,— якое там! — нават вось тут яна, побач з ягонымі нарамі, абы саскочыць з іх, учапіцца за краты і добра рвануць!..

А што ж будзе далей — за гэтым жалеззем і дротам?..

Што будзе каля тых дратоў, над Бугам, перайсці якія, вядома ж, не тое, што тут?..

— Ты, павярніся сюды...

Гэта было сказана яму не словамі, а нечаканым, да ўздрыгу нечаканым дотыкам суседавай рукі да плечука.

Алесь павярнуўся.

— Ну, скажам, піша ён, твой брат: «Не ўцякай, а чакай». Ён за цябе паклапоціцца, гэта вядома. А хто ж закіне слова за мяне? Зося мая — яна, браце, толькі ўмее цягнуць, як той конь, ды плакаць. Баба. Стары нямоглы ўжо, дый граматы ў яго... Адзін, кажа, клас на двух з нябожчыкам бацькам закончылі. Адна мне песня застаецца: «Ногі мае, ногі, нясіце маю с...». А ты надзьмуўся як мыш на крупы. Чаго?

Алесю хочацца сказаць: «Хто надзьмуўся?» Здзівіцца нават, нібыта забыўшыся, што і леглі яны, як ніколі, сярдзітыя. Ды ўжо тая злосць адышла, як прыйшла, і аднекуль, ад нейкіх багатых запасаў, вярнулася яснасць у дружбе. Але ж не кветачкі соваць пад нос!.. І ён пачаў пра тое самае іншымі словамі:

— Няўжо там, у тваёй вёсцы, так ніхто і не ўмее пісаць? Не сама яна, Зося, дык нехта другі напісаў бы. Ты толькі сам ёй напішы, што і як трэба.

— Ну, напішу я, скажам. Яна таксама як-небудзь напіша. І будзем мы з табою так вось ныць, чакаць чагосьці, як вол доўбні. Мала ўжо хіба начакаліся, пакуль нас абмяняюць?..

Алесь маўчыць, і Уладзік праз хвіліну пачынае зноў:

— А што табе ці мне пашкодзіць і прайсціся? Падумаеш, паны, увярэдзімся! Прасвішчамся трохі на верабʼіным харчы, і да халадоў яшчэ — быць не можа! — дабяромся. А там мы і дома. Ты — пісаны, а я няпісаны, самахоць прывалокся. Няўжо ж мне скажуць: «Ідзі ты, Бутрымок, назад, а потым мы цябе паклічам»?..

Алесь не проста маўчыць ды слухае — яму ўжо здаецца, што Уладзік гаворыць і за яго. І за простымі, ад самае ранні, словамі сябра ўстаюць, шумяць зялёнай, сонечнай лістотай будучыя карціны волі, вялікай дарогі, вобразы і пачуцці, здорава назапашаныя, вынашаныя ды выпешчаныя за сотні дзён і начэй. Што ж гэта — легкадумнасць, паэзія, цяга ў вырай, непераможны закон? Потым, потым абдумаем, у дарозе!..

— Слухай,— шэпча Алесь, нахіліўшыся бліжэй,— а чаму гэта нам конча праз тры дні? А чаму не цяпер?..— Ды тут яго малады, паэтычны парыў натыкаецца на сталую, сваю ж, разважлівасць: — Хаця, брат, трэба і выйсці нам не ў гэтую пару. Каб за першую ноч махнуць найдалей...

— Эх, Аляксандар ты мой Мікалаевіч! Усё ты сам, як стары, разумееш!.. А мы давай, можа, заўтра, га? Так і пачнём святою серадой. Усё на дзень раней.

Зноў Уладзік сказаў як за двух.

Ды Алесь не гаворыць пра гэта. Ён з юначай, а можа, яшчэ з маладзейшай нецярплівасцю заплюшчвае вочы і круціць, сам для сябе, галавой:

«А як іх перажыць — і сённяшнюю ноч, і дзень, даўжэзны летні дзень — апошні дзень няволі?!»

## ЯК ЗАЦВІЛІ ВЕРАСЫ

### 1

Усё гэта было — і ўпартае жалеза кратаў, якія ім удалося ўсё ж такі знізу сарваць з гваздоў і адагнуць уверх, каб праціснуцца; і дрот, пад які яны падграбліся, нібы па-пастушынаму ўбіваючыся ў чужыя яблыкі; і першы след на сыраватай мякаці дарожнага пяску; і ласкавыя дотыкі веццяз лістотай, калі ішлі пад бярозамі; і казытлівыя каласы пад расстаўленымі, як да лёту, рукамі!..

Была першая ноч хады амаль без адпачынку, дзе там — без перадышкі, з прагнаю радасцю набліжэння да мэты, з падсвядомым жаданнем дайсці за раз... ну, хоць бы і да Буга! Бо што там тыя семсот, восемсот ці нават і тысяча кіламетраў!..

Была і першая днёўка. У кустах на схіле аўсянага поля, адкуль было відаць далёка і шырока.

Ах, як цягнуўся ён, гэты дзень, нібыта той, апошні ў Касаве, і як прыемна было дачакацца змяркання. Каб зноў ісці, ісці!..

Другая ноч. Другая днёўка. Трэцяя. Чацвёртая...

І так яны, гэтыя ночы і дні, сталі іх новай сапраўднасцю, новым жыццём.

і радасным, і нялёгкім...

За месяц у штрафкампані Алесь наслухаўся пра ўцёкі вельмі многа. Расказы гэтыя паўтараліся безліч разоў, і кожны дзень, паколькі штодня прыбывалі злоўленыя ўцекачы, папаўняліся новымі фактамі. Каб зноў паўтарацца і зноў папаўняцца, ствараючы свой — часамі не ў меру геройскі, але ў асноўным праўдзівы, заслужана горды — фальклор. З вопыту многіх рабіліся вывады, выпрацоўваліся нормы паводзін, такі сабе няпісаны закон — на ўжытак тым, хто думае яшчэ раз уцякаць, і для навукі навічкам.

Адным з самых першых пунктаў у гэтым законе быў такі, што ўцякаць найлепш утрох. Адзін захварэе, дык двух яго нават і паднясуць, на днёўках менш даводзіцца кожнаму дзяжурыць, зручней перапраўляцца цераз рэкі... Словам, як гаварылася, адно дзіця — няма дзяцей, двое дзяцей — што адно, а трое — сям'я.

Узброены гэтым вопытам хоць і чужым, Алесь тлумачыў навічку... ну, яшчэ большаму за яго навічку ў гэтых справах, Бутрыму, што ім неабходна знайсці сабе трэцяга.

— Ну, а каго ж?

Яшчэ і яшчэ раз пачыналі, лежачы, шэптам, перабіраць. І ў кожнага знаходзілі штосьці такое, што ім не падыходзіла.

Уладзік настойваў на сваім:

— Калі ўжо браць абы-каго, дык лепш ісці ўдвух. Падумаеш, такія ўжо ты там, у той штрафкампані, закончыў курсы. Хто як хоча, так па свайму бацьку плача. Будзе ў нас і свой вопыт.

Руневіч нарэшце згадзіўся, бо ведаў ён тут хлопцаў менш, а пра лепшага з тых, з кім ён прыйшоў у Касаў, пра Веніка, Бутрым амаль абражана сказаў:

— Нам што, па-твойму, смешачкі трэба ў дарозе?.. Блазнюк твой Венік, і больш нічога.

Словам, сабраліся выходзіць удвух.

І бог, як смяяўся потым Алесь, пакараў іх за пераборлівасць.

Следам за імі — у акно і пад дрот — зусім нечакана вылезлі яшчэ двух. Нібы на злосць, найбольш нецікавыя: вялы ды кіслы Іванюк і пажылы Зданевіч, не проста важна-маўклівы, а нейкі патайны, непрыемна загадкавы чалавек. Алесь і Уладзік агрызнуліся на іх

адразу ж, пад бярозамі. Ды тыя папрасіліся ісці разам толькі першую ноч. Крычаць тут не будзеш — пайшлі.

На першай днёўцы аказалася, што спадарожнічкаў трэба не толькі весці, але ж яшчэ і карміць.

— Вы што, так і збіраліся, без запасу? — спытаўся Бутрым, калі тыя — нібы нічога ніякага! — падсунуліся да яго вайсковай торбы з карэлымі ды пагнутымі лустачкамі баўэрскага хлеба.

Здaневіч — ні слова. Толькі хрумсціць сухаром. А Іванюк, пахрумсцеўшы, вяла спытаўся:

— Што ты там збярэш? Красці будзеш, ці што?

— А мы вось з Руневічам кралі. Узялі перад госпадам Гітлерам грэх на душу.

— І так таго іхняга харчу заўсёды мала было.

— Ну пэўна ж, следам за дзедам — яно куды спакайней...

Здаaccount хоць маўчаў. А Іванюк пракісаў з кожным днём усё больш.

— Доўга мы на сухарыках не пацягнем...

На сёмай днёўцы, у кустах, пад вечар, ён заныў адкрыта і, відаць, не так сабе:

— Што ж гэта, хлопцы, за хада такая? Я ўжо тры дні не апраўляўся!..

— Зайдзі, касторкі папрасі,— буркнуў Бутрым.— Дадуць.

«Колькі ж табе каштуе гэтая стрыманасць?» — думаў Алесь. Бо яны ўжо шапталіся — і лежачы, і ідучы — па двух: гаспадары заўчасна апусцелай торбачкі і нездаволеныя невыгодай нахлебнікі. Асабліва не падабаўся Уладзіку Здaневіч.

— Прадасць нас недзе гэты сугней. Вось паглядзіш!..

І тут ён, Здaневіч, нарэшце загаварыў:

— Канечне, без правіянту далёка не зойдзеш. Трэба паддацца, а то паслабеем зусім. Ты, Руневіч, гаворыш па-іхняму. Лепш апраўдаемся. Менш будуць біць.

Гаварылася гэта не проста тонам намнога старэйшага, але ж і самаўпэўнена, неабвержна. Нібыта ён тут гаспадар, і ўсе законы ды ўсе праўды — толькі за яго.

Руневіч і Бутрым маўчалі. У іх таксама ўжо было сваё рашэнне. Што тут дарма спрачацца. Абы толькі да ночы дацягнуць...

У тую ноч Алесь ішоў першы. І тут ім з Бутрымам памагла сама прырода. Упоперак іхняй дарогі, лепш — бездарожжа, пачаліся нейкія межы з кустамі. На адной з такіх межаў Руневіч, запаволіўшы хаду, каб даць Бутрыму сігнал, махнуў рукою ўлева, ціха сігануў туды, пад куст, і сеў. Уладзік зрабіў таксама.

З-пад куста яны бачылі, як побач з імі, рукою падаць, прасунуўся Зданевіч, важна шалпочучы па аўсе поламі доўгага кавалерыйскага шынялю, а за гэтым сугнеем, як дохлы баранчык за статкам, паплёўся Іванюк.

Счакаўшы трохі, Алесь і Уладзік рушылі значна лявей.

— І не глядзяць ужо, балалэі, куды і чаго... Сволач: «Трэба паддацца...» Ну, паспытаем цяпер, як нам пойдзе няспутаным.

Ды путы гэтыя, калі ўжо казаць за Бутрымам, добра такі нацерлі ім ногі. Вайсковай торбы закарэлых лустачак, з далёкім пахам саскрэбенага маргарыну ці мармеладу, таго запасу, з якім сябры спадзяваліся маханучь з-пад Шчэціна ну хоць бы, скажам, да Варшавы, хапіла ім — для чатырох — на першы тыдзень, на першыя паўтары-дзве сотні кіламетраў. Цяпер — хоць торбу грызі...

Голад і стома з кожным днём узмацнялі адно аднаго. Да таго ж яшчэ задажджылася. Калі ісці ўсю ноч пад дажджом — нясоладка, дык прасядзець у кустах ці ў мэндлях або праляжаць у баразне даўжэзны летні дзень — ужо і гаварыць няма чаго, так цяжка!..

На пятнаццаты дзень, ушчэнт знясіленыя «вераб'іным харчам» і «компаснай» хадою напрасткі, апошнія два дні па нейкай пушчы, хлопцы доўга, ох доўга сачылі з кустоў за самотным, растрэсеным хутарам у даліне, на беразе вялікага і, як здавалася, шэра-халоднага возера. Глядзелі, думалі, прыцішана гаварылі, і пад вечар усё ж рызыкнулі, зайшлі.

Адна ж сям'я, дый то, хутчэй за ўсё, толькі бабы і дзеці...

Кусты, палянка, зноў кусты — да самага гумна, за якім пачыналася вялікая, гектараў некалькі, хутарская паляна.

— Стой.

І другі пачуў: сякера...

Нехта коле дровы на двары, за гумном.

— Баба, мусіць. Як мокрае гарыць. О, чуеш?

— Памалу, браце, але ж спраўна. Гахкае нават. Ну?

— Другая баба і гахне... Ды што нам гадаць,— падкрадземся паглядзім.

Цікнуўшы з-за гуменнага вугла, Алесь убачыў, хто гэта.

— Пайшлі,— сказаў смялей.— Які, браце, пан, такі і страх.

Стары, сухашчавы баўэр, у дзіравым капелюшы, у дзераваяшках на босую нагу, і сам спалохаўся. Ён перастаў калоць, заўважыўшы, як ад гумна ідуць да яго два высокія, аброслыя абадранцы ў пілотках. «Палякі!..» Ён так сумеўся, што і сякеру, яшчэ раз механічна ўзнятую над цурбаком, апусціў зусім вяла і стаяў, пакуль яму гаварылі, з разяўленым ротам, не разумеючы і па-нямецку. А потым тонка, па-заечы закрычаў:

— Oh, nein! Es ist unmöglich! Es ist ausgeschlossen!..[1] Мне галаву адсякуць! Мяне павядуць у гестапа!..

Кінуў сякеру і шпарка пайшоў міма хаты да возера.

Хлопцы хацелі ўжо і самі чмыхануць у лес, ды тут у пройме хатніх дзвярэй паказалася, выйшла на крыты ганак пажылая, дзябёлая фрау.

Яна наўздагон аблаяла свайго гаспадара і дурнем, і баязліўцам, засмяялася нават, адказала палякам на іх прывітанне, вярнулася ў хату і вынесла хлеба.

Першы для іх у Нямеччыне чорны вясковы хлеб, акраец ад вялізнага, як кола, бохана, спечанага дома, не ў пякарні.

Гледзячы, як яны праўляюцца з хлебам, жанчына пацмокала над чалавечай долечкай, падняла да вачэй ражок фартуха, а потым схамянулася:

— Oh, Menschenskind! Einen Moment...[2]

Зноў пайшла ў хату і вярнулася з двумя вялікімі кубкамі і збанком яшчэ свежай маслёнкі.

---

[1] О не! Гэта немагчыма! Гэта выключана!..

[2] Даслоўна: — О, дзіця чалавечае! Хвіліначку!..

— Толькі ж вы не крадзіце нічога ў дарозе,— гаварыла, пакуль яны завіхаліся есці.— Бо як зловяць вас, не дай божа, дык за крадзеж ой-ёй-ёй пападзе! У мяне тут таксама надоечы бялізна з вяроўкі прапала. Вашы, відаць... А вы, калі хочаце, дык пераспіце ў гумне, у цяпле, а ў мяне назаўтра хлеб рашчынены. Сёння гэта — апошні кавалак.

Цудоўнай, небывала кісленькай, з крупінкамі масла маслёнкі — было, як быццам, яшчэ менш: не хапіла да хлеба.

А дабраты, здалося хлопцам, штосьці адразу зашмат...

Яны падзякавалі і пайшлі.

У хмызняку спыніліся даесці хлеб.

І тут іх дагнаў спачатку голас старое, а потым і сама яна, цяжка трухаючы з нечым — ужо добра змяркалася — у абедзвюх руках.

Гэта быў кавалачак сала і чатыры гуркі, і гэта адкінула іх падазрэнні наконт начлегу і рашчыненага хлеба.

А яна гаварыла задыхана:

— Увесь свет — адзін дом [1]. І навошта, скажыце, вайна? Майго сыночка таксама забралі... Ну, каму яна, скажыце, патрэбна?.. Ідзіце здаровы. Няхай вашы мамы не плачуць. Viel Glück! [2] Няхай і Эрых мой вернецца. Ён не хацеў, ой не хацеў ісці!..

Можна і, галоўнае трэба было схаваць гуркі і сала дапра запас, але ж хлопцы не вытрывалі і, не вельмі далёка адышоўшыся ад хутара, селі на мокрую траву, разрэзалі сала і з'елі яго, ужо толькі з гуркамі, услед хлебу. Ці так, ці гэтак несці. Больш ужо не было куды і таптаць, а ўсё, здаецца, еў бы — хоць бясконца.

Пасля, калі ўжо ішлі, Бутрым пачаў прыглушана:

— Тут, браце, не толькі што я, але ж і ты, відаць, не ўсё зразумеў, што яна гаварыла. А гаварыла яна... ну, дальбог жа, здаецца, па-нашаму...

Алесь маўчаў. Думаў, як часта ён чуў такое дома, у Пасынкх ці ў наваколлі, калі хто-небудзь хваліў добрага чалавека. «Скажы ты, вось і паляк (або яўрэй ці татарын), а ўсё роўна як наш (або свой), беларус...»

---

[1] Нямецкая прыказка.
[2] Шчаслів а!

І ў гэтай вонкавай наіўнасці была схавана спрадвечная мудрасць. Націск тут клаўся на словы *наш* або *свой*, і сэнс іх быў блізкі працоўнаму чалавеку.

— Людзі, браток, усюды людзі,— сказаў ён ціха, з глыбіні гэтых простых, шчасліва адчутых слоў.

Хлопцы ідуць. Зноў вось бясконца ідуць, цягавіта ўключыўшыся ў галоўную, адзіную цяпер работу іх жыцця.

— Цікава: тыя паддаліся ці пайшлі? Сугней з вякалам,— пачаў Бутрым.— Мо таксама жабруюць, як мы...

— Хто іх ведае,— адказаў, памаўчаўшы, Алесь.— Можа, і добрыя хлопцы. Свае. Толькі раскіслі. Я думаў...

— Усе табе добрыя. Ты яго корміш, а ён: давай паддамося. І добры, і свой...

Голад аціх. Нават і пацяплела, хоць і ў мокрай вопратцы.

І стома — штодзённая, неадчэпная стома пакуль што маўчыць...

Затое — ад вобраза простай жанчыны, ад матчынай яе слязы, ад смаку вясковага чэрстваг хлеба — зноў ажылі яго, Алесевы, патаемныя думкі, якімі ён не сабраўся яшчэ падзяліцца з Бутрымам. Зноў заварушыўся глыбока ў душы, пачаў тачыць сумненнямі чарвяк, з якім Руневіч, калі прызнацца, і вырушыў у дарогу...

## 2

«...І я, і мама просім цябе: не рабі ты нічога сам. Чакай хуткага вызвалення...»

Маці тут, вядома, Толя ўзяў на падмацаванне. Усё рабіў ён сам, параіўшыся з добрымі людзьмі. Ну, а яна яшчэ раз, лішні раз заплакала, калі пісалася тое пісьмо: вось і яшчэ адна надзея на ратунак...

«А я не паслухаў цябе,— у думках гаворыць брату Алесь.— Не паслухаў, нібыта не паверыўшы, як блазен, як тады — у гумне...»

Дзевяць гадоў прайшло з таго, таксама жнівеньскага дня, калі юнак прапанаваў падлетку разам пасталець.

Алесь тады не зразумеў, не згадзіўся пакінуць вы-

чыцца, маме пра свой намер Толя чамусьці не сказаў, і жыццё іх на нейкі час пакацілася па інерцыі. Хлопцы паехалі ў гімназію.

Як пеўнік першым пасля пуху апярэннем,— о, кукарэку, сам я чырвоны, а хвост ажно сіні! — Алесь не мог нацешыцца форменнай вопраткай, шэрай з сярэбранымі галунамі. І цікава, і сцішнавата было ўсё гэта — белыя пад скляпеннямі класы і калідоры былога кляштара, у якім размяшчалася гімназія; і незнаёмыя яшчэ, і недасяжныя настаўнікі, якіх тут называюць пан ці пані прафесар; і куды больш сур'ёзныя кнігі, якія тут можна, а нават і модна насіць без нічога, пад пахай...

Праўда, сухі, крыклівы пан прафесар Жджарскі за першую кантрольную па алгебры ўляпіў Алесю чырвоную і вялізную, як на варотах, двойку, прымусіўшы няданяга выдатніка з «паўшэхнай» добра такі са страхам задумацца. Праўда, былі і іншыя непрыемнасці... На перапынку панскія сынкі падбухторылі Алеся, што слабак, і ён счапіўся дужацца з другагоднікам, не паваліў яго і на падлозе ўкачаўся ў яшчэ не нацвёрда засохлую охру. Тыя самыя завадатары надумаліся аднойчы сарваць дадатковы ўрок лацінскай мовы, а ён, разам з нямногімі, раптам узбунтаваўся, што маці яго сюды не для таго паслала, каб лайдачыў ды лгаў. Лаялі хамам і здраднікам, ён адбіваўся і плакаў са злосці, адзін і чужы, пакінуты нават і тымі нямногімі, пакуль яго не адбараніў малады, здаравенны «возьны», прыбіральшчык.

Было, аднак, і вясёлае. Куды больш!..

Перш за ўсё — яны з Толем. Быў у іх свой пакойчык і стол пад электрычнай лямпачкай, на якім яны то пісалі, кожны сваё, то свабодна і колькі хто хоча чыталі!.. Потым быў — пасля вёскі — горад. З тратуарам, што здорава, то дошкай, то цэментам шаркаў пад новымі чаравікамі; з вясёлымі прысадамі абапал бруку, грымотнага пад вазамі кірмашнікаў і нагамі разгалёканай песняй пяхоты; з кінатэатрам, куды цягнула магнітам; з цэрквамі ды касцёламі, што час ад часу ажывалі над кронамі і дахамі спрадвечным перазвонам; з мноствам па-рознаму пахучых магазінаў: здобай, каламаззю, ваніллю, селядцом; з раскошным святлом у вялікіх, часта затаямнічаных гардзінамі,

чароўна напоўненых музыкай вокнах дамоў, шматпавярховых, як здавалася Алесю; з вакзалам, адкуль, нагадваючы мілы свет маленства, па-сяброўску, пазмоўніцку клікалі ў таямнічую даль гудкі паравозаў...

Не было толькі мора для поўнага падабенства з тым амаль ужо легендарна далёкім горадам, што часта хваляваў яго ілюзіяй былога, страчанага шчасця...

Калі не ўлічваць той, на думку Алеся, зусім выпадковай двойкі, і меншы Руневіч вучыўся таксама нядрэнна. Гэта было ўжо заўважана і нават, з агаворкай, адзначана на першым месяцы вучобы.

Ды вось у пачатку другога месяца, наўздзіў сябрам і начальству, абодва Руневічы, і чатырох- і пяцікласнік, забралі раптам дакументы і паехалі дамоў...

Мілы дзядзька Адам, малы, гарбаты Толеў хросны, кравец з суседняй вёскі, што шыў ім калісьці «соединенные штаты» з шарачку — незнасімыя пастухоўскія порткі з нагруднікам! Рэдка ён — ад свае працавітай машыны, ад калецтва свайго — пускаўся ў такое далёкае падарожжа. Але ж трэба было, каб іменна ён прыехаў, каб ён прывёз ім сумную вестку, якая вырашыла ўсё.

У шэра-рудой суконнай «жакетцы», з дажджавымі кропелькамі на варсінах, у новай, неабмятай кепачцы, што аладкай накрывала яго вялікую галаву, у клёшыку ды ў чаравічках, з высокім для яго, як посах, ядлоўцавым пугаўём у правай руцэ, дзядзька Адам, нібы ў казцы якой, як па чароўнаму выкліку, з'явіўся раптам у іхнім пакойчыку і, амаль са слязьмі свае дабрадушнасці ў голасе і на вачах, загаманіў — «па-гарадскому» ды «па-мясцоваму»:

— А хлапцэ ж вы мае ненаглядныя! Па адрасе хату знайшоў, па канверце. Хроснічак, Толя!.. І ты, Алесько — як панічэ! Каб жыў ацец, нябожчык Мікалай Змітравіч — сэрцо б яго сіяло ад радасці. Бедная Кацярынка, кума!..

Яны ўстрывожыліся, і Толеў хросны ад намёку адразу пайшоў да поўнай і сумнай яснасці.

— Што там? Бяда, сынке мае. Івана пазаўчора паліцыя як забрала, дык і ўчора яшчэ не было. А ў самое ў беднай зноў ногі разбалеліся. А работа ж — яна не хоча чакаць. Учора да вечара я памагаў. Помачы ад мяне, ад калекі няшчаснага, як ад казла малака.

Мальвінка не прыбяжыць, дачушка, памагчы: свая сямейка, свой клопат. А Сяродка Мікалаевіч, сынок, яшчэ далей... Сама, сама ўсё, падружка мая дарагая. Баранавацъ узяла нейкага смаркача, а сама, пакутніца, з сявенькай. Не работа гэта з яе нагамі — адно страданіё, хлопчыкі...

Хросны паехаў начаваць у «заезд». Толя правёў яго, і, як вярнуўся, хлопцы спачатку доўга гаварылі, а потым, у ложку, Алесь плакаў, адвярнуўшыся да сцяны. Ціха, кусаючы губы і пальцы. І не змог бы, відаць, адказаць каму-небудзь, нават і Толю, чаго ж ён плача.

Толя зноў гаварыў сваё: як у тую нядзелю, на сене. Цяпер ён ужо нібы проста адразу ўзяў меншага за руку і павёў куды трэба.

Алесь пайшоў, як ідуць за старэйшым, сваім, згадзіўся кінуць усё, забраць манаткі і ехаць з дзядзькам Адамам дахаты.

А плакаў ён, калі меркаваць цяпер, з адлегласці гадоў, і па маме, здалёк, у разлуцы ўбачыўшы яе горкую долю зусім інакш, і па сабе, яшчэ ўсё па-малечы ўражаны на крутым павароце.

Назаўтра, вечарам і ноччу, пакуль яны ехалі полем ды лесам, дзядзька Адам то бедаваў уголас, што ж гэта ён нарабіў, што яны нарабілі і што цяпер і ім і яму, старому дурню, скажа дома кума Кацярынка. То бедаваў ды апраўдваўся, то забываўся пра такі непрадбачаны вынік свае паездкі і зноў расказваў, што быў ён тут на судзе, за сведку ў суседа, які, гугніла безгаловае, судзіцца з сынам, таксама не лепшым, за поле. І расказваў па-свойму так жыва і смешна, на розныя галасы, што і сам рагатаў аж да слёз і яны рагаталі.

Маму прыезд іх спачатку проста такі ашаламіў. Пасля хапіла слёз і лаянкі — і ім абодвум, і дзядзьку Адаму. І назаўтра яшчэ, і потым яна то плакала са злосці, то лаяла свайго кума за вочы, а Толю ў вочы і доўга яшчэ не магла даўмецца, што нарабілі яе «студэнты». Нават як быццам і змірылася з гэтым хутчэй, чым зразумела.

Іван прыйшоў з пастарунка праз два дні пасля іх прыезду.

Увайшоў адвячоркам у хату, абапёрся плячыма аб вушак і нейкім не сваім голасам ціха сказаў:

— Здрастуйця... Я, цётко Катрыно, да мамы свае не пайшоў. Яна яшчэ, відаць, нічога не ведае. Няхай і не ведае, можа... Я толькі трохі паляжу... Дзень, два...

Іх старая суровая маці сказала... Не, яна не сказала спачатку нічога, а жахнулася, паглядзеўшы на хлопца пры лямпе,— такі ён быў збіты. То кленучы тых нелюдзяў, то дакараючы самога Івана, што і ён палез у палітыку, паслала яму на тапчане, маўчала, пакуль ён, сціснуўшы зубы, з балючай натугай здымаў нага аб нагу боты, асцярожна лажыўся, а потым,— як гэтая немка сёння на хутары,— падняла да вачэй фартух.

— Можа, няхай цябе Толя хоць шкіпінарам натрэ?..

— Не трэбо, цётко, вылежуся я і сам... І плакаць не трэбо: чым горш, як той казаў, тым лепш...

Толі і Алесем ён нібы і не заўважаў.

Назаўтра маці з Толем паехалі дасяваць, а Алесь быў дома.

І толькі тады, калі яны з Іванам засталіся ў хаце ўдвух, той як быццам заўважыў яго ўпершыню.

— А вы гэто чаго прыехалі? Абодва за раз... Ушыстскіх свентых, ці што там?

...У Пасынках — на вяселлі ці на святочныя вечарыны — часцей за ўсё наймалі музыку з другіх вёсак. Гром і маланка! — гармонік, скрыпка, кларнет ці цымбалы і вялікі бубен, ад якога ажно ў жываце пачынае бубніць. А так сабе паскакаць калі-небудзь упрошвалі глухаватага Макарца, у якога былі не толькі кнігі ў салдацкім куфэрку, але і скрыпка, і барабанчык. А раз дык з'явіўся ў нядзелю яшчэ і другі барабанчык, нехта прынёс. Два чалавекі — зухаваценькі рыжы Шулейка, жанаты мужчына, і спраўны дзяцюк Іван, які прыйшоў сюды парабкаваць з далёкай, незнаёмай вёскі,— два Макарцовы памагатыя выраблялі ў той адвячорак проста штосьці несусветнае!.. Старая скрыпка галёкала — як яна толькі спраўлялася! — польку; смык, заціснуты ў дужай, карэлай руцэ, скакаў-матляўся перад страшэнным і смешным разлётам чорных вусоў, перад скрыўленым ад натугі і ўсмешкі свежапаголеным падбароддзем. Адзін барабанчык, які ў Шу-

лейкі, узняты на ўзровень ягонага левага вуха, шумеў званочкамі і драбіў пераборам — ну, як заўсёды, хвацка. А другі, што ў Івана, дык той ужо вырабляў — не дай ты ды не прывядзі!.. Ён не толькі званіў і драбіў пад жывою булаўкай, не толькі тыркаў гулкай скурай пад вялікім пальцам — ён то дрыжаў, высока ўскінуты ў шалёнай, радаснай трасцы, то пападаў пад лакаць, то на чубатую «цыганскую» галаву, на адно, на другое калена, пад узняты абцас, пад другі, дакранаўся да зямлі і — за дзівам ды захапленнем натоўпу — зноў узлятаў над Іванавым чубам.

«Адкуль жа ты, братко, і ўзяўся гэтакі!..»

І вось ён ляжыць цяпер, пастарэлы адразу на многа гадоў, не па-свойму маўклівы і сумны, і Алесю так страшна, да жудасці страшна відаць, што ён, вясёлы, добры Іван — пад нагамі...

У твар, у вочы, у грудзі таўкуць яго боты паліцыянтаў; па руках, па спіне, па галаве цапамі б'юць іх гумовыя палкі... За што? Ён песні спяваў пра Саветы, ён хоча, каб яны прыйшлі, каб з імі разам прыйшоў іх далёкі, харошы Сярожа...

Спытаўшыся пра «ўшысткіх свентых», Іван неяк крыва ўсміхнуўся, як быццам нехаця.

А Алесь адказаў па-сур'ёзнаму, з новай, яшчэ не ўзмужнелай гордасцю:

— Не, мы зусім пакінулі вучыцца. Будзем дома, як людзі, рабіць. Ну іх к чорту з іхняй гімназіяй!..

— Ты бачыў, як! — зноў усміхнуўся Іван.— А яно, братко, і правільна. Чым горш, як той казаў, тым лепш... Вось згалее паноў, дык і будзем вучыцца. Па-свойму. Яшчэ не толькі вы — і я паспею, можа... От, халера!..

— Што? Што табе? Можа, вады?

— Ды не магу, братко, доўга гаварыць...

Ён памаўчаў.

— Я ў цябе не вады папрашу, а збегай ты, Алесь, да Цімоха, скажы, што я прыйшоў,— няхай ён зойдзе. Бяжы, братко, ды падтрэсайся,— зноў усміхнуўся ён.

Ганулін Цімох жыў у другім канцы вёскі. Яны з Іванам дружылі, шапталіся нешта... Алесь ужо хадзіў да яго, па Іванавай просьбе, не раз і не два. То што-небудзь сказаць, то што-небудзь прынесці... Але вось так, як сёння, Алесь да Цімоха яшчэ не хадзіў.

Ніколі ён не быў яшчэ такі дарослы. Бо яму ўжо здаецца, ён думае, як не думаў, відаць, ніколі раней, што яны вельмі добра зрабілі, вярнуўшыся ў родную вёску, да родных людзей, з іх працай, і горам, і радасцямі, і надзеяй.

«А хто ж настойваў, каб вярнуліся?» — успамінае ён. І першае, яшчэ няпэўнае, амаль падсвядомае пачуццё сяброўскай, братняй удзячнасці ўстае ў Алесевай душы на згадку пра Толю, што цяпер недзе вучыцца сеяць...

Шлёпаючы босымі нагамі па нехалоднай яшчэ гразі, хлопец схапіў у памяці, як мячык на ляту, адну з тых першых лацінскіх фразаў, якія паспеў завучыць.

— Agricola beatus [1],— сказаў ён.

Пра Толю і ўжо нават пра сябе. І засмяяўся так радасна, што захацелася і сапраўды падбегчы. «Бяжы, братко, ды падтрэсайся!..»

Іван адляжаўся пасля пастарунка і дабыў у іх да каляд, як і згаджаліся. Шукаць сабе новы хамут, прывыкаць да новай сям'і і вёскі пайшоў ён не вельмі ахвотна.

Затое Толя ўсцешана сказаў пасля, што гэта быў першы і апошні ў іхняй хаце парабак, што цяпер яны будуць рабіць свой хлеб самі.

Толькі Алесь часамі зноў не мог да канца зразумець, чаму яму трэба было пакінуць вучыцца?..

Як і цяпер ён, хоць і верыць Толю, не можа ўцяміць па-сапраўднаму, чаму гэта не трэба ўцякаць. З палону, з фашысцкай няволі — дахаты! — і не ўцякаць?..

## 3

Пагодлівых дзён і начэй было больш, чым даждлівых і хмарных.

Тады на душы ўцекачоў рабілася трохі лягчэй.

Зноў да Алеся вярталіся словы:

> Гэта было ў тую ноч,
> Як зацвілі верасы...

[1] Шчаслівы земляроб *(лац.)*.

Жыхароў занёманскіх лясных паселішч прызывалі ў Алесевых Пасынках «ганака́мі». І таму, што яны ганялі плыты, і таму, што гаварылі замест «гэты» — «гэны». Празывалі, вядома, без злосці, нават з пэўнай пашанай да працавітасці і спрыту лесуноў, якім з пясчаных шматкоў ды палосак было б не пражыць.

«Ганакі», у сваю чаргу, усіх нелясных называлі «палявікамі». І гаварылася гэта калі і без злосці таксама, дык з пачуццём вышэйшасці: «Хіба ж яны ведаюць, таўкачы, што такое наш Нёман і пушча!..»

Прызнаўшыся, дык Алесь і не ведаў.

Кіламетраў пяць-шэсць ад іх вёскі, за пашай і лугам, за іхняй Ціхменню быў казённы лес. Увосень яны, пасучы пасля атавы па сенажацях, дабіраліся да таго запаветнага бярэзніку і, пакуль іх стражнік з сабакам ды стрэльбай не выкурваў адтуль, рэзалі венікі, перагукваліся ў жаўталістым галлі. За Нёман, у пушчу Алесь упершыню трапіў, калі яму было шаснаццаць год, дый то зімой. Так і бываў там, толькі па снезе, возячы дровы.

Таму і не дзіва, што ён, «палявік», чытаючы калісьці Танкаву «Нарач» упершыню, як быццам і не заўважыў там верасоў, што зацвілі «ў тую ноч».

Цяпер яны, гэтыя словы, ажылі ў яго памяці.

Бо хлопцам часта той верас слаўся ў цемры пад ногі, блытаў іх, узмацняючы стому, і выпешчваўся перад імі на сонцы, у шчырым бары ці ў рэдкім бярэзніку.

Назаўтра пасля хутара над возерам дняваць ім *выпала* таксама ў лесе.

А «выпала» таму, што за кароткую ноч хочацца прайсці як найбольш, і ўсё спяшаешся, усё ідзеш, пакуль дзень не паложыць цябе, дзе ўжо выпадзе. Адзін раз зручна, а другі — на самым краечку якой-небудзь меншай, а то і большай небяспекі. Патроху, з часам прывыкаеш і да такое рызыкі, робішся і смялейшы, і менш асцярожны.

Цяпер хлопцы ляжалі на ўзлеску, у верасе пад бярозамі, і бачылі перад сабой, не вельмі каб і далёка, чыгуначны раз'езд — бліскучыя рэйкі і белы домік з блакітным ганкам, акенцы якога адсвечвалі сонца.

Цярпліва, прызвычаена і ўсё ж па-новаму — да яго ты не вельмі прывыкнеш — змагаючыся з голадам, які спяваў свае, Алесь глядзеў, як на ўзроўні вачэй і навокал, куды ні павернешся, іскрыцца бэзавымі кветачкамі верас, удыхаў яго земляны, травяністы, неакрэслена мілы пах і міжвольна, з нуды займаўся разборам свае неадчэпнае песні:

Гэта было ў тую ноч...

«Хіба ж ён зацвітае абавязкова ўначы? І хто гэта калі бачыў?..»

У маленстве часта хацелася падпільнаваць, як гэта засынаеш. Але ніколі так і не ўдалося. А то неяк, пасучы каровы, узышоў з пашы на рунь і даўгавата такі ляжаў там, абапёршыся на локцях, прыглядаўся, як гэта — мама гаворыць — «жытцо пасля дожджыку расце, богу дзякаваць, увачавідкі». Чытаў недзе потым, што толькі чыстыя сэрцам бачаць сапраўднае хараство. Ён быў, здаецца, не горшы за іншых дзяцей, глядзеў на свет па-малечы даверліва, чыста, а ўсё ж такі ні падпільнаваць, як падкрадаецца сон, ні заўважыць, як жыта расце, не ўдалося.

А гэты, бачыш, як упэўнена кажа:

Гэта было ў тую ноч,
Як зацвілі верасы...

Ды яшчэ і падкрэслівае:

Як зацвілі ў бары
З звонам апаўшай расы...

Ах, ды што я пляту!.. Нібы мне мала, што песня жыве, што верш гэты просіцца, хоча стаць песняй, што я нясу гэтую песню, як штосьці няяснае да канца, штосьці недагаворанае, але ж і любае, свае!..

Толькі б хутчэй садзілася сонца, хутчэй бы пад'есці, каб змоўкла тая, другая песня, каб можна было зноў ісці.

Яны другі раз вырашылі рызыкнуць.

І пайшлі на збліжэнне са шчасцем і небяспекай яшчэ пры сонцы, як толькі яно барвовым кругам надзелася на вяршыні далейшага лесу.

Пайшлі ад дрэва да дрэва, нібы з аглядкай ды перабежкамі, думаючы, што гэта — яшчэ ўсё тая іх, ранейшая, належная асцярожнасць...

На блакітным ашклёным ганку белага доміка палонных без асаблівага здзіўлення і, тым больш, спалоху сустрэла чарнявае дзяўчо, падлетак.

Загаварыла з імі па-нямецку, а пасля такі не вытрывала, прызналася, што і яна — палячка. Хаця і не зусім... Дый як тут разбярэшся, хто ты, калі мамуся немка, а татусь паляк. Яны калісьці разам служылі ў адным маёнтку і пажаніліся. Татусь таксама цяпер недзе ў палоне. А яна, дзяўчынка, завуць яе Стася, прыехала сюды да цёткі, мамінай сястры. Бо не вельмі далёка, за шэсцьдзесят кіламетраў адгэтуль была граніца Польшчы з Германіяй, і мама з цёцяй цэлых дваццаць год не бачыліся. Цётка Хільда добрая, хоць Стася так мала ведае па-нямецку. А дзядзька Ёган — начальнік раз'езда, і сёння ён у горадзе.

Алесь вельмі рад быў, што вось на ўсю душу, нарэшце, можна сказаць другому, хоць і недаросламу яшчэ, але свайму чалавеку, што і яны — таксама людзі, што і ім таксама хочацца есці, жыць... Аднак сказаў куды прасцей і карацей:

— Ты, Стасю, папрасі нам у цёткі што-небудзь з'есці. Ты скажы ёй... Ну, ведаеш, сама...

Дзяўчынка пайшла і неўзабаве вярнулася з двума хлапчукамі. Большы з іх, гадоў пяці, нёс дзве лусты хлеба, сама яна — два кубачкі малака, а меншы хлопчык ішоў так сабе.

З вялікім дзівам і бояззю ў вачах малыя застылі на месцы, пазіраючы, як у гэтых аброслых і прагных зяпах прападае яда...

А Стася прыпынілася збоку, каля нейкага століка, трохі нават прысеўшы на яго на падложаных ззаду руках. Зусім як дарослая, яна маўчала і, як бывалая, глядзела з болем і спагадай у вачах.

Ім, вядома, вельмі мала было гэтых лустачак і малака, яны з'елі б чортведама колькі, і адзін з іх, на гэты раз Бутрым, не вытрываў — папрасіў яе прынесці што-небудзь яшчэ.

Стася пайшла паслухмяна, а хлопчыкі яшчэ ўсё пазіралі.

Ды вось адтуль, куды яна пайшла, з таго пакоя ці

з кухні, дзе была яе таямнічая цётка, пачуўся бабскі крык. Не разбярэшся што, але — злосны, чужы. Проста лямант!.. А неўзабаве ў дзвярах паказалася Стася. З пустымі рукамі. Чырвоная, амаль да слёз. І пачала апраўдвацца — апаўшым голасам, на дзвюх мовах адразу:

— Іх габэ кайнэ шульд... Ям не вінна [1], панове... Цёця Хільда... сказала... каб вы ўжо ішлі адгэтуль, бо нам будзе дрэнна, калі вас застане хто-небудзь чужы... Ужо рабочыя, яна кажа, ідуць... А ям не вінна. Іх габэ кайнэ шульд...

Яны тады шуснулі ў кусты, і ніхто іх не ўбачыў, бо ніхто не ішоў.

А ўжо на лес апускалася ноч.

Зноў брылі па ягадніку, па верасе, па пясчанай лясной дарозе.

І Алесю здавалася, што там, у белым доміку на раз'ездзе, яны пакінулі штосьці вельмі дарагое... Яму захацелася быць недалёка ад гэтай дзяўчынкі — дзіўна і недарэчна захацелася спыніцца, паляжаць, падумаць. Ішоў і змагаўся з гэтым жаданнем, час ад часу ўздымаючы вочы на неба, ужо азоранае — шчодра і хвалююча...

— Ох, накрыюць нас калі-небудзь, накрыюць,— азваўся Бутрым.

Голас ягоны быў нібыта і той самы, а ўжо без ранейшай свабоднай, вясёлай дужасці.

Ды ўжо і накульгваў Уладзік на раненую нагу, з кожнай ноччу — усё больш, хоць і не скардзіўся яшчэ, нібыта і не думаў нават, што Алесь гэта бачыць.

Руневіч маўчаў.

Пад зорамі яму спачатку ўспомнілася маленькая гераіня англійскай казкі, дзяўчынка, слязьмі якое іскрыцца на поўначы сузор'е Вялікай Мядзведзіцы, безыменная, чыстая дабрата, народны вобраз, вельмі падобны, мусіць, на гэтую — Стасю...

Успомнілася ноч, калі ён чытаў тую казку. Другія зорныя ночы той восені... Калі ён быў ужо на цэлы год старэйшы пасля свайго наіўнага «агрыколя бэатус», калі ён быў ужо работнікам у гаспадарцы і, як здавалася самому, сталым чалавекам.

---

[1] Па-нямецку і па-польску — я не вінавата.

На шаснаццатым годзе Алесь пачаў на дзіва цішэць і расці. Цыбатым, светлым падлеткам ён закахаўся ў зорнае неба...

Сярод тых кніжак, выпадковых і загартаных сотнямі карэлых рук, кніжак, якія ў сваім блуканні пад саламянымі стрэхамі трапілі ў рукі яшчэ аднаго, уражанага словам, летуценніка, з'явілася аднойчы, у ясныя ночы з першым марозікам, ледзь-ледзь жывая кніга апавяданняў пра неба. Аўтар яе, французскі астраном Фламарыён, стаў для Алеся адным з тых першых, што сцерлі з неба разумнай і мужнай рукой папоўскую нечысць, пераканаўча, з усёй нагляднасцю мастацкага слова адкрылі хлопцу, што *там*, уверсе, няма, вядома ж, ніякіх багоў,— ні «в виде старца», ні «в виде мужа средних лет», ні «в виде голубинем», ні ў іншых якіх-небудзь «видах»...

Праўда, яшчэ і раней, як толькі розум пачаў намацваць дарогу ў блытаным гушчары першых, жыццём і кнігай падказаных пытанняў вечнага і часовага, былі моманты, калі хлапчук зжахаўся ад думкі, што і жыццю, і сусвету няма ні канца, ні пачатку, ні краю!.. «Бог стварыў неба і зямлю»... А хто ж стварыў бога? Чыстая, кволая думка дзіцяці ўпіралася гэтым пытаннем у штосьці чорнае, халоднае, як бяздонне, і было вельмі страшна... Хоць плач, хоць бяжы па адліжнай дарозе золкім змярканнем, са зрэбнай торбачкай кніг, у якіх ты не знойдзеш адказу, з душой, утрапёнай прыходам свядомасці, нязгодай з тым, што лічыцца праўдай, «божым законам»...

А пасля стала ясна, што неба — прыкрае восеньскім днём і загадкава, песенна зорнае ноччу — гэта безліч цудоўных светаў, сярод якіх так утульна, так весела адчуваць сябе жыхаром Зямлі, прыгажосць якое з кожным днём усё больш раскрываецца і ў кнігах, і ў расказах бывалых людзей, і ў самастойным назіранні.

Нічога, што свет яго быў тады абмежаваны роднай вёскай, мястэчкам і горадам, дзе ён вучыўся, другім горадам, дзе пачалося яго жыццё, і берагам мора, якое час ад часу б'ецца ў памяці сонечна-сінім прылівам.

І сам Фламарыён, паблукаўшы па розных планетах,

напаіўшы душу сусветным захапленнем, вельмі шмат глыбокіх таямніц і хвалюючай прыгажосці знайшоў у простай гісторыі шэранькага салаўінага гнязда.

Адгэтуль, знізу, вельмі радасна глядзець уверх, у бязмежнасць не толькі зямную, але і касмічную, чыстую ад бажэсцвенных баек.

І не толькі глядзець, а і думаць, што ты пазнае́ш, што ты пазна́еш вельмі многае!..

Найпрыгажэйшымі пасля Зямлі і Месяца, самымі блізкімі светамі Алесю сталі здавацца сем зорак Вялікай Мядзведзіцы. Іх ён, па праўдзе кажучы, толькі і навучыўся беспамылкова распазнаваць у зіхатлівай жарстве. І таму яшчэ, мусіць, што ў тую ж самую восень яны перасталі быць «возам Давіда» з «Пана Тадэвуша», а сталі коўшыкам з англійскай казкі пра мілую цудоўна-паэтычную дзяўчынку...

«Як гэта добра,— думаў палонны, ціха, лесам тралюючы нацянькі,— як радасна, што і тут, за многія сотні кіламетраў ад роднага гнязда, у здзеку, у небяспецы можна ўсё-такі думаць, што свет, як кажа народная мудрасць, і сапраўды адзін дом. Вялізны дом, у якім ніяк не можа пакуль што дайсці да ладу чалавечая сям'я. Думаць пра ўсюды аднолькава мілых дзяцей, пра сціплы як быццам, але ж і самы цвярозы, глыбокі і блізкі да вечнасці розум працоўнага, простага чалавека».

«Іх габэ кайнэ шульд... Ям не вінна, панове»,— гучалі ў памяці словы, а вочы дзяўчынкі глядзелі ў яго душу да слёз даверліва, пакрыўджана. Гаварылі так неабдымна многа і так, здаецца, небывала ясна пра тое, што ўсё гэта дзікае глупства — векавая, узаемная нянавісць народаў. Адзін з іх, для прыкладу, дайшоў ужо да фашысцкай «звышчалавечасці», а другі — падмацоўвае дух свой старою прыказкай: «Як свят святтэм не бэндзе немец палякові братэм». І не праўда! — як дзеці гавораць,— бо вось польскі батрак пакахаў нямецкую батрачку, і каханне іх упрыгожыла свет такою мілай, разумнай істотай, як Стася...

«Толькі ж як табе, зорачка, цяжка гарэць, як табе цяжка свяціць — сёння, у цемры фашысцкай начы!..»

## 4

Яшчэ праз тры дні світанне застала ўцекачоў у мокрым зарасніку.

Неба звечара зноў, як і ўчора, і пазаўчора, зацягнута шэраю павалокай. Уранні яна, здаецца, апусцілася значна ніжэй. I сее сабе ціхенька, бясконца...

Дождж мае час, яму куды там спяшацца, яму ўсё роўна, дзе асядаць на зямлю... I няма нават людскай яліны, пад якой можна сесці, схавацца. А праз кусты даймае, як праз сіта — удвая макрэй: не варушышся — сыпле з неба, паварушыўся — пасыплецца яшчэ і з лісця. Паварочвацца неахвота, дый выгады няма: так хоць не ўвесь адразу мокнеш. Няпраўда — скрозь дапячэ! I трэба добра трымацца, каб не дрыжаць — і целам, і душой...

А Уладзік яшчэ і кашляе. Мала, што разбалелася нага, што яму ўжо ніяк не схаваць свайго кульгання, дык вось яшчэ і гэтае бухуканне.

Ляжыць ён трохі воддаль, дзе прылёг адразу, пад другім, як здавалася, таксама зручным кустом. Разпоразу ён унурвае паміж рук галаву і, дарма намагаючыся рабіць гэта ціха, глуха бухукае кашлем, уздрыгваючы мокрымі плячыма.

«Чым жа я цябе пашкадую?..» — бездапаможна, вяла думае Алесь.

I няма ў яго адчування віны, бо і сам... Сам ён наліты нейкім шумам ды звонам, толькі што яшчэ не кашляе. Хоць грудзі ныюць, нібы ўсё яшчэ ўспамінаючы крыклівага яфрэйтара — ужо без гордасці, а з нейкім пякучым ныццём.

Прыкурчыўшыся, як заяц, заплюшчыш вочы, і тады пачынаюць хадзіць перад імі, кружыцца абрыўкі розных вобразаў, успамінаў — пра рознае і, адначасна, пра адно...

Не-не ды зноў з'яўляецца тое самае: высачэзная, шэрая, каменная сцяна, перад якой бушуюць звар'яцелыя, брудназапененыя хвалі...

Тады, у вагончыку вузкакалейкі,— «толькі адна гадзіна цягніком»,— побач з п'янай ад перамогі бандай эсэсаўцаў, калі сцяна тая ўявілася Алесю ўпершыню,— было толькі радасна, што яна ёсць, што яна непахісна стаіць, што каб толькі табе апынуцца за

ёю — і ўсё будзе добра! Каб толькі табе перабрацца туды!..

Цяпер жа яна пачала паяўляцца інакш. Ён адчуў сябе ўсё ж такі тут яшчэ, дзе шалёныя хвалі. Яны кідаюць, б'юць яго, і ён ужо змогся, а за сцяну ж яму неабходна перабрацца самому, уласнымі сіламі, якіх вось — няма...

І ўжо каля Бутрыма не пагрэешся, хоць ён заўсёды здаваўся табе такім моцным, хоць ён заўсёды патрэбен, як свой чалавек, як жывы напамінак пра край тваё мары.

І яго ты ўжо не пагрэеш — і сам ты прамок і азяб аж да самага сэрца.

А трэба так вось ляжаць і чакаць.

Гэта адзіная мэта, адзіны сэнс твайго жыцця.

Маўчаў бы толькі той голас:

«І я, і мама просім цябе: не рабі ты нічога сам, чакай хуткага вызвалення...»

А голас не маўчыць...

Пад гэты дождж успамінаецца другая пасля пакінутай гімназіі восень, мокрыя, цёмныя вечары, лямпа на родным стале, і сам ён — дужы, з лета яшчэ загарэлы, прыемна стомлены за дзень юнак — над кнігай.

Талстой. «Казакі», «Дык што ж нам рабіць?», «Хаджы Мурат»... Любоў да жыцця, да мудрай прастаты і простага, беднага чалавека, да цяжкай, сумленнай працы, да тых, што працуюць... Любоў, што хвалюе — да захаплення!..

Разам з Талстым у тыя вечары зайшоў да хлопцаў Горкі — з усёй абветранай і сонечнай абаяльнасцю сваіх «басяцкіх» апавяданняў; прыйшоў сурова, бязлітасна глыбокі Дастаеўскі з «Братамі Карамазавымі»; як добры бацька з далёкай дарогі, вярнуўся ў хату — так здавалася — спакойна мудры бывалец Караленка...

Нельга назваць гэта проста чытаннем. Кнігі тыя, калі гаварыць пра Алеся, адна за адной напаўнялі яго душу чароўнымі гукамі і фарбамі, вачам давалі відушчасць, прабуджанай думцы адрошчвалі крылы.

І нічога, што сёе-тое бывала часамі, як сёння бачыцца, наіўным, смешным. Скажам, тая абавязкова

зрэбная кашуля, якую дзядзька Адам пашыў Алесю за помач у малацьбе,— першая, горда здавалася, самастойна зробленая рэч. Як тыя боты, не раўнуючы, што сам сабе пашыў Леў Мікалаевіч... Нават і тая праява захаплення жыццём, калі ён, Алесь, месячнай ноччу, адзін у полі, укленчыў і дакрануўся губамі і носам да халоднай раллі. Нібы Алёша ў Дастаеўскага...

— Ну што, яшчэ ўсё шкадуеш ці не?

Так яго Толя спытаўся ў адзін з тых вечароў.

Алесь адразу не зразумеў. А здагадаўшыся — толькі пацінуў плячыма. Шкадаваць? Што не вучыўся, не пайшоў на панскі хлеб? Што там было б з ім — ну, невядома. А цяпер усё ясна і проста, цяпер яму добра — з прыродай, з працай, з кнігамі, з людзьмі. І ўсё. І нічога не хочацца.

Іх дружба з Толем, іх давер'е адзін аднаму пасталелі, умацаваліся. Ніякіх лішніх слоў непатрэбна.

«Ну, а цяпер?..»

Раней чарвяк, які тачыў яго сумненнямі,— «Чаму я не паслухаў Толі, а пайшоў?»,— маўчаў хоць тады, калі яго пакрывала сабой, прымушала аціхнуць няхай сабе задарагая, а ўсё ж сапраўдная паэзія цыганскай волі.

Цяпер, некалькі мокрых дзён-начэй, паэзіі гэтай няма. Сумненні точаць душу так настойліва, што Алесь кожны дзень, ды ўжо і часцей збіраецца сказаць пра іх Бутрыму — падзяліцца сумненнямі, праверыць, ці не точаць яны і яго, ці не корміць і ён іх пакутным маўчаннем?..

Добра, што ўсё на свеце мае-такі свой канец!..

Пачатку не было,— пачуўся гэты дождж спрадвеку,— а вось канец яму прыйшоў хоць апоўдні.

І сонца выглянула ў замглёным прасвеце. Бо без яго і не пазнаў бы, што даўно ўжо дзень і лета.

— Выскаляешся, маць тваю!..— грабянуў Бутрым.

Алесю гэта не здалося ні смешным, ні лішнім: на нейкі момант адчуў і ён, што ўсё навокал — і дождж, і кусты, і халодная зямля, і нават сонца тут, цяпер — варожае, фашысцкае, пад вахманскай камандай.

Цяпер ужо мела сэнс устаць. Алесь устаў. Можна выкруціць, выбіць аб руку пілотку. Выкруціў. Асця-

рожна, каб не распаўзлася. Страшэнна засвярбела галава. Успомніў, аж тузанула сутаргавым смяшком: «Пасохлі вошы з нэндзы, ды колюцца». Нібы праз сон, з асалодай, з адчаем паскроб чупрыну ўсімі кіпцямі. Пасля дастаў расчоску. Пачаў культурна, па-чалавечы расчэсваць да болю зблытаныя валасы. Падумаў, што і мундзір, можа, варта выкруціць?.. Лепш, можа, пабегаць, патупаць, пабіць рукамі плечы, як у мароз? А шоламу наробіш? Лепш пахаджу па паляне ды памахаю бездапаможнымі крыламі. Ды не хочацца штосьці... Э, пастаю. Пагаліцца? За тры цыганскія тыдні яны галіліся адзін раз. Цяпер ужо зноў пад рукою, як павядзеш па шчацэ, амаль сабачая поўсць. Уявіў свае тупыя лёзы, два толькі засталося, нямылкі, як рэдзька, таўкачык мыла, памазок, люстэрачка. Яны вось пад кустом, у мокрай брызентавай торбе ад процівагаза — нагнуўся толькі і ўзяў. А гэтак жа гэта далёка!.. Не буду. Прайдуся за той вунь куст: можа, нарэшце, хоць сёння пашанцуе... Пайшоў. Схаваўся і, дрыжучы, адчуў, што і займацца, і спадзявацца нават — не варта... Застаецца адно — пад'есці. І другое — ісці. І на ўсё гэта толькі адзін паратунак — чакаць. Трэба чакаць. Гэта ж так проста — сядзь і чакай... Не, не сяду!..

О, як холадна, божа мой, як мне холадна, як мне сумна!..

І як мне добра, што тут, у пустыні, на гэтай жудаснай волі, ёсць хоць адзін чалавек!..

Бутрым сядзеў, бухукаў на тым самым месцы. Не так сабе, аднак,— дастаўшы з нутраной кішэні партманэ, разглядаў свае фота і пісьмы.

Ён карыстаўся самотнасцю, але як толькі Алесь з'явіўся з-за кустоў, Уладзік не памкнуўся нават прыкрыць, што трымаў у руках.

Алесь прысеў каля яго на кукішкі і абапёрся рукой на ягоны плячук. Нібыта толькі для раўнавагі, але чамусьці так і не захацелася прыняць рукі. Цяплей табе ад гэтага, ці што?..

— Думаў: замоклі,— буркануў Бутрым.

Алесь глядзеў на здымак у яго руцэ.

Той самы белы берэт, тыя самыя вочы і губы. А дзе ж цяпло гэтых поўных, як точаных, і загарэлых, мусіць, рук? Дзе хмель гэтых гарачых вуснаў і тая

няёмкасць, з якой ён калісьці не мог, пасля сну, зірнуць у Бутрымавы вочы?.. Няма нічога. Проста здымак. Нават і збеднілася неяк, пасумнела, і папрасцела, і пабрыдчэла ты за гэтыя паўтара гады...

— Пісаць яна, кажаш, умее?

— Пісьмы ж сама пісала. Па-польску, як навучылі... Буху-буху!.. Ды што ты хочаш — баба бабай, куды яна там напіша?..

— Ну пакажы, дзе ўсе разам.

Бутрым накрыў прыгажуню ў белым берэце «пяціхвілінным» здымкам такога ж памеру.

Як гэта ўсё недарэчна, смешна і родна — дзяругаперабіранка павешана на сцяне, а па баках яе, і пад ёю, і над ёю відаць бярвенне. Не, цяпер гэта ўжо ані крышку не смешна. Стары сядзіць, застыўшы перад апаратам, каб хаця ж не змаргнуць, а рукі яго, спрацаваныя, брудныя рукі, як пранікі, прастадушна ляжаць на каленях, уніз мазалямі. Побач са свёкрам — нявестка, яшчэ ўсё як дзеўка, хоць без берэта, гладка прычасаная назад, у квяцістай закрытай сукенцы. Затое ж на прыполе ў яе — усе паглядзіце! — Лявон. Расставіў босыя ножкі ў бакі, нават вялікія пальчыкі адтапырыліся, адкапыліў ніжнюю губку, нібыта толькі што выпусціў соску, і вочы вылупіў зусім яшчэ бяздумна. А над усім гэтым, успёршыся на спінку жончынага крэсла, узвышаецца,— аж самому няёмка, такі здаравенны,— Бутрым пад гальштукам.

— Шэсць месяцаў... Буху-буху!.. Шэсць месяцаў было,— зноў буркануў ён, нават і не кіўнуўшы на сына.

— Напішаш Зосі, што́ і як куды пісаць. Напіша.

Уладзік нават і не спытаўся, хоць для адводу, пра што ён. Усё зразумела і так... Больш таго,— вось яны, першы раз за дарогу, так і пагаварылі, што, можа, і праўда не варта ўцякаць. І сказана вельмі нямала, бо за скупымі, ускоснымі словамі адчуваліся ўжо амаль адны ў абодвух думкі. «Напішаш...» Адкуль жа, як не з лагера? Дык што — далей не пойдзем, выйдзем да жылля, здамося?.. Чаго ж было злаваць на тых — Зданевіча з Іванюком? Можа, яны зрабілі лепш?.. Ніхто не кажа гэтага. Ніхто не думае паддавацца.

Калі звечарэла, і сёння хлопцы пайшлі, вядома ж, на ўсход.

Бутрым ужо і не стараўся не кульгаць. Толькі бухуканне сваё прыглушваў жменяй.

## 5

Прабіраліся кустамі. Пасля пачаўся луг. За лугам, направа, поле і пералескі.

На змярканні прыйшлі да ракі.

І паселі на травяным абрывістым беразе.

Рака была шырокая і так, а тут яшчэ ад дажджоў разлілася. Нейкія пні тырчаць каля нізкага берага з вады — лявей ад іхняга месца. Пакоціцца нізкая, плоская, ціхая хваля — накрые іх, адкоціцца — ізноў яны відаць.

Няўжо так высока пазрэзвалі дрэвы?

Чорт іх ведае.

Дый чорт іх тут бяры!..

Ці паплывём — ніхто не пытаецца. Нават падумаць страшна, што акунешся, што вада цябе возьме за плечы, за грудзі...

— Лодкі,— шапнуў Бутрым.

— Дзе?

— Ты прыгніся. На тым баку. Лявей за той вунь куст... Буху-буху!.. Ім бы не там — буху-буху! — а тут стаяць, каб яны пагарэлі...

Руневіч плавае горш. Гэта вядома абодвум яшчэ з войска. Гэта праверана і цяпер, начамі, на пераправах. Было іх, рэчак, часамі на ноч і па дзве, і па тры. Але такой шырокай не было. І так яны, хлопцы, яшчэ не сядзелі.

— Я паплыву прыганю,— сказаў Алесь.

— Усунешся яшчэ.

Якой суровай насмешкай гучаць гэтыя словы!

І Уладзік, мусіць, адчуў, бо спытаўся:

— А мо прыкуты яны?.. Будзьма ўжо лепей — буху-буху! — удвух.

Ён памаўчаў і, нарэшце, прызнаўся:

— Я, брат, зусім ужо не магу. І нага, і за грудзі ўзяло...

Алесь адчуў сябе старэйшым. Больш таго — адчуў, што страшны, халодны час раздарожжа закончыўся, можна хоць штосьці рабіць, хоць за штосьці ўчапіцца.

— Хадзем,— сказаў ён, устаючы.— Можа, зойдзем яшчэ раз. Тая ж яшчэ чатыры дні таму казала, Стася, што шэсцьдзесят кіламетраў да польскай граніцы. Гэта ж Польшча. Хадзем.

І гэта было ўсё, што ён мог тут зрабіць, на што мог спадзявацца.

Яны ішлі берагам, у той бок, дзе поле. Потым полем — іржышчам, баразнамі бульбы...

І нарэшце адтуль, дзе цямнела града ці то лесу, ці вёскі, ім засвяціў агеньчык.

Хутар стаяў наводшыбе. Града, што цямнела здалёк невыразна, была цяпер вёскай: і сілуэты будынкаў гаварылі пра гэта, і агеньчыкі ў дрэвах.

Агонь гарэў у кухні. А знадворныя дзверы, у калідор, былі адчынены.

Хлопцы зайшлі, абмацалі дзверы налева. Пастукалі.

Голас пачуўся — нямецкі...

Аднак увайшлі.

Фраў была маладая, лёгкая, у кароткай цёмнай сукенцы, каб іншым разам, дык і мілавідная. На стук яна спакойна, як сваім, адказала: «Herein!»[1] Пасля сумелася на момант, амаль непрыкметна ўзяла сябе ў рукі і, выслухаўшы, што тут да чаго, сказала весела, нават гасцінна:

— Ну што ж, я зараз вас накармлю. Айнэн мамэнт...

Сваёй энергічнай і спрытнай хадой яна махнулася ў бакавыя дзверы.

Пакуль яны за ёю хутка зачыніліся, Алесь заўважыў, як не сваімі вачыма, побач з цёмнай сукенкай — плячо і згіб рукі — у белым...

«Проста здалося»,— падумаў.

І праўда, яна вярнулася адтуль адна, па-свойму гасцінна-вясёлая, і, як нічога ніякага, завіхнулася каля пліты.

— Я вам кавы звару. Гут? Дык вы хоць сагрэецеся на дарогу. Майн гот, чаго толькі не робіць гэтая вайна! А нам, вы думаеце, нам, самім немцам, лягчэй? Мне тут адной — жыццё?

Кава варылася бясконца доўга.

---

[1] Уваходзьце!

А гаспадыня, увесь час шчабечучы, проста не даючы гасцям уставіць і паўслова, як ні спяшалася, а паспела толькі адкроіць ад доўгай белай булкі дзве і яшчэ дзве лустачкі. Тады падбегла да буфета, выняла слоік са шмальцам, пачала тыя лусты намазваць. Тады сказала: «О, і гатова!» — падышла да пліты, узяла кафейнік, падышла да стала, нахіліла кафейнік над першым кубачкам...

І ў гэты момант з калідора ў кухню рынулася многа-многа людзей!.. Як тады, на камандзе, у дзень забастоўкі...

Палонныя як сядзелі на табурэтках, так і не ўсталі.

— Na, meine Herren, was ist denn los? [1]

Салдат — тысячаморды, шэры, неадчэпны вахман — зноў тырчаў перад імі з настаўленым карабінам. А потым апусціў яго. Два панічы ў цывільнай вопратцы,— адзін зусім як пастушок з віншавальнай альпійскай паштоўкі,— апусцілі свае пісталеты.

Нехта чацвёрты стаяў каля самых дзвярэй...

І ўсё. Больш не было нікога.

— Wo gehen Sie hin? [2]

Вахман спытаўся таксама, як пыталіся ў хлопцаў у двух папярэдніх нямецкіх дамах.

Толькі што гэта пытанне гучала цяпер пачаткам іх будучых допытаў.

— Польскі? Моя матко, цо то ест?..

— Не, беларусы. Ідзём у Савецкі Саюз. Дахаты.

— На, гут, я вас трохі правяду.

Вахман заліўся сытым рогатам. А потым, з вышыняў сваёй высакароднасці або з увагі да слова «Саветруслянд», дазволіў:

— Можаце выпіць вашу каву. Мы пачакаем.

Ён выняў партабак, пачаў закурваць люльку.

Панічы зашапталіся каля акна.

«Нехта чацвёрты» выйшаў трохі наперад — у портках, басаногж у драўляных выступках, у нацельнай кашулі...

Алесь пазнаў плячо і згіб рукі ў белым.

«Ну, што ж,— падумаў амаль абыякава,— мне тады не здалося...»

---

[1] Ну, паночкі, што ж тут у вас?

[2] Куды вы ідзяце?

Баўэр вачэй не хавае. Будзь тут нехта такі, хто захацеў бы адбівацца, ён — малады, здаровы мужчына — накінуўся б, відаць, з усёй сваёй адкормленай звярынай сілай. А так яму нават як быццам няёмка... Якое там, к чорту, няёмка! Бачыш, і не змаргне...

— Яшчэ адну? Прашу вас, можна яшчэ.

Алесь зірнуў у гаспадынін мілавідны твар, у гасцінна-вясёлыя вочы.

«Ах, майн гот, як разумна, як хітра вы ўсё гэта з намі зрабілі! Як доўга вы — можа, нават і вечна? — і як шчасліва вы будзеце жыць!..»

Ён палажыў недаедзеную лустачку, адсунуў кубачак, хоць той і так стаяў на сваім месцы, і падкрэслена ветліва сказаў:

— Danke schön, gnädige Frau [1]. Вы з вашым мужам — цудоўныя людзі.

Тады, па-свойму:

— Хадзем, Валодзя. Трымайся, браток...

З нечым высокім і цёплым, што зноў, ад гэтага слова, пачулася ў душы, Алесь — перад вахманскім карабінам, побач з Уладзікам — выйшаў на двор.

У калідорчыку і над ганкам цяпер было ўключана святло.

Пад лямпачкай са шчыткам віднелася белая дошчачка, літары: Bürgermeister.

## КРУГ ЗАМЫКАЕЦЦА

### 1

Салдат, у кішэні ў якога ляжыць адна манетка дробязі,— купляе карову. Ну, а калі не карову, дык малако ўжо напэўна.

На манеўрах, успамінае Алесь, яны звычайна заходзілі ў хату ці на двары, сустрэўшы гаспадыню, пыталіся:

— Можа, нам пані прадасць малака?

І пані, часамі босая або ў палапленай кофце, паіла

[1] Шчыра дзякую, ласкавая пані.

іх малаком, выносіла хлеба, шкадавала ласкавым словам. А пра грошы ёй, вядома, і не гавары.

Аднойчы яны ўтрох зайшлі на двор багатага, за плотам ды за брамай, хутара. Прывітаў іх сабака, што аж роў, нацягнуўшы ланцуг, і цэлая процьма галагаbelістых індыкоў, якім салдаты адразу ж прысвіснулі. Тады з дому выйшла старая высокая гаспадыня і на іх «добры дзень» моўчкі кіўнула галавой. Пачуўшы славутае «Можа, нам пані прадасць малака?», яна павярнулася і пайшла. Што рабіць — ці чакаць, ці ісці?.. Пачакалі. І даўгавата такі, давёўшы «сэплі» бедных індыкоў ледзь не да белага калення. Ды вось, нарэшце, гаспадыня выйшла з дзвярэй, несучы збанок малака, тры кубкі і тры вялікія лусты белага хлеба з маслам. Пайшло ўсё гэта на хаду. Калі ж не трацячы формы, яны спыталіся: «Колькі з нас?» — пані махнула рукой, забрала посуд и пайшла. Нават на «дзякуй» не адказала.

— Што яна — нямая? — здзівіўся адзін.

А другі, ён быў мясцовы, кашуб, адказаў:

— Не нямая, браце, а немка. Іх тут многа на калідоры [1].

Той, хто гоніць цяпер Алеся і Уладзіка па брукаванай вуліцы вялікага сяла, таксама не нямко, а немец. Але маўчыць ён, як нямко, бо ён не проста немец, а шуцман. У пікельгаўбэ, з пісталетам на баку — той самы бог, застаўшыся з якім «з вока на вока», дурнеў ад страху добры гер Ракаў. Толькі што гэты бог не пузаты, не стаіць на скрыжаванні статуяй, а аберуч трымаецца за ручкі веласіпеда і цяжка, падкута тупае за палоннымі.

Злавілі хлопцаў, як яны разабраліся потым, паблізу ад маёнтка, куды бюргермайстар і бегаў з вёскі па вахмана. Той загнаў іх у пусты яшчэ склеп, а ўранні прыехаў гэты паліцэйскі.

Выгнаўшы іх на палявую дарогу ў прысадах, шуцман сказаў:

— Толькі наперад. Крок улева, крок управа — буду страляць. Марш!

[1] Маецца на ўвазе «Гданьскі калідор».

І больш — ад маёнтка да гэтага сяла — ні слова.

Калі праходзілі міма пякарні і адтуль дыхнула цёплым, хмельным пахам сітніцы, Алесь успомніў, што ў кішэні ў яго ёсць яшчэ недзе адна «лагермарка» (пакінуў дома паказаць), успомніў колішняе «Можа, нам пані прадасць малака?» і, павярнуўшыся, сказаў:

— Гер вахман, дазвольце нам купіць хлеба. У нас ёсць боны.

«Хлеб-то па картачках, аднак натрапіш часам і на добрую душу...»

— Halt's Maul! [1] Марш!

«Гэта ўжо і не немец...»

З сяла дарога іх павярнула на асфальт. Бутрым моцна такі кульгаў, ішлі памалу. Добра, што хоць не гоніць... І бухукае ж Уладзік — аж да слёз. Моўчкі, нага за нагу, ад ліпы да ліпы, і апынуліся ў полі.

— Гальт!

Прыставіўшы да жывата веласіпед, шуцман палез у сумку, пакорпаўся там і дастаў штосьці, падазрона загорнутае ў паперу.

— Мой другі фрыштык. Бутэрброд з каўбасой. Разламіце і марш. І пра гэта — нікому ні слова.

Яны жавалі на хаду, кожны сабе, не ведаючы, што і падумаць, а ён пачаў:

— Я сам, па сутнасці, салдат. Мяне таксама мабілізавалі. У верасні, як толькі пачалася гэтая праклятая вайна. Я — удавец. Дома, за сто пяцьдзесят кіламетраў адгэтуль, старая маці і дачка, шэсць год. Так. Я сказаў і яшчэ раз магу сказаць: праклятая вайна. І я не хацеў бы, каб яна скончылася заўтра ўранку, а іменна, цум тойфэль, сёння, вось цяпер...

«Як шмат людзей і тут, у Германіі,— думаў Алесь,— робяць не тое, што яны хацелі б!..»

— Так. Я таксама ахвотна пайшоў бы дахаты. Але што ж гэта будзе: я сабе не хачу, другі сабе не захоча. Ordnung muss aber sein!.. [2] Хто ж пакарае праклятую Англію? Не нам разбірацца, што трэба, што не. Фюрэр ведае, што ён робіць.

---

[1] Заткніся!

[2] Але ж парадак павінен быць!..

«Хлеб мы твой праглынулі. Усё лягчэй цяпер. Нават плявузганне слухаць...»

— Вось і вы. Шчасце ваша, што вы — не палякі. Трэба рабіць, жніво, а вы — уцякаць! А вас жа і кармілі, і даглядалі па-людску. Так. Што ж гэта будзе, калі ўсім поўзаць — хто куды? Дый куды ты спяшаешся? Як ты ад нас уцячэш? Ды мы ж — саюзнікі, у нас жа з вамі дагавор!..

«Ой, не з жаласці ты нам свой фрыштык аддаў!..»

— Так. Хутка абапал нашай дарогі пачнуцца кусты. Каторы-небудзь з вас, а то і абодва вы падумаеце, што вось і можна зноў уцячы. Але ж гэта, я вам павінен сказаць, памылка. Так. І за такую памылку вам давялося б дорага заплаціць. Першае — я павінен буду страляць. А я страляю вельмі добра. Маю нават узнагароды за гэта. З арміі. Так. Другое — за тры кіламетры горад. Адтуль, як толькі я пачну страляць, за вамі кінуцца салдаты. З матацыкламі і аўчаркамі. Ну, а тады, зразумела, капут.

Алесь усміхнуўся. Хацеў, нарэшце, перакласці Бутрыму, хоць збольшага, што пачуў, хацеў хоць локцем яго штурхануць, напомніць штосьці адпаведнае, для смеху, ды раздумаў.

«Чорт іх ведае, колькі там пуду ў шуцманскіх нагах? Возьме ды пальне. Гэта табе не гер Ракаў...»

Да горада — паміж драбналесся, а потым полем — было, як аказалася, не тры, а дзесяць кіламетраў.

...Сцены пакоя знізу даверху завешаны здымкамі адбіткаў вялікага пальца. Павялічаны здымкі настолькі, што нагадваюць мноства, несамавітае мноства бязлікіх, стандартных партрэтаў.

У прасценку паміж вокнамі, на чыстым ад тых адбіткаў кавалку белай сцяны,— яшчэ адзін партрэт. Абавязковы.

Пад дзікімі вачыма фюрэра і свастыкай на яго рукаве, унізе, за пісьмовым сталом, сядзіць спакойны мяккагалосы мужчына ў светлым цывільным касцюме.

У пакой час ад часу бясшумна заходзяць іншыя, больш маладыя мужчыны, таксама, як па стандарту, у светлых касцюмах і ў жоўтых туфлях, якія ступаюць надзвычай мякка. Галасы гучаць ціха і роўна.

Твары нагадваюць дактыласкапічныя адбіткі, толькі рухомыя. Маладыя прыходзяць, выходзяць, а той, што пад фюрэрам,— сядзіць тут, мусіць, заўсёды.

— Куды вы ішлі? — пытаецца ён па-польску.

— Дахаты. У Савецкі Саюз. Мы беларусы.

Пасля вахмана ў бюргермайстравай кухні пытанні другога немца і нават свае адказы здаюцца Алесю таксама ўжо стандартнымі.

Стандартная і стрыманасць ад слоў «Савецкі Саюз», «беларусы»...

— Прозвішча? Імя? Прафесія?..

Пакуль ідзе гэты ветлівы, нібы ўрачэбны, допыт, у пакой бясшумна заходзіць і становіцца каля акна яшчэ адзін мужчына.

Твар у яго значна старэйшы, валасы з сівізной, вусы вельмі тактоўна падобныя да тых, што вышэй і лявей, на партрэце. Адчувае ён сябе тут не падначаленым: свабодна, залажыўшы рукі назад, прыпёрся да падаконніка, слухае.

— З якога шталагу? Ваш асабісты нумар? З якое арбайтскаманды?..

Выбраўшы даўжэйшую паўзу, азваўся той, ад акна.

— Я ведаю Беларусь,— загаварыў ён, наўздзіў палонным, па-руску.— Я быў там у васемнаццатым. На бронецягніку. Барысаў, Орша...

І ўсё так мірна ды міла, нібы той бронецягнік хадзіў да нас у госці ці ў грыбы...

Што тут? Няўжо гестапа? Тое самае, пра якое і ў вёсках, і ў маёнтках, і ў гарадках, дзе пабываў, усюды гавораць — хто з захапленнем, хто з жахам:

«Тады ўжо яго — у гестапа. А тыя ведаюць, што з ім рабіць!..»

Чаму ж такая стрыманасць, такая ветлівасць — аж вусцішна?.. Як тады, калі бралі ў палон, калі «рускі таксама піф-паф!..»

Няўжо і гэтых звязвае дагавор пра неагрэсію?

Абавязвае іх падцягнуць кіпцюры, ступаць далікатна, мяккімі лапамі?..

Горад даволі вялікі, як той, дзе іх шталаг. Звычайны горад — з вітрынамі, кветкамі, кірхамі.

І паход іх — звычайная справа для тых, што лю-

буюцца. Ясны і справядлівы малюнак: шуцман гоніць палякаў. Па бруку, як і належыцца.

«Цікава толькі, куды?»

## 2

Алесь з Уладзікам распранаюцца. Здымаюць амаль зусім сухія, нарэшце, мундзіры, палапленыя і на латах дзіравыя порткі, разуваюць карэлыя чаравікі.

Стары ў цёмна-сінім халаце кідае ім з паліцы белае падабенства бялізны, шкарпэткі, штаны і курткі ў шэра-сінюю палоску, нейкія шапачкі ці берэты, падсоўвае нагой па цэменце падлогі грымучыя, вялікія дзеравяшкі, «клёмпы».

Пры шэрай сцяне гэтай складской адрынішчы з высока паднятымі, закратаванымі акенцамі ёсць і стаячае люстра.

— Культурыш,— шэпча Алесь.

Хлопцы глядзяць адзін на аднаго і вось, нарэшце, усміхаюцца.

Потым яны, паласатыя, становяцца перад паплямленым праталінамі люстрам, і Бутрым прыглушана гудзе:

— Даслужыліся! От дзе каб зняўся!..

Яны засмяяліся б нават, ды Уладзік зрываецца раптам на кашаль.

Немец трасе маршчыністым, пабрытым падбароддзем:

— Вар'яты! Ім яшчэ весела!..

— Мы не вар'яты, фатар, мы палонныя,— кажа Алесь.— Нас хутка ў наш лагер пашлюць.

— «Паш-люць...» У мяне тут такія ўжо ёсць. Яны і яшчэ ўсё чакаюць. Некаторыя зараз па году. А другія... Ну, пайшлі! Там чакае наглядчык Швальбэ. Там вам адразу будзе не смешна.

Чатырохпавярховыя сцены абапал даўжэзнага і шырокага пралёту. Адкрытыя маршы жалезных пакручастых лесвіц. На кожным паверсе — бясконцыя шэрыя дзверы, памосты калідораў з парэнчамі, за якімі — жалезныя сеткі: ахтунг, самагубцы!

Дзве пары драўляных «клёмпаў» спачатку ляскаюць па цэменце, пасля па сходах лесвіц — а гул ад іх

і ад кашлю, як у царкве! — пасля каля парэнчаў на трэцім паверсе і, нарэшце, мільённае:

— Гальт!

Пузаты наглядчык — і тут пузаты, у турме! — абедзвюма... аберуч трымае паперку, пад паперкай — вялікі ключ, і слепіцца, чытае:

— Бут-рым! Каторы Бутрым? Ты, кульгавы? Сюды. Кашляй тут колькі хочаш.

Ён адмыкае камеру, і хлопцы ледзь паспяваюць кіўнуць адзін аднаму: «Пакуль! Пабачымся...»

Яшчэ ўсё ўпэўнена і амаль бесклапотна.

— А ты называешся... Ру́-не-вітш. Нумар ваеннапалоннага... Ага! Дапасаваў якраз! Ану!..

На камеры стаяў і сапраўды, нібы спецыяльна, Алесеў нумар: 133.

Дзверы за ім зачыніліся.

...Усяго тры бадзяжныя тыдні, з такім адчуваннем, што ты — пад небам толькі, што ты на ўсёй зямлі — адразу. Тры тыдні безабароннага перад стыхіяй блукання — і ты вось аж так засумаваў па тым, да чаго прывыкалі, з чым парадніліся многія пакаленні, цябе ахапіла ўжо аж такая прага дамавітасці, што зацішным прытулкам здаецца нават і гэтая адзіночка!

Можа, і ў гэтай хто звар'яцеў?..

І на гэтых вось адкідных нарах начамі, можа, не адзін ужо ўяўляў сябе чалавекам, які ад летаргічнага забыцця прачнуўся ў душнай цемрадзі і, першы раз працягнуўшы руку, абмацаў тры дошкі века, наваленага грудамі мёрзлай зямлі...

Колькі вачэй глядзела на гэтыя краты?..

А табе, маладому і нават вясёламу дурню, ўсё гэта здаецца толькі ўступам, створаным для твайго адпачынку.

Табурэт, на які захацеў і прысеў.

Стол, на які палажыў свой локаць.

Нары, якія...

Званок пачуўся. А потым — крокі ў такіх, як тваё, дзеравяшках.

Бразнуў ключ, адчыніліся дзверы, і дзве рукі ў паласатых рукавах, як і твае, працягнулі кавалак хлеба, лыжку і міску.

Зноў зачыніліся дзверы, пачуліся крокі.

Міска цяжкая, цёплая. Рука твая, адзічэлая пад дажджамі, ледзь прыкметна дрыжыць, пераможна пяе, адчуваючы гэты цяжар і цеплыню. На кавалку хлеба, большым за лагерны, ты заўважаеш сухую скварку!.. Зубы твае мёртвай хваткай упіваюцца ў хлеб, рот з небяспечнай прагнасцю напаўняецца, аднак туды яшчэ неяк трапляе і лыжка цёплай, духмянай баланды. Ты жуеш, ты глытаеш і ты здаешся сам сабе, бадай што, найшчаслівейшым!..

Ты, вядома, не думаеш так,— не настолькі яшчэ аскацінеў,— ты падсвядома, тупа адчуваеш сваю нечаканую ўдачу, нават нібы не верыш у гэтае мноства яды, стараешся глынуць яе хутчэй, пакуль там хтосьці апамятаецца, зойдзе і забярэ...

Ды адчування сытасці, калі ты ўжо сядзіш, ашаломлены прагнай атакай, няма.

Місачка бульбянога супу, акрайчык хлеба і марная скварачка — гэта ж толькі на трошкі больш за ўчарашні юдаўскі пачастунак (кубачак кавы і недаедзеная, тоненькая лустачка са шмальцам), за той, другі кавалак хлеба (нішчымнага) і другі, таксама маленькі (ну, проста як нейкая белая кветка), кубачак малака, якім цябе паіла дзяўчынка, што паўтыкала ў высокае, шэра-блакітнае неба сем зорак Вялікай Мядзведзіцы...

Званок пачуўся...

Дзве рукі ў паласатых рукавах моўчкі забралі міску і лыжку.

А потым і ўснаў, дагэтуль зведзеных у прадбачаным распарадкам маўчанні, раптам пачуліся ціхія словы:

— Наступны званок — адбой. Можаш паслацца і спаць.

І той самай, амаль механічнай і ціхай скорагаворкай:

— Не прызнавайся, калега, ні ў чым, бо і так мы адгэтуль не выйдзем. Ты адкуль? Я ўжо тут...

— Гальт маўль! Польнішэс швайн!

І гэта — апошні голас.

Калі не лічыць адыходнай драўлянай хады стукаты.

Зноў — і, здаецца, даўно — цішыня.

І самота...

Потым званок адбою.

Яшчэ ўсё не вязень, яшчэ ўсё палонны-ўцякач, які апынуўся пад дахам, бадзяга, якому ўдалося пад'есці і расцягнуцца пад коўдрай,— Алесь заціх, задумаўся...

## 3

Увесь сённяшні дзень,— высока і недасягальна над усім, што давялося перажыць,— ішоў з ім вобраз яго заплаканай маці.

Яна прыходзіла ноччу, знайшла свайго хлопца ў пустым, яшчэ не засыпаным бульбай склепе нямецкага пана, на ласкавым ахапку саломы. І ўсе яе думы, усе пачуцці сышліся ў адным толькі слове:

— Сынок...

І гэта было так многа — якое там! — гэта было тады ўсё, што ён мог бы хацець ад жыцця, і ніхто ва ўсім свеце — ён ведае цяпер: такім вялікім! — не змог бы даць яму больш.

Ён вярнуўся ў той час, у свой пачатак жыцця, калі мама была самая лепшая, калі ў гэтым не бывала найменшага сумлення, не бывала нават патрэбы думаць так і дзякаваць камусьці за ўсё гэта, калі было толькі шчасце, само яно — адно, адзінае — і ў ім, і навокал яго.

Пазней, пасля маленства, было і інакш...

Тыя пачуцці нездавальнення ёю, старой, суровай і жорсткай, што нарадзіліся ў яго сэрцы разам з чыстай і бруднай, ужо не зусім дзіцячай і яшчэ не юнацкай закаханасцю ў настаўніцу, мелі і свой працяг.

На пятнаццатым годзе жыцця ён адмовіўся ехаць да споведзі. І яна, цягавіта-набожная маці, хацела па прывычцы, памкнулася нават адлупцаваць неслуха, чым абразіла ў ім і мужчыну, і чалавека.

А ўжо калі яму было шаснаццаць, спрачаўся ён з ёю куды больш упэўнена:

— Накуплялі гэтай зямлі! Што нам, больш за ўсіх трэба? Па два кавалкі будзем глытаць за раз?..

Тут яна гаварыла, што гэта ж яны з нябожчыкам бацькам пра іх толькі і думалі, пра дзяцей, пра яго,

«бо хто ж мог падумаць, што ты ў нас будзеш такі вось разумненькі!..». І горка, абражана плакала.

Ды гэта яшчэ — так сабе, за гэта ён не адчуваў і не адчувае віны.

А было і іншае, бясконца, бязлітасна дзікае, калі ён — праўда, даведзены да адчаю сваім хлапечым роздумам над сэнсам жыцця,— сказаў ёй аднойчы:

— Ах, вы мяне нарадзілі? А хто ж вас, скажыце, прасіў?!.

І таксама не думаў, што ён вінават. Нават і апраўданне знаходзіў. Ды не абы-дзе, а ў самога з маленства любімага Пушкіна:

> Дар напрасный, дар случайный,
> Жизнь, зачем ты мне дана?..

Слова «случайный» было для яго асабліва балючым: яно абражала брудным, страшным намёкам на тое, як ён з'явіўся на свет. З памяці не сыходзілі словы маці, падслуханыя ім даўно і выпадкова:

«Сорак чатэры было мне, калі я Алесем хадзіла. Самой было, мілая, брыдко...»

З прыходам сталасці — пад уплывам і кніг, і жыцця — ён часта думаў і гаварыў з Толем пра бацькоў, пра іх абмежаванае, па прыкладу многіх, і на рэдкасць настойлівае імкненне забяспечыць дзяцей «найбольш надзейным кавалкам хлеба» — уласнай зямлёй.

Адгэтуль ішла яе, матчына, і для самой сябе, і для другіх бязлітасная працавітасць, яе нездавальненне вальнадумствам сыноў, нездавальненне, якое яна, па натуры сваёй, выказвала часта і энергічна.

І трэба было разумець, што і ў абмежаванасці яе светапогляду, і ў паслядоўнасці, з якой яна трымалася яго, жыла яе адзіная любоў — да іх, сыноў, адзіны сэнс жыцця, якое не кожнаму лёгка і проста перабудоўваць.

Спачатку яна думала, што хлопцы яе — от, начыталіся, а пасталеюць — пройдзе, і крыкам сваім памагала ім пасталець. А потым, ўбачыўшы, што гэта не праходзіць, яна пачала спакваля здавацца, тым больш што і старасць брала сваё, і цэлыя ночы да слёз, да горкіх скаргаў балелі хворыя ногі.

— Яшчэ гадок-другі, пажэніцеся, парвяце адну гаспадарку на дзве — будзе катораму-небудзь і мала.

Укусіць свая вош — успомніш другі, як маці з бацькам петавалі век. Ён у горадзе, а я дома. Тады мо дзякуй каторы скажаш, хоць наўздагон...

Яна не адступіла ад свайго, а толькі аслабела ў барацьбе.

А доказам — таксама моцнай, як і ўсё ў яе,— любві да сыноў былі слёзы па іх, калі наступала разлука, калі ім бывала цяжка.

Гэтага маці хапала. Асабліва шмат гора прынеслі ёй апошнія гады.

Аўдавела Мальвіна, дачка. Малыя дзеці, вялікія слёзы. Толькі іхнюю хату адчыніць — адразу ўголас. Адной шэсцьдзесят, другой за сорак — пасядуць побач, як сёстры-ўдовы, і плачуць. Вясной трыццаць сёмага года Толю ўзялі ў войска. Праз год нявестка, знаёмая толькі па пісьмах і фота, напісала з Кіева,— таямнічымі, страшнымі словамі,— што «Сярожы няма, як і многіх», а сама яна засталася з малымі без кватэры, працы і хлеба... Толя прыйшоў, а праз зіму забралі Алеся. Аднак, што да салдацкай службы («Увесь жа свет служыць»), у маці былі трохі іншыя слёзы, чым тыя, якімі яна, часта ночы наскрозь, плакала па Сярожу, якімі яна плакала, відаць, і па ім, Алесю,— да першай яго вестачкі («Іх бін гезунд...»), дый, трэба думаць, плача і цяпер...

«Так, я часта хацеў, каб яна была іншая, лепшая. І вельмі хацеў. Але ж яна ў мяне, як і ва ўсіх,— *адна!..*»

Так думаў ён аднойчы ў войску, у начным бяссонным роздуме, здалёк. І з думкай такой, народжанай сталасцю і разлукай, ён часта ўспамінае сваю старэнькую — і з непрыемным, і з добрым, якое было,— шкадуючы яе, бо і яна, за катаргу сваю, за чалавечнасць, за любоў да прыгожага, чыстага, таксама ж заслугоўвае спагады і трошкі цяпла.

Яна амаль што зусім непісьменная, але вельмі любіць, калі хто чытае ўголас. І помніць многае нават з таго, што ёй чыталі яшчэ Мальвіна або Сяргей. Многа чытаў ёй падлеткам Алесь, асеннімі ды зімовымі вечарамі. Тады яна рабілася другой. То ціха і нястомна слухала пад вуркатлівы шум верацяна і механічна-руплівае смыканне кудзелі, то дабрадушна, неяк молада, калі дык ледзь не па-дзіцячы, смяялася з чаго-не-

будзь, то спынялася прасці, доўга, пра ўсё забыўшыся, думала, і на вачах яе паяўляліся слёзы.

Любіла расказаць што-небудзь і сама. Найбольш ахотна — з даўнейшага.

Часта Алесевы думкі — да сцішнавата-радаснага адчування жывой, зусім рэальнай і, як у кнігах, цікавай гісторыі роднага наваколля — яна заносіла ажно ў легендарна далёкія дні прыгону, паншчыны, пра якую ёй таксама вось, за прасніцай, расказвала яе маці.

«...Ці нават баба, здаецца, хай будзе на хлеб спор. Тады яшчэ снегу, казалі, наносіла па камінэ, а ласе дык трубілі на саменькім загуменні. Неяк запольцы нашы малацілі панскае, а пан прыйшоў і загадаў аднаго мужчыну разлажыць на пасадзе і біць за штосьці там, каб таксама нібыта ў восем цапоў. Разлажылі яго, закасалі сарочку, спусцілі порткі. А сястра таго чалавека — Хвеськава баба Луцэя (я яшчэ, як праз сон, памятаю яе, зусім старэнькую) кінулася пану да ног, галосіць, рукі цалуе: «Не біце!..» «Ну добра,— кажа пан,— ты пацалуй яму... дык не будуць». Яна і зрабіла так. Пан з цівуном рагаталі. А людзям гэта не смешна было. І сёння, сынок, нікому не смешна...»

Захапіўшыся, яна часта нібы зусім забывалася, што Алесю пятнаццаць гадоў. Успамінала, колькі яна, «дзеўка з добрае хаты», паплакала, пакуль яе тата дазволіў ёй выйсці за беднага хлопца.

«...Мікола мой быў такі самы жох, як наш Толя. І спраўны, і дома вечарамі не заганяўся. А ўжо ў святыя дні — дык што і гаварыць. Толькі ж не так тады маладыя, як вы цяпер, адзяваліся. Дзе там, каб хромавы вобуў!.. Мой прыйдзе тыя разэ, як і ўсе,— у лапцях, толькі што новыя яны ды анучы беленькія накруціць. Пойдзем кадрэль ці бычка — як на падмеці!.. І сядзела я з ім, і на начлег тады з Пасынак і Заполля ездзілі разам... Але ж мы шанаваліся, не тое, што цяпер... Дагаварылася, дурніца, цьфу!..»

Але памаўчаўшы, яна расказвала далей. Як яны дружна век пражылі, як ён ні разу нават голасу на яе не падняў. «Мая хадзяйка... О, мая — хадзяйка!..» Прыедзе ў водпуск, дык тая адзежа на ім жалезнадарожная ажно шамрыць. А чысты сам, а харошы — як гасудар!..»

Успаміналася і смешнае: «Ажно, здаецца, грэх супраць ночы кашале плясці». Як жылі ў іх калісьці стары і старая. Яна глухая, ён слепаваты. На «праведэ», увечар перад вадохрышчам, узялі яны свечку, мелу кавалак, крыжы на вушаках пісаць, міску жыта і пайшлі ў свіронак.

«...Дзед пайшоў першы. Ён там будзе стаяць у кутку, а баба пытацца з парога. Даўней яно так было, па святому абраду. Яна пытацца, а ён адказваць: «Хто там ходзіць?» — «Пан бог ходзіць!» — «А што ён робіць?» — «Жыто, пшаніцу родзіць!» — «Урадзі, божа, жыто, пшаніцу, усякую пашаніцу!..» І сее жытам ва ўсе бакі. Ну, дзед пайшоў у куток, а баба — па-куль яна тую свечку запаліла ў парозе — стаіць ды вэргае: «Хто там ходзіць? А што ён родзіць?..» Свіронак іхні, як і наш, на пограбе. Дзед наступіў на заткала ды ў яму — бух! Раве адтуль: «Г... ён родзіць! Ніяк не ўстану, падло ты глухое!..»

Часамі маці і спявала. Ад думак нейкіх, ад успамінаў. Шчыра і хораша тады спявае чалавек. І сам ён робіцца харошы, хоць і голасу няма. У мамы быў калісьці голас, была калісьці маладосць, і часта песня яе ішла адтуль, ад маладое, бяздумнае радасці. А то ўспаміналася жытняе шапатліва-гарачае мора, серп у руках, хустка над потным ілбом, палатняная калысачка на стаяках, у цянёчку снапоў, думкі пра мужа ў далёка-далёкім вагоне... І вось яна ціха, на рэштках сардэчнага голасу, пра ўсё забыўшыся, вяла́:

Ой, час — пара дадоманьку,
Упала раса на пожаньку.
Старым бабам ручкі баляць,
У маладзічак дзеці плачуць...

Цяпер Алесь, успомніўшы свой сон, цяпло яе слёз на сваім халодным, аброслым твары, бездапаможныя пацалункі і адзінае, найдаражэйшае слова — «сынок!..», падумаў радасна, што пачуцці, якія ён сёння носіць,— куды мацнейшыя, можа, куды чысцейшыя, чым у маленстве.

«Я прыйду, дарагая, я ўсё ж такі калі-небудзь прыйду!.. І ўсё зраблю тады, каб ты адпачыла ад слёз, ад пакутаў сваіх, ад беспрасветнай працы для нас, для зямлі. Ну, ты там бачыш цяпер, што не варта было надрывацца?.. Ты адпачнеш, будзеш сядзець пад ха-

тай, дзе сонца асвеціць рабіну, яе хвалююча-аранжавыя, маладыя гронкі, дзе наградах, яшчэ ўсё табою аполатых, будзе пахнуць кроп, а старая карова, вярнуўшыся з пашы, толькі цябе будзе клікаць з даёнкай. А я буду зноў, як калісьці, і больш, чытаць табе — і тое, што напісалі другія, і тое, што напішу я сам...»

Тут ён яшчэ раз успомніў словы з Толевага першага пісьма:

«...А рукапісы твае яна хавае ў скрыні так раўніва, што не даступішся і не ўпросіш...»

Ён павярнуўся на спіну і ўсміхнуўся, падумаўшы зноў, што сёння яму, як відаць, не заснуць тут, «на новым месцы».

## 4

У шталагу, калі Алесь, растрывожаны песняй «Хлопцы, настаў наш час», заціхнуў у траве, адзін пад белымі высокімі аблокамі, думкі былі і такія:

«Як нас тут многа! Якое мноства людзей у адным месцы! Кажуць, сорак пяць тысяч. Як гэта дзіўна, нябачана — з розных краін, розных расаў, з рознымі мовамі. І ў кожнага — як тая бабуля, гледзячы на полк салдатаў, казала — яшчэ ж і маці недзе ёсць!.. Яшчэ ж было таксама і маленства. Каб гэта выйсці яму нейкім цудам наверх успамінамі кожнага,— як расцвіла б яна, акружаная калючым дротам, кулямётамі, пражэктарамі зямля, вясняная трава якой дашчэнту і надоўга вытаўчана горка-гуляшчымі нагамі!..»

Думалася таксама,— і тады, і раней,— што ў кожнага з гэтых пакутнікаў апроч агульнай тугі па хлебе і волі, апроч тугі па блізкіх ёсць яшчэ і туга па любімай працы.

Алесь тужыў па свежай баразне, калі яна вясной, нібы ўздыхаючы з доўгачаканай палёгкай, пераварочваецца за плугам з ціхім, песенным вуркатам, крышыцца тлустымі, цёплымі камякамі, гатовая і прагная прыняць і залацісты дождж зярнят, і насевак са шчодрага неба.

А яшчэ больш тужыў ён па белым полі паперы, па баразне радка... Ды так тужыў, што на фронце, у самыя крутыя моманты, хлопцу хацелася застацца абы

з галавой ды з адной рукой — хоць за такую цану, толькі б жыць ды пісаць!..

Пачалося гэта даўно, амаль у самым недзе пачатку. Здаецца нават, што разам з жыццём пачалася яна, яго закаханасць.

Хоць факты гавораць пра гэта трохі інакш.

Спрытнейшы ў іхняй хаце быў Толя. Ён і рысаваў, здзіўляючы, радуючы гэтым яшчэ бацьку, ён быў здатны і штуку якую прыдумаць, і забаўку пацешную зрабіць.

Алесю было дзевяць год, калі ён склаў на пашы верш. Прыгнаўшы з ранак каровы, пачаў чытаць яго Толю, у якога тады нарывала нага. Дождж ішоў, Алесь намок, як цюцька, і пад мехам, але што там было яму да дажджу!.. Задыхаючыся ад радасці, ён расказаў свой верш... І нават забыўся прызнацца, што склаў яго з Марыліным Грышам удвух.

— Э, хіба ж так гэта трэба рабіць? — сказаў Толя.

Прачыкіляўшы на адной назе ад тапчана, дзе ён ляжаў, да стала, «майстар на ўсё» ўзяў на покуце стары сшытак, пяро, чарніліцу і — стаў паэтам.

Дарэчы, Алесь і Грыша, ідучы непасрэдна ад жыцця, свой верш напісалі па-свойму, па-беларуску:

Мы на ржышчы і на пашы
Напасём каровы нашы.
І хоць дождж усё ідзе —
Не баімся мы нідзе...

А Толя, як заядлы паслядоўнік Пушкіна, хапіў куды вышэй. Напісаў ён таксама пра тое, што бачыў, што акружала іх усімі гукамі ды фарбамі, канкрэтна — напісаў пра дождж, што плюхацеў за вокнамі. Але ж, браточкі, як ён напісаў!..

Алесь ажно скрыпнуў турэмным ложам і засмяяўся, як праз сон, успомніўшы лісток са сшытка ў клетачку, спісаны яшчэ нястройнымі, фіялетавымі радкамі глыбакадумнага чарнавіка, што і сёння ляжыць недзе ў яго паперах, у мамінай старой, яшчэ пасажнай, скрыні.

Куры намокшие под стрехами стоят,
Перья опустили и вверх глядят.
Только воробьи оглашают криком деревню:
Чик-чирик и обсели стаями черешню.

Божа добры, якой вяршыняй здалося гэта мокраму намесніку закульгалага пастуха! Якой дасканаласцю! Проста хацелася плакаць ад шчасця. Як - у Жукоўскага:

> Тимпаны загремели,
> Задребезжали трубы,
> Пошли вперед дружины!..

Алесь пайшоў нават на такую слабасць, што пачаў прасіць:

— Ты ж рысуеш... А гэты вершык няхай будзе мой! Ты будзеш мастаком, а я паэтам — добра?

І Толя ласкава згадзіўся, аддаў.

Ды неўзабаве, менш як праз два гады, Алесь адчуў асалоду «творчасці» зусім самастойнай, без усякага сааўтарства, без зайздрасці нават да Толі.

Школа, дзе яны вымушаны былі вучыцца, была польская; бібліятэка, кнігі якой, арыгінальныя і перакладныя, выводзілі хлопчыкаў у вялікі свет,— таксама. Але ж і гарадскі куфэрачак з Сярожавымі кнігамі рабіў сваю справу, пачаўшы яе куды раней, чым школа.

А паміж гэтымі дзвюма стыхіямі, польскай і рускай, была яшчэ адна сіла, якая таксама рабіла сваё. Маміны казкі, расказы ды песні на прасніцы або за шытвом, мова і песні, якія ён чуў навокал, якія пасаблівому моцна і хораша спалучаліся з усім, што акружала Алеся, знайшлі свой выраз, жылі і ў школьнай чытанцы, і ў кнігах на роднай мове.

Праўда, беларускіх гадзін у школе было вельмі мала, дзве-тры на тыдзень, а кнігі, што друкаваліся ў Вільні і ў Мінску, за мяжой, траплялі ў вёску рэдка і да таго ж яшчэ ў большасці лічыліся крамолай.

Радыё ў той час, у другой палавіне дваццатых гадоў, для розных Пасынкаў было нечым казачным, што ёсць недзе, кажуць ды пішуць, за палямі-лясамі-балотамі...

Першы, зусім самастойны Алесеў верш напісаны быў на мове польскай.

У пятым класе хлопец быў шчасліва і надоўга ўражаны зманліва простай, магутнай прыгажосцю паэзіі Міцкевіча, за два гады да тэрміну, прадбачанага школьнай праграмай, зачытваўся «Панам Тадэвушам».

Потым быў у Наваградку на экскурсіі. Хадзіў па светлых пакоях доміка-музея і да заміраная сэрца то верыў, то не верыў, што іменна тут калісьці жыў Ён, геній,— проста жыў, як чалавек... Стоячы на зялёнай гары каля шэрых руінаў замка, успамінаў Алесь радкі «Гражыны» — з асаблівым, толькі наваградскім хваляваннем. І на курган Яго ўзыходзіў па спіральнай дарожцы — з радасным адчуваннем незвычайнай вышыні. Нібы і ты ўзлятаеш кудысьці, нібы і ты не проста *любіш* прыгожае!.. Пушкінскі Пецярбург ці арэнбургскія стэпы, лермантаўскі Каўказ, гогалеўская Палтаўшчына — увесь гэты цудоўны свет быў недзе вельмі далёка. А Міцкевіч пісаў і пра дзічкі на межах, і пра ласкава-празрыстае возера Свіцязь, і пра лясы ды замкі, якія былі навокал, тут — за сто, за пяцьдзесят, за пяць кіламетраў ад Пасынкаў. Звычайнае, блізкае, будзённае, што акружала Алеся, на старонках Міцкевіча жыло вялікай паэзіяй. І гэта не толькі раднія хлопчыка з яе хараством, але ж і падахвочвала: «А ну!..»

І ён пісаў, з вялікім намаганнем сіл, з вялікай радасцю ўганяючы ў трынаццаціскладовы, «гераічны» міцкевічаўскі верш нешта, скажам, такое:

На пагурку высокім, ніжэй апісана,
Лежы весь, Пасынкàмі аддаўна названа.

Можна і пасмяяцца цяпер з гэтага, як мы смяёмся з кіёчка, што калісьці здаваўся нам проста Коньком-Гарбунком. Можна і задумацца, люба і сумна задумацца над непаўторнай, сапраўды крылатай, як казка, паэзіяй найшчаслівейшага часу. Алесь цяпер усміхаецца, успамінаючы тыя свае пакуты і захапленні, аднак жа, ён ведае, яму так прыемна ведаць, што ішлі яны з таго самага свету, дзе да слёз, да салодкага болю звычайна і незвычайна гучалі, скажам, словы з «Дуброўскага»:

«...И все поехали... не пролив ни единой капли крови, в отмщение за кровь своего атамана».

Або — яшчэ больш простае і задушэўнае — у Коласа:

Край мой родны! Дзе ж у свеце
край другі такі знайсці,

дзе магла б так, поруч з смеццем,
гожасць пышная ўзрасці,
дзе бы вобруку з галечай
расквітнеў багацця цуд
і дзе б з долі чалавечай
насмяяліся, як тут?

Калі яны пакінулі гімназію, стыхія польскага слова пачала спакваля адступаць.

Тады на Алеся (разам з Толем, вядома) з магутным акіянскім рокатам, з раскошным сонечным ззяннем накацілася высокая хваля рускай прозы. Узняла яго, загайдала, і ён то ад радаснай жудасці заміраў, то звонка смяяўся ад дзіўнага, небывалага захаплення!.. Талстой, Дастаеўскі, Чэхаў, Гаршын, Горкі, Купрын — яны прыйшлі другою хваляй, пасля Пушкіна, Лермантава, Гогаля, яны назаўсёды здаліся яму непараўнальнымі, яны павялі яго ў родны хвалюючы свет!..

Па інерцыі ён яшчэ скроб сабе вершыкі на трох мовах, некалькі год то любіў іх, то ненавідзеў, то зноў любіў, а ўжо ў душы юнака выспявала, памалу, але грунтоўна, новая любасць — да празаічнага чорнага хлеба, які дае жыццё, да беларускага роднага слова, што пахла для яго тым самым хлебам.

У дзевятнаццаць год былі пачаты апавяданні, якія ўжо хвалявалі Алеся не так, як хлапечае заглядванне праз шчыліны ў тым плоце, за якім быў райскі сад паэзіі. Ён пачаў адчуваць небывалае дагэтуль шчасце работы пяром, адчуваць сваё кроўнае сваяцтва з ціхім, плодным пошумам калосся, з суровай доляй чалавека працы, з народнай і нязмерна глыбокай прастатой Талстога, з «ликующей», сардэчнай і журботнай песняй чэхаўскага радка...

Ён зразумеў, шчасліва і трывожна, што літаратура — яго прызванне, галоўны, святы абавязак жыцця.

Зроблена вельмі няшмат. Не лічачы таго, што ён пашкадаваў парваць, пакінуў на ўспамін, ёсць некалькі, здаецца, спелых вершаў і апавяданняў, адны з якіх закончаны, другія — не. Асабліва прыемна ўспамінаецца, скажаш — грэе душу тваю на чужыне тое, што напісана для дзяцей.

Усё гэта здаецца вельмі важным, вельмі дарагім перш за ўсё самому сабе. Бо яно неяк вельмі ж упэўнена, шчасліва гаворыць яму, што напісанае — толькі

маленькі пачатак, толькі намёк на тое, што ён калісьці зробіць — многа і добра!..

Вядома гэта пакуль што толькі яму самому.

Ці толькі?

Ну, бясспрэчна, і тым, хто ў яго найбліжэйшы.

Толя верыць у гэта, а мама — яна адчувае, бо любіць. Бачыш — нават раўніва, як скарб, хаваючы яго сшыткі.

«Ты верыш таму, што недзе я жыву і не згіну. А я ўпэўнены, маці, што вярнуся туды, дзе мой народ, і зраблю для яго, а праз яго — для ўсіх людзей усё, што змагу.

Дзеля гэтага — жыць!..

...Як жа ты там, Бутрыме, цяпер?.. Нават і кашлю твайго не пачуеш праз гэтыя сцены...

Хто ж нас, цікава, навучыць перастуквацца? Ды не паспеем, мусіць, у лагер пагоняць...

Колькі рабін было пры дарозе! Такіх маладзенькіх, румяных...

Ну, а адбіткі пальцаў — навошта яны: для страху ці для навукі?

Ды ну іх к чорту! Здаецца, засну...»

### 5

Былі ўжо і званкі, і снеданне, і грукат мноства «клёмпаў» на першай прагулцы.

Былі ўжо і думы пра самае дарагое,— не так, як перад сном, але ўсё роўна былі.

Удоўж і ўпоперак прачытана ўжо шэрая брашурка: распарадак дня і правілы паводзін вязня. Што зразумеў, што не.

А што ж далей?

Ды вось сядзі на табурэтцы, прывінчанай да падлогі, глядзі на белую сцяну... Надпісаў штосьці на сценах няма. Орднунг, трасца яго галаве!..

Сумка ад процівагаза, а ў сумцы яшчэ вайсковы блакнот, пісьмы і фота. У блакноце — запісы...

Можа, не разбяруцца? Сам ён назаўтра ледзь прачытае, што напісаў напярэдадні.

А то зусім, можа, не будуць глядзець: не паспеюць, пакуль па нас хтосьці прыедзе са шталагу.

Лепш было б, каб забраў іх сюды — блакнот, пісьмы і фота.

Дурань! Так гэта проста — узяў ды забраў...

А тут ты іх што — глядзеў бы вось цяпер, на воку ў пузача?

На белай сцяне пачынаюць з'яўляцца разводы. Як у маленстве, калі хварэў. Жоўтыя, сінія плямы-кругі, як на вадзе ад газы. То разыходзяцца, то збягаюцца, то... А ў маленстве яны яшчэ і страшылі — такім таўстагубым і чорным гумовым: «Гам!..» Цяпер не страшаць. Можа — пакуль што?..

Ключ, як свердзел, з ляскатам уваходзіць у тваё забыццё, у замароку галавы.

А гэта ж — *ён*. Адчыняе.

— Н-на! — з енкам вякае, відаць, усім на свеце незадаволеная жаба, агромністая, зялёная.— Што ж ты, скажы мне, сядзіш ды глядзіш? Чаму ты нічога не робіш?

— Няма чаго рабіць.

—Ус-таць!

Паласатая, смешна, абразліва паласатая чалавечая маладосць з ледзь прыкметнай усмешкай устае над пузатай, звяглівай, агідна-нялюдскай старасцю.

— Дзірка вось на калене, а яму рабіць няма чаго!

— У мяне няма ні іголкі, ні ніткі.

— Ні іголкі, ні ніткі,— крывіць наглядчык.— Дам я табе і іголку і нітку. Усё табе дам, du, langer Räuber [1].

Закончыўшы тым самым вякам, што і пачаў, пузач — старая, нямоглая, злосная жаба — цяжка пераварваецца з нагі на нагу — ідзе да дзвярэй.

На гэты раз ключ яго ляскае толькі ў дзвярах.

А ў вязневай галаве, несучы за сабою далёкую, даўнюю ўсмешку, з'яўляецца прымаўка: «Без старога каля хаты — як без сабакі...»

Гэты пільнуе і брэша старанна, відаць, не толькі для хлеба, але ж і для душы.

Успамінаецца ранішняя прагулка.

Турэмны двор малы і круглы, абнесены высачэзнай сцяною. Наверсе — калі ты яшчэ залезеш туды — тыр-

---

[1] Ты, доўгі разбойнік!

чаць іржавыя, злосныя жалязякі. На іх пакуль што сядзяць і цвіркаюць вераб'і, сыта і абыякава, па-дамашняму распушыўшы пер'е. На клумбе — згорбілася і расставіла рукі, як бабуля над градамі, старая, няшчасная яблыня. Пад ёю — лысы, дурны нямецкі гарбуз, ад якога пабэрсалася ў бакі яшчэ зялёнае цаціўе з рэдкімі шурпатымі лістамі. Прырода. Свежае паветра.

І дзеравяшкі ляскаюць па няроўным каменні.

Рукі заложаны назад. Хада, як загадана, энергічная, моўчкі. Орднунг мус зайн!

Бутрым кульгае і бухукае. Аднак такое парушэнне орднунга чамусьці не хвалюе іх начальства.

Зялёная старая жаба сядзіць трохі збоку ад іхняга круга і дрэмле, ледзь-ледзь счапіўшы на трыбуху, здаецца, нават перапончатыя, пальцы.

Яшчэ адна прыказка: «Бабка спіць, але куры пасе».

Такое Алесь убачыў ва ўсмешцы Бутрыма, які выбраў момант і ўсміхнуўся яму, азірнуўшыся.

І жаба, нібы ад гэтага, прачынаецца.

Голасам, поўным натужнай пакуты і гераічнай пільнасці, не разводзячы з трыбуха пакарацелых на старасць рук, яна выкідае навонкі хрыплівы лозунг:

— Und immer weiter, immer marschieren! N-na! [1]

«Няўжо мы надоўга сышліся з табой? — думае вязень у камеры, на табурэтцы.— Няўжо ты заменіш мне такі самы мілы і неадчэпны вахманаў воблік?..»

На белым зноў з'яўляюцца разводы...

«Няўжо гэта толькі пачатак, ну, самы маленькі, самы нявінны ўступчык да таго, што прыйдзе да мяне сюды, што засядзе са мной тут, у гэтым белым каменным мяху?..»

Ды ўсё гэта абарвалася хутка, раней, чым Алесь спадзяваўся.

Пад вечар раптоўны скрыгат ключа падняў яго з табурэткі, а голас наглядчыка, хоць ён і таіў у сабе як быццам пагрозу, прагучаў — здзяйсненнем надзеі.

---

[1] Толькі наперад, толькі ідзі!

— Н-на! Пайшлі на ніз, ду, ройбэр!..

Калі яны з Бутрымам пераадзеліся і выйшлі са склада на калідор, побач з іхняй зялёнай жабай стаяў нікчэмненькі бялявы вахманок, даволі-такі прыкметна запраўлены шнапсам.

Спачатку Уладзіка, пасля Алеся, спачатку знізу ўверх, пасля ўжо зверху ўніз вахман абвёў грозным позіркам мутных вачэй і нарэшце знайшоў што сказаць.

— А чаравікі? — крэкнуў ён.— Гэта такія павінны быць чаравікі? Пілоткі зняць! Пачысціць! Так. Пакуль што хопіць. Марш! Пра далейшае будзе гаворка ў штрафкампані.

Такі ж грозны, хоць і маўчаў, быў ён на вуліцы па дарозе на вакзал, так заганяў іх у сіні бліскучы вагон кур'ерскага цягніка з белым надпісам «Бромберг — Берлін», а ў вагоне — у свабоднае купэ.

Ім загадаў сядзець каля акна, а сам сеў каля дзвярэй, ногі ў ботах паставіўшы на лаўку за праходам.

Усё далейшае пайшло для яго ў змаганні соннага ачмурэння з высокім абавязкам. Толькі зіркаў на іх час ад часу, зноў забыўшыся, мусіць, што кашаль аднаго з палонных — гэта яшчэ не сігнал да ўцёкаў.

— Ну, адляжаліся трохі,— гудзеў Бутрым, управіўшыся са сваім бухуканнем.— Вось так бы нам перці дахаты!.. А то пакуль грудзьмі абмацаеш усю зямлю... Бу-ху! Бу-ху!.. Ты калі-небудзь ехаў у такой раскошы, га?

І было вельмі сумна, хоць і маўчалі пра гэта, сумна, што нешта беззваротна прайшло, што нейкі круг замкнуўся напуста, што зноў вярнуўся іх сцюдзёны, горкі вырай!..

А там, куды імчыць гэты ціхі, як злодзей, і хуткі, як вецер, цягнік, нібы з насмешкай глытаючы іхнія, пакутамі столькіх начэй аплочаныя кіламетры, там дзесьці — чорная Бамбавозава морда і сыта-лены, звышчалавечы голас каманды:

— Па́дна! Ауф! Падна!..

# ГНЁЗДЫ ЗА ДЫМАМ

*Аповесць другая*

## ЗАЦІШША Ў ЧЭРВЕНІ

### 1

На зялёнай і ціхай ускраіне баварскага гарадка салдат Ганс Вайцэнброт адстойваў варту каля галоўнай казарменнай брамы.

Пажылы і кашчавы, у цяжкай, на вочы насунутай касцы, ён быў падобны з твару да казла без рог і без толькі што збрытай бародкі. Ачмурэўшы ад спёкі і службовай самотнай нудоты, салдат прыкметна ўсцешыўся, як толькі на тратуары ад горада паказалася жанчына.

Яна была незнаёмая, бедна апранутая і, падышоўшы, павіталася нясмела, па-вясковаму:

— Grüss Gott! [1]

— Хайль Гітлер, муці! Як маешся? Што скажаш?

Муці адкрыла старэнькую сумачку, пагрэблася ў ёй, дастала паштоўку і, буркнуўшы сама сабе: «Гэтак будзе найлепш», падала яе вартавому.

— Ага,— сказаў ён і пачаў чытаць: — «Гэфрайтар Ота Шмітке, палявая пошта... у-гу-гум...» Ну так, гэта ў нас. Што ж ты, муці,— да яго толькі ці і да мяне таксама? Хе-хе-хе!..

Салдат юрліва аблізаў сваю казліную мызачку, заплюшчыў вочы і хрыпла засмяяўся. Пэўна, муці падношаная ўжо, ды ўсё ж...

Аднак жанчына пакрыўдзілася.

— Ах, што вы, што вы! Ота Шмітке — мой муж!

— Ну, гэта зусім іншае,— адразу згадзіўся Ганс і дадаў: — Я, вядома, жартую.

Ён падышоў да свае паласатае будкі, націснуў

[1] Пахвалёны!

кнопку электрычнага званка і, вярнуўшыся, сказаў жанчыне:

— Цяпер якраз абед, можаце ўбачыцца.

Неўзабаве на Гансаў сігнал з вартоўні выйшаў малады салдат.

— Слухай ты, Горст,— спаткаў яго Вайцэнброт:— Вось табе адрас: «Гэфрайтар Шмітке...» А калі яго, муці, узялі? Другі месяц ужо? Ну, дык ён будзе там, насупроць, у шостай роце. Знойдзеш яго і скажаш, мой дарагі, што тут яго мілка чакае. Хе-хе-хе!..

— Вы, мой гер, жартуеце толькі,— дакорліва сказала жанчына, калі той Горст з паштоўкаю пайшоў.

— Ну, салдат — салдатам, муці,— адказаў вартавы, плячом падцягнуўшы рэмень вінтоўкі.

Было, аднак, нешта такое нясклёпістае, такое нягеглае ў гэтай гордасці, што жанчына, прастадушна паглядзеўшы на яго, сказала:

— А вы, мой гер, не заўсёды былі салдатам.

— Ну так, безумоўна,— прагудзеў Вайцэнброт, даволі горда адкапыліўшы бязвусыя губы.— Я, муці, муляр. Харошую працу меў у Фогенштраўсе, о-ёй! — Ён ажно задніцу пачухаў леваю рукой.— Цяпер усё прайшло. У тую вайну — тры гады, цяпер ізноў. Ад лютага.

— І ваша фрау таксама адна?

— Ну так, безумоўна,— зноў адкапыліў губы Ганс.— Жонка і сын, пятнаццаць год.— Ён паглядзеў на жанчыну і па-казлінаму аблізнуўся:— Мая фрау, муці, маладая яшчэ, мяккая...

І засмяяўся хрыпла, заплюшчыўшы вочы.

Але жанчына ўжо не чула і не бачыла яго.

Тратуарам казарменнай вуліцы, шкрэбаючы па плітах цвікамі моцных чаравікаў, шпарка ішоў сюды яе Ота — салдат.

Здалёк яшчэ, толькі ўбачыўшы жонку, ён нёс ёй усмешку. Дзе тая радасць, дзе той сум?.. А яна адказала слязьмі. Спачатку слёзы крануліся з сэрца, затуманілі вочы цяплом, а пасля, калі ўжо ён падышоў, цёплай анучкай падаў ёй руку і сказаў штосьці першае — яна ўжо і плакала, і ўсміхалася.

— Што з табой, Анна?

— Я не магу больш, Ота, я не магу...

Ганс Вайцэнброт зажмурыўся і хрыпла захіхікаў.

— Камэрад,— сказаў ён, падміргнуўшы.— Ведаеш сам: тут казарма. Вы — у лясок, на траўку. Хе-хе-хе.

Гэфрайтар Шмітке толькі зірнуў на яго спадылба.

— Хадзем адгэтуль, Анна.

Яны пайшлі.

Драцяная сетка казарменнай агароджы цягнулася доўга, а потым пачалося поле абапал шашы, а над асфальтам — халадок пад старымі каштанамі.

А жанчына ўсё хліпала.

— Ды не плач жа, а гавары!

Яна дастала з сумкі хустачку, выцерла вочы, нос, сказала:

— Марыхен забралі...

І заплакала зноў.

— Марыхен?! — ускрыкнуў Ота.— Нашу, маю Марыхен?! Ты хворая, Анна, ці што?..

— Не, гэта праўда. Я прывезла яе сёння, мы разам былі ў Arbeitsamt[1].

— Дык як жа гэта, чаму? Якім правам, Анна? Ды не плач жа ты, як дурная, кажы!

Выціраючыся і ўсхліпваючы, Анна пачала:

— Яна мусіла, Ота, як і ўсе. Паехалі — і сюды, і далей яшчэ — Ірма, Эльзі, Грэта Дэзель... Многа.

— А Хільда Грасман паехала?

Гэта была дачка ортсгрупэнфюрэра, іх мясцовага нацы, раней вядомага на ўсю ваколіцу музыкі, а цяпер гаспадара багатай крамы і піўной у іхняй вёсцы.

— Хільда? — перапытала Анна, нібы не дачуўшы.— Вядома ж, не. У іх жа такі гешэфт, ім жа самім патрэбна работніца.

Ота хмыкнуў:

— Работніца!.. Ох, так!

Ён выразна ўявіў тоўсценькую, шчабятлівую пястунку важнага Грасмана, які і спаў, здаецца, у сваёй эсáманскай форме. Усяго і клопату мела гэтая «работніца», што рыпаць на акардэоне, няўдала пераймаючы бацьку, ды разносіць па хатах плёткі. Яшчэ, праўда, пісьмы пісала салдатам. А напрадвесні знікла была на некалькі дзён, пасварыўшыся з бацькамі, сама павезла сябе чарговаму шацу[2] ў казарму. А вярнуўшы-

[1] Біржа працы.
[2] Шац — кавалер, нарачоны, даслоўна — скарб.

ся — адчыняла насцеж акно або выходзіла з акардэонам на ганак і рыпала з вялікай радасці — oh, Sakarment! [1] — яшчэ мацней. Па дварах тады сама каты марцавалі, пацешна, дакучліва стогнучы. І Ота хацелася намачыць каравую мятлу ды патурыць да чорта і гэтых сапраўдных катоў, і гэтую пампушку касавокую з яе кашэчым вяканнем на гармоніку.

І вось яна сабе дома сядзіць!..

— Ах, Анна, ты не пляці, як дурная: «У іх гешэфт». А ў каго ж ад гэтага трыбух расце? Нам трэба гэтулькі рабіць за хлеб, дый то... Спачатку Вальтара забралі, цяпер мяне. Марыхен так добра памагала табе. Ды гэта, бачыш, нічога, бо гэта — не гешэфт, бо мы з табой дурныя arme Teufel... [2] Бо я — не нацы, і дзяўчынка мая — не!.. Oh, Sakarment! Праклятыя сабакі!..

— Я ведаю, Ота, сама. Я хадзіла да Грасмана, плакала. Ды ён кажа, што хоць ён і групэнфюрэр, а памагчы тут нічога не можа. На нашы сем моргенаў — Марыхен лішняя рабочая сіла. Я казала таксама, што вы з Вальтарам абодва на вайне, а што я зраблю з коньмі адна, з чарадою малых. А Грасман кажа: «Фюрэр ведае, што ён робіць, і мы задурныя на тое, каб перайначваць яго планы». Вайна, ён кажа, хутка скончыцца, вось толькі асядлаем Англію, як асядлалі Крыт...

— Балбатун пракляты! — перабіў яе Ота.— Хопіць яшчэ і яму.

Ішлі трохі моўчкі, а потым Анна наладзілася зноў.

— Марыхен засталася ў Грубэра служанкай. Ты запішы ці запомні: Адольф Грубэр, на рагу Гартэнштрасэ, каля сквера. Вялікі ўласны дом, і флігель яшчэ, і Fleischerei [3]. Я не ведаю, але Грасман казаў, што ёй там будзе добра. Грубэр — яго Parteigenosse [4]. Ён кажа, што там Марыхен навучыцца працаваць.

— О, пэўна,— перабіў яе Ота.— Гэта ж таксама ласка. Я хацеў вучыць яе, маю дзяўчынку, а яны... Ох, так!..

Гэта было так нядаўна яшчэ, калі Марыхен канчала школу,— толькі летась. Мілая — і не выдумаць

---

[1] Правільна Sakrament — нямецкая лаянка.

[2] Гаротнікі, даслоўна — бедныя чэрці.

[3] Мясны магазін.

[4] Партыйны таварыш.

лепшай!.. Іх Рэгенвальдэ — вялікая вёска; як зборшчык малака, ён ведае зусім дакладна — сто восемдзесят сем двароў і два хутары каля шашы. А Марыхен Шмітке была ў іх школе першая вучаніца. А якая чысцёха, якая памочніца ў хаце! «Яна там навучыцца працаваць...» Як яна плакала тады, на развітанні з ім, не могучы як быццам зразумець, што ўжо і Vati[1] трэба ісці пасля Вальтара! Ды вось і з табою здарылася таксама. За што? За тое хіба, што бацька твой бедны, што ўсюды ёсць важныя трыбухачы, партайгеносэ з гешэфтамі, і ім заўсёды патрэбны служанкі?..

— Анна,— сказаў ён,— гэта найгорш. У горадзе поўна салдат і палонных. Хаця б з яе, Анна, не насмяяліся. Гэта — найгорш.

— У Грубэра, Ота, таксама працуе палонны.

— Ну, бачыш. А гаспадар яе стары? І сын таксама ёсць? Ты не прасіла таго... Грубэра, каб ён наглядаў за Марыхен?

— Ах, Ота, як я магла?

— О, пэўна, ты — толькі плакаць. Ну, нічога. Я днямі сам пайду, пагляджу...

Зноў ішлі моўчкі.

З застылымі слязьмі Анна глядзела на свайго чалавека, любавалася ім, шкадавала.

— Ты не галодны, Ота, ніколі?

— Ах, дзе там! Каго ж яны будуць карміць, як не нас? Шкада — я магу табе даць толькі пару марак, а каб ведаў, што прыйдзеш, прыдбаў бы пару булак хлеба. А можа, ведаеш, неяк няёмка? О, сакармэнт!..

Анна ўзяла ад мужа грошы, схавала іх у сумачку, памаўчала трохі, зноў палюбавалася ім, а потым такі не стрывала, сказала з усмешкай:

— А табе ў салдацкім хараша. Гэта ж заўсёды...

— Ах, не дуры галавы!

І яна прысаромлена змоўкла.

У лесе, воддаль ад шашы, яны былі пасля зусім адны, толькі з маўклівай, гарачай і асцярожнай пяшчотнасцю, з даўно знаёмым і зноў новым забыццём... А потым, заклаўшы рукі за галаву, бяздумна заглядзеўшыся ў зялёна-сіва-карычневае сплячэнне сасновага голля, Ота вяла азваўся:

[1] Тата, татуля.

— Што там яшчэ ў нас новага? Раскажы.

— Новага? — нібы недачула Анна. І, нібы выходзячы з іншага, легкадумнага свету ў сапраўдны, для большай пэўнасці ўхапілася яшчэ за адно пытанне: — Што ж табе расказаць? Ага! Густаў Кюхлер забіты. На гэтым самым Крыце, куды яны з парашутамі скакалі. Бедная Эма! Яна толькі вянок палажыла на магіле старога Кюхлера. Грасман прамову гаварыў.

— Гэта ён можа.

— Потым яшчэ што? А, Гáмараў паляк... Ну, той іх палонны, Вальёдзя...

— Ён не паляк, а беларус, і ён цяпер лічыцца з Расіі.

— Ну і што ж, што з Расіі? Ён малады чалавек, і ён там недзе зачапіў трохі Марту. Пацалаваў яе ці яна там яго, хто іх ведае. Яна ж таксама... Ты чуў, што казалі зімой?.. А тут ёй здалося, што нехта іх бачыў, спалохалася і сама сказала Грасману: палонны прыставаў. Ах, як ён, Грасман, біў яго на вуліцы!.. Майн гот!.. Пры людзях, Ота, пры дзецях!..

— Гэта ён можа... О, сакармэнт! Хацелася б мне бачыць Грасмана ў акопе. З яго свіною мордай, з пенснэ, з прамовамі...

— Нікому, Ота, не хочацца.

— Не дуры галавы! Я не хачу, другі не хоча — гэта так. Яны ж не маюць права не хацець. Хто ж заварыў яе, гэтую кашу?.. Што ж яны — толькі другіх нацкоўваць?

Ён паглядзеў на гадзіннік і схамянуўся:

— О, як ён хутка бяжыць!.. Хадзем!

Назад ішлі памаленьку, але горад усё набліжаўся.

— Ох, так! — уздыхнуў на ўсе грудзі салдат.— Ну, нічога... Раскажы ты мне яшчэ што-небудзь пра сваё. Як там Фрыдхен, як Гансі? Як коні? Як Сівы з нагой?

Анна ажывілася і зноў расказала пра ўсё. Нават спяшалася, каб паспець як найбольш. Хоць новага, ды яшчэ каб добрага, за месяц не сабралася. Таксама, як і ён раней, яна возіць штодня вясковае малако ў малачарню, а папаўдні сёй-той бярэ іх коні, наймае. Сама яна тады, зразумела, не едзе. Фрыдхен ездзіла раз, ды баіцца адна, пстрычка гэтая. А ў Гансі толькі і думак, мусіць, што пра скрыпку.

— Так,— усміхнуўся салдат,— я яму скрыпку куплю, калі мы толькі пабудзем тут трохі даўжэй...

— Чаму ты так кажаш, Ота? — трывожна спыталася жонка.— «Калі пабудзем...» Чаму?

— А што ж ты думала: нас тут сабралі карміць? Яны яшчэ прыдумаюць што-небудзь, сакармэнт!..

Зноў пайшлі моўчкі. Яна плакала, ён быў як цёмная ноч. А ўжо зусім недалёка ад казарменнай брамы зноў пачаў пра сваё:

— Усё нічога, Анна. Галоўнае — Марыхен! Я ж хацеў... Я абяцаў ёй, што яна...

Ён асекся і змоўк. Анна і так ужо плакала, а цяпер дадала яшчэ больш.

Каля брамы яны развіталіся. Падалі рукі, бяссільна мяккія, як анучкі, і моўчкі, праз слёзы глядзелі адно на аднаго. Пусцілі рукі, яшчэ раз падалі, і Анна нарэшце пайшла. Азіралася раз-поразу, хацела памахаць скамечанай, мокрай ад слёз хустачкай, але не стала. Паглядзела толькі, усміхнулася крыва,— што ж, плачучы рот не паправіш,— яшчэ і яшчэ раз і вось схавалася за домам на павароце.

Ота глядзеў ёй услед, пакуль не сышла з вачэй, а пасля яму захацелася абаперціся аб якую-небудзь сцяну і падумаць, хоць трохі...

Тым часам каля паласатай будкі стаяў ужо не Вайцэнброт, а другі салдат — Оскар Кнор, здаравенны, напануры парабак, тут толькі, мусіць, без люлькі, наскрозь прасмярдзелы «крыльшнітам» [1] і штучнымі ўгнаеннямі, якія змалку рассяваў на панскім полі.

— Твая баба? — спытаўся Оскар, будзячы Ота з задумы. Хацеў сказаць яшчэ нешта, ды тут...

З брамкі на вуліцу выйшлі два афіцэры і цывільны. У светлым касцюме, без шапкі, у жоўтых туфлях. Прыціскаючы локцем партфель, другой рукою, доўгай і мітуслівай, ён размахваў перад сабой, штосьці даводзячы. Малы, тоўсценькі гаўптман і лёйтнант з «жалезным крыжам» слухалі моўчкі.

Салдаты тузануліся і застылі на «смірна». Афіцэры з нядбалай важнасцю дакрануліся да казыркоў.

Цывільны рыўком і высока ўзняў перад сабой вялікую адкрытую далонь — знак поўнага маўчання.

---

[1] Танны люлечны тытунь.

## 2

Гер Адольф Грубэр, лысы, даволі-такі круглы гаспадар дзесяцікватэрнай камяніцы з мясным магазінам на першым паверсе, грузна сядзеў на канапе, адзін у пакоі, надзвычай усхваляваны і злосны. З цыгарай у губах, нібы заткнуўшы ёю рот, маўчаў.

Праклятыя беларускія свінні! Яшчэ з зімы іх пачалі выпускаць са шталагу пад нагляд паліцыі. Немцы далі ім працу і хлеб, дапусцілі ў свае культурныя памяшканні, дазволілі скінуць вашывыя польскія транты, надзець цывільны касцюм. І як жа хутка яны паказалі сваю дзікую няўдзячнасць!..

Зімой прыйшлі такія два, і Грубэр толькі за дваццаць сем марак у месяц здаў ім адзін з двух пакойчыкаў у флігелі над пральняй. Цярпеў многае. Чаго толькі вартыя зборышчы па дваццаць чалавек у адзін пакой! Лазяць па двары, свабодна стукаюць брамкай, чапаюць работніц, псуюць усходы цвікамі ды падковамі сваіх салдацкіх грукачоў...

А сёння — такое нахабства!..

Пачалося з таго, што гер Брэквольт, таксама гаспадар — толькі значна большай — фляйшэрай, у нядзелю, пры кухлі піва, зрабіў яму трохі дзіўную сяброўскую прапанову: узяць ад яго работніка, таксама з гэтых, беларусаў, вельмі спраўнага, як ён хваліў, і працавітага Тшарэня. Гер Грубэр паверыў, хоць і здзіўляўся ў душы, узяў Тшарэня і памясціў яго ў адным пакойчыку з тымі двума. А яны ўзялі ды ўзбунтаваліся, нагаварылі яму, гаспадару, непрыстойнасцей, забралі сваё барахло і пайшлі.

Праўда, яны могуць казаць, што ім зрабілася цесна, што побач — яшчэ адзін незаняты пакойчык. Але ж не ў гэтым прычына. Галоўнае — ён гэта ведае добра! — у гэтай паскуднiцы, у Эрне Грап.

Ёсць жа яшчэ, пры ўсім цудоўным нямецкім парадку, і такія агідныя з'явы, як гэтая Эрна!.. Дурная, брудная баба ці нават дзеўка з двума байструкамі ад двух мужчын. Жыве ў адным пакоі з дурнаватым братам, нейкім там чорнарабочым. Зарабляе мыццём бялізны, а больш дык, вядома, з салдатамі. Яшчэ горш, бо, здаецца, і з палоннымі. Тыя два, што пайшлі, трэба думаць, таксама былі яе кліентамі: дзверы ж по-

бач. Можа, таму і пайшлі, што Тшарэнь перашкодзіў? Паганая баба!..

Гер Грубэр падняўся з канапы, падышоў да дзвярэй, націснуў кнопку электрычнага званка і, звыш таго, выняўшы з рота цыгару, гукнуў:

— Мар-ры!

Праз момант па дарожцы на калідоры мякка застукалі дробныя крокі, пачуўся далікатны стук у дзверы, і Мары ўвайшла.

— Я тут, гер Грубэр. Што вам?

Гэта была Марыхен, дачка Ота і Анны, шаснаццацігадовая бяляначка ў белым фартуху пакаёўкі.

— З-зо[1],— прахрыпеў гер Грубэр, зноў седзячы на канапе.— Пайдзі паглядзі, што робіць тая... Грап.

Неўзабаве Марыхен вярнулася і зусім нявінна абвясціла, што фрау Грап выварвае ў пральні бялізну.

— Не бачыла якую?

— Не.

— Ну, разумеецца...

— Вы ж не казалі.

— З-зо! Ідзі, працуй далей.

Марыхен выйшла.

Гер Грубэр устаў з канапы і, мякка ступаючы суконнымі пантофлямі, са шлейкамі на пузе і з цыгарай у губах, пайшоў туды сам.

У пральні, ахутаная воблакам мыльнай пары, стаяла Эрна Грап, жанчына гадоў за трыццаць, у дзеравяшках на босую нагу. Гер Грубэр падышоў да катла і заглянуў. Акуляры яго адразу затуманіла пара. Зняў іх, працёр хустачкай і важна загадаў жанчыне:

— З-зо! Выцягніце што-небудзь!

Эрна падчапіла мяшалкай узбэбашаную штуку бялізны і падняла яе над катлом.

Гер Грубэр зірнуў без акуляраў і, яшчэ ўсё трымаючы іх у руцэ, закрычаў:

— З-зо! Разумеецца, вайсковая бялізна! Вашывая кашуля беларуса! Дзеля гэтага прапальваецца мой кацёл! Выкідайце ўсё вон!

— Як гэта? — неяк адразу заслінена, прышапетваючы спытала Эрна і паправіла мокрым запясцем валасы, што з'ехалі на лоб.— Як гэта: вон! Я ж вам

[1] Зо — так, але.

плачу, здаецца, мой гер, за пральню! І мне за работу плацяць, гэта — мой хлеб!..

— Мне — напляваць! З-зо! Калі б вы ведалі, што вы робіце, я гаварыў бы з вамі не так!..

— Па-вашаму — трэба мне есці ці не? — злосна крыкнула Эрна.— А дзецям маім? Ты ім хлеба дасі?! Гімелькройц!..[1]

— Не гаварыце са мной так нахабна! — яшчэ злосней крыкнуў гер Грубэр.— Я ўжо даволі маўчаў. Вы мыеце бялізну сваім праклятым палюбоўнікам! Палонным! З-зо!.. Вы ганьбіце гонар нямецкай жанчыны! Вы... Вы... Вы самі добра ведаеце, хто вы!.. З-зо! Я ўжо даволі маўчаў!..

Эрна шпурнула мяшалку ў кацёл і дзіка — ужо не толькі для гэтага таўсцюха, але і для ўсіх, хто мог яе пачуць,— загалёкала:

— Вы!.. Я!.. Што я?.. З палоннымі?! Ты хіба звар'яцеў, мой гер?!.

Спачатку былі толькі адрывістыя ўскрыкі, пасля пайшоў суцэльны кулямётны лямант:

— Я гуляю з палоннымі! Я прапаліла кацёл! Я зганьбіла гонар нямецкай жанчыны! Ах ты!.. Я зараз жа пайду ў паліцыю! Не буду больш цярпець! Не мала я ўжо на вас працавала! О, гімелькройц, гімелькройц!..

І тут яна пусціла ў ход наймацнейшую зброю — загаласіла.

Гер Грубэр з усёй рашучасцю крыкнуў раз і другі, а пасля, зразумеўшы становішча, пачаў адступаць. Пад лямант, што чуўся з пральні, ён ужо быў дабраўся да памыйнага сцёку сярод двара, калі яму сустрэлася другая прыкрасць.

З брамкі ішлі да яго беларусы. Адзін у цывільным, другі ў нейкім вайсковым — англійскім, ці што — з павязкай на рукаве... Ды гер Грубэр са злосці ўбачыў толькі, што былі яны новыя, незнаёмыя, што адзін замалы, а другі — завялікі.

— З-зо! — прахрыпеў ён насустрач палонным. І, выняўшы з рота цыгару, сказаў: — Сябры вашы пайшлі адгэтуль к чорту! І вы таксама прэч! Вы працаваць павінны, а не цягацца па дварах!..

---

[1] Лаянка, даслоўна — нябесны крыж.

Аднак яны не пайшлі, а большы, той, што ў вайсковым, загаварыў па-нямецку:

— Feierabend[1], мой гер. У нас на заводзе ўжо feierabend. І што наогул за крык? Мы да вас першы раз і па справе. У вас можна пакойчык наняць?

— Ах, з-зо! Ну, гэта зусім іншае,— па-дзелавому хутка аддаўся гер Грубэр.— Хайль Гітлер! І хадзем са мной.

У калідоры палонныя пачакалі, а ён пайшоў у пакой і неўзабаве вярнуўся [illegible] поўнай, важнай фрау. Паблажліва адказаўшы на іх «гутэн абэнд» «хайльгітлерам», яна агледзела наймальнікаў і, не сказаўшы ні слова, паплыла на кухню. Гер Грубэр папрасіў палонных за сабой, на двор.

У флігелі, падняўшыся на другі паверх, ён адчыніў адны з трох дзвярэй і ўвёў іх у пакой.

— З-зо. Ён не вельмі вялікі, але гэта, вядома, нічога. У лагеры ці ў казармах было, разумеецца, куды горш. Я ведаю, я сам быў салдатам.

Пакойчык быў цесны і запушчаны. Нават палонныя, відаць, зразумелі гэта, бо меншы, у цывільным, нездаволена зморшчыўся і закруціў галавою, гаворачы штосьці высокаму. А той, відаць, угаворваў яго. Сакрамэнт! — каб жа можна было зразумець іх дурную гаворку!.. Ды гер Грубэр і так здагадаўся, што высокі — больш просты, і налёг на яго.

— З-зо! Тут жылі дагэтуль яшчэ два вашы сябры: Іван і Макс. Таксама інтэлігентныя людзі. А цяпер тут жыве наш Тшарэнь. Іван і Макс былі тут вельмі задаволены. Сквер насупроць, свежае паветра, на работу блізка і, галоўнае, танна. Яны не пайшлі б адгэтуль ніколі, каб іх не перавялі... здаецца, у іншы горад.

— У вас тут яшчэ два пакоі,— сказаў меншы палонны.— І адзін з іх пусты.

— Ах, з-зо! — нібы ўспомніў пра гэта гер Грубэр.— Я магу вам яго паказаць, калі ласка.

Пакой быў таксама малы, толькі значна свяжэйшы. Палонныя, усміхаючыся, пагаварылі нешта паміж сабой, і большы сказаў:

— Гэта — зусім іншае, мой гер. Колькі вы берацe ў месяц?

---

[1] Канец рабочага дня.

— З-зо! З гэтым мы пойдзем да мае фрау. Яна нас чакае ў кухні.

Фрау важна сядзела за сталом і лена папівала каву з маленькага фарфоравага кубачка. Справа з пакоем, у абодвух варыянтах, была ўжо ў іх і звіта, і палажана, але тут на шаноўную пару напала раптам нейкая далікатная нерашучасць.

— Ты павінна сказаць. Панове хочуць пачуць тваё слова.

— Ой не, вырашай ты ўжо сам.

— Я без цябе не магу...

Нарэшце, аднак, гер Грубэр адважыўся і нясмела, быццам толькі чытаючы прыгавор вышэйшых інстанцый, з якім і ён па-чалавечы не згаджаецца, сказаў палонным, што інакш, як за трыццаць марак у месяц, яны не могуць аддаць. Гэтак плацілі, бачыце, Іван і Макс.

Палонныя пагаварылі па-свойму і большы сказаў па-нямецку:

— Нашы сябры плацілі вам дваццаць сем і жылі тут удвух. Таму што вы ім увапхнулі трэцяга, яны пайшлі ад вас. А вы з нас раптам трыццаць за такі самы пакой. Чаму?

Тоўстая пара шматзначна пераглянулася і, кожны па-свойму, падумала: «Глядзі ты, ведаюць, сакармэнт!..»

— Ну, так,— сказала фрау, зноў наліваючы кавы.— А ўсё ж танней, як за трыццаць марак, мы ніяк не можам аддаць. Падаткі вялікія. Дый так наогул... Рамонт каштуе таксама.

Палонныя пагаварылі нешта, меншы махнуў рукой, а большы сказаў:

— Няхай сабе! Толькі яшчэ з вас вячэрняя кава.

Тоўстая пара пераглянулася зноў, і фрау згадзілася:

— Добра. Толькі за першы месяц грошы дасцё наперад, цяпер.

Палонныя яшчэ пагаварылі, а пасля падаставалі грошы, і меншы працягнуў іх гаспадару. Ды фрау Грубэр сказала: «Дайце сюды!», пералічыла маркі і схавала ў кішэню халата. Тады яна ўстала і загадна гукнула ў прастору, таксама, як і муж, раздзяляючы слова:

— Мар-ры!

Калі служаначка ўвайшла, гаспадыня сказала:

— Дай, дзяўчына, кавы гэтым вось двум... панам. А потым занясеш ім пасцелі.

Гер Грубэр ўвайшоў у свой вялікі, светлы мясны магазін. Герман, яго адзіны, ужо трыццацігадовы, сынок, па здароўю не ўзяты ў армію, і дзве дзяўчыны з фірменнымі наколкамі на валасах рухава абслугоўвалі шматлікіх у гэты час кліентаў.

— Герман,— ціха сказаў гаспадар, падышоўшы да сына,— мы з муці, хлопча, добра здалі наш пакой. Зноў беларусам, палонным. Той, што свабодны. За трыццаць. Ну?

Самаадданы работнік, даўжэзны і сутулаваты Герман выкраіў момант, каб усміхнуцца, нават сказаць: «Вельмі добра, фатэр», і зноў нырнуў у работу.

Гер Грубэр уласнаручна адважыў аднаму з кліентаў сто грамаў Leberwurst [1], спачатку выразаўшы з яго харчовай карткі адпаведны нумарок, узяў плату, выдаў дробнымі рэшту і, укінуўшы мясны нумарок кліента ў шуфляду прылаўка, сказаў — нібы яму, нібы сабе, нібы яшчэ камусьці:

— З-зо! Усё ў найлепшым парадку, мой гер!

## 3

Палонныя тым часам пілі ў кухні каву, і высокі гутарыў з Марыхен.

— Што, кажаш, у мяне за літары на павязцы? Гэта ад паліцыі, каб не чапляліся. WR — беларус, а што такое entlassen [2], дык ты, відаць, ведаеш і сама.

— Іван і Макс,— шчабятала бялянка,— таксама былі беларусы, але ў цывільнай вопратцы. Тшарэнь таксама цывільны. І твой таварыш — таксама. А ты?

— Ну, бачыш,— спакойна, з усмешкай старэйшага, гаварыў высокі,— усё гэта таму, што яны раней за мяне выпушчаны з лагера і ўжо зарабілі грошай. А я дагэтуль упіраўся, не хацеў звальняцца.

---

[1] Ліверная каўбаса.

[2] Вольнаадпушчаны.

— Чаму?

Высокі ўсміхнуўся і па-свойму спытаў у меншага:

— Ці зразумела б?

Малы зірнуў на яго з-пад касматых брывей і паціснуў плячыма.

— Паслухаць бы, як у цябе атрымаецца...

Высокі зноў усміхнуўся.

— І я сабе куплю калісьці касцюм,— сказаў ён па-нямецку, ужо ёй.— Зараблю грошай і куплю.

Марыхен стаяла каля шафкі, трохі нават прысеўшы на канцы дошкі на заложаных назад руках, і злёгку пагоўдвалася, нездаволена адтапырыўшы па-дзіцячы румяную ніжнюю губку.

«Балбочуць штосьці па-свойму, а што? Пра мяне?..» — падумала яна і сказала:

— Ну і купляй. А мне што да таго?

Пасля перастала пагойдвацца і з усмешкай спыталася:

— А чаму беларус? Ёсць яшчэ хіба і чарнарусы?

— Няўжо ж,— спакойна адказаў высокі.— Нас многа: і белыя, і чырвоныя, і вялікія русы.

Марыхен трохі даўжэй памаўчала, здаецца, нездаволеная тым, што вось гаворыць з ёю, як з малой.

— А што мне? — сказала потым.— Добра ўжо хоць, што вы не палякі.

— Чаму?

— Як чаму?! Палякі ж наогул не людзі. Яны вырвалі нашым вочы, адрэзвалі языкі... О, праклятыя!..

— А ты адкуль гэта ведаеш?

— Як адкуль? І газеты пісалі, і па радыё гаварылі. Нам і ў школе пра гэта казалі. Калі была вайна з палякамі, калі яны не хацелі аддаць нам нашага калідора і напалі на нас.

Высокі зморшчыўся, крутнуў галавою і горка ўсміхнуўся.

Таксама вось — абапёршыся, нібы прысеўшы на падложаныя ззаду рукі,— стаяла калісьці другая такая: ужо і не дзіця і яшчэ не зусім дарослая. У белым доміку з блакітным ганкам, на раз'ездзе.

«Іх габэ кайне шульд... Ям не вінна...»

Мілая Стася, прыгожая яснавокая істота, народжаная каханнем польскага батрака і нямецкай батрачкі.

— Ах, Марыхен, Марыхен!..

— Ну што?

— А ты не думала яшчэ, што ўсё гэта проста мана? Брыдкая, шкодная мана. Гэта ўсё выдумалі, тыя, каму выгадна, каб мы — я, значыцца, мой сябар, твой бацька і многа іншых людзей,— каб мы забівалі, калечылі, бралі ў няволю і мучылі адзін аднаго. А за што?

Ён памаўчаў, пасля чагосьці ўсміхнуўся.

— У цябе ж бабулі няма?

— Няма.

— Ну вось, бачыш, я ведаў,— зноў усміхнуўся ён на дзіва дзяўчыне.— Шкада. Бо ёсць яна, такая добрая, разумная старая маці. Жыве ў пушчы, над возерам. Яна мяне летась галоднага накарміла... З другім сябрам, не з гэтым. І гаварыла нам, плачучы, што вайна — гэта страшнае зло, што ўвесь свет — адзін дом. Ёсць жа такая нямецкая прыказка?

— Ёсць.

— Вельмі разумная прыказка.

Памаўчалі.

— Ох, так! — уздыхнула Марыхен, пераймаючы бацькаву звычку. Сказала, каб штосьці сказаць: — Гэта прыгожая казка.— І засмяялася.

— Чаму ж толькі казка? — спытаўся высокі.— Няма хіба такіх бабуль?

— Можа, і ёсць. У мяне не было.— Яна падумала трохі.— А мой фаці гаворыць таксама, як ты. Ён цяпер служыць тут, у горадзе: ён мне пісьмо прыслаў, і я паеду да яго. А можа, і ён сюды прыедзе. Фаці ведае рускіх, ён быў там, калі яшчэ быў малады, у палоне. Ён і гаворыць па-вашаму і спявае. Як трошкі вып'е шнапс. Ой, як гэта смешна тады!..

— Бачыш, і фаці кажа так, як мы. А ты вось чамусьці казала інакш. Пра палякаў.

— Усе так кажуць. І пра англічан — таксама.

Бялянка, здалося высокаму, засаромелася трохі. І, заўважыўшы, што меншы беларус ужо дапіў сваю каву, вельмі ахвотна ўцякла ад сораму ў гасцінасць.

— Што, смачная? — спыталася з усмешкай.

— Вельмі смачная,— сур'ёзна адказаў малы.— Дзякуй, Марыхен!

Служанка адчула сябе гаспадыняй, здаволена ўсміхнулася на пахвалу і па-дзіцячы міла спыталася:

— А можа, хочаце яшчэ? Дык я налью!

Хлопцы, вядома ж, не адмаўляліся. І яна наліла яшчэ кавы і раскроіла на дзве лустачкі апошні на талерцы акрайчык хлеба.

Калі яны дакончылі вячэру, Марыхен папрасіла пачакаць на калідоры, а сама пайшла і неўзабаве вярнулася з белай адпрасаванай пасцельнай бялізнай на загарэлай поўненькай руцэ.

— Цяпер хадзем, я пасцялю.

Ішлі дваром, пасля падымаліся па старых, рыпучых усходах.

У душы высокага, чым бліжэй да іх пакойчыка, тым ўсё больш узрастала гарачая, хмельная ўстрывожанасць. Два пачуцці паілі яго гэтым хмелем: ён любаваўся спрытнай немачкай, як непасрэдным, яшчэ па-дзіцячы мілым дзяўчом, а разам з тым не мог не бачыць, што гэта ўжо амаль зусім дарослая красуня. Ён цалаваў калісьці такія вось самыя губы... Тое было так даўно, а гэта, цяпер — так немагчыма!.. І ён п'янеў, ідучы за ёю першы, а яшчэ больш — калі яна мяняла навалачкі на іх падушках, распасціралa чысценькую, падзеленую канцікамі на квадраты прасціну, схіліўшыся над ложкам у ягоны бок і мільгануўшы раз і два маленькімі, бязлітасна наіўнымі грудзьмі...

— Ну, усё,— нарэшце сказала Марыхен.— Калі сцямнее, калі вы будзеце ўключаць святло, апусціце раней вось гэтую чорную паперу. Зацямненне. І спіце сабе тут кругленька, каб самі не былі кантовыя. Гэта — таксама прыказка. А як ты называешся? — спытала раптам, паказаўшы пальцам на высокага.

І ён, перш чым усміхнуцца з яе непасрэднасці, адказаў:

— Алесь.

— А ты?

Пальчык быў ужо настаўлены перад другімі грудзьмі.

— Я? Мазалёк,— сказаў малы і дабрадушна ўсміхнуўся з-пад залішне вялікага носа.

— Значыцца: Алекс і Ма-за-льёк... Ах, божа мілы!.. Ну, спакойнай ночы.

Высокі працягнуў руку. Яна падала яму зверху сваю. Нават зрабіла кніксен. Тады за руку развіталася з малым і паўтарыла з усмешкай:

— Ма-за-льёк. Гутэ нахт!

За дзвярыма па ўсходах затупацелі казіныя крокі.

— Разварушылася душа? — зноў уміхнуўся малы.— Дзяўчынка — і цаны няма!

— Пакута, браце Андрэй, а не Марыхен,— заплюшчыў вочы і крутануў галавой Руневіч.

А ў кухні тым часам адбывалася вось што.

Дзяўчаты, Ірма і Траўтль, прызначаныя арбайтсамтам для дапамогі Грубэру ў гешэфце, кожны вечар вярталіся прыгарадным цягніком дахаты, у свае недалёкія вёскі. Толькі Марыхен, далейшая, жыла тут пастаянна. І сёння, як толькі настольны гадзіннік прабіў сем, гаспадыня зайшла ў магазін і адпусціла прадаўшчыц напіцца кавы перад ад'ездам. І вось неўзабаве з кухні прыбегла Ірма і блізкім шэптам, амаль на самае вуха, спыталася:

— Фрау Грубэр, а дзе хлеб?

— У буфеце, дзяўчына, як заўсёды. Там быў яшчэ ладны акраец.

— Але ж яго няма. Адны крошкі!..

Ірма, відаць, лічыла, што гэта — штосьці смешнае, бо нават пахіхікнула. А фрау Грубэр нават сказала ў душы «сакрамэнт». Пайшла ў кухню і там заглянула ў буфет. І праўда — крошкі... Тады яна па-свойму, назаўсёды важна, павярнулася ад буфета і загадна гукнула ў прастору:

— Мар-ры!

Тая з'явілася хутка, як з-за дзвярэй.

— Я тут, фрау. Што вам?

— Натуральна, мая дарагая! Ты скарміла ім увесь хлеб! А там было грамаў з пяцьсот.

— Я не ведала, фрау, што гэтак няможна. Прашу прабачэння.

— Трэба ведаць, дзяўчына. Яны павінны былі напіцца па-людску, а не жэрці па-свойму.

Ірма хацела, відаць, паддобрыцца, а можа, і тут убачыла штосьці смешнае, бо ўсадзіла сваё:

— Фрау Грубэр, і я ўжо бачыла іх. А такія пацеш-

ныя: адзін кароценькі, а другі — о! — да столі, мусіць, дастане, Пат і Паташон. Праўда?

— Адчапіся! — лена махнула рукой гаспадыня. І да Марыхен: — А ты... ты не павінна тут разводзіць з імі свае дурныя тары-бары. Не ведаеш, што гэта значыць і чым гэта пахне? Я буду цяпер сачыць за табою. Сама. Разява! Ты зразумела?

— Але.

— Ну дык ідзі, працуй далей.

За дзвярыма, на шырокім і ўжо цемнаватым калідоры, на хаду дзяўчына выняла з кішэнькі фартуха хустачку і прылажыла яе, раз і другі, да вачэй.

А яны ўсё каціліся, лезлі наверх — дурныя вясковыя слёзы.

## НАМ ТРЭБА ВОЛЯ!

### 1

Адзін з павязкаю, другі — наогул у цывільным... Кватаранты?.. Дык што гэта — такі палон?.. Што азначае «звольнены палонны»?..

Так было.

Бутрым прабухукаў у штрафкампані дзён са тры. З запаленнем лёгкіх — дарожнай прастудзе памаглі голыя нары, работа і муштра на восеньскім ветры ды слаце — яго палажылі спачатку ў лагерны рэвір, а праз два тыдні, як толькі акрыяў, схапілі на арбайтскаманду. Пачалося капанне бульбы,— маёнткі і гросбаўэры, кулакі, стагналі без рабочых рук.

Нягледзячы на гэтыя стогны, у шталагу тым часам пачалася вельмі дзіўная, загадкавая марока... Зноў з «ад'ездам дахаты», у СССР... З'явіліся нейкія людзі ў цывільным, зноў пачалі перапісваць. Размаўлялі гэтыя перапісчыкі па-ўкраінску, а самы галоўны з іх, чарнявы ды вусаценькі, быў адзін з тых, як гаварылі ў лагеры, што забілі Перацкага, міністра ўнутраных спраў пры Пілсудскім.

Да яго, вусаценькага, Руневіч, толькі што выпушчаны са штрафной, і трапіў у чарзе на перапіску.

— Аляксандр? — перапытаў, пачуўшы імя палоннага, перапісчык.— Тобто Олэсь. Дзе нарадзіўся? — Пачуўшы назву паўднёвага, чарнаморскага горада, ён усміхнуўся ва ўсе вусікі: — Ну звісно ж, українэць! Так і запышэмо.

— Я беларус,— сказаў Алесь.— І вы пішыце так, як ёсць.

На гэты раз усмешка выйшла злосная, а тон — зусім другі.

— Таксама мне — раўняецца!.. Што Украіна, а што твая... нейкая там Беларусь.

А ўсё ж запісаў «Олэся» беларусам.

Руневіч адышоўся не столькі абражаны, колькі злосны сам на сябе.

Калісьці яго, на прызыве, польскі пісар куды больш культурна,— чуючы адно, а пішучы другое, як і належала згодна вышэйшых планаў пабудовы адзінай і магутнай хрысціянскай Польшы,— занатаваў, як прасцячка, «тутэйшым», а родную мову яго адзначыў не менш ідыёцкім казённым акрэсленым — «па-прастэму». І прызыўнік не бачыў гэтага («можна, панове, і без эксцэсаў!..»), заўважыў толькі пазней, ужо ў казармах, калі той пісар, фальсіфікатар па службе, быў для яго недасяжны.

А тут? Чаму ён не сказаў гэтаму новаму рэгістратару, што і яго нацыяналізм смярдзіць не лепш за польскі і за кожны іншы? Спалохаўся? А чорт іх ведае — хто яны, што яны робяць. Мне тут адно толькі трэба — дахаты вярнуцца...

З вёсак, з маёнткаў, з заводаў і з іншых работ штодня прыбывалі каманды — усё для той самай «адпраўкі дахаты». І ўкраінцаў, і беларусаў — усіх перапісвалі тыя самыя загадкавыя малайцы ў цывільных гарнітурах, то агітуючы па прыкладу свайго вусаценькага кіраўніка, каб беларусы лепш пісаліся ўкраінцамі, то, на благі канец, для ўласнай асалоды, запісваючы Міхася — Міхайлам, а Петруся — Пэтром.

Некалькі дзён хвалявалася гэтая маса, ўсе, хто з-за Буга і Сану, хто марыў вярнуцца туды, хто жыў гэтай марай — у кожным яе падабенстве. Якое цудоўнае слова — *дахаты!..*

Толькі Бутрыма не было. Адно, што змог даведацца Алесь — забралі Уладзіка на польскую каманду і далёка...

Першых адправілі ўкраінцаў.

«Куды?» канчалася для тых, хто заставаўся ў лагеры, на тым, што вось даўжэзная калона галасістых жартуноў,— сярод якіх, як і ўсюды, былі і слаўныя хлопцы, і так сабе, і брыда,— пайшла праз браму і павярнула ўлева, на вакзал. І ўсё.

А табе, хто паедзе пасля, застаецца двайное пачуццё: трохі зайздрасці, больш — трывогі...

Самы трывожны быў пасля момант адпраўкі эшалона са станцыі. Закрытая ў таварняках, з напружанымі, здавалася, да рэшты нервамі, беларусы гадалі ўсляпую: з якога ж боку стукне паравоз, куды ён павязе — на ўсход?..

І вось ён стукнуў буферамі, чорт яго вазьмі, павёз!

Усход заставаўся ззаду...

На чацвёртыя суткі, калі ўжо нервы даўно пераключыліся на другі, на пастаянны клопат: а ці дадуць нам хоць сёння пад'есці? — эшалон спыніўся ў баварскім гарадку.

Тысячы паўтары яшчэ ўсё не дамучаных голадам і тугою людзей не па-салдацку нястройнай калонай расцягнуліся на гарадскім асфальце, у акружэнні вахманаў, ідучы ў новы лагер, што, як і ўсюды, размяшчаўся на ўскраіне, каля казармаў.

Не ўсе хлопцы маўчалі. Як і ў вагонах, толькі што значна цішэй, чуўся гоман і смех — даставалася і надзеям сваім, і тым «дабродзіям», што перапісвалі.

У шталагу, куды іх прыгналі, былі французы. З паўсотні дашчаных баракаў, цёмна-зялёных, пад чорным толевым дахам. За дратамі, калі глядзець з сярэдзіны, была раўніна, тады, за рэчкай, дыміліся фабрычныя коміны, у жывой яшчэ зеляніне дрэў чырванелі чарапічныя дахі, а далей, за нерухомым зборышчам дамоў і гмахаў, уздымаліся невысокія Верхнепфальцскія горы, на схілах укрытыя лесам.

Адзін з баракаў ужо займалі тыя беларусы, што прыбылі сюды раней. Навічкі размясціліся ў трох суседніх. І адразу ж, пасля першай баланды на новым месцы, знаёмыя і незнаёмыя землякі сабраліся шумным натоўпам на лагернай плошчы.

Неўзабаве Руневіч заўважыў у натоўпе белую варону — дзіўнага ягамосця ў цывільнай нетутэйшай вопратцы.

Пасля года палону, з яго чужым цывільным абкружэннем, з яго разнаколернай і ўсё ж да суму аднастайнай салдацкай масай, Алесю было дзіўна і на першы погляд нават прыемна ўбачыць тут, на тым канцы нямецкага свету, у жоўта-зялёным салдацкім мурашніку, чалавека, апранутага так, як апраналіся на «ўсходніх крэсах» местачковыя франты. На чалавеку гэтым была пласкадонная, з доўгім казырком «крызісоўка», шэрая, з добрага матэрыялу, куртка, галіфэ «на калена рубец» і хлёсткія хромавыя боты-«факстрот»: вастраносыя, з высокімі заднікамі, халявы ўверсе сцягнутыя раменьчыкам з бліскучай спражачкай. Чалавек быў сярэдняга росту, мажны, з вялікай галавой і адпаведна абкладзены салам: на шчоках, на падбароддзі, на карку. Рукі трымаў ён у косых кішэнях курткі і гаварыў — Алесь адчуў гэта, падышоўшы,— неяк падкрэслена весела, прычым па-беларуску, відаць, без асаблівай прывычкі:

— ...Песні спявайце ўсякія: і «Льецца Нёман», і «Люблю наш край», і «Добры вечар, кумачка», абы толькі яны, чалавеча, былі не проціў Вялікаямеччыны... Дык хто ж тут з вас браткі, з нашай роднай Навагрудчыны? Ну, хто?

З адказам ніхто не спяшаўся. І Мішка Венік, смаргонскі смяхунчык з заечай губой, не вытрымаў.

— Во гэты во здаравіла! Руневіч! Ты што, не абедаў?

І пальцам паказаў, і падхіхікнуў яшчэ — як ніколі, здалося Алесю, бяздарна і недарэчна. «І сапраўды — блазнюк»,— злосна прыпомніў ён Бутрымаву пагарду.

А цывільны ўжо выняў з косай кішэні і працягнуў Руневічу вялікую і цёплую далонь, мякка пацісну хлопцаву і мякка, з радасцю загаманіў:

— Душа, браток мой, ірвецца да нашай прекраснай бацькаўшчыны. Пакутуем вось тут, на чужыне, выгнанцамі. Навыраблялі там бальшавікі. Якія цудоўныя людзі мусілі шукаць ад іх прытулку у Вялікаямеччыне! Ты ведаў, чалавеча, Сівалапа?

— Таго, што быў аконамам у Янаве?

— Во, во! І Сівалап павінен быў, чалавеча, уцячы. Што ты скажаш?..

— Яго, відаць, вельмі ж князевы батракі шкадавалі?..

Тут слухачы загаманілі, ажывіліся.

Зямляк у цывільным уважліва паглядзеў на палоннага з-пад свайго доўгага казырка і прыкметна пачаў па сале чырванець.

— Пачакай, ты адкуль, чалавеча, з якое там вёскі?

— Ну, з Пасынкаў. А што?

— Ведаю я твой куточак! Там, чалавеча, або баптыст які, або камуніст, а настаяшчага беларуса — няма!..

— І я вас ведаю,— усміхнуўся Алесь, нарэшце такі ўспомніўшы.— Тады вы гандлявалі лёнам?

Ну, так, ён вось таксама стаяў калісьці на местачковым рынку, з вялізнымі і цёплымі-мяккімі рукамі ў косых кішэнях, можа, гэтай самай курткі. Абкружаны ўвішнымі памагатымі, якія самі прапускалі каля вялікіх вагаў чаргу сялянскіх саней-развалаў са звязкамі раскошнага лёну, самі таргаваліся, са скуры вылузваючыся ад старання, самі, каго толькі ўдасца, абважвалі і аблічвалі. А ён толькі зрэдку вымаў свае белыя рукі з кішэняў: каб супакоіць, скажам, бабскі жаль — уласнаручна страсянуць палойку, даводзячы цётцы, што не такі ўжо, псякрэў, тэн лен і «залацэнькі», «як ёй се здае», або ўмяшацца ў залішне гарачую спрэчку мужчын — паляпаць дзядзьку па плячы і «папрастэму», як цяпер палонным, сказаць яму, што крычаць, чалавеча, няма тут чаго...

«А будзеш крычаць, дык і пойдзеш, мой пане, да ўшысткіх сту д'яблуў!..»

Па-польску, па-дзяржаўнаму ён гаварыў куды спраўней.

— Дык што, чалавеча, калі гандляваў?

— Ды нічога. Я толькі так кажу — тады гандлявалі...

— А ты разумненькі. Свіней я з табою, вядома, не пасвіў. Працаваў, дык і быў чалавекам. Ды што тут...

Ён павярнуўся і адышоўся ў натоўпе трохі далей.

«Пра якое выгнанне ды пра якіх выгнанцаў ён загінае? — думаў услед цывільнаму Алесь.— І ты што сам за такі эмігрант? Там украінцы нейкія, тут нейкі беларус...»

А той ужо зноў, як і раней, гаварыў — і весела, і няціха.

І раз, і два, і тры разы пачуўшы словы «бацькаўшчына», «воля», зразумеўшы іх у адзіным, уласным сэнсе, палонныя закідалі яго пытаннямі: «Калі і як?.. Чаго ж завалаклі ажно сюды?.. Колькі ж можна марочыць нам галаву?..»

— Трэба вам ведаць, браткі,— чуўся зноў мяккі, радасны голас,— і я растлумачу, як гэта будзе. Вялікаямечччына і фюрэр вельмі паважаюць наш беларускі народ, спрадвеку прыгнечаны, і хочуць даць вам, чалавеча, волю. Вы яшчэ ў гэтую восень, браткі, будзеце звольнены з палону і пойдзеце на вольныя работы...

— Ды што нам вольныя работы! — загудзеў шматгалосы натоўп.— Нам трэба воля! Дахаты чаму не пускаюць?

— А хто ж сказаў, браткі, што не на волю, не на бацькаўшчыну? Спачатку на волю, а пасля, чалавеча, дасць бог, і дахаты, на бацькаўшчыну. У цывільнай адзежы, як усе добрыя людзі!..

— На храна яна мне! Якімі нас узялі, такімі няхай і адпусцяць!

— Браткі!..

Тут хтосьці ўзяў Руневіча пад локаць, і хлопец, спачатку сумеўшыся, азірнуўся.

2

— Добры дзянёк, таварыш... здаецца, Алесь!

Гаварыў гэта даволі каржакаваты мужчына ў шынялі наапашкі, з пажылым і простым сялянскім тварам пад мятай палявой канфедэраткай.

Штосьці нібы знаёмае, нават блізкае зірнула ў Алесеву душу вачыма гэтага чалавека.

— Мы з вамі, Алесь, калі помніце, і знаёмы...

...Харошай радасцю прыйшоў, праплыў карцінай суровай зімы ўспамін.

Вагоннае акно, распісанае ўзорамі наледзі. За акном, у прахуканым кружочку, сцяна прыдарожных елак. А потым дзесяць кіламетраў ад паўстанка, жорсткае рыпенне пад ботамі, старая хата, акенцы — мацней, чым у вагоне, замураваныя марозам. Гэты самы вось дзядзька, абкручаны хусткай, толькі нос ды вочы відаць, ляжаў на драўляным ложку, пад старой кудзельнай коўдрай. І нікому — ні ў той старадаўняй хаціне, ні ў той вёсачцы на ўзлессі, ні на ўсім свеце, бязлюдна белым і сцюдзёным,— нікому, здаецца, не цікава было, што вось ён так і ляжыць і жыве!.. Замурзаная дзяўчынка, гады са два, у бруднай, зашмальцаванай сукенaчцы, нешта па-свойму гаворачы, тузала за вуха здаравеннага ката, што ленаваўся нават расплюшчыць вочы. На покуце, паміж двух белых акенцаў, стаяў хісткі стол, стары і незасланы.

«Дык гэта тут ён піша, на гэтым стале? — з сумнай і гордай радасцю думаў Алесь, седзячы каля ложка на табурэце.— Дык гэта вось ёй, смаркачцы, прысвечаны напеўныя, як калыханка, словы пра ўсмешку ясналвокага маленства? Дык гэта я ўжо бачу яго, хоць толькі нос ды вочы, каго бачыў дагэтуль толькі на здымку ў зборніку ягоных вершаў? Дык гэта вось ён — першы жывы паэт, адзін з тых герояў і пакутнікаў, чыё слова санацыя душыць як крамолу? Душыць слова, канфіскуючы кнігі, часопісы і газеты, душыць аўтараў — здзекам, галечай, катаваннямі, турмой. А слова жыве, сям-там з'яўляецца, хоць і знявечанае цэнзурай, у нядабітым беларускім друку, слова лунае ў песнях, што гучаць і ў нашых Пасынках!..»

А гаспадар — толькі глядзеў.

Адну толькі фразу сказаў ён, кіўнуўшы госцю, каб нагнуўся:

— Маўчанне — золата...

Засмяяўся светла-блакітнымі вачыма, паказаў рукою на тоўста абвязанае горла і зноў замоўк.

Неўзабаве з двара ўвайшоў высокі стары ў выцертым і палапленым кажушку, даў незнаёмаму дзецюку «добры дзень», зняў аўчынны каўпак і кінуў яго на лаву, тады зняў карэлыя і сагнутыя аўчынныя рукавіцы і ляпнуў іх на стол.

— Жытка! — сказаў ён, сеўшы на лаве.— Сама памерла, ён вось хварэе, а мне хоць парвіса!..

А ён жа — яшчэ ўсё румяны з марозу і сарамлівы юнак — мог на памяць прачытаць таму дзеду радкі па-народнаму сапраўднай паэзіі, прысвечаныя іменна яму, навеяныя сыну яго вобразам, відаць, не заўсёды такім непрыкрашана горкім!..

Успамін гэты махнуўся ў памяці, замыкаючы круг, і праз момант Алесь ужо гаварыў:

— Вы Крушына? Дык гэта і вы тут!..

— Ды тут, браток,— адказаў той з усмешкай.— Сяргей, ім, бачыш, спатрэбіўся на затычку. Я — пра паноў, душа з іх пілсудская вон! Валачылі мяне па этапах ды пастарунках, а ў вайну, глядзі, не забыліся. Маладых не паспелі мабілізаваць, а мяне, старога, браце, хапнулі. Ну што ж, хоць цяпер пагаворым.— Ён зноў усміхнуўся, цяпер ужо разам з Алесем.— А я гляджу, як ты тут з гэтым Бязменам талкуеш, і думаю: той!.. Пазнаёмцеся, калі ласка.

Крушына паказаў на двух хлопцаў, што падышлі з ім разам.

Адзін быў малы, што кідалася ў вочы, і ціхі, нават здаваўся панурым і смешнаватым з-за носа — і савінага трохі, і прастадушна-вялікага.

Другі — неяк не па-вясковаму элегантны і гнуткі, бялявы, з шырокай, перасалоджанай усмешкай, што таксама кідалася ў вочы адразу.

— Печка Пятро,— выразна і падкрэслена сказаў ён, хвацка ціскануў Алесеву руку і адначасна ляснуў абцасамі чаравікаў.

Малы назваўся Андрэем.

— Наш Мазалёк,— дадаў Крушына.— Па прозвішчу Мазоль, па сэрцы Мазалёк. А гэта, хлопцы, яшчэ адзін наш паэт, Алесь Руневіч. Імя нам, ёлкі кашлатыя, легіён. Бульба дробненькая, але многа. Ты ўжо глядзі, Пятро, хоць пра яго трымай свой язык за зубамі. Хадзем адгэтуль, пройдземся.

Калі яны выйшлі з натоўпу, сышлі з травяністай, выбітай нагамі плошчы і пайшлі па хрусткай ад шлаку дарозе, Крушына растлумачыў:

— Думаў я, браце, маўчаць сабе, як дагэтуль маў-

чаў на камандах. От, гефангенэр Караневіч, і ўсё. Ды гэты во,— ён паказаў на Печку,— ляпнуў у першы ж дзень. Ды каму яшчэ — Бязмену! «Тут, ведаеце,— перакрываў ён,— вядомы наш беларускі паэт. Крушына — гэта, ведаеце, псеўданім». Бязмен той першы раз пачуў, што я на свеце ёсць, ён пра Купалу чуў, відаць, толькі здалёк, а ты...

Печка з крывой, а ўсё ж перасалоджанай усмешкай маўчаў.

Алесю яшчэ было горача ад радасці, што і яго назвалі паэтам, і ён не вельмі цяміў пакуль што, чаго Крушына злуецца на Печку.

— А хто гэта Бязмен?

— Ды гэты вось, браце, боўдзіла галаваты, што агітуе. Той, што з табою гаварыў. А ты яго ніштo сабе прытармазіў. Хаця з такім дзярмом і чапацца залішне не варта, душа з яго вон. Мы тут ужо цэлы тыдзень. І мы табе ўжо можам сёе-тое расказаць.

...Ясна было адно: гэтым «звальненнем» з лагера, пераводам на «вольныя работы», пад нагляд паліцыі — пра што тут ужо цэлы тыдзень ідзе гаворка — канчалася ўся тая даўняя, таямнічая, зманлівая справа з запаўненнем анкет, перапісваннем, нават фатаграфаваннем, усе тыя размовы ды абяцанкі-цацанкі пра вяртанне на радзіму.

— Не такі ён, немец, дурны,— гаварыў Крушына,— каб адпусціць столькі рабочай сілы. І не новае гэта ў яго. Мой дзядзька ў тую вайну быў у іх палоне. Таксама, казаў, хто ў шталагу сядзеў, а хто быў на расканвоеных работах, пад наглядам паліцыі. Волі, сапраўднай волі, нам ад яго не чакай. Хто ў цябе дома, Алесь?

— Маці і брат.

— Пішуць?

— Цяпер ужо ніштo сабе: шэсць штук.

— А пра галоўнае пішуць? Пра тое, калі нас возьмуць адгэтуль?

— Брат яшчэ ў ліпені пісаў, што пачалі старацца. У Маскву напісалі, наркому замежных спраў.

— І што?

— Яшчэ не ведаю.

— Дык вось што кажа Масква. Каб вярнуцца, нам неабходна прыняць савецкае грамадзянства. Тады нас

будуць адгэтуль патрабаваць. А як ты прымеш яго, калі пішаш у тое паўпрэдства дый, далібог жа, не верыцца, што дойдзе. Мне і адрас прыслалі сябры, і напісаў я ў Берлін, паўпрэду нашаму, з месяц ужо, як напісаў, а адказу няма...

Гэта было галоўнае, што Руневіч пачуў.

А пра Бязмена Сяргей сказаў, што ён — адзін з тых, душа з іх халуйская вон, «эмігрантаў», якія паўцякалі ўвосень трыццаць дзевятага сюды ды сабраліся ў Берліне ў нейкае там сваё «беларускае прадстаўніцтва».

— Што там за прадстаўніцтва — ліха іх ведае. Боўдзіла гэты,— Крушына засмяяўся,— па прозвішчу пан Самацэвіч, а Бязменам мы ўжо самі яго ахрысцілі. Ён там, у тым прадстаўніцтве, так сабе, відаць, заткала з атрэп'я. Але назваў неяк два прозвішчы — Акінчыца і Астроўскага,— і нам з Андрэем шмат чаго прыпомнілася па Вільні. Фашысты нашы, беларускія. Вось іх немцы цяпер і ўзялі памагатымі. Нас, брат, звальняць.

— І што ж рабіць — звальняцца?

— А ліха яго ведае, Алесь! Не захочаш — папросяць. Не я скачу — няволя, прымусілі панове. Мы вось утрох, Пятро, Андрэй і я, тут застаёмся, на пошце будзем працаваць.

— І цудоўна, Сяргей,— з усмешачкай уставіў сваё Печка.— Не ўсё ж табе, браток, з тваім здароўем, гной накідаць у баўэраў.

— Чуеш? — кіўнуў Алесю Крушына.— Гэта яго работа, ён нас з Андрэем уцукраваў, калі выбіралі пісьменных. Тады ж ён, з вялікай любові, і ляпнуў Бязмену, хто я... Чорт яго, зрэшты, бяры! Усё-такі тут, у лагеры, ды яшчэ каля пошты, пачуем што-небудзь хутчэй. А Мазалёк наш кажа, што і зрабіць, можа, сёетое ўдасца... Як, былы камсамол?

Ён штурхануў малога пад бок.

— А мы пабачым, як былыя камуністы.

Андрэй пачаў гэта з-пад свайго носа неяк панура, а потым, канчаючы фразу, усміхнуўся — так па-свойску, што і Алесю захацелася называць яго Мазальком.

— Чэрці! — прытворна спалохаўся Крушына.— Тут жа і дрот, і слупы, душа з іх вон, усенька чуюць! Тут жа вось і Пятро... Не раскажаш Бязмену?

— Ну, ведаеце, таварышы,— пачырванеў і скрывіў-

ся, змяніўшыся з твару, Печка.— Усяму ёсць мяжа. Мне гэта горка чуць ад цябе, Сяргей, бо табе, дык найлепш...

— Ды годзе ты,— нездаволена зморшчыўся Мазалёк.— Сам ляпаеш, самому горка.

— Спакойна, хлопцы. А то яшчэ, ёлкі кашлатыя, пасварыцеся тут, на смех французам... Бачыў, Алесь, колькі іх тут шпацыруе? Цікава, браце, колькі ты пабудзеш з намі і куды цябе потым,— га?

— Што ж, паглядзім.

### 3

Аднак глядзець Руневічу давялося нядоўга. Назаўтра гэтай парою ён быў ужо ў другім гарадку, за сем кіламетраў ад шталагу, на заводзе крыштальнага шкла.

Пра годнасць фірмы крычаў вялізны чорны надпіс на белай доўгай сцяне: «Gebrüder Bayer und K°» [1]. Два невялічкія, дзіўна лёгкія на хаду таўсцюхі, у аднолькавых касцюмчыках, з аднолькавымі вусікамі а ля фюрэр і з таўшчэзнымі цыгарамі ў губах, блізнюкі Баер, якіх Алесю пацешна было ўяўляць у вясковай кадрылі (адных, без іх таямнічае К°), небывала стараліся каля палонных. Трохі пазней ад старога рабочага Алесь даведаўся, што за прычына гэтага старання. «Вайна, не да крышталю, майн юнг, збыту няма, рабочых ад арміі не браніруюць. Бачыш — адны дзяды, падлеткі і дзеўкі. Калі ўжо Баерам удалося дастаць ажно сорак чалавек палонных, дык яны і хапаюцца за вас, і дагаджаюць — хаця ты толькі працуй...»

Штуба была прасторная і чыстая, нары новыя, адзінарныя, хлеба далі блізнюкі, у параўнанні са шталагам, амаль удвая... Работа — зусім-такі інтэлігентная: пад наглядам старых майстроў палонныя вучыліся шліфаваць узоры на посудзе. Цэлы дзень пад дахам, нават рукі, аголеныя да локцяў, палошчуцца ў цёплай вадзе, што цурчыць на тачыла... Гут!

Каманда падабралася цікавая: знаёмыя па ранейшых камандах, па штрафкампаніі, па службе ў войску. Быў гарманіст, былі галасістыя хлопцы.

---

[1] Браты Баер і К°.

І тут, як на ранейшых камандах, Алесь наладзіў вучобу.

Рэдка хто з хлопцаў скончыў сямігодку: каго бяда спыніла на пятым класе, каго на чацвёртым, хто з трэцяга пайшоў за чужымі хвастамі, хто, як той Бутрым казаў («Ах, Уладзік, Уладзік, дзе ты цяпер?!.»), адзінаднюткі скончыў з бацькам на двух. Дый школа была чужая, польская. Тут, у няволі, жылі яны думкай пра тое, што ўсё ж такі дахаты вернуцца, і таму прапанова Руневіча — вярнуцца туды пісьменнымі па-свойму — усім прыйшлася па душы.

Вахман жыў у пакойчыку побач са штубай. Браты Баер прадбачліва прабілі ў сцяне ад пакоя акенца, зрабілі засаўку з боку ўлады. Вечарамі засаўка тая даволі часта прыпаднімалася, і ўлада — гер вахман, калі быў цвярозы, зіркаў адтуль на сваіх падначаленых. Малюнак быў амаль штовечар той самы: «лянгэр Алекс» дыктуе, а ўсе «вайсрусэ» пішуць у спытках алоўкамі, седзячы абапал даўжэзнага стала, над якім звісаюць электралямпачкі. Калі ж уладзе зноў удавалася выпіць — яна не заспакойвалася акенцам, а заходзіла ў штубу. З выглядам самога фюрэра, заламаўшы рукі назад і прыдаўшы чырвоным вачам максімальную праніклівасць, добра такі падношаны ваяка марашыраваў вакол стала, а потым рэзка тармазіў. Расставіўшы наглянцаваныя, шырокія ў халявах боцікі, ён хрыпла выбухаў:

— Ахтунг! Што тут у вас — Akademie der Wissenschaften? Schule? Universität? [1]

Тады ўжо, з пачуццём належна споўненага абавязку, «фюрэр» маршыраваў за дзверы, несучы за сабою ўвесь свой страх.

Пісьмы з дому пайшлі гусцей. Пачалі з'яўляцца пасылкі — цяжкія фанерныя скрынкі, абшытыя суровым палатном. Хлопцы аж нюхалі яго, пакуль распорваць!.. У скрынках — традыцыйна паходныя сухары, чорная, на камень спрасаваная сіла і радасць мужыка; аполкі сала, што і сюды прынесла халаднавата-салёны пах запаветнага кубельца; сухія сціснутыя кольцы каўбас, што для цябе віселі ў каморы на жэрдачцы, уцалеўшы ў касьбу і ў жніво; яшчэ не бачаныя і зусім

[1] Акадэмія навук? Школа? Універсітэт?

па-новаму святочныя савецкія цукеркі, папяросы і махорка!..

Святое гэта дабро, далёкую хатнюю ласку спажывалі хлопцы камунай.

Успамінаючы Крушыну, гутарку з ім і знаёмства з яго сябрамі, Алесь прыгадваў не словы Сяргея і Мазалька пра «былы камсамол» і «былых камуністаў»...

Ён сябраваў калісьці, дома, з падпольшчыкамі ў суседніх вёсках (у Пасынках іх не было) і ведаў, што кампартыя і камсамол Заходняй Беларусі былі распушчаны ў трыццаць восьмым годзе. Ведаў, як гэта цяжка ўдарыла па падполлю, як горка перажывалі, не разумелі гэтага яго сябры. У словах Крушыны і Андрэя яму пачулася тады, на лагерным рыпучым шлаку, і тая горыч, і сялянскі гаючы жарт, і — галоўнае — светлая, цвёрдая вера людзей, якія ўжо не маглі не лічыць сябе камуністамі, камсамольцамі...

А гэтая камуна ў штубе, на чужыне? Хіба ж яна не ішла ад той самай веры, ад тых лукішскіх ды ўронкаўскіх традыцый, ад тых турэмных «палітзакаўскіх» камун, пра якія хлопцы ведалі з маленства? Хлопцы з усіх куткоў Наднямоння, з пінскіх лясоў і балот, з Нарачанскай азёрнай поўначы, і прастадушныя, і хітрыя, не адзін з якіх, глядзі ты, яшчэ ўсё захоўвае канспірацыю, з сялянскай асцярожнасцю не прызнаецца, што і ён — былы падпольшчык.

«А што ж гэта Сяргей з Андрэем так прызналіся? — здзівіўся радасна Алесь, і сама тая радасць, здаецца, давала адказ: — Свяяцтва душ з Крушынам, рыбак — рыбака...» Бо і сам ужо не мог не думаць, што лёс прынёс яму пачатак новай дружбы.

Перад выхадам на арбайтскаманду Руневіч паспеў знайсці Крушыну ў бараку лагернай пошты, выклікаў яго на двор, каб развітацца і параіцца яшчэ раз, што ж ім рабіць будзе з гэтым праклятым «звальненнем».

— Пакуль, відаць, не паддавайцеся. А мы тут будзем нюхаць. Ты ведаеш, у чым заключаецца мая работа? Пісьмы з дому прыходзяць сюды пасля цэнзуры навалам. Стаяць доўгія скрынкі, з карткамі на кожнага, там адзначана, хто дзе працуе. Словам, картатэка. І вось бяру я, скажам, тваё пісьмо. Перш за ўсё мне, вядома, прыемна: «Ага, Алесь наш воспляшет!» А потым лезу я ў адпаведную скрынку, шукаю на літару

«Р», знаходжу і даведваюся, што раб божы Руневіч знаходзіцца цяпер на камандзе нумар такі-та. Ну, адзначаю на канверце — і ўсё. Дудкі, браце, не ўсё! Давай дамовімся так. Паколькі пісьмо ўжо распячатана, а як на лагерным бланку, дык і зусім адкрытае, паколькі цэнзар паставіў ужо на ім сваё «Гепрыфт», праверана,— можна і мне, грэшнаму, усадзіць туды свой нос, чыркануць табе парачку слоў. Пад цітламі, ёлкі кашлатыя! Так і дамовімся, браток...

Цяпер у кожным Толевым пісьме была якая-небудзь прыпіска Крушынавым почыркам. Часцей за ўсё проста прывітанне, некалькі вясёлых слоў, без «цітлаў» пакуль што, а проста з усмешкай яшчэ аднаго на чужыне блізкага чалавека. А «пад цітламі», пра іх галоўную бяду,— ані слова...

«Звальняць» іх прыехалі ў снежні.

Вахман прывёў каманду з цэха ў штубу. Пажылы, пануры унтэр-афіцэр выняў з партфеля і палажыў на стале дзве стопкі паперак і, здзівіўшы каманду нечаканасцю, звярнуўся да яе на добрай рускай мове.

— Робіцца гэта толькі для вас, для вашага дабра, з высокіх меркаванняў гуманнасці, так уласцівай ВяліканяМеччыне і фюрэру. А вам — адна выгада: работа тая самая, а грошай удвая, ніякіх вахманаў, можна наняць сабе прыватную кватэру, купіць цывільны касцюм...

Браты Баер стаялі справа ад унтэра, павярнуўшы да яго свае стандартныя галовы ў аднолькавых капелюшах, трымаючы пад фюрэрскімі вусікамі, у акругленых губах аднолькава тоўстыя, роўна да палавіны выкураныя сігары, праз якія яны і маглі толькі дыхаць.

— Кожны з вас атрымае вось такую, белую паперку, дзе напісана, што обэркаманда дэр вермахт — нямецкае вярхоўнае камандаванне, адпускае такога-та з палону. На другой паперцы, зялёнай, кожны з вас убачыць сваё фота... Вас жа здымалі? Здымалі. Гэта — маленькія аўсвайсы, вашы асабістыя пасведчанні. Пад фота трэба паставіць свой подпіс, а тут вось, у гэтым спісе, распісацца ў атрыманні дакументаў... Итак, начнем, господа. Праз паўгадзіны я змагу павіншаваць

вас са свабодай. Хто першы? — ён заглянуў у спіс.— Адамейка Пётр. Прашу.

Аднак гаспадзін Адамейка нават і не крануўся з месца. Унтэр назваў яго зноў. Заварушыўся вахман: «Што гэта?!» І тут малы, рахманы пехацінец з Браслаўшчыны загаварыў, не выходзячы з натоўпу, як з карэ:

— Я вам не буду нічога падпісваць. Якога вы мяне сюды ўзялі, такога і адпускайце дахаты, у Беларусь.

Пануры унтэр моўчкі паглядзеў на палоннага, і голас яго загучаў падазрона спакойна:

— Придет время — поедешь в свою Беларусь. Иди сюда, пиши.

— Я ўжо лепш пачакаю, калі яно прыйдзе, тое ўрэмя.

Унтэр доўга такі паглядзеў на яго і, не сказаўшы нічога, зноў заглянуў у спіс.

— Бунчук Іван. Бяры. Падпісвай.

Высокі, рабы ад воспы хлопец таксама не выйшаў з карэ, але рашуча, збялелы, сказаў:

— Падпісваць я нічога не буду.

— Ну и дурак. Для тебя же делается... Василевич Федор.

— Не падпішу,— адрэзаў з-за чужых плячэй даўганосы, чорны Федзя, зноў надоўга звёўшы свае заядлыя тонкія губы.

— Сакармэнт, ніхт нох маль! — загаварыў нашэрце унтэр адпаведна сваёй форме.— Так что же тут у вас — бунт? Который тут учитель? Руневич, подойди сюда!..

Па прывычцы высокага, Алесь стаяў воддаль, за спінамі сарака чалавек каманды. Слухаючы адказы сяброў, ён успомніў тую сцэну з «Уваскрэсення», дзе сяляне, якім Няхлюдаў прыехаў раздаць зямлю, таксама не захацелі нічога падпісваць. «Не тое гэта, вядома, што да Няхлюдава і гэтага вось барына (ці не з астзейскіх ён якіх-небудзь баронаў?..), аднак, што да нас, мужыкоў,— тое самае. Чаго не ведаю — нават і крыжыкамі не падпішу! І нямецкая вёска таксама гаворыць: «Чаго баўэр не ведае, таго і не жарэ». Успомніўшы той, асабліва ўдалы, падраздзельчык, дзе мужыкі едуць на начлег і смачна гавораць: «Ишь, ловкий какой — подпишись, а он тебя живого и прогло-

тит!..» — Алесь усміхаўся ў душы, а потым раптам, нібыта зусім нечакана, пачуў сваё прозвішча. Усмешка яго адразу саступіла месца той самай напружанай і трывожнай рашучасці, з якой адказвалі сябры.

Аднаго ён не мог сабе пасля даравадь — што не сказаў свайго з месца, а трохі прайшоў у натоўпе наперад... «Каб не хавацца за спінамі? Са страху? Механічна, як салдат?..» Праўда, не многа прайшоў, бо па здзіўленых позірках некаторых сяброў адчуў свой міжвольны промах, спыніўся і сказаў:

— А я таксама не буду нічога падпісваць.

— Так вот ты какой, голубчик! — Унтэр глядзеў на яго спадылба.— Твоя работа?

— Кожны думае за сябе. Я тут якраз адзін з наймалодшых.

— Я уже любовался твоим личным делом. Там уже кое-что есть. Я еще присмотрюсь к тебе, ты не думай... Так что же, никто не подпишет? Молчите... Хамы вы, вот что я вам скажу. Хамы и дураки! Освободим мы вас и так, без вашей подписи. Никуда вы от нас не уйдете!..

...Некалькі дзён каманда святкавала перамогу: бясконцымі размовамі пра тое самае, кепікамі з унтэра, песняю пад гармонік.

Алесь падумваў, аднак, і гаварыў некаторым сябрам, што справа на гэтым, вядома, не скончана. А пра самога сябе меркаваў у душы: забяруць. Можа не з такою музыкай, як вясною з маёнтка, а ўсё ж, відаць, і «путшэрам» зробяць, і забяруць... Нават чакаў падсвядома.

Ды ўсё закончылася для яго непрадбачана: яшчэ адной прыпіскай да Толевага пісьма, на гэты раз — пад умоўленым «цітлам»:

«Хросная перадавала прывітанне. Яна ўсё чакае цябе і плача. Дзед».

Трэба дабрацца ў шталаг.

Увечары ён чыркануў пазногцем па згібе вялікага пальца левай нагі і кроў заляпіў пажаваным, моцна пасоленым хлебам. Улетку, паводле іх «народнай медыцыны», для гэтага найлепш прыдалася б курыная слепата, якую расціралі і прыкладалі проста да цела, не робячы ранкі. Але і соль зрабіла сваё: назаўтра



На секцыю прозы.
*Злева направа:*
А. Адамовіч, І. Мележ, І. Навуменка, Я. Брыль.
*Мінск, 1963 г.*



З героем нарыса «Сэрца камуніста» П. Жалезняковічам.
*Карэлічы, 1963 г.*

Алесь закульгаў, а на трэці дзень (соль падбаўлялася) не змог ужо выйсці са штубы.

Браты з цыгарамі нанеслі яму асабісты візіт. Убачыўшы апухлую, чырвоную нагу (павязка з соллю на дзень, вядома, здымалася), яны загадалі вахману завесці палоннага да фрау Корб. «Дваццаць метраў. Зойдзе як-небудзь. Затое адтуль ужо вернецца здаровы».

Падсухая, мітуслівая фрау Корб, што ў спецыяльна абсталяванай кухні, з вялізным катлом, дзень пры дні варыла ім картофэльсуп і каву на сахарыне, і тут атрымаўшы адпаведныя інструкцыі, пачала яго лячыць па-свойму, з ахамі ды охамі.

У кухню быў прынесены вялікі таз. Браты Баер і вахман стаялі над гэтым тазам, чакаючы, калі ў катле закіпіць вада, у якую, пасля даволі доўгай кансультацыі, была засыпана нейкая заварка. «Лянгэ Алекс» сядзеў каля таза на табурэце, разуўшы хворую нагу, якая адпаведна калацілася. Потым лекі з катла былі выліты ў таз, кіпень разведзены халоднаю вадою, тады адзін з братоў Баер («Чаму ж не абодва?» — з усмешкай падумаў палонны) усадзіў у зеленавата-жоўты духмяны навар свой гаспадарскі палец і, цяжка разагнуўшыся над тазам, акрэсліў:

— Генуг. Садзі сюды нагу.

Самі яны, разам з вахманам, неўзабаве пайшлі, сказаўшы, што праз паўгадзіны ўсё будзе ў поўным парадку.

«Рамонак,— думаў Алесь.— Выцягне соль. Што ж тут рабіць?..»

На дапамогу прыйшла сама фрау Корб. Справіўшыся з адной работай, яна схапіла вядро і — о, мілая! — пабегла ў пограб па бульбу. Тады пытанне вырашылася вельмі хутка.

На паліцы і тут, нібы ў нармальнай кухні, стаялі белыя слоікі з блакітнымі словамі: цукар, перац, соль... Узяўшы соль, Алесь плюхнуў у таз добрых жменяў з чатыры — проста слоікам...

Быў спалоханы строкат — і охі, і ахі, калі вярнулася з бульбай кухарка; было вялікае здзіўленне на аднолькава поўных і разгубленых тварах стандартных братоў,— нага палоннага распухла яшчэ больш...

І хоць яны, гаспадары, не вельмі спадзяваліся, што ў шталагу дадуць ім другога, здаровага работніка, вы-

ходу іншага не было — адправіць «вайсрусэ», пакуль яму не пагоршала.

На чацвёрты дзень пасля «прывітання ад хроснай» Руневіч апынуўся ў шталагу.

## 4

З усяго, што тут адбылося за тры месяцы, Алеся найбольш уразіла... добраахвотнае звальненне Мазалька!..

Аднак, калі ён выказаў Крушыну сваё вялікае здзіўленне гэтым, стрымліваючыся, каб не сказаць большага, Сяргей засмяяўся.

— Там у тую нядзелю,— сказаў ён,— Андрэй наш прыходзіў у госці. Пад капелюшом, у клёшыку, ёлкі кашлатыя! Сёй-той таксама, як і ты, крыва глядзіць: што зрабілася з такім сваім хлопцам? А ён, браце, зрабіў для ўсіх нас... ну, найважнейшую справу.

Малы, маўклівы Мазалёк пайшоў «на волю» — нібы ў разведку, цяжкую і небяспечную. Некалькі хлопцаў, самых блізкіх, аддалі яму свае лагермаркі, якія пры звальненні абменьваліся на сапраўдныя грошы. Рабочы вялікай гуты Андрэй неўзабаве купіў сабе цывільны касцюм і шмыгануў цягніком у Берлін — у савецкае паўпрэдства. Расказаў, што і як, паказаў тыя дзве паперкі, што выдаюцца звольненым.

І таварышы з консульскага аддзела паўпрэдства сказалі: не атрымаўшы савецкага грамадзянства, дахаты не вернешся; седзячы за дратамі, дамагацца грамадзянства вельмі цяжка, амаль немагчыма; дык што ж, звальняйцеся, будзем прасіць грамадзянства, а атрымаўшы яго — паперкі гэтыя, якіх вы так баіцеся, можна будзе выкарыстаць... ну, на што хто захоча...

— Што ты, Алеська, скажаш цяпер? Цаны няма Андрэю нашаму! У вачах пасвятлела. Ведае чалавек, што рабіць. Прыпіскамі, намёкамі я не мог табе растлумачыць нічога, бо справа патрабуе асцярожнасці. Слухай...

«Звальненне» палонных на арбайтскамандах ішло ўсё ж такі поўным ходам. Усё больш ды больш асабістых картачак у паштовай картатэцы памячалася

словам «энтлясан». Але, як даходзілі чуткі, і ўпіраліся таксама многія. Іх апрацоўкай, словам і страхам, займаліся немец Лёмаз, той самы пануры унтэр, і «настаяшчы беларус» Бязмен. Першы больш ездзіў па камандах, другі сядзеў у шталагу, дзе, у адным з баракаў, у яго быў пакойчык-канцылярыя.

На Бязмене была яшчэ і цэнзура пошты, дзеля чаго яму прыслалі з Берліна двух памочнікаў. Яны сядзелі ў паштовым бараку, адкуль час ад часу прыходзілі ў Бязменаў пакойчык з пісьмамі, найбольш падазронымі па намёках.

Адзін з гэтых памочнікаў, нахабны прыгажун Карнач, раней вучыўся ў львоўскай політэхніцы; другі, прышчаваты і сарамлівы Сарока, закончыў агранамічны факультэт Віленскага універсітэта. Як яны трапілі сюды, калі былі завербаваны ў тое «беларускае прадстаўніцтва» — Сяргею з сябрамі пакуль што не ўдалося даведацца.

Як ні цяжка было, седзячы за дратамі або на камандзе, стараецца атрымаць савецкае грамадзянства, работа гэтая вялася усё ж такі паспяхова.

Кожны палонны павінен быў перш за ўсё напісаць у паўпрэдства заяву, тады атрымаць адтуль тры анкеты, запоўніць іх, прылажыць тры фотаздымкі, напісаць дахаты, каб адтуль прыслалі ў паўпрэдства дзве даведкі, завераныя сельсаветам: адну на тое, што такога-та сапраўды ёсць каму дома прыняць, а другую аб тым, што ён не належаў пры Польшчы ні да якіх антысавецкіх арганізацый.

Справа з паперамі, як для нявольніка,— вельмі нялёгкая.

Крушына і некалькі чалавек, што памагалі яму, павінны былі перш за ўсё весці растлумачальную работу, памагаць не толькі тым землякам, што працавалі ў горадзе і начаваць прыганяліся ў лагер, але ж і тым, што пражывалі ў вёсках, на заводах, на будаўніцтве — па ўсёй акрузе, засакрэчаныя нумарамі арбайтскамандаў, раз'яднаныя ў асобныя групы. З гэтымі працаваць было куды цяжэй, чым з лагернымі, аднак сёе-тое ўдавалася. Народ снаваў увесь час — на каманду, з каманды, хто па хваробе, хто за якую правіннасць,— прыслухоўваўся да гутарак пра шлях на сапраўдную волю; хто верыў, хто і тут толькі чухаўся,

а ўсё ж другім перадаваў... Словам, праца растлумачальная ішла.

Куды цяжэй было атрымліваць анкеты і адсылаць іх назад у паўпрэдства праз лагерную пошту. Цэнзары рабілі сваё, і з імі трэба было змагацца...

Камендантам свайго барака беларусы, якіх цяпер, у студзені сорак першага года, у шталагу было не больш трохсот, выбралі пажылога, рухавага дзядзьку з вялікімі вусамі і вясёлым імем — Трайны Марцін. Свае рыжыя і непамерныя, як навырост, вусы ён выпеставаў тут з намерам здзівіць калісьці (дай божа!) бабу і дачку, а Трайным яго ахрысцілі па той простай прычыне, што называўся ён Марцін Марцінавіч Марціновіч.

Трайному Марціну было даручана прыручаць, улагоджваць Бязмена.

І гэтага вусач не змог бы рабіць з належным поспехам, калі б ён не дружыў з масье Жанам Папёлакам, старшым кухарам у французаў.

У параўнанні з беларусамі французы жылі тут проста магнатамі. Апроч таго, што большасць з іх часта атрымлівала з дому пасылкі, вішыйскі ўрад Петэна,— яны казалі, што па ўмовах перамір'я,— памагаў палонным прадуктамі і вопраткай з вайсковых складаў неакупіраванай часткі Францыі. На станцыю час ад часу прыбывалі вагоны з кансервамі, шакаладам, галетамі, мяхамі сушанай садавіны, з французскімі і англійскімі шынялямі, мундзірамі, абуткам... Вялікае шчасце бывала таму з беларусаў, хто трапляў на разгрузку вагонаў: і сам пажывіцца, і хлопцам прынясе. Кралі вахманы, кралі шафёры, кралі палонныя. А ўжо найбольш, вядома, перападала ўсяго на долю старшага кухара.

Масье Папёлак — гэта быў польскі рабочы, які ў канцы дваццатых гадоў уцёк ад беспрацоўя ў роднай Лодзі туды, куды ў той час уцякалі многія — у Францыю, што стала пакрысе яго другой, куды ласкавейшай радзімай. У беларускі барак вяла яго спачатку зямляцкая цяга: там былі людзі ў польскіх мундзірах, там ён мог аджывіць сваю душу роднай мовай; потым ён падружыўся з Трайным Марцінам, на нарах якога яны, «як старыя», гамонячы ледзь не шэптам, праседжвалі доўгія вечары.

У дружбе сваёй «начальнікі» не былі эгаістамі.

— Ясю, браток, падкінь што-небудзь маім хлопцам,— напамінаў сяды-тады Трайны, за кожным разам усё часцей.

І Жан, ён жа Ясь, падкідаў. Калі ён прыцемкам прабіраўся ў беларускі барак, часта следам за ім які-небудзь таямнічы, відаць, таксама свойскі хлапчына-француз валок на гарбе зашыты стандартны мех уруку ці чарнасліву; калі ж Ясь прыходзіў адзін — пад пахай у яго абавязкова бывала штосьці меншае, але мацнейшае па каларыйнасці — скажам, сардзіны ці шакалад — таксама ў стандартнай тары.

А то наказваў Жан Марціну, каб ён на добрым змярканні падаслаў двух хлопцаў з катлом: заставалася баланда з чырванаватых пшанічных высевак і бульбы, самая гушча, да чаго ягоныя паночкі былі цяпер наогул неахвотнікі.

Часамі масье Папёлак прыносіў сёе-тое ў кішэні, што ўжо яны спажывалі з панам Марцінам інтымна, хаваючыся ад камуны, аказваючы асцярожную ды глыбокую павагу аднаму толькі пану Сяргею.

У адзін з такіх вечароў на Марцінавых нарах, пры патаемнай чарцы агнявога каньяку, Жан-Ясь прызнаўся, што ён яшчэ і Хуан — сархенто [1], камандзір узвода ў батальёне імя Дамброўскага...

У Іспанію прабраўся ў пачатку трыццаць сёмага; пасля разгрому зноў перайшоў французскую граніцу, пасядзеў трохі ў канцлагеры, а летась вясной паслалі супраць Гітлера. Як і ўсіх. І ніхто тут не ведае пра сархента Хуана.

— Толькі вы, товажышэ, амігос мае кахáні. І я вам веру, як сваім...

З дабрадушнага мармытуна, у якім магло не спадабацца даволі яўнае сяброўства з чарачкай, пан Ясь рабіўся захопленым расказчыкам пра слаўныя справы і страшны канец абаронцаў рэспублікі, ён і смяяўся ціха, як быццам падпольна, і змаўкаў нечакана, выдаўшы прыглушаным словам слязу, а раз дык нават заспяваў, па-сармацку [2] прыгожа ўскінуўшы галаву ў вастрачубай французскай пілотцы:

---

[1] Сержант *(іспанск.)*.

[2] Сармата — паляк, у традыцыйным, ваяўніча-гордым гучанні.

Но к'еро сэр ні каво, ні сархенто —
солдато расо, солдато расо,
і нада мас!.. [1]

Група таварышаў, што гуртавалася вакол Крушыны, даручыла Трайному, пры дапамозе масье Папёлака, заняцца Бязменам. Кемлівы і вясёлы дзядзька Марцін вельмі хутка выявіў даўнюю схільнасць «настаяшчага беларуса» да чаркі, даставаў яму гэтую чарку і, пры ўсякім выпадку, запэўніваў:

— Хлопцы ў нас — настаяшчыя, шчырыя беларусы, не сёння, дык заўтра ўсе пойдзем на волю. Хто ж пашкадуе нас, як не свой? Недарма ж вас, пане Самацэвіч, нашы хлопцы паміж сабой называюць Бацькам!.. За ваша, Бацька, здароўечка!..

Праўда, вусач сам і пачаў яго так называць, з Марцінавай лёгкай рукі да Бязмена прыліпла яшчэ адна мянушка, ужо лягчэйшая, аднак і з'едлівая не менш. Ад дружбы з Трайным Бацька пачаў спакваля на многае глядзець праз чарку, абыякава. Цэнзараў, Карнача і Сароку, Крушына даручыў увазе Печкі.

— У гэтага,— гаварыў ён з усмешкай Алесю,— заўважаецца пэўны лішак ліслівасці. Так бы ён, ёлкі кашлатыя, і ўсміхаўся направа-налева, і ляскаў бы абцасамі, як падхаронжы [2]. Пабыў у войску капралам і так... няўжо ад гэтага так сапсаваўся? Хлопец, вядома, наш, але трымаць трэба і папраўляць штодня. А справу сваю робіць здорава. «Входящее» можа, браці, свіснуць у гэтых перчыкаў з-пад самага носа, да цэнзуры, а на «исходящем» — крутнецца, пашчабеча, паляскае ў іхнім пакоі і, глядзіш,— паставіў пячатку «Гепрыфт». І пайшло яно, браце, туды, куды яму трэба, душа з іх фашысцкая вон!..

Алеся Крушына выклікаў не толькі на тое, каб расказаць, што і як, каб даць і яму магчымасць атрымаць ды адаслаць анкеты,— на пошце быў вельмі патрэбен яшчэ адзін свой чалавек.

— Андрэя не вернеш,— казаў ён,— а браць абы-каго — можна і напсаваць. Мы вось месяц ужо цягнем з Пятром удвух і кажам, што спраўляемся, але ж работы ўсё-такі да ліха. Згодзен, юнача?

---

[1] Не хачу быць ні капралам, ні сержантам — радавым салдатам, радавым салдатам, і больш нічога!.. *(іспанск.)*

[2] Курсант афіцэрскага вучылішча *(польск.)*.

— Ды што вы?! — горда і ўдзячна сказаў Руневіч. Хацеў дадаць: «З вамі — ого!», але сказаў толькі: — Вядома!

Аднак пайшло з гэтым не вельмі лёгка.

Праўда, Трайны Марцін неўзабаве, зайшоўшы неяк увечар да Бязмена не толькі «з кропляй», але і з самім масье Папёлакам,— як гэта ўжо часта бывала,— пачаў выконваць загадзя падрыхтаванае:

— Эх, Бацька, Бацька! Не шануеце вы, гляджу я, ні самога сябе, ні паэта Крушыну. Што вам скажуць на гэта бацькаўшчына, народ? — уздыхнуў ён і закруціў галавою.— Сяргею трэба яшчэ адзін памагаты. Французаў там, на пошце, многа, яны, нябось, сваіх людзей не марнуюць работай. А Крушына адзін, толькі з Печкам. Жане, вашых там многа, браток, ці ж не так?

— Сі, сі, боку[1]. О, бардзо дужо.

— Ну, вось бачыце, Бацька?

— Падумаю, чалавеча, падумаю,— плямкаў Бязмен, кусаючы накрытую французскімі сардзінамі лустачку.

— А што тут думаць? — насядаў Трайны.— Ходзіць жа вось гэты самы Руневіч. Хлопец, Бацька,— лепшага і не трэба. І Сяргею ён падабаецца. Праўда, Ясю, харошы хлапчына?

Масье Папёлак, ужо ў той стадыі пачуццяў, калі на свеце ўсё рабілася ясней ды весялей, кіўнуўшы злёгку пасінелым носам, вядома ж, пацвердзіў:

— Сі, сі. Трэ б'ен гарсон[2]. О, файны хлопак!

— Не падабаецца ён мне,— не згаджаўся нават і захмялелы Бязмен.— Не настаяшчы ён беларус. І Лёмаз узяў яго на вока.

— Молада-зелена, Бацька! Памыліўся ён там, на камандзе. І вас паважае, не думайце. Розум — ён, Бацька, да розуму цягне. Што, ён не бачыць, што вы за чалавек? Ды ўжо ж і мы з Сяргеем яму не раз талкавалі. Звальняецца хоча. І зволніцца, няхай толькі нага зажыве. А наш Сяргейка як петаваў бедны, так і будзе петаваць. Эх, Бацька, Бацька!.. За нашу волю, за бацькаўшчыну — яшчэ па кроплі!..

Алесь не ведаў дакладна, колькі там кропель спа-

[1] Так, так, многа *(французск.)*.
[2] Так, так. Вельмі добры хлопец *(французск.)*.

трэбілася Трайному, аднак на другім тыдні яго кульгавага бадзяння па шталагу ўвечары Марцін сказаў Крушыну з хмельна-бадзёрым задавальненнем пад рыжымі вехцямі:

— Ну, Сяргейка, усё! Ледзьве, браток, уламаў. Бязмен — усё ж такі бязмен.

З ранку наступнага дня Руневіч засеў у паштовым бараку.

## 5

Вёска глядзіць на гэта проста.

Нясе вам хто-небудзь з пошты пісьмо і здалёк яшчэ кажа з добрасуседскай усмешкай:

— Ад вашага Івана! Піша, што ўсё, богу дзякаваць, добра. Яно там недзе расклеілася было, дык і я паглядзеў.

І вельмі рэдка хто з адрасатаў злуецца за гэта. Часцей за ўсё пісьмо чытаецца ўголас, пры людзях, і выпадковы паштальён толькі патаквае ківокамі галавы, слухаючы вядомае з выглядам перавагі над тымі, хто чытае і чуе пісьмо ўпершыню.

Часта бывала, што непісьменнай цётцы або дзядзьку («Трасца яго матары, без акуляраў ужо ніяк не магу!») пісьмо ад сына з войска ці з турмы або ад дачкі з далёкай службы ў горадзе ці ў маёнтку ўголас чыталі на лаўцы перад хатай, пры цэлай чарадзе актыўна зацікаўленых і слухачоў, і каментатараў.

Крушына з Алесем успаміналі пра такое весела, паблажліва. Ведалі яны таксама, што на арбайтскамандах мала хто не паказваў або не чытаў атрыманых пісьмаў сябрам. Вестак з волі, з радзімы было так мала, што імі дзяліліся, як хатнім засушаным хлебам з пасылак.

Дзяліліся.

А тут — зусім штосьці іншае...

Вялізны белы пакой у паштовым бараку. Каля сцен навокал — сталы, табурэткі; на сталах — картатэчныя скрынкі і мноства пісьмаў, дзень меншымі, а дзень большымі стосамі. Пятнаццаць чалавек палонных французаў і тры беларусы, якія сядзяць у кутку каля дзвярэй, прыходзяць уранні на свае месцы за сталамі, дзе і карпеюць цэлы дзень, з гадзінным перапынкам

на абед. Ўранку і апоўдні ім падкладаюць на сталы ўсё новыя ды новыя дзесяткі, сотні пісьмаў, якія прайшлі цэнзуру і павінны быць размеркаваны па камандах.

«Многа пісьмаў, паштовак... І на лагерных бланках, пасланых палоннымі дахаты, і ў простых канвертах, на простых паштоўках... Не простых, а савецкіх — з гербам, з маркай, з паштовым штэмпелем на беларускай мове, асабліва... ну, небывала, непаўторна любай побач з чужымі, нявольніцкімі літарамі ды лічбамі адраса...»

Так думае, вядома, беларус і навічок — Руневіч.

«Столькі пісьмаў! Столькі вестак з розных куткоў радзімы! Якая, божа мой, спакуса!.. Ну, хоць бы толькі заглянуць да некага на агеньчык, ну, толькі б трохі пагрэцца каля нечай радасці!.. Брыдка? Некультурна? Вядома ж! Аднак жа гэта, здаецца, звыш маіх сіл. Тым больш што ўсе яны адкрытыя, нават і тыя, што ў канвертах. А што ўжо гаварыць пра паштоўкі, якія самі паварочваюцца да цябе, не адрасам, а спакусай!..

Тым больш што і Сяргей — старэйшы, паважаны чалавек — таксама... Ды ўжо даўно, відаць, не таксама, а без барацьбы з самім сабою, без вагання, без сораму прыпадае вачыма да чужых — ох, якіх красамоўных! — радкоў».

У першы дзень Алесевай працы, заўважыўшы, як хлопец пакутуе ад цікаўнасці, Крушына спачатку рабіў абыякавы выгляд занятага чалавека, крадком цікаваў з-за пляча на свайго юнака, а потым ціха, добра, як заўсёды, засмяяўся:

— В борении, иноче, пребываешь? Усё роўна, браток, яны цябе пераможуць. І ўдзень дыхнуць не дадуць, і ноччу будуць сніцца: «Прачытай!..» Мяне яны перамаглі даўно. Аз есмь, ёлкі кашлатыя, грэшэн у гэтым зело!

Печка таксама чытае. Ён то ўсміхаецца моўчкі, то прыстае да цябе са сваім захапленнем. Але Печка — не прыклад: Алесю ён не падабаецца.

І французы чытаюць. Ды ён жа зусім не ведае гэтых людзей,— ні маладых рагатуноў, з іх яшчэ ўсё поўнасцю не зразумелым «цісіканнем», ні сівых ды лысых масье ў акулярах, з люлечкамі ды муштукамі, з выглядам важным, маўклівым, загадкавым.

Было і яшчэ адно апраўданне:

«Я ж не цётка якая, што садзіць нос у шчыліну, каб потым абрахаць. Я гляджу ў гэты родны, такі пакуль што таямнічы свет, бо я люблю, я ўсё гэта аддам калісьці чытачу...»

А наймацней усё ж такі дзейнічала проста неадольная спакуса, насустрач якой, з кожным днём усё менш ды менш зважаючы на ўсякую там барацьбу, ішла, мякенька падкрадалася прывычка.

Чытанне гэтае напамінала Алесю той чорны дэтэктарны прыёмнічак, якім ён два-тры гады назад, вечарамі ды з асцярогай, лавіў Мінск і Маскву, настойліва і прагна настройваўся на высокую, родную хвалю.

Цяпер гэтая хваля ўключалася адразу, зранку, як толькі ён прыходзіў ды садзіўся на сваё месца за доўгім сталом, і спявала ў душы яго цэлы дзень.

Чаго-чаго там не было!.. І першыя каракулі нечай першай дачушкі, якая за многія сотні кіламетраў, праз усе граніцы ды цэнзуры паведамляла тату цудоўную вестку пра тое, што ў яе ўжо «вываліўся трэці зуп». І традыцыйна-стандартнае «ва первых страках» і «жду атвета, як салавей лета», пад чым пульсавала, крынічыла жывая туга, жывое гора наваградскай ці пастаўскай маладзіцы. І матчыны несхаваныя слёзы, і бацькава старэчае, знарок ды не вельмі ўдала бадзёрае гугненне. І наіўная нецярплівасць дзяўчыны, што вось ужо чакае столькі і гатова, глядзі ты, прыраўнаваць свайго хлопца да самой недасяжнай Нямеччыны. І асцярожная, а ўсё ж месцамі заплямленая хімічным цэнзарскім алоўкам радасць бедняка, якому прыйшоўся нарэшце кавалак панскага поля. І юнацкая радасць: «Вучуся, браток, гуляем, браток, спектаклі ставім — эх, чаму цябе няма!..» Сотні людзей, сотні вёсак — наперабой, жывымі галасамі ў большасці малапісьменных радкоў — расказвалі пра новае жыццё, доўгачаканае шчасце ўз'яднання з радзімай, пра першыя радасці волі.

Праўда, былі і такія пісьмы, дзе за намёкамі, даволі празрыстымі і для староннягa вока, ныла нездавальненне новым ладам:

«Жывём, сынок, як у нас жыла пры Польшчы Ганна Заморкава, а скора будзем, мусіць, жыць і яшчэ лепей...»

Калі пісьмо такое трапляла ў Крушынавы рукі, Сяргей зноў ціхенька смяяўся, паказваў «хітрыя» радкі Алесю і казаў:

— Няйначай як дзядзьку прыціснулі хвост. Цікава, як жа сябе адчувае цяпер тая Ганна Заморкава: ці так, як ён адчуваў сябе пры панах?.. А далей глядзі, што піша ён, кулачына: «Калі табе там, сынок, як ты пішаш, у бавара таго нядрэнна, дык і жыві, можа, здароў, не прыся ты сюды...» Зусім, брат, па-бязменаўску!..

Ды падобныя пісьмы толькі мацней адцянялі шматлікія, жывыя крупінкі яшчэ ўсё там, у Заходняй прыўзнятай, святочнай агульнанароднай радасці, рассыпаныя ў клопатах чыста сямейных, у чыста сямейнай тузе па родным чалавеку, які вось недзе гаруе ў той час, калі ўсе добрыя людзі жывуць сабе дома...

Сяды-тады сярод чужых пісьмаў — ах, як жа многа пішуць другім! — з'яўлялася, біла па сэрцы родным почыркам пісьмо табе.

Сябры дзяліліся пісьмамі з дому.

Алесь падсоўваў Крушыну Толевы, зноў радуючыся ў душы, які ў яго брат, як ён піша і пра новае ў іхняй вёсцы, і пра свайго сынка, і пра старую, хворую маці ў шчаслівай, паэтычнай ролі бабкі, і пра Аню сваю, і пра кнігі, і... «Як я сумую па табе, як нам цябе не хапае, як часта ўспамінаюць цябе хлопцы і дзяўчаты, як ты пісаў бы цяпер!» Словам — усё такое, што нараджаецца ў тузе разлукі, чаго не пачуеш у абыдзёншчыне сумеснага жыцця.

Сяргею пісаў стары бацька, зрэдку — замужняя сястра, пісалі сябры па былому падполлю. Некаторыя з іх толькі ў верасні трыццаць дзевятага павыходзілі з санацыйных астрогаў і цяпер, мяркуючы па пісьмах, радасна, проста захоплена наладжвалі ў сваіх мясцінах новае жыццё. Адзін з іх працаваў у абласным цэнтры, другі — ажно ў Мінску, на высокай пасадзе.

«Мы тут клапоцімся пра цябе,— паведамляў ён Сяргею,— ужо напісалі ў Маскву, так што хутка ты зможаш абняць сваіх родных, а я, старына ты мой любы, цябе...»

Пра Алеся ажно такіх высокіх клопатаў, вядома, не было. Яму проста Толя прыслаў, па яго просьбе, дзве даведкі, копіі тых, што ён паслаў непасрэдна ў

Берлін, у паўпрэдства. У адной з іх, для каго — адпаведна строгімі, а для каго і сухімі словамі, гаварылася, што ён, Алесь — сапраўдны сын і брат сваіх родных, жыхар свае вёскі, з якое не па ахвоце пайшоў у далёкі, суровы свет. А другая даведка, таксама знешне вельмі простая, сведчыла, што ён чысты перад сваім народам і «ні да якіх антысавецкіх арганізацый не належаў». Абедзве паперкі, на вырваных са сшытка лістках у клетачку, там, на радзіме, у іхнім мястэчку, былі нечым зусім звычайным для таго, незнаёмага Алесю, чалавека, які пісаў іх, падпісваў і хукаў на сельсавецкі фіялетавы, беларускі штамп. А тут яны, у далёкім, зашыфраваным літарай і нумарам шталагу, былі сустрэты ледзь стрыманай слязою радасці, як прывітанне і матчына ласка радзімы, яшчэ невядомай, нябачанай, загадкавай, што вось клапоціцца і пра яго!..

Гэтыя даведкі — так і не нацешыўшыся імі ўдосталь — Руневіч для большай пэўнасці далучыў да запоўненых анкет, дэкларацый і фотаздымкаў і паслаў у паўпрэдства ў пачатку лютага.

На жаль, пазней за многіх, але ж далёка не апошні.

## 6

Светла-жоўтыя, горда аздобленыя двухмоўным грыфам паўпрэдства СССР пакеты прыходзяць на лагерную пошту амаль штодня.

Увішны і ліслівы Печка не так сабе мала калі прыпыняўся на сваім рабочым месцы, а больш круціўся ў тым пакоі, дзе сядзелі цэнзары. Ён улашчыў іх сваёй «адданасцю» не горш, чым Марцін французскаю чаркай Бязмена.

Былы студэнт Карнач, сынок цёплага мешчаніна з павятовага прыгранічнага гарадка, нядаўні «азонавец» [1], які толькі тут, у Нямеччыне, успомніў, што ён па паходжанню беларус, на працу сваю, па сямейнай традыцыі, глядзеў, як на лягчэйшы кавалак хлеба. Ду-

---

[1] ОЗН, у простай мове «азон» — «Лагер нацыянальнага аб'яднання», фашысцкая арганізацыя пілсудчыкаў.

маў і гаварыў ён найбольш пра немак, якіх браў сваёй прыгажосцю, нават і з выгляду нахабнай, без лішняга інтэлекту на высокім і чамусьці белым ілбе.

Аграном Сарока, які яшчэ ў беларускай гімназіі захапляўся вершамі Крушыны, даволі хутка прызнаўся яму цяпер у сваёй бядзе. Ён — таксама палонны, якога, як «падхаронжага», у афлагу, афіцэрскім лагеры, завербавалі ў «гэтае беларускае прадстаўніцтва», як гаварыў ён з горкім і пагардлівым прыціскам. Бо ўжо, здаецца, шчыра каяўся, адчуўшы сваім, у аснове сялянскім, здаровым розумам, што здуру трапіў у нерат. І не проста каяўся, чырванеючы разам з усімі сваімі прышчамі, а ўжо і прасіў у паважанага чалавека парады, што рабіць, як і яму вярнуцца да старэнькай маці...

Словам, светла-жоўтыя пакеты, у безлічы іншых пісьмаў вывернутыя грузчыкамі-палоннымі з паштовых мяхоў на падлогу, у большасці даволі лёгка абміналі цэнзарскія сталы.

Печка заходзіў туды заўсёды ў час, трохі раней за Карнача і Сароку. То адна, то другая шуфляда іхніх сталоў бывалі няспраўна замкнёныя, і пячатка з усемагутным словам «Гепрыфт» узбройвала спрытныя Печкавы пальцы. Цэнзураваў ён і тыя пакеты, і стандартныя бланкі да пісьмаў, і чыстыя, прынесеныя «звольненымі» з горада канверты. Пакеты — для большай бяспекі, бланкі — для менш асцярожных пісьмаў дахаты і на каманды, чыстыя канверты — для адсылкі запоўненых анкет у паўпрэдства.

Для тых, што працавалі ў лагеры, найцяжэй было з фотаздымкамі. Праўда, вахманы вельмі любілі здымаць палонных, вывуджваючы ў іх лагермаркі, але здымкі былі ў іх — от сабе ды найбольш групавыя, маленькія. І не папросіш жа ў яго: здымі ты мяне добра, для анкет!.. Аднак і тут знайшоўся выхад. Гарадскі смяцяр на параконным возе кожнай раніцы пад'язджаў да лагернай брамы браць двух палонных. Хлопцы зрэдку мяняліся. Стары буркун не адмовіў ніводнаму, хто прасіўся ў яго на «айн мамэнт» забегчы да фатографа, «бо матка вельмі хацела б атрымаць маю картачку». Фатограф, як і вахманы, ахвотна браў шчодрыя, бо бясцэнныя для палоннага лагермаркі, рабіў сваю работу хутка, па квітанцыі аддаючы яе чарго-

ваму памочніку смецяра. Да якасці здымкаў ніхто з іх не прыдзіраўся, нават дзякавалі авансам, бо важна было хлопцам адно...

Як хвалявала Алеся гэта *адно* — справа сапраўднай волі, савецкага грамадзянства! Не толькі тады, калі ён запаўняў і адсылаў свае анкеты, дрыготкай рукой надпісваючы нямецкі адрас роднай, выратавальнай для іх установы. Многа такіх жа канвертаў давялося яму надпісаць, такіх жа анкет запоўніць за тых, каму гэта было цяжка. Многім сябрам і знаёмым пісаў ён пісьмы на каманды, карыстаючыся загадзя працэнзураванымі Печкам бланкамі, тлумачыў без намёкаў, што і як рабіць. Найперш, вядома, на тую каманду, адкуль ён прачыкіляў перад вахманам сем кіламетраў. І часта, пішучы ды запаўняючы, успамінаў свайго Бутрыма... Уся работа гэтая, небяспечная і хвалюючая, успрымалася Алесем як служэнне вялікай справе. Разам з сябрамі, якіх яму добрая ўсё ж такі доля дала і тут, у новым лагеры, яшчэ далей ад дому.

Адзін з французаў, важны, сівы масье Пуатвэн, які сядзеў направа ад Руневіча, за праходам, упадабаў чамусьці бялявага, дужага, інтэлігентнага з выгляду «рускага» і даволі ўжо часта гаварыў яму на лагернай «нямецкай» мове, папыхваючы люлечкай і задуменна ківаючы галавой:

— О, Але́кс, ду ніпгт фарэ́н наш Соўет!..

Не едзь ты, значыцца, у Савецкі Саюз, бо там толькі трэба шмат працаваць. А галоўнае, малады чалавек, у нашым жыцці — гэта грошы. «Гельд іст але́с...» [1] — гаварыў ён, смакуючы гэтае слова, як верны смакуе «гасподняе цела і кроў».— У Францыю паедзем — гэта край, малады чалавек!..

І здзіўляўся стары фінансіст (ён так назваў сваю прафесію), нават вельмі здзіўляўся, што гэты дзіўны юнак, гэты проста сялянскі сын (Алесь казаў яму) смяецца з яго прапановы — і сам, і разам з масье Крушына́...

Сяброў Руневіч паважаў не ўсіх аднолькава.

Першае месца займаў у яго думках Крушына. Нешта блізкае было ўжо нават у тым, што ён і імем, і гадамі напамінаў Алесю брата Сяргея, трагічнае, за-

---

[1] Грошы — гэта ўсё!.. *(нямецк.)*

гадкавае зняволенне (а можа, і смерць?..) якога яшчэ ўзмацняла і так ледзь не легендарны ў іх сям'і вобраз харошага і разумнага друга, якога ўжо, відаць, не будзе. Не піша Толя пра яго. Няма — і ўсё...

Другое месца ў Алесевых думках было, пасля Крушыны, падрыхтавана Мазальку. Ды той прыходзіў з горада нячаста, цераз адну, а то і цераз дзве нядзелі. Яго акружала тады паўбарака, на плошчы ці на вуліцы абавязкова прысуседжваліся хлопцы, і нельга было пасядзець або пахадзіць ім удвух ці ўтрох з Сяргеем, бліжэй пазнаёміцца з гэтым яшчэ ўсё загадкава сімпатычным хлопцам.

Печку Алесь недалюбліваў за саладжавасць усмешачкі і ляскание абцасамі, хоць гэта і вельмі тут прыдалося. Асабліва нямілы ён стаў пасля таго, калі не вытрываў усё-такі і брахануў Бязменавай кампаніі, што і «Руневіч таксама паэт». А тыя так ва ўсім разбіраюцца, так ведаюць беларускую літаратуру, што і паверылі...

Трайны Марцін трошкі не падабаўся Алесю па-свойму. Заданне сваё, улашчваць Бязмена, вусач выконваў так старанна, што проста, відаць, упадабаў тыя выпівачкі, прывык да іх. Алесь наогул не ведаў яшчэ гарэлкі, нават на смак, і п'яныя былі для яго не столькі пацешныя, колькі агідныя, вартыя жалю. А Трайны вяртаўся ўвечары з новага задання часамі такі пад прыкметнаю мухай, лез цалавацца, як самы сардэчны чалавек, і зацягваў, як патрыёт, да слёз любімую «Широка страна моя родная». Асабліва непрыемна было тое, што яму пачало пасля як быццам не хапаць «для працы» аднаго масье Жана Папёлака, і ён паспрабаваў заманіць у Бязменаў пакойчык Сяргея. Крушына раз ці два, «для канспірацыі», чокнуўся з ім, а малады яго друг «Алеська» нечакана і горка адчуў сябе самотным, нават старэйшым за саракагадовага, бывалага і разумнага чалавека, паэта і камуніста...

Хоць і ведаў, што ўсё гэта трэба ім для галоўнае справы, што і Печка, і Трайны, і Папёлак робяць гэтую справу кожны па-свойму, як могуць, добра; хоць і дакараў сябе часамі за «священькую чысціню»...

Вынікам Печкавай балбатлівасці было такое здарэнне.

Вясной таварышы, згуртаваныя вакол справы з

вяртаннем, добра такі пачалі адчуваць, што круг вакол іх змыкаецца,— арбайтскаманды і шталаг пусцеюць, а палонныя хаця-нехаця пераводзяцца пад нагляд паліцыі. Пануры унтэр Лёмаз не лгаў тады, на Алесевай арбайтскамандзе,— палонных ніхто не пытаўся, хочуць яны «звальняцца» ці не. Чыя чарга прыходзіла, тых выганялі за драты пад канвоем. (Быў нават і такі выпадак, што адзін беларус, «звольнены» і прызначаны арбайтсамтам на работу грузчыкам пры магазіне... уцёк назад у шталаг да сваіх. Яго не ўпусцілі, і напалоханы, збіты з толку дзядзька ўсю ноч прасядзеў у кустах, насупраць лагернай брамы.) Крушыну і сябрам стала зусім прыкметна, што і іхнія лагерныя дні палічаны. І хлопцы пачалі падумваць, раіцца пра «звальненне». Страху асенняга ўжо не было, амаль усё, што можна было зрабіць для сяброў з анкетамі,— зроблена, і чакаць, пакуль іх выганяць ды разгоняць каго куды,— не варта.

Трайны зрабіў Бязмену намёк: «Нам бы работу дзе не вельмі цяжкую, ды каб разам і тут, у горадзе...»

І вось неўзабаве пасля таго Алеся нечакана выклікаў Карнач.

Нечакана — бо ўжо не раз ён даваў Руневічу адчуць сваю антыпатыю і вышэйшасць. Нават і Толю яго не любіў.

— Напішы свайму брату,— сказаў аднойчы, зайшоўшы на пошце ў іхні пакой,— што ён вялікі дурань.

Ад раптоўнага хамства Алесь заўсёды спачатку бянтэжыўся і нават чырванеў. Так было і тады. Саўладаўшы з сабою, заціснуўшы злосць у душы, ён усё-такі пекануў:

— Ад вас яму будзе пачуць гэта — асабліва цікава.

І зірнуў спадылба і збоку, нават не павярнуўшыся, тым сваім позіркам, які, на думку Крушыны, і даймаў «таго з...ца» найбольш.

— Актывісцік... Ніяк не нахваліцца...— выціснуў белалобы, стрымліваючыся, відаць, больш па нейкай загадкавай службовай неабходнасці, чым ад прысутнасці французаў і Крушыны, якому ён усё-такі «ты» яшчэ не казаў.

На што ён намякаў, Карнач,— на ўсе Толевы пісьмы ці, можа, на якое-небудзь адно, што так і засела ў

цэнзарскім стале,— Руневіч не даведаўся. А што не любіць яго гэты... бабнік, не кажучы іншага,— ведаў і адчуваў амаль кожны дзень.

Таму і здзівіўся, што іменна яго ён выклікаў у Бязменаву канцылярыю.

Адзін у тым пакойчыку, з партрэтам фюрэра і саматробнай картай Беларусі на сцяне, Карнач выяўляў сваім тварам і важнасць новага, маладзейшага Бязмена, і нечакана прыязнае панібрацтва.

— Ёсць прапазыка, браце Руневіч,— сказаў ён, амаль зусім удала, патрэбна ўсміхаючыся.— Ідзі ты працаваць у «Раніцу». Работа лёгкая і грашаўная. Творчасць. Адно тваё, браце, слова, што згода, і заўтра будзеш у Берліне. Як?

Ісці на працу ў рэдакцыю газеткі, якую выдае той зброд, што ўцёк ■ радзімы і па-фашысцку яе ненавідзіць,— гэта было ўжо куды больш канкрэтна, чым прапанова масье Пуатвэна. Затое ж і вельмі канкрэтна не смешна.

— Вы ведаеце, пане Карнач, што я...— пачаў палонны, зверху, прыплюшчыўшы светлыя вочы пад навіссю саламяных брывей.— Ну, так, вы ведаеце, што я ўжо раз уцякаў. І я хачу, як і дагэтуль хацеў, аднаго — дадому.

— Што ж, паглядзім, хто яшчэ пашкадуе. Вам здаецца...

«Змылачак ты фюрэрскі»,— усміхнуўся ў думках Алесь і спытаўся, перабіваючы гаворку дабрадзея:

— Мне можна ісці?

— Ідзіце...— сыкнуў той і, густа пачырванеўшы, ледзь-ледзь не вылаяўся.

«На якой гэта мове было б?» — зноў усміхнуўся палонны, выходзячы каралём.

Ён яшчэ ўчора ведаў, што падобная гутарка вялася перш за ўсё з Крушынам. З той розніцай, што на Сяргея наступаў сам Бязмен. Руневічу ён гэтай ласкі не зрабіў. Аднак адмовіцца і на ніжэйшым узроўні, як жартавалі сябры, Алесю было не менш прыемна.

Праз тыдзень пасля гэтай гутаркі Алесь, Крушына, Печка і Трайны — у чарговай, перадапошняй групе нехворых — выйшлі з-за лагерных дратоў. У арбайтсамт, а адтуль — на заводы. На чужую, часовую, небяспечную «волю».

# БЫЛО ГЭТА ЦІ НЕ?

## 1

На схілах невысокіх гор, што асланяюць горад з поўначы, шумяць духмяныя гонкія сосны.

Іх добра слухаць, лежачы на траве, бясконца разгледзячы ў неба праз сіва-зялёную сетку ігліцы. Іх расдасна ўяўляць здалёк, вось як цяпер, на світанні, з чужога пакойчыка, зноў адчуваючы голымі рукамі і грудзьмі даўно забытую пяшчотнасць вельмі звычайнай чыстай падушкі.

Калі сосны на схілах заціхаюць зусім, у той затоена шчаслівы, рэдкі час маўчання і непарушнасці проста не верыцца, што яны — такія моцныя, такія падгордыя, такія меднастволыя — могуць гайдацца, паддаючыся кожнаму ветрагону... Ды не! — яны тады проста прыгожыя ціхім, задумлівым, здаецца, несмяротным хараством.

Калі ж вяршыні іх гайдаюцца ад ветру, кожная сасна сабе, калі іх шум пяе, густы і дужы, высокую, вольную песню,— тады ўспамінаецца, вось як цяпер, вячэрні хор на вуліцы роднай вёскі...

Іхнія Пасынкі нібы знарок пабудаваліся калісьці на ўзгорку, каб найдалей ва ўсе бакі чуваць былі вясновымі вечарамі галасістыя песні мужчын. Былі ў іх, вядома, і гарладзёры, аднак былі і такія, што песню любілі любоўю ціхай, натхнёнай, якая, здаецца, і не прыходзіць ніколі і ніколі не пакідае цябе, а проста твая ўсё жыццё, як доля, як сам ты — з тваім болем, з радасцю, з тугой па нечым нязбытным, што павінна было б хоць як-небудзь прыйсці, але вось не ідзе...

Звычайны дзядзька ў Пасынках — Барыс Харута. От сабе, не так жыве чалавек, як з клопату не вылазіць. А голас — божа мой, што за голас! Яго б для цэлага свету, па радыё перадаваць, ды салавей гэты навек ублытаўся ў сіло вераўчаных лапцюжных абораў. Усяго і свету пабачыў за век, што ў царскіх салдатах ды на вайне (прападзі ён, той акопны свет!), адкуль прынёс для сябе аднаго — пакалечаную руку, а для сябе і для другіх — многа цудоўных песень.

З волжскім, з раўнінным, з таёжным раздоллем Расіі, з сардэчным сумам ямшчыцкіх званочкаў, з

бурлацкім стогнам ды з грознаю, гордаю сілай усенароднага «Барадзіна» ці «Ермака»... З хмельнаю, буйнаю, ціхім і шчодрым сонцам залітай украінскай радасцю, пышнагрудай і каравокай, з дасціпным, смачным смехам, з размахам і адчаем запарожскай славы, страчанай, ох як даўно, на бязмежжы крывавага Прыдняпроўя...

У гэты навальнічна-магутны рокат дзвюх музычных стыхій задушэўна ўпляталіся песні пра слуцкіх прыгонных ткачых, пра Нёман, быстры і чысты, як быццам з расы, пра юнака, што памірае ў турме, пакідаючы любы свой край у пакуце, пра ясную крынічную ваду, што плешчацца ў залаціста-сасновых вёдрах прысухі-суседачкі...

Вясной, толькі вясной — ніколі так не спяваецца! І колькі б іх, мужчын ды хлопцаў ні было, якімі б шырокімі ні былі іх маладыя грудзі, як ні грымела б іх песня пад самыя зоры,— усіх перамагаў Барыс Харута. Нават свайго любімага памочніка, Алеся. Не крыкам, а нейкай дзіўна ціхай сілай голасу, які з пашанай называлі хто проста тэнарам, а хто яшчэ і «дражашчым».

Спяваючы, дзядзька Барыс — і высокі, і стройны, і нават прыгожы, якім ён без песні ніколі не быў,— пагойдваўся, як тая гонкая сасна, разгайданая радасным, сонечным шумам. І, пераймаючы запявалу, у такт песні пагойдваліся мужчыны, дзецюкі, падлеткі, што шумелі вакол яго лесам, ноччу нікому не бачным, але затое ж патрэбным і проста наўздзіў, як здаецца, прыгожым — за шум свой, вядома, за песню, што красіць любое жыццё.

Алесь глядзіць, не ўстаючы з пасцелі, у адчыненае акно і ўспамінае, як быццам нават міжвольна, і тыя родныя песні ў бясконца далёкай беларускай вёсцы, і той нямецкі сасоннік, што шуміць цяпер недзе на схілах недалёкіх гор за горадам, таксама вось, як ён, прачнуўшыся ад першых промняў усходу. Сосны, высокія гонкія сосны ён бачыць у сонцы, ад верхавін да травы. Яны паволі, песенна гайдаюцца, варушаць ды разводзяць нязлосна шорсткай зелянінай лапаў-галін, і цені, ласкава-гуллівыя цені ходзяць па іх — таксама нібы спяваючы, разам з вясёлым, маладым і вечным шумам.

«Адкуль ён, гэты шум? — думае хлопец, успёршыся локцямі на падушку.— То ж сосны тыя я толькі адзін раз бачыў зблізку. Пазаўчора, калі мы ездзілі грузавіком на пільню. А перад гэтым яны — і восенню, і зімой, і вясною — толькі сінелі для нас на даляглядзе праз драты, чужа і холадна... Няўжо іх нагадалі гэтыя, што за акном, з другога паверха бачныя кроны каштанаў на скверы? Сонца ўжо іх асвяціла. Якое румянае, чыстае! І лісты, як ручаняты над калыскай, вось-вось заварушацца. Няўжо гэта яны кранулі струны маёй... Ну навошта ён — саладжавы кісель? Проста — мне добра хоць вось так, хоць на трохі забыцца, што я — не дома, не на тым адзіным у свеце месцы, дзе мне так хочацца быць, дзе я павінен быць, каб адчуваць сябе шчаслівым, вольным і сваім. Пакуль са мною толькі ранішняя цішыня, толькі каштанавае лісце ў сонцы, толькі неба, нічыйнае, любае неба!..

Ды хіба ж надоўга?

Хутка ў гэтым «нічыйным», «свабодным», як можа здацца на нейкі час, пачуецца гул самалёта — з крыжамі, са свастыкай... Пасля паміж небам і зямлёй ударыць на вежы старой ратушы звон гарадскога гадзінніка, абвяшчаючы набліжэнне пачатку працоўнага дня — яшчэ аднаго дня вайны, няволі. Пасля з казармаў на ўскраіне, адтуль, дзе і шталаг, пачуецца горн пабудкі, а трохі пазней — дзіўна і дзіка пісклівыя флейты. Салдаты. Незлічоныя, усе на адзін твар, зводдалі — усе без твару, шэра-блакітныя, алавяныя салдацікі трэцяга рэйха ў бліскучых шкарлупінах касак. Зноў будуць тупаць строем або мітусіцца пад крык камандзіраў, злосна, руплівa, нястомна рыхтуючыся да нейкага новага, пакуль што таямнічага злачынства... А найбліжэй — вось тут, паміж акном і зелянінай каштанаў, унізе, на асфальце і на бетоне тратуара — зацокаюць падковы, захрапуць маторы, зашархацяць пакрышкі, заляскаюць драўляныя падэшвы модных з ласкі ваеннага часу дзявочых туфель. Пачуюцца галасы. Закружыцца агромністы, мільённасільны прывод чужога дзённага жыцця, і ў гэтым прыводзе ты зноў адчуеш сябе двухногім канём у падноўленым хамуце...

Дык вось і карыстайся хвілінамі ранішняй цішыні, што да поўнай ілюзіі здаюцца чалавечымі, свабоднымі.

Пасля двух год казарменнага і барачнага бадзяння, з мноствам шматпавярховых цвёрдых логаваў, з безліччу сяброў няволі, што і за век не сталі б для цябе сяктак знаёмымі, з несціханым гулам і затхлым настоем штучна, гвалтам сабранай у адно месца грамады,— нават і ў гэтым цесным, запушчаным пакойчыку з двума вузкімі ложкамі, шафай каля дзвярэй і акном ад вуліцы, нават і тут табе хоць як-небудзь, хоць трошкі здаецца, што ты належыш сам сабе.

Цудоўныя, шчаслівыя хвіліны. Час адзіноты, роздуму і песенна-бязумнага маўчання на стыку яшчэ адной ночы, якая снамі твая, і новага дня, які яшчэ ўсё — чаканне свабоды.

У адзіноце гэтай ты, аднак, не адзін. У думках тваіх і ў пачуццях пяе нячутна і пераможна ўсведамленне, што ты тут з другам, што ў горкай стоме душа твая знойдзе апору, што маеш і ты каму аддаць па-мужчынску скупое, часамі замаскіраванае ў паходнай грубасці, а ўсё ж сапраўднае слова дружбы.

Ён спіць яшчэ, Андрэй, малы, маўклівы Мазалёк, харошы наш беларускі хлапчына, з якім цябе падружыла на гэты раз зноў дзіўна і нечакана паласкавелая доля... Ці, можа, гэта — проста выпадак?..»

Калі іх з лагера прыгналі ў арбайтсамт, Алесю хацелася, вядома, трапіць на працу ў адно месца з Крушынам, а разам ім хацелася на тую гуту, дзе працаваў з зімы Андрэй. У войску ды ў палоне яны прывыклі да розныхператасовак, да невядомасці, гульні капрызных выпадковасцей, да новых і новых людзей і абставін — прывыклі, але ж яшчэ ўсё і верылі, і хацелі, і хваляваліся, і меркавалі. Бо найчасцей выходзіла ўсё непрадбачана. Так і цяпер. Крушыну аднаго паслалі на заводзік цэментавых труб; Печка і Трайны Марцін трапілі на фарфоравы завод, а Руневіча, у трэцяй групе «энтлясанаў», прызначылі якраз на гуту, да Андрэя... У справе размеркавання прымалі ўдзел Бязмен, Карнач і Сарока: пакуль палонныя ўсхвалявана прыціхлым гуртам чакалі на двары, тыя доўга, здавалася, нават шапталіся недзе ў пакоях з немцамі, чыноўнікамі арбайтсамта і новымі гаспадарамі для таннай рабочай сілы. Сказаць, што Бязмен з памагатымі адрзяліў Алеся і ад Крушыны і ад іншых сяброў свядома,—

можна. Але чаму ж ён пра Мазалька забыўся? Чорт яго ведае. Хутчэй за ўсё — проста выпадак.

«А ты вось напаў у дзялёжцы на шчасце — ціха трымайся яго, бо яно таксама, можа, як і з Бутрымам, не вечнае: хто ім перашкодзіцьператасаваць вас яшчэ не раз і не два?..»

І дружба ходзіць дзіўнымі шляхамі.

Галоўнае месца ў іх дружбе адводзіцца Крушыну: яны, Алесь з Андрэем, і пасябравалі дзякуючы перш за ўсё яму.

У Сяргея з Алесем было «сваяцтва паэтычных душ» і даўняе, амаль чатырохгадовай даўнасці, знаёмства. Старэйшаму было прыемна адчуваць пад рукой чупрыну новай, неспакойнай сілы. Маладзейшы цягнуўся да сталага з пашанай, з жаданнем дагнаць яго, пайсці побач і, няма чаго прыкідвацца, сігануць вышэй.

Андрэя Крушына ведаў яшчэ вушатым гімназісцікам у форменнай аксамітнай шапцы Віленскай беларускай гімназіі, у караткаватых картовых портачках і ў яшчэ больш дамашнім, пацешна-зварушлівым паліточыку з ягнячым каўняром.

— Пасля ўзялі, брацэ Алесь, майго Мазалёчка,— расказваў Крушына,— за гэты самы раскошны каўнер і выкінулі з той гімназіі. За іхні камсамольскі бунт супроць яе фашызацыі. Чуў? Ну, вядома. Гэты самы Астроўскі выкінуў, тады дырэктар, панскі падлізнік, цяпер нейкі там фюрэр таго, душа з іх гітлераўская вон, «беларускага прадстаўніцтва»...

Сяргей дружыў з Андрэевым бацькам, вусатым і салідным бедняком з суседняй вёскі. Стары Мазоль служыў на царскім чарнаморскім флоце, машыністам каэра «Безупречный», бачыў сваімі вачыма, як на адэскім рэйдзе красаваўся вольны «Пацёмкін»; потым працаваў у Піцеры на заводзе, золкімі, сцюдзёнымі начамі мок і мёрз на варце пралетарскай рэвалюцыі; пасля ці бог, ці чорт, ці неразгаданая сіла выраю прыгналі яго на радзіму — у беднасць, з якою, думалася, развітаўся ўжо назаўсёды, у паняверку — ужо новую, з новым панствам...

Андрэй, адзіны ў сям'і, без маці застаўся рана. Затое бацькаў было ў яго два — свой і Крушына, родны дружбай і справай — падпольным змаганнем. Пятнаццаць год розніцы ва ўзросце давалі права лічыць

Крушыну калі не другім бацькам, дык старэйшым братам, настаўнікам у многіх пытаннях жыцця.

Сябры нашых сяброў — сябры і нашы. Увосень, пакуль Алеся не пагналі на каманду, ён паспеў раз ці два пагаварыць з Андрэем, дый то не адзін на адзін. Калі Андрэй наведваў іх у лагеры, яго дзялілі на ўвесь гурт. Цяпер вось яны працуюць разам другі тыдзень, жывуць у адным пакойчыку пяты дзень. Часу, як быццам, вельмі няшмат, аднак дружба ў іх усё-такі пачалася. Самім нават дзіўна бывае — прынамсі Алесь так думае пра самога сябе,— калі і як гэта пачалося? Нават яшчэ трывожна, што могуць і парвацца тыя парасткі, якімі яна трымаецца... лепш сказаўшы: ужо трывожна, хаця б яны не парваліся. А разам з тым ёсць і шчаслівая ўпэўненасць, што не парвуцца, ёсць і сталая, умудроная нягодамі ўдзячнасць да старэйшага сябра, які — эх, ёлкі кашлатыя! — добра падрыхтаваў іх дружбу, звёў іх сваімі расказамі аднаму пра аднаго.

Гэтых расказаў, аднаго толькі пасрэдніцтва Крушыны было б, вядома, замала. Сваё зрабіла тут і інтуіцыя, дзякуючы якой па словах, па вачах чалавека адчуеш, убачыш блізкую душу.

Такія сябры, як Сяргей і Мазалёк, у Алеся былі ўжо. Калі ж не зусім такія — такіх, як Крушына-паэт, не было,— дык вельмі падобныя. Не ў родных Пасынках, з цёмнай апалітычнасці якіх пасмейвалася нават сама паліцыя, а ў навакольных вёсках. Падпольшчыкі-камуністы.

Старэйшыя з іх вярнуліся пасля смерці Пілсудскага, па амністыі, з турмаў і завалодалі душамі моладзі. Арыштаваныя тады, калі Алесю і яго равеснікам было па чатырнаццаць-пятнаццаць год, старэйшыя хлопцы вярнуліся з Лукішак ды Уронак, з той вялікай, як жартавалася горка, школы жыцця, ужо не проста гарачымі, гатовымі ісці на паноў, ледзь пісьменнымі юнакамі. Хто за пяць, хто за шэсць гадоў, кожны па-свойму грунтоўна ці павярхоўна, яны з сялянскай прагнасцю і працавітасцю авалодалі — са слоў адукаваных таварышаў-палітвязняў — першаасновамі навуковага сацыялізма, начыталіся кніг з бібліятэкі турэмнай камуны і дома сталі тымі, каго так не хапала беднай моладзі — разумнейшымі, вартымі пераймання сябрамі, людзьмі з непахісным аўтарытэтам і зайздрос-

кай абаяльнасцю змагароў і пакутнікаў. Смерць дыктатара была вялікая і канкрэтная радасць і для іх і для іхніх бацькоў — астрогу паменшала каму на год, каму на тры, на пяць — і з гэтай радасці бацькі падняліся, хто дык нават з апошняга, і прыадзелі бледных, знясіленых гасцей — як жаніхоў. У адной толькі Лані, суседняй з Пасынкамі вёсцы, было іх шэсць чалавек. Бачыцца з імі даводзілася найбольш у святы — на лузе над цёплай Ціхменню, у мястэчку, на фэсце, на вечарынках ці на спектаклях у сваёй ці ў чужой вёсцы. Чыстыя, цвярозыя, культурныя — не толькі з выгляду,— яны не маглі не прыцягваць да сябе маладзейшых, асабліва тых, вядома, што самі хацелі быць сапраўднымі людзьмі.

Сярод гэтых апошніх былі і Толя з Алесем.

Для адных падпольшчыкаў — і маладых, і старэйшых — Руневічы здаваліся незразумелымі з-за свайго захаплення Талстым, для іншых — смешнымі. Аднак сустракалі хлопцаў прыязна. Пасмейваліся часамі, за вочы і ў вочы, з іх некаторых разважанняў, не забываліся і пра тое, што маці гадавала і вучыла іх з дапамогай чужых рук, але ж і цанілі вясёлых, вострых на слова, начытаных хлопцаў за іх шчырае імкненне да народнай справы.

Была і дружба.

У Алеся — з аднагодкам Косцем Вярбіцкім, таксама з Лані, з якім яны разам хадзілі калісьці ў местачковую сямігодку, потым разам ладзілі спектаклі, змагаліся з п'янствам і хамствам сярод моладзі, дзяліліся кнігамі і спрачаліся часта, ледзь не да сваркі. Ды спрэчкі гэтыя не вельмі перашкаджалі іх дружбе, хоць адзін з іх быў камсамольцам, а другі лічыў сваім крэда маральнае самадасканаленне.

Вось яны, помніцца, ідуць дарогай паміж сівога чэрвеньскага жыта — Косця, Алесь, яшчэ два-тры хлопцы з іх маладзейшай кампаніі. Ідуць у мястэчка, не ў сваё, а ў другое, над Нёманам, дзе будуць танцы, а потым, увечары, самадзейны спектакль у пажарнай адрыне. Як гэта добра — на сёмы дзень, пасля цяжкай працы, памыцца ўсяму ды адзецца ў найлепшае, што ў цябе ёсць! А як гэта добра — ісці, асцерагаючыся, каб лішне не запыліць чаравікі і не набраць таго пылу адваротамі шырачэзных, па модзе, штаноў, гава-

рыць пра кнігі ці пра дзяўчат, проста смяяцца з чагосьці, нават спяваць — на хаду ды апоўдні,— бо весела!.. Як добра расшпіліць вышываны каўнер кужэльнай ці крамнай кашулі, лёгка, дужа, молада дыхаць насустрач жыццю і адчуваць, што ўсё будзе добра, што пераможа дабро!..

Яны ішлі, а насустрач ім выйшаў з-за ўзгорка, нечакана з'явіўся адзін з іх старэйшых сяброў — Павел Сурага. З ім Алесю асабліва прыемна было сустракацца, гаварыць, не тоячы нават таго, што ён піша, пра што і як удаецца. Павел ішоў у чорным, новым касцюме, нёс пад кепкай усмешку, сёння чамусьці загадкава сумную. А павітаўшыся, ціха, сур'ёзна сказаў:

— Учора пахавалі Горкага. Памёр яшчэ ў чацвер.

І неяк вельмі проста, зразумела для ўсіх, урачыста ён зняў кепку, і ўсе яны знялі за ім і пастаялі так, нібы заслухаўшыся ў звон нябачных жаўранкаў...

Потым, пад восень трыццаць сёмага года, Павел і іншыя са старэйшых, ратуючыся ад Картуз-Бярозы, пайшлі «за кардон», у Савецкі Саюз, дзе нырнулі ў поўную невядомасць. Яшчэ пазней, калі была распушчана КПЗБ і камсамол, Косця часта наведваў Алеся і многа маўчаў, куды больш цярпліва слухаючы яго то залішне смелыя, то наіўныя разважанні... Калі ж Алесь адыходзіў у войска, Косця прыйшоў са свае Лані і на вуліцы, пры людзях і першы раз у жыцці, зняўшы шапку, пацалаваўся з Алесем, нібы адчуваючы, што надоўга. Цяпер ён, Толя піша, служыць недзе ў Чырвонай Арміі, а мне тут яго...

Ударыў звон на ратушы. Яшчэ, яшчэ...

Думкі Алесевы абарваліся.

— Пяць! — нечакана адсек за апошнім ударам Андрэй.— Не спіцца, кажаш?.. Пэўна ж, не спіцца. А спаць, браце, трэба. Асабліва — пакуль ты яшчэ Schwerarbeiter[1]. Чаго глядзіш?

Алесю хочацца пачаць:

«Ды таму вось, што думкі мае... Ну, што думаў я пра цябе, пра такіх... Э, не тое!..»

І ён сказаў, усміхнуўшыся цёпла, міжволі:

---

[1] Чорнарабочы.

— Здароў, Мазоль. Я рад вас бачыць у добрым здароўі, майн лібэр. Збегай толькі наніз, а то, чаго добрага... Эх, няма на іх трасцы,— ён пацягнуўся да трэску ў суставах старога драўлянага ложка.— Яшчэ адзін дзень!..

2

Конь стаіць каля дышла і, адвесіўшы губу, глыбока, сумна думае штосьці на баварскім плацу. З другога боку дышла ляжыць карова. Прастадушна, бяздумна глядзіць у прастору, жуе сваю вечную жвачку. А ўсё гэта — такая па́ра, і воз, і Bauerin [1] на возе — выразна, ідылічна адбіваецца ў вялізнай вітрыне яшчэ зачыненага магазіна.

— Не магу, брат, прывыкнуць,— гаворыць Алесь.— А не прывыкшы — смешна.

Яны ідуць побач, хоць ім і цесна ўдвух на цэментавым тратуарчыку, можна сказаць — не ідуць, а спяшаюцца на работу. Высокі і малы, што таксама, на свежае вока, смешна. Вельмі часта, калі яны абганяюць якіх падлеткаў ці фройляйн або сустракаюцца з імі,— тыя ўсміхаюцца ім насустрач або хіхікаюць наўздагон.

— А я прывык,— гаворыць Мазалёк пра тых, карову і каня ў адной запрэжцы.— Я, брат, нават прывык вось так спяшацца кожнага ранку. Нібы мне трэба гэта, ліха іх галаве. А ты ўжо вельмі не прывыкай. Каб ты і напалавіну майго не прывык тут, пакуль мы паедзем дахаты.

Магутны «Дэтаг», завод ліставога аконнага шкла, удзе яны працавалі, відне́ўся ў самым канцы доўгай вуліцы — высокі комін над таксама цаглянымі гмахамі цэхаў. Чым бліжэй да завода, тым больш рабочых, асабліва дзяўчат і жанчын, абганяла іх на веласіпедах. Менш было пешых, якія таксама спяшаліся, нібы ўсім здавалася, што ён, іхні «Дэтаг», вось-вось загудзе.

Прахадная — здзівіліся хлопцы — была забіта людзьмі. Яны глядзелі ў дзяжурку праз ашклёную сценку, ціснуліся да адчыненых дзвярэй, гаманілі —

[1] Сялянка, гаспадыня.

найбольш на мясцовым дыялекце, яшчэ ўсё не вельмі зразумелым Алесю. Паддаўшыся агульнаму настрою, хлопцы пачалі пытацца, лезці да дзвярэй, спачатку толькі пачулі, што тут да чаго, а потым праціснуўшыся туды — убачылі.

На бруднай, затупанай падлозе, раскінуўшы доўгія рукі ў кароткіх сініх рукавах спяцоўкі, непрытомна хрыпеў і ўздрыгваў раскрыжаваны малады рабочы. Сіняя куртка была для палёгкі расхрыстана некім на яго валасатых, рабрыстых грудзях, што хадзілі рыўкамі і хутка, нібы паддзімаючы хрып у чубатую, светлавалосую галаву. Танкагубы рот з рэдзенькімі, шчупацкімі зубамі быў шырока раскрыты і закрываўлены з левага боку. На доўгіх нагах брудныя сінія порткі закасаліся да палавіны лытак, а ступакі ў вялізных чаравіках былі бездапаможна раскінуты. У падкутых цвікамі, салдацкіх, у лагеры заслужаных чаравіках, можа англійскіх, з-пад Дзюнкерка, можа свежанькіх, югаслаўскіх...

— Букра́ба! — з нейкім асіплым адчаем амаль закрычаў Мазалёк. І паўтарыў, прыгнуўшыся, як быццам будзячы: — Букра́ба!..

І дарэмна.

У гэтым гомане і ў цішыні, як лейтматыў вусцішнасці, чуўся спалоханы голас дзяжурнага:

— Так, гер дырэктар. Я быў, дзяжурны Шнэеман. Адзін палонны... Так. Мы пазванілі. Мы...

Чорная тэлефонная трубка, на якую Алесь адвёў позірк з падлогі, дрыжала разам з сухой і валасатай старэчай рукою.

І вось — найбольш недарэчна! — у адзін з гэтых момантаў жаху, літасці, балбатні загучаў нялюдска ўладны, няўмольны гудок, жандарскім галёканнем заглушыўшы ўсё, што тут было непатрэбна, калі пачаўся рабочы дзень, калі ўступіў у свае правы магутны орднунг.

Рабочыя, нібы вада ў прабоіну, хлынулі з прахадной на двор гуты, пакінуўшы на бруднай, яшчэ больш затупанай падлозе раскрыты, прагны паветра рот, рабрыстыя грудзі і чаравікі... І чорную тэлефонную трубку у дрыжачай руцэ...

— Вады хоць прынесці...— прыглушана сказаў Алесь.— Ты тут пабудзь...

Ён толькі выйшаў з прахадной на брук двара, калі насустрач пачуўся добра ўжо знаёмы голас:

— Runewitsch, was ist los? [1] Хто там яшчэ з табой?

— Мазоль. І Букраба. Я хачу яму, гер майстар, прынесці вады.

Высокі, даўгатвары мужчына, без шапкі, у баварскіх «трахтэнгозэ», скураных, не новых шортах, што здаваліся асабліва кароткімі на яго цыбатых чорнавалосых нагах,— майстар Нідынг стаяў, спыніўшыся крокаў за дзесяць перад Алесем, адзін на фоне натоўпу, што аддаляўся.

— Пасля гудка? Вы што ў мяне — дактары? Кліч Мазаля! Ruck zuck! [2] О, бачыш, аўто ўжо тут. Гэтыя робяць сваё...

У браме паказалася машына «эрстэ гільфэ» — «хуткай дапамогі».

Алесь з Андрэем працавалі на гуце «майстрамі — куды хто пашле». Кожны дзень, ідучы на работу, яны не ведалі, што прыйдзецца сёння рабіць: па апілкі паедуць, дошкі будуць згружаць з платформаў, вазіць тачкамі ў падвалы шкляны друз, шуфляваць вугаль у ваганеткі?..

Пра гэта думаў майстар Нідынг. Суровы з выгляду, негаваркі, ён штодня сустракаў іх, групу чорнарабочых, немцаў і нявольнікаў, амаль каля самай прахадной, з гатовымі загадамі — каму куды. Разоў па некалькі на дзень ён нечакана з'яўляўся ў любым закутку вялізнай тэрыторыі гуты, дзе працавалі або туляліся яго падначальныя. І не крычаў асабліва, за што яго паважалі, а проста выглядам сваім напамінаў, што варушыцца трэба.

Пра гэта было каму напамінаць. Дзе б ты ні быў, усюды некалькі разоў на дзень убачыш то аднаго, то другога з начальства, уключна да галоўнага інжынера і самога дырэктара Окса. Імклівы, грозны, у белым халаце, з выдатна наглянцаванай лысінай, ён урываўся ў любы закутак чортведама як і адкуль, нібы шчупак у ціхую завадзь, і ўся рабочая драбнарыбіца ледзь па-

[1] Руневіч, што там у цябе?
[2] Хутчэй, раз-два!

спявала папярэджваецца інтэрнацыянальным для іх, магічным і да посвісту прыцішаным сігналам: «Окс!..» Усе хапіліся за працу і, хто як мог, старанна рабілі выгляд, што так вось петуюць увесь час.

А працавалі «швэрарбайтары», можна сказаць, і тут па запаведзі: панскі дзень да вечара.

Такое Алесю даводзілася бачыць і ў маёнтках і на заводзе крыштальнага шкла.

Старыя батракі, едучы з поля на абед або з абеду ў поле, проста такі спаборнічалі, хто памалей.

«Langsam, aber sicher» [1],— пасмейваліся яны, і хоць і цмокалі на здаравенных дваровых коней, і нібы падварушвалі іх,— то з воза пугай, то пугаўём, калі ехалі верхам,— тыя, як верныя слову змоўшчыкі, ледзь-ледзь пераступалі з нагі на нагу. Ад батракоў Алесь пачуў і яшчэ адну прыказку. «Праца салодзіць жыццё, а лянота ўмацоўвае косці»,— народжаную, відаць, таксама на чужой і нялюбай рабоце.

Пасля, на заводзе «Гербрыдэр Баер унд К°», гэтая, зусім зразумелая, можа нават святая лянота прыгнечаных часамі проста выглядала сабатажам.

У вялікі цэх, дзе на адных тачылах наразаліся, на другіх шліфаваліся ўзоры на ва́зах, графінах, бакалах, увесь гэты посуд, у неапрацаваным выглядзе, зносіўся з вялізнага гарышча. Маладыя рабочыя, дапрызыўнікі, якія, кожны на пару з палонным, валачылі па ўсходах цяжкія насілкі-карыты, вельмі любілі пасядзець над шумным цэхам, у цішыні, палаяць трохі гаспадароў, а часта браліся і за шкло. Не ўсе, вядома, некаторыя. І з асцярогай, без лішніх сведак, пры сябры ды пры тых палонных, якіх не баішся. Білі не дробязь — не спадачкі, скажам, якіх у кожным карыце было па сто дваццаць штук, а возьме каторы вялізную вазу, цана пасля апрацоўкі марак семдзесят — месяц ягонай работы, падыме над галавой, прытрымае, смакуючы небяспеку, і гвазне — не аб падлогу, а ў самую гушчу звонкага жаху!..

Алесь, як і іншыя сябры, асцерагаўся, вядома, саўдзелу ў гэтым наіўным пратэсце — палонны свет даўно ўжо ведаў, што ўзятыя за сабатаж у шталагі больш не вяртаюцца. А ў гэтых выхадках немчыкаў яму ба-

---

[1] Памалу, але надзейна.

чыўся і юначы страх перад арміяй, фронтам, і разуменне вялікай крыўды рабочага чалавека.

Пра гэта найбольш сказаў Руневічу адзін з тых юнакоў, чарнявы Эміль, хлопец спакойны і спраўны, з нейкай загадкава прываблівай сумнаватай усмешкай. Спачатку ўсмешка гэтая інтрыгавала Алеся, а потым стала зразумелай.

Эміль пасуды не біў. Калі яны неяк, толькі ўдвух на гарышчы, прыселі адпачыць, хлопец доўга і дзіўна глядзеў на Алеся з выразнай, раней не бачанай горыччу ў сваёй і свойскай, і загадкавай усмешцы, а потым вочы яго... пабольшалі ад слёз.

— Так, Алекс... Ім, багацеям, нажывацца, а нам працаваць... Паміраць за іх... Фэрфлюхтэ нацы, прыкрываюцца толькі сваім сацыялізмам!.. Мой бацька... Я табе веру, Алекс. Мой бацька — камуніст. Яго ўжо тры гады няма. Можа ў канцлагеры яшчэ, а мо даўно... Муці і двое меншых за мяне, Франц і Лотхен. А мне хутка ў армію, хутка на фронт. За іх? За фашыстаў? О, гімэлькройц!..

Былі, аднак, і такія рабочыя, што і без нагляду працавалі ад усёй душы.

У першую восень палону, калі Алесь больш за месяц не адгінаўся ад юнкерскай бульбы, іх заганяў тады сваім прыкладам нярослы, гарбаносы батрак. Капалі бульбу трохзубымі матычкамі ў вялікія металічныя кашы. Двое палонных — не асабліва, праўда, спяшаючыся, але ж і варушачыся пад нядрэмным вокам наглядчыкаў — накопвалі за дзень шэсцьдзесят-семдзесят кашоў. А гарбаносы крот адзін даваў дзевяноста. Злосная, дзікая працавітасць! Дзень пры дні ён гудзеў і пляваўся, заслінены ледзь не да пены, лаючы Польшчу, праклятых палякаў, якіх — донарвэтар! — не так яшчэ трэба знішчаць, абібокаў, няўдаліц, няўдзячных за хлеб, за права жыць, хадзіць па нямецкай зямлі. Нібы не ведаў, сабака, што кармілі іх — толькі каб жыў, што спалі яны на сцюдзёным гарышчы бровара, на голай саломе, на сабе сушачы безнадзейна мокрую штодня вопратку, накрываючыся тымі самымі мяхамі, што ўдзень былі для аднаго з іх фартухом, а для другога, хто ўзяты быў без шыняля, адзінай абаронай ад дажджу, ад холаду!..

Ёсць такія і на заводах.

Вось і тут, на «Дэтагу», гэты Вольф, раскарака плюгавы... Праўда, не гарбаносы, затое ж рот, як у жабы, не ўмяшчаецца проста пад чорным старэнькім капелюшом, не паспявае ўсё за раз сказаць — ад захаплення фюрэрам, усім, што ён зрабіў і зробіць. І ўсё вашуе тым шуфлем, як лычам, усё валочыць, як не падарвецца, усё спяшаецца, падганяючы то прыкладам, то не менш надакучлівым словам.

А ўжо найбольш агідна, што ёсць такія і сярод палонных. Чужы дурань — смех, свой дурань — сорам. Часамі горкі, крыўдны і ганебны сорам.

Такім вось дурнем быў той, на падлозе ў дзяжурцы, Букраба.

Як выявілася, справа была ў яго славутай працавітасці, сіле, азарце, чым ён вельмі любіў выхваляцца перад рабочымі і начальствам. «Oh, Stefan — guter Kerl![1] Штэфан вельмі здаровы і працавіты! О!..» Ці смехам так гаварылі, ці сур'ёзна — ён не вельмі хацеў разбірацца: абы хвалілі, і больш. На сённяшняй звышурочнай пагрузцы шкла ў вагоны «гутэр кэрль» праявіў выключную шчырасць у працы і рупнасць пра казённае дабро. Вялізная, два на два метры, скрыня аконнага шкла пахіснулася — вось упадзе!.. Усе шыбанулі ў бакі, а Штэфан падскочыў адзін — падпёр яе плячыма. Яна, вядома, перамагла. Ён кінуўся ўбок, але позна...

— І чым толькі людзі не хваляцца? — яшчэ ўсё злаваўся Андрэй.— У нашых Глінішчах быў такі абармот, Ванька Пуп. Заганарыўся неяк зімою, што ніхто яго не адцягне за вушы ад сцяны. Ахвотнікі заўсёды знойдуцца. Цягалі яго на вячорках — колькі каму хацелася. Яшчэ другі і каленам упрэцца ў жывот. Хваляць Пупаву сілу, а той і болю не чуе ад радасці. І не верыць, што дурань.

Хлопцы згружалі з платформы дошкі на тару. Двое другіх палонных былі на платформе; Алесь з Андрэем, беручы ад іх дошкі, пускалі па ральгангу ўніз, дзе іх прымалі і складвалі ў штабель чатыры пажылыя немцы. Паміж немцамі ўнізе і сваімі ўверсе, на платформе, Руневіч з Мазальком адчувалі сябе адасоблена і гаварылі як на адзіноце.

---

[1] О, Сцяпан — добры хлопец!

— А я пра другое,— сказаў Алесь.— Я думаю: дзе ж ён быў, гэты Штэфан, калі набіралі ў паліцыю?

— У якую?

— Ды ў нашым шталагу, дзе я быў летась. Немцы прыдумалі для большага арднунгу. Знайшлі добрахвотнікаў, далі ім больш бурды, па жоўценькай павязцы на рукаво, з пячаткай камендатуры, па інтэлігентнай, абструганай палцы, з пятлёй на руку, каб не згубілася. Пахаджалі такія ў натоўпе. Глядзіш і не верыцца... Французы, мараканцы... А мы, брат, рады былі, што з нашых ніхто не пайшоў!..

— І сапраўды — Букрабы не было.

— Быў і Букраба. Толькі з Афрыкі. Смуглы такі здаравіла, бельмамі адно паблісквае. Мараканец. І апранулі — як дурня. Феска чырвоная, з кутасам, цёмна-зялёны нарвежскі мундзір, галандскія шэра-блакітныя порткі, ну, і абмоткі нейкія — з яшчэ адной пераможанай нацыі. Поўнае дывідэ, браце, эт імпера![1] Стаяў ён не з палкай, а проста з кіем — каля кухоннай брамы. Бачыў я, як ён біў аднаго... Кантовым, апілаваным друкам — па руках, па галаве!.. Чалавек, бачыш, есці хацеў і ныў каля кухні. Яго ж таварыш, палонны!..

— Ты казаў мне,— пачаў пасля паўзы Андрэй,— што, можа, дабудзем свой час у бараку, у гэтым, маць іх сена ела, «інтэрнаце». Ты, чаго добрага, думаў такама, што я мог бы і перавыхаваць іх, каб толькі добра захацеў? Думаў, пакуль сам не паспрабаваў. А я, брат, толькі там затузаўся дарма, і як раней хацелася да іх, так потым рад быў даць ад іх махіндрала...

Ён гаварыў пра той «інтэрнат», у якім жыла пры заводзе частка «звольненых» беларусаў.

На вугальным складзе дырэкцыя адвяла ім былую штубу, адрынішчу з глухой сцяной і з доўгім шэрагам вокнаў на брудны, завалены ломам двор. Нават і краты на вокнах засталіся, калі адгэтуль пайшлі вахманы. Двух'ярусныя нары, доўгія сталы. Як і раней...

Выпушчаны са шталагу, Мазалёк не пайшоў жыць сюды, а пашукаў сабе ў горадзе пакойчык. Гэта трэба было, каб менш прыкметна паехаць у паўпрэдства. А потым Андрэй, як ён кажа, засумаваў на бязлюддзі, здурнеў і перайшоў да сваіх.

---

[1] Divide et impera — падзяляй і ўладарнічай *(лац.)*.



У падарожжы па Гродзеншчыне з Ул. Караткевічам.
*1963 г.*



З сябрам М. Петрыкевічам,
заслужаным настаўнікам БССР і краязнаўцам.
*Дзятлаўшчына, 1968 г.*

Ад каманды, што працавала тут да «звальнення», праз некалькі месяцаў мала хто і застаўся. Каму не хацелася вырвацца адтуль, дзе агоркла? Адны ішлі на прыватныя кватэры, са шталагу прыганялі другіх, і многія з новенькіх, разгледзеўшыся трохі, таксама ўцякалі ў горад. А ў «інтэрнаце» асядалі тыя, каго Андрэй называў «землячка́мі», укладаючы ў гэтае слова свой іранічны, горкі сэнс.

Гэта былі аматары «пажыць».

Нягледзячы на тое, што строгая картачная сістэма выдатна спрыяла ашчаднасці, мізэрнай чорнарабочай зарплаты, якую атрымлівалі «энтлясаны», не магло ім, вядома, хапіць і на першыя, вельмі абмежаваныя патрэбы, і на сякі-такі разгул. Прыходзілася выбіраць, і «землячкі» выбіралі другое.

Галоўным днём тыдня была пятніца — зарплата. Тады ўжо ў «інтэрнаце» цэлую ноч не выключалася святло, стаяла п'яная ад піва і карцёжнага азарту лаянка. А ўранні вялыя гулякі выпаўзалі з накуранай, непрыбранай, поўнай мух адрыны да вагонаў вугалля і соды, што раз'ядала вочы і лёгкія, і дзень іх жыў успамінамі ночы. Тыя, каму на гэты раз не пайшла карта,— а не ішла яна пераважна тым самым,— прачыналіся з думкай, у каго б гэта прыхапіць пару пфенінгаў на снеданне. Каму ж пашанцавала, той або пра гэта толькі і балбатаў, або ўжо моўчкі планаваў, дзе і з кім прагуляць удачу. Зрэшты, выбар быў не багаты — тое самае піва, калі паможа хто з немцаў, дык чарка, ну і «каханне». Немкі не ўсе аберагалі свой арыйскі гонар так непадкупна і строга, як загадваў ім фюрэр. Апроч таго, у горадзе працавала многа дзяўчат і жанчын, прыгнаных сюды з польскага «генерал-губернатарства», з акупіраванай часткі Францыі. Былі і беднасць, і бруд, і пачуцці...

Калі выйгрышу хапала, скажам, да панядзелка, дык ужо да пятніцы трэба было ўмець утрымацца на хвалях. Увесь святочны гонар гулякаў — тандэтныя касцюмы, гальштукі, капелюшы — закідаліся ў кут або, у лепшым выпадку, завешваліся на сцяне бывалым шынялём, а сам эпікурэец у салдацкіх неданосках выходзіў з панурай ваўкаўні самім сабою — галодным, цёмным нявольнікам.

Душою гэтай кампаніі быў Букраба. Здаравенны,

увесь з сухажылля, азартны і ў рабоце і ў адпачынку, ён працаваў «акорднікам», на звышурочных пагрузках ды выгрузках, больш за ўсіх зарабляў, найчасцей выйграваў у ачко, мог вытрубіць за раз шэсць, сем і восем кухляў піва, хваліўся «бабамі — во!» і любіў верхаводзіць нахабнай, дурною гаворкай:

— Ого, немец! Ты з ім зраўняешся? Культура, парадак!.. Ты што тут думаеш другі — рабі вось, калі кормяць, і маўчы. Анкеты-шманкеты!.. Што ты мяне агіціруеш!.. Кончыцца вайна, тады і паедзем дахаты. Ін-ці-лі-ген-цы-я, маць вашу... пар-ніш-кі!..

Апошняе адрасавалася спачатку аднаму толькі Мазалю.

Жывучы тут калісьці, Андрэй, вядома, спрабаваў змагацца з бязладдзем, угаворваў і паказваў прыкладам, як сябе трэба паводзіць на людзях і дома. Аднак аднаго яго і двух-трох не вельмі актыўных сімпатыкаў было замала, каб перайначыць што-небудзь, завесці людскі парадак, як бывала на лепшых камандах. Апроч таго, вопыт падполля падказваў яму, што такога тыпа, як Букраба, лепш на ўсякі выпадак асцерагацца. І Мазалёк застаўся амаль зусім адзін са сваёй цвярозасцю, акуратным касцюмам і пасцеллю, са сваёю гордай, непрымірымай культурнасцю і з прыкрым болем за землякоў. Чакаў Крушыну з сябрамі: усе можа прыйдуць сюды, ну, тады і паглядзім...

Калі ж прыйшоў адзін Руневіч, Андрэй прапанаваў яму знайсці пакойчык на двух. «Далей адгэтуль, бліжэй да Сяргея»,— усміхнуўся ён, намякаючы, што завод, дзе застаўся Крушына, быў на другім канцы горада. Алесь згадзіўся, не пажыўшы ў былой штубе нават і тыдня, паспрабаваўшы пагаварыць з «землячкамі» адзін толькі раз. На другі вечар пошукаў яны, па падказцы знаёмых хлопцаў, надыбалі на Грубэра і пайшлі з «інтэрната», а ўслед ім — ужо двум — з карцёжнага п'янага гаму пачуўся голас з падхіхікваннем: «Парнішкі!..»

Пагарда з тых самых вуснаў — злева акрываўленых, драпежна вастразубых і задыханых...

— Заўважыў, як яны, немцы ў прахадной, пацмокалі языкамі? — спытаўся Андрэй.— Думаеш, пашка-

дуе каторы? Так і гавораць — чуў жа? — дурань, дзікун... З такіх, па-мойму, вельмі проста робяцца правакатары, шаптуны...

Шурпатыя, лёгкія, чыстыя, нават духмяныя дошкі прыемна было прымаць ад хлопцаў з платформы, а яшчэ больш, амаль па-дзіцячы прыемна класці па чатыры на ральганг і глядзець, як яны з лёгенькім грукатам коцяцца ўніз, дзе іх чакаюць вусатыя і бязвусыя філосафы ў сініх спяцоўках.

— Глядзі, Алесь, дзяды і яшчэ ўсё, здаецца, гавораць пра нашага брата, плююцца... Ты што гэта задумаўся, як Мурза ў чоўне?..

— А ну яго! Заплакаць проста хочацца... Тады хацелася, калі глядзеў. І потым, і раней, абы падумаў, завошта з сябе глуміцца. Срамота, як той харват казаў.

— Які харват?

— Ты ж, праўда, не быў ужо, калі да нас югаславаў прыгналі. Шынялі сівыя — як журайлі. Загналі ў асобны закутак, дзе была раней штрафкампані, стаяць журайлі за дратамі. «Ру́сія наша сладкая, чаму спіш?!» Гэта яны пра Савецкі Саюз, калі даведаліся, хто мы. Любяць нас: брача ды брача. Спяваць пасядуць, шчаку далонню падапрэ, як баба, і — эх: «Кар'як за кар'якам, а я, юнак, за бар'якам!..» [1] Харошыя людзі. Асабліва мне падабаўся адзін афіцэр. Лётчык. З цэшкай на пілотцы, у ботах, крываногі, карчукаваты такі. У кнізе малюнак: над загалоўкам апавядання — мэндаль жыта і белая хмарка на небе... Аж цёпла стала на сэрцы, нібыта ён табе сваяк. «Чаму лацініца?» — пытаюся. А ён — так горда — пальцам у грудзі сябе таўхануў: «Я — харват».

— Людзі сваім ганарацца.

— Каб жа толькі сваім! Неяк у іхнім бараку лямант узняўся. Адзін журавель, радавы, не так як быццам падлогу памыў, а другі, трохі нейкі начальнік, па прывычцы ў морду яму. У іх, казалі, было дазволена біць радавога. Ну, тут — не казарма, і хлопец трах начальніку па лычы. І счапіліся. Наляцела і іхніх, і нашых, французы прыбеглі. А потым бяжыць той харват. І крычаў жа ён, браце,— здаецца, ажно з прыплачам:

[1] Атрад за атрадам, а я, герой, пад сцягам!.. *(сербск.)*

«Тут французы, тут рускія, ты разумееш? Тут усі народы глядзяць! Ах, срамота, срамота!..»

Яны памаўчалі. Таўкліся б думкі горкія і яшчэ, яшчэ хацелася б паразважаць, ды тут у іх цяжкі настрой уварваўся знаёмы крык:

— Э! Файранд [1], чэрці! Перакур, ці што? А хто не курыць — пасядзі!

Сам Мішка Венік ужо сядзеў на платформе, спусціўшы ногі, ляпаў далоньмі па запыленых каленях і, смешна варушачы заечай губой, выцілінкваў пад полечку:

— «Пастой, бычок, каля плота — яка ежа, така й работа!..» Эй вы! Парнішкі! І я ж таксама не курашчы, а культура ёсць. Пусціце вы фатэрам не чатыры, а восем. Што там яны, як гусі, разгіргіталіся. Падумаеш, міністры!..

Немцы і сапраўды разгаманіліся. Гэта былі ўжо, каб на добры лад, пенсіянеры, якім сядзець бы з кухлем піва пад «грыбком» або няньчыць унукаў. Стомленыя за век, ужо без надзей і парываў, яны, як і тыя батракі ў маёнтках, працавалі «лянгзам абэр зіхэр». І самі, дзе і як маглі, агіналіся, зберагаючы сілы, і палонным спачувалі па-рабочы, па-быва̀ламу. Цяпер, размахваючы адзін перад адным, як ластамі, рукамі ў брызентавых рукавіцах, яны вялі нейкі гарачы дыспут. Прыслухаўшыся, Алесь з Андрэем злавілі ды зразумелі толькі дзве фразы: «...Iwan der Schrekliche — nein! Es hat gemacht, mein Lieber, Peter der Grosse!..» [2]

— Гісторыкі! — усміхнуўся Андрэй.— А што, давай і праўда пусцім больш? Нібы незнарок.

Палажылі на ролікі двайную порцыю доўгіх цалёвак, восем штук, і падштурхнулі іх. Грукат і лёскат — калі, дакаціўшыся ўніз, разляцеліся. Знячэўку сполах, потым — злосны крык.

— Грыс гот! — гукнуў на гэта Венік, узняўшы руку.— А, лайдакі! Я вас дарма буду хлебам карміць! Арбайт унд іммэр фэстэ, халера ясна!..

Веніка ведаў ужо ўвесь завод. І гаварылі нават: «Кляйнэр Венік дум айн веніг» — малы Венік трошкі дурны. Гэта — пасля таго, як ён, у абедзенным пера-

---

[1] Ад фаерабэнд — канец рабочага дня, тут — шабаш.
[2] Іван Грозны — не! Гэта зрабіў, мой мілы, Пётр Вялікі!..

пынку, наўздзіў вялікай чарадзе сяброў і немцаў, па металічнай драбіне залез на самы верх заводскага коміна і сеў там, на краечку, як цяпер на платформе, спусціўшы ногі. Аднак зазлаваць на яго было цяжка: зірні толькі на заечую мызачку пад пілоткай — і ўсё...

— Du, Lump! Du bist immer klein wenig dummer Kerl! [1] — смяяліся цяпер «гісторыкі». І пачалі закурваць, падаставаўшы люлькі.

А ён ужо вадзіў жывымі вочкамі і думаў, што ж тут далей... Ды не доўга.

— Окс! — гукнуў ён спалохана і ўсхапіўся на ногі.

Усе ўстрапянуліся па прывычцы, а потым на звонкі, блазенскі рогат Веніка адказалі таксама смехам.

## 3

Абедалі хлопцы ў «кантыне» побач з гутай.

Спачатку, праўда, здаравенная, вусатая фрау Ірмгард, гаспадыня гэтай «кантыны» — ні то піўной, ні то сталоўкі — не хацела прымаць Алесевых картачак: «Поўна і так, не спраўляемся». Але памог яму, па Мазальковай просьбе, майстар Нідынг. Слова старога халасцяка, скупое, як заўсёды, і ледзь не па-сямейнаму бурклівае, падзейнічала на дзябёлую ўдавіцу, і яшчэ адзін «энтлясан» зрабіўся адразу не лішнім. Фрау Ірмгарт нават усміхнулася Алесю з-пад сваіх чорных, запацелых вусікаў такім чынам, нібы яна зрабіла на ўсёй гэтай справе добры інтэрас.

Апроч абедзенных картачак трэба былі, вядома, і грошы.

Калі апоўдні прагуў гудок, Мішка Венік падышоў да Руневіча і, прыкрываючы няёмкасць бойкасцю, шапнуў:

— Толькі суп.

— А другога ты ўжо не ясі?

— Ну, хрэн з табой, давай і другое.

— Хто ж цябе на гэты раз?

— Не важна.

---

[1] Ты, жулік! Ты заўсёды трошкі дурань!

— А, зразумела,— сказаў Алесь, успомніўшы раптам раскрыжаванага на падлозе дзяжуркі.

— Зразумеў, дык чаго ж ты...

Зноў да Алеся вярнуўся на момант ранішні цяжкі настрой: жаласць, агіда і абурэнне. Але да гэтых пачуццяў цяпер далучылася іншае: Венік, здаецца, упершыню з'явіўся перад ім не пацешным сяды-тады блазнюком, а дарослым мужчынам, які адчувае і разумее па-чалавечы, сур'ёзна.

— Пайшлі,— сказаў ён Мішку з нейкаю нават палёгкай. А ідучы ўспомніў пра свой зарок — не патураць лайдакам, вучыць іх суровасцю. Цяпер гэта чамусьці не падыходзіла. І ён, нібы жартуючы, сказаў: — Таты з папругай няма на цябе. Каб узяў галаву паміж ног ды ўсыпаў добры перабор...

— Ну, ну, лягчэй на паваротах! Табе б тут маці прыдалася. Мая казала: не дай і не лай...

І вось яны сядзяць утрох за столікам. Народу многа. Таўкачаватая Грэтхен, непрыгожая і неяк па-салдацку языкатая служанка, ледзь не подбегам трухае то з кухні сюды, то на кухню, з поўным падносам, і пустым. Магутная гаспадыня стаіць за буфетам, адпускаючы піва, мінеральную ваду, і сама час ад часу, нібы ў безнадзейным адчаі, з уздыханнем і потам, прыкладваецца да высокага кухля з сонечным баварскім «гэлесбір» [1]. Мінеральнай вады хапае заўсёды, а з півам часта бываюць перабоі, і з'яўленне яго — нібы свята. Таму і народу так поўна. Дзеля «свята» і «госця» Алесь з Андрэем узялі тры кухлі і цмакаюць халодны, церпкі смак, чакаючы, калі тая Грэтхен дойдзе нарэшце і да іх.

— Зайсціся можна,— кажа іх галодны госць. Ён нават пырхае ад піва заечай губкай і, нібы конь ад заедзі, махае галавой.— У горадзе гефангену, вядома, лепш. Адстаяў, адхадзіў свае дзесяць гадзін, і хоць вы, швабы, падвярніцеся. Але ў вёсцы затое накормяць, калі пападзешся да людскага баўэра. Вай-вай!..— Мішка хапіўся аберуч за галаву, і на твары ягоным з'явіўся сапраўдны жах.— Хлопчыкі! Як мяне раз накармілі!..

Прадчуваючы вясёлае, Алесь з Мазалькам засмяяліся. А Венік ужо ўвайшоў у натхненне, панёс, не-

---

[1] Светлае піва.

пераймальна, да колікаў смешна суправаджаючы расказ мімікай і жэстамі. Не важна, што і прыманіць. Нават якраз і важна, дарага!..

— Прыгналі мяне раз да такой вунь, як наша Ірмгард, таўсцёразнай фравы. Яшчэ таўсцейшая была, дзе там — гэтую Нідынг адзін абнімае, а тую мы і ўтрох не абнялі б! Усе людзі жуюць адным бокам, вось так,— ён сціснуў і развёў кулачок каля правай шчакі,— а яна, брат, жавала двума бакамі адразу.— Абедзве жмені яго захадзілі, як абцугі, абапал худых, няголеных шчок.— Садзіцца яна вось так во — воддаль ад стала: каб не адсоўвацца потым, калі набярэцца, як чоп. Паўлусты ў рот, пажуе, пасля папнецца, вочы палезлі на лоб, закружыліся, сталі на месцы — плясь адна порцыя ў трыбух. І зноў кусае — х-хап!.. Праз паўгадзіны пуп упіраецца ў стол. Апошні глыток кавы забулькаў у горле, як тая вада ў бутэльцы, у самым горлечку. Уздыхне мая фрава і пачынае ўставаць. Вось так во — роўненька ды праменька, каб не разліць, што трэба данесці. «Ві гайст ду?» [1] — «Мішка».— «Садзіся, Мышка». Ну, думаю, я табе тут пакажу, як можа есці гефанген. Сеў я ад стала вось так.— Ён адсунуўся ледзь не на метр.— Прымеркаваўся, як буду жаваць двума бакамі... Што ты хочаш?!.

— Я кажу: асцярожна!— пачуўся салдацкі голас Грэтхен, а за ім — пах гарачай яды і дзявочага поту.— Тры магерсуп [2] і тры картофэльбомбэ [3].

— Ах, гімэлькройц! Прыперлася, і кончыць не дала!— зусім такі шчыра, у творчым запале і злосна дакараў Венік, пакуль яна ставіла на стол талеркі, заклапочана лічачы іх, нібыта баючыся збіцца.

— Не дуры ты мне задніцы,— таксама заклапочана, толькі па абавязку адказала Грэтхен і дадала, нягледзячы на столькі клопату:— Цябе, кляйн веніг, асёл у галопе згубіў [4]. Я пайшла.

Як быццам зразумеўшы ўсё, Венік з сур'ёзным выглядам, не зважаючы на смех сяброў, узяўся за лыжку. Пра перапынены расказ так і не ўспомніў. Сёрбаў без

---

[1] Як ты завешся?
[2] Посны суп.
[3] Бульбяныя калдуны.
[4] Нямецкая прымаўка.

хлеба рэдзенькі, прынцыпова нішчымны суп, пацешна варушачы заечай губкай.

— Табе б капусты ці морквы,— сказаў Алесь.

Вельмі заняты і сур'ёзны карцёжнік не змог усё ж такі не агрызнуцца:

— А табе я ў пятніцу куплю пудоў са тры аўса.

Чакаючы гудка, яны памалу ішлі па заводскім двары, лена размаўляючы,— і немцы, і палонныя,— разморана сагрэтыя высокім чэрвеньскім сонцам.

Стройная фройляйн, брунетка, ішла ім насустрач. Не ў прахадную, аднак, а спынілася ў натоўпе і, павітаўшыся весела, звярнулася да Нідынга:

— Гер інжынір прасіў чатыры чалавекі. На паўгадзіны.

Пануры халасцяк ажыў пад промнямі спакуслівай маладосці — зашапялявіў, заўсміхаўся галантна, смешна задыгаў доўгім падбародкам:

— Ды выбірайце, мілая, сама. Я думаю, што з вамі пойдзе кожны...

І фройляйн стала выбіраць. Ды, зрэшты, і не выбірала, а паказала пальцам на Алеся, першага з краю:

— Вы, калі ласка.— Побач з ім, як заўсёды, стаяў Мазалёк.— Вы таксама. І вы. Ну, і вы, калі ласка. І хопіць. Два вялікія і два малыя.— Яна бяскрыўдна засмяялася.— Прашу за мной.

Фройляйн была прыгожая. Нейкая простая, блізкая сіла — здароўе і спрыт. І, божа мой, колькі пяшчотнасці выпраменьваюць, як хвалююць і нізка адкрытая шыя, і да плячэй загарэлыя, поўныя рукі, і маладосцю паднятыя, гордыя грудзі! Пад тонкімі чорнымі бровамі — вялікія карыя вочы. Смяецца... Ведае сабе цану? Як жа смяецца! Вось павярнулася, пайшла, а вочы, вусны, зубы — яшчэ ўсё смяюцца ў тваіх вачах. Мілы чорны «бубікопф», як і ў Анхен — «казацкай памяці»... А як жыве на ёй — нібы богведама колькі і кім дабіраная — простая, светлая, хітрая сукенка над стройнымі, поўнымі, загарэлымі лыткамі!..

Гэтак думаў Алесь. Дзе там — думалі ўсе чатырох. Бо вось Андрэй не вытрымаў:

— Ну, браце, бабка! Цс, цс...

І тут стаўся цуд — фройляйн павярнулася да іх на

ходу і з нейкім вельмі ж натуральным, а ўсё ж і какетлівым смехам сказала:

— Нэ гэзка[1] бабка. Стара бабка!..

— Сле́чна[2] го́вожы по́-чэску?! — усцешна, здзіўлена крыкнуў Андрэй.

— Слэчна сама е чэшка,— зноў засмяялася яна.

Пачаліся ўзаемныя роспыты: хто вы, адкуль, як ваша імя, а вы як навучыліся па-нашаму...

Яна — Іржынка, і яе — вельмі проста цяпер, у вайну — прывезлі сюды на работу, яна служыць пакаёўкай у галоўнага інжынера.

Ну, а ён, Андрэй, летась у гэты час прайшоў праз усю Чэхію і папаўся ажно каля самай Мараўскай Астравы...

Яны гаварылі толькі ўдваіх, што па-чэшску, што па-нямецку, а што і так разумеючы, проста з вачэй. А трое астатніх — Алесь, Венік і ціхі доўгі Васілевіч — слухалі, калі меркаваць па Алесю, раўніва.

І не заўважылі, як хутка выйшлі з тэрыторыі гуты, дайшлі пад соснамі да белага катэджа.

Што там!— яны не адчувалі нават цяжару таго, што валаклі неўзабаве з партэра на паверх: пры гэтай дзяўчыне раяль здаўся ім... от, нібы ложак які, хоць Венік пасля і казаў, што ледзь не зайшоўся, не вякнуў, не...

У доме не было нікога, апроч іх. Потым спыталіся, і Іржынка сказала, што фрау і дзеці паехалі ў горад, а сам на заводзе. Пасмялеўшы, палонныя пачалі разглядацца, дзівіцца з яшчэ не бачанай раскошы.

А потым, у партэры, слэчна звярнулася зноў да Алеся:

— Пойдзьтэ, просім, далэ[3],— паказала на дзверы і пайшла першая.

Дурата маладая! Яму няпрошана прыпомніўся анекдот. Пані паклікала старога дзядзьку-сталяра ў другі пакой, каб заплаціць яму за работу. А ён спалохаўся: «Мне, панечка, у маіх гадах, лепш ужо чарку гарэлкі...» Так ён, Алесь, і ўсміхнуўся хлопцам з дзвярэй, міжволі і непатрэбна зачыняючы іх за сабою.

А за дзвярыма, у кухні, яму стала сорамна. І гора-

---

[1] Непрыгожая.
[2] Дзяўчына, паненка.
[3] Хадзем, калі ласка, сюды.

ча. Не ад сораму толькі... Ажно цяжка ісці, ажно страшна і нельга вымавіць слова.

Яна ж, здаецца, была спакойная. Завіхнулася каля буфета і, шчабечучы прыязна ды гасцінна, падала яму чатыры бутэрброды.

— Урчытэ матэ глад. Йеном то снезтэ йіндэ. А ныні сэ разлоўчым і з вашымі пжатэлі [1].

Ды ён стаяў. Глядзеў. «Пры чым тут глад?..»

— Якая вы добрая...

— Добра?.. Нэ...— Яе нібыта штосьці азарыла. А ўсё ж вельмі проста, хоць з небывалай, здаецца, усмешкай, ціха сказала: — Вждыць йсэм пшэце йеном чэшка!.. [2]

— Дазвольце, я... пацалую вам руку. Ну, як сястры...

— Руку? Нэні тшэба... [3]

А ўсё ж падала яе, моцную і пяшчотную, мусіць, не верачы, што ён сапраўды пацалуе. Калі ж ён трохі схіліўся, больш — падняў яе руку і, ледзь не ўсхліпнуўшы, адчуў пад губамі, кончыкам носа і падбародкам жывыя клавішы яе дрыготка-цёплых пальцаў, яна разгублена патупілася. Пасля, пры дапамозе яго рук, узняла заліты румянцам твар, слёзным бляскам вачэй засвяціла ў душу і, усемагутна абяссілеўшы, аддала яму разгублена раскрытыя і... божа мой, як жа салодкія, родныя губы...

— Ах, к чэму то?.. Цо то дзеламэ!..— шапнула пасля, перавёўшы дыханне.— Ох, нэ... Віцэ уж нэ... То йе вшэ... Мусітэ уж йіт. Я зуставам... Властне нэ,— мусім такэ... Зозлоўчыт сэ з німі [4].

Чатыры крокі — ад буфета да дзвярэй — а колькі сілы, мужнасці трэба, каб адарвацца і пайсці, адчыніць, паказацца на хітрыя вочы сяброў, асабліва Андрэя!.. Мужчына ты ці не? Глядзі вось... Ах ты, жаночая сіла!..

Слэчна Іржынка махнула з ілба небяспечна апу-

---

[1] Вы, вядома, галодныя. Толькі ешце далей адгэтуль. А цяпер я развітаюся і з вашымі сябрамі.

[2] Добрая? Не... Я ж усё-такі чэшка!..

[3] Руку? Не трэба...

[4] Ах, навошта гэта?.. Што мы робім?.. Ох, не... Больш ужо не... Гэта ўсё... Вы павінны ўжо ісці. Я застануся... Або не — і я таксама... Развітацца з імі.

шчаны локан, прыплюшчыла вочы і закруціла галоўкай. Тады зірнула на яго ўжо їхнім, толькі іхнім і зноў усемагутна нявінным, нават наіўным позіркам і, нібы сказаўшы: «За мною!» — пайшла да парога першая.

4

— І навошта яны ва ўсім свеце такія харошыя?!.

Па хрусткай дарожцы вячэрняга сквера прайшла Марыхен, якая толькі што паіла іх на Грубэравай кухні кавай.

— Гэтая? — лена спытаўся Андрэй.

— А хоць бы і гэтая. Адна толькі мордачка чаго варта. Толькі што злосная нечага на нас, ці што? Бачыш, прайшла — незнаёмая проста. І ў кухні важная — хоць ты засмейся!..

— Мне здаецца, ёй цяжка быць важнай. Відаць, пастрашылі гаспадары. Бо ў першы вечар, памятаеш, як?.. Дзіця яшчэ. І важнасць у яе цяпер дзіцячая.

Памаўчалі.

— А ўсё-такі скажы, што ў вас было там з Іржынкай — чаго вы абое такія чырвоныя выйшлі?

Гарачая рознагалосіца пачуццяў — і няёмкасць, і гордасць, і патаемнае шчасце — зноў зашумела ў Алесевай галаве. Ажно заплюшчыўся.

— Ты думаеш, я ведаю, што там было? Сам не магу разабрацца — было, не было?..

Малы з ледзь прыкметнай горыччу ці нават злосцю хмыкнуў пад нос.

— Ты мне свае храновіны паэтычнай не гарадзі. Так толькі дзеўкі гавораць, калі пападуцца: «Не памятаю нічога...» Што ж тады памятае яна, як не гэта?

— А я не памятаю ўсё-такі. Проста — мара мая, ці што?.. Што тут будзеш хваліцца...

— Ну, добра,— зноў пасля паўзы сказаў Мазалёк.— Аблізвайся адзін, як кот, што нашкодзіў на кухні. Ты думаеш — я ад зайздрасці? Калі пайшло на тое, дык яна мне напомніла... Ну, яшчэ не такую!.. Росны ранак, імгла ў даліне, а мы ідзём. Яна мяне праводзіла, каб не наткнуўся на «фінансаў», пагранічнікаў. «Фінансы — славацкія, Гітлеравы прыслужнікі. Чэ-

хі смяюцца з усёй гэтай «незалежнай» Славакіі з яе нядошлым фашызмам. Адзін дзядзька... ну, «сэдлак» чэшскі, з якім я сустрэўся, ужо недалёка ад Яблуноўскага пераваду, позна вечарам, казаў мне многа. «Кдыж сэ Словенско мобілізуе, Мадзярско сэ затрэпе!..» [1] І рагоча... Ды штосьці я табе блытаю... Як уцякаюць — ведаеш і сам. Я ўцякаў трошкі інакш. Адзін махіндрала з каманды. З-пад Мосбурга. Сяргея там са мной, вядома, не было. Тыдзень ішоў па Баварыі. Начамі, як і ты. Ну, а ў Чэхію ўвайшоў — проста як дома. Увечары нават песні часамі па вёсках чуваць — у адной, у другой... І я, здаецца, не з палону іду, а пад Азёрамі дзе-небудзь ці пад Індурай, як у падполлі. А гавораць яны — сам жа ты чуў,— як дзеці малыя, нібы песцячыся, так міла. Які, браце, край! Якія людзі!.. А я, хамут, украў на хутары «кола», веласіпед па-іхняму, і паехаў, як пан, і ўдзень. Бо я ў цывільным быў, нават і капялюш набакір, мацьяго сена не ела!.. Каля таго Яблуноўскага пераваду — стык трох граніц: Багемія-Маравія, генерал-губернатарства Польшча і тая самая «свабодная» Славакія. «Там сі дэйтэ позор! [2] — сказаў мне той вясёлы дзядзька.— Зловяць «фінансы», дык будуць плакаць, чаго добрага, што не хочацца немцам цябе аддаваць, а ўсё ж, вядома, аддадуць!..» Дарога мая тым часам, яшчэ завідна, пайшла ўгару, і кола прыйшлося пакінуць. Іду, брат,— горы, зара патухае, туман у даліне, аўсянае ржышча ля дарогі, смркы [3] стаяць. І раптам — хутарок. Пастукаў і зайшоў. Маці адна, гаспадыня, мусіць удава, сын нейкі ціхі, Вацлаў, і дзве дачкі, Вераніка і Агнешка. Людзі, браце,— паўбохана сітніцы, збан малака! Жару і брыдка: от дарваўся... Кажу, што ўнізе, пад гарою, кола. Вераніка пабегла і прывяла. Не ведалі, як дзякаваць, а мне няёмка, але не прызнаюся... А ўсё ж уранні і плату прыняў за гэты падарунак крадзены: другую палавіну бохана, каўбасу. Ды што там — плата: яны і так далі б. Найшла ўвечары поўная хата суседскіх дзяўчат, з другіх хутароў, шчабечуць, як дзеці: а гэта, а гэта як па-вашаму?.. Сяджу, брат, як герой! Спаць

---

[1] Калі Славакія мабілізуецца, дык Венгрыя задрыжыць.
[2] Там будзьце ўважлівы!
[3] Яліны.

палажылі з Вацлавам. А мне — хоць ты згары — не спіцца: эх, і падзякую ж я вам, эх і падсуну беленькіх!.. Уранні Вацлаў пайшоў на работу, а правесці мяне ўзялася меншая, Агнешка. Сонца ўзышло за гарамі. А маці просіць: «Нэходзь, дцэрко, сполу з панічэм, але пшэд нэбо за нім» [1]. Дзяўчынка светлая, семнаццаць толькі. Ды хіба ж я табе апішу?.. Ішлі мы побач, потым нават за рукі ўзяліся. Можа, таму і на «фінансаў» напароліся. Пачуўшы «гальт!», я шыбануў, вядома, уцякаць. А яна абхапіла мяне... Здохну, браток, не забудуся!.. Абхапіла і просіць: «Ондраш, нэні тшэба!.. Он выстжэлі! Подзівэй!» [2] Гляджу: жандар узняў карабін. А я падняў рукі. На фронце, пад Варшавай, калі нас бралі, не паднімаў, а тут... І ўпёрся, вядома, што не выдаю гэтую голку [3], што недалёка тут сустрэў яе, выпадкова. А яна толькі плача. З «фінансамі» — яны маўчалі, таўкачы — адзін жандар, відаць, судэцкі немец. Бо ўсё крычаў на Агнешку: «Мылч, нэбо достанеш пар фацэк! Мылчэт!..» [4] Павялі нас назад міма хутара. Мне — адно. А яна толькі плача: «Я за ніц нэмужу!..» [5] І ўсё. Маці здалёк яшчэ ўбачыла. «Дцэрка!» Як яны плакалі, бедныя!.. Маці і дочкі. Праваліцца б мне лепш праз зямлю... Яшчэ і гайдалі мы з ёю рукамі, як дзеці, ўзяўшыся. Калі ішлі туды, дзе сонца за гарой. Калі гаварылі, што я вось пайду і прайду, і напішу ёй, вядома... Застаўся, браце, толькі плач яе. Ды ў руцэ яшчэ цёпла: здаецца, яшчэ ўсё ідзём. Пайшлі, Алесь, ну яго к чорту ўсё!..

Усталі з лаўкі і памалу, лена шкрэбаючы па жвіры чаравікамі на салдацкіх цвіках, пайшлі ў духмянай засені ў свой бок.

...Гэта было ў тую ноч,
Як зацвілі верасы...

Далёкая, родная музыка слоў — яна сама прыйшла наверх з глыбіняў Алесевай памяці.

У шчодрым вячэрнім сонцы — белы домік на пераездзе, з блакітным ашклёным ганкам. «Ям не вінна...»

---

[1] Не ідзі, дачушка, разам з панічом, але спераду або ззаду.
[2] Андрэй, не трэба!.. Ён стрэліць! Глядзі!
[3] Дзяўчо.
[4] Маўчы, бо надаю па мордах! Маўчаць!..
[5] Я не вінавата!..

«Іх габэ кайнэ шульд...» «Я за ніц нэмужу!..» Не само яно прыйшло, тая песня і словы!..

— У Фрыдкаве яе пратрымалі два тыдні. Мне што — у камеры не вельмі горш было, як потым у штрафкампані. Добрыя хлопцы там былі, у камеры. Калі прывыклі да мяне, паверылі, што свой — пра фашыстаў мы гаварылі. Яны іх — і чэхі, і славакі не проста не любяць: і па намёках, пры ўсёй асцярожнасці, можна многа пазнаць. Барацьба ў іх, хоць і не вельмі прыкметная, а ўсё ж ідзе. І добра мне было з хлопцамі як са сваімі... Ну, а яна дзе, Агнешка? Куды яе загналі? Убачыў сёння гэтую — нібы сястра...

«Ах, к чэму то?.. Цо то дзеламэ?..»

З хмельным сорамам і гордасцю Алесь успомніў свой нечаканы, неверагодны цуд. Было яно і сапраўды ці не было?.. Ну як жа не было, калі на вуснах яшчэ — хоць закрывайся — гараць яе губы, пальцы яе — пад тваімі губамі. І вочы...

«Мілая слэчна, няўжо ж гэта ўсё — мімалётнае? Няўжо гэта было, а не ўявілася, калі я выйшаў?..»

— Яна прыгожая была?— спытаўся ён у Мазалька, каб не маўчаць так доўга. Спытаўся — адразу адчуў — нешта бяздушна, дурнавата.

І малы пакараў яго мудрым спакоем незахмялелага:

— Вельмі прыгожая. Як кожны... ну, сапраўдны чалавек...

Пасля спусціўся з вышыні:

— Такая рань была. Яшчэ прыцемак нават. Ды дурань я,— я яшчэ ўвечар бачыў яе. Я і заснуць не мог пасля. Такая... Ну, перш за ўсё... А можа, нават і на гэтую падобная, што ты... Як сабе хочаш, а справа не ў прыгажосці.

## 5

«У чым жа справа тады?— думаў пазней, ужо ў пасцелі, Алесь.— Чаму *яна* ідзе са мной ледзь не ад самага нараджэння? *Яна* — ні з чым не параўнаная ў сваёй хвалюючай красе, неперaможна вечная, хоць нібы часам і простая таямніца жыцця!..»

Пяцігадовым хлопчыкам ён бываў вельмі рад, калі

да іх зімой прыязджала Мальвіна, сястра, настолькі старэйшая, што ён ўсё памыляўся і называў яе цёткай. Прыязджала яна з кудзеляй і прывозіла з сабой двухгадовую Волечку.

Гэтага нельга акрэсліць такімі звычайнымі, сухімі словамі — «ён бываў вельмі рад». Мальвіна з'яўлялася да іх часцей за ўсё, як і належыцца вялікай радасці, нечакана. То на сваім кані, то падвязе хто-небудзь. Як на сваім, дык на двор уязджае, вароты бягуць адчыняць... А на чужым — нехта той, што падвёз, спыніцца перад хатай на вуліцы, і ўжо Мальвіна не прыязджае да іх, а прыходзіць. І малы, і з падлогі ды праз замёрзлыя вокны, не вельмі і здагадаешся, што гэта яна. Толькі як стукне ў сенцах клямкай, зашалпочацца: «Ну хоць бы ўжо хто адчыніў!..» — ды пакажацца ў дзвярах адразу з прасніцай ды з Волечкай,— вось тады пачынаецца!..

Госцейку ставяць, «як ступу», на лаву і пачынаюць расхутваць. Бо яна так укручана ў вялізную хустку, што толькі чорныя вочкі глядзяць праз шчыліну. Расхутаўшы, Мальвіна выцірае Волечцы нос, смачна цалуе яе ў чырвоную шчочку і ставіць на падлогу.

— Ідзі да дзядзькі Алеся, гуляйце.

А дзядзька той завіхаецца! Ох, як смяецца, ледзь не заплача ад радасці, ад нястрымнай, салодкай любасці да гэтых самых, толькі што цалаваных шчок, да вочак, якія ўжо таксама смяюцца, да пальчыкаў, якія ўладна, цёпленька працягваюцца па тое, што Алесь ёй напэўна дасць. Бо ён багаты! І ён аддасць ёй усё — і тыя шышкі-таўкачыкі, што бацька прывёз яму з лесу, і тыя, што ён сёння прывязе; і калодзеж з паленцаў, якіх яму таксама тата настругаў; і чатыры шпулькі; і кніжку з цацкамі; і ката... А Толя іхні ў школу пайшоў, і гэта вельмі добра — яны будуць толькі ўдваіх!..

Дзень праходзіў так хутка — як быццам яны і не гулялі, і не абедалі, і не ляжалі з катом на печы...

Вось яе, госцейку, зноў ставяць на лаву, надзяваюць ёй паліто, завязваюць хустачку, потым хустку, тады накрываюць вялізнай цёплай хустай — так, каб захутаць усю. Ды Волечка пішчыць з-пад хустак, не даецца.

— Ну што? Ну што? Ах ты, божа мой, я і забыла-

ся!.. Давайце ўжо, калі так, зноў памяняйцеся сэплямі. Хадзі, кавалер, сюды!

Мальвініны дужыя рукі паднімалі Алеся на лаву, і ён нагінаўся да цёплых настаўленых губак. Яна тымі губкамі нават і цмакне, і скажа: «Ах!..» А ён зачырванееецца, зноў да шчаслівага, слёзнага смеху.

— Дзядзька з пляменніцай, чаго ж вы,— гаворыць Мальвіна, нібы разважаючы яго, і пачынае ўсё закрываць — і рот, і шчокі, і нос. Адны чорныя вочы blішчаць праз шчыліну ў шэрай, цёплай і шорсткай ваўнянай хусце.

І Алесь забываецца зноў, што мама яго Волечкі, што Мальвіна — сястра, і просіць:

— Цётачка-а, заўтра прыедзь!..

Потым, праз многа год, Волечка стала прыгожай дзяўчынай, дужай работніцай, спрытнай танцоркай, пявунняй і рагатухай. Была яна і сур'ёзная, не дурная, і кніжкі любіла, і бывала на іхніх спектаклях. Бо тая, у маленстве далёкая, «трэцяя» вёска, адкуль Мальвіна ў першае пасля горада лета прыносіла хворай маме малако, а потым, зімой, прывозіла Волечку, была, як выявілася з часам, толькі за шэсць кіламетраў, што для ровара [1] — і наогул пад бокам.

Іншую Волечку, чым якой яна вырасла не без іхняга з Толем уплыву, Алесь, вядома, і не любіў бы.

Як гэта так — любіў?..

Гэта і дзіўна было, і пакутліва, і прыгожа.

Дружыць з пляменніцай, якой вось ужо і семнаццаць гадоў, ва ўсёй паставе якое, і ў рухах, і ў смеху так многа стала — адкуль і ўзялося!— прывабнага да здаровай няёмкасці, да зусім непатрэбнага яму хвалявання. Забыцца, што родная — не забудзешся, а лічыць яе толькі пляменніцай, толькі сяброўкай з маленства — як быццам замала, шчасліва і непатрэбна замала. «Не, не яна! Вядома ж, дурань, не яна!» — цвяроза думаў ён, а ўсё ж паэтычна, да сумнай, узвышанай і глыбокай музыкі ў душы хваляваўся, калі абнімаў яе ў танцы, калі здымаўся з ёю на памятку дружбы, «шчака да шчакі», як пакепліваў Толя.

У сёмым класе Алеся нібыта любіла Ліда Чамірка, але ён гэтаму неяк не верыў. Яна была старэйшая за

[1] Веласіпед *(польск.)*.

яго,— ці можа проста таму, што смялейшая?— і аднойчы за кулісамі, на іх школьным спектаклі, у цемры нават рукі на шыю яму закінула і шапнула: «Ах ты мой Светлячок!..» Такая была ў яго роля ў казачнай п'есе. Ліда іграла там Свіцязянку. На ёй шамацела белае плацце з карбаванай паперы, а голыя рукі яе былі вельмі цёплыя.

«Сплініст» вучыў Алеся, што трэба рабіць. Хваліўся, што Тоня, другая сямікласніца, таксама парасток, любіць яго, Лясоту, яшчэ больш... Але таму, што Жанчына, якая мучыла ўжо і Алесева ўяўленне, здавалася хлопцу нечым амаль недасяжным у сваёй прыгажосці, яму не верылася, што ў адносінах з ёю, Жанчынай, усё выглядае «так проста»...

А недасяжнасць тая раптам абрынулася на яго душу вачыма, пацалункамі і шэптам пані Ванды.

Тое ненатуральнае ў яе адносінах да яго, што хлопец адчуваў спачатку вельмі цьмяна, з часам рабілася выразнейшым. Яна пісала яму, запрашала прыходзіць. Нешта праз два гады пасля гімназіі, спакусіўшыся абяцанымі кнігамі, ён пайшоў. І вось яна яго — ужо работніка, ужо мужчыну, што чытае філасофію і думае, як яму стаць сапраўдным чалавекам і пісьменнікам,— яна яго пры гасцях ды пры мужу пацалавала ў лоб і сказала, усцешаная, як дзяўчынка: «Ну, нарэшце!..» А яму стала брыдка, аж горача, ён адчуў сябе там, у іх шумнай застольнай кампаніі, пакутліва-чужым... Кнігі пасля пераслаў, не панёс.

Толю было ўжо тады дзевятнаццаць. «Жох», як маці казала,— танцор, весялун, валацуга,— ён траляў у далёкія вёскі, святамі не заганяючыся дома.

Шаснаццацігадовы Алесь па развіццю перарос сваіх аднагодкаў, з імі яму часцей за ўсё бывала сумна. І ён упадабаў хадзіць на зборышчы мужчын. Там было вельмі цікава. Паслухаць толькі старога Гузіка, які — «уму непостижимому!», як ён казаў,— і на штыхі хадзіў пад Мукдэнам, быў і адэскім біндзюжнікам, і пажарнікам у «пецярбургскім імператарскім тэатры», і пакланяцца Іаану Кранштацкаму баба яго зацягнула, і выступаў ён на мітынгах «у свабоду»... А Гузік жа не адзін у Пасынках такі бывалец. Як яны здарава «выдзіралі», кожны па-свойму, які бесклапотны і смачны рогат выбухаў часамі ў хаце, калі, скажам, Байдун

расказваў штосьці, здорава пераймаючы кожнага, пра каго гаварыў. Зухаваценькі, рыжы Шулейка, што лепш за ўсіх спраўляўся з барабанчыкам, вельмі любіў і ўмеў «расказваць кнігі». Усё з памяці, як чытаючы. «Отец мой, Андрей Петрович Гринев, в молодости своей служил при графе Минихе...» Або: «...Маркиз Карабас догнал турчанку в реке и вонзил нож в грудь по самую рукоятку...»

Хтосьці аднойчы сказаў:

— Ты б, Алесь, пачытаў нам што-небудзь. У вас жа кнігі ёсць усякія.

Ён збегаў дахаты, і з таго вечара пачалося. Чаго ён толькі ім не прачытаў! Ды ўсё ж гэта, як слухачы казалі, «і вельмі чыста, і на ўсякія галасы». Мала таго, што мужчыны сядзелі на лавах, на ложках, на ўсіх парогах, табурэтках і калодачках,— яны сціскаліся стойма вакол стала з цьмянай лямпай, што задыхалася, рыўкамі салапіла свой язык ад цяжкай духаты. Аціхалі, заварожаныя словам, заднія цераз плечы пярэдніх заглядалі на стол, каб лепш убачыць таго Хлестакова пасля «бутылки-толстобрюшки» ці «Недаступнага», што пад мухаю шуснуў ад жонкі ў пусты калодзеж і нават песні там галёкае... Аціхалі, каб лепш прыслухацца, каб зноў пасля выбухнуць рогатам, ад якога, нарэшце такі, гасла пакутніца-лямпа!..

Добра было ў такія вечары. Проста прыемна, як быццам і сам ты чытаеш гэта зноў упершыню; і радасная думка ёсць, што вось ты патрэбны, ты — служыш народу.

Потым, аднак, Алесю стала і з гэтым яго «служэннем» часамі нібы не хапаць паветра. Часцей ды часцей пачало наведваць тужліва-горкае адчуванне адарванасці ад сваіх аднагодкаў, ад іх усё-такі спакуслівай, хоць і «пустой» кампаніі.

— Ой, дасядзішся ты дзедам!— смяяўся Толя.— Возьмешся потым у дзеўкі за голы локаць і — брык, самлеў!..

Алесь пачаў часцей хадзіць на вячоркі і вечарынкі падлеткаў, вучыцца пад Макарцову скрыпку танцаваць, набыльваць, як гаварылася, на кавалера. Было і добра — адчуваць сябе сваім, было часамі і сумна, хоць ты завый ад гэтага кавалерства — з пустым хіхіканнем ды гыганнем, і гнілою лаянкай, п'янкамі, бой-

камі, з самаздаволенай і ваяўнічай цемрай, перад якою часта здаешся сам сабе бездапаможным.

Пазней, змагаючыся з гэтай цемрай, Алесь (Толя быў тады ў войску) пачаў, па прыкладу лепшых вёсак, ладзіць у Пасынках спектаклі.

Падпольшчыкі называлі іх адзінай у той час легальнай школай нацыянальнай і сацыяльнай свядомасці. Сама вёска гаварыла пра тыя спектаклі прасцей: «Хоць прадуха якая, а то сядзіць наш маладзёж — што тая рыба пад лёдам». Ведалі гэта і пілсудчыкі, і таму ўсё тужэй ды тужэй было з дазволам нават на самы бяскрыўдны, апалітычны спектакль, а на кожным дазволеным — у першым радзе абавязкова сядзеў узброены вінтоўкай «цэнзар» — паліцыянт.

Што да Алеся, дык для яго ўся тая справа з самадзейнасцю была не толькі новай формай служэння народу, але ж і своеасаблівым выхадам у шырокі свет, вызваленнем ад пэўнай скаванасці, замкнёнасці ў самім сабе, да чаго юнака прывучылі і проста кнігі, і самаадукацыя, і ўпартая праца над першымі творамі.

Цяпер, сугучна настрою — «было гэта ці не?..» — Руневіч успомніў свой апошні спектакль, у лютым трыццаць дзевятага года, калі ўжо Толя быў дома, а ён, Алесь, чакаў навабранскай павесткі.

...Вось ён стаіць на ганку «людовага дома» ў суседнім мястэчку, засмучаны, з душой растузанай, здаецца, толькі трошкі не дашчэнту. Колькі ж можна!.. У школе ў Пасынках ставіць спектакль настаўніца чамусьці раптам не дазволіла. Нанялі на тым тыдні гэты «людовы дом». Сяк-так дамагліся дазволу ў павятовага рэферэнта бяспекі. На́ табе — папа рымскі памёр, жалоба. Перанеслі спектакль на сённяшні дзень. А ўчора паліцыя, па званку таго самага рэферэнта, зняла дазвол з беларускай часткі праграмы — забараніла і пастаноўку, і дэкламацыі, і спевы...

Далікатная, сытая ражка Мазурэка, каменданта. Хлопцы, хто пабываў ужо ў падвале пастарунка, гавораць, што сам ён не б'е, калі другія б'юць, а толькі сядзіць за сталом ды ўсміхаецца. Учора таксама ўсміхаўся.

— Усе імпрэзы на мове тутэйшай будуць наогул забаронены.

— Чаму?

— У нас пытанняў звычайна не задаюць. Мы самі, шаноўны пане Руневіч, пытаемся. Сяму-таму тады становіцца ясней...

Заказырыцца і ў знак пратэсту не ставіць і другую п'есу, польскую, Алесь не захацеў, як ні горка было заставацца вышэйшым за іх, Мазурэкаў, шавіністычную абмежаванасць. І п'еса была добрая, і ўсё наладжана, і ў вёсцы за Нёманам абзадачана найлепшая ў наваколлі музыка... І яшчэ адно, толькі Алесева, патаемнае,— ён прадчуваў чамусьці, што гэта быў для яго не звычайны, не проста восьмы па ліку спектакль, а — апошні...

У давяршэнне ўсіх бед трэба ж было, каб якраз сёння пайшоў на Нёмане лёд!.. Хлопцаў, якія паехалі па музыкаў, яшчэ ўсё няма. Свае, артысты і памагатыя, хвалююцца толькі, а местачковая публіка нездаволена. Паплёўваюць, кепікі строяць з вясковых, якіх тут, у гэтым саламяным «горадзе» на дзвесце хат, умеюць называць і хамамі. І трэба ўсіх забаўляць, супакойваць, што музыка вось-вось прыедзе...

У такім нецікавым настроі ён і сустрэўся з Нінай Чамірка, малодшай сястрою той Свіцязянкі-Лідачкі, што ў цемры назвала яго калісьці сваім Светлячком. Ліда была ўжо замужам. А Ніна, якую ён са школы цьмяна памятаў чатырохкласніцай, выглядала цяпер — куды там! — сапраўднаю красуняй. Алесь не паспеў, аднак, і здзівіцца як след, калі яна, у абкружэнні паклоннікаў, паднялася на ганак і, нібы не маладзейшая за яго, нібы яны сустракаліся пасля школы, зусім па-школьнаму засмяялася:

— Олек! Дык гэта ты, мой хлопча, усё так наладзіў?..

І смех яе, і дапамога паклоннікаў, і гэтае даўно аджытае «Олек» — намёк на пані Ванду,— усё гэта добра такі ўкалола і без таго засмучанага Алеся. Праўда, і сам ён быў далёка не без'языкі,— і перакінуўся з ёю ветліва-вострым слаўцом, і пасмяяўся разам з хлопцамі, але ж і злосны быў на тую... падумаеш! — німфу, пакуль нарэшце не прыехалі хлопцы з музыкамі...

Аднак пазней, калі пасля спектакля яна прыйшлася яму ў танцы,— ад злосці тае ўжо не было і следу. Дзе там! — Алесь нібы ўбачыў яе ўпершыню.

Малодшая Свіцязянка і вельмі добра ведала сабе цану, і разам з тым была нявінна маладзенькая з выгляду, з пяшчотна маленькай рукою ў тваёй руцэ, з просценькай, ледзь не дзяцінай радасцю ў вачах, з абаяльнай усмешкай на малых выразных вуснах.

Добра на свеце!.. Нядаўні пасынкаўскі выпівака і грубіян, галасісты Васіль Санюта стаіць на табурэце пад электрычнай лямпачкай, і дырыжорскі голас яго, ачышчаны ад «матавасці» намаганнямі дружнага калектыву, гучыць, як для Алеся, асабліва весела. «І кол-ла!.. І бар-рышні злева!..» А як задуменна ды сімпатычна вальсуе Хвеськава Жэня, якую яму, Алесю, давялося навучыць чытаць, раней чым стала дзяўчына найлепшай у вёсцы артысткай. Ну, ужо і найлепшай?.. Не адна яна паказала і сёння, яшчэ раз, што значаць, што могуць «цёмныя Пасынкі»!.. Колькі ў нас памагатых! Хто лепш за Косцю Вярбіцкага загрыміруе цябе — хочаш на чорта, хочаш на бога? А бачыш — кружыцца сабе, як быццам ён — толькі прышлы тут, па білеце, не больш. Шмат і проста сімпатыкаў, таксама з іншых вёсак. Вунь як вывінчвае ў пары з іх Толем Волечка, як усміхаецца з-за яго пляча, калі ёй падміргне Алесь, «малодшы дзядзька». Добра!.. Хоць папа рымскі і памёр! Хоць час такі, калі падумаеш, шалёны, змрочны!.. Асабліва калі табе дваццаць адзін, калі так хораша льюцца «Дунайскія хвалі», калі ў руках тваіх... сапраўды Свіцязянка!..

Вальс нечакана закончыўся так, што Алесю прыйшлося падзякаваць Ніне. Ну, не вахлак жа ён,— выйшлі праз бакавыя дзверы ў сад. А там — пакуль што нікога няма...

Сцяты марозікам, удзень адліжны, снег хрусціць пад нагамі, як бітае шкло. Асцерагайся як хочаш,— чуваць. Высока над ліпамі — месяц у лёгенькіх воблачках. Другім разам, калі б заглядзецца туды, ён здаўся б сумным, хоць песню такую спявай...

— Як сёння хораша, праўда? Як весела!..

Яна сказала гэта шчыра, стомлена, шчасліва. Не тая Ніна, што смяялася (вострая, пстрычка, на язычок!), а тая, што мілая, ціхая ў танцы, калі адкінецца ў тваіх руках і вочы прыплюшчыць ад захаплення.

Ды ён незвычайна маўчыць.

— Вы мяне замарозіце, Алесь...

Ён абнімае, туліць да сябе яе пяшчотна стройны стан, які і сапраўды бездапаможна, просячы ласкі, уздрыгвае ў яго руках.

Ён п'янее ад адчування і свае сілы і яе адданасці, ён дакранаецца душой да той вялікай таямніцы вечнага, што так хвалюе яго, так трывожыць надзеяй — даўно, пакутліва і шчасліва...

Прасцей — яны пацалаваліся. Яна, відаць, больш прызвычаена, чым ён. Бо вось спыталася, ужо на «ты»:

— А там спалохаўся?

Там — гэта ў зале, дзе раптам было патухла святло і хтосьці з хлопцаў па-дырыжорску гукнуў, пераймаючы Васіля: «І кавалеры цалуюць дзяў-чат!..»

— Ты думаеш? — спытаўся ён прыглушана.

Малыя, выразна нявінныя вусны яшчэ раз ахвотна і проста — і ўжо бясконца аддана толькі табе адна-му — пацвердзілі тую высокую, недасягальную таямніцу.

Ды тут пачуўся хруст снегу і галасы...

У Свіцязянкі быў, вядома, кавалер, і ён пасля непрыкметна павёў яе з танцаў.

Праз дзень, нібы пацвярджаючы Алесева прадчуванне, яму прыйшла павестка ў армію.

Была і крыўда, і злосць, і горкая разлука з родным светам...

А вось разлукі з Нінай ён не адчуваў. Дагэтуль была ў яго толькі дружба з дзяўчатамі — песні, гутаркі, смех, і лёгкія намёкі на сімпатыю, што так і не перайшлі ні разу ў закаханасць. Свайго ён яшчэ ўсё чакаў — адзінага, сапраўднага і назаўсёды. А тыя два, першыя для яго, пералётныя пацалункі, хоць ён памятае іх жыва і сёння, і часта з гордасцю ўспамінаў раней, здаюцца часамі проста... ну, чымсьці непраўдападобным.

Вось як і гэтыя, сёння...

І навошта яны ва ўсім свеце такія харошыя?..

— Ты спіш? — спытаўся ён, у прыцемку шукаючы вачыма сябраў твар.

— Не спіцца, чорт яго...— прагудзеў Мазалёк.

Што ж, хочацца пагаварыць пра шчасце, якім яны абдзелены па волі гэтай суровай, дзікай вайны, пра шчасце, што прыйдзе калісьці, што ходзіць недзе, здаецца, так блізка!..

— Андрэй, ты ведаеш, я не лгу. Дальбог жа, у мяне адчуванне такое: было што, не было?.. Як казка, як нейкая музыка, чорт яе ўзяў бы. Проста не верыцца, і ўсё.

Дружба дружбай, а шчасце бывае сляпое, глухое, неразумнае. Толькі пасля, праз некалькі тыдняў, працверазеўшы ад новых падзей, Алесь паміж іншым успомніць гэта і зразумее. А цяпер яму нават пачулася штосьці накшталт маладой, няхай сабе нават міжвольнай, а ўсё ж такі рэўнасці ў словах:

— Дык і добра, чаго ж ты...— А праз хвіліну маўчання: — І няўжо нам з табою трэба тут думаць толькі пра гэта?..

## ПАСЛЯ ААЗІСА

### 1

Рыхтавалі яго ў дарогу трое — Крушына, Андрэй і Іван Непарэцкі.

З гэтым таварышам Крушына разам працаваў, рабіў цэментавыя трубы і жыў у адным пакоі.

Непарэцкі звольніўся адзін з самых першых, раней за Мазалька. Зрабіў ён гэта па першаму націску і, здавалася, вельмі ахвотна. Яму і нельга было інакш, каб не выдаць свае таямніцы.

Дома, на Гродзеншчыне, Іван быў Янкелем, сынам местачковага рымара Довіда-Ічэ, тры гады да войска працаваў краўцом, а ў маленстве хадзіў у паўшэхную школу разам з Андрэем. Некалькі землякоў, якія ведалі яго, дружна ўвесь час гаварылі, што ён беларус. У выглядзе высокага бялявага маўчуна амаль зусім не было нічога семіцкага, і ён вось пратрываў ужо блізу два гады ў палоне, звыш агульнай нядолі носячы яшчэ і свой патаемны цяжар — горкі, балючы страх, што выкрыюць-такі, ну, а тады... Пра страшную долю нямецкіх яўрэяў Янкель чуў яшчэ дома, да арміі. Першы масавы пагром, у лістападзе трыццаць восьмага года, дыскрымінацыя, гета, раз'юшаная антысеміцкая прапаганда... Тут жа за два гады ні яму, ні друго-

му каму з палонных проста не давялося сустрэцца хоць бы з адным мясцовым яўрэем. Чулі толькі пагарду, нянавісць, дзікія кепікі. Слова «юдэ» абавязкова спалучалася са словам «фэрхлюхтэ». Вядома, не ў вуснах кожнага немца — многія маўчалі, а сёй-той спадцішка, у гутарцы з палоннымі, пратэставаў. Ды Непарэцкі, больш за ўсё баючыся за сваю таямніцу, такія гутаркі абмінаў. Не давала спакою пытанне: куды падзеліся хлопцы-яўрэі, што як салдаты польскай арміі таксама трапілі ў палон? Ніхто не ведаў пра гэта ні на поўначы, ні вось цяпер на поўдні «вялікага рэйха», ва ўсіх тых шталагах і на арбайтскамандах, дзе пабывалі і сам Непарэцкі, і Крушына, і Алесь, і многа іншых землякоў. Усё канчалася на тым бараку з надпісам: «Для адпраўкі ў Расію», пра які калісьці чуў Алесь. Непарэцкаму і наяву і ў сне ледзяніла душу тая бездань пакут, што хавалася за жахлівым пытаннем: «Дзе нашы?..» Яго адзінапляменнік, з выгляду маладзенькі баранавіцкі цырульнік Зысалэ Бом, шчыры хлапчына, які да гэтай зімы жыў на адной з камандаў пад імем Ігната Богуша, сам не стрываў і прызнаўся вахману, а потым і начальству ў шталагу, хто ён. Фатальнае пытанне: «Дзе нашы?» — магнітам цягнула яго на бераг бяздоннай прорвы. Зысалэ «палягчэла» спачатку, казаў ён, а потым, праз месяц, хлопца пагналі з лагера, каб і за ім зачынілася жудасна-таямнічая брама з двух фортак-слоў: «Дзе нашы?..» Непарэцкі трымаўся. Баяўся толькі за вочы свае, падазрона вялікія, выпуклыя і неяк вельмі ж тужліва адцягнутыя ніжнімі павекамі ўніз. Ад думак вочы рабіліся яшчэ больш тужлівыя. На заводзе сваім, як ні цяжка было без прывычкі да грубай работы, Іван завіхаўся, і яго хвалілі. Для маскіроўкі ён і стараўся, і не прызнаўся на першым лагерным перапісе, што кравец, падаўшыся, як большасць, «ляндвіртам», земляробам. І нідзе не паказваў, што мову нямецкую ён разумее добра. Пасля «звальнення» жыллё знайшоў удала: асобны пакой у кватэры старэнькай фрау Хаземан, жанчыны адзінокай, людскай і забітай, якая моўчкі жыла сабе сваім горам — толькі сынам, што быў на вайне, «недзе аж там, дзе вельмі горача і дзе чорныя людзі». Выпадковай сустрэчы Янкель з Крушынам абодва былі рады: па-зямляцку і па-чалавечы, як людзі, якія могуць

быць спакойныя адзін за аднаго. Практычны і абароцісты Непарэцкі вёў іх супольную гаспадарку (з харчаваннем, мыццём бялізны, усякім там рамонтам, чыстатой у пакоі), даглядаў Сяргея, як бацьку, а той пабацькоўску, з глыбокай трывогай у душы, шанаваў Янкеля, з натуральнаю, простай шчырасцю называў хлопца Янка ці Яначка — блізка да роднага імя.

Калі даспела рашэнне зноў паслаць каго-небудзь у консульскі аддзел паўпрэдства і гэтым найбольш адпаведным кім-небудзь здаваўся таварышам цяпер Алесь, Непарэцкі ахвотна прапанаваў яму свой танны, як гаварылася, «крапіўны», касцюм, тэніску і туфлі. Грошай на дарогу сабралі чалавек з дзесяці. Папрасілі ў гаспадыні старэнькага партфеля (па нябожчыку мужу, чыноўніку), і фрау Хаземан дала яго, не спытаўшыся нават, куды ж гэта так прыбіраецца Алекс, чаму ён прыадзеўся ў Ёганаў касцюм.

Андрэй правёў Алеся да свайго знаёмага прыватнага ўрача, які і Мазальку ў свой час памог у такой жа паездцы.

— Вы палонны? — спытаўся стары, як калісьці ў Андрэя.— Хочацца трохі адпачыць, гэта зусім зразумела. На тры дні хопіць?

Даведка была патрэбна толькі на адзін дзень — за ноч з пятніцы на суботу цягнік даходзіў у Берлін, у нядзелю да раніцы можна вярнуцца,— аднак узята яна была з удзячнасцю на ўсе тры дні, з панядзелкам уключна.

І вось тая субота — сонечны, страшнаваты і горды дзень яго жыцця!..

У чорным, старанна адпрасаваным касцюме, з партфелем пад пахай, без шапкі, у чорных наглянцаваных туфлях, якія да таго ж і не ціснуць, у блакітнай расшпіленай тэнісцы — апошнім, самым, здаецца, цывільным і самым маладым штрыху у яго разведчыцкай велікапышнасці — Алесь ідзе шырокім тратуарам даўно абсаджанай цяністымі каштанамі берлінскай вуліцы... Той самай вуліцы, назву якое ён так выдатна запомніў са светла-жоўтых канвертаў паўпрэдства.

Яшчэ чатырнаццаць домаў, чатырнаццаць нумароў на кожным вугле, і будзе ён — той дом, цераз які толькі і можа прыйсці яна, іхняя воля, адкуль пачнецца нарэшце ягоны шлях на Радзіму!..

Першы ў яго жыцці такі вялікі горад. Улічваючы ўсе тыя, дзе пабываў, праз якія яго везлі ў салдацкіх ды ў нявольніцкіх таварняках. Цяпер ужо можна смяяцца з таго, як чатыры гады таму назад — здавалася ў той час, такім ужо сталым сур'ёзным, начытаным мужчынам — паехаў ён упершыню ў вялікі горад, Гродна. Праўда, не разгубіўся зусім, аднак здавалася, што ўсе на яго пазіраюць, нібыта штосьці адметнае бачачы, што хутка ўсе, чаго добрага, закрычаць: «А во ён, во!..»

Штосьці падобнае ён адчувае і сёння. Затрымалі б вось толькі ды заглянулі ў партфель, дзе ў яго стolькі анкет, запоўненых не на нямецкай мове, з нейкімі дзіўнымі, напалавіну салдацкімі фотаздымкамі. «Што, не казалі вам, што вы павінны трымацца толькі свайго завода, свайго горада?!» — з усмешкай уявіў ён гэтае пытанне па-нямецку. Пытанне і пануры позірк праз акуляры. Унтэр Лёмаз. А што за ім — штрафкампані, трэці раз, ці ўжо кудысьці далей?.. Для апраўдання хляжыць у кішэні паперка, што ён — «энтлясан». Хопіць майстэрства і мовы, каб прыкінуцца: не ведаў і не думаў я, паночкі, што няможна!.. У Мазалька калісьці быў у запасе яшчэ адзін козыр, калі б затрымалі: іду ў «беларускае прадстаўніцтва». Ён быў без анкет, яму яшчэ можна было... Зрэшты, калі пападуся — паглядзім. Адзін раз Марку жаніць — на гэта толькі і надзея.

Тым больш што дагэтуль шанцуе. Узяў учора білет, сеў, «чытаў» газету, драмаў, выйшаў уранні з вагона, прысеў у буфеце, выняў з партфеля падрыхтаваны Янкам бутэрброд, заказаў і выпіў кухаль піва. Тады — самае страшнае — сеў у метро і даехаў да патрэбнай станцыі!.. Выйшаў і адышоўся, добра (і непрыкметна!) прыглядзеўся, як знайсці пасля сваё «U»[1] над уваходам пад зямлю. І вось — ідзе!..

І хутка прыйдзе і скажа там сваім, хто ён, адкуль, чаго. Ну, а яны спытаюцца... А што спытаюцца? «Wieder ein neuer Hans?»[2]

Як дзіўна ходзяць думкі, калі ты рады, узрушаны!.. Успомніўся стары смяцяр з яго дарашаватымі, карат-

---

[1] U — Untergrundbahn — метро.
[2] Зноў новы Ганс?

кахвостымі першаронамі, вялізнай скрыняй на гумавых скатах, з яго пугай-стусінай, старэнькім капелюшом, навушнікамі на пружынцы, а яго, даруй божа, нейкай ледзь не таксама першаронскай цягавітай маўклівасцю. Кожную раніцу ён пад'язджаў да брамы шталагу і адтуль да яго выпускалі двух палонных, пад распіску, Паўля і Ганса. Паўлем тут называўся ціхі, акуратны паляшук Павел Шышка, а Гансам — вясёлы і хітры Іван Дударык, які амаль штовечара вяртаўся ў лагер з адной-дзвюма булкамі хлеба пад доўгім уланскім шынялём. (Хлеб гэты ён купляў без картачак у смялейшых крамнікаў, плацячы больш, а тады прадаваў у бараку, робячы добра, як ён гаварыў, і другім, і сабе). Калі прыйшла неабходнасць фатаграфавацца для паўпрэдаўскіх анкет, дык то за Паўла, то за Івана амаль штораніцы выходзіў хтосьці іншы. Калі за Ганса, дык «таксама Ганс» , калі за Паўля — «таксама Паўль». Не столькі тут было, вядома, маскіроўкі, колькі проста маладой весялосці, бо стары неўзабаве пра ўсё здагадаўся. Кожны раз ён абыякава пытаўся ўранні: «Зноў новы Ганс?» або «Зноў новы Паўль?», і гэта было не столькі пытанне, як сцвярджэнне факта. Робіце штосьці — ну і рабіце, і вам трэба жыць.

Калі прыйшла Алесева чарга і ён выйшаў за лагерную браму ў якасці «новага Ганса», стары сустрэў яго — як і ўсіх.

«А як жа прывітаюць тут?.. Зноў новы беларус? Ужо не Мазоль, а Руневіч? Чаго ж вам трэба — жаўнеры Рыдза, гефангены Гітлера?..»

Яшчэ толькі сем нумароў. Ужо нават шэсць...

Берлінцаў штосьці на вуліцы мала. Рана, зрэшты,— толькі што біла дзесяць гадзін.

А гэты маладзец, што ідзе насустрач, вельмі ж нагадвае кагосьці... Ну? Хэ, чорт! Дык ты ж, майн лібэр, здорава такі падобны да майго Толі! Нават рукой махаеш, ідучы, як ён: не проста збоку, а нібы назад, за спіну. Надзець бы толькі майму Анатолю такі ж элегантны касцюм...

Высокі немец у светлым касцюме таксама глядзіць на сустрэчнага са старэнькім партфелем пад пахай...

«Ну вось і радуйся!..» — ёкнула сэрца, а па спіне, пад чорным пінжаком, заварушыліся першыя мурашкі...

Нават і азірнуўся Алесь, мінуўшыся. Не, той пайшоў сабе.

«Проста здалося, цікнула штосьці, як мама сказала б...»

Тры нумары... Два... Адзін...

Ну, тут!..

На шэрым, каменным шуле брамкі — бліскучая чорная дошка, на якой — той самы, што на светла-жоўных канвертах,— горды, велічны надпіс: «Полномочное представительство СССР в Германии. Консульский отдел». Ніжэй — тое самае па-нямецку.

Пад шыльдай — гузік электрычнага званка.

«Усё — як гаварыў Андрэй. Ну дык і будзем далей дзейнічаць, як ён казаў».

Алесь з хваляваннем прыціснуў пальцам той гузік.

Чаканне цягнулася доўга, пакутліва...

За брамкай і брамай з чорных жалезных прутоў — залітая сонцам прастора, сем-восем крокаў па ўбітым жвіры. Тады — прыступкі нізкага ганка і дзверы, высокі, карычневы, з узорамі,— доўгачаканы сезам...

І вось, нарэшце, сезам адчыніўся. Цяжка, нібы неахвотна.

Каржакаваты мужчына ў сінім гарнітуры быў падвязаны хусткай.

— Здравствуйте! — радасна сказаў цераз брамку Алесь.— Я ад групы «шэсцьдзесят сем», ад палонных, наконт грамадзянства. Мы пасылалі анкеты яшчэ з лагера. Тут ужо раз, зімою, адзін з нашых таварышаў прыязджаў. З ім гаварыў таварыш Зяблікаў.

Падвязаны стаяў за чорнымі прутамі, глядзеў на Алеся і слухаў. Калі ж той закончыў,— ён з цяжкасцю, ледзь разводзячы сківіцы, пачаў і свой маналог. Кароткі:

— Здравствуйте. У нас сёння непрыёмны дзень. А таварыш Зяблікаў выйшаў.

Момант маўчання здаўся Алесю, пакуль ён пачаў гаварыць, вялікай, поўнай адчаю прорвай. Але спытаўся як быццам спакойна:

— Дык што ж мне рабіць?

Падвязаны — з тым самым выглядам панурага пакутніка — сказаў спакойна, нібы нават і абыякава:

— Погуляйте немного. Таварыш Зяблікаў хутка павінен вярнуцца.

Аддаўшы ўсё, што ён мог, пакутнік павярнуўся, зрабіў па залітай сонцам пясчанай убітай прасторы не сем, не восем, а дзевяць крокаў, вяла падняўся па ўсходах на ганак, і высокія, цяжкія дзверы з узорамі зачыніліся за ім так, нібы і ім было сёння нялёгка.

«Погуляйте немного»,— у думках паўтарыў яго словы Алесь. Новыя словы, не чутыя ў жывой гаворцы дома, ну, а тут — тым больш. Нібыта ўзяў іх нават на смак, адчуў пад губамі іх небяспечны халадок...

Прайшоўшы па тратуары крокаў з паўсотні, павярнуў назад.

«Ну вось!..» — ураз вярнулася тая, з мурашкамі, думка. Толькі на месцы ранейшага «і радуйся» імгненна стала новае: «дагуляўся!..».

Крокаў за пяцьдзесят перад ім ішоў той самы немец у светлым касцюме, невядома навошта падобны да Толі...

«Вярнуцца, перайсці на той бок вуліцы — о не, не трэба! Спакойна, проста, нібы нічога ніякага, ідзі, і ўсё. Нават таксама хутка, як ты ходзіш заўсёды, як ты ішоў тады, калі сустрэўся з ім упершыню. Вось так».

Немцу было бліжэй да брамкі консульства, і ён дайшоў да яе першы. Калі ж Алесь параўняўся з ім, каб з зусім абыякавым выглядам ісці сабе міма, далей, немец паглядзеў на яго па-ранейшаму зацікаўлена, нават пранікліва і... раптам, усміхнуўшыся, спытаўся:

— Вы, по-видимому, к нам?

Дарагая, цудоўная руская мова! Не ўспомніць хлопцу з Пасынкаў, калі ты гучала для яго таксама радасна і родна!..

Усхваляваны, стрымліваючы дрыготку ў голасе, ён з урачыстай наіўнасцю паўтарыў свой маналог — ад «здравствуйте» да прозвішча таго таварыша, з якім калісьці гаварыў Андрэй.

— Здравствуйте,— працягнуў руку бландзін.— Я Зяблікаў. Прашу.

Ён адчыніў брамку і прапусціў Руневіча наперад.

## 2

Вялікія вокны пакоя на трэцім паверсе выходзілі ў густое лісце каштанаў, галіны якіх праз год, праз два дастануць да самага шкла.

У пакоі быў халадок і цішыня. Якое там! — тут быў нарэшце ўтульны закутак, частка вялікага роднага свету, які яшчэ ўсё далёка — аазіс у горкай пустыні няволі.

Пра гэта гаварыў і партрэт на сцяне, насупраць Алеся, і прыемны таварыш, які сядзеў за сталом, неяк вельмі ж спакойна для вачэй засланага зялёным, пад рукой — казытліва-шурпатым, сукном.

З партрэта быстрым, разумным і трохі суровым позіркам прыплюшчаных вачэй глядзеў з хітраватай, і саркастычнай, і добрай усмешкаю Ленін.

І адчуваць сябе пад гэтым позіркам і ўсмешкай было і радасна і няёмка.

Ніякавата Алесь адчуваў сябе таму, што ён, зачараваны другім геніем з малалецтва, не ведаў амаль нічога з таго, што напісаў *гэты* вялікі чалавек... А радасна Алесю было таму, што ён падрос тым часам, працёрся ў жорнах жыцця, абтросся ад многіх наіўнасцей, і вось сядзіць — упершыню за дваццаць чатыры гады! — перад гэтым партрэтам, час ад часу глядзіць на яго знізу ўверх, і яму, яшчэ ўсё нявольніку на чужыне, вельмі добра ад думкі, што ён зразумее, спасцігне ўсё, што ён даўно і шчыра хоча служыць толькі праўдзе працоўных!..

На хвалях гэтай радасці і сораму, у абарону радасці, усплыў у памяці звычайны, у клетачку, лісток са сшытка — копія сельсавецкай даведкі... Арыгінал яе ўжо тут. Даўно. Для кагосьці такое, магчыма, ну, проста права на ўезд. А колькі ж гэта для таго, хто хоча быць сваім, патрэбным у родным, агромністым свеце!..

Прадстаўнік таго роднага свету, таварыш Зяблікаў, больш слухае, чым гаворыць.

Перш за ўсё ён прыняў ад Алеся пачку новых анкет і дэкларацый, і яны пакуль што ляжаць паміж імі, на зялёніне сукна, акуратна — Алесевай рукой — падзеленыя сашчэпкамі: на кожнага чалавека асобна.

Цяпер Алесь расказвае. Хвалюецца, спяшаецца, баіцца нават, што не паспее ўсяго расказаць. Голад,

холад, здзекі, туга, штрафкампані, уцёкі, паднявольная праца і прымусовая «воля» — усё, з чаго складаецца палон, чым жылося тут, чым жывецца... Ён дарваўся, нарэшце, ён дачакаўся, што ёсць каму слухаць суровую аповесць іх маладосці, што ёсць каму паскардзіцца і пахваліцца, што ёсць перад кім праверыць: добра ці не мы зрабілі, таварыш?.. Бо мы ж хацелі, каб добра, найлепш!..

Ён нібыта забыўся, што ўсё гэта цэлыя паўгода таму назад, можа, нават на гэтым самым месцы седзячы, тое самае і гэтаму ж чалавеку расказваў Мазалёк.

Таварыш Зяблікаў слухае з сур'ёзнасцю, з усмешкай разумення і спагады, зрэдку толькі перапыняючы госця пытаннем ці рэплікай. І ўсё гэта — вельмі спакойна, быццам ведаючы ўсё сам, нават і да прыезду Андрэя.

Скажам, праслухаўшы Алесеў расказ пра Бязменаву хеўру, ён усміхнуўся і мякка сказаў:

— Дробныя тыпы. І тыя, што ў вас, і ў іншых шталагах, і тут, у Берліне. От сабе, проста авантурысты. І вам, таварыш Руневіч, вядома, не горш, як мне, што ўсе гэтыя астроўскія, акінчыцы і пешкі яшчэ меншыя, скажам, той жа ваш Самацэвіч ці Карнач,— з беларускім народам не маюць нічога агульнага. І вам...

Слухаў Алесь уважліва і радасна, як канчаткова выверaную праўду, з якой яму вельмі прыемна было параўноўваць свае, іхнія думкі і вывады.

А за спакойнымі, угрунтаванымі на вялікай аснове словамі далёка і родна чулася музыка даўняй, прыгожай дружбы. Яна гучала словамі з пісьмаў, з многіх Толевых пісьмаў — розныя словы, ды пра адно:

«...Я так сумую па табе, нам так тут цябе не хапае — і маме, і нам з Аняй, і ўсім. Хлопцы, дзяўчаты чакаюць цябе. Колькі б мы тут зрабілі для людзей, колькі ты зробіш, вярнуўшыся, як расцвіце ваш талент, твой і Крушынаў (прывітанне яму, Сяргею, сардэчнае!), калі вы будзеце, нарэшце, тут — у вольнай і многагалосай сям'і нашай савецкай Радзімы!..»

За такія пісьмы цэнзар Карнач назваў калісьці Толю «актывісцікам». Той нікчэмны фашысцкі падбрэхіч, што разам з іншымі такімі хоча тут штосьці змайстраваць, нейкую «беларускую эміграцыю»... А тая, на думку цэнзара, дурнота, тая крамола паўта-

ралася ў Толевых пісьмах у розным выказванні, але аднолькава шчыра, разумна і весела.

«Цяпер дык я ўжо ведаю, таварыш дыпламат, чаму ты здаўся мне такім падобным да яго»,— з цёплай, не вельмі глыбока схаванай усмешкай думаў Алесь, гледзячы на чалавека, так нядаўна і так даўно, здаецца, убачанага ўпершыню.

І, нібы падбадзёраны гэтым — і выпадковым, і знамянальным — падабенствам, ён папрасіў:

— А можа, мы, калі ласка, праверылі б нашы анкеты: ну, Крушыны, маю, Мазаля, Марціновіча, Печкі... Я вам скажу і іншых некалькі чалавек. Хлопцы... таварышы прасілі, каб я спытаўся, паглядзеў: ну, можа, што не дайшло...

— Што ж, гэта можна,— усміхнуўся гаспадар, устаючы.— Давайце пройдзем у гэты пакой. Прашу,— адчыніў ён белыя дзверы.

Каля сцяны ў суседнім, таксама пустым, пакоі — нізкі і доўгі стэлаж. Дык тут яны, аказваецца, іхнія анкеты! Па адной з тых кожных трох, што запаўняліся на працягу зімы і вясны.

«Як іх многа,— падумаў Алесь,— на цэлую армію нашай палоннай братвы. Эх, таварыш! Табе і няўцям, колькі іх тут запоўнена адным почыркам...»

— Ну вось, напрыклад, ваша,— спакойна і прыязна гаварыў тым часам Зяблікаў.— Глядзім на літару «Р». Тут яна, ёсць. Руневіч Аляксандр Мікалаевіч. Значыцца, ваша справа накіравана ў Маскву трынаццатага лютага. Для палонных, як вам вядома, тэрмін афармлення грамадзянства скарочаны з васьмі месяцаў да шасці. Такім чынам, таварыш Руневіч...

Над стэлажом, над постаццю чалавека, які гаварыў, у вочы якому глядзеў палонны ў чужым касцюме,— вісеў партрэт. Другі.

Зірнуўшы на яго, Алесь пазнаў. І адчуў сябе, як і пад Леніным, радасна і няёмка. Больш — няёмка. Нават — пасля — да холаду сцішнавата...

«Сталін — наш бацька», «Сталін — яснае сонца»... Гэта ён чуў даўно. Па радыё з Мінска, ад знаёмых падпольшчыкаў.

Пра сілу Сталіна гавораць з прызнаннем і ворагі.

Дома ён чуў гэтае з газет, прычым — не толькі з левых. Гаворадь пра яго і тут, у палоне. Скажам — той лысы сержант, адзін з заядлых лагерных палітыкаў, які ўсё ж лічыць, што «ключык ад усяго трымае ў сваёй кішэні пан Сталін». Або тыя французы на пошце, паночкі з люлькамі, што, прастарэкуючы над вішыйскімі газетамі, часта і без іроніі згадвалі імя «масье Сталі́н»...

Немцы маўчалі пра Сталіна, праводзячы сваю, з першага дня палону прыкметную Алесю стрыманасць. Што ж, дагавор не нападаць. (Не вельмі, зрэшты, зразумелы дагавор. Нават Крушына — падкаваны, вопытны — уздыхнуў аднойчы: «Не разумею, госпадзі, але веру, што трэба»). Стрыманасць, нібы нават прыязнасць, а за слуханне савецкага радыё — смерць...

Іншыя словы пра Сталіна — «дэспат», «тыран» — дома Алесь чуў не толькі ад ворагаў.

Гадоў з чатыры пасля таго, як пайшоў у СССР адзіны пасынкаўскі камуніст, Цімох («Бяжы, браток, ды падтрэсайся!..»), адтуль прыйшло неяк пісьмо на імя яго маці. Не падпісана, без зваротнага адраса, аднак усім, хто слухаў яго, сваякам і суседзям, ясна было, што гэта піша Міхаль, старэйшы сын сляпое цёткі Ганулі, савецкі рабочы, які застаўся ў Маскве з грамадзянскай вайны. Без лішніх намёкаў паведамляючы, што Цімоха забралі як польскага шпіёна і ворага народа, Міхаль пісаў: «Не першы ён і не апошні, дарагі наш брат і ваш, мамаша, сын Цімафей. У нас тут робіцца такое...» Больш — нічога. І пісьмаў больш ад Міхаля таксама не было.

«А колькі паплакала наша старая,— думаў Алесь,— па Сяргею. Няўжо і ён таксама «польскі шпіён», «вораг народа»? Той Сярожа, што не захацеў ехаць з намі ў «буржуйскую Польшчу», што разгружаў вагоны, пілаваў дровы па дварах, але вучыўся, каб стаць савецкім інжынерам, пісаў нам такія харошыя пісьмы, так хваліўся савецкім жыццём?..

Сталін... Як гэты вобраз прымераць да самага высокага, да самага прыгожага — да чалавечнасці?.. Ну, няхай сабе, скажам, з Цімохам — выпадак, няхай за Сяргея мне крыўдна як брату, па-сямейнаму. Няхай сабе і я — яшчэ ўсё «хісткі элемент»... Але ж і нехісткія людзі, беззапаветна адданыя рэвалюцыі, думаюць

часта таксама. Хоць і гавораць вельмі асцярожна...»

Так, на гэтую тэму — пра трыццаць сёмы год, пра сталінскі дэспатызм — яны, перадавая вясковая моладзь, спрачаліся між сабой і нават з Паўлам Сурагам, найбольш аўтарытэтным для іх камуністам, змагаром і пакутнікам. І ён адстойваў Сталіна, гаварыў, што так трэба, што арышты, рэпрэсіі — гэта змаганне з контррэвалюцыяй. «Сталін ведае, што ён робіць, і ясна — партыя і народ любяць свайго правадыра. І вы паменш прыслухоўвайцеся да варожай брахні...» Але аднойчы, з Алесем і Косцем Вярбіцкім утрох, нават і Павел, да горкага суму разладжаны новымі весткамі з СССР, сказаў свае слова — скупое, намёкам. «І што ён, бацька, там вырабляе?..»

Потым Павел пайшоў «за кардон». І прапаў. Толя піша намёкам: няма, не чуваць... Як жа ён адчуваў сябе на допытах, у судзе, у турме, а можа і перад расстрэлам?.. Там, куды ён імкнуўся ўсім сэрцам і дзе яго сустрэлі — Паўла! — як ворага?..

«Як зразумець усё гэта? Як спалучыць з цудоўным вобразам Радзімы?.. Вось жа і Толя мой, шчыры і не дурны, піша пра шчасце быць там. Не проста *дома*, а іменна там — «на цудоўнай савецкай Радзіме»... І я ж хачу толькі туды... І мне вось радасна цяпер, што я ўжо блізка да шчасця — да волі, мне вось і брыдка, да горычы брыдка, нават страшна, што ў думках я не такі... ну, не зусім такі, хто там трэба...»

— ...Трынаццатага лютага — шэсць месяцаў — трынаццатага жніўня. Ваш тэрмін,— гаварыў тым часам Зяблікаў.— І будзеце дома, на радзіме. Цяпер, як вы сказалі,— Крушынін?

— Крушына. Ды вы глядзіце, калі ласка, Караневіч. Крушына — псеўданім.

— Ах, памятаю. Ён жа, здаецца, паэт.

(Так мякка і сказаў — паэт).

Сяргей, Печка, Трайны...— усе анкеты былі тут. І ўсё гэта, такое натуральнае, успрымалася Алесем як нейкая, ледзь не цудоўная, нечаканасць.

Дайшоўшы да Мазалька, Зяблікаў усміхнуўся яго фотаздымку ў анкеце.

— Стары знаёмы. Устрывожаны, спалоханы такі

прыйшоў, і так усцешыўся пасля... Ну, а яшчэ каго паглядзім?

«Ну, пэўна ж, пра таго спытаюся, што загубіўся недзе, што быў на думцы, як толькі я выбіраўся сюды, як толькі заходзіў у гэты пакой...»

І вось таварыш Зяблікаў перабірае анкеты на літару «Б».

— ...Богуш, Брычка, Бунчук, Бучаль, Буян, Быліна... Бутрыма, бачыце, няма.

Трывога чакання праходзіць. Прайшла... І ён, Уладзік, пайшоў кудысьці зноў, дзе быў да іх сустрэчы летась, перад уцёкамі. «Як надоўга, Бутрыме? І як жа ты, таўкач, не здагадаешся з грамадзянствам? Няўжо ажно ў такую глухамань загналі?..» Прыйшла трывога. Іншая... «Мо ці жывы ты ўжо? Пасля запалення — на бульбу... О не, не трэба гэтак, па-бабску!.. Жывы ты, дружа! Хіба мо ліха пагнала ўцякаць?..»

— Словам, таварыш Руневіч, праз пару месяцаў мы з вамі можам тут зноў пабачыцца. Калі што не перашкодзіць.

Гаспадар гаворыць гэта па-свойму спакойна, мякка, і вочы яго глядзяць на госця з адкрытай прыязнасцю. Ды словы яго, апошнія, пра перашкоду, здаюцца Алесю нейкім інтымным намёкам на штосьці вельмі значнае...

— Каб нас дахаты,— кажа ён,— ды нашых хлопцаў у Чырвоную Армію. Мы б іх, фашыстаў, зубамі, здаецца, грызлі...

Зяблікаў паглядзеў на Руневіча як не тымі вачыма, падумаў штосьці і, неяк загадкава, адчужана ўсміхнуўшыся, сказаў:

— А, вось вы пра што!..

«Ну і добра,— з няёмкасцю, злосна падумаў Алесь.— Можа, я, скажам, ляпнуў што не так... Дык я ж гавару не толькі за сябе. А ты, таварыш дыпламат, чаго так далікатна стрыманы? Нават даеш адчуць тую сцяну, за якой наша воля, наш ратунак. Што — толькі дагавор, ці, можа, я табе яшчэ чужы?..»

— Вы хацелі б яшчэ пра каго-небудзь спытаць, яшчэ пра што-небудзь даведацца?

У гэтых, па-ранейшаму прыязных, роўных словах госцю адразу пачуўся лёгенькі намёк гаспадара на «позні час». І тут Алесь схамянуўся, да болю брыдка

адчуў сябе, раптам успомніўшы пра чалавека, таварыша, у чыім ён касцюме стаяў...

«Ах, дурань я, свіння!.. Яны, анкеты, засталіся на тым зялёным сукне, і разам з імі і памяць мая засталася.

А думаў жа, што з гэтага і пачну!..»

— З адным нашым сябрам... Можа, пяройдзем у той пакой, калі ласка, я вам яго анкету пакажу?

І там ужо, трымаючы патрэбны дакумент перад грудзьмі:

— Тут вось напісана: Іван Іванавіч Непарэцкі. А гэта няправільна. Ён яўрэй, называецца Янкель, а бацька яго Давід, Довід-Ічэ. Даведкі з дому таварыш не можа прасіць, растлумачыць хатнім, што і як, таксама нельга. Хопіць, што мы, яшчэ на лагернай пошце, самі зрабіўшы «Гепрыфт», перадалі яго бацькам, што Янкель жывы. Я вам расказваў, як гэта ў нас рабілася. А сам Непарэцкі так і сядзіць без вестак з дому, без надзеі на тое, што вернецца. Дык, можа, вы, таварыш Зяблікаў, зоймецеся гэтай справай, паможаце? Такі харошы хлопец, свой...

Спакойны, ветлівы бландзін узяў з пісьмовага прыбора аловак, папрасіў у Алеся анкету, якую той трымаў яшчэ ўсё аберуч:

— Як, вы сказалі, яго сапраўдныя дадзеныя?

Ён запісаў на краечку анкеты і першы раз сышоў з дыпламатычна-карэктнага тону, сказаўшы задумана, з прыціскам:

— Так. Фашызм...

За дзвярыма ў яшчэ адзін пакой, які здаваўся дагэтуль таксама пустым, пачуўся раптам па-юначы байкі і трохі какетлівы голас:

— Раечка, ты за меня не подежурила бы завтра, а? Я — навеки твой должник, дорогая.

— И хитер же ты, Вовочка! — яшчэ больш молада і какетліва працягнуў дзявочы голас.— Вроде бы у самой меня завтра не выходной!..

— Ну что же, милая, данке шён.

Спачатку Алесю проста прыемна было пачуць яшчэ два галасы адтуль, пасля, у наступны момант, яго здзівіла ніколі, здаецца, не чутае слова «выходной», а ў «shön» ён весела, з пачуццём перавагі адзначыў няправільнае вымаўленне.

І тады ўжо, нарэшце, успомніў падвязанага: «У нас сёння непрыёмны дзень...»

І зразумеў: пара развітвацца.

### 3

«Адэкалон — не раскоша, а гігіена».

З плаката ў раённай цырульні гэтая ісціна трапіла да Алеся праз Толева пісьмо. Так сабе, проста дарэчы прыйшлася, каб выказаць штосьці ямчэй. І тут прыдалася таксама.

Зноў седзячы ў купэ хуткага цягніка, праз акно назіраючы гэтую хуткасць па сілуэтах і агеньчыках, што імчацца насустрач, Алесь з усмешкай успомніў пра той «адэкалон». І гэтае купэ, і Schnellzug[1] — не раскоша, а канспірацыя, як і чорны цывільны касцюм, і партфель, і часопісы ды газеты, якімі ён важна забаўляўся завідна. Так было калектыўна абдумана, такі быў Андрэеў дарожны вопыт, так яны і смяяліся ўчора, калі хлопцы выпраўлялі яго, не праводзячы, на вакзал, калі ён упершыню сказаў ім той цырульніцкі афарызм.

Акно ў купэ не завешана, святло не ўключана. Суседзі ціхія — фатэр, мутэр і пажылая тохтэр — маўчаць. Маўчы ды думай і ты...

Зяблікаў быў, вядома, зусім не супроць таго, што госць ягоны, добра такі адвёўшы душу размовай, адчуў, нарэшце, і меру.

А ўсё ж які ён свой, добры хлопец!..

— Да цягніка вам, таварыш Руневіч, цэлая процьма часу. Вы не хадзіце так сабе, абы-дзе, а зрабіце вось што. Зусім блізка тут — адразу направа, а потым першы паварот налева — славуты берлінскі заапарк. Там ёсць што паглядзець. Купіце сабе білет... Дарэчы, грошы ў вас ёсць? Ну і выдатна. Купіце таксама план і з божай помаччу хадзіце сабе там да сваіх «дваццаць трыццаць». Наўрад ці вамі хто зацікавіцца. Там, у буфеце, зможаце перакусіць. Усяго найлепшага!..

---

[1] Хуткі цягнік.

Нястомна, з дзіцячай цікаўнасцю ходзячы ад вальеры да вальеры, ад сажалкі да сажалкі, стомлена седзячы ў густой духмянай засені, Алесь і там — праз пачуццё нязбыўнай сёння трывогі — успамінаў і нейкай хлапечай радасцю ў душы: «Адэкалон — не раскоша, а гігіена...» А ўсё ж таксама і раскоша, чорт вазьмі!.. Так вось табе — нечакана, звышпланава, мімаходзь паглядзець такое цудоўнае царства прыроды. Упершыню ў жыцці. На востраве, абкружаным вадой, зусім па-кашэчы плюшчаць вочы — не хто небудзь іншы — львы. На зарослай лілеямі, зацягнутай раскаю водмелі стаяць ружовыя, лірычна маўклівыя фламінга. Валлякаватыя пеліканы рохкаюць са свінячай пацешнасцю. Нікуды не ляціць, нібы прывязаны нейкай прысягай, звычайны, нават падношаны бусел. Вялы, сыта-блішчасты бегемот агромністай загадкаю ляжыць у басейне, службова ці для пацехі гледачу выставіўшы з вады маленькія, як адмарожаныя, вушы. Невядома, навошта такія прыгожыя, так багата прыбраныя паўліны час ад часу вельмі дзіўна крычаць, задраўшы раскрытыя дзюбы — у нейкім салодкім адчаі...

Ну, а Берлін пабачыць — гэта што? Хоць і бачыў ты яго калі не праз вагоннае акно, дык толькі вакзал, метро, тры вуліцы і заапарк. А ўсё ж!..

Вядома, куды лепш было б таксама і цяпер — не ў ноч глядзець, а праз акно любавацца светам пры сонцы...

Узрушанасць дня, як ніколі яшчэ незвычайнага, да гэтага часу амаль зусім сунялася. Засталася толькі насцярожанасць, трывога,— каб не зайшоў той нехта, што спытаецца: «Адкуль? Хто дазволіў? Што вязеш?..» Засталася расчуленасць, ціхая, трошкі як быццам хмельная радасць успамінаў, выразных да самай найменшай драбніцы.

*Адтуль* яна, гэтая радасць — з таго аазіса, з таго роднага дома, у якім ён прабыў гадзіну і сорак мінут — цэлую вечнасць, адзін толькі момант...

«Радасць? Толькі яна?.. А дзе ж твая злосць на таго самага Зяблікава — і «добрага», і «свайго»?

А можа, і сапраўды яму няшчырым здалося тое маё: «Мы б іх, фашыстаў, зубамі, здаецца, грызлі?» Глядзі, які ты ўжо зубаты стаў! А дзе твае думкі перад партрэтам? А белая салдацкая ануча дзе? А дзе тваё

пакутлівае нежаданне быць «простым механізмам» смерці?..

Злуеш на асцярожную, «чужую» ўсмешку дыпламата... А можа табе проста прыкра, што Зяблікаў знешне вельмі падобны да Толі і ўсмешкай сваёй напомніў Толеву — тую, з пісьма?..»

Зімой, працуючы на лагернай пошце, Алесь паслаў яму «пад уласнай цэнзурай» адзін свой ваенны верш.

«У вершы,— пісаў потым Толя,— нейкі налёт пасіўнасці, сентыментальнасці. Я перажыў на фронце не менш за цябе і маю права на заўвагі. Да таго ж яшчэ — семнаццаць месяцаў савецкага жыцця многае мне адкрылі, на што я глядзеў спачатку праз плёнку нявольніка (то польскага, то нямецкага), хоць і запэўніваў сябе ўсяляк, што я вольны, «як чалавек духу». Больш трэба мужнай актыўнасці, больш нянавісці да таго, што дастойна яе. У нас, браце, пішуць інакш...»

«А можа, я,— думаў Алесь,— такім чынам злую на самога сябе? На тое, што засталося ў мяне ад ранейшага?..

«Семнаццаць месяцаў савецкага жыцця...»

А я не быў там ані дня.

І Зяблікаў...»

— Was ist denn los, lieber Herr! [1] — перабіў яго думкі зусім нечаканы, зусім непатрэбны тут голас маўклівага фатэра.— Ды забаўляйце ж вы гутаркай фройляйн! Што гэта, малады чалавек?..

У голасе яго было і сытае, дабрадушнае прастарэкванне, была, смылела, аднак, і бацькоўская крыўда.

— Ах, фаці,— фыркнула дачка, нервова бліснула вачыма і хутка выйшла в купэ.

— Ну, бачыце? — спытаў стары.— А вінават, аказваецца, я! Ах, малады чалавек, малады чалавек!..

Рукі яго, сашчэпленыя кароткімі пальцамі на піўным жываце, затрэсліся ад ціхага смеху.

Алесь цвяроза адчуў сваю ролю, узяў сябе ў рукі, з усмешкай сказаў:

— Прабачце, я і сапраўды няветлівы. Ды мы гэта хутка паправім.

---

[1] Дык што ж гэта, мой мілы пане!

Устаўшы, каб ісці ў калідор, ён з прыемнасцю адчуў, што зроблена гэта зусім нядрэнна. Вось і фатэр рагоча, і мутэр ажыла, усміхаецца.

«Што ж, пачнём, калі так, unterhalten mit Fräulein [1]. Адэкалон, mein Lieber,— не раскоша, а гігіена».

...У лютэранскай вёсцы ў Памераніі, дзе Алесь працаваў першую зіму палону, дзеўка ў такіх гадах — а бачыў ён іх там чамусьці вельмі нямала — была б тоўстай, спакойна чакала б свайго, хоць бы нават уяўнага, «шаца», працавала б, не раўнуючы, як вол, на гаспадарцы, часцей за ўсё пры жанатым браце, грунтоўна ела б тушаную з салам бручку, перад святамі хадзіла б з такімі самымі хрыстовымі нявестамі прыбіраць, упрыгожваць кірху — і ўсё было б добра і ціха.

Гэтая ж фройляйн працавала ў Берліне манікюршай, ехала з бацькам на курорт ў Цюрынгію, была адзіная дачушка і цяпер, відаць, часта плакала на лёс, і ў самоце, і муштруючы гэтым бацькоў. А маладосць, галоўны шанс, праходзіла тым часам усё больш, не хочучы спыніцца, пачакаць, пакуль закончыцца вайна. Зрэшты, фройляйн была худая, плоская, недарэчна высокая, непрыгожая з твару, і какецтва яе, нягледзячы на вопыт і тэхніку, толькі падкрэслівала ўбоства.

«А мне дык што да гэтага?» — думаў Алесь, праганяючы гэтым здаровым пачуццём нейкую жаласць.

Яны стаялі побач перад апушчаным акном, глядзелі на зорнае неба, на сілуэтнае мільганне тэлеграфных слупоў і то маўчалі трошкі, то зноў гаварылі. Больш гаварыла яна, бо для яго гэтая справа была даволі-такі мазольнай работай. У рэдкія паўзы, калі яна пераводзіла дух, ён устаўляў, вельмі старанна ўзважыўшы іх, некалькі ўжо зусім неабходных слоў, і вельмі рад быў, што фройляйн зноў завялася. Спачатку какецтва яе праяўлялася і ў гэтай гуллівай, паказной шчабятлівасці, добрую палавіну якое ён не разумеў, і ў даволі настойлівым, смешна бездапаможным пабліскванні вачыма, а потым, калі калідор зусім апусцеў і аціх, яна нават кранулася плячом яго пляча, ды так і засталася, нават значна паменшыла шчабятню і ў паўзах пачала ўздыхаць...

«Даведаўся б ты цяпер, што я — не «гер Курт», не

---

[1] Забаўляць дзяўчыну.

«інжынер з Рэгенсбурга»,— як ты рванулася б ад мяне... А можа, не? Можа, табе ўжо і гэта было б не страшна? Як не страшна было б, не спалохала б цябе, відаць, каб я цяпер, згодна з сусветнай кавалерскай азбукай, палажыў табе руку на худыя, шырокія плечы, пасля прытуліўся скроняй да беднай, вымуштраванай буклі тваёй берлінскай прычоскі...»

Яна чакала зусім ужо ціха. А потым нават, перасмыкнуўшы плячыма пад белай кофтачкай, шапнула:

— Es ist aber kalt... [1]

Ды ён усё ж не прапанаваў ёй свайго пінжака. І пасля самай доўгай паўзы яна нарэшце ўздыхнула:

— Позна ўжо. Спакойнай ночы, гер Курт.

— Спакойнай ночы,—усцешна сказаў ён, з блазенскім смяшком у душы хрыстоснуўшы думкай: «Ідзі, дзіця маё, і больш не грашы!..»

А праз момант пачаў дакараць сябе:

«Ах, свяценькі які! Які высокамаральны, сапраўдны мужчына!.. А што, каб гэта была не яна, а іншая, скажам — Іржынка?..»

Ад раптоўнага ўспаміну, што хлынуў у яго душу гарачай, хмельнай радасцю, уявіўшы дзяўчыну і нават адчуўшы яе, Алесь ажно абапёрся аберуч на раму акна, высунуў твар на вецер.

Нябачныя, імклівыя, пякучыя крупінкі вугальнага пылу секанулі па вачах з усёй празаічнай, а то і варожай абыякавасцю. Вочы прыйшлося працерці хустачкай, больш галавы не высоўваць.

А вобраз слэчнай — быў [redacted] ім: [redacted] новай сілай яшчэ раз прыйшоў, як часта прыходзіў і ўдзень, і ноччу. З мілай, задорна-хвалюючай «бубікопф», з лёгкай, ледзь не празрыстай, і моцнай ды непрыступнай, як крэпасць, дзявоча-матылінай вопраткай. Крэпасць, якая магла б аднойчы і ўпасці, якая ўжо і падала ў яго распаленай марамі фантазіі. І вочы, што так глядзелі на яго. І разгублена, прагна, салодка раскрытыя вусны. І грудзі, што так хваляваліся... «Цуд мой, калі ты і праўда быў, дык чаму ж ты ўжо цэлую вечнасць не вяртаешся?!. А можа цябе не было? О, не!..»

---

[1] Аднак жа холадна...

Паслязаўтра — тыдзень з таго лянiва-сонечнага паўдня, калi яна прыйшла па iх, паднiмаць раяль.

— Зваліцца б яму зноў наніз, ды толькі не разбіцца,— смяяўся неяк Андрэй.— А то засохне хлопец, так і не ўцяміўшы, было ў яго ці не было. Эх, Алесь-Аляксандар! Замучыць цябе твая цырліх-манірліх... Хаця ты — чысты такі, свяценькі, а ўмееш першы лізнуць!..

— Пайшоў ты, ведаеш...— нібы сур'ёзна злуючы, а больш — здаволена, адмахваўся Алесь. Не злаваў на Андрэя за кепікі, бо за імі ўсё ж такі бачылася яму і рэўнасць. А грубасць... ды не! — адкрытая прастата сябравых слоў не толькі не злавала, не бянтэжыла яго, але ж прыемна казытала мужчынскае самалюбства.

— Прасцей глядзі на гэта, паэт,— больш сур'ёзна казаў Мазалёк.— Гэта ж, браце, чортведама як прыгожа, што вы тут, у гэтай няволі праклятай, пагрэліся б адно ля аднаго! З такой дзяўчынай!..

Нават і Сяргею, чорт, расказаў. І той, у вечар ад'езду, знайшоў-такі час, каб сам-насам сказаць:

— Чуў, што грашок за табою, юнача, завёўся.— Падміргнуў, закруціў галавою і засмяяўся: — Ёлкі кашлатыя! Годзе ужо, кажаш, удвух па адной Марыхен уздыхаць? Пасвойцы пачалі, па адным. Адбіліся, чэрці, ад рук, па цэлым тыдні не бачу... Ну, жарты, жарты, Алеська!

Іржынку за гэты тыдзень ні Алесь, ні Андрэй, ні хто-небудзь іншы з сяброў не бачылі, як не бачылі, зрэшты, ніколі раней. З рэальнасці, так цудоўна адчутай Алесем аднойчы, яна як быццам і сапраўды ператварылася ў мару, у нейкі захапляючы, але прыдуманы ўспамін.

«Няўжо адыдзе, расплывецца ў памяці, як тая Свіцязянка-Ніна, з яе таксама... ох, салодкім хараством?..»

Ну, а Марыхен,— каб яна тут была, каб яна тут стаяла побач, як тая, што недзе спіць, ці, можа, хліпае ў купэ?.. Ці ён абняў бы яе за дрыготкія мілыя плечыкі, ці пацалаваў бы, відаць, ушчэнт спалохаўшы гэтым беднае, вясковае, ад роднай хаты адарванае дзіця?.. Яна ж і так баіцца іх з Мазальком. Падасць каву і махіндрала, як кажа Андрэй. Што ж яе так напалохала?.. Ці, можа, гэта так сталасць прыходзіць,— стандартная, з «хайльгітлерам», як усё тут?..

«А спаць я так і не пайду. Хай яны самі храпуць у сваёй там купэйнай Gemütlichkeit[1]...»

## 4

Прыехаў Алесь на світанні.

Ішоў па ціхай, халаднавата чысценькай вуліцы, стараўся не грукаць, нават не шоргаць моцна туфлямі па плітах тратуара,— то з вясёлай, ужо апошняй трывогай і асцярожнасцю пераможцы, то як быццам стаіўшыся перад усходам сонца.

Хутка яно пакажацца за сасновым узгоркам, адвечнай радасцю зноў затрапечацца ў ягонай ласцы лістота на верхавінах дрэў, загарацца мансардныя і слухавыя вокны, залатымі абрусамі мякка, утульна, гасцінна засцелюцца ўсходнія скаты крутых, высокіх чарапічных дахаў.

«Ды гэта што! — весела думаў Руневіч.— Цяпер бы мне прачнуцца дома ў гумне, убачыць гэтую нядзельную зару праз шчыліны дзвярэй, пад шчэбет ластавак і цёплае, як з казкі, «кукарэку». Адчуць бы басаном казытліва-вогкі жвірок на сцежцы, абапал якое расу на траве хоць у збанок збірай, як буякі... Цяпер бы мне да смеху холадна апячы свае грудзі і плечы сцюдзёнай вадой каля студні, да чырвані нацерціся хрусткім, духмяным кужалем ручніка... А потым — потым да снедання ціхенька сесці каля акна, расчыненага ў мокры, расчырыканы вераб'ямі садок, і — пісаць!.. Пісаць, даўно забыўшыся і добра, радасна памятаючы, што ты і ўчора, і пазаўчора, і заўсёды цяжка працаваў на хлеб, на такую вось, поўную хвалявання, цішу...»

Ён усміхнуўся, успомніўшы, як калісьці, гадоў ужо ■ сем таму назад, жыў тыдзень у сястры, што ў той год аўдавела, памагаў ёй управіцца з малацьбой. Ахвотна і моцна стамляўся, але ж неяк увечары не вытрываў — прысеў да лямпы і стаў запісваць у блакноце верш, складзены ўдзень, пад гул малатарні. Ён захапіўся, чыркае — спакойны, што ў хаце нікога ня-

[1] Утульнасць.

ма,— а з печы за ім назіраюць хітрыя вочкі другакласніцы Валі, меншай Волеччынай сястры. Глядзела яна, глядзела і кажа, нарэшце, з такім гэта шчырым выразам недаўмення і перавагі:

— От дзе дуўны — сеў і піша!..

«І буду, буду пісаць,— зноў усміхнуўся Алесь.— Бо навошта ж я столькі пабачыў, адчуў, перадумаў?.. Бо недарма ў душы маёй жыве і ўсё крышталізуецца ўпэўненасць, што і нам, шматпакутнікам-беларусам, нароўні з усімі дадзена права жыць сапраўдным жыццём, што і нам, на нашай бясконца, дзіўна жывучай, па-народнаму невычэрпна багатай мове давядзецца сказаць чалавецтву наша вялікае, братняе слова!..»

Ён успомніў: «У нас, браце, пішуць інакш...» Ужо без крыўды ўспомніў, без горычы. І ўсміхнуўся: «Ну што ж, паглядзім. Абы мне толькі вырвацца туды, за высачэзную і непрыступную для ворагаў сцяну, у родную краіну волі, міру!..»

Сонца яшчэ не паказалася з-за саснова-зялёнага ўзгорка, калі Алесь, як і дамоўлена было, лёгенька пастукаў кіпцямі ў акно ціхага доміка на ўскраіне.

І, як дамоўлена было, яго чакалі — Крушына і Непарэцкі.

Асабліва, відаць, не спалася Янку. Разам з Сяргеем ён распытваў пра ўсё, а ва ўсім, вядома ж, найбольш пра сябе: што з ім будзе, як радзіма падасць яму руку.

І радасна расказваючы пра ўсё, Алесь — як горкі грэх перад дружбай — хаваў у душы той выпадак, што ён толькі ў канцы размовы з Зяблікавым успомніў пра Янкаву бяду.

— Цяпер лажыся, хлопча, і паспі,— сказаў Крушына.— Вось табе маё ложа. А мы сабе пойдзем у сад. Пакурым, Янычка, пабалакаем...

«Са сваімі і ў людзях — як дома...»

Гэтае адчуванне прыйшло тады, калі гарачая шчака прыпала да ўжо астылай ля расчыненага акна падушкі, калі вочы, што столькі пабачылі, самі шчасліва закрыліся.

Адны толькі гукі чуюцца адтуль, адкуль ідзе духмянасць роснай раніцы,— смачнае, сытае, інтэрнацыянальнае цвірканне баварскіх вераб'ёў.

Адна толькі ўсмешка — на развітанне: «Адэкалон — не раскоша, а гігіена». Бо раскоша — такі вось, тройчы заслужаны, сон...

Абуджэнне прыйшло вельмі хутка.

Калі ён ачнуўся настолькі, што пазнаў над сабою Сяргееў твар, пачуў яго голас,— да свядомасці не адразу дайшло, не адразу здалося сур'ёзным, рэальным:

— Алеська, голубе,— вайна! Масква нарэшце ўдарыла!!.

## РОДНАЕ ГОРА

### 1

Позним ліпеньскім вечарам Эрна Грап сядзела ў сваім убогім пакойчыку каля адчыненага акна і без агню чакала новага палюбоўніка.

Густаў, брат яе, працуе гэты тыдзень у начной змене і прыйдзе толькі пад раніцу.

«Рускія» ў суседнім пакоі — акно іх побач і таксама адчынена — нядаўна вярнуліся з работы, і малы Андрэас ціха грае на гітары. Ён гаворыць штосьці, яшчэ раз паўтарае тое самае, і гэта, відаць, азначае паіхняму, каб вялікі Алекс спяваў. Бо вось ён ціха заспяваў пад гітару, таксама прыгожа і чамусьці сумна...

Дзіўныя хлопцы! Маладыя, вясёлыя, а да Эрны не ідуць... Дый зусім, відаць, не ідуць да дзевак, хто іх ведае. Спачатку яна толькі пасміхалася ім ды падміргвала, потым пачала і намякаць. Пасля таго як яны пакінулі піць каву ў гэтага чорта, Грубэра, яна прапанавала ім варыць сама. Шмат салодзіць і беліць. Сама ўзялася мыць ім бялізну, і вось мые і гладзіць. А яны — як манахі!.. Ці, можа, вельмі баяцца?

Хто не баіцца?..

Зімою да яе хадзіў адзін, таксама іхні, ды ўжо зусім не палонны, а нейкі начальнік у шталагу, Коля Карнач. О, Коля гут! Ён па-нямецку гаворыць, як немец, ён добра плаціў. I ён казаў, што з ім не трэба баяцца, бо ён таксама арыец і нацы.

Ды з немцам усё ж такі лепш, спакайней.

Вось і цяпер прыйдзе свой, салдат Ганс Вайцэнброт, з якім яна пазнаёмілася ў нядзелю каля піўной. Стары ўжо хруль, але хлеба, казаў, прынясе і да хлеба штонебудзь.

З мясам яна тым часам уладзілася вельмі добра, а хлеба ўсё малавата. Густаў, дурніца гэты, прыносіць толькі па дванаццаць марак кожнай пятніцы — што застаецца ад аліментаў яго прыгажуні,— а хлеба трубіць шмат, і з сабой жа бярэ таксама. Фрыцэ таксама ўжо не малы, і жарэ, і крадзе яшчэ, як ты яго ні бі. Дурны, падла, па бацьку.

Той фрэхер [1] зрабіў ёй Фрыцэ і некуды ўцёк. Шчасце яго, што гэта было яшчэ пры Гіндэнбургу, а то б яго фюрэр злавіў і прымусіў плаціць, як Ёгана за Гельду. Ёган не піша ёй цяпер нічога, а тады, калі быў дома, таксама цураўся. Грошы на Гельду прысылаў ёй спачатку бухгалтар пільні, дзе Ёган працаваў, а цяпер яны ідуць з 3679-га нумара палявой пошты. Колькі тых грошай!.. Аднак жа Ёгана, а не Горста, Фрыцавага бацьку, Эрна лічыць сваім мужам... Бо яна ж і шкадуе толькі Гельду, і зусім яе не б'е, і ўсім сваім палюбоўнікам кажа, што сама яна, Эрна, замужам, што муж — таксама на вайне. Бо гэта неяк лепш, зручней.

«Ага, Тшарэнь! Вось дзе добра пашанцавала! Нават, здаецца, і не страшна...»

Яна тады мыла ў пральні, а ён пакруціўся спачатку перад дзвярыма, а потым такі зайшоў. Яна сказала, чаму ён заўсёды толькі працуе, то на бойні, то ў ледніку — няўжо гэта, па-ягонаму, не зашмат? Ён сяк-так адказаў, што за гэта ж яго і кормяць. Спыталася, ці жанаты, а ён сказаў, што даўно і што дзеці таксама ёсць.

— Твая фрау там цяпер гуляе з нямецкімі салдатамі.

— Хай гуляе, і мне яшчэ застанецца. Я тут гуляю з нямецкімі дзеўкамі.

— Як ты гуляеш! Ты чапаешся з Грубэравымі прадаўшчыцамі, а яны яшчэ козы. Табе трэба не тое, ты мужчына.

Тады ўжо ён асмеліўся:

---

[1] Нягоднік.

— Я прыйду сёння да цябе.

— Чаму ж, прыходзь. Толькі мяса прынось.

Тшарэнь спачатку не хацеў, аднекваўся, а ўвечар прыходзіў, вядома, і свініны прынёс, і быў зусім мілы, як немец. І ўжо тры разы заходзіў, таксама за мяса. Толькі тады, калі гэтых вось, што спяваюць ціхенька, дома няма або спяць яны,— баіцца, кажа, што будуць пакепліваць.

Каб столькі адно таго страху было!..

З двара, на ўсходах наверх, пачуліся цяжкія крокі.

«Ганс!..» — падумала Эрна. Устала, зачыніла акно, апусціла паперу зацямнення, яшчэ раз штурханула Фрыцэ: «Спі, бо заб'ю!» — і асцярожна пайшла да дзвярэй.

Цяжкія крокі загрукалі наверсе, на пляцоўцы. Аднак мінулі яе дзверы... Нешта жалезнае стукнула па ўмывальніку, і зусім, здаецца, не Гансаў голас вылаяўся:

— Oh, Sakarment!..

Хто ж гэта?

Пастукаў да палонных. І пайшоў туды.

Што за ліха?

Эрна ціхенька адчыніла дзверы і выйшла ў калідор. Ключ у дзвярах «рускіх» тырчаў, як заўсёды, звонку. Затаіўшы дух, асцярожненька выняла ключ, заглянула.

Ага, гэта — бацька Марыхен. Таксама салдат. Той дзівак, што прасіў днямі Грубэра пільнаваць Марыхен, каб салдаты не сапсавалі яе.

Ён стаяў пасярод пакоя і голасна гаварыў:

— Грай, камэрад, вясёлае. Вось што грай... Як яго? Я памятаю: у вас пабяруцца за рукі, хлопцы з дзяўчатамі, і пяюць: «Та-ра-ра́, та-ра-ра-ра́!..» Гэтак во, гэтак!

Высокі Алекс сказаў нешта малому Андрэасу, той зачыніў акно і зайграў вясёлае.

— Так, «кар-робатшка», так! — амаль крычаў салдат.— О-о, я ведаю Руслянд, камэрадэн, я ведаю! Тры гады ў палоне. Крэментшуг, В'ятка — добрыя людзі! Іммэр шшы унд каша, шшы унд каша. Але я вельмі хутка прывык. Шшы унд каша таксама зээр гут. І водка шмат. Зашмат. Іграць і спяваць гэтак во, прысядаючы. Добрыя людзі!.. У Крэментшуг я працаваў у Пэ-

тэр Іванавітш, інс пэкарня. О сакармэнт! Гэта былі нядрэнныя гады майго жыцця. Ох, так!.. Фэртыг «каробатшка»? Ну, дык і грай вось гэта: «Во-ку, во-куз-ніца!..» Не ведаеш? Ну і пакінь. Кузнец — па-нашаму шмідт. А я — Ота Шмітке, амаль тое самае. Ота Шмітке, гэфрайтэр 306-га запаснога пяхотнага палка. А дома — армэр, думэр тойфэль, па-вашаму — петны, глюпы тшорт! Зборшчык малака, начны вартаўнік і вось такі маленькі баўэр у нашай вялікай вёсцы Рэгенвальдэ. Двое коней, сем моргенаў зямлі — і луг, і поле — і поўная хата дзяцей. Прыгожыя, слаўныя дзеці! Мая старэйшая, Марыхен, тут, у Грубэра. Вы ведаеце Марыхен?

Ён прысеў на крэсле перад вялікім Алексам і, дзіўна гледзячы на яго, пачаў цішэй:

— Камэрадэн, я вас прашу: не чапайце маю дзяўчынку! Я вас ведаю, рускіх. Рускі — гут, але рускі таксама бывае пляць. Бальшой пляць mit Weib und Mädel [1], ох, так!..

— Ды што вы, гер Шмітке,— пачаў Алекс.— Не бойцеся, мы разумеем вас...

І яшчэ гаварыў.

А малы са сваёю гітарай маўчыць, усміхаецца.

Потым зноў пачаў Шмітке:

— Я быў сёння там, камэрадэн, у Грубэра. Я прасіў яго, тоўстага ройбара, зноў. Казаў яму: няхай лепш Марыхен болей працуе, але ноччу нідзе не валочыцца. І ён мне абяцаў. О, я ведаю: ён рад быў бы, каб яна працавала ўсе дваццаць чатыры гадзіны. Праклятыя сабакі!..

Эрна раз-поразу падцягала ў рот сліну і глядзела, не адводзячы вачэй.

«Дурань стары! Майн гот, якіх яшчэ дурняў на свеце няма? І што ён думае, нарэшце, са сваёй Марыхен? От нахлябтаўся! Цсс...»

— Я, камэрадэн, хутка на фронт. Загаду яшчэ няма, ды мы ўжо самі чуем па духу, старыя салдаты. Ох, так!.. Але я не дурны, камэрадэн. Я ўжо раз ваяваў. Я ўжо раз зарабіў. І я ведаю рускіх. Я ў першы ж дзень — рукі ў гару і туды. Дэзерцір? Напляваць! Золата, золата ўсё, камэрадэн!.. А мы... ну, так, я — ру-

[1] З жанчынай і дзеўкай.

скага, а ён — мяне... За што? Гітлер нам абяцае кожнаму аўтамабіль. Мой сын, мой Вальтар — салдат. Я таксама салдат. Два Шмітке — два аўтамабілі. Ха, ха, ха! І трэба будзе два гаражы... О сакармэнт!.. Spiel, Zigeuner, und weine! [1] Нашы вашых далёка загналі. І я вось плачу. Ад радасці?.. Я буду рад, камэрадэн, калі мы з Вальтарам хоць ракам, але вернемся дахаты, калі я зноў убачу сваю сям'ю, сваю хату, свае коні, званочкі... Вы ведаеце мае званочкі? Такія во — раз, два, тры, і гэтак во імі — дзінь, дзінь, дзінь!.. І крычу на ўсю вёску... Ох, так! Па-іхняму, калісьці зноў будзе таксама: яны будуць загады пісаць, а я званіць званочкамі і крычаць на ўсё горла, склікаць: «Сёння сход у дзевятнаццаць гадзін! Аддавайце коней! Заўтра сход у васемнаццаць гадзін! Аддавайце кароў! Паслязаўтра сход... ну, яшчэ раней! Аддавайце грошы на «Goldenes Opfernbuch!» [2]. А вашы дзеці, бацькі, браты, музыкі — даўно ўжо там!.. Яны не вернуцца! Можа, і ўсе!..» Ох, так! Хто ведае, што лепш?.. Можа, мне не званочкі, а трэба «Wacht auf, Verdammte...» [3] спяваць? А я ведаю толькі адно: за ўсё на свеце нашы з вамі, камэрадэн, кроў і пот. Нашы!.. Бо мы з вамі — армэ, думэ тойфэльн — петны, глюпы тшорт!..

Паясніца ўжо забалела — так стаяць, але Эрна стаіць, толькі моўчкі падцягвае сліну.

«Чаму бо ён такі дурны, гэты Шмітке? Ён у гестапа захацеў? Сам галаву пад сякеру? Другія думаюць, але ж маўчаць...

О, той гаворыць, Алекс. Тое самае. Дык ён жа вораг, рускі. І малы памагае яму, смешна крывячы словы. А гэты, дурань п'яны, рукі ім ціснe, ляпае па плячы. О, сеў і зноў за сваё...»

— Усё як усё, камэрадэн. Усё як усё. Толькі я вас прашу: не чапайце Марыхен. Вы маладыя, я ведаю. Дык тут жа вось, побач жыве адна... старая хлюндра. На ваенны час добра. Ходзяць жа нашы салдаты...

— Пракляты п'яны сабака! — прасіпела сама сабе Эрна.— Што я зрабіла табе? Другая за гэта... О, Ганс ідзе!..

---

[1] Іграй, цыган, і плач!
[2] Залатая кніга ахвяраванняў.
[3] Устань, пракляццем...

Па ўсходах знізу пачуліся крокі.

Эрна прыкінулася, што не чуе, і з хітрай усмешкай на засліненым роце пачала цікаваць праз замок па-ранейшаму.

Ганс Вайцэнброт, казёл без рог і барады, ціха падкраўся і палапаў яе па шырокім, адстаўленым «загуменні».

— Ну, мілка,— шапнуў ён,— як маешся?

Эрна хіхікнула ў адказ на пяшчоту і, пагразіўшы госцю, каб маўчаў, паказала: цікні!..

Ганс нагнуўся і заглянуў у замочную шчыліну.

— А, Шмітке! — шапнуў ён.— І ён быў у цябе?

— Ды што ты?.. Паслухаў бы ты толькі, што ён вярзе!..

— І няхай сабе. Выпіў, відаць. Іх батальён, у нас гавораць, заўтра ці паслязаўтра на фронт. Ну, хадзем!..

За сцяной яшчэ ўсё гамоняць — Шмітке і «рускія».

Эрна ляжыць ад сцяны і ціха ў змроку скардзіцца:

— А я толькі, як дурніца, шкадую яго Марыхен. Што Грубэры душаць яе работай, што не пускаюць нікуды. Пракляты п'яны сабака!.. «Старая хлюндра...» З маімі трыццаццю трыма!.. Ты чуеш, Ганс?

Госць адказвае шэптам, задыхана.

— Дзе там!.. Ты яшчэ... Ты гавары, я слухаю...

Нехта маленькі прачнуўся ў другім кутку пакоя, заварушыўся там і застагнаў:

— М-му-ці!..

— О, сакармэнт! — зашапялявіла Эрна.

— Хто там?

— Гельда. Мая дачушка. Чацвёрты годзік. Трохі хворая...

— Хлеб я, вядома, прынёс. І мармелад таксама. Там на стале, у партфелі глядзі.

Эрна ўстала, вобмацкам знайшла на стале партфель, у ім — булку салдацкага хлеба і загорнуты ў хрусткую паперу згустак мармеладу. Моўчкі пачала рабіць малой бутэрброд.

Фрыцэ не спаў і ўсё чуў. Цяпер, калі салдат сказаў пра хлеб і мармелад, яму таксама захацелася есці. Калі ж Гельда ўзяла лустачку і пачала яе — ых пястунка! — плямкаць-жаваць, Фрыцэ не вытрымаў і,

прыпадняўшыся на локці, сказаў у той бок, дзе быў госць:

— Вы! А я знайшоў раз дзве тысячы марак. Вы!..

Так ён прасіў ужо не ўпершыню. Лічыў, што яго за такую знаходку пахваляць і ўзнагародзяць. Абавязкова.

Ды маці зноў, як і раней бывала, з ціхай, шапялявай лаянкай куксанула фрэхера, і ён нырнуў пад пярыну.

— Лгун пракляты!..

— Хто гэта зноў? — спытаўся Ганс.

— Мой хлопец, Фрыцэ. Дзевяць год,— адказала яна, пералазячы да сцяны.

— Тут у цябе прытулак, ці што?

— Ты звар'яцеў, чалавеча! Мой муж на фронце!..

Вайцэнброт ціхенька, хрыпла засмяяўся, шчасліва заплюшчыўшы вочы. Ён ужо ведаў ад салдатаў гэтую гісторыю з мужамі.

Эрна пакрыўджана маўчала.

Пачакаўшы трохі, госць пачухаўся, пазяхнуў працяжна: «Усё на свеце дзярмо-о!..», а потым палапаў гаспадыню па пышнай, халаднаватай мякаці і шэптам спытаўся:

— Ну, як было!..

— О, вядома!..

А тады, памаўчаўшы, з усёй пяшчотнасцю:

— Гансэ, мілы! Знайдзі ты мне, я прашу, маладога, хвацкага салдата.

— Бачыў яе! А Шмітке што пра цябе гаварыў?

— Дурань — не мне. Я хачу яго звесці з гэтай самай Марыхен. На злосць таму вар'яту. Другая на маім месцы не тое б яму зрабіла... Чуеш, яшчэ ўсё нешта там балбоча, п'яная свіння?..

— Так, тут трэба атлёта,— зашаптаў, падумаўшы, Ганс.— Дзяўчынка, мусіць з шыкам, неруш. Я, напрыклад, лепш іду да абвучанай. Праўда, каштуе трохі, але затое без клопату. А там трэба яшчэ пахадзіць, пагуляць у каханне. Трэба быць маладым... О, успомніў! Ёсць у мяне адзін. Вілі Зонтаг. Лётчык. Агонь!

— Гансэ, мілы...

— Ну добра, добра ўжо. Я пагляджу.

## 2

Дзіўна Алесю — і першага верасня ў трыццаць дзевятым, і дваццаць другога чэрвеня сёлета яго будзілі голасам незвычайнай трывогі:

«Вайна!..»

Першы раз — у польскай зямлянцы з юначым, бяздумна-вясёлым надпісам над дзвярыма: «Староннім уваход сурова забаронены».

Другі раз — у чыстым нямецкім пакойчыку з вішнёвай лістотай перад акном, з полюсна іншым, няпісаным заклікам у душы: «Сваіх вітаем вялікай радасцю!»

Першая раніца была пачаткам жахлівай, нялюдскай справы — вайны.

Другая здалася пачаткам доўгачаканага з усходу вызвалення.

Не толькі для іх, беларусаў...

Польскае, з вуснаў старога сержанта: «Ключык ад усяго трымае ў сваёй кішэні пан Сталін».

Югаслаўскае, ва ўздыханні палонных: «Ру́сія наша сладкая, чаму спіш?..»

Шэпт некаторых французаў, з якімі дружылі Алесь, Крушына, Трайны: «Прыйдзе дзень, і мы адчынім браму лагера, выйдзем адгэтуль з чырвоным сцягам».

Наіўная ўсмешка бельгійца Поля, у пілотцы з кутасікам на лбе, мілага юнака, што прыходзіў у беларускі барак з акардэонам і, на заканчэнне свайго асцярожнага канцэрта паміж нараў, яшчэ цішэй іграў «Інтэрнацыянал», а потым пытаўся з іскрамі ў вачах: «Ты ведаеш, чаму я гэта іграў?.. Ты ведаеш».

Чакалі ўсе.

Нават і тыя, хто не вельмі задумваўся, а што ж будзе далей, пасля таго чырвонага вызвалення.

А што ўжо казаць пра тых, каму ўсё на ўсходзе было хвалююча родным, выпеставаным сардэчнай тугой.

«Масква нарэшце ўдарыла!..»

Сцяна, пад якой амаль два гады дзіка шумелі і брудна пеніліся хвалі фашызму, хвалі яго затоенай, замаскіраванай нянавісці, магутная і непахісная сцяна не сцярпела больш, пачула стогны і просьбы ахвяр карычневага патопу і сама, усім сваім караючым цяжарам, абрынулася ў гэты бок.

Крушына, Непарэцкі, Мазалёк, які ўжо быў такса-ма тут, у доме фрау Хаземан,— сябры віншавалі раз-буджанага Руневіча, зноў віншавалі адзін аднаго, ціха, узахлёб смяяліся ад радасці. Вось як ідзе яно — іхняе вызваленне!..

І гэта было не наіўнасцю, не толькі жаданнем або ілюзіяй, міражом.

Калі яны, распаліўшы пліту, наўздзіў ашаломле-най гаспадыні, палілі анкетныя бланкі, якіх Алесь пры-вёз амаль поўны партфель, радыёпрыемнік — урачы-ста-ўзнёслым, нават устрывожаным голасам Гебель-са — перадаваў выступленне фюрэра:

— Meine deutsche Volksgenossen! National-sozialis-ten! Soldaten!..[1]

СССР меў на мэце ў патайным супрацоўніцтве з Англіяй скаваць нямецкія сілы на Усходзе... Апошняя нямецкая спроба прыйсці да згоды — летапіні прыезд Молатава ў Берлін — не ўдалася з-за непамерных са-вецкіх патрабаванняў. Саветы ўвесь час узмацнялі свае сілы на граніцы з Германіяй, у змове з Англіяй падбух-торвалі да бунту Югаславію... Апошнім часам рускія пачалі ўсё больш ды больш актыўна парушаць нямец-кую дзяржаўную граніцу... Яны вось-вось павінны былі абрынуцца на Дойчлянд неверагодна вялікімі сіламі... І таму ён, фюрэр, вырашыў зноў даверыць лёс і буду-чыню рэйха вермахту!..

Так зразумелі палонныя гэтае выступленне.

Зноў тое самае, агорклае за два гады: мы, немцы, не хацелі вайны, нам навязалі яе, на нас напалі, на нас хацелі напасці, але мы апярэдзілі. Бо з намі бог, як і напісана на спражках...

Старэнькая, больш як заўсёды забітая фрау Хазе-ман, стоячы ў парозе,— нібыта *ўжо* не гаспадыня ў до-ме,— плакала. І ў плачы яе, і ў словах была надзея, што яны, дагэтуль толькі палонныя, якіх яна — ці ж не праўда? — і шанавала і даглядала, як сваіх, не да-дуць яе *потым* у крыўду. І гэтае *потым* — вось-вось, не за дзень, дык за тыдзень. Гэта ж Руслянд, таямнічы і каласальны, чырвоны і грозны Руслянд!..

Яна была не адзіная, старая Хаземан, яна была для

---

[1] Мае нямецкія суайчыннікі! Нацыянал-сацыялісты! Сал-даты!..

нашых хлопцаў толькі першай з немцаў, якія — як здавалася, усе! — былі ахоплены ў тыя дні трывогай і страхам.

Некалькі першых дзён нямецкае радыё пра падзеі на Усходзе маўчала.

Былі толькі заклікі, маршы. І ні слова пра поспехі...

Рабочыя на «Дэтагу», кліенты заводскай «кантыны», прахожыя на вуліцы, пакупнікі і прадаўцы ў магазінах, куды заходзілі Алесь з Андрэем, жыхары Грубэравай камяніцы — усе немцы, з якімі хлопцы сутыкаліся,— або маўчалі панура, прыціснутыя грознай невядомасцю, або нават паддобрываліся да іх, нявольнікаў, прадстаўнікоў той сілы, якая там, на Усходзе, вырашае і вырашыць штосьці неверагодна, небывала страшнае...

Маўчаў нават плюгавы Вольф, шыракароты раскарака, слепа закаханы ў фюрэра. Маўчаў, глядзеў атарапела слязлівымі вочкамі і працаваў павальней...

Паддобрывалася да «энтлясанаў» нават сама багіня піва і яды — магутная, вусатая фрау Ірмгард. Аднойчы яна, не гнучыся ад сала, без лішняй асцярогі, моўчкі, толькі з усмешкай, паказала Руневічу і Мазальку маленькі, баявы кулак — «Рот фронт!».

У тыя дні яны, нявольнікі, хадзілі ў вялікай і асцярожнай радасці імяніннікаў.

— Хлопцы, трэба пакуль што маўчаць,— гаварыў Крушына.— Мы пакуль што ў іхніх руках, на нас у іх сілы хопіць. Вочы ў жменю і — асцярога!..

Жах на душы палонных абрынуўся нечакана.

Пасля некалькіх дзён маўчання, як аказалася раптам — толькі напальвання атмасферы, радыё грымнула страшным трыумфам:

«Усе атакі рускіх адбіты! Нямецкія войскі пайшлі ў наступленне!..»

У доказ — назвы захопленых гарадоў. Неверагодна! Брэст, Беласток, Мінск, Львоў, Каўнас...

У доказ — чорныя стрэлкі на картах, якія б'юць у вочы з кожнай сцяны, стрэлкі, што лезуць у сэрца ржавым жалезам — з кожным днём, з кожнай зводкай — глыбей ды глыбей...

У доказ — кадры кінахронікі.

«Свеце мой ясны! Гэта ж выходзіць так: калі чужога б'юць, далёкага, дык можна гаварыць пра *апера-*

*цыі;* калі ж на карце родныя назвы — за гэтым словам ужо не стратэгія, а чалавечая, родная кроў!.. Забойства пад рогат, песню і свіст...

Дагэтуль былі пазыўныя і заклікі, фанфары і песні, якія датычылі іншых. Ну, «Gegen England» ці «Gegen Frankreich» [1], ці іншыя «гэгэны» — песні і маршы, бяздарна, бесчалавечна крыклівыя.

Цяпер з'явіўся лямант «Гэгэн Руслянд»...

І я ўжо некалькі дзён не магу яго выкінуць з памяці, з ударанай утрапеннем душы.

Пад прымітыўны, як быццам Вольфам прыдуманы, маршавы свіст, з імглы на бель экрана выплывае драпежнік-арол, з вянком і свастыкай у кіпцюрах. А за арлом ідуць, мяняюцца карціны іхняй стратэгіі, нашай ганьбы і болю — сардэчнага, горкага да панурых глыбіняў адчаю!..»

У той нядзельны адвячорак, калі Алесь з Андрэем трапілі ў кіно, ішла «Усходняя хроніка» — з баёў за Беласточчыну.

Па родным блакіце паўзлі белыя воблакі з папялістымі донцамі, а пад імі — сіва-зялёнай сталлю хваляваліся жытнія нівы... Так ён іх бачыў, Алесь, хоць хроніка была не каляровая. Шэрыя хаты, палосы свірэпы, рэчка, бор, пералескі. На гасцінцах, спрадвеку палітых крывёй і слязьмі, на тых гасцінцах, дзе так нядаўна расцвіў народнай радасцю Верасень уз'яднання,— вартуюць закарэлыя ў тузе, пагнутыя векам бярозы. Ах, Беларусь, Беларусь!.. У летнім пыле гасцінцаў бясконца, нахабна, пад маршавы бяздушны свіст, закасаўшы рукавы, як разнікі, і пазнімаўшы каскі, як на вясёлых манеўрах, ідуць, ідуць, зубаскаляць і топчуць падкутымі ботамі вахманы. Тыя самыя, што летась крычалі, распіраючы вузкакалейны састаў то рогатам, то песняй пра разгром Францыі. Тыя самыя, што на польскім тупрэмным двары рвалі душу на часткі лямантам пра канчатковую, апошнюю пагібель Польшчы. Тыя самыя, муштру якіх палонныя бачылі праз драты, флейты і грукат якіх сустракалі на вуліцах гарадоў. Тыя самыя — шэра-блакітныя, мільённагаловыя, усе на адзін твар... Ды ўжо не алавяныя — ужо і нашай крывёю крывавыя «звышчалавекі», «заваёўнікі свету»!..

---

[1] «На Англію», «На Францыю».

Гарацъ нявінныя хаты. Галосяць маці, плача дзетвара. Гіне праца і хлеб...

А ў рэдкім сасонніку, каля пакінутых ці перавернутых гармат, ляжаць... валяюцца трупамі хлопцы і дзядзькі, уткнуўшыся хто тварам, хто астрыжанай патыліцай у стаптаную, глыбокую, квяцістую траву...

Такія хлопцы, як Толя — з назаўсёды пагаслай хітрынкай у чыстых, разумных вачах; як Косця Вярбіцкі ці Павел Сурага, што калісьці стаялі без шапак сярод збажыны, журботна ўражаныя непатрэбнай смерцю Горкага; як дзядзька Барыс Харута — з цэлым светам недапетых песень тваёй маладосці; як ціхі суседскі Валодзя і быстры Сцёпка, з якімі ты пад звонкі смех маленства ў дрымучым гушчары малінніку лавіў, як райскую птушку, пушыстабелага, чырванавокага труса; такія хлопцы, як сотні і тысячы іншых, назаўсёды цяпер не знаёмых табе суайчыннікаў... Унукі, дзеці тых, каго ты любіў дагэтуль толькі здалёк, па кнігах ды песнях, называючы словамі простымі і неабдымна прыгожымі: рускі народ, украінскі, башкірскі, грузінскі... Тыя цудоўныя хлопцы — з-над Волгі, з Паміра, з Якуціі...— якім так нядаўна кідалі пад ногі і на танкі астры, вяргіні, жоўты «прастрэл» з дзявочых пасынкаўскіх агародчыкаў...

І русыя, і чарначубыя, і рыжыя калісьці дома, пасля даведзеныя да стандарту машынкай казарменнага цырульніка,— цяпер усе аднолькава спачвараныя вайной, яны ляжаць, уткнуўшыся ў траву, на радасць кінаапаратарам — спакойна...

Людзі, якія павінны былі прынесці сюды вызваленне, пра якіх [illegible] найбольшай, калі не апошняй, надзеяй — яшчэ так нядаўна! — думаў увесь палонны інтэрнацыянал...

А вось яны — не забітыя, у няволі. У доўгіх непадпяразаных гімнасцёрках, у куртатых галіфэ, босыя, аброслыя, [illegible] бездапаможнымі, безабароннымі рукамі, з жахам і ўтрапеннем у позірках...

У кіназале — малады, жывёльны рогат, прастадушнае цмаканне расчараваных, нават і тых, што нядаўна ў думках сціскалі кулак у ротфронтаўскім прывітанні.

А ў душах нявольнікаў — боль і разгубленасць...

І трэба было маўчаць, калі да цябе звярталіся немцы:

— Ну, як? Падабаецца?..

Тыя самыя немцы, што нядаўна радаваліся смерці толькі палякаў, французаў, англічан, югаславаў, арабаў, неграў, што рады цяпер — яшчэ больш! — смерці тваіх суайчыннікаў, рады былі б, вядома, і тваёй пагібелі, каб толькі ведалі, што ў тваіх думках.

Дый так ужо звярталіся не па-ранейшаму — не стрымана з-за дагавору,— а як да ворагаў, амаль такіх самых, як тыя, што недзе ўцякаюць на ўсход, бягуць, паразуваўшыся, па збожжы — «да Масквы, якая будзе — хайль Гітлер! — узята літаральна днямі»...

І трэба было моўчкі, глытаючы горкую злосць і крывавыя слёзы, самотна думаць, а ў гурце верных сяброў асцярожна шаптацца: што ж усё-такі зрабілася і што там робіцца — на Усходзе?!

Няўжо нашы і праўда ўдарылі першыя? І так няўдала... Няўжо і праўда, што хацелі ўдарыць, але не выйшла? Нас ашукалі, апярэдзілі?.. Няўжо, каб нашы першыя ўдарылі — гэта было б не ў згодзе з бальшавіцкімі ідэямі, з пачуццямі і думкамі ўсіх тых, што хочуць міру і свабоды? Няўжо наш боль цяпер — боль толькі *наш*, бо мы адтуль, бо гэта наш народ у крыві, бо гэта наша зямля пад нагамі, пад гусеніцамі, пад бомбамі фашызму?..

Не! Бо гэта ж — яна, не абы-якая, не проста наша толькі Радзіма, фашызм замахнуўся не проста на яшчэ адну краіну, на яшчэ адзін народ. Ён замахнуўся смяротна на краіну людской надзеі, адзіна новую, найбольш разумную ладам, дзеля якое толькі і варта жыць на гэтым шалёным свеце, дзеля якое варта ваяваць і паміраць.

Так гаварыў перш за ўсё іх старэйшы, Крушына.

Шэсць найбліжэйшых сяброў — Сяргей, Непарэцкі, Трайны, Печка, Андрэй і Алесь,— яны сабраліся ў нядзелю за горадам і, лежачы ў траве на ўзлеску, гаварылі.

Прыціхлі землякі, панылі душой ад зусім такі незразумелых страшных і ўсё новых ды новых поспехаў гітлераўскай саранчы, што ўжо дабралася аж пад Смаленск...

Да таго апусціліся хлопцы, што адзін з іх — ну, Печка — ужо і не вытрываў, уголас пачаў разважаць, што калі яна, фашысцкая грубая сіла, нават і перамо-

жа цяпер, дык ідэі нашы застануцца непераможнымі і зноў потым возьмуць сваё...

Тады Крушына прыўзняўся, і добрыя вочы яго заблішчалі.

— Не гарадзі!..— сказаў ён праз зубы, з прыцішанай злосцю.— Хутка ты штосьці заляскаў абцасамі... «Ідэі застануцца...» І ідэі нашы перамогуць, і сілы ў нас хопіць. Не адна ўжо навала скруціла галоўку на нашай зямлі, скруціць і гэтая!..

Спачатку разгублены Печка апраўдваўся, што яго зразумелі не так, потым была, як Алесю здалося, няёмкая паўза, якую парушыў Трайны.

Нядаўна любімы палоннымі і крыху лішне задаволены гэтым камендант іх барака, цяпер — чорнарабочы на фарфоравым заводзе і, здаецца, больш за ўсіх ударaны падзеямі, дзядзька спытаўся:

— А нам жа, нам што рабіць? Няўжо сядзець, чакаць, не спаць начамі, думаць? Цяпер ужо няма чаго чакаць. Сярожа, хлопчыкі, што ж нам рабіць?..

Крушынавы светлыя вочы зноў сталі добрымі.

— Вышэй вусы, Марціне! — ён ляпнуў Трайнога па плячы, усміхнуўся.— Мы, браце, пойдзем туды. Трэба толькі абдумаць, сабрацца. Бо трэба дайсці напэўна. А там і ночка прыйдзе такая, што хтосьці нам пастукае ў акно: «А ну, уставай, пайшлі за сваё!..» А то і мы каму пастукаем. І пойдзем, і станем, душа з іх фашысцкая вон!..

Так быў яшчэ раз названы іхні выхад — выхад з нерату, які, у адчаі, здаваўся хлопцам парою проста такі бяздонным.

Так яны думалі, кожны па-свойму, прыблізна так гаварылі пры ранейшых сустрэчах, з-за асцярожнасці прыціхнуўшы ў варожым і нясцерпна шаламлівым і агідным ад трыумфу свеце.

Андрэй маўчаў. Не толькі па сваёй не вельмі гаваркой натуры, але ж і таму, відаць, што ягонае — лепш за яго, як ён думаў, з большым правам на гэта — выказваў Сяргей.

Маўчаў і Янка, Янкель Непарэцкі.

Апроч агульнай бяды, аднаго для ўсіх роднага гора, была ў яго свая бяда, свой адчай і свае прадчуванні... Ды што прадчуванні!.. Ён жа таксама ўжо быў у кіно, бачыў «Усходнюю хроніку» — вялізныя, цэлым пахо-

дам расцягнутыя калоны сваіх аднапляменнікаў, якіх фашысты зганялі кудысьці асобна, якім рыхтавалі штосьці выключнае, апошняе... Гэта чуваць было ў дыктарскім тэксце, гэта біла яго, нявольніка ў чорным нямецкім касцюме, як градам камення, нялюдскім смехам гледачоў. Гэта было працягам — больш канкрэтным у сваёй жахлівасці — той пякельнай работы, якая вось ужо дзевяты год вядзецца расістамі на вялікадзяржаўным узроўні. Ён ведаў гэта і сам, ён бачыў некалькі кадраў пекла на экране, у тварах, у вачах людзей, расправа над якімі паказана, вядома, «пакультурнаму», толькі ў самым сваім пачатку...

Алесь жа ўспомніў чамусьці яшчэ раз учарашні незвычайны прыход да іх Шмітке, бацькі Марыхен, расказам пра што і пачалася сёння іхняя тут гутарка.

Руневіч выплюнуў мятлічную саломінку, якую ўсё жаваў, паглядзеў на Крушыну, пачаў:

— У нас быў Гаршын з яго «Чатырма днямі»... Ды што там Гаршын? У нас была бомба і сонца — Талстой. У французаў быў Ралан з яго цудоўнай маці ў «Зачараванай душы». У немцаў ёсць Рэмарк з яго сардэчным болем за жыццё. У чэхаў — Гашэк, знішчальны смех з ваеншчыны... Колькі магутных зарадаў пратэсту супраць вайны! Як ненавідзіць яе працоўны народ! Усюды. Нават і тут. Ён нам, Шмітке, учора і ўголас, і шэптам прызнаўся, як ненавідзіць Гітлера і гэтую вайну. «Ёсць, кажа, у нас такіх многа. Хоць і канцлагеры, хоць і гестапа...» Што ж, кожны з нас бачыў таго ці іншага Шмітке. Аднак не яны вырашаюць. Іх мала. Іх барацьбы не відаць. Горш — яны яшчэ ўсё робяць, прымушаны рабіць не тое, што хацелі б. А чорныя сілы наверсе, ім падпарадкавана ўсё...

— Рэмарк. Талстой...— загаварыў нарэшце Мазалёк.— І гэта ўсё? А ў іх жа былі Маркс і Энгельс! У іх была кампартыя! Дзе яна сёння? Няўжо так адразу можна ўсё прыдушыць, усіх запалохаць?..

Ён сумна змоўк.

— Мы пойдзем, Сярожа,— сказаў пасля паўзы Руневіч.— Мы, браце, станем за сваё. Ды не хацеў бы я там, дзе мы пачнём з фашыстамі разлік, не хацеў бы сустрэцца з такім, скажам, Шмітке... А зрэшты — як ты пазнаеш такога? І як ён скажа пра гэта — салдат?..

Крушына даўжэй паглядзеў на Руневіча.

— Мілы юнача,— пачаў ён зусім без іроніі.— Хто з іх, вялікіх, сказаў, не Славацкі часамі: «Не час жаловаць руж, гды плонон ля́сы?..» Тваю гуманнасць прыйдзецца трохі адкласці. Калі хочаш — у імя яе, за Чалавека мы будзем біцца насмерць!.. Гэта ж не проста вайна, а такая, якіх не было. Вайна святла і цемры, смерці і жыцця. Мы будзем ваяваць з фашызмам, а не з немцамі... Ды што я цябе — агітую?..

Непарэцкі маўчаў увесь час.

## 3

Галоўным тут былі не карусель, не гушкалкі, а музыка — гвалт механічных шарманак, якія наперабой, кожныя са свайго прытулку паміж дрэў і балаганаў, раз-поразу галёкалі адну і тую ж, прапушчаную праз мільёны салдацкіх глотак, абтаптаную ўдвая мільённымі ботамі песню «Розэ-Мары»:

Soldaten sind Soldaten
In Worten und in Taten... [1]

Яшчэ было сонца, добра такі нават па паўдні гарачае ліпеньскае сонца, мноства вясёлых людзей і празлівы, нават ліпучы пах смажаных селядцоў. Вялікая чарга, што стаяла каля размаляванага павільёна, дзе яны смачна і горача пішчалі на агромністых патэльнях, дзе яны прадаваліся спачатку нават без картак, разносіла гэты пах па ўсім парку, дзе толькі можна было прысесці над кухлем піва і з тым селядцом на кардоннай талерцы. Дзявочы віск на гушкалках, што пад націскам зноў жа ў большасці салдацкіх ботаў шыбалі ад самай зямлі да самага неба. Дзіцячы шчэбет і смех на карусельных конях — і ў лодках. І таўкатня, беспрадметная і шматфарбная таўкатня — да нуднай стомы, да апошняй кропелькі весялосці...

Для таго, вядома, каму тут весела, хто не чужы, не абыякавы на гэтым правінцыяльным, бюргерскім фольксфэсце, так званым народным гулянні.

---

[1] Салдаты застаюцца салдатамі
І на словах і на справе...

Алесь, Сяргей і Мазалёк снуюць тут ужо з гадзіну. І забіваючы свабодны час, і прыглядаючыся да прымітыўнай, як здаецца, і недарэчнай радасці святочнага натоўпу.

І ў гэткім шуме можна парою нічога не чуць, і ў гэткім збоі людзей можна часамі быць адзінокім. Нават і пры сябрах.

Руневіч думае пра сваіх. Тымі думкамі, што прыходзяць яшчэ і яшчэ раз, міжволі і нечакана, і неадчэпна горка...

І не пра ўсіх сваіх. Не ўяўляецца неяк, каб іменна іхняя вёска, іхняя хата гарэла, як тыя, у кіно, каб ягоная мама ці Толеў сынок былі іменна там, куды падаюць бомбы, снарады. Зрэшты, фронт ужо даўно, хутка месяц таму назад, перакаціўся па Наваградчыне, і што было — тое было. Можа, нічога з імі і не здарылася?.. Відаць, што не. Бо прадчуванне, непакой яго шукае чамусьці найбольш аднаго, горнецца толькі да Толі...

Па нейкай унутранай сувязі Алесь успамінае два здарэнні.

Першае — на заводзе крыштальнага шкла.

Рыжы, чырванавокі ад выпівак вахман зайшоў аднойчы ўвечар у штубу да іх — у асаблівым настроі, пад чаркаю асаблівай.

«Ваш Молатаў прыехаў у Берлін»,— сказаў ён, падняўшы каманду «на смірна».— Цяпер Шталін і Гітлер вось так, рука ў руку, і цэлы свет капут! Давайце выканаем нашы дзяржаўныя гімны!..»

Яшчэ раз крыкнуўшы: «Арбайтскамандо, штыльгештандэн!», ён ускінуў для прывітання руку і дзікім голасам зацягнуў «Дойчлянд. Дойчлянд ібэр алес».

Цвярозым, маладым рагатунам нямала сілы трэба было, каб не пырснуць, не выбухнуць смехам. Яны зрабілі яшчэ больш. Вусаты, пажылы Малыха, у гутарцы якога былі асцярожныя намёкі на прыналежнасць да антысанацыйнага падполля, шапнуў Алесю: «А мы яму «Барыню». Перадай». Ад іх пайшло па ўсёй чарзе — для п'янага вахмана непрыкметна. І, як толькі рыжы закончыў сваё і, кашлянуўшы, загадаў: «Ну, а цяпер — вы. Драй — фір!..» — вусач Малыха на найвышэйшым сур'ёзе загалёкаў бабскім голасам:

Пасадзіў я рэпку —
Ні густу, ні рэдку...

Каманда ахвоча і стройна ахнула прыпеў:

Барыня ты мая,
Сударыня ты мая!..

Хлопчыкі! — колькі ж той моцы трэба было, каб стрываць!.. Стаіць іх «фюрэр», узняўшы руку, блішчаць чырвоныя вочы з натугі і «дружбы», а тонкі голас вусача з наіўнасцю вялізнай вытрымкі выводзіць зноў — ужо за цешчу, якой не пашэнціла ў зяцевых градах:

А мае ж вы дзеткі,
Мне ўжо не да рэпкі...

І зноў — прыпеў!..

Другое здарэнне было таксама летась, напрадвесні.

У вёсцы, дзе зімаваў Алесь, малая, звілістая рэчка пачала ўздымацца, заліваць двары. Усё насельніцтва і каманда палонных калолі лёд. А таму што было ўжо і сонца не тое, і шпакі перасвістваліся на па-вясноваму голых галінах, і вада гаманіла, імкнулася з-пад лёду і паблісквала ў сонцы,— Руневіч ціха насвістваў. Усё, што само ўспаміналася, што падыходзіла да настрою. Забыўшыся, дзе ён, пачаў «Інтэрнацыянал»...

Тут да яго падбег, расхляпваючы ботамі снежны крупнік, малады, дзябёлы баўэрышча і, замахнуўшыся над галавой палоннага вялікім, мокрым калуном, выпаліў цэлы антысавецкі трактат на платдойчы...

Не ўсё зразумеў у тым крыку Алесь, ды яму стала ясна і так, да жудасці ясна, чаго той «баўэрнфюрэр» так захлёбваўся і пырскаў слінай...

П'яная лірыка вахмана была яго падтрымкай афіцыйнае палітыкі.

Калун вясковага нацыста быў узняты заўчасна, калі яшчэ гімны двух непрымірымых светаў узаемна выконваліся на перонах Масквы і Берліна, калі яшчэ стрыманасць бачыў Алесь нават у тым пакоі — з адбіткамі пальцаў...

Адно было камедыяй. Аднак цяпер ужо ні Руневічу, ні каму іншаму з яго сяброў не смешна ўспамінаць, як яны тады асмяялі свайго рыжага «палітыка». Падтэкст ідзе глыбей — да найгарчэйшай крыўды...

Другое было фашысцкай сапраўднасцю. Цяпер сякера ўжо не толькі ўзнятая над галовамі...

«І ты, можа, Толя, дзесьці бяжыш, адступаеш па роднай зямлі, можа, і ты — о, не! — уткнуўся астрыжанай патыліцай у траву!.. Як сотні і тысячы такіх самых, як ты,— непаўторных, адзіных, што гінуць там кожны дзень...

І сёння, і цяпер, пакуль шуміць гэты дзікі і недарэчны фольксфэст,— з яго піўным іржаннем, селядцовым смуродам (без картачак!..), і яго салдафонскімі песнямі!..»

— Што так задумаўся, Алесь?

Як дарэчы ты, дружба, бываеш здагадлівай!

— Няма хіба, Сяргей, пра што?..

— Давайце мо прысядзем, хлопцы, тут, здалёк, душа з іх вон, ды адпачнём ад гэтай іхняй радасці?..

— Давай.

4

Лаўка стаіць над ракой, каля нешырокай жвіраванай дарожкі. Перад табой — даволі-такі нудная, павольная вада ў каменным рэчышчы. А за спіной, у далекаватым адгэтуль цэнтры вялікага парку, шуміць недзе чужое свята, даходзіць сюды толькі прыглушаным шумам ды гулам шарманак. А так — хлопцы навадшыбе. І гэта лепш за ўсё. Тым больш — пад разгалістым клёнам, у свежым цянёчку.

Маўчанне блізкіх бывае асабліва сумным, вялым, ледзь не да атупення. Калі няма як быццам пра што гаварыць. Калі ўжо ўсё перагаворана па шмат разоў, а дзейнічаць — яшчэ зарана, не гатовы. І час свабодны, як у таго рабацягі, што зусім не ўмее весяліцца. Калі яму і рук няма куды падзець, і гаварыць няма пра што, і пазяхаецца, бо сёння ён, хоць раз у тыдзень, пераспаў сваю скупую норму.

Ды нехта ўсё-такі пачне размову, знойдзе што-небудзь. І не таму абавязкова, што ён сярод усіх найбольш гаваркі. Якраз, бывае, і наадварот.

— Учора я ледзь не даў аднаму па зубах.

Гаворыць Мазалёк. Толькі Сяргею, бо Алесь ужо гэтае чуў. Гаворыць ён у форме, так сказаць, мастацкай, абагульнена, завострана. Бо не падобна гэта на Андрэя — даць па зубах, тым больш таму старому гніляку, пра якога ён збіраецца расказаць. І Крушына, відаць, разумее, што страху ажно такога там не было,— ён трохі вяла, трохі здзіўлена пытаецца:

— Ну?

— Заходжу ў «інтэрнат», а там Ілья Аркадзевіч Хвастоў, наш «бяскрыўдны і вясёлы рускі старыкашка» (каменьчык — у Крышынаў агарод), сядзіць на нарах памыценькі, у чыстай кашулі і радасна глаголет з белагвардзейскай газеткай у руках... Толькі белую лошадзь ды калакольны звон яму засталося падаць — і канец бальшавізму, да здраўствует матушка праваслаўная Русь!.. Капельдудка, маць яго сена ела!.. А хацеў жа вярнуцца не ў Польшчу, а ў Саветы, анкеты запаўняў, ажно спяваў танюсенька пра любоў да радзімы... Так бы, здаецца, нагой пад с... даў, каб плеш, як корак, хлопнула ў столь!..

У малога Андрэя гэта выйшла так незвычайна грозна, што Сяргей штурхануў Алеся локцем і, нібы з панам лёгкай, нават адкінуўшыся на выгнутую спінку лаўкі, засмяяўся.

— Ёлкі кашлатыя! Усе белякі — капельдудкі. Мы з Алесем яшчэ аднаго такога ведаем,— растлумачыў ён у адказ на Андрэеў недаўменны позірк спадылба.— У югаславаў быў такі самы Ілья Аркадзевіч, толькі без плешыны, трохі большы, і называўся, гад, Сяргей Пятровіч. Ледзь не поўны мой цёзка. Сказалі хлопцы — з намі адзін харват на пошце працаваў,— што цёзка той — марфініст. Воўкам ходзіць без морфію. І сам расказваў, хваліўся, што афіцэр — падкрэслена — імператарскай лейбгвардыі, вяцкі памешчык. А ў Югаславіі быў палкавым капельмейстрам. «Можа, маеце рускую кніжонку?» Алесь яму і падсунуў «Рассказ о семи повешенных». Будзь ты, думае, восьмы, душа з цябе вон. Прынёс ён яе, можа, і не дачытаўшы. «Спасибо за удовольствие. Тронут». А быў такі серб, усё хадзіў да нас, Чэда Младзіч, што вельмі песні нашыя любіў. Слухае раз, як хлопцы спяваюць, а потым усхапіўся і пабег. Прыводзіць таго, марфініста. І, як вялізнае адкрыццё, яму і ўсім нам радасна: «Яны —

рускія, а ты — не!» Нават і пальцам тыцнуў на яго. Фацэція!..

— Што ж, многія раскрыліся,— сказаў пасля паўзы Андрэй.— Гэта нават цікава. Такі, скажам, Рагальскі. Таксама ж вярнуцца хацеў у Саветы, пісаўся скрозь беларусам, «Лявоніху» на грабянцы іграў. А цяпер свае вусы разявіць, рагоча: «Як гахнулі, пане, Івану, дык папаха ажно за Дняпро паляцела! Падзякавалі за пшаніцу, за сала!..» І ўжо, аказваецца, ён не «работнік святой установы» — «не дробны паштовы чыноўнік», а пан канарык [1], а то і проста кацюга які з дэфензівы... А свой браток-беларус, Зданевіч? Той, што летась Алесеву торбу выеў, а тады ўжо вырашыў і паддацца. Як там — «Каб разам толькі: менш будуць біць?..» Цяпер твой патайны загаварыў. Інакш, зусім па-свойму, адкрыта. Таксама там, у «інтэрнацэ». «Так ім і трэба, бязбожнікам!..» Гэта — пра фронт, пра нашу бяду. Бачыш ты, млын там у яго былі забралі... Вадзяны.

— Ну іх, Андрэйка, к манахам! Нам тут ужо дзеньдва засталося. А што ж гэта наш Алесь? Што ты кіслы, юнача?

— Я не кіслы, я горкі,— усміхнуўся той.— Гляджу вось: рэчка — не рэчка, а вада ў брукаваным карыце, лес за ракою — не лес, а па-салдацку, радочкамі. Цяля народзіцца, яшчэ стаяць не можа, а яму ланцуг на шыю — р-раз, і стой, раві на прывязі, само вучыся піць. Чалавек народзіцца — першае слова... Дзе там! — яшчэ гаварыць не можа, а ўжо ручку ўздымае: «Хайль Гітлер!» Навучаць і рады, смяюцца расчулена. Як ім не гадка?

— Якое — гадка? Чуеш, як крычаць? Яны...

— Я штосьці бачу! — перабіў Сяргея Мазалёк.

Ён паказаў на дарожку, што паміж дрэў, таксама ледзь не да суму просценька, ішла ўздоўж ракі.

— Салдат і дзеўка. Гэта? — спытаўся Крушына.

— Салдат — хрэн з ім. А хто з салдатам, Алесь?

Так, з салдатам ішла Марыхен. У знаёмай стракатай сукенцы, з такім знаёмым тварыкам і залацістымі валасамі.

Чым бліжэй яны — тым усё выразней. Відаць ужо,

---

[1] Пагардліва — польскі вайсковы жандар.

што салдат — у шэра-фіялетавай форме, з адкрытым мундзірам, з чырвонай стужкай на борце (паранены), з хвацкай пілоткай над чорным прылізаным чубам. Да агіды прыгожанькі і модны ў мэдхэнаў флігер, лётчык.

Крокаў за дзесяць ад іх Марыхен спынілася — відаць, пазнаўшы,— і павярнула свайго флігера. Яны пайшлі назад, адкуль з'явіліся.

— Збярог!..— сказаў Андрэй.— Ра́су яны захаваюць у чыстаце. Дарма ён баяўся.

Алесь пачырванеў і плюнуў.

— Ты што, раўнуеш? — усміхнуўся Мазалёк.— Падумаеш — трагедыя!..

— Пайшоў ты, ведаеш!.. Я таксама пра бацьку, пра Шмітке падумаў... Хадзем куды-небудзь, ці што?

Было ўсё роўна, што рабіць, і яны пайшлі зноў туды, адкуль выйшлі нядаўна, прыглушаныя гоманам чужога, варожага свята.

Як у час яна, дружба, бывае здагадлівай!

— А Іржынку і сёння не спаткаем, га? — спытаўся Крушына, нібыта адчуўшы Алесевы думкі.

І якой яна, дружба старэйшых, бывае недарослай ды наіўнай!.. Алесь паглядзеў на Сяргея і паблажліва ўсміхнуўся.

— Ты добры, дзядзя, але пазнавата. Я ж гаварыў, што не бачыўся з ёю... Ну, бачыўся толькі аднойчы, тады. Цяпер яна, казалі, з фрау і дзецьмі інжынера дзесьці далёка на свежым паветры. Дый да таго хіба цяпер? Думаў я раз, стары, нават такое: ці брыдка мне, што пакуль яны не пайшлі на Саветы, дык я не разумеў як след пакуты другіх людзей, другіх народаў? Яшчэ і пра шчасце нейкае думаў, пра нейкую любоў... Ты не ўсміхайся, бо я сур'ёзна. Я ёй, мусіць, сказаў бы цяпер, каб спаткаўся: «Бывай, мая слэчна, больш не пабачымся... Я павінен дахаты...»

— Ах, юнача, юнача!..

— Што, канспірацыя? Я ж не пра словы, а толькі пра думкі свае гавару.

— І я не пра тое.

Ён узяў Алеся пад руку.

Сонца зайшло, і фольксфэст прыкметна зрабіўся куды больш дарослы і п'яны. Дзеці, мамы, бабулі пай-

шлі, паводле рэжыму, дахаты. На каруселі, гушкалках, на дарожках шумела маладосць. Нястомна, адно і тое ж, грымелі шарманкі. Яшчэ ўсё ліпка пахлі ўсмажаныя, з'едзеныя і запітыя селядцы.

Ды вось пачулася песня... Тая самая «Гэгэн Русланд», што была і ў кіно, і па радыё, што можа перакрычаць нават і «Розэ-Мары».

Трохі наводшыбе, на пляцоўцы, дзе перад гэтым фольксфэстам звычайна гуляла малеча, цяпер расцягнуліся цэлымі саставамі доўгія няшчыльныя сталы, а на лавах вакол іх — стаялі дарослыя. Пабраўшыся пад рукі і калышучыся ў такт, п'яны, вясёлы зброд то гарлапаніў тое «гэгэн», то так крычаў, то рагатаў, здавалася Алесю, пра адно і тое ж. Як тыя — у вузкакалейных вагонах або на турэмным двары... Працяг той самай прагнай, ненаежнай... не песні, не, а рову, гвалту, вар'яцтва!.. Дзеўкі, салдаты, цывільныя падлеткі, яшчэ не прызваныя, пузатыя і кашчавыя патрыёты ў гадах, ваяўнічыя фрау...

А потым — нечакана новае!..

Здаравенны фельдфебель, мардаты, вусаты,— іменна той, на якім, па Бісмарку, трымаўся яшчэ першы рэйх,— [redacted] няпоўным кухлем у руцэ, узбіўся з ботамі на стол, пайшоў па ім... Спыніўшыся, вусата і разявіста, драпежназуба зарагатаў, амаль зусім падобна на рогат пана Рагальскага. Пра тую ж папаху, вядома, што ўжо заляцела за Дняпро, ад той жа, толькі большай радасці! Апафеоз гэтай радасці быў і зусім нечаканы. Здаравіла расшпіліў штаны... і пачаў, прыгнуўшыся, з натугай крапіць вакол сябе — на кухлі з півам, на людзей,— на гэты час засяроджана, не рагочучы, грозна, ваяўніча. А п'яны збой вішчаў ад радасці, галёкаў, рагатаў... О мілы Дойчлянд — ібэр аллес!..

— Бачылі? Вунь! — зноў першы паказаў Андрэй.— Адзін лявей, [redacted] гэты во, насупраць!..

Лявей, у гурце фройляйнаў, рагатаў на лаве прыгажунчык Карнач. А насупраць нашых хлопцаў, зусім перад імі, паміж тоўстай, распаранай радасцю фрау і нават тут панурым унтэрам Лёмазам узвышаўся і грымеў вантробным рогатам Бязмен.

Калі ацiхла трохі, ён, зусім нечакана і непатрэбна для «энтлясанаў», заўважыў іх — хоць пад клёнам, але ў святле ліхтара —і закрычаў:

— Крушына! Браткі беларусы — сюды! Да нашай радасці! Увесь народ...

Далейшага яны не пачулі. Бо і шолам зноў грымнуў прыбоем, і самі хлопцы пачалі адступацца ў гусцейшы натоўп.

## 5

Вялікі грузавік з апілкамі імчыць, гудзе, ледзь праціскаецца ў зялёным тунелі вузкай шашы.

Два грузчыкі, Алесь і Мазалёк, умасціліся спераду, каля самай кабіны, тварамі супроць ветру, які не пыліць ім у вочы, а толькі прыемна халодзіць.

Пад роўны гул матора і мяккі шум пакрышак на асфальце гаварыць можна амаль без крыку.

Малыя шэрыя вочы Андрэя жмурацца пад казырком ужо старое кепкі, а пад здаровым носам, на тонкіх губах ходзіць усмешка.

У маўчанні, што трохі ў іх зацягнулася, ён чуе спачатку штосьці зусім невыразнае, потым — цэлую фразу:

— И хитер же ты, Вовочка! Вроде бы у самой меня завтра не выходной!..

— Ты што мармычаш, Алесь, як праз сон?

— Успомнілася зноў. Я ж гаварыў табе: у консульстве пачуў з-за сцяны... Назаўтра страшны быў «выходной»!..

— Ну іх, дыпламатаў, напэўна, пускаюць. Праз другую якую краіну вярнуліся.

— Справа не ў гэтым. Я пра ўсіх тады думаў, у тую нядзелю і потым... Аднак жа і шкада было, што не ўбачыў яе, тую дыпламатычную Раечку. Першую рускую, першую нашу, савецкую, у жыцці...

Зноў маўчанне і думкі, два розныя светы ў дзвюх душах, няхай сабе блізкіх, а ўсё ж такі розных.

У Алесевай памяці ажывае карціна, якая ідзе чамусьці побач, пераклікаецца з той вельмі простай дзявочай фразай перад самым пачаткам вайны...

...На таварнай станцыі, дзе яны, некалькі грузчыкаў з «Дэтагу», працавалі ў той дзень, ціха спыніўся на рэйках яшчэ адзін таварняк. Мурзатыя, маўкліва валачашчыя вагоны, з разнастайнымі назвамі станцый на сценках.

І раптам у вузкім, закратаваным акенцы таго, што спыніўся якраз насупраць іх, «энтлясанаў», Руневіч першы — і з жахам, і з яшчэ большай радасцю — убачыў вочы. Яшчэ... Яшчэ адны... І адразу, нібы душою пазнаў, што гэта *яны* — такія самыя, як тыя, што ляжалі тварамі ў траву, як тыя, што ў смяротнай стоме, у голадзе, нянавісці і страху глядзелі з экрана ў залу.

— Здравствуйте, товарищи! — гукнуў Алесь.

Вочы глядзелі, мяняліся ў шчыліне акенца, то адны, то другія глядзелі, а потым праз краты пачулася:

— Кто вы?

— Мы белорусы из польской армии. Пленные.

Паўза глядзела на яго трыма парамі вачэй, а потым голас, які належаў адной з гэтых пар, запытаў:

— А скоро ли фашисты с голоду подохнут?

Другая паўза.

Што ж табе, дружа, адказаць?.. Няўжо ты *гэта* нам прынёс, замест чаканай песні перамогі?..

Ды тут пачуўся крык вахманаў, што павыходзілі з-за састава:

— Не размаўляць і не глядзець, хто не хоча да іх, у вагон!

І вочы ў акенцы зніклі.

Засталіся другія, што так ужо горка набрыдлі — і вочы, і твары, і колер мундзіраў, і варанёная сталь...

А так жа хацелася б змахнуць з таго акенца жалезную павуціну крат, як за расшпілены каўнер узяўшы, разлупіць наросхрыст сцены вагона, зірнуць у вочы жывога, першага чалавека адтуль, адчуць яго руку ў руцэ або абняць яго за плечы і спытацца:

— Таварыш, браце, ды што ж гэта сталася? Як?..

Некалькі дзён пасля таго, ідучы з работы, Алесь з Андрэем таксама зусім нечакана сустрэлі першую групу палонных чырвонаармейцаў.

З-за павароту вуліцы яны выйшлі, з'явіліся — як з экрана. І тыя самыя, як у кіно,— аброслыя, ушчэнт знябытыя, у дзіўна доўгіх без рамянёў гімнасцёрках, у куртатых галіфэ і босыя. Той самы жах, недаўменне ў позірку. Толькі стомы яшчэ больш. І такая насмешка: салдаты самай страшнай для адных і самай справядлівай для іншых арміі ідуць, як пастухі, басанож, то паднімаючы ногі залішне асцярожна, то цягнучы іх

па камені нямецкага бруку,— тыя самыя ногі, што так нядаўна адбівалі рытм магутнасці,— можа, нават на Краснай плошчы!..

Зноў хацелася крыкнуць ім роднае слова, заглушыць гэтым словам дурное галёканне падлеткаў, кепікі, пахіхікванне, ядавітыя ўкусы дарослых бюргераў, зноў хацелася заглянуць у родныя вочы, спытацца:

— Дык што ж гэта, хлопцы?!

Алесь, забыўшыся на тую — і неабходную, і расправлятую — асцярожнасць, якая патрэбна ім «для галоўнага», ступіў з тратуара на брук і ўжо хацеў пачаць, калі пачулася:

— Цурык, цум гімэлькройц! Ты ведаеш, што робіш, га? Сам захацеў сюды?.. Набок!..

Па сіняй спяцоўцы і кепцы яго палічылі за немца.

Паміж ім і тварамі родных людзей — зноў пахілены штых і казённыя вочы...

Ох, казённыя вочы!..

У першую зіму палону Руневічу, пасля пакуты ў шталагу і ў маёнтку, пашанцавала трапіць у вёску, і там — да нядрэнных людзей. Бауэр і фрау. А два сыны, абодва нежанатыя, на фронце. Стары, кілавы фатэр Драгайм усё крактаў на далёкія ад палітыкі тэмы; мутэр, маладзейшая, яшчэ ўсё чапурылася, хадзіла ледзь не подбегам, стройна, у акулярах, і ўсім камандавала, бо ў гэтай хаце, як немцы кажуць, баба насіла мужавы порткі. Вельмі ж была набожная — саладжавай набожнасцю лютэранкі. І ўсё расказвала палоннаму, што сыны яе — любыя, слаўныя... проста такі надзвычайна. Нават спявала палоннаму песню, ды столькі разоў, што ён яе запомніў добра — са старэчатанклявага голасу, на перарывістым, слёзным дыханні:

Vogel, fliegst in die Welt hinaus
Lässt mich ganz allein zu Haus.
Hab an dich nur eine Bitt,
Vergiss dein Mutterl nit! [1]

[1] Птушка, ляціш ты ў далёкі свет і пакідаеш мяне адну ў хаце, я прашу цябе, прашу толькі пра адно: не забывайся пра сваю матулю!

У лютым адзін з яе «фогеляў», меншы, прыйшоў у адпачынак. З Польшчы, дзе ён і ваяваў. Калі вахман уранні прыгнаў Алеся са штубы да гаспадароў, і ён, па прывычцы, хацеў пачаць свой дзень з «падходаў» каля жывёлы, мутэр Драгайм выйшла на ганак і паклікала яго ў дом.

Каля грубкі стаяў малады невысокі салдат, чамусьці, у такую рань, ужо ў мундзіры, нават падпяразаны. Далоні трымаў ён ззаду, на цёплай звечара кафлі. Бялявая галава была падстрыжана «пад бокс» і прылізана на прабор, вочы — светла-блакітныя, па стандарту арыйскай расы.

— Гэта — наш Рудзі,— радасна паказала старая адной рукою, а другой: — А гэта, Рудзі, наш Алекс.

— Халетлер,— механічна буркнуў салдат у адказ на «гутмойн» [1] палоннага.

— Ну, а цяпер паглядзіце адзін аднаму ў вочы,— не сціхала старая,— і скажыце, навошта вы адзін у аднаго стралялі? Herr Jesus hat doch gesagt... [2]

Алесь прыжмурыўся на гаспадарскага сынка.

Фогель бліснуў на яго халодна-блакітным, казённым, фюрэрскім шклом.

У першага была цікавасць: «Хрэн з табой, калі ўжо ты такі расхвалены, дык можна і зірнуць...»

Другі — зірнуў, каб не пакрыўдзіць муці.

На поўных губах і пад густымі, светлымі брывамі першага хадзіла ўсмешка духоўнай вышэйшасці: «Нутром ты, голубе, відаць, зусім эсэсавец. Толькі б вось ростам дацягнуць [3], і — Übermensch [4]...»

Другі саслізгнуў вачыма з высокай, плячыстай пастаці «паляка» і спытаўся:

— Фатэр, а Фукс наш добра есць? Яго трэба глядзець, паколькі ён адзін.

Другога іхняга каня забралі ў армію яшчэ з восені.

Праз дзень, ці што, стары адразу ўранні выкрахтаў загад па гаспадарцы: маладая карова, Пупэ, зноў захацела да кавалера. Павядзіце яе ўдвух, Рудзі і Алекс.

Нават успамінаць такое не хацелася б...

Цяпер, у кузаве, Руневіч зноў — куды вастрэй! —

---

[1] «Хайль Гітлер» і «гутэн морген».
[2] То ж госпад Ісус сказаў...
[3] У часці СС дабіралі па росту, высокіх.
[4] Звышчалавек.

адчуў і горкую ганьбу палону, і свежы вецер нянавісці, адчутай тады, на снезе...

Работа Рудзі пачалася і закончылася тым, што ён надзеў на рогі чорна-пярэстай Пупэ вяроўку, даў канец яе палоннаму і сказаў:

— Also, Panje, jetz immer vorwerts!..[1]

Не тое цяжка было Алесю, што яго панасіла па сумётах шырокай сельскай вуліцы здаравенная, як ласіха, застоеная ды ўкормленая ялаўка,— горка, пякучым болем горка было, што вось ён танцуе на повадзе перад казённымі, фашысцкімі вачыма свайго аднагодка, які — наглянцаваны ды падцягнуты — рагоча на сцежцы, то сам, то з прахожымі!..

«Такіх не праймеш духоўнай вышэйшасцю,— думае цяпер Алесь.— Пры іх, побач з імі ён быў бы смешны, жалю варты — твой юначы пацыфізм!.. Як тыя лютэранскія, евангельскія тэксты на сценах набожнай хаты, гнязда, дзе вырас гэты «любы і слаўны» забойца і падпальшчык, як тая карціна, дзе леў і авечка стаяць у рамачцы, пад шклом, і ледзь не пасміхаюцца расчулена ад міру ды любові.

Зрэшты, карціна тая, па праву амаль іконы, выпадкова і сімвалічна вісела ў Драгаймаў побач з партрэтам фюрэра, вочы якога даволі ўдала паўтараліся ў вачах «мілага фогеля».

Не ў аднаго яго — і ў вачах тых вахманаў, што адганялі іх, «энтлясанаў», ад састава з новымі ахвярамі; і ў таго, што стаў паміж строем палонных чырвонаармейцаў і ім, Алесем; і ў позірках тых фогеляў, што ідуць цяпер недзе на ўсход, топчуць жыццё пад песню знішчэння.

Якіх толькі зверстваў, чаго яны толькі не могуць бачыць спакойна, тыя прагныя і халодныя вочы?.. Кроў і слёзы людзей, і старых, і жанчын... На ўсё глядзяць яны з усмешачкай вышэйшасці...»

Алесь аж сцепануўся ў кузаве,— міжволі і яскрава зноў (як тады, калі слухаў плявузганне старога Камрата), успомніў свой франтавы бінокль, фашыста — голага, на прыморскім пяску...

«Па хлеб ідзеш? Па прастору? І пасміхаешся? І свішчаш?.. Я цябе, фогель, бачу цяпер — так выраз-

---

[1] Вось так, пане, цяпер толькі наперад!..

на! Без бінокля. На кожным фоне. Зблізку. Здалёк. Я цяпер ведаю, што цябе пройме. Толькі сапраўдная сіла — з зарадам святой чалавечай нянавісці!..»

— Ч-чорт!..

Грузавік нечакана і рэзка прытармазіў, павярнуў на абочыну і спыніўся.

Задуманы Мазалёк ткнуўся ў сценку кабіны і ледзь паспеў уперціся ў яе рукамі.

Шафёр выйшаў і, весела запрашаючы грузчыкаў за сабою, падаўся ў кусты.

— Наш лагер,— кіўнуў галавою Алесь.

І праўда — у пройме прысадаў відаць была пустэча і, далей, драты ды баракі.

— Ужо не наш,— сказаў Андрэй.

Яны ведалі, што ў шталаг, вызвалены ад польскіх палонных, якіх усіх ужо тым часам выгналі пад нагляд паліцыі, і французаў, якіх кудысьці перавялі, цяпер нагналі чырвонаармейцаў.

Ясна стала толькі цяпер, чаму так, яшчэ [illegible] восені, немцы стараліся іх, беларусаў, «вызваляць»...

Чуваць ужо нават у горадзе, што савецкім палонным — зусім не тое нават, што было ім, польскім ці югаслаўскім, не кажучы пра французаў ды англічан — «не вынятых з-пад закону»...

— Гляджу, Алесь, і думаю: і мы ж павінны быць тут, за дратамі, дзе нашы... Не! Мы павінны быць там, дзе іх няма, дзе і яны павінны былі б заставацца! І мы там будзем!

## ДЗЕ ТВОЙ НАРОД?

### 1

Ударанае запясць баліць ужо сёння не так. І пахадзіць з забінтаванай рукой, [illegible] кранкенкартай, бальнічным лістом, у кішэні — работа вельмі незвычайная і лёгкая. Тым больш — першы раз у цывільным касцюме.

Добра такі па поўдні, вяртаючыся з далёкай пра-

ходкі, Руневіч сустрэў на тратуары аднаго з землякоў. Незнаёмага.

Чалавеку гадоў было на выгляд за трыццаць. Такі сабе русявы, ніштаваты мужчынка, даўно няголены, з рыжаватай брыдой на шчоках. Яшчэ ўсё ў польскай форме, з зялёнай павязкай на левым рукаве. Старая кепка не пасавала да мундзіра і портак, даволі шчодра палатаных, а тым больш да разморсканых, цёртых ды перацёртых абмотак, якімі былі не вельмі спраўна забінтаваны яго худыя лыткі.

— Здароў! — павітаўся Алесь.— Што, сваякоў ужо не пазнаеш?

— Здароў, братко,— хоць здзіўлена, аднак паволі і мякка, напеўна адказаў чалавек.— Як жа цябе пазнаеш — у цывільным, першы раз сустрэўшыся. Каторы раз на другога такога глядзіш — свой, не свой? — і ўкляпацца баішся. А ён, братко, так і пасунуўся міма. Ціпы! Свайго ўжо ён у салдацкім не пазнае...

— Дзярмо, браце, дзярмо і пад капелюшом. А ты куды?

— А ліха яго ведае куды. Хай яны ходзяць па смерці казою. Я ў бавара рабіў. Не вытрываць было, братко, дык вось прыпёр сюды, у арбайцан, думаў, што пана, можа, змяняю. Адно ж змяняў... У каталажцы дзесяць дзён адкукаваў і зноў іду да таго самага чорта. Нямцэ, братко, нямцамі!..

— Ты з Наваградчыны?

— Нявож! З-пад Любчы я. А ты?

— Я з-пад Міра.

— І дзе сустрэліся, братко!..

— А есці, пэўна, хочацца-хочацца?

— А нявож! Як сабацы. І не пайшоў бы яшчэ да бавара, пацягаўся б па горадзе, але кішке ўжо марша граюць. А тут ні картачак, ні феніка ў кішэні, хоць ты, воўк, траву еж!..

— Што ж, хадзем да мяне.

У вузкім пакойчыку на другім паверсе гаспадар падаў госцю крэсла, а сам зняў пінжак, павесіў яго ў шафу і пачаў заклапочана шнарыць у тумбачцы.

— Тры караваці. Трох тут жывяце?

— Жылі спачатку ўдвух, ды потым гаспадар упёр нам трэцяга... Так, гэта — хлеб. А гэта мармелад. Я табе, браце, дам не пад'есці, а толькі па-іхняму —

эсэн. Гросдойчлянд, гэта табе не Любча. Кусаеш іхні хлеб ці якую-небудзь блютвурст, і сэрца таххае ад страху: так і здаецца, што лішні нумарок ад картачкі адкусіў. А што будзе заўтра? Ну, еж. Як ты завешся?

— Змітрук, братко. Змітрук Саладуха.

— А я Алесь. Давай, лупі.

Пакуль «лупіць», госць адрэзаў ад доўгай булкі не па-тутэйшаму тоўстую лусту, нажом зачэрпаў са слоіка мармеладу, цераз сілу культурна прымазаў хлебныя ноздры чырвоным і, не стрываўшы больш, поўніцай хапнуў і пачаў жаваць.

— І ў вёсцы, братко, адна трасца. Вады і пугі не шкадуюць. Ты, відаць, дзе на фабрыцы робіш?

— На гуце.

— А руку як уверадзіў?

— Ды дошкай неяк стукнула. Чацвёрты дзень музыкантам хаджу.

— А я быў у мельніка. У Нойкірхэн. Наводшыбе жыве, за вёскаю, як вядзьмар. Млын вадзяны. А сам такі падчапісты, трапёны. Малодшы сын ужо, можа, бог даў, галоўкаю налажыў. На фронце. А старэйшы — гарбаты, каб ён, братко, веку не ведаў. Узяў ён мяне, як гэта нас яшчэ з лагера выганялі, вядзе з арбайцана, а сам мац мяне за запясць: «О, гутэ кнохін![1] Добра будзеш мяхе валачыць!..» І пацягаў я тых мяхоў, братко, няхай ▪ яго дух выцягне. Едзеш па вёсцы, мліва людское бярэш, а потым муку ім развозіш па хатах. Найгорш казённы падрад — мяхе вялёразныя, кожны па допальцэнтнеру, шэсць пудоў. Разоў са тры вязем сюды, у горад, па пякарнях. Вось табе кнохін!.. У іх там падвал такі пад кухняй ёсць, такая кухня, дзе скаціне вараць. Прыйдзеш, дык там ужо ўсё гатова, каб ты не бавіўся, чакаючы. Старая так ужо і тырчыць крукам над сталом. З'ясі адну лустачку, дык яна: «Яшчэ даць ці генуг?» — «Яшчэ»,— кажу. «Айнэ одар цвай?» — «Цвай,— кажу,— што мне айна». І на пальцах паказваю, каб лепш ушалопала. Дрэп, дрэп па сходах, пайшла наверх, у чыстую кухню. Зняce дзве лустачкі — танчэйшыя ў дзве столкі вось за гэтую адну.

— Ты, браце, рэж ды еж. Чаго глядзіш?

— Ды ўжо ж, давай. За адным скрыпам...

---

[1] О, добрыя косці!

Адкроіў і памазаў лустачку — такую ж, як і першая, ды ўжо тым часам спакайней.

— Яно, братко, па ядзе яшчэ можна пражыць. Але ж нуда чалавека поедам есць. Гарбаты чорт! Разу не ступіць без кепікаў. Ты мех валачэш па сходах на гару, вочы на лоб вылазяць, а ён гэта хітранька: «Мітрук, твая Расія моцная, ого! Многа танкаў, салдат. А дзе ж яны падзеліся? Капут?..» — «А ты,— кажу,— пайдзі ды паглядзі».— «Мне не трэба. Наш Ёзап там. Вашых сто, а наш адзін, і ўсе капут, гефангін, ляўфан!..[1] Чаму, Мітрук?..» І рагоча, ажно ў яго ў чэраве булькае. Гаворым мы з ім, братко, як тая гусь з парэсем, а нябось, калі нешта самому трэба ці хоча табе дапячы, дык і пакажа, і скрывіцца, і паўторыць!.. Набяруся я тых допальцэнтнераў, як дурань мыла, сяду і толькі, братко, аддзімаю. «Ну,— кажа ён,— гэты яшчэ, Мітрук, ну!.. Ты не думай, што цяжка! Москаў скора капут, я табе яшчэ двух рускіх вазьму, а добры будзеш, дык і бабу тваю выпішу сюды... Хе, хе, хе! Ёзап піша, што там у вас — адны лёйзы [2], чаго ёй там сядзець?..» — «А ты,— кажу,— не спяшайся. Яшчэ там вашы Ёзапы наплачуцца, пачакай!..» Ён жа гэта, братко, як запырскаўся: «Я цябе ў гестапа аддам! Бальшавік!..» А які я, братко, бальшавік, калі я іх яшчэ і ў вочы не бачыў?..

— А што ты думаў,— у іх не купіць,— возьме, гад, і заявіць...

— Ды я і асцерагаюся, а як жа! Але ж і мы з табой, братко, жывыя людзі!.. Прыехаў да іх з горада пляменнічак. Гітлерюгенд. Толькі, г...к, і пацехі меў, што з мяне. Я гэта раз снапы за жняяркай зношу, а ён лазіць следам ды вякае: «Лёўс, лёўс, камуніст! Я табе пакажу!» А яны ўсе смяюцца. Стары, падла, і той, ажно табака саплякамі з носа вылезла. Вядома ж, унучак!.. Каб гэта я, думаю, волю меў, як не маю, ды цяў я табе, смаркачу, нагой пад с..., дык ты ж бы ў мяне на трэцім полі перакуліўсё! Але маўчу. Дык ён гэта потым шапку маю хап з галавы ды вобземлю! Тут я ўжо годзе. Распрана, кажу, тваю сякую ды такую, шалудзьта ты! Я век пражыў — *ты* не сказаў на старэй-

[1] Бегчы.
[2] Вошы.

шага, а ты... Ды да старога мельніка: «Я,— кажу,— у арбайцан пайду: там у нас пан Самацэвіч,— заступіцца. Бо што я вам!..» Павярнуўся ды так і пашпарыў сюды напрасткі. Ну, дзякую табе!..

— Валяй, валяй, чаго ты? Стаміўся?

— Што ж, братко, калі ўжо так, дык я яшчэ адну. Тая самая плата.

— Ну і як табе пан Самацэвіч — памог?

— Памог... Заходжу я ў той арбайцан, а мой гарбаты ўжо там. На ровары дапёр. Сядзяць за сталом — адзін немец і наш, той Бязмен, што ў лагеры быў,— той пан Самацэвіч. «Ідзі,— кажа,— ідзі сюды, чалавеча! Што ж ты,— кажа,— пазорыш сумленнае беларускае імя, сукін ты сын?» Я толькі хацеў, братко, аказацца, дык ён гэта як зараве: «Маўчаць! Гэта табе не ў Саветах! Навытвараў,— кажа,— прахвост, ды яшчэ і ўправы прыходзіш шукаць? А мне тут чырванейся за цябе!.. Пусцілі цябе, камуніста, на волю, як добрага, працу далі... Ты,— кажа,— дома век капелюша не бачыў, а тут...» А сам, братко, цік на маю палёўку[1]. «І яшчэ ў цябе,— кажа,— гэтая курыца на шапцы? Яшчэ табе Польшча пахне? Тут жа здзяры, чалавеча!..» Я гэта выняў з кішэні складанчык, давай таго арла адпорваць. А ён як схопіць тую палёўку, арла таго — шах! — адкруціў проста з мясам, кінуў у кошык пад сталом, шапку — шпурлець мне на чэрава. А сам глядзіць на тых, на нямцоў. Яны ж, вядома ж, смяюцца — і той начальнік, і гарбач... А я ж яго не прышываў, арла таго, Бязмен ты,— чаго ж ты мне шапку дзярэш? То камуніст я ў цябе, то паляк... Ну, дзякую табе, братко, Алесь, пад'еў я ў цябе як і трэба. Закурыць ты тым часам не маеш?

— Я не куру.

— Шкада. І я, вядома, выпшыкаўся даўно. Ёсць недзе трохі гэтае іхняе сечкі, у другіх портках. Там, у гарбатага. А тут ні крошкі, ні граша. Ды каб і грош быў — тут не разгонішся: тры сігарэткі ў дзень — каб ваша пэрсць курэла, от дзе норма! Усюды хітрыкі ў яго: і нейкі мёд, невядома з чаго, з'ясі, дык нудзіць, і нейкае мыла, што не мыліцца... Касцюмы, кажуць, тчэ з крапівы. Твой з чаго?

---

[1] Палёўка — палявая канфедэратка.

— Мой бярозавы,— усміхнуўся Алесь.— А ёсць яшчэ і з матыліных крылляў. Хімія. Дык што там далей было, Змітрук?

— Ага. Стаю я там, братко, а тут уводзяць нейкага палячка. Таксама, як мы з табою, антлясын, толькі са знакам «П» на грудзіне. Уцякаў ды злавілі. Ледзь яны яго там не з'елі. Я гэта ў кут: думаю — будзе яшчэ і мне. А той Бязмен яго лае па-польску ўжо, не па-нашаму, а потым раз, другі раз у морду. Хоць ты плач. А хлопец той зацяўся і ні слова. Толькі слёзы па шчоках цякуць. Ведаеш сам — паляк. «Бачыў? — крычыць мне Бязмен.— Было б і табе, каб мяне не было!..» От дзе сволач! За што ж ты яго? Птушка і тая з выраю ляціць, а гэта ж чалавек!.. «Каб мяне не было...» Каб цябе разам з гітлерамі згалела, дык не было б таго, што ёсць,— ні вайны, ні бяды. А так вось я адседзеў з тым Та́дакам свае дзесяць дзён. Ён з вёскі таксама, з-пад Кельцаў. Я яму нават, выходзячы, палёўку сваю за гэтую, злітуйся божа, кепачку аддаў. Хай сабе, думаю, будзе табе твая «Яшчэ Польска». Бо і хлопец ты добры, і гора ў нас з табой адно. Ён застаўся, а я вось зноў да мельніка. А там яшчэ палепшае... Эх, і крычаў жа ён, гарбаты чорт! Думаў, што і мяне нахвошчуць і аддадуць яму зноў, а тут — дзесяць дзён без гіфангіна. А сёння ж вось адзінаццаты... Але, братко, называецца — мы з табой на свабодзе. Ён мне, фашыстоўская морда, ласку зрабіў, даў работу. А што душа ў мяне па дому, па дзецях ды жонцы баліць, што я не сплю начамі, думаю: жывыя яны хоць там ці можа не — дык да гэтага анікому і дзела няма. І адно ў мяне, братко Алесь, з галавы не выходзіць: ці не ўцвэйкаўся я тут назаўсёды парабкам немцу служыць. Яшчэ і падпіску ўзялі, што не буду ўцякаць...

Алесь глядзеў на земляка, на шэры чуб яго, даўно нестрыжаны і прыгладжаны трохі пяцярнёй, слухаў яго і ўспомніў маці на печы і казку яе пад смыканне кудзелі ды ціхенькае, любае вурчанне верацяна. Прыйшоўшы з коўзанкі, накормлены і сагрэты, ён слухае:

— А смецюхі, сынок, што на дварэ грабуцца ў смецці разам з вераб'ямі, гэта жаўранкі, тыя самыя, што вясною спяваюць у полі.

Ён ведаў сёе-тое, пастушок і школьнік. І, знакам нязгоды, спытаўся:

— А дзе ж у жаўранка таго, што ў полі, чуб?

— Вядома ж, чуб твой — мацыя́ такая! Як на зіму адрасце, так на вясну і аблезе. Вясною жаўраначак наш — сам, дзеткі, чуў — звініць званочкам, а ўзімку, халадамі ды завеямі грабецца сабе ў конскім г... ды толькі цвіркае. І нікуды ён не ляціць...

Шэрым ды ціхім смецюхом, што вось сядзіць ды толькі цвіркае, здаўся Алесю і гэты братко Саладуха. Прыгрэла б роднае сонца — і заспяваў бы наш Змітрук, а так...

«А што, калі б сказаць яму: давай, брат, разам махнём? Скажу, а Мазалёк мне: «Баба!..» Вось ужо колькі збіраемся, рыхтуемся. Крушынава: «Хлопчыкі — канспірацыя, асцярожнасць...» А тут я чалавеку з вуліцы — бах і сказаў. Так-такі з вуліцы ён? І хто ж яго пашкадуе — млынар, ці Гітлер, ці Бязмен?.. Бачыш, як ён задумаўся, зямляк, як замаркоціўся, гледзячы ў акно. Ці здагадаюся, пра што ён, га?»

— Што, Зміцер, хораша цяпер у нас?

— Братко ты мой, птушкай ляцеў бы!..

— Авёс косяць. Пахнуць бульбянішчы. Яблыкі. Каля градаў пройдзеш — есці захочацца. А араць ранічкою, га?..

— Я, братко, за рыбай свету не бачыў. Цяпер жа самыя шчупаке пачаліся. Нядзелькі дачакаешся, наловіш у збанок вясёленькіх жыўцоў — і падаўся паўз Нёмне...

— Гэтак было, Змітрук...

— Ты пра вайну? А пра яе, братко, і думаць нават страшна. І фронт прайшоў, і пошасць тая самая — гітлеры і ў нас. Ці жывы хто застаўся? А мы тут з табою...

— Так яно, браце. Мы тут з табою, пакуль там гарыць, стаім на гэтым беразе ды пазіраем, як цяляты. А маем права мы стаяць, чакаць, пакуль народу нашаму так цяжка?..

— А што ж ты зробіш, братко? Ці я, ці ты, што мы з табою — адны тут сядзім? Сам бачыў у лагеры — людзей з усяго свету!..

— Пакінь, Змітрук!..

Алесь устаў, надзеў учора толькі куплены пінжак і капялюш, важна змяніўся, загаварыў па-нямецку.

— Братко ж ты мой! — дойч! — усміхнуўся Змітрук.

— Ну, вось! А ўся гэта камедыя патрэбна нам для аднаго. Касцюм — для маскіроўкі, грошы — на білет. З-за гэтага я і затрымаўся тут аж дагэтуль. Ты, браце, лішне не цягні. Цяпер якраз пара́: яны аслеплены сваімі перамогамі і менш будуць глядзець. Збірайся і — ходу. І то плакаў наш Якаў ды плакаў, а ўсё яму пан бог аднакаў.

— Я ведаю, братко, ды што ж... Я табе проста скажу, як і ты мне сказаў: ты ж мяне не возьмеш. І свая ў цябе кампанія, вядома ж, і талакой на такое дзела не пойдзеш. А я, братко, адзін, як тая тросць на пожары. Ні вопраткі ў мяне цывільнае няма, ні гіргітаць не ўмею па-нямецку. Сядзі ў сваім млыне, валачы за вала і чакай, як вол доўбні...

— Як гэта — ты адзін? Апусціў, браце, вушы! Я табе дваццаць хлопцаў дам... Ну, не дваццаць, вядома, а дам я табе сёння адрас аднаго. Адрас... Які там адрас, калі ён ад цябе за кіламетраў пяць жыве. У Альтэнведалі. Таксама ў баўэра працуе. Антановіч Васіль. Я табе вось запішу. Пераадзецца трэба, Змітрук, сабрацца трэба. Васіль табе дапаможа, а то і возьме з сабою.

— Пішы, братко,— ажыў Змітрук,— пішы, а я яго знайду, скажу, што ты паслаў. А потым дай мне паперкі, і я табе запішу бабін адрас. Ты ўжо, братко Алесь, зрабі ласку, напішаш ёй, што я жывы, што і я, скажы, хутка прыйду. Хоць вадою, па Нёмне пашлеш, а пашлі...

Руку ціскае на развітанне, а ў вачах ажно слёзы.

— Нічога, Зміцер. Тут, браце, трэба толькі старацца, трэба толькі хацець. І, прабач мне,— трэба пакуль што маўчаць. Я — як табе, а ты глядзі — Антановіч і ўсё, больш не ляпай.

— А братко, што ж я, блазан які, што я — жыць не хачу?..

Алесь правёў земляка да дзвярэй і, пакуль ён павольна спускаўся па ўсходах, па-конску грукаючы чаравікамі, сумна глядзеў яму ўслед.

На апошняй прыступцы той азірнуўся, яшчэ раз

цапнуў шчопцамі за доўгі, ломаны казырок і, замест добрых слоў, усміхнуўся — шырока і родна.

Ужо, здаецца, не смяцюх...

## 2

«Значыцца, сёння,— думаў Алесь, яшчэ ўсё прыпёршыся да вушака адчыненых дзвярэй.— Сёння апоўначы... А як гэта цяжка — чакаць, і як гэта радасна, трывожна — рыхтавацца да палёту!..— Ён усміхнуўся: — I як гэта брыдка, што ты вось, і сапраўды як баба, не вытрываў, ляпнуў...»

Пра гэта ведалі пакуль што толькі самі яны, найбліжэйшыя, і Цярэнь.

Ёсць такое рашэнне: Алесю і Андрэю вырушыць у разведку. Прабяруцца — дадуць сігнал, што і як. Пісьмы ўжо з таго боку пайшлі. Пакуль што толькі з прыгранічных пунктаў: з Гродна, з Брэста, з Беластока. Хто застаецца, будуць выкручвацца ад Бязмена і паліцыі: «Мы што, мы і не думаем. А тыя два — блазнота, яны ўжо не першы раз уцякаюць...» А потым — і самі...

Ну, а пры чым тут каля іх, даўно і добра здружанай, кампаніі Цярэнь?

Ды проста пры тым, што ад яго цяпер нічога не схаваеш. Ён ужо другі тыдзень жыве ў іхнім пакойчыку трэці. Цяпер ужо Грубэр не цырымоніўся з імі, як да вайны з Саветамі,— узяў ды ўсяліў ім трэцяга, Цярэняў пакойчык здаўшы рабочаму-немцу. I хлопцы не бунтаваліся: ім і нядоўга тут засталося сядзець, ім патрэбна і асцярожнасць.

«Такая, як у цябе?..— ужо без усмешкі падумаў Алесь.— Рассаладзеў... О, чуеш, яшчэ адна ідзе!.. Скажы і ёй. Гэта ж так чалавечна будзе, так хараша выйдзе ў цябе па-нямецку: «Auf Wiedersehen, Heimat ruft» [1].

Яна ішла сюды — Марыхен. Гэта яе казінае туп-туп пачулася знізу. А вось і сама. Сур'ёзная, светлая, з чыстай пасцельнай бялізнай на левай руцэ.

— Добры дзень,— павіталася... ну, зусім афіцыйна.

---

[1] Да пабачэння, радзіма кліча!

— Добры дзень. Як жывеш, Марыхен?

— Дзякую. Добра.

Ясна — яшчэ ўсё не мае вока.

Не ладзілася ў яе чамусьці з прыбіраннем іхняга пакоя. Яшчэ як жылі яны з Андрэем удвух. І так бывала, што, вярнуўшыся з работы, хлопцы заставалі падлогу не падмеценую, вядро на калідоры — пустое... Ну, добра, ложкі мы і самі засцелем, вады таксама прынясём, але ж чаму такая няўвага? Няўжо і гэтае бядняцкае дзяўчо ўжо навучылася не лічыць іх за людзей? Убачыўшы на фольксфэсце Марыхен з флігерам, Алесь назаўтра ўпікнуў дзяўчыну за непавагу да іх. Яна зачырванелася, але змоўчала. А потым хлопцам, калі прыгледзеліся лепш, стала ясна, што ёй і сапраўды няма калі дыхнуць...

Дзяўчо перасцілае ложак і маўчыць. Перахілілася далёка, аднак з боку відаць, як па губках яе пагульвае ўсмешка.

— Марыхен!

— Ну што? Забыўся, як я называюся?

— Чаго ты на мяне злуеш?

— А чаму ты такі... нядобры?

— Я?

— А што, па-твойму, я?

— Ну, не такі ўжо я, калі падумаць трохі, і дрэнны. Мы проста добра не ведалі, што табе тут так многа работы, што Грубэры твае такія павукі. Мы думалі — ты так гэта з намі, як з палоннымі... І ты не злуй. Што, не злуеш ужо?..

Яна не вытрывала, засмяялася.

— Хочаш мяне на ручкі ўзяць? [1]

— Ты скажы толькі: не, або хоць галавой кіўні, каб я ведаў, што ўжо не злуеш.

І што ж — дзяўчына не сказала «не», а галавой кіўнула. Прычым яшчэ цікнула спадылба і зноў пырснула смехам. Алесь — таксама.

— Ох, так! — уздыхнула Марыхен, міжвольна, па даўняй прывычцы пераймаючы бацьку. І, каб сказаць хоць што, сказала: — Lachen, Alex, ist gesund! Oh, ja! [2]

— Ты ведаеш, Марыхен, што,— пачаў ён раптам,

---

[1] Нямецкая прымаўка. У сэнсе: не лічы мяне малой.

[2] Смех, Алесь, гэта здароўе. Ох, так!

з нейкага натхнення, пра другое.— Я табе меўся штосьці сказаць. Пра аднаго цудоўнага чалавека.

— Ну што? — як быццам насцярожана, спыталася яна.

— А не будзеш ніколі злаваць?

— Дык я ж сказала.

— Ну добра. Слухай. Неяк твой фаці быў тут у нас...

Ён здзіўлена заўважыў, што яна зачырванелася, аднак не спыніўся.

— І фаці твой гаварыў нам, Марыхен...

— Гэта мне, калі ты хочаш, зусім-зусім не цікава. Гэта цябе, калі хочаш...

З двара пачуўся так добра знаёмы, такі ўжо агорклы голас:

— Мар-ры!..

Але цяпер ён прыйшоўся, відаць, якраз у пару. Марыхен кінула, як трымала, падушку на ложак і міма Алеся, хаваючы твар, пабегла з пакоя. У дзвярах зачапілася фартушком за кручок і нечакана для Алеся, упершыню пры ім і з прыплачам успыхнула:

— Са-кар-мэнт!..

Чамаданы ляжаць у парозе, адзін на адным. У іх — па булцы хлеба ды па кавалку крывянкі, узятай на ўсю картачку, авансам. Там і рабочая вопратка — вайсковая форма, у якой яны выйшлі са шталагу. І пакідаць шкада, і хлеб з каўбасой не будуць так грымець.

Ляжыць у ложку і Цярэнь, якому нават як быццам зусім хоць бы што іх сённяшні ад'езд. Цяпер ён толькі і даведаўся, што едуць яны сёння. «Двое паедуць, а больш застанецца тут, так што ты, брат, глядзі,— я нічога не знаю, не ведаю». Так яго далікатна і папярэдзілі. І ён маўчыць, адвярнуўшыся.

А ўцекачы сядзяць пакуль што, да цягніка, каля зацемненага акна і ціха гутараць.

Гаворыць, як заўсёды, больш Алесь.

— Ну, тое, што яны, каб не закон, самі да нас чапляліся б, дык гэта, браце, факт. На «крыштальгляс» у Нойштадце, было іх — цэлы бабскі свет. Апоўдні, як са сталоўкі выйдуць, дык так і глядзяць, каб снежкамі з нашымі зачапіцца. Хоць майстры, як тыя еўнухі, то

зіркаюць на іх, то лаюцца. Чорныя, рыжыя, белыя фройляйн — усе як агонь. Белых тут, праўда, менш, чым было ў Памераніі. Толькі вось наша Марыхен. Ды гэтая — не тое... А там сцервы распусныя ёсць, языкастыя. Як і на «Дэтагу», зрэшты. Такая модненькая, у культурным халаціку, а ідзе ў перапынку па цэху ды крычыць па-нашаму, хтосьці толькі што навучыў: «Хотшаш — дам! Хотшаш — дам!..» Было аднойчы і горш...

— А што там горш? — не вытрымаў Цярэнь, лёг на спіну.— Прырода да прыроды цягне. Хе, хе, хе! І нашы хлопцы — малайцы, каторы не дрэмле ў шапку. Ты вось, Руневіч, я чуў, пра Марыхен: «Гэтая — не тое... Паміріўся я сёння... Чагосьці заплакала...» А ты зірні лепш, як яна бегае за тым салдатам. Ты раз вотаго флігера бачыў, а мне... мне гаварылі, што ён яе водзіць штовечар. Ты думаеш, яны там моляцца?..

Мужчына пад сорак, гладзенькі, чырванаморды, ён ляжаў на падушцы, як пасля лазні, і шчасліва, нявінна ўсміхаўся.

— Ну, ну і далей што? — спытаўся Алесь, ціха, прыплюшчыўшы вочы пад зведзенымі светлымі брывамі.— Што ты нам скажаш яшчэ?

— А што мне казаць! Б'юць — уцякай, даюць — бяры, не даюць — пастарайся.

— І многа ж ты па-ста-раў-ся? — спытаўся Мазалёк.

— А ўжо ж больш за цябе!

— Табе, дзядзька, не гэтае трэба. Там, можа, хлеба кавалка няма, сядзяць, можа, на попеле... Дзяцей жа, сам гаварыў, поўная хата. Пайдзі хоць лапцікі на зіму папляці...

— А што табе? — прыўстаў на пасцелі Цярэнь.— Можна будзе, дык і пайду. Паглядзім яшчэ, як ты выскачыш, як табе чамаданчык паможа! І там не разгуляешся, позна, немцы і там. Не пазухуеш доўга — за хіб ды сюды!..

— А ты што — будзеш рад?

— Што мне за радасць! Хоць ты сабе галоўку скруці, падумаеш!..

— Ведаем мы вас, такіх прападобных. У адным «інтэрнацэ» хапае. І навязваць не трэба, хоць і ўпро-

галадзь жывуць. А ты ж ад'еўся тут, як Мурза ў падле, ты...

— А што, што я зрабіў табе, карантыш ты, чаго ты?..

— Зра-біў... Вазьмі зрабі. Пайдзі заяві на нас, яшчэ не позна. Грубэр дасць мяса — сто грам без картачкі. Бязмен у Берлін напіша, у сваё прад-стаў-ніц-тва. Героем будзеш, маць твая сена не ела!..

— На чорта ты мне здаўся, жаба ты! І праўду хлопцы казалі на вас, што парнішкі!..

— Ты нам гэтым не думай дапячы,— узняўся Мазалёк.— Мы самі ведаем, ад чаго мухі дохнуць. Парніш-кі... Табе хацелася б можа, каб і мы з вамі немцам с... лізалі, у карты рэзалі ды па б... хадзілі?

— А дзе ты бачыў мяне там?

— Дзе ба-чыў... Ты ж у нас пан, культурны тата. Табе гэта нявыгадна. Ты да Эрны схадзі. Ці сёння Карначова чарга?

— А ты зраўняўся з Карначом? Ён хлопец абразованы. Жыве сабе, і ўсё. Ці з Самацэвічам, можа, зраўняўся, хоць ён, па-вашаму, і Бязмен?..

— Ды ну вас к чорту! Хоць ты акно зачыняй.— Алесь перастаў хадзіць.— Пакінь, Андрэй!..

— Тут ужо, брат, не да міру,— адмахнуўся Андрэй.— Ты з ім, гадам... Табе,— прыцішыў ён голас ледзь не да шэпту,— табе таксама, можа, чорт іх там бяры — на фронце, нашых?..

— А што ж ты думаў? — сеў нарэшце на ложку Цярэнь.— Мне таварышы твае трэба? Што я бачыў ад іх? Што бабу маю загналі ў калгас? Дзе мне добра — там і маё! Падумаеш — ён з немца смешачкі знайшоў, пабратаўся!..

— Ну, дык ты... ляж, адвярніся і храпі! Хоць ты тут захлыніся разам з тваім Грубэрам! Мы без смаркатых абыдземся.

— У цябе яшчэ не спытаўся, што мне рабіць? Ты другі яшчэ... ведаеш, дзе быў, калі я...

Ён не скончыў, бо раптам, зусім нечакана — шась!— адчыніліся дзверы, і на парозе з'явіўся даўжэзны няўдаліца Герман, Грубэраў сын.

— Марыхен тут? — спытаўся ён.

— Добрыя людзі стукаюцца, а не лезуць, як вы,— сустрэў яго Алесь.

— У цябе не пытаюцца. Гэта наш дом.

— А вы і падкрадаліся, відаць?

— Баяцца, думаеш, буду вас? Сакармэнт! Я пытаюся: Марыхен тут?

— Ты хворы, чалавек, ці што? Чаго ж ёй тут быць?

— А ты не пляці! Фатэр казаў... Ёй трэба спаць лажыцца, а не бегаць, як сучцы. Яна, здаецца, пабегла сюды. У Эрны Грап яе няма. А заўтра ёй рана ўставаць!..

— Ну, а нам што да гэтага? — яшчэ ўсё спакойна спытаўся Алесь.

Ды тут не вытрымаў Мазалёк.

— Ты што, прыдурак, bist du blind? [1] — на дзвюх мовах выбухнуў ён.— Сам паглядзі, калі не верыш!.. Suchen! Suchen! Selbst! [2]

— І пашукаю. Ты думаеш...— Герман зірнуў пад ложак, пад другі.— Яна павінна працаваць. Цяпер вайна...— Падрапаўся за дзверы шафы, хочучы адчыніць.— Ключ дайце, вы! А то я фатэру скажу!..

— Ну ж і страшна — а-ёй!..

— Ці, можа, вам, бандыты рускія, у гестапа захацелася?

— Ах ты курач, курач! І ён яшчэ...

— Андрэй,— перасцярог Алесь. І ў тоне яго голасу пачулася: «Апошнія гадзіны, пацярпі!»

— Я вас пытаюся, дзе ключ?

— Можа, у яго?

— Дык што ж гэта, Тшарэнь? — адвярнуўся Герман ад шафы.— Ты наш работнік, ясі наш хлеб...

Тут Мазалёк заўважыў на стале ключ, спрытна і незаўважна адамкнуў шафу і ключ палажыў на ранейшае месца.

— Чаго яны, чаго? — усхапіўся Цярэнь.— Ключ у мяне? А можа, ён у іх!

Узгарэўся яшчэ больш і Герман.

— Што вы, жартачкі строіць з мяне? Хочаце, можа, каб я вам паказаў, што такое немец?..

— Ды не, не трэба паказваць,— амаль спакойна адказаў Алесь.— І ты не гарачыся, бо выйдзеш на двор, прастудзішся і памрэш. А што тады скажа фа-

---

[1] Ты сляпы?
[2] Шукай, шукай! Сам!

тэр? Ты лепш паспрабуй яшчэ раз адчыніць. З усёй нямецкай сілай. А што?..

З дурнавата-збянтэжаным выглядам Герман узяўся за ручку дзверцаў, тузануў, адчыніў іх, тыцнуўся ў шафу і зноў зачыніў.

— Ну, бачыш,— яшчэ ўсё нібы спакойна гаварыў Алесь.— А Марыхен няма. Пойдзеш ужо? Шкада. Скажы гутэ нахт, не забудзься.— І закончыў па-беларуску: — Апора тылу, ёлкі кашлатыя!..

Усё гэта, аднак, ні крышку не кранула Германа. Выйшаў, не зачыніўшы дзвярэй, і неўзабаве пачулася, як ветліва ён стукаў у суседнія дзверы, дзе, у былым Цярэневым пакоі, жыў кватарант-арыец.

— Стопрацэнтны расовы нардыцкі нутрэц,— сказаў Алесь, зачыніўшы дзверы.— Шкада, што ён ужо, відаць, не дасць для фюрэра прыплоду.

— От радыя! — аказаўся з пасцелі Цярэнь.— Насмяяліся з чалавека і радыя. Ін-ці-лі-ген-цы-я!..

— А ты дагані яго, пашкадуй! — буркнуў Андрэй.— Каб не падумаў, што і ты...

— На вось табе! — зусім па-бабску, з жэстам, адказаў Цярэнь.

— Ох, ляпнуў бы я табе, ляпнуў...

— Пакінь, Андрэй. Годзе ўжо, абрыдла!..

Калі патушылі святло, Цярэнь перачакаў адну, яшчэ адну хвіліну цішыні, пасля ж такі не вытрываў:

— Што, не казаў я? Ма-ры-хен, шма-ры-хен... Сама пабегла. Ты бабу гэтым не страш! Нявінныя, чыстыя вочы... Пар-ніш-кі!..

І засмяяўся, з брагаю ў горле, шчасліва.

## 3

Тып гэты — з тых, як гаворыць Андрэй, «землячкоў», якім пашанцавала натрапіць на цёплае месца, прыжыцца там і нават трохі «распанець».

Карты і п'янства Цярэню не падыходзілі. Культуру ён смакаваў у танным франтаўстве і ў лёгкадаступным, не разыкоўным каханні. «Спраўнейшы, чым ва ўсіх», хоць і тандэтны, касцюм, светла-зялёны, порткі — «помпы» з гольфамі; «зусім як залаты» ланцужок гадзінніка-штампоўкі, на ўсю даўжыню выпушча-

ны з камізэльнай кішэнькі; туфлі жоўценькія, капялюш. Карак і пуза, даволі грунтоўна нажытыя пры каўбасах. І фанабэрыстасць, якая проста чортведама адкуль узялася ў гэтага ціхага, як здавалася раней, у шталагу, непрыкметнага дзядзькі з-пад Ліды.

У папярэдняга гаспадара, таксама каўбасніка, Цярэню ўдалося падкаціцца да самое фраў Брэквольт, гаспадыні. Там ён, галоўным чынам, і падгладзіўся, там прыйшла да яго і ўпэўненасць, што немкам такія, як ён, падабаюцца. Аднак на другім месяцы яго кахання, калі ўжо Цярэнь і зусім асмялеў, чорны, каржакаваты гер Брэквольт падпільнаваў яго, нарэшце і застаў. Свайму цудоўнаму работніку ён спачатку заехаў па карку, пасля, у немым узлютаванні, цяў нагою пад зад, размахнуўся яшчэ раз, ды той кулём зляцеў па ўсходах наніз, прывёў сябе трохі ў парадак і знік у цемры і цішыні.

Вінаватая фраў, шмат маладзейшая за свайго рагача, на каленях прасіла не ганьбіць яе — не заяўляць у паліцыю і не пісаць нічога сыну на фронт. І таму толькі Брэквольт не зрабіў з гэтага скандалу, а проста ціха, за кухлем піва збыў Тшарэня Грубэру, які прыняў такое за сяброўскую паслугу.

На новым месцы Цярэнь, акрыяўшы ад страху, падсунуўся быў нават да Грубэравых прадаўшчыц, якія спачатку самі, блазнючкі, заігрывалі з ім. Але аднойчы чорненькая Траўтль, што здавалася якраз найбольш падатлівай, пастрашыла яго ўсур'ёз паліцыяй, а потым яшчэ і расказала пра тое «прызнанне» Ірме і Марыхен. І ўсе яны хіхікалі з яго.

А ён сышоўся з Эрнай.

І ўсё гэта рабілася ў той час, калі дома ў яго хата пацякла яшчэ два гады таму назад, а баба яго, драпежная да працы цётачка, адна ўжо трэці год тузаецца з бядой, надгаладзь гадуючы пяцёра дзяцей і нямоглую свякроў. Кожны раз, калі з пошты прыносілі доўгачаканае пісьмо, яна амаль заўсёды ад спеху не так разрывала канверт, каравымі ад работы далонямі разгладжвала на стале скупы лісток запісанай каракулямі паперы і праз даўно гатовыя слёзы зачытвала малым і старой, што іх тата і сын: «благадара богу яшчо жыф, і здруф, а дадому начальства пака не пускаець...»

Так бывала раней, пакуль не пачалася нямецка-савецкая вайна. А сёння — хто ведае? — можа, фюрэр ягоных гаспадароў агнём і кулямі паклапаціўся, каб «Тшарэнева» хата больш не цякла, а Параска не плакала?.. А можа, пераседзела буру ў баразне, квактухаю, і плача зноў, пакуль што дарма чакаючы з тое Германіі хоць бы славечка?..

Калі Алесь і Мазалёк усталі з крэслаў, каб ужо ісці, і, не ўключаючы святла, узялі свае чамаданы, Руневіч не стрываў:

— Цярэнь! Самусік, ты чуеш?..

— Шчасліва,— буркнуў той, не адварочваючыся ад сцяны.

— Шчасліва то шчасліва. Дзякуем. А ты глядзі, я табе яшчэ раз гавару. Сварка — сваркай, гара, брат, з гарой не сыходзіцца... Сустрэнемся яшчэ: калі не там, дык, чаго добрага, і тут. Дый нашы хлопцы застаюцца. Ты мяне чуеш?

— Я ж не малы. Я да цябе нічога не маю.

— Ну, а Андрэй як-небудзь перажыве... Будзь здароў. І не дурыся — вяртайся дахаты. Ты не глядзі...

Ён не скончыў, бо знізу, праз адчыненае акно, пачуўся раптам так добра знаёмы жаночы голас:

— Мар-ры! Мар-ры, ком гір!..

Хлопцы паставілі чамаданы і падышлі да акна.

Ад сцяны Грубэравага дома, добра прыкметныя ў рэдкім змроку, аддзяліліся дзве постаці, мужчына і жанчына, і хутка перайшлі вуліцу, пад цёмную засень сквера. Адтуль неўзабаве зноў пачуўся уладны голас фраў Грубэр, пляск рукой па спіне, раз і другі, і вуліцу зноў перайшлі да пад'езда дзве постаці. Жаночыя. Першая, у светлым, нават перабегла.

— Вы, майн гер, павінны ведаць, здаецца, калі вы, зразумела, культурны чалавек, што дзяўчына — не ваша, а наша, што яна павінна не з салдатамі валачыцца, а спаць і назаўтра рана ўставаць да працы... З-зо!

— Чаго ты хочаш, mein alter Freund? [1] — стрымліваў абурэнне другі, маладзейшы голас.— Ты хочаш,

[1] Мой стары друг?

каб я не паглядзеў на твае гады і паказаў табе, сакармэнт, што такое нямецкі салдат?

— Для мяне гэта — глупства, майн гер! Вы яшчэ вельмі малады для гэтага. Не забывайце, што я нацыянал-сацыяліст, што я і сам быў нямецкі салдат, сам ваяваў за Германію, з-зо! Я добра ведаю, што не ў гэтым ваш абавязак, майн гер, перад фюрэрам і радзімай, каб цягаць па кутках маладзенькую дурную дзяўчыну, якая не ваша, а наша. З-зо! І ваша шчасце, майн гер...

— А-дольф! — пачуўся ад сцяны ўладны жаночы голас.— А-дольф! Ты што, здурнеў?

Фраў Грубэр зноў перайшла цераз вуліцу на сквер. Што яны там гаварылі ўтраіх, даўгавата, прыцішана — адгэтуль, з акна, цяжка было разабрацца. Потым з цемры на супрацьлеглы тратуар выйшлі тры постаці.

— Вось так,— пачуўся жаночы голас.— Я пайду, Адольф, а ты можаш сабе пагутарыць з маладым чалавекам. Толькі ж не так несалідна, мой мілы. Спакойнай ночы!

— Спакойнай ночы, фраў Грубэр!

Мужчыны засталіся адны. Яны памалей перайшлі на гэты бок і спыніліся трошкі лявей ад акна, праз якое іх чулі.

— З-зо! — пачаў пасля паўзы старэйшы.— Я спадзяюся, майн гер, што вы прабачыце старому салдату. Нервы, праклятыя нервы. Я ведаю маладосць. Я сам быў салдат. Карпаты, Галіцыя. У Францыі таксама быў. Закурвайце, прашу. Вось агонь. Гэта яшчэ перадваенная цыгара, для сябе толькі прыпас. Дык, значыцца, я быў таксама салдат і ведаю. Вы цяпер адпачываеце пасля ранення, у тыле, і салдат, майн гер, заўсёды салдат...

— Прыма цыгара! — перабіў яго малады.— А з гэтай фройляйн вам не варта ўзнімаць столькі шуму. Хто яна — ваша дачка, унучка, пляменніца? Што ёй зробіцца?..— Ён прыцішыў голас да шэпту і нават, пазней, засмяяўся.— ...І ў Югаславіі... Я скажу вам для прыкладу. Там — між намі, зразумела, кажучы — з такімі справамі рабілася проста і акуратна. Для нас наладжваліся аблавы на дзяўчат. Натуральна, прыгожых. Югаславянкі — прыма жанчыны, майн гер, асаб-

ліва ў Далмацыі. Наша начальства старалася. Зрэшты, вядома, як і ўсюды. Салдат ваюе за бацькаўшчыну, а бацькаўшчына думае пра свайго салдата. Праўда, тут, дома, мы самі павінны думаць пра гэта... У вас іх тры, а вы, майн гер, за адну — такі шум!..

— Я казаў ужо: нервы, праклятыя нервы. З-зо!

— Я разумею. Таму і не злуюся... Цяпер мы хутка вырушым на Усход. Рабіць гарачую зямлю. Ну, і паспытаць, вядома, што там за смак будзе з рускіх жанчын!..

Казённыя вочы...

Яны і тут — унізе, пад акном. З халоднай, вопытнай нахабнасцю...

— Слухай,— шапнуў Алесь.— Крэслам зверху, пустой бутэлькай, ці што?

— Ішлі б яны к чорту, спознімся праз іх...

Не спазніліся. Але часу засталося ў абрэз.

Ніхто іх, зразумела, не праводзіў. Нікога знаёмага не сустрэлі. І тут няма. І трэба пачынаць...

Алесь падышоў да акенца касы і, не заглядваючы, як мага незалежней сказаў:

— Два да Сувалак.

І працягнуў у акенца маркі.

Трасца табе, нямецкая акуратнасць! Фройляйн з рыжымі буклямі ўзяла — ён убачыў, прыгнуўшыся — вялізную, тоўстую кнігу, разгарнула яе, павадзіла пальчыкам па старонцы... Узяла другую кнігу... І вось нарэшце:

— Няма ніякіх Зувалькі. Was wollen Sie doch? [1]

Вырашалі і момант, і тон. Не трацячы яго, Руневіч засмяяўся і сказаў:

— Прабачце, фройляйн, за няўдалы жарт. Мне, вядома, два да Берліна.

«Далей — бог бацька... Далей — бог бацька»,— стукала сэрца.

Малы, насаты франт пад цірольскім капелюшом — Мазалёк, як па ролі належала, важна маўчаў.

---

[1] Што ж вы хочаце?

— Два да Берліна, прашу. Да адпраўлення, майнэ герэн, толькі тры мінуты. Вашы жарты...

Больш не было калі слухаць.

## 4

Які ты бедны, і брудны, і свой!..

За два гады... якое там! — за дзвесце год нашай тугі ты не змяніўся ані трошкі.

Старая кепачка з тройчы паломаным казырком, універсальная памочніца пастушка. І матыля накрыць на кветцы, і вады зачэрпаць там, дзе цяжка перагнуцца з берага, і яблык з чужога саду накрасці... Яна прарвана нейкім незразумелым спосабам, прахуджана, як бацькоўская страха, і з шэрай тканіны вiдаць саламяны пучок валасоў, якія даўно пара і памыць, і пастрыгчы. Картовая кашулька, таксама ўжо вераб'інага колеру. Шарачковыя портачкі (куды там тая чартакожына па носкасці!) і шматпакутныя ножкі — таксама шарачак, толькі з крывавымі цыпкамі. Яны, твае ногі, стаяць не проста так сабе, а нібы ўрослы ў траву. А вочы з-пад саламяных брывей — у свеце сваім хітрыя, вясёлыя і злосныя,— вочы глядзяць насцярожана, палахліва...

У межах вялікага рэйха — наш, беларускі, пастушок.

— Скажы нам, хлопчык, дзе тут граніца?

Дзядзькі ў капелюшах, з чамаданамі. Што яны хочуць, паны? І адкуль яны, хто?..

— Ты правядзі нас. Каровы паходзяць і самі. Мы табе на цукеркі дамо. Во, пяць марак. Не хочаш?.. Ну, маме аддасі. Бяры.

Малая рука пацягнулася недаверліва, узяла і заціснула ў жменю старую, ужо не хрусткую паперку.

Тады ножкі рвануліся з месца і замільгалі пяткамі па выкручастай сцежцы ў верасе, паміж бяроз і сасонак. Не ўцякаючы, пэўна ж, а клічучы за сабой.

І вось яны, палонныя, бягуць за ім — з ужо недарэчнымі тут чамаданамі, у недарэчных касцюмах, капелюшах,— бягуць і не здзіўляюцца, навошта бегчы ў гэтай зялёнай, неверагодна ціхай пустэчы, чаму ім нельга ісці, заміраючы ад шчаслівай трывогі?..

Ды пяткі мільгаюць над сцежкай, у шырокіх рас-

трубах калашын, карэлыя пяткі і насцярожваюць, і смех варушаць у душы, і клічуць.

Лес быў — як лес, неба — як неба, ды хлопчык, як ён раней сарваўся з месца, так і спыніўся — раптам.

Узлесак? Паляна? Шырокая просека?..

А-а, гэта ж яна ўжо — нейтральная паласа!

— Вунь! — прамовіў нарэшце малы.— Там ёсць дзірка пад дрот. Мая мама хадзіла да цёткі, туды, у Саветы. І я хадзіў з ёю. Бо немцы дарогай яшчэ не пускаюць. І ездзяць жандары, глядзяць, каб граніца стаяла...

Ён ірвануўся зноў, і пяткі зноў замільгалі — на захад.

Кантрольная паласа ўжо зарасла свірэпай. А дрот — яшчэ не вельмі ржавы, калючы дрот ужо мёртвай граніцы — стаяў, цягнуўся з поўдня на поўнач, нібы забыты...

Жывая граніца двух светаў — граніца з агню і крыві — адкінута аж за Дняпро. А мёртвая яшчэ паўзе. І нават, хлопчык кажа, кантралюецца.

Ды ўжо яна — не непрыступная. Дзве ніжнія драціны нацягнуты ўверх і закручаны за вышэйшыя. Нядаўна тут хтосьці пралазіў з дзяржавы ў дзяржаву... не, проста з вёскі ў суседнюю вёску. Можа, і наш праваднік. Якраз тут, можа, поўз за мамай да цёткі ў госці.

Няма ўжо тут ні пільных вачэй у лістоце, ні сабачага, пакутліва зацятага ў сабе паскавытвання, ні агню і металу — апошніх для парушальніка.

Толькі вось слуп — паласаты чырвона-зялёны слуп з савецкім гербам...

Гэта ўжо там, на родным беразе, калі яны прапаўзлі пад дратамі, штурхаючы перад сабою зноў, яшчэ больш недарэчныя чамаданы.

Герб на слупе — знявечаны аўтаматнай чаргой.

Задыханы Алесь, трымаючы ў руцэ свой капялюш, які быў зачапіўся ў дроце, падышоў да слупа і нібы ўспёрся на яго свабоднай рукой, нібы пагладзіў, руку затрымаўшы на ім. Нават выдыхнуў ціха:

— І што ж ты так падкачаў?..

— Пайшлі, Алесь. Чорт ім верыў. Давай у лес. Найдалей.

Адразу столькі слоў,— пасля маўчання і тут, і на-

огул за гэтыя дні, калі Андрэй быў у ролі маўклівага немца.

Яны ішлі драбналессем, даволі доўга і хутка, потым збочылі ў гушчар, прыселі на абрыдлых, крохкіх чамаданах.

— Кінуць бы іх! — сказаў Андрэй.— І кепкі надзець бы.

— Пі, браток, цішыню.

— Я і вады сербануў бы.

— Пі пакуль цішыню... Пакуль пяткі мільгаюць ды колы татахкаюць у галаве... Ах, Мазоль, Мазалёк! І сiганулі ж мы з табой за гэтыя тры дні! Ажно не верыцца. Гэта табе не «кола» чэшскае, не нашы з Бутрымам ногі!.. Тэхніка, геаграфія і бяссонніца... І трывога!.. Куды б нас ужо запякалі цяпер, каб злавілі? Штрафною ротай не абышлося б.

— Не радуйся. Рана.

— А дзе Сяргею напішам? «Пад цітламі, ёлкі кашлатыя!..» Аўгустова ў нас застаецца правей.

— Да Гродна тупаем. Так, брат, няма яшчэ чаго пісаць. Баюся, што там яны глядзяць пільней, чым дома. Хоць і трыумф, а орднунг усё ж такі будзе.

— Ну вось. А чамаданы, кажаш, кінуць? І капелюшы? Глядзі, каб не прыйшлося табе памаўчаць і за Гроднам, не толькі ў Гродне. Пакуль не дабяромся... Эх, лягу я — як на мамінай печы!.. Лажыся і ты. З паўгадзінкі...

Ён расцягнуўся ў верасе і ўнурыўся гарачым тварам у падкладзеныя рукі.

У цішыню праваліўся, у невыразны верасовы пах, і земляны, і любы.

Аднак панёс туды свой неспакой і трывогу напружаных дзён...

## 5

Сувалак у тоўстым чыгуначным даведніку не знайшла ім і берлінская фройляйн-касірка.

Яшчэ раз давялося весела перапрасіць за жарт і сiгануць на Кёнігсберг.

Чаму ж такі круг — на Сувалкі, а не прасцей з Баварыі — на Брэслаў ці на Кракаў?

Так прадугледжваў іхні калектыўны план. «Гон-

чыя пісьмы» пойдуць за ўцекачамі, трэба думаць напрасткі. Па-другое, практыка паказала, што на акупіраванай зямлі, у той жа Чэхіі ці ў Польшчы, аслабіўшы пільнасць, пападзешся хутчэй, чым у самой Нямеччыне, дзе мала каму ўзбрыдзе ў галаву — і ў вагоне, і на вакзале — пацікавіцца іменна гэтымі двума. І трэцяе — калі адзін з іх маўчыць, баючыся за мову, дык другі час ад часу гаворыць...

Так і было. Андрэй толькі адбурквaўся якім-небудзь «natürlich», «jawohl» ці «bestimmt»[1], а то ўсё больш «чытаў», і часопіс, і кнігу, ды пазіраў у акно. І так хацелася, гледзячы на Мазалькову важнасць, сарваць з ягонай галавы новенькі маскіровачны капялюш, хукнуць з-пад нізу і пляснуць аб столік ці аб падлогу!.. Або, далёка затаіўшы ў сабе і заўчасны, і проста блазенскі і небяспечны смех, спытацца:

— А дзе ж усё-такі, май лібэр гер, падзеліся Зувалькі?..

У Кёнігсбергу на вакзале яны шчасліва сустрэлі земляка, «энтлясана», з павязкай на нейкім чэшскім мундзіры, і хлопец расказаў ім, што Сувалкі — даўно ўжо Зудаўэн, што ад Сувалак можна яшчэ не ісці пехатой, а вельмі проста рызыкнуць да станцыі Шчэпкі. І сам ён хутка рызыкне, вось толькі трохі прыадзенецца...

А рызыка, як аказалася, была.

Іменна там, пасля фатальнага Зудаўэн, ноччу наскочыла праверка дакументаў. Першая.

І там, калі ў Алеся і былі акцёрскія здольнасці, дык яны ўвачавідкі паблеклі побач з Андрэем.

«Маўклівы немец» драмаў у вагоне прыгараднага цягніка, або — дакладней сказаўшы — зусім падобна драмаў, устрывожаны гутаркай пасажыраў, мясцовых палякаў, пра тое, што будзе праверка. Калі і да яго падышлі вусаты кантралёр і праваднік з ліхтарыкам, і, як для пераможцаў, даволі ветліва раскатурхалі яго для прад'яўлення дакументаў,— Андрэй з зусім такі непераймальным спакоем і саліднасцю мільгануў з-за пазухі сваёй «энтлясанскай» паперынай у разгорнутых вокладках і зусім, ну, проста ідэальна па-нямецку нездаволена буркнуў:

---

[1] Натуральна, але, бясспрэчна.

— Was ist denn los? Ich bin doch kein Pole, meine Herren![1]

Кантралёр па-старэчы нядбайна казырнуў і, крактануўшы, спытаўся ў Алеся:

—Und Sie?[2]

Руневічу прыйшлося толькі паўтарыць і жэст, і соннае бурчанне — трошкі інакш, па-свойму, а ўсё ж паўтарыць.

Потым ужо замільгалі над сцежкай пяткі...

А перад гэтым — тры дні і тры ночы — грукалі колы...

Праўда, быў яшчэ раз, пасля паездкі ў паўпрэдства, Берлін, быў незнаёмы Шчэцін, была і Гдыня, і мора на даляглядзе, Гданьск. Усюды — толькі вакзалы, без выхаду ў горад, а то і з вагона. І ўсюды грукат колаў, трывожны, насцярожаны, горкі — як тая праклятая «Гэгэн Руслянд»!..

Той бяздарны, прымітыўны, крыклівы марш, пад які — на экране — ідуць, скаляць зубы істоты, што дома былі хто чалавекам, хто свіннёй, хто нелюдзем, а тут, на гэты бок нашай граніцы, сталі толькі забойцамі, рабаўнікамі.

Казённыя вочы, звярыны гогат, пякельны лямант *іхняй* музыкі.

*Іхняй* — толькі фашысцкай.

Не той, нямецкай, якую калісьці — па песнях Моцарта і Шуберта — вучыла любіць дарагая, далёкая пані Ванда...

Два тыдні таму назад, у нядзелю, Алесь, Крушына і Андрэй трапілі ў парку на канцэрт прыезджай артысткі.

Больш таго — ім удалося нават сядзець бліжэй да адкрытай эстрады, бачыць яе, спявачкі, прыгажосць, святло яе натхнення.

Стройненькая шатэнка ў чорным, велічна-доўгім плацці, з якога і нявінна і хвалююча глядзелі пяшчотнасць шыі, плячэй, белых точаных рук, подступаў да таямнічай спакусы... Іменна там, над яе грудзьмі чар-

---

[1] Што там у вас? Я ж не паляк, панове!

[2] А вы?

неў на ланцужку пакорлівы і строгі крыжык. І рукі былі складзены, як на малітву.

Над урачыстым, ціхім уздымам скрыпак аркестра, у непарушнай цішыні лістоты і блекла-блакітнага неба высока над дрэвамі парка, пад слёзы мужнага і па-дзіцячы чыстага захаплення — у яго, Алесевай, душы — яна плыла, непараўнана чароўная «Ave Maria» вялікага Шуберта. Не малітва, не песня — высокі, сардэчны, непераможны гімн мацярынству!.. Не важнае тут... ну, не галоўнае былі словы. Два з іх толькі і хвалявалі Алеся найбольш — шырокае на ўсю душу і поўнае самай дзіцячай, нявіннай пяшчотнасці доўгае і глыбокае ave — жыві, і імя — простае ўсюды і ўсім дарагое...

Тры пачуцці, тры вобразы ажылі ў яго памяці пад гукі музыкі.

Усяночная ў іхнім мястэчку. Высока паднятае, прагна-вясёлае полымя клубкоў-паходняў, за бясконцыя тыдні вялікага посту навітых з featureрознага рыззя, намочаных у газе і выкачаных у каламазі. З імі яны, падлеткі, ішлі сваёй дарогай, поўныя і крыклівай, і маўклівай маладзецкай радасці, ішлі і з горкі бачылі, як па іншых дарогах — таксама палаюць клубкі!..

Другое, што здавалася яму, дзесяцігадоваму хлапчуку, самым прыгожым, былі бясконцыя, старанна жаласлівыя песні-малітвы старцоў — сляпых бабулек на вазах з палатнянымі будамі і бязногіх, бязрукіх, гугнявых дзядоў на зямлі, побач з задзёртымі аглоблямі, дзе хрупае сена зусім чамусьці спакойны каняга.

І трэцяе — асноўнае на тым амаль фантастычным фоне — распяты Хрыстос і песня, якая толькі адна і здавалася Алесю важнай і верагоднай ва ўсёй эпапеі пакут і ўваскрэсення таго, хто «быў богам і чалавекам адразу». Нікчэмна бледны, барадаценькі псаломшчык, мнагадзетны п'янчужка (яны яго, школьнікі, ведалі добра), цяпер дзіўна ачышчаны ад брыдоты натхненнем, высокім і сардэчна любым голасам уздымаў над гарачым, потным натоўпам цудоўную песню вялікай журбы і смутку, што гучаннем і сэнсам стараславянскіх слоў — «Не рыдай мене, мати...» — да ціхага плачу, да таямнічага і бяздонна шчаслівага плачу даво-

дзіла хлопчыка, разам з мамай зацёртага ў бабскім натоўпе.

«Не рыдай мене, мати...»

Тую, уяўную, ідэальную маці, якой складаліся гэтыя разнамоўныя, рознагалосыя «Ave Maria», ён уявіў па-сапраўднаму трохі пазней, калі ў нейкай, зусім выпадковай, кнізе свайго малалецтва ўбачыў упершыню сікстынскую мадону Рафаэля. Босую на акруглай, увянчанай аблокамі паверхні нашай планеты, бясконца мілую — як маці ў горкай разлуцы...

Тады, пад гукі вялікага жыццесцвярджэння, у нямецкім святочным натоўпе ён — ужо даўно дарослы чалавек, былы і будучы салдат — зусім па-іншаму, да сардэчнага болю жывую і сумную, убачыў сваю хворую, затузаную гісторыяй матулю — з яе старэчымі рыданнямі, што зліліся з вялікім, нязмерана, недараўнальна глыбокім смуткам тысяч, мільёнаў іншых чалавечых маці!..

І яшчэ адно.

Пасля «Ave Maria» артыстка, з усмешкай мадонны, адкланяўшыся — стомлена, шчаслівая ад цэлай буры воплескаў, заспявала чароўную, як месячная ноч за вокнамі, калыханку.

І пад першыя гукі Алесь — каторы ўжо раз! — сціснуў локаць Крушыны, хацеў адразу, тут жа крыкнуць яму, што ён даўно ўжо ведае гэтую песню, што ён спяваў яе даўно, закахана гледзячы ў твар пані Ванды, на мілыя рукі яе, што вялі іхнія душы, іхнія галасы па хвалях песні, роднай любому маленству.

І там быў Шуберт. І тут...

«А дзе ж падзеўся ён, заглушаны звярыным рыкам паходных маршаў? Няўжо гэта адзін і той жа народ падараваў чалавецтву і гімн мацярынству, і песню бясхмарнага маленства, і дзіка-бяздарныя маршы крывавых паходаў?.. Такіх, як той «Гэгэн Руслянд». Не марш як музыка, а проста грукат вялізнай машыны знішчэння, што ўсю дарогу ўспаміналася пад несціханы перастук,— абы наперад, абы найбольш зямлі, крыві і слёз пад колы!..»

«А што ж гэта я думаю так многа пра цябе, Нямеччына?

Нават ужо тут, на роднай зямлі?..

Нібыта зноў вязуць мяне на той «расстрэл» пасля нашага бунту ў маёнтку. Вязуць па пясчанай дарозе, у лесе. Потым машына рэзка спыняецца, а пыл, што цягнуўся за ёю, нямецкі пыл — абганяе яе, лезе пад колы, абапал і зверху...

Я вось спыніўся на момант, пераступіўшы, нарэшце, свой Рубікон, ужо Беларусь, і яшчэ Беларусі як быццам няма, яшчэ пустэча навокал, а пыл, нямецкі пыл успамінаў — ажно абганяе мяне...

Немцы — я не пакіну вас там, за дратамі граніцы! У агонь нашых новых сутрэч я панясу і воблікі *людзей,* і вобразы *пачвар,* паднятых або народжаных фашызмам!..»

Вось яно — яшчэ свежае свежасцю тыдня, найбольш неадчэпнае.

Малы, крываногі і лапавухі Вольф, ідыёт і «паэт». Адзін з яго вершаў быў, нарэшце, надрукаваны ў мясцовай газетцы. Абрыдзеўшы рабочым сваёй радасцю, Вольф пачаў прыставаць з дэкламацыяй да палонных. Бяздарны зносак яго быў перададзены Алесю з Мазальком па меншай меры сем разоў за тыдзень. Поўнасцю, слова за словам, радок за радком, з акадэмічным, захопленым тлумачэннем і слоў і пачуццяў.

Heil, unser Führer, heil!
Sieg und Glück ist dein Teil![1] —

хрыпла слінявіў ён, заплюшчыўшы вочы, разявіўшы чарназубую яму...

З вялізным у ягоных руках шуфлем, у сіняй калісьці спяцоўцы і ў шэрым, таксама былым капелюшы, прыдурак гэты быў для хлопцаў не толькі смешным прапаведнікам «звышчалавечасці», але ж і неадчэпным экзаменатарам іх пільнасці.

Бо ён не толькі чытаў ім свой верш, кожны раз аднолькава п'янеючы ад славы, не толькі шырока і

---

[1] Чэсць, наш фюрэр, чэсць!
Перамога і шчасце — вось твая доля!

грунтоўна каменціраваў яго, але і прыставаў з пытаннямі:

«А як па-вашаму, хутка мы возьмем вашу Маскву?»

«А як, па-вашаму, бальшавікі — ніжэйшая раса?»

«А як, па-вашаму, гэта вялікае шчасце — працаваць для нашай перамогі?..»

Цяжка было адмахвацца, выкручвацца ад такіх і падобных пытанняў. І так хацелася... Нават Андрэй, маўклівы канспіратар, не стрываў — пекануў дыскутанта адпаведным настрою матам, дадаўшы ў канцы, для страхоўкі, па-нямецку:

— Не перашкаджай ты нам як належыцца працаваць!..

Рабочыя-немцы, чалавек пяць ці шэсць пажылых, маўчалі пры гэтым, як быццам тут нічога ніякага.

Але назаўтра, калі яны на пільні, меншылі групамі, нагружалі аўтамашыны апілкамі, стары, пануры і, можа, найбольш абыякавы з выгляду Каўфэр, як толькі шафёр адышоўся, сказаў ім... зусім нечакана «па-руску»:

— Ві, таварыш, так не гаварыт. Вольф Айніге ест бэштымт айн ідыёт, эс вар, эта праўда. Абэр эр кан — о, зээр гернэ! — сказат гестапа. Ві многа гаварыт. Я рускі панімат, я не сказат нікто, абэр вэн айн андэрэр слушат унд панімат — капут!..[1]

Цуду, вядома, лішняга не было: Каўфэр, у тую вайну, пабываў у рускім палоне, вярнуўся толькі ў дваццаць другім годзе. І Каўфэр з тых, што да часу маўчаць.

Гэта напомніла Алесю пра другога...

А потым — пра другую...

І ва ўяўленні яго паўстаў да шчырай праўды выразны малюнак.

Грубэраў Герман, пасля таго як ён праверыў іхні і суседнія пакоі, аблятаў яшчэ ўсе бліжэйшыя піўныя і скверыкі, шукаючы няўдалую служанку. Калі ж ён,

[1] Бештымт — бясспрэчна; абэр эр кан — о, зээр гернэ! — але ён можа — о, вельмі ахвотна; абэр вэн айн андэрэр — але калі хто-небудзь іншы!..

ушчэнт перапалоханы і збіты з апошняга глузду яе бясследным знікненнем, прыбег дахаты, па далейшыя загады, бацька горда сказаў яму:

— З-зо, мой хлопча!.. Мы з тваёй мутэр знайшлі яе. Яна ўжо трохі пакарана: мутэр яе пакарала, аднак мы павінны яшчэ раз пайсці да яе і сказаць гэтай нягодніцы, што не так яна павінна была б... І тады ўжо, мой хлопча, мы пойдзем спаць.

І вось яны ўжо там, у дзявочым пакойчыку. Стары гаворыць ёй, хто яна такая і якой павінна быць, а малады паўтарае, захоплена і ўрачыста:

— Ты, дурніца, не плач, а слухай. Бо фатэр ведае, што ён гаворыць!

Гэта гучыць зусім падобна да таго, што там, у Германіі, пачуеш дзесяць разоў на дзень:

«Фюрэр ведае, што ён робіць. Фюрэр ведае, што ён сказаў».

Але Марыхен не чуе нічога. Любоў і гордасць аднаго з нямецкіх «пенты, глюпы тшорт», ашуканая, асмяяная пры ўваходзе ў сваю маладосць, бялянка ўткнулася тварам у падушку і плача наўзрыд.

Можа, яна таксама чула праз акно, пра што гаварылі яе гаспадар і *ён*?..

Можа...

— Пайшлі, Алесь. Трэба, браце, ісці.

Руневіч устаў. І вярнуўся душой сюды. Нават сказаў з усмешкай, устрасянуўшы галавой:

— Хвілін з пятнаццаць, не больш. Навярстаем.

Яны ішлі пасля доўга і мочкі. Спачатку лесам, пасля пясчаным іржышчам, пералогам, па нейкай беднай і незразумелай цаліне, не вельмі шчодра парослай нават ядлоўцам. Было зноў троіх лесу. І поле. І возера. Хата над возерам.

Але яны не зайшлі.

«Як ты сустрэнеш нас, родная?» — падумаў Алесь. Нібы гэта была яшчэ не Беларусь.

«Што ж там з вамі, мае дарагія?..» — Нейк тупа, без болю.

І яшчэ адна думка, таксама не новая ў гэтыя дні:

«Як я знайду сваё месца, я — грамадзянін і чалавек?..»

Потым — яшчэ адным знакам гора і ганьбы — на ўзгорку паказаліся амаль вусцішна сімвалічныя аграмадзіны танкаў. Адзін, другі... сем штук.

Яны стаялі. Толькі павернуты былі гарматамі на захад. І пакінуты.

Нават бярозкі, што маскіравалі іх, даўно пажоўклі і пасохлі.

Толькі чырвоныя зоркі крычаць.

«А мы ідзём, радзіма. Моўчкі, з узгорка на ўзгорак. Туды, дзе ты — наша жыццё, журба і трывога...»

# НОЧ НА ПРАДВЕСНІ

*Эпілог*

Сутуняецца.

Дзікія гусі зноў паляцелі нізка над лесам. Нібы ўцякаючы ці даганяючы,— так яны гегаюць на ляту і спяшаюцца...

Будзе вясна.

Хоць адвячорак у пушчы яшчэ ўсё як быццам зімовы. З рэшткамі хлюпкага, вадзяністага снегу. З нізкім, нудна панурым небам...

Тры партызаны конна круцяцца пад соснамі, каля крайняй зямлянкі сямейнага лагера.

Перад гэтай зямлянкай стаіць стары ў кажушку, з рукой, падвязанай цёплаю хусткай, аброслы і злосны з выгляду. Хлопцы — усе маладыя, спраўныя, на добрых конях. Але стары, відаць, лепш ведае іх, бо вось глядзеў, глядзеў спадылба і нарэшце, калі яны зноў пад'ехалі блізка, не вытрымаў:

—Ярунда вы абодва!

Бліжэйшы хлопец весела павітаўся, як быццам толькі што пад'ехаўшы:

— Здаровы, дзядзька, былі! Няхай жыве беларуская птушка бацян!

— А ты выскаляйся. Чырвоны, мардаты. Рад, што кабылу жарэбную асядлаў...

— Мая кабыла — ад роду конь. Нешта вы сталі недабачваць.

— І недалічваць,— дадаў другі.— Нас, дзядзька, здаецца, трох, а не двух. І ўсе мы, выходзіць па-вашаму,ярунда?

— Косцік — неярунда. Косцік найлепшы кавалерыст.

Пахвалены хлопец нездаволена зморшчыўся.

— Што, баліць яшчэ моцна? — спытаўся ён.— Ці мо зайздросна, што мы едзем?

— Едзеце... Ён там, ваш маршал, не вельмі спяшаецца — з цёплае ў холад... А вы патупайце, пачакайце. І вам таксама вельмі рупіць... Усё-такі тут зацішней...

— Нешта вы, дзядзька, злосны сёння. Нецікава злосны... Ну, вунь і Гена!..

— Цяпер ужо, кнырчук, спяшаецца...

— Паехалі. Хай даганяе.

— Пачакай. Я яму слоўца скажу...

Спачатку ехалі ступой, а неўзабаве, калі дарога вывілялася з гушчару і пайшла прасцей, падхапіліся на рысь. Адзін за адным. І моўчкі.

Першы, як выпала, Дайлідзёнак, «няхай жыве беларуская птушка»... За ім — пахвалены Косця Вярбіцкі. Тады — Руневіч. А ззаду — Гена Ціханаў, іх камандзір з самаробнымі лейтэнанцкімі кубарамі.

Конь пад Вярбіцкім — не вельмі лёгкі. Раскідае нагамі, змоладу сарванымі ў плузе,— толькі тая хлюпота ляціць у бакі.

І Косця сам не вельмі каб ужо хвацка трымаўся ў сядле. Таўчэ луку, падскаквае — проста працуе. Ссутулены трохі, левым плячом наперад.

«А ўсё ж такі — «Косцік найлепшы кавалерыст»,— думае Алесь.

І разумее гэта.

Стары Гаварэнь (не вельмі і стары, хоць у атрад прыйшоў з двума дарослымі сынамі) часта гаворыць залішне па-свойму. Намёк, як кажуць, той самы, ды словы другія.

Як і тады, калі ён аднойчы, пры Алесю, расказваў двум новым хлопцам пра Косцеву маці:

«О, гэта хітрая баба!..»

У цёткі Вярбіцкай было чатыры сыны.

Старэйшы жыў ужо аддзяліўшыся, на хутарку за вёскай. Спакойны быў чалавек Алісей, талковы, гаспадарлівы. І праз зіму пасля вызвалення, як толькі ў іхняй Лані пачалі арганізоўваць калгас, яго ахвотна выбралі за старшыню.

Другі сын, спрытны і трохі зухаваты Грышка, з самага малку не вельмі рваўся да плуга. Прыйшлі Саветы, дык ён першы ў вёсцы завербаваўся ў Данбас. Хай дома гаспадарыць трэці, Косця.

А Косцю ўвосень саракавога года забралі ў Чырвоную Армію.

І засталася маці з найменшым, Іванам, яшчэ пастушком.

Калі прыйшлі фашысты, Алісей хаваўся. Па людзях, у лесе. Партызан яшчэ не было. Толькі немцы ды «бобікі»-паліцаі хадзілі, ездзілі свабодна, пакуль што паўнапраўныя у здзеках, не бітыя.

Падпільнавалі яны былога старшыню, калі ён дадому зайшоў («Без ланьскага сабакі тут,— казалі людзі,— не абышлося!..»), акружылі на досвітку і разам з жонкай — дзяцей у іх не было — расстралялі. У хаце, ледзь не ў пасцелі.

У Лані і стрэлаў ніхто не пачуў.

Тады зайшлі да маці. На другім канцы вёскі.

— Дзе ён, твой камуніст? Дзе хаваецца Алісей Вярбіцкі?

Спытаўся нейкі ў цывільным, па-беларуску.

(«Які-небудзь Карнач або іншая разнавіднасць Бязмена»,— думае Алесь.)

— У армію пайшоў. Туды! — махнула маці ў той бок, дзе за акном быў усход.— Сялдоршых пабралі раней, а старэйшага ўлетку.

Цывільны пераказаў гэта немцам, яны пагаварылі, адзін засмяяўся, і той «па-нашаму» перадае:

— Старэйшы твой ужо наваяваўся. Ты з ім хутка пабачышся. А гэты што — камсамолец ці піянер?

Іван сядзеў яшчэ ў ложку. Светлавалосы, ціхенькі, з вялікімі вачыма. Толькі ўжо рукі і плечы ўздрыгвалі ў кашулі. Ды востры падбародачак дрыжаў.

— Ком міт! Прэнко, прэнко! Ду, шайзэ!

— Хадзем! Ён кажа, каб барзджэй! Смурод ты!

Хлопчык устаў, хацеў узяць свае порткі на лаве, але перакладчык скрывіўся:

— Не трэба! Хутка вернешся.

Яна пайшла за малым. Яшчэ далёкая ад найгоршага прадчування.

— Эр ляўфэн золь! Дорт!

— Бяжы туды! — паўтарыў перакладчык і паказаў на вуліцу, у адчыненую брамку.

Цёплы з гнязда і дрыготкі са страху, Іван зірнуў на маму, нібы пытаючыся: што рабіць?.. І тут жа дробненька пабег, мільгаючы голымі нагамі і светлавалосай патыліцай.

Пакуль маці паспела ахнуць, немец... («Арыйскі «фогель» з якога-небудзь ідылічнага доміка...») Немец, які быў першы, прызвычаена чыста, коратка стракануў ад грудзей з аўтамата...

Маці, казалі, не заплакала. Ні ўпаўшы побач з сыночкам на гразь, каленьмі і рукамі, ні потым, калі яна ў жудаснай немаце паднялася і падышла да плота. Тымі самымі жменямі, якімі толькі надоечы змывала «неслухаву» галаву, наракаючы і на кнігі, і на галубоў, і што худзенькі, як драч,— яна збірала з шурпатых, лішаістых штакецін гарачыя пырскі мазгоў...

Казалі таксама, што маўчала яна і тады, калі ішла побач з возам, трымаючыся за цапок драбінаў, калі Іванаў трупік уздрыгваў на каляінах, глыбока лежачы ў саломе, а паліцай («Які-небудзь старанны «гутэр кэрль» Букраба!..») сядзеў, прыкурчыўшыся з лейцамі, у перадку...

Казалі, што і там, куды яе з Іванам прыгналі,— на Алісеевым хутарку, каля ямы, побач з якой ляжалі на траве яе старэйшы са сваёю Зосяй, каля ямы, навокал якой прыцішана галасілі жанчыны,— цётка Вярбіцкая не заплакала.

— Сэрца закрамянела,— расказваў пра гэта стары Гаварэнь. Двум новым. Каля вогнішча.— Няхай ён, паганец, не бачыць нашай слязы. О, гэта хіт-ра-я баба!..

— Што вы гаворыце, дзядзька! — не вытрываў тады Алесь.— Ну як гэта — хітрая?

— Разумная, я гавару. Жанчына — як каменная. І мужчына каторы... А ты мне!..

...Дзве хаты Вярбіцкіх — навейшая, на хутары, і старая — да зімы стаялі пустыя. Потым іх разабралі на дровы, у гарнізон.

Гаспадыня хавалася па іншых гнёздах, яшчэ не разбураных.

...Першая восень пад акупацыяй...

Гэта быў час, калі ў Алесевых Пасынках і ў навакольных вёсках жылі акружэнцы. Немцы не здолелі

іх ні ў лагерах змясціць, ні адправіць у рэйх, і адпусцілі пад нагляд сваіх жандараў і «беларускай» паліцыі, арганізаванай з цёмнага зброду і здраднікаў, якія, дарэчы, трапляліся і сярод акружэнцаў. І салдат, і камандзіраў, што жылі па вёсках, усіх называлі «байцамі». Шмат было добрых хлопцаў... А бывала і так, што нядаўнія вызваліцелі гэтых мясцін, ад'еўшыся пасля лагера, абуўшы хадакі з савецкіх аўтамабільных пакрышак, красаваліся перад дзеўкамі на вячорках, пад балалайку і прысвіст — хто разгублена, хто бяздумна, а хто і ад душы — спявалі не толькі «Кацюшу» ці «Ой ты, Галю», але і свежанькае, самаробнае:

Абуў Бацька і Прузыну,
і Нічыпара ў рызіну...

Гэта былі беспрасветныя дні, калі і мясцовыя хлопцы яшчэ толькі шапталіся паміж сабой і з паасобнымі «байцамі», з кім падружыліся бліжэй. Гаварылі, што нельга, ганьба вось так сядзець ды чакаць...

Гэта быў час, калі Руневіч, вярнуўшыся з палону, перанёсся з другога, далёкага свету і пакут і надзеі ў разгубленыя Пасынкі, нізка прыбітыя крушэннем усяго, што так нядаўна стала для іх сваім, у родную хату, горка асірацелую без Толі, што пайшоў на ўсход... Час, калі і ён, Алесь, апынуўся ў поўным няведанні — без радыё, без газет,— у чорнай, як яма, адарванасці ад той Радзімы, што дзесьці — зноў так далёка! — змагалася, ведала, верыла!.. Страшны час, калі суровы лёс забраў у хлопца — так здавалася часам — амаль усё, і перад найвышэйшымі пытаннямі жыцця ён адчуў сябе голым пад золкай, сцюдзёнай слатой...

Знешне — такою, як сёння...

Вяршняк, адсырэлы па-прадвяснянаму, шумеў у густым ужо прыцемку, нібы ўвосень, сумна. І свет, здавалася Алесю, быў у панурым насмарку, з цяжкай галавой...

Пакуль датупалі да Нёмана, усталявалася цёмная ноч. На беразе коннікі спешыліся, закурылі. На іхні голас паромшчык, дзяжурны дзядзька з надрэчнай партызанскай вёскі, спаленай летась, марудна падсунуў ім з таго боку паром.

— Разведка? — пазнаў ён.— Здаровы, хлопцы. А я толькі думаў, што ўжо ўсіх перавёз...

Пачакаўшы, спытаўся на ўсякі выпадак, відаць не ў іх першых, куды ж гэта сёння так, усёй брыгадай?.. Аднак, не пачуўшы адказу, не зазлаваў. І свой жа хлопец таксама нядаўна пайшоў, таксама не адказаўшы куды...

Коні глуха, яшчэ ўсё баязліва пераступалі на бярвеннях маснічын. Навокал, на прадвясняным раздоллі, насцярожана, радасна гаманіла паводка, у цемры сама сабе грозная і прыгожая. Над імклівым, сцюдзёным бяздоннем нябачна штурхаліся, шоргаліся, кружылі на месцы і зноў спяшаліся за плынню шэрыя,наздраватыя крыгі. Малыя ўжо. Апошнія.

Алесь, узяўшыся за парэнчы, з павадамі ў правай руцэ, стаяў перад канём, глядзеў у церпкую, неспакойную цемру. Што чуў, што нібы бачыў, што ўяўляў... Думаў пра першае пад акупацыяй прадвесне...

Успомніў з цёплай усмешкай Крушынавы словы:

«А там і ночка прыйдзе такая, што хтосьці пастукае ў акно: «А ну, уставай, пайшлі за сваё!..»

Алесю пастукалі ў такую вось, як сёння, ноч. Позна было, ды ён не спаў. Завесіўшы з надворку саламянай матай акно, ён пісаў за кухонным сталом, мацуючы сувязь з вялікім і родным светам, што прыйдзе... Пастукаў хтосьці, прыпадняўшы рог маты, у шыбіну — не моцна, не па-чужому.

Гэта быў Косця Вярбіцкі.

Алесь пазнаў яго — цераз парог — спачатку па голасу. У цемры сенцаў яны абняліся. Праз тры гады, праз цэлую вечнасць пасля той раніцы, калі Алеся праводзілі ў польскае войска. Калі Косця прыйшоў і на вуліцы, па-спрадвечнаму, па-народнаму, першы раз у жыцці пацалаваў яго няёмкім пацалункам іх простай, грубаватай і, цяпер, здалёк зірнуўшы, харошай юначай дружбы. У кухні-баковачцы, пры цьмяным святле газоўкі, Алесь яшчэ раз здзіўлена пазнаў свайго Косцю, і цэлы свет крутануўся ў душы. Цэлы свет — да крыві на сівым, лішаістым плоце, да спрацаваных рук, што працягнуліся туды!.. Руневіч прыкусіў губу і, не

стрымаўшы вейкамі слёзнай гарачыні, глуха сказаў... не тое, што хацеў,— нібы баронячыся ад непатрэбнага:

— Сядай мо лепш тут, каля акна...

Косця ўцёк з палону, прыйшоў у сваю Лань тыдзень таму назад. Не застаў ужо нават і хаты. Маці знайшоў за Нёманам, у сваякоў. Там і пераапрануўся.

— Бачыш, ужо іду, ужо стаю і — не хістаюся...

Ён усміхнуўся — той самы колішні Косця, але, як здань, благі, замучаны, нібы пераапрануты ў старую, несамавітую да вусцішнасці худзізну...

Алесь іх бачыў, палонных чырвонаармейцаў. Не тых, у Нямеччыне, і не тых, што жылі па вёсках, у сваіх людзей...

У студзені пасынкаўцаў пагналі ў абоз. Везці ў горад «сабраныя» фашыстамі для фронту кажухі і валёнкі. Фурманак з трыццаць, ранняй, пякучай і рыплівай раніцай яны ехалі краем шырокай вуліцы, уздоўж бясконцых руін. А ім насустрач... Не, палонныя ўжо не ішлі — яны і не ляжалі нават, хто дзе ўпаў і дзе быў дабіты, па дарозе з вакзала ў лагер. Насустрач абознікам, што ішлі побач з саньмі, на бруку, абледзянелым пасля ўчарашняй адлігі, чырванелі прымёрзлыя лужыны нашай... У нашым горадзе — нашай крыві!..

— Іх нядаўна грузавік падабраў,— сказала Алесю захутаная, заплаканая цётка ў паліто, з бітончыкам.— Усю ноч быў крык. І стралялі...

Толькі адна рукавіца ляжала на бруку, побач з чырвонаю плямай. Не разабраць, з чаго і як пашытая за дратамі. Недарэчна вялікая, заціснутая ў чорны, акасцянелы кулак...

Вось і ўсяго ад людзей.

— Іх там, за паркам, закопваюць, дзе лагер. Даўжэзныя ямы, адна пры адной...

Руневіч яшчэ раз убачыў гэтае, гледзячы пры газоўцы на сябра, слухаючы яго скупы расказ пра перажытае. Як ён, Косця, хадзіў у тых калонах зданей у рэштках чырвонаармейскай формы, у доўгіх, страшна павольных калонах, якія кожны дзень — і на хаду, і на саломе — працярэблівала смерць. Ад немачы, ад вахманскай рукі. Як ён сох за дратамі, гібеў на слаце і дубянеў на марозе. Як паміраў ад голаду — доўга,

на мноства дзён, гадзін, мінут расцягнутай смерцю. Як ён нарэшце ўцёк...

— Нас было чатырох. Ён адзін. Няўдалы вахман, стары, саплівы, захутаны. А мы — ну, ужо да таго давялі нас, што нават і такія вахманы не баяліся... Ён нас пад вечар гнаў цераз поле ў лагер... Адсталі ад усіх. З работы. Паваліць — мы яго павалілі за кустом, але ніяк не маглі задушыць. Вінтоўку ўзяў пад сябе, і не крычыць, а просіцца: «Дам гельд...» Пра кіндэр нешта балбоча. Пасля адзін з нас, Гойда з-пад Бахмача, успомніў пра свой напільнік, зашыты ў рубцы шыняля...

Больш за месяц ішоў ён з Ковельшчыны цераз Палессе. На страху, на асцярожнасці, на ласцы людской дабіраўся да родных мясцін...

«І нарэшце,— думае цяпер Алесь,— пастукаў у маё акно...»

Зноў яны ехалі, коннікі. Ад Нёмана — нізкім лугам. Цэлую вечнасць, здавалася, плёхалі па вадзе на лядку. І яны, і цярплівыя коні маўчалі. А над імі, над куп'ем і вадой, з надрывам енчылі першыя, яшчэ бяздомныя кнігаўкі. Шыбавалі ў цемры — нябачныя, пасля зніжалі свой, мілы вясковаму чалавеку, адчай — пралятаалі, фуркочучы крыллем і плачучы, амаль над самымі галовамі сваіх незразумелых ворагаў...

Цяпер ужо Ціханаў ехаў наперадзе.

Алесь, снуючы сваю думу, уяўляў яго, Гену, выразна. Хлопец у новым чорным кажушку, расшпіленым пад шыяй так, каб відаць былі кубары, у летняй артылерыйскай шапцы, трошкі набок. Ціханаў з тых, што ў першую восень спявалі з прысвістам пра «рызіну», да жудасці шчодра кінутую на дарогах адступлення... Аднак па варожаму выкліку, вясной сорак другога, у жандармерыю Гена не з'явіўся, як некаторыя з «байцоў», у Германію, фрыцу служыць, не паехаў. Патуляўся ў людзей амаль да восені і прыйшоў у атрад. Да арміі Гена вучыўся, вайну пачаў з адным кубарыкам, другі нажыў ужо тут. Вясёлы хлопец, галасісты, пуставаты. Бабнік. І трохі залішне прыкметна любіць запаведзь: «Ура, ура, а сам у кусты!..»

За ім цяпер члапае па вадзе Дайлідзёнак. Гэты — з «гвардзейцаў», камсамолец з Косцевай Лані. Адзін

з тых юнакоў, што першыя ў аколіцы сталі партызанамі, што думалі пра барацьбу ўжо ў сорак першым, хаваючы пакінутую зброю. Ён у кубанцы з чырвонаю стужкай, на добрым кані, якога днямі «збамбіў» на цёплым хутары, яшчэ не палоханым, пад самым бокам у славутага павятовага гарнізона. Смелы хлопец Алёша, разумны і шчыры. А з выгляду — бесклапотна румяны ды поўненькі, з адкапыленай ніжняй губой, з якое кожны момант, абы нагода, ахвотна сарвецца нядаўна дзесьці пачутая прымаўка пра бацяна — «няхай жыве!..»

Косця — у шынялі, але ў кепцы. І з кулямётам. Салдат, работнік. Калі б таго Гаварэня спытаць, што ён разумее пад словамі «Косцік найлепшы кавалерыст», дык ён сказаў бы, напэўна, пра тую спакоўную, проста халодную смеласць, за якую Вярбіцкага паважалі сябры. Стары, здаецца, намякаў і канкрэтна — на нядаўнюю засаду... Там яны, дваццаць коннікаў, былі выкрыты ў вёсцы, што стаіць на гасцінцы з гарнізона ў гарнізон, і потым уцякалі ад эскадрона карнікаў. Дзве дарогі ў лес — адна з тае вёскі, другая з мястэчка — сыходзіліся вінкелем, на самым узлеску. Дзве групы конікаў, дваццаць партызан і разоў у тры больш фашыстаў галопам перасцігаліся на разбалочаных адлігай грэблях. Карнікі выйшлі б наперарэз партызанам, але... Але адзін з партызанскіх разведчыкаў — у шынялі ды ў кепцы, не такі ўжо і спрытны з выгляду — спыніўся, спешыўся і залёг. Мужыцкія рукі, быстрае, светлае вока і тут не падвялі. Пад меткім агнём кулямёта фашысты — хто потырч паляцеў, хто асадзіў ды павярнуў назад. Нашы шчасліваварваліся ў лес. Толькі адзін конь, раскідаючы сарванымі ў плузе нагамі, бег без конніка. Коннік памалу, нібы з касьбы, ішоў па раўку, раз-пораз азіраўся на ўзгорак, за якім прапалі ворагі. Азіраўся — гатовы, калі будзе трэба, залегчы зноў... Гэта — адзін з ненайярчэйшых доказаў Косцевай смеласці. Проста нядаўні, свежы. А Косця — зноў у сядле, зноў непрыкметны на свежае вока.

«І ніколі ён,— думае, едучы ззаду, Алесь,— яшчэ і слова не сказаў пра тое, што жывіць яго непаказную, працавітую смеласць. Пра тую нянавісць, якая, нібы глыбінная крыніца, чыстае лясное азярцо, нячутна і нястомна асвяжае яго нібыта простую душу.

І за нянавісцю гэтай стаяць не толькі светленькі Іван, не толькі ціхі рабацяга Алісей, не толькі пакутніца маці... Ганебная паніка адступлення (ён бег ад Ломжы да Гомеля), крывавая горыч першых няроўных, няўдалых баёў, акружэнне, палон — усё гэта яшчэ не зразумелае ў сваім нечаканым трагізме... Юнацкая вера былога падпольшчыка-камсамольца, часамі трохі наіўная, але заўсёды чыстая, аплочаная мужнасцю на допытах у дэфензіве. Савецкая радзіма, якую ён так нядаўна знайшоў, заслужыў сваёй верай, пачаў захоплена, хоць у сім-тым і недаўменна, пазнаваць. Адзінае, у чым ён бачыць сэнс жыцця,— рэвалюцыя, шчасце працоўных, на што смяротна замахнуўся гітлерызм... Усё гэта жывіць тое невычэрпнае, непераможнае пачуццё, якое ён, Косця, яшчэ ні разу не назваў уголас...

Хоць дружым мы даўно, хоць ездзім так вось, разам — і ноччу, і ўдзень,— хоць нашы...»

Алесь усміхнуўся з цёплым сумам, успомніўшы, што ў гэты час не спяць у цёмнай пушчанскай зямлянцы дзве маці.

«Пра што гавораць яны? Або — яшчэ цяжэй — пра што маўчаць? Ці ўжо лежачы на мулкіх, не на старэчыя косці, пасцелях з яловых лапак, прысланых дзяругай, ці седзячы перад горача-зыркім і легкадумна гаваркім агнём у чалесніках печы...

Як той паромшчык, толькі з менш прыхаванай трывогай, пыталіся і яны, чаго ж гэта сёння, казалі, уся брыгада падалася кудысьці? Куды?.. Ім адказалі, вядома, не так абыякава, як паромшчыку. Адводзілі гутарку ўбок, на вясёлае:

— Падалася? Або ж яна не хадзіла ніколі нікуды? А мы вось забеглі — цікнуць, як тут у вас? Як маецца, скажам, вось гэты разбойнік, Сашка?..

Бойкі, пацешна-шчабятлівы жэўжык у мяккіх, нібы катовы лапкі, лапціках, Толеў Сашка здорава падобны на бацьку. Хацеў бы зноў на сядло, але мама не пусціла на холад, на слату. Дарэчы, вельмі ж заядлая мама выйшла тым часам з той ланьскай Ані, якую Алесь калісьці ведаў трохі сарамлівай, трохі гарэзлівай, быстраногай ды галасістай смуглянкай. Сумуе, вядома, і плача, і аж дрыжыць па малым. І дома дрыжала б, а гэта ж у лесе... Сашка пабыў на руках —

у дзядзькі Косці менш, у свайго дзядзі больш, а тады шчабятаў, нячутна тупацеў па земляной падлозе, блытаючыся пад нагамі. Потым хлопцы мянялі бялізну і адганялі яго, затуліўшыся ў запеку за Косцевым шынялём. Алесю, калі ён скінуў кашулю, а потым агарнуў сябе — пасля трох тыдняў — зноў халадочкам чыстай, на момант, востра і непатрэбна, успомнілася з кніг ды з расказаў былых «мікалаеўскіх» салдат, што перад боем так вось калісьці ім давалі чыстае... Каму на рану, а каму...

Ну, яшчэ чаго — к чорту такое!..

— Паедзем, пабудзем, прыедзем,— сказаў ён.— Што ж, і нам трэба рух! А вы сядзіце сабе, грэйцеся...

І ўсё гэта было не так, не тое,— маці не ашукаеш, хоць і яна можа прыкінуцца, што так вось табе і паверыла.

У той жнівеньскі дзень, калі Алесь вярнуўся з Нямеччыны, яна сустрэла яго, стоячы каля парога, на двары. Ці то ўжо так занемагла, ці ногі адняло ад радасці, але ж не ступіла насустрач, нават і рук не працягнула. Ён абняў яе, беражліва прыгарнуў да сябе, зусім па-новаму адчуўшы, што гэта даўно ўжо не тая дужая, добрая і суровая мама, што ўжо не яна яму, а ён патрэбны ёй, як абарона і пацеха. Яна ж сказала яму першае, чаго не магла не сказаць — і ў вялікай, нечаканай радасці, і ў не меншым, відаць, у вечна нядрэмным горы:

— А Толіка, сынок... няма...

І тады ўжо заплакала.

«Толі няма. Як няма Сярожы. Як не было мяне. Як не было нас абодвух...»

У верасні трыццаць дзевятага года, калі навокал шумела народная радасць, калі на захад ішлі гасцінцам бясконцыя калоны чырвонаармейцаў, а неўзабаве насустрач ім, на ўсход — калоны палонных польскіх салдат, маці стаяла днямі на абочыне і ў тых, і ў тых пыталася:

— Хлопчыкі, а маіх вы не бачылі?..

Толя вярнуўся праз два месяцы. Ад Алеся ажно да вясны не было ані слова. Толя пайшоў на Усход... ох, як даўно ўжо! А весткі, хоць бы якой, няма. Няма ў каго і спытацца. Вер або плач. Алесь пацяшае яе, часамі з горкай нацяжкай, што Толя напэўна жывы — ён ва-

юе і прыйдзе. У яе ж хапае сілы толькі на тое, каб хаваць ад Алеся слёзы. Ад яго і ад Косцевай маці.

«І не толькі, вядома, таму, што Косцева намнога маладзейшая, што мая хацела б пацяшаць яе, як меншую сястру. Нізка гнучыся пад уласным цяжарам, мама з ціхай, сардэчнай павагай думае і пра гора Вярбіцкай, і пра маўклівую мужнасць...

Як я пра Косцю.

Пра яго палон, побач з якім мой выглядае не вельмі і страшным. Хоць ён і страшны быў, хоць я і ні пры чым, што ён быў іменна такі, не горшы.

Пра тую нянавісць, што жывіць Косцю, дае яму сілу і смеласць, сяды-тады дапамагаючы і мне.

Мы не гаворым пра гэта. Мы прыкрываем пачуцці то проста маўчаннем, то нават абароннай грубаватасцю.

Вось і цяпер ён, як быццам адчуўшы, пра што я думаю, спыніўся, каб я дагнаў...»

Калі Алесь пад'ехаў упрытык, ажно шаргануўся каленам аб палу яго шыняля, Косця сказаў:

— Прыпазняемся трохі. Што самі, а што Ціханаў.

У Гены — дзеўка ў сямейным лагеры, ужо і жонкай можна называць. Гэта на яе, на «цёплую», і намякаў стары Гаварэнь.

— Зараз дагонім. Не бурчы,— сказаў Алесь.

Гену Вярбіцкі недалюбліваў. І не ад рэўнасці, як нехта здуру мог бы падумаць. Косця і сам, хоць ён толькі малодшы сяржант, мог бы быць камандзірам разведкі... Якое там! — камандзірам любога з чатырох атрадаў іх брыгады. Прапанавалі хлопцу. Не хоча. Беларуская, братачка, сціпласць, што вось яшчэ раз, у новым выглядзе, перахлёствае з дабрачыннасці ў недахоп. А раўнаваў Косця Гену да справы. І гаварыў яму ў вочы, што думаў. Па праву партызанскай дэмакратыі. Сёння — там, у сямейным лагеры,— таксама пеканув.

— Дагонім, вядома,— сказаў ён Алесю.— Ды не люблю, калі суцэльная храновіна...

— Ну, ясна: маршал, кнырчук...

Пасля паўзы Вярбіцкі азваўся яшчэ раз:

— Ноч добрая.

Гэта — таксама з думкай пра адно.

Лугавая нізіна, нуднае плёханне нарэшце такі скончылася.

Коннікі выйшлі на бугор і перайшлі на рысь.

Брыгаду дагналі на грэблі.

Абочынамі яе, там, дзе пазней вясною ды ўдзень, будуць сцежкі пад вербамі, а дзе цяпер хоць трохі менш раскоўзана, раскалочана гразь, гужам, двума ланцужкамі ішла пяхота.

Мужчыны і хлопцы з навакольных вёсак. Былыя акружэнцы і палонныя, што паўцякалі з-за дратоў. Дэсантнікі, што ў суровую рэчаіснасць гэтых начэй апусціліся на белых шаўковых воблаках парашутаў. Другія пасланцы Вялікай зямлі, што так вось і прытопалі з-за фронту сюды, у Наднямонне, пехатой, начамі. Беларусы, рускія, украінцы. Гэта — асноўная маса. А потым, нібы прадстаўнікі ад іншых народаў,— то казах, то яўрэй, то грузін, то нагаец...

Руневіч ведаў многіх не толькі з выгляду. Ён памятаў, як прыходзілі хлопцы, паасобку і групамі, як абрастаў іх атрад, як разлучыўся на два, як да двух прырос трэці, чацвёрты... Новыя людзі, новыя лёсы. І, разам з тым, як ад асноўнага ядра, ад першай камсамольскай групы іх партызанская сям'я расла і дужэла — узмацнялася і адчуванне гэтай сілы, адчуванне кроўнай, жыццядайнай сувязі з усёй краінай, з усенароднай барацьбой.

Як і кожны з яго таварышаў, Алесь адчуваў гэтую сілу і сувязь па-свойму. Калі яны выходзілі на справу грамадой і — як сёння, у грозным маўчанні — тупацела, скрыпела па снезе, чмакала па гразі мноства ног, асцярожна пабразгвала зброя — хлопец успамінаў і босых, прыбіта разгубленых палонных чырвонаармейцаў на бруку баварскага гарадка, і зганьбаваны варожымі стрэламі наш пагранічны слуп, і кроў, замёрзлую на камені чырвонай плямай, і чорную рукавіцу... Разгром, разгубленасць, адчай — усё, што давялося ўбачыць і адчуць, здавалася бясконца далёкім, нават неверагодным. Алеся зноў уздымала пачуццё вялікай савецкай Радзімы, радасць уз'яднання з ёю, якога ён не адчуў калісьці тут разам з усімі. Пачуццё той Радзімы,

што ўжо грыміць пераможна франтамі, што хутка прыйдзе сюды!..

Гэта ён — зноў па-ранейшаму і зноў па-новаму — адчуў і цяпер, як толькі яны, разведчыкі, дагналі пяхоту, чацвёрты атрад, канец даўжэзнай, нябачнай у цемры брыгаднай калоны.

Коні ішлі жвавей за людзей на абочынах, коннікі падварушвалі іх, спяшаліся ў авангард, да начальства, і можна было, мінаючы пехацінцаў, пазнаваць некаторых знаёмых.

Вось ідзе Навамодны. «Баец», які да гэтай зімы жыў у Пасынках «прымаком», на вялікую, нечаканую радасць пярэстарку Акуліне. Дубіна, карак — хоць дугі гні. Ой, не хацелася разуваць Акулініны лапці, прыпамінаць, што салдат! Угаворваць прыйшлося...

А гэта Лёнька Рымар. З тых падбярозаўскіх хлопаў, што ўвосень прыйшлі цэлай групай. Бобікі з іхняй вёскі хацелі іх сілай пабраць у паліцыю, загадалі з'явіцца ў гарнізон. А хлопцы адкапалі свае прыпасы, выйшлі за вёску, далі ад радасці салют, здаецца, з дзевяці стваловў, і падаліся за Нёман, у пушчу.

А гэта хто?.. Сам Валодзька Чыжоў, гаркаўчанін. Ад яго калісьці, у першую восень пасля палону, Алесь пачуў упершыню ў жыцці «Арлёнка».

Гразкая вуліца ў Пасынках. Імжыць нейкі ліпучы дождж. Па гразі валачэцца фурманка. Гной завезла і вяртаецца. На возе, бокам, перавярнуўшы дошкі-гнаёўкі, сядзіць «баец». Лапці — над самай гразёю... І раптам — звонкі, задушэўны голас:

Меня называли орленком в отряде,
враги называют орлом!..

Так і ўзмахнуў з сярэдзіны песні, з глыбіні свае горкай задумы... Пратэст, надзея, упэўненасць — што было ў яго песні? Потым стала вядома — штó. Валодзька пайшоў у атрад адзін з самых першых. Колькі часу прайшло ўжо, а толькі ўбачыш хлопца або пачуеш ягоную песню — успамінаецца цёпла, з уздымам, той першы «Арлёнак»...

Белабародзька. Нячуй. Нядаўна прыйшлі з-за фронту. Здаецца, крамяныя запарожцы. Збан самагону пастаў на стале — не зміргнуць. Пісьмо султану напісаць? Таксама можна.

Нагаец Антон. Пацешны балбатун у сіняй, з бліскучымі гузікамі, форме польскага пажарніка. Смешна: дзе ён яе адкапаў?..

А гэты? Што за апалчэнец?..

— Э, Саладуха, здароў! — нягучна, з асцярогай сказаў Руневіч і, весела ўспомніўшы Дайлідзёнкаву губу, дадаў: — Няхай жыве беларуская птушка бацян!

Яшчэ ў аўчыннай шапцы чалавек, вялікай, як буслянка, у хатнім кажусе, у бясстрашных ботах... Толькі што добрае торбы з салам няма.

— Ты, Алесь? Ну, то здароў, братко! Хоць бы пад'ехаць даў...

Той самы голас — мяккі, напеўны, па-нашаму. Ды ўжо даўно наш Зміцер не «энтлясан», не смяцюх! На рэмені, прыкладам угару, каб не замокла, доўгая работніца-трохлінейка. Партызанскае джала, «жыгáла», як гавораць наднямонцы.

Упершыню пасля Германіі Алесь са Змітраком убачыліся месяцаў са тры таму назад, калі Саладуха, разам з двума другімі аднавяскоўцамі, прыйшоў з-пад свае Любчы ў атрад.

«Жыцця, братко, няма ад іх, паршыўцаў,— гаварыў ён тады.— От дзе погань! Там, дома, дык яны хоць не ўсе, а некаторыя былі гітлеры. Як мой гарбач, каб яму задушыцца мукой! А тут — што ні немец, то гад. А з імі і нашы сабакі, каторы ў паліцаях...»

— Як жывеш, Зміцер? Нешта мы з табой рэдка бачымся.

— Ды што ж, братко, пешы коннаму не таварыш. Ты ўсё гойсаеш недзе, а наша дзело такое — пяхота. А што ж гэта вы чатырох? Вас жа, разведчыкаў, восем.

— Дахаты заскочылі, у сямейны. А то тры тыдні не былі.

— І вам хапае, вядома...— Ён памаўчаў.— Каб толькі сам, братко, дык яно што. Трэба дык трэба. Мы ж не адны: свет народу на гітлераў устаў. Але ж баба з малымі...

— А дзе яны ў цябе? Чаму не забярэш?

— Ды ўжо забраў. Не гібець жа ёй там, па сваяках, не дрыжаць... У сямейным яны. Ужо і зямлянку я ім зрабіў. Але ўсё роўна ж, братко, неспакой. Каб гэта ты, скажам, сам на фронце, а сямейнікі недзе далёка ад яго...

— Добра, што хоць жывыя ўсе,— цішэй, прыглушана сказаў Алесь. І, каб перавесці гутарку на іншае, спытаўся: — Пра хлопцаў нашых больш нічога не чуў?

— Што ж ты пачуеш, братко,— якая ж цяпер пошта?

Не шмат расказаў Саладуха і на іх першай сустрэчы.

«Антановіч казаў, што тыя, з вашай, братко, кампаніі — трох уцяклі. Крушына, Печка і яшчэ адзін. Дальбог, братко, не памятаю хто... Потым і мы пайшлі з Антановічам»...

Вось і ўсё.

Мала пра хлопцаў ведае і Алесь. Зрэшты, і мала, і многа.

Бутрым памёр у лагеры. Зімой пад сорак першы год. Толькі такую вестку, без падрабязнасцей, прынёс яго жонцы зямляк, якому ўдалося ўцячы.

Руневіч сам быў летась у той нясвіжскай вёсачцы, па якой тужыў калісьці Уладзік. Бачыў Зосю яго, што зусім абáбілася на ўдовіным хлебе. Бачыў і хлопчыка, які ні слова не сказаў, чарнаногі свіны пастушок, толькі глядзеў на дзядзьку-партызана спадылба. Стары Бутрым памёр, яшчэ не пачуўшы пра сынаву смерць...

Крушына і Мазалёк у партызанах. Летась ішлі адтуль, з Ліпячанскае пушчы, хлопцы па сувязь, за фронт — расказалі. Сяргей, ёлкі кашлатыя, ужо і вершы друкуе ў газеце. Нядаўна сам Алесь убачыў. Усцешана і зайздросна... Бо сам ён толькі яшчэ ўсё «багацее», «набіраецца». Хоць як жа цягне яго... Не, не да вершаў, да прозы. Суровай, радаснай, дужай, трывожнай — як само жыццё... А Мазалёк — цікава, хто ён цяпер: падрыўнік, пехацінец, разведчык?.. Пра Трайнога Марціна, Печку і Непарэцкага не чутно нічога. Дзе яны? Як там Янкель — з яго няўцешнай трывогай?.. Хто ж там трэці ўцёк тады, з Сяргеем і Печкам?.. Каб жа пачуць хоць што-небудзь яшчэ! Ці голас ім падаць!.. Выпрабаванне разлукай?.. Як з Толем?.. Замнога іх, гэтых разлук!..

— Ты чуў?.. Ты чуеш, Алесь?

— Што? — адарваўся ад думак Руневіч.

— Уверсе. Слухай... Во!..

Дзесьці высока над імі, здаецца, над цемрай, па-

чулася геганне. Зноў трывожнае. Уцякаюць яны? Даганяюць? Радасць гэта ці проста спалох?

— Дзікія гусі, братко!.. Таксама ж некуды лятуць... Вясна... Што ж, кожнаму сваё...

Руневіч прыпыніў каня. Нават глядзеў, заслухана, угару.

— Вашы паехалі, Алесь. Бягом. Глядзі, братко, і ты. Пабачымся яшчэ, хто будзе жыў...

— Бывай, Змітрук! Пабачымся!..

Дарога пацвярдзела. Конь, толькі падварушаны, пайшоў ахвочай рыссю. Удагон сваім цягавітым чацвераногім сябрам. Яны ўжо зніклі наперадзе — у мнагалюднай, маўклівай, насцярожанай цемры. Паміж двума ланцугамі пяхоты...

«Спяшайся, Чорны — мой новы, добры, яшчэ не заезджаны конь!.. Не ведаю, чыё ты поле не выедзеш гэтай вясной араць, хто, што за чалавек па цемнаце сваёй лае мяне, незнаёмага партызана, які прыехаў і ўзяў цябе ад жолаба, пакінуўшы там твайго папярэдніка. Невядома і большае, дружа. Чыя заўтра маці заплача, а каго закапаюць і так, толькі пад залп нястройнага салюта. Пасля прамовы нашага Івіна...

Многім з хлопцаў, каго мы мінаем, невядома,— каб без здагадак, а ясна,— куды мы цяпер, як задумана гэтая ноч.

А нам, разведчыкам, вядома ўсё...»

Алесь выразна ўявіў губаты, грубы, чорна-брывасты твар камбрыга Івіна.

Калі б гаварыць прамову, дык ён заблытаўся б разоў са сто ў сваім «который». «Фашист, который должен чувствовать, подлец, что партизан, народный мститель, который...» Калі б рыхтавацца да гэтай прамовы або сядзець на бюро — адлюстраваў бы Аляксандр Іванавіч на прасцецкім абліччы, як Косця кажа, «партыйна-дзяржаўную заклапочанасць»...

А перад боем, перад справай Івін рабіўся толькі такім, якім яго хлопцы любілі — смелым, разумным, чалавечным камандзірам.

І часта Руневіч успамінаў тады, што іхні камбрыг — не проста кадравы афіцэр, капітан. Яму таксама не пашанцавала: акружэнец. Арганізоўваў у вёсцы атрад,

а потым быў арыштаваны. Уцёк з-пад расстрэлу. Ад самай ямы. Са звязанымі тэлефонным провадам рукамі. Гэта здавалася б, можа, легендай, каб не адбылося яно ў недалёкім мястэчку, каб не было людзей, што самі бачылі, як ён бег пад кулямі да лесу, што самі развязвалі яго рукі...

Сёння брыгада ідзе нарэшце на тое мястэчка, на той «славуты», «непрыступны» гарнізон. На тых арыйскіх «фогеляў», плюгавых бобікаў і гандляроў-«бязменаў», што акапаліся, абгарадзіліся тут, на нашай зямлі — якая недарэчнасць! — як адзін з апорных пунктаў гітлерызму...

«Праўду, народную праўду кажа, па-свойму проста, Змітрук: «Тут — што ні немец, то гад». І я ў Германіі бачыў нямецкі народ — і нелюдзяў, і людзей. Тут мы бачым фашыста — захопніка, забойцу, рабаўніка,— і адгэтуль ён не павінен вярнуцца.

Івін таксама ведае гэта ясна».

У штабной зямлянцы, дзе камбрыг праводзіў сёння аператыўную нараду, ён гаварыў без «который» коратка і выразна:

— Цяпер — разведка. Руневіч і Дайлідзёнак прабяруцца на могільнік і прынясуць ад сувязнога паліцая іхні пароль. Вярбіцкі павядзе першую групу. Здымаць пасты. Ціханаў і астатнія застаюцца пры мне. Мясцовым дазваляю заехаць пераадзецца. Ну, і сваіх пабачыць... Усё.

«Пакуль што ясна ўсё. Спяшайся, Чорны,— адстаём!..»

*1942—1944; 1962—1964 гг.*

За цьмянымі шыбамі кухоннага акна загайдалася кучаравая галінка вішні. Чарнагруды верабей зірнуў у акно і, нібы ўбачыўшы нешта, з задорам чырыкнуў:

— Ся-дзіш! Ся-дзіш!

Яго старая прыяцелька — шэрая кошка — і сапраўды сядзела на земляной падлозе кухні, каля сцяны, у промнях сонца. Сцяна нядаўна пабелена. На ёй шасцю квадратамі шыбаў ляжыць святло румянай летняй раніцы. На святле — варушыцца адбітак вераб'я ў лістах. Зусім блізка — падскоч ды вазьмі! Зялёныя, хітрыя вочы кашэчай маткі плюшчыліся ад спакойнай пагарды да вераб'інага геройства, ад соладу дрымоты і цяпла. Перад ёй кацяняты гулялі з прынесенай мышшу. Шустрая кошачка, з нядаўна зведанай асалодай зацінуўшы зубамі здабычу, насілася з ёй па кухні. А следам блытаўся, мяўкаў пярэсты каток, ніяк не могучы прыняць удзел у пачастунку. «Дурань яшчэ, ды нічога, навучыцца»,— думала кошка. Паклікаўшы малога да сябе, яна пачала яго чула, старанна лізаць.

Здзёрты бярозавы венік-дзяркач сярдзіта шоргае па няроўным таку земляной падлогі,— за парогам, у хаце, гаспадыня мяце.

Цётка Аксеня прыкметна ў дрэнным настроі. Яна толькі што пасварылася з сынам. Валодзя, праўда, нельга сказаць, што сварыўся — больш гаварыла яна, дакарала. Бо і было за што! Сусед па полі, Мацю́ха — багацей і зараза,— зноў наздзекаваўся з іх: перакасіў ледзь не цэлы пракос канюшыны. А Валодзя дараваў яму гэтую крыўду. Расказаў ёй, яна папракнула, як маці, а ён — глядзі ты! — пакрыўдзіўся. Надта ж нейкі спакойны, рахманы. «Не цягаўся я,— кажа,— яшчэ па

судах. Што ты,— кажа,— Мацюху не ведаеш!..» Нават бразнуў дзвярмі і пайшоў.

А хто яго ведае, мо і не дурань Валодзя? Ды толькі ж вельмі напрыкрыла горкая доля ўдавы! Хочацца нейкага цвёрдага голасу ў хаце, нейкай сапраўднай мужчынскай рукі ў гаспадарцы. А сынок, вось, пасвойму...

Перакінуўшы смецце ў кухню, старая цяжка выпрасталася, змахнула рукой няпрошаную слязу, паглядзела на кошку, што песціла кацянё, і з крыўдай сказала:

— Ліжы, ліжы, дурніца, дачакаешся і ты!

Але тая нібы і не чула.

Старая замахнулася венікам, і ўсю кашэчую сям'ю як быццам вымела за дзверы ў сені.

Дзяркач сярдзіта зашаркаў па кухні.

А на пабеленай сцяне, дзе яркае святло з акна, ужо без вераб'я гайдаўся адбітак вішнёвай галінкі.

Тым часам Валодзя сядзеў над ракой.

Зняў кашулю, растросшы буйную чупрыну і, не вымаючы рук з рукавоў, задумаўся:

«Каб не дараваў,— кажа,— раз ды другі раз...» Маці здаецца, што як спякла мне яечню да сонца ды выправіла з хаты, дык і ўсё: ты ўжо там і накосіш, і наб'ешся... Спраўся з Мацюхам! Падсолтыс [1],— усюды рука. Як наша канюшына налегла на іхнюю, так ён яе скрозь і пассякаў, ды яшчэ цераз баразну лукаткамі павыхопліваў. Слепакі свае рыжыя заплюшчыць і лезе... Ых ты!..»

Учора Валодзя затузаўся ў канюшыне, але, вяртаючыся ўвечары дахаты і сустрэўшы Мацюху на загуменні, не стрываў:

«Што, дзядзька, свайго малавата?»

А той, заіка чортаў:

«Табе,— кажа,— сынок, і засляпіла, ці што? Невядома яшчэ, і хто з нас і каму перакасіў. Якраз і па таткў, і пакойнічку, пайшоў, калом яму зямля. Назухуеш яшчэ, заморак ты і асмалены. Браток скруціўся — прыйдуць і канцы і на цябе. Я цябе і падаткну, і пачакай...»

---

[1] Намеснік солтыса, сельскага старасты.

Ранняе сонца яшчэ не грэла: на мурагу і кветках блішчала раса. Маладое цела ахалоджвалася лёгкім подыхам вільгаці. «Заморак»,— успомніў яшчэ раз Валодзя і цяпер усміхнуўся. Нахіліўся да левай рукі і сціснуў зубамі цёплы, пругкі мускул. Грудзям як быццам мала паветра: хочацца пацягнуць імі на ўсю — адтуль, з-пад расы, з-пад бярэзніку за ракой, дзе вось устала раскошнае сонца. А на рацэ якая цішыня!.. Хлопец не вытрымаў, падняў з травы нейкі карчук і шпурнуў яго ў раку. Спачатку плюхнула, а потым на вадзе, як жывыя, разышліся кругі і ціха пазыбаліся за плынню. «А то дык каму-небудзь здасца яшчэ,— з усмешкай падумаў Валодзя,— што наша Ціхая і сапраўды не плыве, а стаіць». Пасля ён раптам устаў, злажыў перад сабой рукі, разбегся і нырнуў.

Зноў спачатку ідзеш наслепа, пасля расплюшчаныя вочы рэжа вадой, пачынае не хапаць духу і здавацца, што заплыў ужо немаведама як далёка... Вынырнуўшы на сярэдзіне ракі, Валодзя адпырхаўся і, спрытна клінуючы ваду далёкімі захватамі рук, паплыў.

— А, бачыш ты яго, паніч! З расіцаю. Здароў! — гукнуў нехта з берага.

— Жэнька, ты? — усцешана крыкнуў Валодзя.— Здарова! Як маешся?

Жэнька зняла з пляча бярэма выкручанай бялізны і, апусціўшы руку з пранікам, а другую наставіўшы ад сонца брылём, смяялася і вуснамі і вачыма.

— Вунь дзе белыя гускі [1]. Нарві. Там вунь, у завоіне.

— А што дасі?

— Па носе пранікам, добра? Праўда, нарві, неахвота самой.

— А можа, лезь, весялей будзе.

— От, ты не дурыся, нарві.

Валодзя стаяў на глыбіні, стрыгучы пад вадой нагамі, і ўсё глядзеў на дзяўчыну. «Жэнечка мая, галубка...» А яна... ой, яна! Як быццам гэта і зусім не яна прасядзела з ім усю ноч, сарамліва закрываючыся ад яго першых, нецярплівых пацалункаў.

— Ну, чаго уталопіўся? Плыві!

І ён паслухмяна паплыў. Жэнька ішла берагам, па-

[1] Рачныя лілії.

казваючы: «тут вось, і тут вось яна!» А Валодзя і сам бачыў: устрывожаная вада далікатна зыбала зялёныя талеркі лістоў, між якімі адчыняліся да сонца фарфоравыя пялёсткі белых гусак.

— Во табе, во,— прыгаварваў Валодзя і, стрыгучы нагамі, лавіў рукой звілістыя калівы. Схопленыя кветкі пануралiся ў ваду і, выняўшы іх, не верылася, што яны — тыя самыя: такімі брыдкімі, памятымі рабіла іх вада. Валодзя выкідаў іх на бераг, а Жэнька нагіналася па кожную гуску ў траве і складала ў руцэ букет. Ого, яшчэ нямала трэба, каб напоўніць паліваны збаночак! А тут Валодзя раптам пакінуў ірваць і паплыў.

— Валодзька! Яшчэ!

— А ну яго, замарыўся!..

Завярнуўся насупраць плыні, да вопраткі, але змучаны доўгім плаваннем, браў, браў і змогся нарэшце зусім.

— Ну, цяпер уцякай,— папрасіў,— вылазіць буду!

А Жэнька, быццам спакуса:

— Э, от і плывун! Э, а толькі хваліўся!

— Ды ідзі ты, кажу! Вось дзе хіба яна! Ну, пачакай...

Ён даплыў да берага і стаў хапацца рукамі за аер і асаку. Тады толькі Жэнька адбеглася.

Яна палажыла свае гускі на траву, укленчыла на кладцы з першай штукай бялізны ў руцэ, абмачыла яе, палажыла перад сабой і, перш чым замахнуцца пранікам, прыслухалася. Няма, не чуваць... Тады — бах! бах! бах! — азваўся гулкі пранік. А ўсё ж не цярпіцца, карціць азірнуцца ў той бок. «Будзе, прыйдзе, нічога, прыкідваецца толькі, што зазлаваў. А я ж такі не азірнуся!» Бах! Бах!.. Ды раптам нешта як быццам штурхнула яе. Азірнулася.

— А, падкраўся, якраз!

Валодзя стаяў над ёй, каля выхаду з кладкі.

— Вось як піхну ў ваду, дык будзеш ведаць...

— А чаго цябе гоніць на глыбокае, калі плаваць не ўмееш! Ну, ты памалей, не чапайся, бо пранікам. Валодзь-ка! — узвізгнула дзяўчына, і абое яны абняўшыся, зваліліся з кладкі. Ды не даскочылі да берага, а плюхнулі ў ваду, ледзь не па самыя калені.

— А ну цябе, добрыя жартачкі,— прабавала надзьмуцца Жэнька, выціскаючы падол стракатай суленкі.

— А што ж ты думала — толькі я?

— Пусці, а то яшчэ ўгледзіць хто-небудзь... Пусці.

— А ты такая... ты... Дай жа хоць гуску. Адну.

— Бяры сабе хоць усе. Патрэбны яны мне.

А сама ўсміхаецца.

— Дык нашто ж ты прасіла?

— На, на адну, не злуй. На вось і дзве. Такія самыя, як ты, памятыя.

Валодзя — эх, абняў бы цябе ды прыціснуў! — але хлопец чамусьці хоча цяпер, у гэты момант, быць халодны.

— Мяне-то яшчэ ніхто...— пачынае ён, але адразу спыняецца, схамянуўшыся, што гэта — няхораша. Ды Жэнька не заўважае недагаворанай грубасці.

— Эх ты,— кажа яна,— лепш вось дахаты ідзі, а то будзе табе ад маці.

А ўсё ж не хочацца ісці, ні ёй, ні яму.

— І падбародак дрыжыць. Што ты, змёрз?

— Дай мне грэбеня, Жэнька. Валасы растрасліся.

— На, сам вазьмі.

Жэня даверліва павярнула да яго чорнавалосую галоўку, і Валодзя не змог больш цярпець. Вусны яе як быццам хацелі нешта сказаць, магчыма, у знак пратэсту, але не паспелі. Ды, відаць, і раздумалі на паўдарозе. Загарэлыя рукі пакінулі абараняцца; адна з іх нават апынулася ў яго на шыі... Ды раптам Жэнька, зноў успомніўшы пра белы дзень, пусціла рукі, нават адштурхнула яго і ні крышку не злосна сказала:

— А ну цябе! Вось... хіба... уздумаў!..

І хлопец яе, нібы прысаромлены, сігануў з вады на траву і пайшоў.

За кустамі спыніўся, прыціх. Пачакаўшы трохі — бах! бах! пранікам над вадой,— азвалася Жэнька. Ну, пэўне ж усміхаецца таксама, як і ён!..

Валодзя ціха, прагна скуб гарачымі губамі сырыя пялёсткі белай, памятай гускі.

Дома, у пустым яшчэ прыстаранку гумна, ён лёг на пасцелі, залажыў за галаву рукі і, спакваля супакоіўшыся, задумаўся.

«Так, учора скасіў канюшыну, а заўтра-пазаўтра, глядзі ты, возьмуцца за траву. І так яно пойдзе адно за

адным — касіць, жаць, зноў сеяць... Нічога, справімся! Галоўнае, чорт вазьмі, што зрабіў нарэшце новы хлеў. Сам, як гавораць, без бацькі!..»

Думкі аб гэтай будоўлі кружылі ў хаце даўно. Некалі бацька, вярнуўшыся ў дваццаць першым годзе з бежанства, застаў на родным котлішчы адзін быльнёг. Уся вёска пайшла на акопы. Немец засеў тут калісьці надоўга. Яшчэ і сёння ў ярах, на захад ад вёскі, стаяць прыземістыя бетонныя бліндажы. Бежанцам зімаваць давялося ў зямлянцы. Цераз год толькі тата агораў сякую-такую хаціну. Замест сенцаў і каморкі, як рабілася б пры грашах ды без лішняга спеху, згарадзіў плецянік для каровы. Гуменца таксама зрабіў да часу, плеценае. А тады пачаў з году ў год збіраць капейку і вазіць лес. Усё хацелася зрабіць па-людску: і добрую хату, і хлеў, і гумно. Ды ўвосені дваццаць дзевятага года бацька памёр, і ад усіх яго збораў засталася на двары невялікая горба бярвення.

У хаце грошай па-ранейшаму няма, а час не чакае. Страха на плеценым хлеўчыку вельмі хутка засвяціла голымі скабамі, і дзверы таксама аселі. І толькі вось гэтай зімой, на чацвёртым годзе пасля бацькавай смерці, Валодзя сам купіў пяць кубаметраў ельніку.

«І хто яго ведае, як гэта выйшла так лоўка! Але што — і не сходзіш, як людзі, і не з'ясі. Мама кажа: «Няхай багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца». І сапраўды, няхай дзівіцца: вось я сам збудаваў такі хлеў, сам, без бацькі!

Пасля гэтага можна, здаецца, і адпачыць. Пра запас. Асабліва цяпер, пакупаўшыся. А да таго ж яшчэ не спаўшы ноч... Эх, Жэня!..»

Плеценае гумно свеціцца, як рэшата. Праз шчыліны ў сценах і дзвярах ціснуцца косы і коскі вясёлага сонца, сцелюцца палосамі на таку, на патрусе. У сонцы вяла, бязладна таўкуцца пылінкі. З двара ўляцела ластаўка, прычапілася на гняздзе, пашыпела-пацмокала нешта сваім птушанятам, дала аднаму з іх мошку, палётала па гумне, быццам і сапраўды забыўшыся, кудой вылятаць, і зноў нырнула ў шыліну над дзвярамі. А потым дзве з іх прысядуць на перакладзіне і пачынаюць шчабятаць, нібы суседкі каля студні... А ты ляжыш сабе і з любасцю песціш усё вачыма. А потым, зусім неўпрыцям, засынаеш... Жэнечка мая, галубка!..



На Волзе.
З жонкай Нінай Міхайлаўнай.
*1967 г.*



Арменія, даліна Арарата.
*Злева направа:* І. Мележ, В. Быкаў,
М. Ткачоў, І. Шамякін, Я. Брыль.
*1969 г.*

— Валодзя! Валодзя, го-о-оў! — гукаў нехта ад хаты. Раз, другі, трэці. І, каб хлопец не спаў ужо, ён пачуў бы ціхія, у лапцях, крокі на прыгуменні. Потым са скрыпам адчынілася правая палавіна дзвярэй. Хто гэта? Маці. Старыя вочы, сустрэўшыся з цемрай, ледзьледзь знайшлі сына, а потым, спыніўшыся на ім, адразу пасвятлелі.

— Вось дзе свята знайшоў, расцягнуўся!

І праўда,— адна Валодзева рука на грудзях, другая адкінута, паварушваецца гарбок на горле, а вусны чагосьці ўсміхаюцца. Дзіцятка маё! Каторае лета працуе, як сталы! Сымон памёр — пакінуў яго пастушком, а ён вось — глядзі ты! — і хлеў збудаваў. Няхай сабе паспіць здаровенькі: рабоце канца не будзе.

Палавіна дзвярэй асцярожненька скрыпнула і зачынілася зноў.

Ды выспацца Валодзю не прыйшлося.

Неўзабаве цётка Аксеня прыйшла ў гумно яшчэ раз, цяпер ужо з нейкай паперкай.

Паперку прынесла Мацюхава дзяўчынка Маня і, як быццам баючыся, што старая прымусіць яе прачытаць ці так перадаць змест гэтай паперкі,— аддала і пабегла. Старая прачытала б сама, ды па-польску яна не ўмее. Ды нешта ж вось і Валодзя не спяшаецца... Пакуль ён раскатурхаўся, узяў паперку і хутка, вельмі выразна для матчыных вачэй, мяняючыся з твару, пачаў чытаць,— цётка Аксеня ўпэўнілася, што прадчуванне не ашукала яе... Нічога добрага не прыносяць у хату гэтыя панскія паперкі!.. Першае, што адразу ўзнікла ў душы набалелай здагадкай,— гэта думка пра старэйшага сына. Матчына сэрца заўсёды з тым, каго няма.

— Мо пра Арсена што-небудзь? — спыталася яна.

— Не,— глуха адказаў Валодзя, а потым, не хочучы спаткацца позіркам з вачыма маці, дадаў: — Мне сёння трэба ісці ў пастарунак.

...Яна не плача так, як іншыя бабы — галосячы, з горкім праклёнам; яна як быццам не хоча, каб скарга выйшла за браму, на вуліцу. Нават больш — яна стараецца, каб боль заставаўся ў душы, каб ад таго, што прыціснеш яго ў сабе, палягчэла таму, хто слабейшы,

кага, няглёдзячы на дзевятнаццаць год, не адвыкла яшчэ лічыць малым...

Ды Валодзя — мужчына. Ён настолькі нават пераможа самога сябе, што будзе нібы памятаць пра абавязкі заўтрашняга дня,— пра касу, якую трэба накляпаць, як заўсёды, старанна. І вось ён сядзіць пад вішняй, насупраць свайго новага хлява, і доўга, бясконца доўга стукае малатком. У правай кішэні яго шарачковых портак ляжыць, нібы нават муляе шматок скамечанай паперкі, а ў вачах хлопца неадчэпна стаіць яе змест:

«...Вяльможны пан Уладзімеж Громыко, сын Шымона і Ксены з дому Плескач, народжаны ў 1915 годзе, жыхар вёскі Галынка, Карнявіцкай гміны, Навагрудскага павета і ваяводства, павінен сёння, 21 чэрвеня 1933 года, у дзевяць гадзін па поўдні, з'явіцца ў пастарунак панствовай паліцыі ў Карнявічах...»

«Самому, значыцца, пайсці туды, куды звычайна водзяць, часцей за ўсё — у наручніках?.. Можа Арсена злавілі? — думаў Валодзя.— Ды не — Арсен не вельмі ім паддасца! І наогул ён, мусіць, ужо за граніцай, у Савецкім Саюзе.

Можа і мяне ўблытаў нехта ў нейкую справу, удаў без усякай віны?..»

Днямі каля вёскі згарэў хутар Якаўца. А пазаўчора паліцыянты забралі Івана Дарму, парабка Кучурыхі, Якаўцовай суседкі. Яго і Патайнога — Паўла Рыбачонка.

«Няўжо каторы з іх не вытрымаў, наплёў чаго не след? Ды не, завошта яны будуць мяне ўдаваць: што я зрабіў ім або каму-небудзь?..»

Колькі разоў маці ні праходзіла каля яго, не заўсёды маючы на гэта патрэбу, столькі разоў ёй хацелася спыніцца над ім і спытаць:

— Што, пойдзеш?..

Аднак не спыталася. Ды і спынілася каля яго толькі адзін раз. Тыя самыя рукі, што нават пяць год таму назад захацелі б падняць яго і затуліць ад крыўды, цяпер былі моцна, як быццам на самым краёчку адчаю, зашчэмлены пальцамі ў пальцы. Яна забылася на гэты раз даць ім нейкі занятак — узяць вядро, даёнку або фартух буракоўвага лісту,— каб як-небудзь адвесці сынавы вочы ад сапраўднага стану свае душы. Цётка Ак-

сеня пастаяла, памкнулася раз і другі раз спытацца, а потым — што ж, як усе і заўсёды, і ўсюды — заплакала зноў.

У палавіне кожнага дня ў сялянскіх хатах бывае той урачысты час, калі сям'я садзіцца за стол. Гаспадыня ставіць пасярэдзіне стала місу якой-небудзь стравы, бацька ці нехта іншы са старэйшых мужчын накройвае лустамі хлеб, кожны сямейнік па нейкай метцы ці так, па прызвычаенню бярэ сваю лыжку (у бабулі ці ў мамы абавязкова драўляную) і пачынаецца ўрачыстае сёрбанне. Ядуць, амаль ніколі не спяшаючыся, заўсёды падстаўляючы лусту пад лыжку, каб лішне не капаць на стол.

Верная звычаю, цётка Аксеня і сёння ў пару прыбрала на стол і паклікала хлопцаў. Але і Валодзя і меншы хлопец, дзесяцігадовы Юрка, елі сёння як не сваімі ратамі. Сабраўшы ўсё са стала амаль не кранутым, чаго даўно не бывала, маці пайшла ў гарод.

Пакуль яна, сумна прыгорбіўшыся, незвычайна марудна корпалася паміж сівага лісця лапушыстай капусты — нялёгка было б распазнаць, калі яна плача, а калі спачывае ад слёз, зноў снуючы беспрасветную думку...

Згодна парадку працоўнага дня, які малады гаспадар яшчэ ўчора намеціў, сёння пасля поўдня трэба было занесці ў кузню левае задняе кола, каб перацягнуць на ім шыну. Валодзя прыйшоў у гумно, дзе на таку стаяў яго воз, зняў кола... а потым падумаў, што лепш, можа, нікуды не ісці, а пабыць аднаму...

Прыйшла нарэшце ноч.

Валодзя едзе на начлег. Ды не туды, куды звычайна ездзіў, дзе людзі, а проста едзе, праехаўшы пашу, па лузе. Нібы ўцякае некуды, ці што?..

Вужакай сцелецца нізамі сівая, малочная імгла. Каштанка руплів тупае па роснай глыбокай траве, не пакідаючы надзеі, што гаспадар усё ж такі некуды даедзе, спыніцца, знойдзе патрэбнае месца, дзе яна зможа наесціся.

А Валодзя ўсё думае.

Вось ён лічыў, дзівак, што не трапіш, куды не захочаш. Думаў, што можна пражыць у сваёй хаце ціха,

непрыкметна. Няхай ужо Арсен, старэйшы ды вучоны, пайшоў з сям'і, а яму, гаспадару, як ісці,— трэба ж некаму маці старую ды брата малога глядзець?.. А так жа ён душою за сваіх людзей. І хлопцы ведаюць пра гэта.

Хлопцы ведаюць... А вось пайдзі да іх, спытайся, што рабіць — ісці ў пастарунак ці не? — не адкажуць як след. А то адкажуць яшчэ тое, што ты ведаеш і сам: ідзі, бо куды ж табе дзецца інакш.

Уцячы за граніцу? Так вось там цябе і чакаюць... Ды паспрабуй яшчэ перайсці яе, тую граніцу!.. А як жа пакінеш усё — і маму, і Юрку?.. А Жэню?..

Думка такая з'явілася нечакана. І разам з думкай — а можа і раней — устала перад вачыма яго чарнявая, яго даўно каханая дзяўчына. Яна адна, відаць, змагла б пашкадаваць яго. Маці і яна. Дык чаму ж не пайшоў да яе?.. Бо цяпер не да слёз. Бо што яны могуць сказаць яму, чым памагчы. Недзе маці, вядома ж, не спіць, а плача. Відаць, і Жэня пачула ўжо, і таксама... Няўжо ж і мне, мужчыне, разам з вамі плакаць? Не!

А што рабіць?

Можа пайсці ў пастарунак? Можа нічога там і не будзе? Бо я ж нічога не рабіў. Нічога я ім, злыдням, не вінават...

Надакучліва, сумна, з надрывам плача нябачная кнігаўка. Лётае, хоча адвесці ўвагу каня і чалавека ад таго патайнога месца, дзе спяць яе дзеці. Як толькі супакоіцца адна — паднімае трывогу другая. І так, ад адной да адной, гэты плач прызвычайвае вушы, змушае прызнаць яго нечым зусім неразлучным з расой, і травой, і паўцемрай, і смуткам, які агарнуў маладую душу...

Каштанка раптам ці то ўздрыгнула, ці то нават скочыла ўбок. Спалохалася? Што гэта, чаго? А, гэта рэчка, тая самая, што ўдзень здаецца такой знаёмай, звычайнай! Цяпер яна адпачывае, зусім міжвольна, лена сунучыся на поўнач, да Нёмана, верная свайму спрадвечнаму прызначэнню. Парушаючы санлівую цішыню, час ад часу праз камарыны звон чуваць, як плюхаюць шчупакі ды пад мяккімі подыхамі ветрыку ледзь чутна шалахціць маладое трысцё.

Прывольна, а дзецца няма дзе!..

Так, не толькі маці ніяк не пасмела спытаць Валодзю, ці ён пойдзе, ці ён асмеліцца іх не паслухаць,—

сам ён на працягу бясконцых гадзін чакання і бараць-бы з самім сабой ніяк не мог вырашыць, што рабіць. Спачатку тая дзевятая гадзіна, калі ён, згодна павесткі, павінен быў з'явіцца, здавалася вельмі далёкай. Лепш кажучы, ён хацеў, каб яна страшыла яго здалёк, вельмі здалёк... А яна ўсё ж прыйшла. І як толькі прыйшла ды цераз яе, нібы праз нейкую несамавітую мяжу, перапаўзлі яшчэ больш павольныя, цяжкія гадзіны, Валодзя адчуў, што не пойдзе.

Аднак жа што рабіць? Чым ён заслоніцца ад іх, якую сілу проціпаставіць гэтай уладнай сіле?

Ён пакуль што яшчэ ўсё не ведае. Пакуль што яму толькі цяжка на сэрцы і цесна на свеце!..

У хмызняку на тым беразе ракі зачылікала, прачнуўшыся, нейкая птушка. Хутка пачне займацца на дзень, а Валодзя ўсё едзе, ніяк не хоча спыніцца, прылегчы, даць адпачыць і пагрызці кабыле. Яна ўсё ідзе, пад нагамі яе аднастайна шалахціць тая самая росная каша папярэшчанага кветкамі мурагу. А ў бярэзніку, над якім асцярожненька пачынае займацца зара, зноў кукуе зязюля.

І вось ён нарэшце спыніўся, злез, і, як толькі цераз галаву Каштанкі на халодную расу апалі доўгія павады, кабыла прагна прыпала да травы, не разбіраючы, чыя яна і што з гэтага можа выйсці. Валодзя стрыножыў Каштанку і тут жа, не выбіраючы месца, лёг, на хаду затуліўшы світку. Паляжаўшы нейкі час на баку, ён павярнуўся ніцма, заплюшчыў змучаныя бяссоніцай вочы, уткнуўся тварам у шаршавы рукаў халата і... захацеў заплакаць. Але не здолеў і, замест гэтага, проста заснуў,— глыбокім сном, бясконца далёкім ад страшнай сапраўднасці.

Уранні, вярнуўшыся з начлегу дахаты, Валодзя тоўкся па надворку, а потым стаяў у хаце каля акна і, нібыта чакаючы снедання, глядзеў, прыгнуўшыся, у заседжаную мухамі шыбу. І як толькі ў канцы вуліцы мільганула постаць у цёмна-сіняй вопратцы, ён адвярнуўся ад акна і паклікаў зусім глухім голасам:

— Мама!..

Яна пакінула печ і адчыніла дзверы ў хату.

«Што, ужо?» — хацела сказаць, але ўстрымалася

ці, можа, не змагла, і пытанне бязмоўна застыла ў вачах.

— Дайце мне чыстую кашулю,— сказаў Валодзя і адвярнуўся, заўважыўшы, як яна па-свойму мужна звяла сухія, бясколерныя вусны, папярэджваючы набліжэнне слёз.

Аднак, як толькі ён скінуў кашулю, маці раптам убачыла тыя сінякі і рубцы, што хутка пасядуць на гэтых плячах, і больш не змагла трываць...

Другі прыступ рыданняў нахлынуў тады, калі Валодзя наставіў рукі, дазваляючы паліцыянту надзець на іх далікатныя, патэнтаваныя наручнікі.

Галынкаўскі солтыс Рыгор Акалот, якога ў вёсцы прызывалі проста Сукай, сёння зноў не быў дома. Прынамсі, так сказала яго жонка. Замест яго паліцыянт, што прыйшоў арыштоўваць Валодзю, узяў з сабой падсолтыса — Мацюху.

Гэты прымаў удзел у арыштах неахвотна, асабліва цяпер, у арышце Грамыкі. Хочучы некаму адпомсціць, па-ягонаму куды прасцей і выгадней было слабейшага набіць, на мацнейшага напасці ўдвух з братам ці са шваграм, а таму, хто сам дужы, ці ўдаве, у якой дужыя сваякі,— спадцішка перакасіць, стравіць коньмі авёс ці перабіць нагу свінні.

Ніхто не зайздросціў Мацюхавым сумежнікам на полі ці на лузе.

Асабліва горка далося такое суседства ўдаве Грамычысе. Мацюха здзекаваўся з яе палоскі колькі хацеў. А цётка Аксеня толькі плакала, не могучы дачакацца, каб Валодзя яе па-сапраўднаму стаў на ногі. Гадоў са два таму назад, калі Валодзя ўпершыню паўстаў на абарону бацькоўскай баразны, Мацюха спыніў сваю пару коней у плузе і таўсцейшым канцом пугаўя з асалодай перацягнуў хлопца па спіне, па галаве, па руках — пакуль той паспеў уцячы.

А вось надоечы, калі Мацюха перакасіў Грамыкам паўпракоса канюшыны,— малады гаспадар пачаў з ім гутарку амаль зусім па-мужчынску.

Адчуўшы ў хлопцу сілу, Мацюха вырашыў правучыць яго інакш.

Учора ўранні падсолтыса выклікалі ў пастарунак.

Сам камендант Мармавіцкі сказаў, што трэба падпісаць паперку на Дарму. Дарма́ служыў раней пастушком у Мацюхі. От, бегаў сабе — байстручок байстручком. А цяпер вось, глядзі ты, спаліў Якаўца. І не адзін, смаркач, а з Патайным. Ніхто, праўда, не бачыў, ды камендант гаворыць, што ён. Калі ж гаворыць, дык, мусіць, ведае.

«Кажаце, пане, што Акалот падпісаў?» — спытаўся Мацюха, нібы для поўнай ачысткі сумлення.

«Пан Акалот падпісаў, і вы таксама павінны падпісаць»,— адказаў Мармавіцкі. Ён гаварыў спакойна, але цвёрда, хочучы гэтым сказаць, што на тое ты, хлопе, і падсолтыс, каб рабіць усё так, як загадвае ўлада.

«Я, пане каменданце, падпішу. Я падпішу. Але вы, можа, і яшчэ аднаго і ўзялі б. У Грамычыхі ёсць сынок. Разумненькі, трасца яго і галаве... Не лепшы за старэйшага».

«А што, і ён, па-вашаму, падпальваў Якаўца?»

«Я, пане каменданце, не кажу. Вам гэта, як той і казаў, і відней. Так сабе, можа, узялі б яго ды трошкі і пачухалі. Памякчэў бы. А то дык мне за ім, бальшавіком, жыцця ніякага няма».

Сакратар пастарунка, малады, спрытны пан Бігас, паклаў перад Мацюхам паперу, якую трэба было падпісаць.

Падаў яму ў руку пяро, раней абмачыўшы яго ў чарніліцу.

«Прашу»,— сказаў ён з усмешкай пад шчопцямі чорных, нафарбаваных вусікаў.

Пакуль падсолтыс падпісваў, камендант пераглянуўся з Бігасам і сказаў:

«Так, пане Мацюха. Перадайце Грамыку, каб ён прыйшоў сюды. Заўтра ўвечары».

«А можа, пане каменданце, вы яму і павестачку напішаце, як добраму пану? — павесялеў Мацюха.— Пастарунак цяпер і новенькі, падвал новенькі,— няхай і прыйдзе паглядзіць».

Ён засмяяўся кароткім, праз хрып прапушчаным смехам.

Мармавіцкі зноў пераглянуўся з Бігасам, пагледзеў на Мацюху і сказаў:

«Добра. Дадзім вам павестку».

Учора ўранні Манька занесла павестку Грамыку. А ён, аказваецца, не пайшоў. І сёння вось давялося яго забіраць, а Мацюху — прысутнічаць пры арышце. Сука, трасца яго галаве, заўсёды выкруціцца сухі: схаваўся і цяпер. Праўда, і ён, Мацюха, у хату да Грамычыхі не заходзіў, але і стоячы на вуліцы яму да страху выразна здалося, што гэтая павестка — людзі бачаць — добра такі намякае на тое, хто́ прычыніўся да арышту...

І яшчэ вось бяда на дадатак — за ім увязаўся Стась, секвестратар, які прывалокся з Карневіч разам з паліцыянтам.

Правёўшы трохі паліцэйскага з арыштаваным, падсолтыс і гэты самы Стась пайшлі загуменнай дарогай. Мацюха — каб менш спатыкацца з людзьмі, а секвестратар — абы не адстаць ад таго, хто, магчыма, і пачастуе.

Хто бачыў, як у звярынцы ходзіць на ланцугу, прыкуты за нагу да тумбы, вечна пануры насарог,— таму няцяжка ўявіць хаду і выгляд Мацюхі. Асабліва ззаду. Зрэбныя порткі вісяць на азадку вялікімі складкамі насарогавай скуры, путаючы клышавыя ногі. Вывернутыя ў сярэдзіну ступакі раз-пораз чапляюцца за дарогу, заграбаючы пальцамі пыл. Доўгія рукі матляюцца над нагамі, як быццам зусім без патрэбы. Выраз твару — не менш пануры, як у насарога. Той — назаўсёды прыкуты да тумбы, а гэтага вось нібы вядуць на ланцугу ды невясёлым шляхам, які звыш усяго, што можа потым быць, сёння закончыцца тым, што ён, Мацюха, павінен будзе ні за што ні пра што паставіць секвестратару чарку...

«Павестка павесткай,— думае насарог,— ды што будзе, калі і Грамыку будуць разам з Дармою судзіць, калі прыйдзецца выступіць сведкам на гэтым судзе? А што, калі яны, усе астатнія камуністы, даведаюцца, што і Мацюха прылажыў тут руку?..»

Сёлета напрадвесні, пасля масавых арыштаў і катавання ў карнявіцкім пастарунку, па гасцінцы, у напрамку наваградскай турмы гналі скаваную моладзь. Мацюху што — чорт іх бяры! — хто чаго хоча, тое і мае. Нават добра, што будзе трохі цішэй, спакайней... Аднак, калі неўзабаве пасля гэтага ў Нёмане знайшлі чорны, набрынялы труп ды па вусах і рыжых крагах

пазналі ў тапельцы правакатара Стальмашонка, калі на досвітку першага мая на жураўлі Юрачкавай студні зноў узняўся чырвоны сцяг, а на дарогах зашамацелі бальшавіцкія лістоўкі; калі днямі — і гэта найгорш, найстрашней! — дазвання згарэў хутар Якаўца,— Мацюха ўцяміў, што не ўсіх яшчэ гналі гасцінцам...

Цяпер вось зноў пачалося: Дарма, Патайны, Грамыка...

І ўжо не бокам ідзе гэта справа, а ён, Мацюха, дапамог яе заварыць!..

Увязвацца ў барацьбу з дужэйшым — няма ніякай выгады. У смерці Стальмашонка, а цяпер у пажары Якаўцавага хутара Мацюха адчуў тую самую сілу, з якой найлепш не займацца. Тут ужо не адзін Дарма, не адзін Патайны, тут яны ўсе...

Ёсць жа ў Грамыкі валачашчы браток, Арсен той самы, і кажуць — вялікі парцейны. Ды і сам ён — хто ведае, што ён — Валодзя?.. Эх, і навошта было ўдаваць?..

Другая прычына чорных думак — секвестратар Стась — ідзе побач з Мацюхам, збіваючы ботамі апошнюю расу з прыдарожнай травы. Кожны з двух прадстаўнікоў улады адчувае прысутнасць суседа з пагардай. Падсолтыс патрэбен Стасю толькі з-за чаркі. А пан Стась — ён нават у такой меры не патрэбен пануураму мужыку. Мацюха з прыемнасцю не слухаў бы ўсёй гэтай балбатні, якой Стась хоча, відаць, скараціць той кавалачак часу, які аддзяляе яго ад жаданай мэты. Пан падсолтыс час ад часу прыпыняе крок, як быццам хочучы адцягнуць такім чынам непрыемны момант вымушанага частавання. А потым, яшчэ раз успомніўшы, што ад Стася інакш не пазбавішся, ён пачынае клыпаць хутчэй. «Чорт яго, нарэшце, і забяры! — заікаецца ён нават у думках.— Абы толькі і хутчэй і развязэцца!..»

З гэтай думкай, дайшоўшы нарэшце дахаты, Мацюха выклікаў у кухню сваю сухую, драпежную палавіну і, шэптам вытлумачыўшы ёй, у чым справа, сказаў:

— Пайдзі і адрэж. Няхай яго і рэжа і па сэрцы.

З гэтай думкай Агата пайшла ў свіронак і яшчэ раз — ды лішні раз, ліха яму! — заглянула ў кубелец з салам.

...«Пан Стась» — асаднік. Бялёсы, светлыя, амаль бясколерныя вочы і вечна няголены, пакрыты рыжаватай; рэдзенькай шчацінай твар. Сын хутараніна з-пад Кракава, Стась Нітка абіваўся пры матцы і братах малодшым сынком-недавучкай, пакуль Дзядэк — так называлі Пілсудскага — не паклікаў яго ў легіёны. Пасля вайны той самы Дзядэк паслаў яго сюды, на «ўсходнія крэсы»,— ахоўваць межы дзяржавы ад націску бальшавікоў і сеяць пад бокам у іх культуру касцёла і маёнтка.

Вялікага чына і асаблівых ваенных заслуг Стась не меў, і «асада» прыйшлася яму невялікая — восем гектараў зямлі. Грошай таксама далі менш, як іншым. Яшчэ не дачакаўшыся, пакуль яму збудуюць хату, Стась выявіў, што карнявіцкая карчмарка Рэйза ўмее прымаць паважаных гасцей. Ад асады да Карнявіч было не менш чатырох кіламетраў, аднак на Рэйзіны пачастункі пайшла добрая доля Дзядэкавых грошай. Такі быў зроблены пачатак самастойнага жыцця.

Культуртрэгерам, у сэнсе ўзорнага гаспадара, які заспакушаў бы цёмных крэсавых мужычкоў чарамі заходняй цывілізацыі, Стась Нітка не здолеў зрабіцца. У суседніх з асадаю вёсках хадзіла гаворка пра тое, што гужы пры яго хамуце былі спачатку сырамятнымі і ён іх прапіў, потым — вераўчанымі і працёрліся. Тады Стась хацеў замяніць іх драцянымі, але паколькі дрот навокал быў толькі калючы, з нямецкіх акопаў,— Нітка застаўся зусім без гужоў. Поле пусцела. Заўсёды замуленыя коні з палавіны зімы пачыналі цягаць з лінялых стрэх салому, а каровы хісталіся на нагах, як п'яныя. Зрубленая на нетутэйшы лад — з адным акном ад фронту — хата папаўнялася маленькімі асаднікамі амаль кожны год, замест дастатку і ладу ў хаце вісеў над логавам абраз боскай маткі з сэрцам, накрыж прабітым кінжаламі, і пад ім, у кутку, стаяў цяжкі легіянерскі «манліхер» [1],— нічым не прыкрытыя сімвалы Ніткавай місіі.

Стась пачаў ацірацца пры гміне і пастарунку — то секвестратарам, то шпічком. Паспытаўшы лягчэйшага хлеба, асаднік яшчэ мацней упэўніўся, што ён — таксама дзяржаўны чалавек, прысланы сюды дапамагаць

---

[1] Сістэма аўстрыйскай вінтоўкі.

іншым выканаўцам Дзядэкавых планаў. Каб добра спаўняць свае абавязкі, неабходна было мець удосталь злосці на хамаў і быць зусім непераборлівым у сродках. Нітка не грэбаваў нічым: забраць у хлопа карову ці здзерці з ягоных плячэй кажушок, залезці ў скрыню з лахмоццем ці супакоіць бабу адным-другім грумяком — усё гэта рабілася ім з ахвотай. Цацкацца з імі няма чаго: амаль усе яны — бальшавікі. Калі ж самога яго аднойчы добра адлупцавалі два неспакойныя хлопцы — Ніткава злосць яшчэ больш патрыятычна ўзмужнела. Тыя хлопцы і сёння гніюць у астрозе, а Нітка — ці таўчэ некага па ўласнай ахвоце, ці памагае калі ў катаваннях на пастарунку — заўсёды помсціць хамам за сябе, адчуваючы адначасна, што гэта — ягоны хлеб і гэтым ён сумленна спаўняе свой абавязак перад Дзядэкам.

У росце яго дзяржаўнай свядомасці значную ролю спаўняла старая сяброўка — чарка. Пакрыўдзіўшы некага больш, як заўсёды,— хацелася выпіць, а выпіўшы — больш, як заўсёды, крыўдзіць.

Сёння Стась прыйшоў з паліцыянтам у Галынку па службовай справе: спагнаць, колькі ўдасца, падаткаў. Гэтай работы яму хапала ў кожнай вёсцы. Пакуль заняцца падаткамі, ён вырашыў дапамагчы арыштаваць бальшавіка. Аднак нацешыцца мужыцкай крыўдай сёння яму не ўдалося. Пакуль паліцэйскі Фіёлак скаваў Валодзю Грамыку, Стась памкнуўся ўдарыць яго толькі раз. Хлопскую маці, калі яна, плачучы, выйшла за ім на вуліцу, сам Фіёлак загнаў у хату. Ды выпіць Стасю ўсё ж такі захацелася, як заўсёды.

Адзіным чалавекам, хто мог паставіць, быў падсолтыс, і Нітка ўчапіўся за Мацюху.

Гутарка пачалася на трэцяй чарцы.

Спачатку Стась стараўся як найхутчэй замарыць чарвяка кавалкамі сала і хлеба і вярнуць сябе ў жаданы стан ап'янення. Пілі і елі моўчкі.

Пасля Мацюха зноў захацеў пачухаць сённяшнюю балячку свае панурай душы: ён заныў зноў пра тое, што не варта было і павесткі пісаць і весці яго, каб паказваў Валодзеву хату... Мог бы і сам Акалот, як солтыс, пайсці, бо сам ён, Мацюха, толькі падсолтыс...

Тады пан Стась пачаў тлумачыць, што і падсолтыс з'яўляецца сапраўдным солтысам. У войску, напрыклад, на пана падпалкоўніка ніяк не скажаш «пане падпалкоўнік», а толькі «пане палкоўнік». Таксама і на пана падпаручніка. Растлумачыўшы гэта добрай сотняй блытаных слоў, Нітка пачаў і сам называць Мацюху панам солтысам. І ўсё тлумачыў, што непакой «пана солтыса» — зусім лішні. Паліцыя ведае, што робіць, і сваіх людзей, як, напрыклад, пан солтыс Акалот і пан солтыс Мацюха,— яна не дасць у крыўду...

У доказ гэтага пан Стась, зноў не чакаючы прапановы тугога на шчодрасць гаспадара, сам сігануў па чацвёртую чарку.

— Пан прэзас [1] рады міністраў сказаў,— пачаў ён, выпіўшы,— што «паліцыя існуе толькі на тое, каб страляць, і яна будзе страляць». Вось што, пане каханы. Страляць, біць і вешаць, як сабак, пакуль не выведзе ўсёй камуны. Усіх бальшавікоў, да аднаго, як бога кохам. Пан солтыс глядзіць на мяне і як быццам не верыць. А пан Станіслаў Нітка ведае ўсё. Што ведае пан камендант пастарунка,— усё гэта ведаю і я. Пся крэў, нават больш. І пан солтыс можа быць цалкам спакойны. Яшчэ па адной, пане солтыс. Сёння жывём, заўтра — гніём... За ваша і наша здароўе!

«Вось ён прывалокся сюды,— думаў Мацюха, панура гледзячы на свайго няпрошанага госця,— прывалокся, сеў за стол, авалодаў бутэлькай, хочаш не хочаш прымусіў яго, гаспадара, у летні час, у будні дзень сядзець за сталом, як у нейкае свята, чорт ведае з якой радасці піць гарэлку і есці сала. Яшчэ па чарцы? Ну, давай, ліха тваёй галаве, можа хутчэй адчэпішся. І ўсё балбоча, балбоча... А можа, зрэшты, і праўду гаворыць. Каго, чаго табе, Сымоне Мацюха, баяцца? Дармы? Патайнога? Грамыкі? Ці ўсёй гэтай іншай і галечы? А чорт іх і бяры! Вось паглядзім, як ён сёння і паскача. Супраць вады, саколік, не падышаш!»

Пятая чарка ўзяла гэты спакой, нарадзіла шчаслівыя, збаўчыя думкі, якія дапамаглі забыцца на страх.

Развагі аднаго з прадстаўнікоў улады, той сілы, супраць якой не падышаш, злучыўшыся з сілай сарака пяці градусаў «чыстай», зрабілі нават такі цуд, што Ма-

---

[1] Старшыня.

цюха прыўстаў, ашчарэпіў бутэльку і ўласнаручна плюхнуў рэшту гарэлкі ў чаркі.

— На стол і палілося — чорт з ім: дзе і п'юць — там і льюць. Вып'ем. І няхай, пане і Стась, як той і казаў, няхай нашы ворагі і плачуць!..

— О, гэта дык гэта! — амаль узвізгнуў Нітка.— Зусім па-нашаму, як бога кохам, зусім, пане солтыс, ганарова. Дай пан бузі, пане каханы! О, так, і яшчэ раз, псся крэў. А цяпер мы, само па сабе разумееца, можам прайсціся па вёсцы. Пойдзем з хамаў падаткі здзіраць. І там я пакажу пану, што нам на іх — пляваць. Да пабачэння, пані салтысова, цалую ручкі, пшэпрашам наймоцней, дзякую...

— Яе і ў хаце і няма,— паправіў госця Мацюха,— у градах Агата мая. І няхай! Мы, пане Стась, і пойдзем.

«Пані салтысова» і сапраўды была ў агародзе. Убачыўшы, што чалавек яе з секвестратарам выйшлі з хаты і, хістаючыся ды балбочучы, накіраваліся да весніцаў, яна адагнулася, памаўчала, а потым паклікала:

— Сымон!

Мацюха не пачуў.

— Сымон! Сымон, каб ты па свеце не хадзіў, куды цябе ліха зноў пагнала?

Нітка не пачуў гэтага воклічу, інакш ён, вядома, пайшоў бы «цалаваць ручкі» пані салтысовай асабіста. Мацюха пачуў, ды толькі, не азіраючыся, махнуў рукой.

Яны пайшлі па вуліцы вёскі, кудой раней як быццам сароме́ліся ісці. І ўжо не маўчалі, а шмат і бязладна, звыш усякай патрэбы пераконвалі адзін аднаго ў тым, што плакаць — гэта не іхняя справа.

Сёння плакала цётка Аксеня.

Плакала доўга, да стомы, да болю ў галаве, ніяк не могучы суняць вялікі сум душы. А потым, калі разышліся суседкі, замкнула знадворныя дзверы і стала маліцца.

Раней, пакуль быў дома Арсен, яна — спачатку абураная і здзіўленая яго няверʼем — спрабавала нават змагацца з маладым задорам любімага сына, але хутка здалася, відаць, адчуўшы, што свет ягонай душы — мацнейшы. Пайшла нават далей: калі ён скараціў

колькасць багоў на покуце да аднаго, яна адвыкла неяк і ад апошняга,— пачала маліцца на ўсход сонца, найчасцей у каморцы, перад цьмяным, замурзаным павуцінай акенцам. І цяпер, хоць ніхто ў пустой хаце не перашкаджаў ёй звярнуцца да панурага, самотнага Хрыста пад вышытым ручніком, яна стаяла перад усходнім акном і, злажыўшы рукі, шаптала малітву.

Яна не малілася ў поўным сэнсе гэтага слова, нічога свайго не казала таму, у каго яшчэ ўсё цьмяна верыла, а толькі паўтарала з маленства завучаны, амаль зусім незразумелы ёй набор старых царкоўных слоў. Аднак і праз іх час ад часу прабівалася горкая нота адчаю. І маці плакала, бо ўжо ніхто не бачыў гэтых слёз.

Потым нехта загрукаў у дзверы. Не прасіўся, а лез. Паляскаў клямкай і, пераканаўшыся, што дзверы на засаўцы, уладна загрукаў нагой. Пачулася нетутэйшая лаянка. Цётка Аксеня зразумела, і па ўсёй ёй прайшлі, як мароз, мурашкі жаху і нейкай раптоўнай слабасці...

Старая адчыніла дзверы. П'яны секвестратар, пасля першых слоў бруднай жаўнерскай лаянкі, чамусьці дзіўна змоўк, паглядзеў на яе і першы пераступіў парог. Яна хацела не пайсці за ім, у хату, але Нітка, заўважыўшы намер старой, прыкрыкнуў:

— Сюды, сюды ідзі, халера ясна, пагаворым!..

Прыход яго заўсёды азначаў адно — падаткі.

Іх было многа, нібы ў той казцы, дзе мужыкі плацілі за ўсё, пачаўшы ад зямлі, а канчаючы на лапцях. Яшчэ і лапці былі падзелены: асобна бралася за іх цалкам, асобна за аборачкі і за вушкі... Грунтовы, драговы, гмінны, павятовы, выруўнаўчы... Адны толькі назвы цяжка было запомніць, а за кожнай назвай стаялі залатоўкі, якія з кроўю аддзіраліся ад мазольнай рукі. Залатовак гэтых не хапала ніколі, тым больш цяпер, у гады крызісу, калі мужыцкая праца і мужыцкі пуд хлеба ішлі за бясцэнак. Дзяржаўную мову сяляне ведалі перш за ўсё па трох словах: *адсэткі, упамненне і ліцытацыя. Адсэткі,* якія солтысы па старой памяці царскага часу называлі музычным словам *пенія,* а вёска — проста *пенай,*— гэта былі штрафныя працэнты, якія і сапраўды раслі на неаплочаных падатках, як пена на мыльнай вадзе. Слова *ўпамненне* — напамін — запаміналася яшчэ лепш. Гмінныя секвестратары напаміналі аб неаплочаных падатках вельмі

ахвотна, бо кожная паперка з гэтам словам у загалоўку таксама нешта каштавала мужыку. А трэцяе, самае страшнае слова,— гэта была *ліцытацыя* — распрадажа з-пад малатка сялянскай маёмасці, канфіскаванай за падаткі.

Носьбітам гэтых трох слоў дзяржаўнай мовы быў секвестратар, які разам з паліцыянтам былі галоўнымі і непасрэднымі прадстаўнікамі ўлады над вёскай. Дзяржава цвёрда ахоўвала іх аўтарытэт. Паліцыя атрымлівала моцную зарплату. А секвестратар, калі ён нават памылкова пераступаў сялянскі парог, калі гаспадар паказваў яму квіткі, як доказ, што падаткі ўжо аплочаны,— патрабаваў аплаціць яму «кошта экзэкуцыйнэ», проста кажучы — даць за фатыгу. Калі ж гаспадар не згаджаўся — пан секвестратар нешта апісваў ці забіраў.

Цётка Аксеня ведала, што паны не даруюць нікому, а што ўжо казаць пра таго, чый сын, як іхні Арсен, пайшоў супраць улады. Пакуль гаспадарыла сама, старалася плаціць з апошняга, цяпер — стараецца Валодзя.

Нітка дайшоў ад парога да лавы, сеў і выцягнуў ногі на хату.

— Ну, падаткі плаці, бальшавічка!

— Першую рату мы заплацілі. І падаткі, і пену. Пан жа сам правяраў на тым тыдні.

— А хто другую аплоціць?

— Другую таксама заплоцім. Яшчэ ж пара не прыйшла. Вось толькі парсючок падгладзіцца трохі,— прадамо і заплацім.

— А як здохне ваш парсючок — што тады?

— Ну што ж, будзем іншае рады шукаць.

— Сама здохні, а ён павінен жыць! З яго будзе сала, а ты... Зразумела?!.

Пад брудным патокам лаянкі, якая абрынулася на яе, старая змоўкла.

Пра што гаварыць з гэтай бабай далей — Нітка не ведаў. Калі б гэта трохі раней, калі ён у найвышэйшым патрыятычным напружанні цалаваў няскрэбаную морду свайго памочніка,— справа пачалася б адразу і проста. Цяпер жа, пакуль яны з Мацюхам ішлі, а потым ён угаварваў пана солтыса не агінацца, а зайсці на двор і ў хату разам — буйны хмель неяк зусім непажадана выветраў, і ў ачмурэлай галаве засталося нешта

тупое, бязвольнае. Проста ные, шчыміць, хоць пайдзі ды зваліся пад плотам. Мацюха — хітры хам! — ніяк не згадзіўся зайсці, стаіць недзе за брамай. А можа і зусім пайшоў. Чорт з ім! Станіслаў Нітка не адступіцца: ён зробіць, што трэба.

— Гэта хто ў цябе там? На сцяне!

— Гэта мой муж.

— Сам ведаю, што муж, ды хто ён?

Яму было і гэта зусім непатрэбна. Спыніўшы п'яны позірк на сцяне, дзе ў раме, пад вялікай шыбай, вісеў цэлы рой сямейных фотаздымкаў, ён заўважыў адразу адзін — барадатага хама ў нейкай форменнай вопратцы. Убачыў і адчуў, што зачэпка да справы знойдзена.

— Ён працаваў на чыгунцы. Мы былі ў бежанстве.

— Сам ведаю. Ты лепш маўчы, старая к..! — яшчэ мацней закрычаў ён, намерыўшыся замахнуцца.

І тады яна змоўкла зноў, канчаткова пераканаўшыся, што больш не будзе гаварыць. А ён усё глядзеў, блукаючы па тварах п'янымі вачыма...

Вось і яшчэ той самы барадаты хам. А тут ён з некім удвух. Потым — сядзіць яна, вось гэтая, сама, без мужа. А побач з ёй стаяць два хлопцы. Большы з іх — мусіць, той, каторага сёння ўзялі. А ў меншага шчанюка кніжка ў руцэ. І напэўна, не польская. Потым дзяўчына з вялікім крыжам на белым фартуху. Цыцатая сцерва. «Сястра міласэрдзя». Відаць, перавязвала раны тым, хто біў нас, жаўнераў Пілсудскага, у дваццатым годзе. А вось цэлая група маладых. Сядзяць, пазакладаўшы нагу за нагу, і скаляць зубы. Хамскія морды, усе як адзін камуністы! А гэты?..

«Гэты» — вялікае фота падлетка ў форменнай шапцы беларускай гімназіі. Ён глядзеў у плюгавыя вочы Ніткі неяк вельмі спакойна і цвёрда, нібы нават вось-вось засмяецца.

— А гэты дзе? — спытаўся Нітка, не адводзячы позірк ад здымка.

Дзе гэты? Колькі разоў на такое пытанне даводзілася адказваць адным, для ўсіх крукоў аднолькавым «не ведаю»! А цяпер маці нават не скажа і гэтых двух слоў.

Станіслаў Нітка ведае і сам, што гэты люты бальшавік Арсенюш Грамыка трэці год ужо недзе гуляе без пакарання, выслізнуўшыся з іхніх рук. Недзе? На-

пэўна, ужо там, за граніцай? Нітка, памочнік паліцыі, ведае ўсё, яму не трэба пытацца. Яму трэба толькі, каб яна пачала гаварыць.

— Што маўчыш? Думаеш, што так ужо ўсё і прайшло?

Яна ўсё маўчала.

Тады яму раптам стукнула ў галаву думка, якая здалася нядрэнным пачаткам. Нітка сарваў з цвіка ўсю раму, падняў, пляснуў яе аб падлогу, пачаў таптаць запыленымі ботамі,— і хрусткія кавалкі шкла, і рамку, і фота. Потым ён з маху падбіў усю гэтую рвань нагой, і ў той бок, дзе стаяла маўклівая цётка Аксеня, брызнула шкло і закружыліся паперкі. Адна з іх апала якраз каля ног,— родны воблік далёкага, самага любага сына.

Тады яна не змагла больш цярпець. Не сказала нічога, а толькі цяжка прыгнулася і працягнула руку, каб падняць яго картачку.

Нітка хіснуўся да яе.

У мутнаватай сіні чэрвеньскага неба, пакуль сонца асушвае раннія росы, жаўранкаў не відаць. Над палямі стаіць толькі песня. Адна адну перасцігаючы, адна адну стараючыся шчыра пераканаць у нечым вельмі важным і радасным, шматлікія песні зліваюцца ў песню. А жаўранкаў як быццам і няма.

Ды вось ён! Вось ён трапеча шурпатымі, шэрымі крыльцамі, нібы ледзь-ледзь патрапляючы трымацца ў паветры. І нарэшце такі не ўтрымаўся: нырнуў зверху ўніз, апаў у траву і рупліва пабег. Хоць навокал нікога, здаецца, няма — трэба быць асцярожным. Баразной у густым і стрункім жытнім лесе жаўранак дабяжыць да свайго найраднейшага месца. Цяпер ён толькі шэрая птушка, недалёкі сваяк вераб'я. І ўсе думкі яго, і ўсе клопаты, і ўсё шчасце ў тым непрыкметным гняздзечку, дзе сядзіць яго шэрая бабка і шэрыя, бездапаможныя малышы.

Колькі жыцця пад вусатым калоссем! Ляжаш наўпоперак мяжы, залезеш з галавой у жыта, прыціхнеш — ну, што ў тым лесе ці ў маміных казках...

Грамыкаў Юрка любіць вось гэтак ляжаць і глядзець. Праўда, разам з сябрамі, на пашы, пасвіць лепш.

Ды паша голая, вытаўклі яе жывёлай за вясну, і Падласка іх аслабела зусім. І сёння мама паслала Юрку ў поле, дзе ў падмоклай лагчыне, насупраць іхняй палоскі і чатырох суседніх палосак,— лужок. Худая Падласка прагна латошыць траву, а Юрка ляжыць на мяжы і ціха глядзіць у жыта, назірае.

Колькі жыцця пад вусатым калоссем!.. Рудая мыш вельмі любіць пагрэцца на сонцы, ласа паварочваючыся да яго то спінкай, то белым жыватом, падкурчыўшы ўсе чатыры лапкі. Па блекнучай зелені жытніх сцяблін заклапочана поўзаюць божыя кароўкі. Як быццам намагаючыся не адстаць ад іх, сям-там уецца па сцяблінах бярозка, шчасліва выстаўляючы сонцу грамафонныя трубкі сваіх лёгкаружовых кветак. Расцвітае і вяне, і зноў зацвітае валошка. А побач красуецца ганарлівы прыгажун куколь.

Але ціха, ся!..— нехта торкае жытнія каліўцы, нехта чмыша: «ту-ту-ту-пчых! ту-ту-ту-пчых!» — нехта ідзе... Рудая мыш пашпарыла ў нару. А больш ніхто не баіцца, бо гэта ходзіць па жыце вожык. Не проста ходзіць, а некуды спяшаецца па справе. Чорны лычок вытыркнуў з жытняй сцяны і панюхаў. Потым калючая шэрая купінка перавалілася цераз баразну і пацешна, па-мядзведжаму адстаўляючы заднія ножкі, пабрыла па траве. Раса пачынае ўжо абсыхаць, але чорныя ножкі яшчэ ўсё прыемна росяцца вільгаццю, пакрытае шэрай поўсцю чэраўца — таксама.

Колькі навокал прыгожага! Добра глядзець на яго, прытаіўшыся ў жыце, добра і зверху глядзець — на прасторы палёў.

За жытам на ўзгорку — гасцінец. Уздоўж яго загадкава, сумна гудуць тэлеграфныя слупы і прывабна блішчаць на іх зялёныя шкляныя кубкі. Як добра прылегчы паміж гэтых слупоў на траве пад дратамі і глядзець з гары ўдалячынь! Сіні лес, сенажаці, паласатыя нівы, шэрыя горбачкі вёсак. Карнявічы з крыжамі царквы. А туды, куды просіцца сэрца, удаль пацягнуўся гасцінец — шырокаю зрэбнаю дзягай, з каравымі бярозамі прысад абапал звілістых, быццам пад п'яную руку расхлябаных, каляін.

Адтуль, дзе куст шыпшыны на мяжы,— чувацъ — спявае птушка. Юрка не ведае, як яна называецца. Калі б нехта спытаў пра гэта — трэ было б хіба прывесці

яго самога сюды, каб паслухаў. З зялёнага гушчару нешта вельмі павольна пераліваецца, далікатна казычучы сэрца. Робіцца так сумна, так ленасна, што проста ўпаў бы спіной на зялёную аўчыну травы і, забыўшыся пра ўсё, толькі глядзеў бы ў бяздонную сінь ці на лёгкія, белыя воблакі, з якіх раз-пораз складваюцца пачварныя, смешныя морды...

А кніжкі!.. Як добра легчы з кнігай на траве, абаперціся над ёй на локцях і чытаць, бясконца чытаць,— жыць тым дзіўным, чароўным жыццём, што схавана ў радочкі слоў!..

Чытаць па-руску навучыла яго мама. Пасля, калі ён пайшоў у школу, настаўніца, пані Ядвіга, навучыла яго чытаць па-польску. Калі Арсен апошні раз паехаў у Наваградак, дзе ён вучыўся ў беларускай гімназіі, і больш ужо не вярнуўся дахаты — Юрку было шэсць год. Пасля Арсена засталося некалькі беларускіх падручнікаў, кніжак і фота, што вісела пад шклом на сцяне. Мама, сяк-так паставіўшы свайго найменшага на рэйкі, ніколі не мела часу дапамагчы яму каціцца далей. Зрэшты, ён вельмі хутка авалодаў тым сціплым запасам граматы, з якім яна пражыла свой нялёгкі век. Валодзя многа працаваў; сам яшчэ паспяваў прачытваць усё, што трапляла пад руку, але настаўнікам для Юркі ён не быў. Хлопчык сам шукаў святла, дзе толькі мог, імкнуўся да яго захопленым і прагным сэрцам так, як імкнуцца да сонца кветкі.

Толькі сёння яму не чытаецца. Нават кнігу забыўся ўзяць. Сёння Юрку зусім не да гэтага.

Хлопчык не спаў усю ноч. Першы раз у жыцці... Нешта горкае, цяжкае села на сэрца і ные, і ные... Думкі пра тое, навошта клічуць Валодзю туды, дзе катуюць, адкуль пасылаюць у турму, і Юрку ніяк не давалі заснуць. Пасля, пад раніцу, пачала балець галава. У галаве нешта ўсё варушылася, пачынала брадзіць і калоць, шчымець і бурліць, як вада ў закіпаючым чайніку. Балела моцна, а ўсё ж нават і гэтае закіпанне ў нейкай меры забаўляла хлопчыка, і яму было не так сумна і страшна аднаму ў гумне, на іхняй з Валодзем пасцелі.

Устаў Юрка вельмі рана, як толькі прачнуліся ластаўкі, калі сон пастуха бывае найбольш салодкі. Мама ўжо не спала. Доячы Падласку, яна панура маўчала,

а потым, калі Юрка хацеў адмовіцца нават ад конаўкі сырадою, яна спачатку прыкрыкнула на яго, а потым — заплакала зноў.

Што ж там цяпер з Валодзем?..

Каб гэта было на пашы, у грамадзе сяброў і сяброўак, яго пусцілі б дахаты, а так... А што, калі стрыножыць Падласку повадам, пакінуць яе тут, а самому пайсці? Ці, можа, выгнаць на пашу, загнаць у статак? Бо тут яна ці ў чужое залезе ды збожжа аб'есца з галоднiцы... Так, паганю!

Здзіўленая такім рашэннем пастуха, старая Падласка на хаду зайздросна скубла траву, пакуль яны выйшлі па вузкай дарозе на пашу. Тады ўжо яна канчаткова здалася на яго каманду і павольна пайшла. Ды Юрка не змог дагнаць яе да чарады. Як толькі ён убачыў з-за жытнёвага поля другі куток галынкаўскай пашы і пярэстую россып вясковага статка, яму здалося, што Падласка дойдзе туды і сама.

Ён узняў яе кіем на цяжкі, раскідзісты бег, а сам павярнуў улева і, ужо не могучы больш трываць, пабег напрасткі да вёскі.

Ніхто не стрэўся хлопчыку ні тады, калі ён то бег, то ішоў па мяжы, па звычцы пастуха збіваючы кіем галоўкі кветак; ніхто не стрэўся ні на загуменні, ні ў агародзе, ні на двары. А падыходзячы да дзвярэй хаты, ён заўважыў, што за іхняй брамай, на вуліцы, нехта стаіць.

Пад шэрымі дошкамі брамы відаць былі вялікія босыя ступакі. Юрка падкраўся да брамы і, прыгнуўшыся, таркануў кіем у брудную костачку аднаго ступака. Нага спалохана ўздрыгнула і знікла. Юрка здаволена хіхікнуў і яшчэ раз замахнуўся кіем пад вароты. Але не дастаў па другой назе: яна ўцякла за першай. Стрымліваючы смех, Юрка ціхенька прыадчыніў палавіну варот і... адразу ўспомніў пра тое страшнае, што прыйшло да іх учора разам з павесткай...

Наўскасяк цераз вуліцу, не азіраючыся, ад іхняй брамы паклыпаў Мацюха...

І якраз у гэты момант у іхняй хаце пачуўся крык. Ён быў такі страшны, што Юрка ўраз паменшаў на некалькі год і з жахам закрычаў:

— Ма-ма!..

Калі ён убег у хату, маці, закрываючы твар ад уда-

раў Ніткавых ботаў, тулілася бокам да грубкі, ніяк не могучы ўстаць.

Плюгавы абдзірач, якога Юрка не раз бачыў у вёсцы, на якога не раз з сябрукамі свістаў з-за платоў,— Нітка спыніўся на момант, пачуўшы прысутнасць у хаце трэцяга. А гэты трэці кінуўся да яго, ад злосці і жаху забыўшыся хоць бы замахнуцца кіем.

Старанна аздоблены вітым нарэзам кіёк пастуха, які ў сваім асяроддзі, на пашы, быў даволі надзейнай зброяй, тут зрабіўся зусім бездапаможны. Нітка вырваў яго з Юркавых рук, трэснуў малога па голых да лакцёў руках, пасля лёгка, як трэску, пераламаў кіёк і шпурнуў пад сцяну. Тады схапіў Юрку за зрэбную кашулю на спіне, як бяруць за каршэнь непатрэбнага ў хаце шчанюка, выкінуў хлопца за парог і захлопнуў дзверы.

Пакуль зноў што-небудзь пачаць, Нітка пастаяў каля дзвярэй, нібы раздумваючы, ці дастаткова правільна зрабіў.

І праўда — не зусім асцярожна.

Выкінуты за дзверы, Юрка закрычаў — працягла і нема, як крычаць аб пажары: каб пачула ўся вёска.

Сашчаміўшы зубы, Нітка выбег на двор, ашчарэпіў малога і, не зважаючы на яго трапятанне і крык, моўчкі ўнёс назад у хату. Зачыніў за сабой дзверы, тады схапіў Юрку, падняў і шпурнуў на падлогу...

Цётка Аксеня не магла пасля ўспомніць, што і як яна закрычала. Памятае адно — як яна цераз сілу ўзнялася, ступіла ад грубкі на хату, а потым... Самага страшнага маці не ўбачыла. Усё ў вачах завірыла, прыйшло забыццё...

Яна самлела другі раз на вяку. Першы раз таксама здарылася дваццаць тры гады таму назад, калі нарадзіўся той, што пайшоў з роднай хаты ў далёкі свет — шукаць праўды — яе Арсен.

Увосені дваццаць першага года, вярнуўшыся з вайны, карнявіцкі каваль Хаім Бусел адразу зрабіўся багатым. Выйшла так, што пакуль ён, круглы сірата, валачыўся па франтах спачатку мікалаеўскай, а потым грамадзянскай, усюды куючы артылерыйскія коні,— яго дзядзька, шавец і вартаўнік сінагогі Мошка

Памяранец, доўга бухукаў удушлівым кашлем, а потым неяк знячэўку памёр. Дзяцей у яго не было, і таму цетка Роха прыйшлася Хаіму ў спадчыну разам з шавецкім прыладдзем і даволі вялікай, ладнай хатай. Зрэшты, гэта была не хата, а зусім спраўны драўляны дамок, адзін з тых, што стаялі абапал рыначнай плошчы.

Макар Костачка, вядомы галынкаўскі весялун, які праслужыў з Хаімам усю вайну ў адной батарэі, казаў, што яго сябар Бусел мыў свой чорны кавальскі нос двойчы за ўсё жыццё: першы раз — ідучы ў войска, а другі — вяртаючыся з вайны. У гэтым была доля праўды: Хаім любіў сваю справу, ён вечна корпаўся каля горна і сапраўды не мыючы носа ад шабасу да шабасу.

Так і цяпер,— яшчэ не паспеўшы сагрэць свой сірочы дом, сабраць начынне і агледзець аблупленую за вайну глінабітную кузню, Хаім дастаў недзе жменю вуголля, распаліў горн, заіграў малатком па кавадле і неўзабаве па-гаспадарску выйшаў на парог кузні з чорнай лапінай сажы пад носам.

Словам, не магло быць і гутаркі пра тое, каб ён ад роднай кузні пайшоў у дзядзькаў дом, амаль на другі канец мястэчка.

Цётка Роха доўга спакушала яго на гэта, а потым, канчаткова пераканаўшыся ў сваёй старэчай, удовінай слабасці, згадзілася на ўпартую прапанову пляменніка — перайшла да Хаіма, спакойна, як ён абяцаў, дажываць век пад яго апекай.

У той самы дзень, са згоды абодвух зацікаўленых бакоў, на дзвярах дзядзькавага дома была наклеена паперка наступнага зместу: «Прадаёца этат будовль». Гэта на мове, якую Хаім ведаў ад нараджэння. Унізе было прыпісана тлумачэнне на мове, якая тут за час Хаімавай адсутнасці зрабілася дзяржаўнай: «Пшэдае сень тэн дом». Амаль уся паперка, як і належыць, была зацапана кавальскімі пальцамі.

Аб'ява павісела нядоўга. Пад вечар да яе падышлі два паліцыянты. Паліцыянт № 2013 загадаў паліцыянту № 638 адчыніць дзверы. Увайшлі ў дом, агледзелі яго і згодна вырашылі, што ён і большы і лепшы за той, у якім дагэтуль размяшчаецца іх установа. Выходзячы з дома, паліцыянт № 2013 уласнаручна сарваў з дзвя-

рэй аб'яву новага гаспадара, а ўранні наступнага дня над ганкам павісла шыльда з арлом і вялікімі літарамі: «Пастарунак дзяржаўнай паліцыі ў Карнявічах».

Цётка з пляменнікам, спачатку больш абураныя, чым напалоханыя гэтым гвалтам, адзін толькі раз зайшлі ў свой дом пасля таго, як на ім паказалася такая пляма. Паліцыянт № 2013 — гэта быў сам камендант пастарунка — спачатку нават смяяўся, а потым зусім нечакана ўдарыў Хаіма па замурзаным твары, а на старую прытупнуў так, што яна назаўсёды адмовілася ад думкі шукаць управы на гэтых людзей. Яна так і памерла, працягнуўшы яшчэ два гады, а Хаім спачатку спрабаваў нават ездзіць у староства і пісаць пану ваяводзе, аднак потым прыціх настолькі, што кожны раз, праходзячы каля дзядзькавага дома, міжвольна горбіўся і пераходзіў на другі бок вуліцы...

Ішлі гады. І з кожным годам былому дому Мошкі Памяранца рабілася ўсё цяжэй спраўляцца з новым прызначэннем. Не памагала і тое, што пад домам быў вымураваны вялікі склеп. Даўняя мара карнявіцкай паліцыі пра мураваны дом з салідна абсталяваным падвалам патрабавала неадкладнага ажыццяўлення. Яно, вядома, прыйшло.

Яшчэ ў трыццатым годзе карнявіцкая гмінная ўлада, заручыўшыся благаслаўленнем улады вышэйшай, пачала будаўніцтва школы. Адбываючы шарварк, сотні сялянскіх фурманак валачылі цэглу і каменне праз два гады. На гэтым праца спынілася, і хто ведае, колькі ёй давялося б стаяць, каб не прыйшло яшчэ адно благаслаўленне — збудаваць у Карнявічах, замест школы, другую, больш патрэбную для крэсаў інстытуцыю — пастарунак.

Благаслаўленне гэта спусцілася з самага верху. Чалавека, якога панства з любасцю называла Камендантам дзяржавы, можна было для большай дакладнасці называць галоўным камендантам паліцыі. Пілсудскі не падвёў сваю «армію ў сініх мундзірах». Не прыйшлося лічыцца ні з новай сумай падаткаў, ні з колькасцю шарваркавых дзён. Да вясны трыццаць трэцяга года новы пастарунак быў закончаны.

Пачынаючы ад крат на акенцах падвала і да вялікай шыльды, у новым будынку ўсё было новым, удасканаленым. З былога памяшкання перанеслі сюды

канцылярыю — сабраныя пры дапамозе біча і срэбранікаў біяграфічныя даныя на кожнага дарослага жыхара гміны, перанеслі яшчэ не зношаныя кайданы і не разбітыя гумавыя палкі, а таксама вусаты партрэт галоўнага Каменданта.

Благаславенне гэтага бога падмацавана было благаславеннем багоў нябесных. Асвяціць пастарунак ад імя божай мамы і рымскага папы прыязджаў у Карнявічы навагрудскі ксёндз. «Спірытус санктус» — дух святы,— які праз вусны і пальцы ксяндза зышоў на «новую крэпасць культуры», быў са шляхецкім размахам і шыкам падмацаваны спірытусам з бровара графа Траптовіча. Імяніннікі і ўся іх радня — чыноўнікі, паны, паўпанкі, «смятанка» з асаднікаў і «стшэльцаў» [1] — балявалі ўсю ноч.

А назаўтра пачаўся першы рабочы дзень на новым месцы.

Па поўдні дзяжурны паліцыянт выйшаў на ганак новага пастарунка і гукнуў туды, дзе ў садзе стаяла лаўка:

— Галё, вы там! А ну, ідзіце сюды. Ды не абое адразу.

— Спачатку, паночак, я: я ж дома хату на дзяцей пакінула...

— Спачатку мужчына.

— Дык жа ж амаль дзесяць вёрстаў да нашай Галынкі. Пакуль я — бабскаю справай — дайду...

— Я сказаў — першы патрэбен мужчына.

Мужчына, які спатрэбіўся першы, ступіўшы босымі нагамі на гарачыя цэментавыя ступені ганка, з пашанай зняў старую, пакамечаную кепку. У калідоры, збянтэжаны мноствам белых дзвярэй, ён спыніўся. Аднак спытацца — «сюды ці сюды?» — не паспеў: дзяжурны спраўна і моўчкі адчыніў яму патрэбныя дзверы, і мужчына апынуўся ў кабінеце. Таптацца каля дзвярэй не прыйшлося: сам камендант, што сядзеў за пісьмовым сталом, гасцінным жэстам рукі паказаў яму на крэсла:

— Няхай пан садзіцца, прашу.

[1] Маладзёжная вайсковая арганізацыя прафашысцкага ладу.

Асмелены гэтым «пан» асцярожна прайшоўся па чырвонай падлозе вялікімі босымі ступакамі і прысеў на краёчак крэсла.

Пачалося знаёмства.

— Пан Мітрафан Якавец? — спытаўся Мармавіцкі.

— Так точна, пане каменданце,— ахвотна згадзіўся мужчына.

— Сын Мікалая і Тэклі з дома Свірыд?

— Так точна.

— Народжаны 8 лістапада 1896 года?

— Так точна. Год прызыву 1917, але па случаю вайны я быў...

Якаўцу спадабаўся амаль сяброўскі тон гутаркі. Ён хацеў расказаць, што з прычыны вайны ён быў пакліканы ў царскую армію на год раней, але пан камендант з дакладнасцю канцылярскага аўтамата падсунуў яму чарговае пытанне:

— З хутара Падгалынка?

— Так точна. Быў, пане, хутар, ды самі ведаеце...

— Нічога, пане Якавец. Хутар ваш быў і будзе. Харошы хутар. Зямлі ў вас, здаецца, гектараў каля дваццаці?

— Ды яно і збярэцца. Але цяпер яно, пане, нічога не міла...

— Судом караныя вы не былі? — цягнула некуды чарговае пытанне.

— Ды не, пане, не быў...

Скончыўшы строга фармальную частку размовы, Мармавіцкі пусціў у ход стары, банальны, але яшчэ ўсё дзейсны спосаб пранікнення ў душу,— ён выняў з шуфляды пісьмовага стала пачак дарагіх папярос і працягнуў іх цераз стол:

— Прашу.

Беленькія, чысценькія папяросы ляжалі ў стракатай скрыначцы гэтак роўненька і цесна, што тоўстыя, карэлыя пальцы госця збянтэжыліся. Яны неяк празмерна доўга грэбаліся, выбіраючы адну папяросу, нязграбна зрушылі з месца некалькі іншых і нават дрыжалі... І не дзіва: пашана пашанай, а ласунак ласункам. Чорт іх дома адважыўся б нават на свята купіць: звычайная махорка і то дзесяць фунтаў жыта. Аднаго пачка ім і бацькам хапала на тыдзень. А гэта...

Мармавіцкі дастаў з кішэні мундзіра бліскучую за-

пальнічку, націснуў кіпцем — вяршок пстрыкнуў, паслухмяна выпусціўшы навонкі бледны язычок агню.

— Прашу.

Якавец яшчэ з большай пашанай ткнуўся носам у бок дзівоснай агнявой прылады. І не дзіва: яны з бацькам таксама калолі запалкі на дзве і на чатыры часткі, а то і зусім не куплялі, абыходзячыся крэсівам. А гэта... Ды што ты скажаш — улада, культура. Ён пацягнуў, зацягнуўся і сеў на ўсё крэсла.

І тады пачалася свабодная, ледзь не сяброўская гутарка.

Пан камендант на выгляд быў вельмі здаровы, вельмі спакойны і вельмі акуратны мужчына. Вялікі, смуглы твар моцна сядзеў над чысценькім цёмна-сінім мундзірам, які шчыльна аблягаў яго тугія, налітыя плечы і грудзі. Усё на гэтым твары было размеркавана правільна, не спяшаючыся,— і вочы, і вусны, і нос. Таксама акуратна, не спяшаючыся, былі зачэсаны наверх цёмныя валасы, у такім строгім парадку, што ні адна валасінка на працягу дзесятка службовых гадзін не асмельвалася крануцца з месца. Настольная лямпа, паперы, чарнільны прыбор, тэлефон — усё было на сваім месцы. Рука, паслухмяна паклаўшы ў кішэню запальнічку, вярнулася да другой рукі; яны злучыліся і ціха застылі на салідным жывоціку. Мармавіцкі адхіліўся на спінку крэсла, непрыкметна настроіў сябе на патрэбны для гутаркі лад і пачаў:

— Так. Дык, значыцца, у ноч на семнаццатае чэрвеня гэтага года вы, пане Якавец, пагарэлі. Нам гэта добра вядома. У вас згарэла ўсё дашчэнту. Вы выйшлі з агню вось так, у чым стаіце. І самі, і сям'я. І жывёла таксама згарэла.

Якавец, якога адразу прыклеілі да месца словы спагады, паварушыўся на крэсле.

— Усё згарэла, пане камендanце,— сказаў ён, адразу зыходзячы на сардэчны тон,— і каровы, і авечкі, і куры... Два япрукі па дзесяць пудоў, каб ён з душой згарэў! Я з бабай быў у шваграа на вяселлі, у Бярозаўцы. А мама з татам ледзь у адным споднім выскачылі з агню. Мы таксама вось засталіся, у чым я стаю, толькі кабыла ды воз...

Дзесяць гадоў таму назад Мітрафан, адслужыўшы ў польскім войску, дзе ён быў халуём у паручніка, пры-

нёс дахаты амаль зусім новы афіцэрскі мундзір. Адпароўшы з яго ўсе лішнія ў гаспадарцы цацкі, перашыў гузікі, дахадзіў у ім кавалерскі час, а потым у ім жа і абвянчаўся. Не па беднасці, а таму, што і мама, і тата, і сам ён «хацелі, каб жыць»,— збіралі, значыцца, грош да гроша і куплялі зямлю. Таму і курылі адзін пачак махоркі на тыдзень, таму і запалкі расколвалі, пераймаючы замучаную крызісам беднату. Аб тым, як яны харчаваліся, ведаў наняты пастух, касцы і жнеі, якіх прыходзілася наймаць, каб у час ахапіць сваё воблака сена і збожжа. Хадзілі потым усякія дрэнныя чуткі пра гэтыя харчы, ды людзям жа рота нічым не заткнеш. Гадоў з пяць па вяселлі мундзір прыйшлося пераніцаваць, і вось ён, дагэтуль толькі святочны, цяпер застаўся адзін і на свята і на кожны дзень. Ён і чорныя картовыя галіфэ, завязаныя матузкамі амаль у палавіне лытак.

— Мы ведаем, пане Якавец, усё,— гаварыў Мармавіцкі, ні крышку не мяняючы выразу твару.— І асабіста я, і ўсе мы спачуваем вам. Такая прыстойная сям'я і так нявінна пацярпець!..

Мітрафан заўсёды быў пануры, надзьмуты і заклапочаны. Хадзіў — толькі чмыхаў у валасатыя ноздры, людзей, здаецца, ніколі не бачыў з-пад нізкага брыля пакамечанай кепкі. У Галынцы было ўсяго некалькі «настаяшчых» гаспадароў, з якімі ён гаварыў, як з роўнымі. Аднак у тую страшную ноч, калі ён, ушчэнт запарыўшы кабылу, даляцеў на пажар свайго хутара — Мітрафан не вытрымаў, расплакаўся, як баба. На досвітку пад попелам быў яшчэ прысак, а ён, як непрытомны, хадзіў басанож вакол пажарышча, быццам чакаючы, што вось хоць што-небудзь ды вылезе з-пад асмалкаў наверх... Новая хата згарэла так спраўна, што нават патрэскалася вялікае каменне падмуроўкі. На месцы адрынкі, паміж асмалкаў, ляжала пакарэжанае агнём жалеззе. Тут табе і плуг, і воз, і барана... А колькі ўсякага струманту! Там, дзе быў хлеў,— яшчэ ўсё пакрэхвалі недасмажаныя тушы чатырох кароў, а поблізу — меншыя. Тут табе ўсё — і авечкі, і свінні, і куры... Наняты пастушок Пятрусь, зусім нечакана пазбаўлены статка, выцягнуў кіем з падпечка рабую квахтуху і з нейкай дзіўнай радасцю паведаміў гаспадару, што яна не згарэла, а толькі зайшлася ад

дыму. Эх, ды людзям іддаць толькі тое, што наверсе!.. А што рабілася ў свірне, у каморы! Колькі дабра ўдалося набыць толькі за час, як пачаліся гэтыя самыя ліцытацыі. А цяпер — усё за раз... Не заўважаючы людзей з-пад яшчэ больш насунутай кепкі, Мітрафан хадзіў па попеле, раз-пораз апякаючы босыя ногі, і неяк нібыта скуголіў, нібыта ціхенька, па-бабску, галасіў. А людзі стаялі, глядзелі, і ніхто з іх не спачуваў. Паспачуваюць, якраз! Усе як на сытае мяса.

А гэты вось, бачыш, пан камендант, спачувае... Ды што ты хочаш — улада, культура!..

Распарыўшы мужыка скупымі словамі патрэбнай для справы спагады, Мармавіцкі яшчэ больш спакойна сказаў:

— Так, пане Якавец, мы ведаем усё. Нават і тое...— ён памаўчаў,— хто вас спаліў.

Уражаны гэтым, Мітрафан памкнуўся няголеным тварам наперад, сударгава адчыніў рот і ўстаў.

— Вас спалілі камуністы. Іван Шчасны, Анатолі Смалянка...

Мармавіцкі цадзіў словы, павольна назіраючы выраз твару свайго субяседніка.

— ...Сцяпан Вярбіцкі і Павел Рыбачонак.

Ён паставіў выразную кропку, памаўчаў і спытаўся:

— Вы знаеце іх? Ды сядайце, калі ласка, чаго вы ўсталі.

Якавец паслухмяна сеў.

Перад вачыма яго, як жывыя, зашамацелі маленькія лісточкі тоненькай, празрыстай паперы. Успомніўся іх змест:

«Хто падтрымлівае крывавы фашыстоўскі тэрар, купляючы на ліцытацыі нарабаваны за падаткі набытак бедняка,— той вораг народа, той будзе бязлітасна пакараны судом працоўных!»

«Падумаеш — страшаць! — вырашыў Мітрафан.— Паперка тоненькая, трошкі больш, чым на раз закурыць...»

І купляў па-ранейшаму. Новыя шоры, баронку, кадушку дубовую на капусту, цэбар, доўгі кажух... Усё за бясцэнак, з-пад малатка.

А потым, выйшаўшы ўранку на двор, Мітрафан прачытаў на дзвярах:

«Народ прадупраждая здрадніка апошні раз калі

ты не Пакінеш купляць награбленае будзеш як сабака пакараны судом працоўных Кулацкая твая Морда».

Напісана было крыва, няроўна, алоўкам на карце з вучнёўскага сшытка, і ўжо не падкінута каля дзвярэй, а прыклеена хлебам. Таксама мне суд!

Апошні раз, за тыдзень да пажару, купіў на ліцытацыі новы воз. Нічога ліхога не думаючы. А цяпер...

Дык, значыцца, вось хто стаяў за паперкамі!

— Двух я ведаю добра,— сказаў Якавец, адышоўшы ад першага ўдару.— Рыбачонак — гэты з вёскі, з Галынкі, а Іван Шчасны — у нас кажуць на яго Дарма — служыць парабкам у Ганны Кучурыхі, у нас на хутары. А тыя двух адкуль? Можа з Раўкоў?

— Абодва з Раўкоў. Яны — сябры гэтага самага вашага Дармы. Ды галоўнае ў тым, што ўсе яны — камуністы, ворагі ўлады. Ну вось, вы такі паважаны, разумны гаспадар, а што вы можаце мне расказаць хоць бы пра таго самага Шчаснага, пра Дарму?

— А што тут, пане, раскажаш? Парабак. Галайстра галайстрой. Блазен яшчэ, смаркач. Каб гэта чалавек ведаў раней, дык я яго, жабрака, сваімі рукамі, як сабаку якога...

— Колькі разоў вам падкідалі лістоўкі?

Ад нечаканасці Якавец збянтэжыўся.

— Разоў, пане, са два,— спалохана прызнаўся ён,— а потым было яшчэ раз і наклеена.

— І тое вы таксама скурылі?

— Тое я, пане каменданце, хацеў прынесці вам у пастарунак,— спалохана зманіў Якавец.— Падаткнуў пакуль што пад страху, а потым нешта работа спешная падышла... А цяпер яно разам усё — і паперка, і хата...

«Ілжэ, лайдак, як наняты»,— падумаў Мармавіцкі, хаваючы думку далёка за маскай дзелавітага спакою. Ён памаўчаў, паглядзеў на хама сваім праніклівым, халодным позіркам.

— Ну, а Рыбачонак? — спытаўся.

— Рыбачонак? — схамянуўся Якавец, здаволены тым, што пан камендант пачаў пра іншае.— На Рыбачонка ў нас кажуць Патайны. А так ён, здавалася, нічога...

— А Грамаду вы памятаеце?

Пан Мармавіцкі сам памятаў Грамаду. Тады, сем год таму назад, ён быў яшчэ звычайным паліцыянтам,

радавым. Не раз даводзілася яму прысутнічаць на сялянскіх сходах, дзе народ дамагаўся свабоднай зямлі, роднай школы, ліквідацыі асаднікаў — хэ! — нават далучэння Крэсаў да БССР. Не раз і яму даводзілася разганяць шматлікія і бурныя дэманстрацыі навакольных сялян. А потым, калі ўся іх гэтая Грамада была разгромлена, і ён, Мармавіцкі, нямала папрацаваў у падвале Карнявіцкага пастарунка, нямала пахадзіў па вёсках і дарогах, нямала кайданкаў усклаў на мужыцкія рукі. Тады ўласна і ў людзі пачаў выходзіць, быў прызначаны намеснікам каменданта.

— Дык што вы, пане Якавец, замоўклі?

— Грамаду? А, гурткі! Ну але, ён, гэты самы Патайны, быў тады нейкім старшым над гурткамі. Бегаў нават па другіх вёсках, а ў Галынцы дык самы ваявода быў. Таксама, пане каменданце, дурасць была! Я і тады нікуды не лез. Пасля ён ажаніўся, прыціх. Чытае ўсё толькі ды шэпчацца. А цяпер вось вы кажаце... Хто б мог падумаць?! І праўду кажуць, што найгоршы сабака — патайны.

Праніклівыя вочы Мармавіцкага глядзелі таксама халодна. А далёка за маскай дзелавітага спакою прыйшла на памяць родная пазнаньская прымаўка: «Чаго больш хацець з вала, як не валавіны?» Пан камендант паволі патушыў у попельніцы акурак папяросы, узяў з адчыненага карабка другую і прыкурыў, забыўшыся на гэты раз пачаставаць свайго субяседніка.

— Вось бачыце,— сказаў ён па-ранейшаму спакойна,— вы нічога не ведаеце. А мы ведаем усё. Мы ахоўваем спакой і парадак, набытак і працу такіх вось добрасумленных людзей, як вы, пане Якавец. Мы выкрылі тых, што пакрыўдзілі вас, і мы пакараем іх.

Гаворачы, ён акуратна выняў з папкі падвойны ліст паперы, прагледзеў яго, быццам чытаючы, і, апошняй старонкай поверх, паклаў на стол перад Якаўцом.

— І кожны,— спакойна цягнуў ён далей,— хто верыць у бога, шануе ўладу і хоча ціха спажываць запрацаваны кавалак хлеба,— той павінен памагаць нам змагацца з бальшавіцкай заразай. Вы падпішыце вось тут. Гэта ўсё, што нам трэба ад вас; рэшту зробім мы самі. Тут вось, на гэтай лінейцы.

Якавец здолеў толькі заўважыць лінейкі незапісанага на апошняй старонцы ліста; заглянуць на іншыя

старонкі не асмеліўся, дый не паспеў. Паклаўшы ў попельніцу, побач з панскімі недакуркамі, свой засуслены недакурак, які ён дагэтуль трымаў у жмені, Мітрафан узяў з рук Мармавіцкага абмочанае пяро, асцярожненька, каб не капнуць на стол ці, яшчэ горш, на паперу, данёс яго да таго месца, дзе ткнуўся палец пана каменданта, і, згуртаваўшы ўсю ўвагу і пісьменнасць, крыва паставіў «Мітрапан». Пасля гэтага — кропку, тады вывеў слова «Якавец», замацаваў яго другой кропкай і таксама асцярожненька аддаў пяро.

— Вы кажаце, пане, краў? А хто яго ведае: ад свайго злодзея не схаваеш. Абы я сюд-туд, адлучылася б толькі ад хаты, у цэркаў, скажам, або на кірмаш, дык так і баішся, каб казёл[1] не паехаў. Чаго сам не ведае — людзі давучаць: і мяшэчак дадуць, і сплавіць дапамогуць. Ого! Удава, пане,— бедная галава!..

Ганна Кучурыха, за голас празваная Архай, сядзела на цёплым яшчэ пасля папярэдняга госця крэсле і, як быццам заведзеная першымі пытаннямі спакойнага пана каменданта, галаганіла на ўвесь яго кабінет:

— І работа не тая, паночку! Валочыцца цэлымі начамі, а выйдзе араць, дык, вядома ж, сланяецца са сну. Жыў бы нябожчык Антось,— хто б яго і трымаў. Не такія мы багацеі, каб самі свайго не ўрабілі. А так што ж, дзяцей у мяне — цэлая барана, а ўсе, як гарох, і кожнае хоча есці. А тут яшчэ і хадзі праз яго блізкі свет...

Словам, цётка адводзіла душу. Калі ж Мармавіцкі, хочучы перавесці гутарку ў патрэбным кірунку, спытаўся, ці ведае яна, што парабак яе, Дарма, разам з іншымі камуністамі, спаліў Якаўца,— Арха раптам спынілася, неяк дзіўна, спалохана паглядзела на пана, быццам намацаўшы бабскім розумам нешта нядобрае, памаўчала, а потым пайшла да спрадвечнай народнай мудрасці.

— Ведаеце, паночак, што,— сказала яна значна цішэй,— добрыя людзі гавораць: «Не злавіў за руку — не кажы, што злодзей». Не бачыла, пане, не ведаю і казаць не хачу. Гаварыць усё можна. Хлопец ён быў у мя-

[1] Торбачка з крадзеным.

не, і праўда, трошкі, як той казаў, валачашчы, але ж і вярзці на чалавека, што не след, святую дарэмніцу — таксама грэх. Бог сам бачыў, няхай сам і разбіраецца, а я — удава, у мяне таксама дзеці...

Калі ж дайшло да подпісу пад ненапісаным пратаколам, Арха выявіла яшчэ большую ўпартасць.

— Не мая гэта справа — паперкі падпісваць. Я — бедная ўдава. А Іван — добры хлопец: ён жа мне дзяцей памагаў гадаваць. Жывы быў бы нябожчык Антось — няхай бы сабе што хацеў і падпісваў, а мне і без таго, як вытрымаць. Цяпер вось лета на носе, зноў чалавека шукай...

Словам, не падпісала. Угавор не дапамог, спрабаваў напалохаць — пачала плакаць. Прыйшлося толькі прыгразіць, каб трымала язык за зубамі.

Застаўшыся адзін у сваім кабінеце, Мармавіцкі выклікаў сакратара, расказаў яму, як запоўніць падпісаны Якаўцом пратакол.

— Першымі будуць заявы Акалота і Мацюхі, потым — гэта, і трэцяя — прызнанне арыштаваных,— сказаў ён, спакойна здымаючы з вешалкі шапку.

— Пан камендант дамоў? — спытаўся франтаваты Бігас, сакратар.

— Так. Трэба адпачыць. А што?

— Ды тут нядаўна Нітка прыбягаў.

— І што?

— Спяваў. Вельмі нават танюсенька. Задыханы — злітуйся, пане божа! Баіцца пана, пане каменданце. Ён сёння ў Галынцы быў і некага там таўхануў за падаткі,— матку гэтага самага Грамыкі, ці што. Мужыкі, кажа, гналіся, але ўцёк. Ну і, вядома, з роціка ў пана Стася, як заўсёды, гарэліца чуваць.

— Дык што — яго набілі ці ён там набіў?

— Але ж, вядома, ён.

— Ну дык якога ён д'ябла шуміць?.. Зрэшты, скажы пан гэтаму лайдаку, што ён павінен паводзіць сябе больш культурна. Ну дык пакуль што, пане Каролю,— чэсць!

— Шанаванне пану, пане каменданце!

Бігас сеў за пішучую машынку.

Пракладаючы прыемна чыстую паперу лістамі ка-



З К. Крапівой перад вечарам сатыры і гумару ў філармоніі.
*Мінск, 1971 г.*

піркі, а потым спрытна, з фасонам жанчын-машыністак перабіраючы пальцамі па клавішах машынкі, пан Караль напяваў. Часам гэта быў проста ціхі свіст з-пад чорных, нафарбаваных вусікаў, а часам — і словы:

Марысю, бузі дай,
Мамусі не пытай...

Змест таго, што ён друкаваў — пратакол, авансам падпісаны Якаўцом,— цікавіў Бігаса менш за ўсё. Лёс яшчэ адной ахвяры, гэтага самага Дармы, хваляваў яго не больш, чым песня, якую ён свістаў і мармытаў таксама машынальна, як і друкаваў.

Калі ён час ад часу ўсміхаўся, дык на гэта была свая, асобная прычына. Ён цешыўся, што камендант пачаў ужо зварочвацца да яго па імені — «пане Каролю». І гэта пасля трох месяцаў прабывання яго, Бігаса, у Карнявічах!.. Гэта ўжо не службовыя адносіны — тут штосьці ёсць... Аднак, пакуль што — увага, пане Каролю, захоўвай дыстанцыю: так выгадней.

Марысю, бузі дай...

Бадзёра, хлёстка стукала машынка.

Начная праца пачалася з Рыбачонка.

У камеры допытаў, перад сталом, стаяў невысокі, лысы мужчынка. Пад столлю цьмяна тлела электрычная лямпачка, і на свежы тынк сцяны ад чалавека падаў цень, яшчэ карацейшы, чым сам ён. У левай руцэ ледзь прыкметна ўздрыгвала строкатая самаробная кепачка.

— Што, Патайны, даскакаўся?

Мармавіцкі сядзеў за сталом, нахіліўшыся трохі наперад. Побач з ім, за другім сталом, сядзеў франтаваты Бігас.

З правай рукі арыштаванага, каля сцяны, стаяў паліцэйскі Слензак, сутулаваты і здаравенны, як малатабоец.

Уражаны зусім нечаканым арыштам, Павел Рыбачонак за дзевяць кіламетраў хады ад роднай хаты да пастарунка, а потым за цэлыя, ох і доўгія ж суткі чакання ў камеры зусім заныў і размяк ад страху.

Тонкія губы Мармавіцкага варушыліся ў гутарцы

вельмі выразна, але Павел і па губах не здолеў улавіць значэнне першых слоў, з якімі да яго звярнуўся камендант. Рыбачонак хыркнуў нутраным, уступным кашлем, а потым, міжвольна павярнуўшыся левым, мацнейшым вухам да стала, спытаўся:

— Га?

У спісе асобых адзнак на арыштаванага значылася залатушная глухата. Зрэшты, Мармавіцкі ведаў гэта і так. А ўсё ж пытанне здалося яму няшчырым, нават здзеклівым.

— Што ты каркаеш,— сказаў ён, яшчэ ўсё з тым самым спакоем на круглым, моцным твары.— Адказвай на пытанне: дамогся свайго, давучыў?

Праз вялізнае, цёмнае воблака жаху Павел напружваў усю ўвагу, усю сваю марную здольнасць разбірацца ў гуках. Пытанне, хоць ён на гэты раз і ўлавіў яго, здалося зусім далёкім ад яго і недарэчным.

— Цяпер я, пане, нікога не вучу,— сказаў ён сур'ёзна і шчыра.— Некалі трохі вучыў, а цяпер не вучу. Сёмы год.

І праўда, некалі ён вучыў. Пры Грамадзе і ў Галынцы адкрылі былі беларускую школу. Сваіх настаўнікаў у наваколлі было вельмі няшмат, а ён скончыў калісьці Карнявіцкае гарадское вучылішча, потым працаваў у Петраградзе паштальёнам, і таму вёска сходам даручыла яму навучаць малых роднаму слову. І ён вучыў амаль усю зіму. Да таго ж яшчэ, працуючы сакратаром грамадаўскага гуртка, часта выступаў на сходах, і дома, у Галынцы, і ў суседніх вёсках, талкова, як гаварылі людзі, вучыў іх змагацца за лепшае, за чалавечае жыццё.

Потым, у лютым дваццаць сёмага года, на Грамаду абрушылася куды мацнейшая сіла і падмяла, заціснула ўсё. Многія хлопцы паселі за краты. Паўлу пашанцавала,— ён, разам з некаторымі, таксама не звязанымі непасрэдна з камуністычным падполлем, адкупіўся трыма начамі пакуты ў склепе пад старым пастарункам.

Пра жыццё за мяжой, у Савецкім Саюзе, Рыбачонак ведаў больш за многіх у сваёй і навакольных вёсках. І пасля разгрому Грамады, адышоўшы ад страху, што здорава надламаў яго кволую волю, Павел хоць і асцяражней, чым бывала да гэтага, а ўсё ж расказваў

сяму-таму пра вялікага Чалавека, якога ён, праўда, вельмі здалёк, бачыў на браневіку каля Фінляндскага вакзала. З не меншай гордасцю і асцярогай ён гаварыў пра кватэру № 23 на Кронверкскім праспекце, куды яму давялося два разы, замяняючы таварыша, насіць пісьмы, многія з якіх былі азначаны вельмі кароткім адрасам: «Петраград. Максіму Горкаму». Часта каяўся Павел, што здуру вярнуўся дахаты, як і многія, лічачы, што граніца, якая зусім недарэчы і несур'ёзна падзяліла адну Беларусь на дзве Беларусі, хутка «адкрыецца», а ён тым часам перажыве самую галадоўку на мамінай бульбе. Часта каяўся і шчыра чакаў, прыслухоўваўся — калі ж нарэшце другая сіла, непараўнана мацнейшая за тую, што разграміла Грамаду, што вось трымае народ у галечы і цемры, калі тая другая сіла — родная, народная — пасунецца далей на захад, змяце з дарогі панска-фашысцкую погань, і можна будзе жыць таксама, як там, за граніцай.

Так, ён ведаў нямала. Хацеў, каб лепшае прыйшло.

Толькі хацеў. Ціха сядзеў і чакаў...

Павел быў старэйшы сын у хаце, пад яго камандай на марнай гаспадарачцы краталіся малодшы брат Захара, стары кавалер, і сястра Волька, трыццацігадовая дзеўка на моцных крывых нагах. Жылі дружна, нават старая маці-ўдава слухала яго, як бацьку. Зарабілі на новую хату, прыкупілі паўморга поля. Хату ён сам і зрубіў, і накрыў, пры сякой-такой дапамозе не вельмі спрытнага на такую работу Захары, сам зрабіў печ і ўсю сталярку. Спрытны быў чалавек на ўсе рукі,— сам нават шыў на ўсю сям'ю, і вопратку, і абутак. Паддаўшыся на доўгія ўгаворы маці і радні, тры гады таму назад Павел ажаніўся. Пажылая Параска, дзеўка з таксама беднай суседскай сям'і, не ўнесла калатні ў іх спакойную, дружную хату. Яна нарадзіла ім здаровую, па сабе, і вельмі пацешную Зіначку. Сталася так, нібыта ў новай хаце, пасля лучыны ці газоўкі, загарэлася чыстая лямпа, ад якой асабліва светла і цёпла зрабілася перш за ўсё самому бацьку. Так светла, што ён неаднойчы ўжо шкадаваў у душы, што адцягнуў сваё шчасце ажно на пачатак пятага дзесятка.

Каратаць зімовыя вечары да іх збіраліся самотныя аматары новых чутак пра падзеі на свеце, аматары не-

таропкіх, падрабязных, няхай сабе часамі і няновых успамінаў з мінулага, у якім былі вайна і рэвалюцыя, ахвотнікі пачытаць ці паслухаць газету або і кнігу, пасядзець з важным відам над самаробнымі шашкамі. За гэта хату Рыбачонкаў, з лёгкай рукі солтыса Акалота, добра такі языкастага Сукі, называлі сінагогай.

Калі ж здаралася, што ніхто не прыходзіў, Павел або перачытваў каторую-небудзь з дзвюх сваіх кніг — «У чым мая вера?» Талстога ці апавяданні Джэка Лондана, якога ён па-свойму называў Ландон,— а то дык садзіўся за прасніцу і спрытна праў разам з бабай кудзелю, цярпліва прыслухоўваючыся, калі яны былі адны, да Парашчыных шэптаў пра тое, што многа лепш было б, каб яны аддзяліліся...

Вось так ён, дабрадушны і сумленны чалавек, спакваля і застыў канчаткова. Свая сям'я здалася яму найважнейшай на свеце справай, свая хата — надзейнай шкарлупінай, дзе можна, згодна прыказкі: «не руш нічога і не бойся нікога», хавацца сабе да прыходу чаканага дня.

Праўда, праз гэты цёплы і затхлы спакой час ад часу прабівалася калючая думка пра тое, што і да яго ўсё ж такі прыглядаюцца, што і яму не даруюць таксама. І за тое, што было, і за тое маленькае, што ён робіць цяпер для вялікае справы. Палохаючыся гэтай калючай, неспакойнай думкі, ён хаваўся ў сваю ціхасць яшчэ глыбей, асцерагаўся яшчэ больш.

Але вось не ўсцярогся.

— Ты не віляй,— гаварыў Мармавіцкі, трошкі больш нахіляючыся над сталом.— У нас і не такія, як ты, і чуюць добра, і адказваюць на пытанні нядрэнна. Ты ж, дарэчы, наш даўні знаёмы. Ты вось упарта пішаш усюды, што ты беларус. Калі ты беларус — ты ведаеш усё. Гэтымі справамі зацікаўлены вы ўсе. Такія, як ты, беларусы. Усе, а ты ж на дадатак быў яшчэ беларускім настаўнікам. І агітатарам. Пры Грамадзе, якую мы з табой, вяльможны пане, абодва памятаем добра. Мы ведаем пра ўсе твае патайныя штучкі. Хто ходзіць у тваю сінагогу? Што ты ім там прапаведуеш?

Добра не дачуўшы апошніх слоў, Павел яшчэ раз асмеліўся перапытаць. Ён павярнуў галаву левым вухам наперад і прастадушна спытаўся:

— Га?

— Не каркай, я сказаў, а гавары. Павыцягвай пакулле з вушэй. Памажы яму, Слензак.

Побач з ценем няраслага мужчынкі, на нядаўна атынкаванай сцяне падвала вырас, насунуўся, як хмара, другі цень. Сутулаваты малатабоец неўпрыцям для арыштаванага падышоў да яго ззаду і з размаху ўдарыў па худым, хваравітым твары. А потым, таксама павалі і моўчкі, ні крышку не ўражаны немым ускрыкам нізрынутага на цэментавую падлогу чалавека, Слензак прыгнуўся, цапнуў лапай за яго лысую галаву і міжвольна скрывіў ад вельмі рэдкай усмешкі вусны. Забыўся, да д'ябла, што валасоў, каб уляпіцца за іх, не было. Узяўшы арыштаванага пад пахі, ён падняў яго і паставіў.

— Вось так,— спакойна сказаў Мармавіцкі.— Цяпер табе будзе лягчэй гаварыць. Вытры нос і давай. Ды не курчся. Гэты пан досыць добры,— ён, відаць, больш не будзе.

Вялікі цень павалі споўз з тынкаванай сцяны: Слензак вярнуўся на сваё месца.

— Кажы адразу ўсё. Не з тваім здароўем прыкідвацца дурнем. Вучань твой паводзіць сябе куды лепш. Не пацiскай плячыма,— сам ведаеш, пра каго я гавару. Ён, шчанюк, упінаўся таксама, ды ўсё ж такі расказаў нам усё. І пра сябе, і пра цябе. Ты ўсё не ведаеш, бедны, пра каго ідзе гутарка? Падказаць табе трэба. Іван Шчасны, Дарма. Дык вось, расказвай дзеля збаўлення душы, як ты вучыў яго падпальваць Якаўца. Толькі коратка і адразу. Ты дарослы і мы, дзякуй богу, таксама.

Зусім нечаканая навіна аглушыла Паўла не менш як першы ўдар. Ажно прысеў — і целам, і душой. У памяці прамільгнулі двое: яго даўні, пранырлівы і подлы вораг, солтыс Сука, які вось нарэшце дамогся свайго, і малады, гарачы Дарма, які, аказваецца, не вытрываў і наплёў, што было і чаго не было... Рыбачонак адчуў, што яго паднялі і пляснулі ў чорную, халодную глыбіню. Ён зразумеў, што назусім забыўся, а можа і не ўмеў ніколі плаваць, як гэта могуць дужыя, смелыя людзі... Вось ён нема, бязмоўна крычыць, просіць ратунку, а навокал нікога няма, і яму застаецца адно — недарэчна хапацца анямелымі рукамі за

абрывісты, коўзкі і амаль непрыкметны ў цемрадзі бераг...

— Пане,— глуха сказаў ён амаль па-дзіцячы бездапаможным голасам.— Паверце, пане, што ўсё гэта нагавор. Адна няпраўда. Што я душой...

— Слензак,— спакойна сказаў Мармавіцкі.

Прызвычаены да гэтага намёку кат нібыта ўзняўся на заднія лапы і падышоў да ахвяры.

— Распранайся,— выдушыў ён зверху басам.

Арыштаваны пакорна сеў на цэментавую падлогу. Нагой аб нагу скінуў боты, якія сам сабе пашыў, зняў самаробныя кашулю і штаны. Прыўстаў на калені, дрыжачымі рукамі акуратна паставіў боты каля сцяны, паклаў на іх пярэстыя ад карычневых плям анучы, а збоку — складзеную напалову зрэбную вопратку. Тады зноў сеў і падкурчыў ногі.

Вялікія, дужыя лапы Слензака халаднаватым дотыкам ашчарэпілі яго залатыя, мазольныя рукі і паклалі іх, як нежывыя, на калені. Захрумсцелі тонкія кольцы наручнікаў, халоднымі абадкамі абхапілі тонкія запясці.

Гэты мярцвяцкі дотык востра паласнуў па сэрцы арыштаванага зусім нечаканым успамінам...

Праз вялікія, чыстыя шыбы акна льецца ў хату вясновае сонца. А ён пры варштаце. Адна з яго спецыяльнасцей, можа найбольш любімая — сталярка. Спраўны фуганак з прыемным свістам злізвае з дошкі доўгую, жывую стружку. Яна ападае на падлогу і, на кучы такіх самых, насычаных сонцам драўляных істужак, здаецца, яшчэ ўсё варушыцца. А па стружках шалпочуць абутыя ў ніцяныя лапцікі ножкі дачкі. Тата прысеў на калодцы, стаміўся. І вось да ягонай шурпатай рукі дакранаюцца цёплыя, родныя губкі. Зіначка цалуе, а тады паднімае з-пад кудзеркаў амаль такіх жа, як стружкі, залацістых валасоў вялікія сінія вочы і шчабеча нікім не падказаныя словы:

«Татуля мой! А я цябе люблю, люблю!..»

Лысы мужчынка ў бялізне апаў тварам на сагнутыя калені і, як баба, заплакаў наўзрыд.

Праз гадзіну ў пустую пасля Рыбачонка камеру допытаў зноў увялі Дарму.

Зноў гаварылі яму, што ўсе яны, яго сябры — і Толя Смалянка, і Сцёпа Вярбіцкі, і Рыбачонак, і нават Валодзя Грамыка, які таксама тут,— усе сказалі на яго. Ён, зразумела, не паверыў, бо слова *правакацыя*, сэнс яго былі яму добра вядомы. Ён не паверыў нават, што гэтых хлопцаў прывялі сюды, хаця праз дзверы яго камеры чуваць былі крокі і валтузня на калідоры падвала, грукат іншых дзвярэй, немы крык за далёкімі сценамі, а потым нават і той таямнічы, ціхі перастук у муры, тая мова турмы, якую ён не паспеў яшчэ вывучыць...

Удзень яго катавалі зноў і зноў гаварылі пра тое, што толькі ён адзін маўчыць.

За ноч і дзень яны, здаецца, выпрабавалі на ім увесь запас свайго жахлівага майстэрства. Надзявалі на рукі і ногі кайданы, збівалі з ног на падлогу, укладалі кій паміж сагнутых і абхопленых рукамі калень, палівалі вадой і да стомы білі гумавымі палкамі. Найбольш — па пятах. А ён не мог дараваць сабе нават таго, што час ад часу міжвольна стагнаў і ўскрыкваў. Ён вырашыў маўчаць, і гэтай адзінай мэце былі падпарадкаваны ўсе яго сілы. А пасля гэтым сілам зрабілася цесна. У парыве нянавісці ён скурчыўся, кій трэснуў пад каленьмі, як лучына, і Дарма ўсхапіўся з зямлі. Яго аблажылі зноў і тады перайшлі да больш тонкіх, складаных спосабаў катавання. Зашчэмлівалі дзвярмі пальцы, клалі пад пахі змочаныя ў газе анучы і падпальвалі іх, заганялі пад ногці іголкі... І апошняе, чым заўсёды канчаліся катаванні,— лілі праз нос ваду, змяшаную з газай.

Першы раз непрытомнасць прыйшла пасля пятай бутэлькі. Задушанага, яго, як тапельца, перавярнулі ніцма, прыўзнялі і таўклі па спіне, каб сумесь вылілася назад.

Цяпер, калі яго прывялі ў камеру допытаў ужо тым часам трэці раз, Дарма зусім нечакана пачаў гаварыць.

Ён глядзеў на чырвоны ад дарэмнай натугі твар Мармавіцкага, горача дыхаў усхваляванымі грудзьмі і ад злосці, якую праз увесь гэты час абяззбройвалі ланцугі на руках і нагах, нервова паварушваліся ноздры і верхняя, яшчэ ў маленстве, на пашы рассечаная губа.

— Скажы пра ўсё,— стараўся па-свойму спакойна гаварыць Мармавіцкі, але белыя, гладкія рукі яго непаслухмяна ўздрыгвалі на стале.— Пра цябе нам сказалі ўсе і ўсё. Вось толькі што даў паказанні Рыбачонак. А ты, дзівак, найменш за ўсіх вінаваты — маўчыш.

Дарме здавалася, што ён нарэшце скажа ім усё — пра тую нянавісць да іх, ад якой ён сціскаецца, быццам ад лютага холаду, пра той канец, які прыйдзе на іх, пра тое... Чорт вас, крукі, вазьмі! Пра ўсё! Ды ці знойдуцца словы? Яны не знайшліся, і таму ён раптоўна, зусім нечакана нават для самога сябе, засмяяўся.

— Сказаць, кажаш? — спытаў Дарма праз сударгавы смех.— А гэта... ты... маць тваю, бачыў?!

На гэты раз яго давялі да непрытомнасці інакш. Калі стаміліся ўсе, тоўсты доктар Меленіс, які прысутнічаў у якасці добраахвотнага медыцынскага эксперта, параіў выпрабаваць адзін вельмі тонкі спосаб. На гэта трэба было толькі ведаць так, як ведаў ён, найбольш чулыя месцы чалавечага цела, і карыстацца такой простай прыладай катавання, як звычайная канцылярская лінейка...

Пакуль прыйшло забыццё, Іван міжвольна крычаў, праз востры, пякучы боль чуў цяжар паліцэйскіх на ўсім распластаным целе і дружныя выбухі смеху, які пакрываўся дробненькім, жыццярадасным рогатам доктара.

Пасля здаравенны Слензак сядзеў на ім так, як сядзяць на калодзе, адпачываў, курыў і стараўся тым часам вярнуць арыштанту прытомнасць. Ён датыкаўся агнём папяросы да голага цела Дармы, выпрабоўваючы, у якім месцы найбольш баліць. Адпачыў і падняўся, стаў каля акна.

Першае, чаго Іван доўга не зможа сабе даравацъ,— гэта просьба: «вады», амаль зусім непрытомная.

— Вадзіцы хочаш, сынок?..

Гэты голас на роднай мове на момант здаўся не іхнім, і хлопец зноў паўтарыў:

— Ва-а-ады...

Стрымліваючы смех, тоўсты Мелініс, вядомы сярод карнявіцкіх панкоў весялун, падаў яму пустую бутэльку.

Вочы ахвяры былі расплюшчаны, аднак яны, зда-

ецца, не бачылі,— сухія губы лавілі рыльца бутэлькі прагна і слепа...

Ды раптам вочы сталі відушчымі. Губы сабраліся ў гарачкавым намаганні. Аднекуль узяліся і сілы і сліна. Дарма харкнуў і плюнуў.

Доктару ў вочы.

Пад шырокімі ўзмахамі касы смачна хрупае густое, як тын, жыта. Збанок з вадой застаецца ўсё далей і далей ззаду, а ноч, цішыня, адпачынак — бліжэй ды бліжэй. Хутка будзеш ляжаць у садзе на траве, слухаць мернае тахканне ўласнага сэрца, ледзь улоўнае, шматгалосае мармытанне начной цішыні, закаханую гутарку зорак і стук ападаючых яблыкаў...

А тым часам па вузкай дарозе, над якой з двух бакоў нахілілася спелае жыта, бясконцым гужам паўзуць вялікія вазы духмянага, свежага сена. На першым возе сядзіць маладая, босая красуня і спявае. Спявае хараша, нават касец прыпыніўся ў жыце і, абапёршыся на касаўё, застыў. Не толькі ён адзін,— застыла і заслухалася ўсё.

Сцёпка некалі на пана
Працаваў, як чорны вол,
А сягоння сын Сцяпана
Запісаўся ў камсамол.

Словы песні пачуты нядаўна, але сэнс іх насычаны шчасцем — адзіным і вечным, як сонца, і ветрык, і дотыкі першай расы. Не словамі толькі, а ўсім сваім вольным, шырокім гучаннем яна чароўна гаворыць аб здзейсненых марах.

Калі ласка, калі ласка —
У нас заўсёды месца ёсць —
Не саромейся, Параска,
Ты у нас жаданы госць...

Дзяўчына на возе спявае, і думкі пра тое, што гэта толькі сон, забыццё, што яна пакуль што — парабчанка з двара, а ён, Дарма, косіць чужое жыта,— цёмныя думкі адышлі назаўсёды далёка-далёка на захад.

Нехта кліча яго з таго боку, дзе сонца ўстае пасля ночы, такім родным і чыстым, як рэха над рэчкай, голасам:

— Янка-а! Янач-ка-а!.. Го-о-о!..

Ён даўно недзе кінуў касу і ідзе. Праз палі і лясы, па балоце. На ўсход!.. За пазухай зрэбнай курткі гарачыя пальцы Дармы сціскаюць шурпатую ручку нагана. Грудзям душна, і ногі ныюць ад стомы. Ды ён ідзе, спяшаецца, бяжыць...

І вось тыя драты, з-за якіх і сюды дакацілася тая вясёлая песня, адкуль яго кліча далёкі і родны голас:

— Ян-ка-а! Янач-ка-а!.. Го-о-о!..

Драты спляліся безліччу вострых, пякучых шыпоў, і вецер ные ў іх балючым, атручаным звонам. Недзе хлопцы смяюцца і чуецца роднае, сяброўскае слова: «Дарма». Гэта ўжо не мянушка Івана, а слова, якое нясе ў сабе вялікі сэнс: «Дарма вы, чэрці, хацелі, каб ён расказаў, каб ён выдаў, каб ён папрасіў злітавання. Дарма!» Бо вось ён нарэшце прыйшоў, вось ён замахнецца гранатай, і ўсё — ні дратоў, ні граніцы не будзе!

Ён замахнуўся і кінуў. Кінуў і ўпаў на зямлю, а над полем раздаўся магутны, абураны выбух. Потым нешта звінела, як некалі боль у ягоных вушах, нешта — мусіць асколкі гранаты,— сотнямі ядавітых шыпоў лезла ў сэрца, як некалі іголкі пад ногці, нешта моцна трымала за рукі і ногі, глыбамі цяжкай, халоднай зямлі зноў налегла на грудзі...

Трохі пазней Дарма зразумеў, што ён не ўпаў, а ляжыць на сырым і халодным цэменце, што выбуху яшчэ не было, а толькі зноў загрымелі дзверы, што некага ўпіхнулі ў камеру, а той спаткнуўся і ўпаў. Спачатку проста на грудзі Івану, а потым, адчуўшы яго пад сабой, цяжка ўзняўся, прыўстаў і, не бачны ў цемры, прысеў побач з ім.

— Хто ты? — глуха і хрыпла спытаўся Дарма. Сказаў і здзівіўся, што вось і забыўся, відаць, гаварыць.— Толя, ты? — пашукаў ён навокал найлепшага, самага шчырага сябра — Смалянку.— Сцёпа?.. Сцёпка! Вярбіцкі!..

— Гэта я. Я — Валодзя Грамыка,— пачулася побач.

— А ты не выдаў? — міжвольна спытаўся Дарма. Спытаўся і раптам успомніў, што не пра гэта хацеў спытаць. Хацеў сказаць яму другое слова, выказаць другое жаданне — напіцца. Ды раптам успомніў — адкуль жа ў хлопца вада?..

А сказаць ім — Валодзя нічога не скажа. Ды яму, глядзі ты, і казаць няма чаго... А так Валодзя — хлопец добры, свой. Ды хто ж з іх можа выдаць,— нашы хлопцы не скажуць нічога. Ні Смалянка, ні Сцёпа Вярбіцкі, ні Рыбачонак, ні гэты... Ды няўжо ты паверыў, Іване, што Смалянка і Сцёпа Вярбіцкі тут? А можа ён іх тут бачыў, Валодзя? Не, не бачыў, вядома, таксама, як я. Нарабілі цяпер каталажак у новым падвале — на кожнага паасобку...

У цемры побач пачулася нешта такое, чаго Іван не чакаў...

Дарме здалося спачатку, што гэта не плач, не глухія мужчынскія ўсхліпванні. Не здалося, а проста ніяк не мог, не хацеў ён паверыць, што гэты вось плача — мужчына!..

— А якога ты чорта скуголіш? — спытаў Дарма, уцяміўшы, што гэта — плач. Хацеў сказаць яшчэ слова, якое выказала б усё яго абурэнне і пагарду, але горка глынуў яго і памаўчаў.— Я думаў, што ты, Валодзя, хлопец,— сказаў ён, пачакаўшы,— такі, як ваш Арсен, а ты...

— Ды я, Іван, са злосці плачу, я...

— Адзін, я чуў, у порткі нарабіў са злосці... А ты, бачыш, толькі заплакаў.

Памаўчалі.

— Ну, я не буду больш, Іван,— сказаў Валодзя.— Ты хіба чуў, дзе наш Арсен? Ты ведаеш?

Дарма цяжка прыўстаў, абапёрся на локці, а потым, быццам прыўзняты пад грудзі чужымі, дужымі рукамі, сеў.

— Валодзя,— сказаў ён зусім іншым голасам,— ваш Арсен не такі, каб заплакаць. Арсен ваш ведае, за што стаіць.

Гэты голас Дармы прыйшоў на збалелую душу яго равесніка, Валодзі, як дотык сталай, бацькоўскай рукі.

— Ты ведаеш? — спытаўся ўжо з большай надзеяй Валодзя.— Ты скажаш мне, Іван, усё?

І гэта было не пытанне, а больш упэўненасць. Яна павінна была дапамагчы гэтаму добраму, свайму, але такому вось... мяккаватаму хлопцу. Дарма хацеў сказаць яму, што ўсе яны, хто, як Арсен (ну, а Арсен жа мацнейшы за многіх!) — што кожны з іх не заплача,

бо ведае, за што стаіць, за што маўчыць. Іван не ведае, дзе ён цяпер, але гэта няважна. Галоўнае — ён верыць, што Арсен — не такі, што ў Арсена можна вучыцца. Праз момант Дарма шукаў у памяці адпаведныя словы, каб выказаць сваё адчуванне, але не знайшоў яго. Толькі сказаў:

— Я ведаю.

Пайшлі б яшчэ пытанні, але раптам Дарма насцеражыўся, пачуў знаёмыя гукі.

— Ціха!.. Стой,— засіпеў ён.— Павялі... Думаюць, чэрці, што выцісьнуць з нашых хоць слова!..

Шкада, што ў цемры ніхто не мог убачыць, як зноў задрыжала верхняя губа з даўнім, дзіцячым нарэзам, як бліснулі з-пад цёмных брывей маладыя, гарачыя вочы, якой гордай усмешкай зноў асвяціўся твар парабчука Дармы.

Спачатку сівы конь стаяў на карнявіцкім рынку, прывязаны да тоўстай жэрдкі агароджы. Звечара гаспадар, лахматы цыган Ча́ва, накарміў яго крадзенай канюшынай; на досвітку цыганчук Сашка напасвіў яго таксама па-святочнаму, чаго не бывала даўно. Аднак цяпер, ніяк не могучы супакоіць узбуджаны апетыт, конь раз-пораз нагінаўся да стаптанай травы і, не могучы дастаць яе, пачынаў з дасады скабліць вялізнымі жоўтымі зубамі свежааскрэбены сасновы слуп. Заўважыўшы гэта, Сашка падыходзіў і ціха, злосна біў яго пугаўём па вялізнай, як старасвецкі збан, галаве. Конь спалохана тузаўся і круціў галавой, а потым, крыху супакоіўшыся, пакорна прысядаў на левую заднюю нагу і пачынаў думаць. Сашка падыходзіў і, асцерагаючыся, каб ніхто не заўважыў, злосна біў яго пугаўём па сарванай, падкурчанай назе. Можа дзесяты ад рання раз цыганчук адвязваў яго, узбіраўся, як малпа, на востры хрыбет і, ашчарэпіўшы рабрыстыя бакі каня даўно нямытымі і ўчэпістымі, як клешчы, нагамі, то рыссю, то галопам ганяў яго па вольным месцы, паміж фурманак з задзёртымі аглоблямі і гаманлівага натоўпу кірмашнікаў. Каб яшчэ больш звярнуць увагу сялян на свой тавар, стары цыган зноў пачынаў крычаць:

— Эге-гей, хто сюды! Што за конь! Валасаты капыт, варшаўская ступа́!

Працiснуўшыся памiж вазоў, галынкаўскi весялун Макар Костачка падышоў да старога цыгана i, ззаду хлопнуўшы яго аберуч па плячах, павiтаўся, як з даўнiм знаёмым:

— Здароў, чорны! Жонка цi звонка, дзеткi цi крэпкi? Што, бэцька, зноў здыхату прывалок? Сам ён iшоў цi на возе прывёз?

Цыган паглядзеў на незнаёмага мужыка i, уцямiўшы, з кiм мае справу, цыркнуў праз зубы слiнай i амаль зусiм абыякава сказаў:

— Пайдзi трохi за печкай паляжы. Ку-пэц!.. Лепшага каня ты яшчэ з роду ў руках не трымаў. Нi ты, нi бэцька, нi дзед.

— Асёл ты з халоднымi вушамi,— адказаў Макар, вiдаць, за жывое закрануты словамi цыгана.— А ну, грачык,— звярнуўся ён да Сашкi,— падай яго сюды. Здароў, Саламон! Галава, брат, як цэбар! Разумнейшы, вiдаць, за гаспадара.

Чарада зацiкаўленых гэтай сустрэчай сялян адказала ахвотным рогатам. Падбадзёраны Костачка, перш чым глядзець Саламону ў зубы, узяў яго з рук Сашкi-грачыка, даволi спрытна на свае гады сеў на каня i фанабэрыста, з асанкай былога кавалерыста, на вялiкую ўцеху натоўпу раскалыхаў сяк-так Саламона ледзь не з месца бягом.

— Вось як мы ездзiлi, о! — сказаў ён потым, саскочыўшы з каня. Стрымлiваючы задыханае хваляванне, азiрнуўся навокал i прыцiшаным голасам прызнаўся: — У Сямёна Мiхайлавiча Будзённага, у Першай коннай, о!

Худая жанчына, дагэтуль непрыкметная ў натоўпе, выступiла наперад i не вытрымала:

— Макар, дурнiца ты, зноў? Мала табе яшчэ было? Дабрэшашся!..

— Маўчы, Скрыпка,— адмахнуўся Костачка.— I ездзiлi i зноў будзем ездзiць. А цяпер вось такую здыхляцiну трэба купляць. Праўда, чорны? А ну, што ж ты хочаш за падлу?

Гадзiны праз паўтары, накрычаўшыся да хрыпаты i да болю набiўшы далонi, Макар выняў з-за пазухi

хустачку, разгарнуў яе, адлічыў цыгану залатоўкі, пад ухваляючы смех мужчын узлез на свайго Саламона і пераможцам паехаў з кірмашу.

Жыў Макар нецікава.

Два моргі зямлі, чацвёра дзяцей, усе чатыры хлопцы. Абадраныя, здаровыя, басанож выбягаюць на коўзанку.

Сам сабе адказваючы на пытанне, што ён будзе з імі рабіць, калі вырастуць, Макар пачынаў лічыць:

«У Наваградку — адна, у Баранавічах — другая, у Гродні — трэцяя. А Косцік мой, чаго добрага, і ў Вільню, на Лукішкі трапіць. Там, кажуць хлопцы, усім турмам турма, а мой Кастусь — арол, па бацьку. Быць не можа, каб ён туды не дапяў!»

Косціку пайшоў шаснаццаты год, і, нягледзячы на ўсю асцярожнасць рухавага і недурнога хлопца, бацька больш чым здагадваўся, што і ён у камсамоле.

«Набы́львае патрохі,— з гордасцю гаварыў ён сам сабе, калі хлопец вяртаўся дахаты на досвітку і няўдала, па-хлапечы бянтэжачыся, стараўся вытлумачыць бацьку, што ён нідзе не быў.— Набіраецца маху, хутка ў людзі».

Гаварыў гэта бацька з трывогай, прыкрываючы страх за старэйшага, самага ўдалага хлопца зноў жа па-свойму — жартамі.

Хацелася, каб у жыцці было шмат незвычайнага, а яно было шэрым, маркотным. Неспакойная думка Костачкі вечна шукала і вечна знаходзіла нешта такое, што памнажала і ў вёсцы і за вёскай ягоную славу манюкі-мастака і майстра на розныя штукі. Амаль заўсёды штукі яго не ўдаваліся, і гэта іменна бывала смешным.

Макар лічыў сябе, напрыклад, знаўцам птушак. «Індык усё на свеце разумее»,— гаварыў ён і з выглядам уладара загадваў: «Сапляк, ідзі сюды!» Прыгажун індык, відаць, пакрыўджаны несур'ёзнымі адносінамі да яго паважанай асобы, пачынаў надзімацца, а потым, пачуўшы свіст,—абурана балбатаў. «Бачыш, як лаецца, злосны»,— спакойна тлумачыў Макар. «Я яго на тым тыдні ганяў з агароду, ён і сёння яшчэ памятае. Разумны, злодзей, як рабін!» З такім самым

спакоем і ўпэўненасцю Макар гатоў быў да смерці спрачацца з мужчынамі, што варона, якая вось села на плоце, і летась жыла тут, у Галынцы, усю зіму. Аднойчы ён спрабаваў спаркаваць свае куры з курапаткамі, каб вывесці «нясушчую і лёгкую пароду». Ды курапачы пеўнік аказаўся дрэнным татам. Баяўся, жэўжык, курэй, а потым, выпушчаны з падпечка на хату, пабіў лямпу, біўся, як дурань, аб вокны, пакуль не трапіў, праз рукі Макаравай жонкі, у гаршчок. Неяк вясной Макар прынёс аднекуль «буслінае» яйцо і падлажыў яго пад квактуху. Калі ж з яйца зусім нечакана вылупілася звычайнае гусянё — Макар не разгубіўся: развёў тэорыю пра тое, які ўплыў на буслiныя яйкі робіць пер'е ягоных квактух.

Не менш цікавай была справа з Макаравым калодзежам. Капаўся гэты калодзеж з вясны да позняй восені. І праз увесь гэты час Макар знаходзіў у нетрах галынкаўскай зямлі штодзень то ўсё новыя выкапні. Спачатку была жалезная руда, потым цынк і, нарэшце, чыгун. «Каб прасеяў на рэшата, на цэлы чыгунчык хапіла б»,— расказваў Костачка, зусім не праймаючыся тым, што найбольшы галынкаўскі грамацей, Павел Рыбачонак, Патайны, гаворыць, што чыгун выплаўляецца толькі з жалезнай руды. «У мяне, братка, іншы гатунак,— апраўдваўся Макар.— Не бойся, мы таксама начытаныя». Такім чынам, да восені справа магла б дайсці і да золата, але Костачка павярнуў яе ў іншы бок і знайшоў на дне калодзежа... найлепшы ў свеце беленькі пясок, якім звычайна у бедных хатах пасыпаюць глінабітную падлогу: «Сам пан Юзаф Пілсудскі не пасыпае хату такім пясочкам,— гаварыў ён.— А Костачка Макар Іванавіч пасыпле. О!»

Галавасты Саламон і сапраўды быў не конь, а ня-дошлая падла. На такіх конях ездзіць толькі самая бедная бедната, аб такіх толькі і гаворыцца: «скабы, грыва і хвост». Аднак Макар і тут здолеў нешта прыдумаць.

Прыехаўшы з кірмашу дамоў, ён прывязаў каня да плота і, не заходзячы ў хату, пайшоў склікаць людзей.

— Вось вам цар Саламон,— сказаў ён, прывёўшы на двор чалавек пяць мужчын-суседзяў.— Будзьце знаёмы. Аролік мой, дурань, здох, а Саламон, нябось,

не здохне. Не ўсё тое золата, што блішчыць. Па адзёжцы сустракаюць, а па розуму — выпраўляюць. А розуму ў яго — цэлы цэбар. Таксама, братка, і да яды: скарб, а не конь.

Макар вынес з сенцаў вядро з памыямі і вярнуўся яшчэ раз у хату.

— Добра, што Скрыпка мая недзе пешкі скрыляе з кірмашу,— сказаў ён, выносячы гусінае яйцо,— а так піску было б. Дык вось, Саламону майму — хоць бы што давай, абы заскварана.

Ён разбіў яйцо аб кант вядра, плюхнуў яго ў памыі, падставіў вядро каню, і новы спектакль з правалам пачаўся. Саламон апусціў храпу, панюхаў і нездаволена пакруціў галавой. Але Макар і тут не збянтэжыўся: у адказ на смех мужчын ён зусім спакойна сказаў:

— Конь здарожыўся, а вы зубы скаліце, як блазны. Нічога, Саламон, не саромейся.

Пераведзены на нармальны харч, Саламон усю ноч барабаніў зубамі па голай, як бубен, галынкаўскай пашы, дарма намагаючыся знайсці на да рэшты стаптанай і загаджанай траве жывое месца.

Уранні Макар успёр на яго разумную галаву цеснаваты Аролікаў хамут, запрог і паехаў у Карнявічы, да каваля.

Выбраўшыся з Галынкі на гасцінец, Костачка ўз'ехаў на Дзедаву гару. Адгэтуль уся ваколіца віднелася як на далоні.

Абапал гасцінца, які спускаўся ў даліну, зрэдку стаялі старыя кацярынінскія бярозы, пакрытыя лішаямі спрадвечнай кары, тырчалі, як карэнні зношаных зубоў, трухлявыя пні, сям-там, быццам у довад, чаго варта гэтая зямля, узвышаліся маладыя, цяністыя клёны. Пясчаны гасцінец распасціраўся пад шчодрым ранішнім сонцам,— шырока, далёка і пуста.

Толькі воддаль, на белай звілістай сцежцы пад клёнамі, відаць было — ішла дзяўчына.

Усцешаны гэтым, Костачка ўкленчыў на саломе і весела закрыціў лейцамі над галавой. Да ўсяго прызвычаены, Саламон сяк-так разгайдаўся на цяжкую рысь.

Як толькі дзяўчына пачула калёсы і азірнулася, Макар закрычаў:

— А, Жэнька-Яўгенька! Бабка мая ненаглядная! Садзіся, падвязу.

Жэнька глядзі што не села б на воз. Бо дзе ж там — яна ў святочнай суненцы, а тут амаль пустыя калёсы, дый дзядзька Костачка — хто яго не ведае! — чаго добрага пачне яшчэ абдымацца. Ды сёння Жэнька, заўсёды вясёлая, была чамусьці такая сур'ёзная, ціхая.

— Добры дзень, дзядзька Макар,— сказала яна падыходзячы і нават узялася рукой за цапок драбінаў.— Куды ж вы гэта? І конь у вас новы. А худы, худы — як смерць.

Харошая, слаўная дзеўка! Загарэлыя, стройныя ногі абуты ў сандалікі. І нават яшчэ, быццам снег, шкарпэткі. Вядома, маладосць! Пушысты рукаў стракатай, лёганькай сукенкі заціснуўся гумкай на поўнай загарэлай руцэ вышэй локця. Па коратка астрыжаных валасах каб не хацеў, дык пазнаеш, што падлетак зрабіўся дзяўчынай зусім нядаўна. Кучаравая, румяная — любата, ды годзе!

Толькі ж сумная нешта... І нейкі белы клуначак пад пахай.

— Куды ж ты, дочка, ідзеш? — спытаўся Костачка, амаль зусім сур'ёзна.

А Жэньцы, відаць, захацелася быць яшчэ бліжэй да свайго чалавека, бо раптам пусціла руку, забегла ззаду калёс, падскочыла на іх і прысела, падкурчылася побач з Макарам на скупым ахапку саломы. Хацела нешта пачаць гаварыць: маленькія, пругкія грудзі захваляваліся пад сукенкай, дзяўчынка прыкусіла ніжнюю губу і цяжка, быццам стомлена, уздыхнула. Тут быў і дзікаваты дзявочы сорам, які яна перамагла толькі сёння, і першы вялікі жаль, які вось зноў наплывае на цёплыя вочы...

— Я, дзядзька,— сказала яна,— іду ў пастарунак. Есці нясу Валодзіку...

— А-а! Дык вось яно, золатка, што!..

І Жэньцы здалося, што дзядзька Костачка нібы застыў, нібы яны наогул спыніліся ехаць, а стаяць на месцы.

Стары глядзеў на дзяўчыну, думаў.

Першую навіну — пра арышт Валодзі — ён пачуў учора ўранні, едучы на кірмаш. Каб не пад'язджаў на чужым возе, а ехаў на сваім кані — дагнаў бы, можа,

Валодзю, зірнуў бы хоць, як яго гналі. Гаварылі пра гэта — у дарозе і на кірмашы — няшмат, як аб нечым звычайным. Надоечы ўзялі Дарму і Патайнога, потым Валодзю. Яны не першыя і не апошнія. Розніца толькі ў тым, што па Валодзю ці па Рыбачонку хоць плакаць ёсць каму, не тое, што ў сіраты — Дармы. Па гэтым ніхто не заплакаў. І можа гэта нават лепш,— чорт яго ведае!..

Другую навіну — пра тое, што натварыў у Аксеніной хаце п'яны секвестратар,— Макар пачуў ужо дома, увечары. Каму цяпер па кім плакаць: маці па сыне ці сыну па маці? А з Юркам, з дзіцем што нарабіў!..

Эх, чорт вазьмі,— шкада, што мужчыны запозна прыбеглі тады на бабскі крык, шкада, што яго, Макара, не было тады ў вёсцы!.. Марыля яго, якую ён за нараканні і частыя слёзы даўно празваў Скрыпкай, сказала ўчора: «Дзякуй богу, што майго не было тады дома — ускочыў бы ў бяду...» Гэта пра яго, Макара, і гэта праўда: што было б, то было б, а ён дагнаў бы Нітку і на гасцінцы!.. Нават за гэтыя словы Марылі, што «дзякуй богу»,— ёй ледзь не папала з гарачкі...

— А-а! Дык вось яно што!..— паўтарыў Макар, дзіўна пазіраючы на Жэньку.

Жэньцы здалося, што дзядзька Костачка не толькі цяпер, а ўжо і зусім перастане гаварыць так, як ён гаворыць заўсёды: з рознымі штучкамі, жартамі.

— Цётку Аксеню ён гэтак збіў, што яна, бедная, ні ўстаць, ні павярнуцца не можа,— гаварыла Жэнька.— Юрка таксама. У яго нават кроў ішла ротам. Юрачка баіцца. Дык хто ж Валодзю занясе?

Сказана гэта было зусім шчыра і проста, але рэшткі таго дзікаватага сораму, з якім яна, здаецца, ужо зусім развіталася, немаведама адкуль і навошта вярнуліся зноў. А да таго ж яшчэ дзядзька Макар неяк дзіўна глядзіць. Жэнька зноў прыкусіла губу, уздыхнула, і слёзы, як нейкі цёплы туман, зноў вярнуліся на вочы.

— Харошая ты дзеўка, Жэня,— сказаў Костачка, а потым, зусім незразумела навошта, пачаў па-свойму: — Быў бы я малады — дальбог, жаніліся б з табой. Прывязалі б Саламону званочак, чырвоную істужку ў грыву і па-е-ха-лі б!..

Жарт і цяпер, як заўсёды амаль, не ўдаўся.

— Ай, ну вас, дзядзька,— сказала дзяўчына.— Вам бы толькі заўсёды смяяцца...

— Ты думаеш, дочка? — спытаўся Макар і пасля гэтага ўсю дарогу маўчаў.

Толькі адзін раз, зноў падумаўшы, што ён таксама мог бы зайсці ў хату Грамычыхі,— не ўчора, дык сёння,— што ён таксама мог бы ўзяць Валодзю есці, падумаўшы гэта, Макар знячэўку сцебануў свайго Саламона пугай і крыкнуў:

— Паўзеш па свеце, здыхата!..

Сцебануў з такой злосцю, як быццам біў не яго, а самога сябе.

І не толькі сябе, а ўсё такое жыццё.

У Карнявічах, каля кузні Хаіма Бусла, Жэнька саскочыла з калёс і хацела ісці, але Костачка затрымаў яе:

— «Пастой, пастой, дзяўчынанька»,— сказаў ён па-свойму, не сур'ёзна, а словамі з песні.— Хадзі сюды.

Яна пайшла за ім і спынілася на парозе кузні.

— Здароў, пэцкаль! — гукнуў з парога Макар.— З пуда жалеза — пшык. А-а, і яшчэ не памыўся!..

Вітаючыся з Хаімам, Макар не забыўся аберуч сціснуць ягоную руку.

У адказ на яго намаганні замурзаны Бусел, аскаліўшы ва ўсмешцы вялікія, цэлыя зубы, да болю моцна ціскануў сваёй чорнай кавальскай лапай руку старога сябра.

— Што, пішчыш? — задаволена засмяяўся ён.

— Здаровы, злодзей, як каваль! — прызнаўся пераможаны Макар.— Яшчэ перазімуеш.

Так і павіталіся, па даўняй звычцы.

— Біблію ўчора чытаў? — спытаўся потым Макар.

— Ну,— зноў усміхнуўся Хаім,— я ж вучоны, не тое, што ты. Я не чытаў, я бачыў, як рабін чытае.

— Рабін — сын бабін. Мы таксама не горшыя. Вось табе, Хаімка, мой Саламон. Ты яго, значыцца, пераабуй на ўсе пярэднія, а я...

Ён азірнуўся.

— Жэнька!

Дзяўчынка адгукнулася.

— Ты, Жэнька, пабудзеш тут. Не трэба табе ха-

дзіць туды, у пастарунак. Няхай яны ходзяць па смерці казою. Дай мне клунак. Я пайду сам.

Ён сказаў гэта так, што дзяўчына ніяк не пасмела адмовіць. Хацела толькі сказаць, каб ён перадаў... Ды, божа мой, хіба ж ён зможа тое перадаць? Яна яшчэ ўсё збіралася, думала, а ён, узяўшы беленькі клунак пад зрэбную паху, цвёрдай хадой старога салдата — аброслы, босы, паношаны дзядзька Макар — пайшоў у той бок, дзе быў вораг.

Жэнька стаяла ля горна і моцнай дзявочай рукой націскала на пругкі вагар кавальскага меха. Пад подыхам вялізных скураных «грудзей» крамяны жар угінаўся, быццам жывы. Як жывыя, скакалі з кавадла гуллівыя іскры, палохаючы па-святочнаму прыбраную прыгажуню. Хаім біў малатком па агністай падкове, і малаток гучаў то глуха, то звінеў, ападаючы на пустое кавадла жывым, дрыготкім перазвонам.

— Дык, знацца,— гаварыў ён, дагэтуль чужы, незнаёмы дзяўчыне чалавек,— яны сабе цяпер зрабілі новы пастарунак. А дом майго дзядзькі, знацца, цяпер заняў сам камендант. Мне казалі, каб я зноў падаў у суд. А я не хачу. Мая хата старэнькая, а дзядзькаў дом яшчэ харошы, але я, знацца, не хачу. Там чалавечая кроў!.. Там многа-многа чалавечай крові!..

Жэнька чакала, раз-пораз выходзіла на парог. І гэтак страшна было, што сонца свеціць і цёмна, што туды, дзе Валодзя, так далёка-далёка, што нікога няма і, магчыма, нікога не будзе...

А радасць, вялікая радасць прыйшла нечакана, знячэўку.

Дзядзька Макар і Валодзя з'явіліся невядома адкуль і як.

— А вось і яны! — сказаў Бусел, спыніўшы на кавадле малаток.

І Жэнька азірнулася.

Дзядзька Костачка нешта казаў, але яна не пачула. Яна бачыла толькі яго, Валодзю. І першае, што ўразіла яе, што засланіла для яе ўвесь свет,— гэта ягоны твар з вялікім шрамам на шчацэ і вочы — такія сумныя, родныя, свае!..

— Ты яму скварачку несла, а я табе яго ўсяго пры-

нёс. Цалуйцеся! — пачуліся як праз сон недарэчныя дзядзькавы словы і толькі апошняе з іх дзяўчынка прыняла, як нейкі, ледзь не бацькоўскі, загад. Забылася пра ўсе тыя словы, што рыхтавала на сустрэчу з Валодзем, а толькі першая ступіла да яго...

Першы клён за мястэчкам. Духмяная засень ад гушчы жывых, шалпатлівых лістоў. Тут ужо можна спыніцца.

Вочы кажуць усё... і не ўсё... Вусны кажуць усё... і не ўсё...

— Валодзічак, мілы мой, родны, пусцілі...

Жэнька кінула на траву зусім недарэчны ўжо клунак і так, як ён, яе Валодзя, дарма прасіў надоечы, абвіла яго шыю гарачымі загарэлымі рукамі.

Анямелыя рукі мужчыны гудзелі і ўздрыгвалі. Успамінам жахлівай ночы заныла раптам і задрыжала ўсё скатаванае цела... страшна, хочучы выклікаць, вярнуць назад непатрэбную, брыдкую слабасць і жах. Ды гэта толькі на момант. Потым ён радасна, цёпла адчуў, што вось яна — Жэнька — адзін з найраднейшых дотыкаў вернутага жыцця, хоча адчуць у ім сілу. Зусім нечакана з'явілася думка пра тое, што яна, яго любімая, неяк раптам за гэтыя дні падрасла, пасталела. Ён адчуў, што гэта ўжо не тая Пракопава Жэнька, якая не асмельвалася дагэтуль сказаць яму «люблю», што цяпер гэта яна — тая найраднейшая, зусім-зусім свая, якой можна і трэба сказаць усё.

— Жэня,— глуха сказаў Валодзя, зноў ап'янеўшы ад мужнага шчасця.— Жэня, я больш не буду такім, як я быў... Бачыш, яны ўзялі мяне, паклікалі павесткай, як на смех, пацешылі рукі на радасць Мацюху, ды зноў пусцілі дахаты. А Івана Дарму не пусцілі. І Рабачонка — не. Там і яшчэ былі хлопцы, і тых не пусцілі... Трэба, каб ведаў чалавек, за што пакутуеш, нашто жывеш. Буду і я такім, як усе... Не ўсе, а тыя ўсе, што як Арсен!..

Яна яшчэ трымала рукі на яго плячах, ды тут яны самі спаўзлі адтуль, апусціліся...

— Валодзік, я яшчэ... не сказала ўсяго...

— Мне Костачка сказаў усё. Хадзем.

Яны пайшлі. Яе рука была ў яго руцэ.

...На шостую вясну пасля таго, калі яго, сённяшняга Дарму, нарадзіла ў цёмнай каморцы загуканая лютай свякроўю салдатка, хлопчык выбег на пашу свіным пастушком — чарнаногім, у латаным зрэб'і, з кіёчкам. І разам з ім на пашу выбегла горкая доля.

На пыльным покуце за іконай доўга ляжала страшная казённая паперка:

«Ваш сын і муж, 2-га сібірскага яе імператарскага вялічаства лейб-гвардыі стралковага палка радавы Міхаіл Пятроў Шчасны загінуў за веру, цара і айчыну ў Карпатах, пры абароне вышыні 321, 16 ліпеня 1915 года».

Гэта быў той, каго хлопчык пачаў называць сваім бацькам значна пазней пасля прыходу ў іх хату праклятай паперкі.

Бабуля хутка памерла, і маленства Івана прайшло толькі з мамай, у самотнай, старэнькай хаціне наводшыбе Галынкі. Быў загончык поля, шырынёй на адну барану. За каня маці адрабляла. Зрэшты, праца над родным загонам праходзіла неяк між іншым, прыхваткам. Хлеб зараблялі на людзях. Маці ведала смак яго змалку, і сын пазнаёміўся з ім, толькі-толькі надзеўшы першыя штонікі. Першы год, быццам для практыкі, пасвіў суседавы свінні, а потым яму даручылі адразу шэсць Мацюхавых кароў. Гэта была ўжо сапраўдная служба: трэба было вельмі рана ўставаць, ганяць кожны дзень, хоць і холад, і дождж, хоць бы нешта і балела. Падласка скакала цераз драты, як сарна, і пастухі неахвотна пускалі яго дахаты. Жыў ён дома. Вельмі часта не было што ўзяць з сабой; да поўдня цягнеш на шчаўі, з якога складалася снеданне, а з поўдня да вечара — зноў жа на шчаўі, які апоўдні называецца абедам. Вечарамі калі-нікалі маці прымушала Івана мыць закарэлыя, да крыві парэпаныя ногі, а гэта, хоць і ў цёплай вадзе, было не малым давяршэннем дзённых пакут. У жніво тыя самыя ногі былі на дадатак да калень папораныя ржышчам. А ўвосень холад, дажджы...

Школа. Яна каштавала Івану таксама не танна. Колькі трэба было прасіцца, каб нехта злітаваўся, згадзіўся папасвіць ягоны «табун»! А потым бегчы па куп'і, па гразкай вуліцы вёскі, задыханы, мокры. Колькі разоў бывала так, што ён не паспяваў нават блізка дабегчы да школы, калі ўжо з яе, патрэсваючы

сумачкамі, выбягалі шчаслівейшыя сябрукі і сяброўкі! Што ж, ён вяртаўся разам з імі, скідаў сумку, хутка сёрбаў нішчымны пансак, адцэджваючы лыжкай гушчу, і плакаў буйнымі, як той пансак, слязьмі.

«Ну, сціхні ты, жаба, разжаліўся,— супакойвала маці,— узімку не будзеш пасвіць, не плач».

А ўзімку дзіравыя вокны і столь іхняй хаты зацягваліся калючай скарынкай шэрані, нават здалёк ад якой дубянелі рукі. Гэтая шэрань і загнала ў магілу маці. Івану пайшоў тады трынаццаты год, аднак ён вырашыў трымацца на сваёй гаспадарцы. Да марозу пасвіў вясковыя коні, а потым, зноў апынуўшыся, цяпер ужо зусім адзін, пад сцюдзёнай, зацягнутай шэранню столлю, хлопец спалохаўся роднай хаты, замкнуў яе і падаўся ў людзі.

Першым панам быў асаднік Зарэмба. Карміў вельмі дрэнна, асобна, у чыстую хату зусім не пушчаў. Наступны пан, раўкоўскі багацей Макрыца, быў настолькі паскудны, што Іван нават пабіўся з ім на першым месяцы службы. Візглівы, здохленькі, Макрыца сунуўся першы, а ён памацаў яго кіем па горбе і пайшоў. Пра тое, каб пасля дамагацца платы — не магло быць і гутаркі. Ды парабчук быў задаволены і з таго, што хоць раз заплаціў за сабачую долю.

«Усё ж такі я рабіў яму не дарма!» — гаварыў ён, і з лёгкай сяброўскай рукі мянушка Дарма замяніла яму і прозвішча і ледзь што не імя.

Пасля гэтага Дарма два гады праслужыў у маёнтку, і нарэшце, калі ў Галынцы раптоўна памёр Сцяпан Кучура, ён застаўся за парабка ў ягонай жонкі, на небагатай гаспадарцы, з поўнай хатай малых дзяўчатак і хлопчыкаў.

Вёска Раўкі, дзе ён раней служыў, хавалася ў яры трошкі больш кіламетра ад іхняй Галынкі. Спрадвеку было вельмі зручна хадзіць на гулянне з Раўкоў у Галынку, з Галынкі ў Раўкі. Яшчэ зручней было маладзіцам бегаць мяжой цераз гару — да мамы. Параднілiся гэтыя вёскі-суседкі настолькі, што малыя Раўкі — хат нейкіх трыццаць — сталі нібы дадаткам да доўгай Галынкі.

Кожная вёска заўсёды чым-небудзь вызначаецца. Калі ў Галынцы на ўзгорку, каля хаты Пракопа Галубка, Жэньчынага бацькі, увечары збіраліся спяваць

мужчыны — песні гэтыя чула і слухала ўсё наваколле. У Раўках затое былі найлепшыя ў ваколіцы музыкі — скрыпач Мялешка і гарманіст Ціханчук. Але ігралі яны часцей у Галынцы. Апошнім часам тут павяліся вельмі спраўныя дзяўчаты, з якімі надта здорава ішоў мяцелісты кадрыль у шэсць пар і шалёная полька-цыганачка.

Аднак сапраўдная перавага была ўсё ж такі за Раўкамі. Яны былі падпольным штабам палітычнага жыцця абедзвюх вёсак-блізнячак. Там большасць хлопцаў перабывала ў турме, там трымалася моцна ячэйка.

Дарма, як і іншыя хлопцы з Галынкі,— не проста сябраваў з раўкоўскімі хлопцамі: з мінулага лета ён быў членам іх камсамольскай арганізацыі.

Таварышы любілі яго за шчыры, гарачы характар і спрыт, з якім ён разносіў лістоўкі, арганізоўваў варту з хлапчукоў, пакуль ішло адказнае пасяджэнне ці адбываўся мітынг. Слава гэтая яшчэ больш замацавалася за ім сёлетняй вясной. Ноччу пад Першае мая Дарма вывесіў чырвоны сцяг на вярбе, што пры выездзе з вёскі расла каля сажалкі, як заўсёды крыху схіліўшыся над вадой. Сцяг, на доўгім кіі, быў пастаўлены так, што ён хіліўся ў бок дарогі. Хто ведаў, чаму так зроблена,— той не здзіўляўся, а іншыя думалі — проста ад ветру схіліўся. Уранні два паліцыянты прывялі сюды солтыса Акалота, Суку, і загадалі яму зняць «бальшавіцкі штандар». Людзі, якія сачылі за гэтым здалёк, пашкадавалі пасля, што разам з галынкаўскай сукай не палез на вярбу хоць адзін паліцэйскі сабака. Карэлы камель старой вярбы быў каля самай зямлі падпілаваны і, нібы так сабе, замазаны там гразёю. Услужлівы Сука не здолеў нават узяцца за дрэўца сцяга, калі вярба зарыпела на пні і паволі, пад крык паліцэйскіх, паехала на ваду. Солтыс плюхнуўся ў твань. Сцяг стаяў над вадой.

З раўкоўскіх хлопцаў Дарма найбольш любіў сакратара ячэйкі Толю Смалянку. Ён зрабіў для Івана найбольш. Чытаў з ім разам газеты і кнігі, самога Дарму навучыў чытаць і пісаць, вучыў разбірацца ў прачытаным. З першых кніг, якія Іван ужо сам прачытаў, найбольшае ўражанне зрабіў на яго «Чапаеў». Захацелася хлопцу, яшчэ гарачэй, як дагэтуль, дажыць да таго запаветнага часу, калі можна будзе, як той

герой, размахнуцца і гахнуць па ўсёй гэтай пошасці, што вісіць над жыццём, як ліхая бяда. Прыкінуўшы на ўласны розум, яму здавалася, што справу гэтую не варта адкладаць — проста бяры добры друк і малаці іх, крывасмокаў, усіх падрад. Думка пра тую краіну, адкуль прыйдзе свабода, блізасць гэтай краіны хвалявала яго, не давала спакою. Добрая ноч хады — і ты ўжо там!.. Калі паглядзіш часам, як узыходзіць сонца — да болю цёпла верыцца, што яно ўстае не на гэтым, а на тым баку гранічных дратоў... У вёсцы было два-тры дэтэктарныя радыёпрыёмнікі. Было б, вядома, і больш, каб не беднасць ды не панская апека. Дарме здаралася падчас асядлаць цыганскую чупрыну бліскучай дужкай з навушнікамі і заслухацца да паўночы... Усё было родным, цікавым — і песні, і гутаркі, ды ўсё гэта ён слухаў дзеля той запаветнай хвіліны, калі на вежы Крамля вялізны молат адбіваў для ўсяго свету дванаццаць урачыстых удараў-гадзін і магутная музыка гімна працоўных з усіх бакоў, нібы хвалі вялікай вады, абрыналася ў душу вясковага парабка. Якім нікчэмным, якім недарэчным здавалася хлапцу тады гэта слова — граніца! Пайсці, прыбраць гэты дрот, разагнаць па кустах тых ваякаў, што пастаўляў на нашай зямлі пан Пілсудскі — і ўсё!.. Сябры, якім ён верыў, казалі, што гэтак проста справа не вырашаецца, што трэба тут працаваць, калі хочаш, каб праклятай мяжы не было. Але думка пра ўцёкі ў Савецкі Саюз сядзела недзе глыбока ў душы Дармы, схаваная толькі да часу...

Гэтай вясной Якавец, сусед Кучурыхі, Іванавай гаспадыні, асабліва старанна пачаў выязджаць на кірмашы, дзе часта праходзіла ліцытацыя. Ячэйка даручыла Дарме папярэдзіць кулака, што ва ўсіх, хто бяднейшы за яго, ёсць абаронцы. Якавец падняў раскіданыя Іванам лістоўкі і скурыў іх, жывёліна, нават смяяўся... Тады ён сам напісаў яму шчырае слова і ноччу наклеіў яго на дзвярах Якаўцовай хаты. Калі ж і гэтае слова не памагло, Дарма некалькі дзён не мог ні працаваць, ні думаць ноччу пра тое, што вось яму трэба ляжаць і чакаць, пакуль гэты бык зробіць цэламу свету ласку — адумаецца...

Звечара Толя Смалянка чытаў ім пра Спартака, а на досвітку, вярнуўшыся з Раўкоў у Галынку, на хутар,

Дарма разуўся, знайшоў у кухні на камінку запалкі і зрабіў усё ж такі тое, чаго ніяк не мог не зрабіць...

Калі вясёлы, магутны агонь патрашыў кулацкае гняздо, Дарма ляжаў за балотам у жыце, глядзеў на пажар і з захапленнем думаў пра тое, што гэта ён, Іван, пусціў на волю полымя, што гэта той агонь, які павінен хутка разгарэцца ўсюды!..

У гэты час ён канчаткова забыўся пра тое, што не меў права сам, без рашэння ячэйкі, падпальваць кулака. За гэтае цудоўнае відовішча — пажар — ён дараваў сабе ўсё.

І рад быў яшчэ, што сірочая хата яго гаспадыні — воддаль, не загарыцца...

Калі яго на досвітку трэцяга дня зноў паклікалі з камеры — Дарма ўстаў моўчкі, адразу ўвайшоўшы ў свой стан упартага, напружанага маўчання.

Ды сёння больш не каталі. Раскавалі ногі, пасадзілі на зэдліку і некалькі разоў знялі. Пакуль фатограф калупаўся ў чорнай торбе свайго апарата, некалькі разоў запальваў магній і загадваў кліенту не варушыцца і не міргаць — два паліцыянты трымалі Івана пад рукі. На грудзях яго вісела дошка з парадкавым нумарам арыштаванага, датай і адрасам пастарунка. Потым Слензак, апчарэпіўшы скаваную руку Івана сваімі мядзведжымі лапамі, тройчы паклаў на паперу адбітак яго вялікага пальца. Такім самым чынам яны яшчэ раз паспрабавалі падпісаць яго рукой фальшывы пратакол. Аднак губы арыштаванага зноў задрыжалі, ён выкруціў руку з лапаў Слензака і, пакуль яго абяззброілі, паспеў усё ж такі скамячыць паперу...

І вось ён ідзе па гасцінцы.

Не ідзе, а яго падганяюць.

І не гоняць, а гоніць адзін толькі Бешчад. Той самы здохленькі Бешчад, што не біў яго, як іншыя паліцыянты, а толькі, зацiснуўшы зубы, шчыкаў і сіпеў, як гусак. Вось чуваць, як ён шморгае носам або пасвіствае, як шуршаць па жвіры шыны яго веласіпеда.

Азірнешся назад, і заўсёды адно:

— Перад сабой глядзі, бо дам!

Сочыць, гад, не зміргне.

Найгорш дакучаюць ногі. На разбітыя пяты адразу

не мог нават босы ступіць, а яны загадалі абуцца. Заціснуўшы зубы, сяк-так усцябурыў на ногі свае новыя, першыя ад роду боты.

І цяпер, чорт вазьмі, ці на пяты ступаць, ці на пальцы?..

Глядзі — сонца ўзышло, халадок і раса. Каб разуўся ды пайшоў па траве — адышлі б можа ногі, не так бы пяклі і шчымелі...

Ён кажа: «дам». А што ты больш дасі: і так як панесці. Недарэмна ж яны асмеліліся даручыць мяне такому, як ты, паршыўцу. І рукі, бачыш, скавалі спераду. Я, значыцца, і так не ўцяку. Дык вось ты і смелы такі, і гоніш мяне, як на зарэз...

Дарогі — цэлых дваццаць кіламетраў... А там, у Наваградку, што? Там прыйдзецца яшчэ не так: там жа сапраўдная дэфензіва. Пастараюцца выціснуць тое, чаго не выціснулі тут. Ну што ж, я — не скажу, а потым? Потым будзе турма...

— Пане, дайце разуцца.

Глядзі: шкадуе і гэтага, сволач, маўчыць.

— Гэтак будзе хутчэй.

На гэты раз Бешчад рашыў адказаць:

— А яшчэ чаго не захочацца?

Аднак, падумаўшы трохі, дазволіў:

— Садзіся.

Дарма апусціўся на жвір і пачаў асцярожна, зажмурыўшы вочы, сцягваць правы бот.

— Што, цеснаватыя?— сыкнуў праз зубы здохленькі, скуласты паліцай. Так выглядала вясёлая ўсмешка. Яна падзейнічала, як штуршок. Дарма зноў, як тады, усцягваючы боты на ногі, сашчапіў зубы, рыўком сцягнуў адзін бот, без перадышкі — другі і з палёгкай і болем праз выдых загнуў мацюга.

Тады ўжо зірнуў на свайго канваіра. Над вострым і доўгім, як сушаны вясковы сыр, падбародкам, на бясколерных губах, што паўпадалі ў рот, як у бяззубага, яшчэ ўсё сядзела ўсмешка. Трымаецца за рогі веласіпеднага руля і нават вінтоўкі з плячэй не здымае. Што ж, смелы...

Іван цяжка ўстаў і, аберуч трымаючы боты за мяккую скуру халяў, асцярожна ступіў па калючым жвіры.

— Вось дзе табе смаргонская акадэмія: як па вугольчыках. Хе-хе-хе!

Гэта зноў падзейнічала, як штуршок. Дарма звёў губы, нахмурыўся і, як быццам не чуючы болю, пайшоў.

Гэтак ішоў калісьці Арсен Грамыка. І песню потым спявалі пра гэта:

Як вялі мяне гасцінцам —
вецер дрэвы калыхаў,
каласы шумелі ў жыце,
а я цяжка уздыхаў...

І я вось іду. Розніца толькі ў тым, што ветру сёння няма, і бярозы не шумяць, і жыта стаіць, як шчотка, і я — не ўздыхаю. Ды не — Арсен таксама не ўздыхаў! Гэта толькі ў песні так, нехта ў песню паставіў няправільна. Арсена, кажуць, вялі ажно ўтрох, і яму не было што рабіць...

А мяне вось вядзе гэты рыжы, куслівы тхорык. Адзін. Адна карабіначка за плячыма, і яна засланяе ўвесь свет. За каго ж яны лічаць Івана Дарму?! Дэфензіва, турма... А што я там буду рабіць? Што я там буду рабіць, пакуль тут гэтак многа работы? Без мяне хлопцы будуць збірацца, без мяне меркаваць, за мяне нехта пойдзе па вёсках з лістоўкамі. А ты вось ідзі, не смей нават азірнуцца на Бешчада, і думай, што адна толькі карабінка за яго плячыма завядзе цябе ўсюды... Ну, добра — у дэфе я зноў буду маўчаць, а ў турме — што ж рабіць у турме?..

...Дарагія, крутыя, зялёныя ўзгоркі мае Наваградчыны! І яры з непраходным ляшчэўнікам, дзе стаяць, быццам роднае войска ў засадзе, то дубы з шурпатымі стваламі, якіх не абнімеш адзін, то адзетыя ў вечную зелень яліны! А між імі — пакуль зацвітуць верасы — на адкосах маленькімі жоўтымі сонцамі ў белых пялёстках глядзіць духмяны, як чай, і непраходны, як канюшына, рамонак.

Эх, Іване, Іване Дарма! Табе б, хлопча, нырнуць пад галлё, заблытацца босымі нагамі ў кветках, упасці тварам на расу, прысмаліць крапівой раскаваныя рукі! А там зноў — і жыццё, і змаганне!..

— Падбяжы, камісар! — пачуўся ззаду голас, чамусьці нават, як быццам, вясёлы. Азірнуўшыся, Іван

убачыў, што Бешчад сядзіць на веласіпедзе і, тармозячы нагамі, ціхенька сунецца з горкі з усмешкай на ўпаўшых губах. На гэты раз нахабства не здалося здзекам: Іван усміхнуўся і, наставіўшы наперад рукі, каб боты не перашкаджалі бегчы, патрусіў бягом.

А за мастом, як толькі з правага боку гасцінца пачаўся адкос, ён рыўком, цераз левае плячо, закруціўся назад, узмахнуў рукамі і, як быццам сякерай з-за вуха, гахнуў.

Сталася іменна так, як і трэба было: паліцэйскі, веласіпед і боты — усё пайшло пад адкос.

Ён шыбануў у кусты, налева. На роснай траве ногі ажылі яшчэ больш. Калі ж, нырнуўшы з узгорка ў гушчар, зачапіўся за нешта і, яшчэ крышку падбегшы, паваліўся ў густую і халодную ад расы траву — нечакана, зусім нечакана і ўголас, нібы хлапчук, засмяяўся.

Недзе ззаду пачуўся спачатку спалоханы, невядома куды скіраваны крык: «сту-уй!»— загад, пагроза, змешаная з просьбай, а потым гулка хлопнуў першы стрэл, і над чубамі дрэў разгублена заныла сляпая, бездапаможная куля.

— Страляй. Цяпер страляй,— сказаў Дарма, задыхана ныраючы пад галлё.

Трохі пазней, на папары, парослым свірэпай і пырнікам, ён глыбока стаяў на каленях у пухкай, як цеста, халаднаватай раллі і трымаў свае рукі над дышлам жалезнага плуга. Карыстаючыся перадышкай, кабыла прагна скубла свірэпу, цягнучыся худой шыяй наперад і тузаючы з месца перавернуты плуг. Босы дзядзька, зусім незнаёмы Івану, кленчыў побач з ім, раз-пораз злосна пакрыкваў на кабылу і дрыжачай рукой дзяўбаў каменем замок наручнікаў, прымеркаваны на канце дышла. Дзяўбаў доўга, ад хвалявання збіваючы чучкі і не зважаючы на кроў, што сачылася з іх. А потым павярнуў карэлымі, учэпістымі пальцамі ў адзін, у другі бок, і вось нарэшце падалося.

— Усё! — выдыхнуў ён з вялікай палёгкай.

Дарма ўстаў, развёў рукамі і засмяяўся. Хацелася ўзмахнуць імі, быццам развязанымі крыламі, і паляцець.

— Ну, дзядзька,— сказаў ён,— што ж, усё гэта бачылі толькі трое: бог, кабыла і ты. Яны не скажуць нікому, а ты, брат, глядзі.

— Эх, сынок,— паківаў галавой стары і хацеў яшчэ нешта сказаць, ды хлопец больш не слухаў.

— Добра,— сказаў ён, ужо на хаду.

Аднак, прайшоўшы трохі па раллі, Дарма ўспомніў яшчэ адну радасць, што не збылася па яго віне, спыніўся і, падумаўшы момант, з усмешкай сказаў:

— Дзякую, дзядзька! Бывай!..

*1947—1949 гг.*

# НЁМАНСКІЯ КАЗАКІ

## НЯХАЙ ПАЧУЮЦЬ

Пачатак верасня сорак шостага года.

Партызанская вёска над Нёманам, на паўднёвым узлессі Налібоцкай пушчы. Бур'ян, шурпатыя будкі дачасных будынкаў, зямлянкі. На шэрых, журботных котлішчах — светлыя плямы аплазаванага бярвення, свежыя трэскі, зусім або амаль зусім гатовыя зрубы. Відаць і новыя хаты. Чуваць няспынны, упарты і ўсё, здаецца, гусцейшы перастук сякераў.

У адной з новых хат — сельсавет.

Зачыніўшыся ў пустым кабінеце, мы сядзім з ім абапал стала.

Ён — гэтаМіцька, былы камандзір «нёманскіх казакаў», цяпер — таварыш Дзенісенка, намеснік старшыні Мірскага райсавета.

— Дык, значыцца,— гаворыць ён,— з'явіліся гэтыя карнікі ў нашым раёне вясной сорак чацвёртага. І забілі мне трох добрых хлопцаў. Разведчыкаў. А тут мяне раптам скруціла, хоць ты бяры ды сапраўды лажыся. Доктар прыйшоў, паглядзеў, пашаптаўся з маім камісарам... «Як у вас,— пытаецца,— наконт гэтых самых маленькіх?..» А я і там таксама, як і сёння, чысценькі...

Я зноў гляджу на яго партупею і белы каўнерчык з-за каўняра гімнасцёркі і на ўсю яго шчуплую, стройную постаць.

— Адным словам, доктар пачаў страшыць мяне тыфусам. Ну што ж ты зробіш, я лёг. А тут ніяк не ляжыцца. Ганяю разведку за імі, крычу. І вось сабралі, нарэшце, трохі даных, і ўсё ж такі я ўстаў.

Ён зноў падсоўвае да сябе пакрэмзаны схемамі былых баёў ліст паперы, бярэ аловак і пачынае чарціць.

— Тут, значыць, тракт з Міра цераз Жухавічы.

Тут... не, вось тут — вёска. За ёй, за Крышылоўшчынай, кіламетр — другая вёска, Уніхава. Я туды другі ўзвод, каб у фланг. Тут — высотка, а там вось — балота. Заселі мы вось тут.

У першай хаце, наводшыбе, я паставіў трох: на выпадак, калі немцы зойдуць спытаць, што ў вёсцы. Тады іх, вядома, за храпу, і ціха. Далей, на самым узгорку, сакрэт. Коней пакінулі тут вось і тут. А тут, у зрубе, каноплі нейкія ці лён няцёрты, каменне, салома. Тут я сам, кулямёт, камісар, ад'ютант і пяць-шэсць хлопцаў. І ў гэтым вось гумне... А рэшта — тут і тут...

Ён устае яшчэ раз і яшчэ раз шпурляе на двор праз акно не да канца дакураную цыгарку.

— Любіў я засады! А ў нас сям'я была для гэтага, сям'я! Як заселі,— хоць суткі прасядзім. А часам бывае і напуста.

І тады — развіднела — нікога. Яшчэ пачакалі — нікога. Дзесяць гадзін па маскоўскаму часу — нікога. Чорт вазьмі! Камісар прапануе здымацца. А мне як быццам хто кажа, што вось-вось яны будуць, напэўна. Усе адразу: яны заўсёды ездзяць гуртам. І мы ім тут... Адным словам, пачуцце такое ў мяне.

Потым бачу — сакрэт наш паказвае. Уліп я ў бінокль. Галава з-за гары. Конны. Другі за ім і трэці, і... яны! «Рыхтуйся!» Я аддаў аўтамат ад'ютанту і стаў з кулямётам у прорубе акна.

Ён садзіцца зноў.

— Што, кажаце, я адчуваю ў баі? Я там, як толькі пачнецца,— зусім не камандзір. Хто яго ведае... Так дрыжу, так дрыжу... Ну, як? Як аса! За кулямёт і давай, і давай — як аса! Толькі пачатак заўсёды бяру на сябе, каманду, значыцца, «агонь!». Не хочацца неяк, каб нехта іншы пачынаў... Зрэшты, я іх бліжэй падпушчу.

Дык вось яны едуць, эсэсы. Першы крайнюю хату мінуў, не зайшоў: што яму тут распытваць — і так яго баяцца!.. Параўняўся са зрубам... А конік, конік пад ім!.. А я яму, фрыцу, вось так ствалом кулямёта трасу: «Маўчы!..» Гэта — каб рэшта бліжэй падцягнула. Ён як убачыў мяне, дык вось так і абмяк, і паехаў на грыву. Ну што ж, я: «Агонь!» і — шаррап па нагах! І пайшло!..

Збіліся ў кучу, змяшаліся. Так мы іх тут і накрылі.

Толькі адзін нейкім цудам — задні, відаць,— вырваўся і наўцёкі. Без каня. Мой ад'ютант за ім. Таксама пехатой. Эх, чорт! Я спынюся, дык ён перад мушкай матляецца: боязна, свой. Я трохі збоку забег, па раллі, у рост — нядобра, прылёг,— і па нагах! Ёсць, ад першай чаргі!..

Трох захапілі жыўцом. Ва ўсіх на каўнярах чарапы.

Той, што спераду ехаў, камандзір іх атрада — казалі потым — атрымаў надоечы тэлеграму, што фрау яго немчыка прывяла. Дык вось яны і ехалі па вёсках, пагуляць...

Міцька прыплюшчвае правае вока і дробненька, па-хлапечы смяецца:

— А мы ім хрэсьбіны справілі!.. Як?..

Потым ён зноў робіцца сур'ёзным, садзіцца за стол.

— Вы можа лепш задавайце пытанні?..

Такім вось — сур'ёзным і разгубленым — я застаў яго сёння адразу. Яму нібыта і самому дзіўна, што ён два гады ўжо не ён — вядомы, грозны партызанскі камандзір, а звычайны, не вельмі вопытны савецкі работнік, цяпер — упаўнаважаны па бульбе. Ды тут якраз, у тым самым кутку Наднямоння, дзе красаваўся калісьці перад эскадронамі сваіх малайцоў...

— Мне па пытаннях лягчэй будзе вам расказаць.

Ну што ж, дапаможам пытаннямі.

Праўда, пра баявыя справы «нёманскіх казакаў» чулі і Налібоцкая, і Ліпячанская пушчы, чулі Дзяржынск, Валожын...

Зрэшты, гэта пакуль што няшмат, недалёка ад хаты, у якой мы гаворым.

Няхай пачуюць і далей.

## ПАЧАТАК

Многім з армейцаў, хто ў першыя дні вайны трапіў у акружэнне і не змог прабіцца на ўсход, пашанцавала ў тым сэнсе, што іх прытуліла, як родных, заходнебеларуская вёска. Прыхаваўшы да часу зброю, «байцы» — так называлі ў тыя дні і камандзіраў, і салдат — разыходзілася па хатах. І там з'яўлялася адна-другая лішняя лыжка, а бедны гаршчок адразу набываў спрадвечную ўласцівасць — змяшчаць якраз столькі бульбы,

колькі трэба было для сям'і, што так нечакана пабольшала.

За сталом беларуса паселі рускія, украінцы, казахі, татары... Былыя рабочыя, інтэлігенты, кадравыя камандзіры старанна і спраўна пачалі вучыцца касіць, араць і сеяць.

І сеялі яны не толькі жыта...

Глухімі восеньскімі ды зімовымі вечарамі па хатах збіралася моладзь, мужчыны. І з кожным днём усё больш было патайных, асцярожных шэптаў пра зброю, пра лес...

Амаль у кожнай вёсцы жылі, хаваліся ад ворагаў, былыя падпольшчыкі, камуністы, загартаваныя ў турмах буржуазнай Польшчы. Паўтара года мірнай працы на вызваленай зямлі былі для іх толькі светлым этапам на жорсткім шляху барацьбы. Цяпер іх загналі ў падполле новыя акупанты. Многіх памардавалі ў новых пастарунках... Цяпер яны, камуністы, з яшчэ большай нянавісцю да фашызму рыхтаваліся да выхаду самі і рыхтавалі другіх.

Былі і маладыя сейбіты нянавісці да ворага, якім не сядзелася дома найбольш.

І вось напрадвесні сорак другога года прыбітую і сумную з выгляду зняволеную зямлю і тут прарвала помстай. Спачатку ў адным толькі месцы, падкінуўшы трэскамі ў неба неабходны для ворага мост. Потым аднойчы ў Мір прыплёўся акрываўлены, задыханы жандарскі афіцэр — адзін з усёй сваёй каманды,— вельмі, дарэчы, нездаволены новым спосабам беларускага абыходжання.

Людзі з палёгкай адчулі, што і тут, у Наднямонні, паказаліся нарэшце першыя ластаўкі роднай вясны.

Як толькі зерне, пасеянае найбольш рашучымі патрыётамі, пачало прарастаць, як толькі выйшлі з падполля першыя партызанскія групы, акупанты ўзяліся за акружэнцаў. Старым гасцінцам пагналі хлопцаў, каго захапілі знячэўку, на зборныя пункты, адкуль дарога ішла за калючы дрот... Гэта стала для многіх сігналам на выхад. Начамі — па руні, па свежых загонах, лугамі, яшчэ не прасохлымі ад веснавой паводкі, рушыў за Нёман шматлікі, сціплы чалавек з ружжом.

Моладзь таксама не стала пазніцца. Закончыўся час падрыхтоўкі, пошукаў зброі, нялёгкага чакання. Пай-

шлі, следам за старэйшымі, па аднаму, па двух, па трох, а дзе і самастойнымі, змацаванымі камсамольскім сяброўствам групамі.

Карта гэтых мясцін пачала паступова мяняцца. Як толькі яе пакрывала празрыстая летняя ноч — то тут, то там успыхвалі агні. Гарэлі масты, узляталі машыны і цягнікі. Па вокнах гарнізонаў выпрабоўваліся вінтоўкі і кулямёты, прыржавелыя ад чакання пад застрэшшам, у зямлі, на дне рэчак і сажалак. Жнівеньскімі начамі загараліся рэшткі былых панскіх, а цяпер нямецкіх маёнткаў — баз жывёлы і збожжа.

Для ворагаў і здраднікаў закончыўся разгул. У гарадскім пасёлку Мір, у мястэчках Ярэмічы і Турэц, у вёсцы Жухавічы вакол паліцэйскіх гарнізонаў да восені, нібы паганыя грыбы, павырасталі дзоты і густа пацягнулася павуцінне калючага дроту...

* * *

У пачатку дваццатых гадоў адзін мясцовы лясны хутаранец сяк-так гандляваў свіннямі. Купец быў з яго пачынаючы, нават па тавар хадзіў пехатою. А ўсё ж у адной з наднёманскіх вёсак знайшоўся чалавек, які падпільнаваў гэтага купчыка на пушчанскай дарозе. Засек і знайшоў у кішэні ўсяго на якіх-небудзь два парсючкі. Нездаволены гэтым, ён пайшоў да купчыхі. Прыйшоў на хутар пасланцом ад мужа, які, маўляў, загадвае ўзяць усе грошы ды несці іх туды, дзе самому надарылася зусім незвычайная купля. Баба паверыла знаёмаму чалавеку, узяла з сабой усю ка́су, яшчэ на пяток парсюкоў, і пайшлі. Яна была цяжарная, і таму сякера абарвала два жыцці. На лясным хутары засталася малая дзяўчынка, якую на згубу сваю не ўлічыў неспрактыкаваны разбойнік. У руках дзяўчынкі знайшлі канец той ніткі, па якой дабраліся да клубка. Забойца сеў у астрог. А жыць засталіся дзве сіраты — адна на хутары, а другі ў вёсцы.

Дзяўчынка вырасла на дзеўку непрыкметна. Дый хлопец, сын забойцы, вызначаўся толькі тым, што не гарнуўся да працы, адзін час служыў у маёнтку лёкаем, галіў лыткі і насіў гарсэт.

Калі ж прыйшлі немцы і пачалі шукаць памочнікаў, ён адзін з першых нямногіх узяў вінтоўку супраць

сваіх. Падагнаў да стану чорны паліцэйскі шынель, нажыў на кожны палец па дарагім пярсцёнку. Чулы сын, ён успомніў пра бацькаву крыўду. Купцова дзяўчынка была ўжо замужам, мела дзяцей. Паліцай вымардаваў усю яе сям'ю і не хаваўся з гэтым, як калісьці бацька. Ён ужо прызвычаіўся знішчаць людзей у адкрытую. Немцы-жандары казалі, што ён рабіў гэта вельмі спраўна. Дый сам ён не раз хваліўся: «Страляю і хочацца!..» За гэта да восені сорак другога года ён са звычайнага бобіка ператварыўся ў памочніка раённага каменданта паліцыі.

Зондэрфюрэр, начальнік па рабаванню шасці дзесяткаў вёсак Мірскага раёна, лічыў сябе толькі гаспадарнікам. На выезды ў вёскі, што расцягнуліся па Нёмане, бліжэй да пушчы, ён адважваўся, хоць і з аховаю, вельмі рэдка. Аднак з памочнікам каменданта ён асмеліўся паехаць па хлеб і мяса нават за Нёман, у лясную вёску Антанёва. Набралі збожжа, авечак, кароў... Калі ж вярталіся, на ўзлессі раптам успыхнула страляніна. А на наступны дзень у Міры, у памяшканні раённага клуба, стаяла адразу некалькі трунаў.

Даскакаўся і камендантаў памочнічак. Дзядзька-абознік, які асмеліўся заглянуць у клуб, з затоенай палёгкай убачыў, што таго, хто ляжаў побач з самім зондэрфюрэрам, немагчыма было пазнаць. Замест далікатнага твару з ядавітай усмешкай быў толькі тоўста накручаны бінт.

Хто зрабіў так лоўка — даведаліся людзі не адразу. От, проста хлопцы зрабілі,— «лясныя хлопцы».

...Праз месяц у вёску Даўгінава прыехала з Жухавіч група паліцыі, пагуляць. Адгэтуль быў іх «спадар камендант», другі вырадак, не менш вядомы ў ваколіцы, чым былы памочнік мірскага каменданта. Да таго ж яшчэ побач, для большай смеласці, у Турцы стаяў гарнізон.

Гулялі свабодна: пілі самагонку, спявалі, стралялі на страх сваім ворагам... А потым, калі прыйшлося вяртацца, раптам высветлілася, што вёску акружаюць партызаны!..

І праўда,— з поўначы, усходу і поўдня дугой заходзіў рэдкі ланцуг пяхоты. А на захад, адсякаючы адыход у Турэц, па аснежаных узгорках імчаліся коннікі.

Нямногім бобікам удалося выскачыць праз чыстае

месца, пакуль замкнулася кальцо. Некалькі засталося на месцы...

Тады навакольныя вёскі нібы раптам успомнілі антанёўскую справу — смерць зондэрфюрэра і памочніка каменданта...

Дык гэта ж зноў тыя самыя хваты зрабілі — «Міцькаў атрад»!..



У пачатку снежня ў атрадзе было ўжо каля дваццаці коннікаў, больш палавіны ўсіх людзей. Каля Даўгінава коннікі паказалі сябе выдатна.

І гэта яшчэ раз давяло камандзіру, што яго намер «пасадзіць усіх хлопцаў у сядло» — правільны.

Аднак набыць адразу столькі сёдлаў і адпаведных коней было даволі цяжка. Дый былі таксама ў атрадзе павольныя хлопцы. «Няхай яго з тым канём! Валачыся з ім, здыхатой... А так, сам сабою — я ўвесь у руках». Прыйшлося «садзіцца ў сядло» паступова.

Пашанцавала затое ў іншым. Удалося дастаць амаль зусім спраўную супрацьтанкавую гарматку. У затворы, праўда, не хапала байка, ды яго з поспехам замянілі цвіком і лапаткай, якой білі па гэтаму цвіку. Знайшліся снарады, знайшоўся наводчык, з'явілася, нарэшце, уласная артылерыя.

«Міцькаў атрад» быў гатовы да спраў больш складаных.

Загняздзіўся ён амаль зусім пад бокам у ворага. У палавіне снежня на Саўкавай гары за Нёманам, на самым узлессі пушчы, была закончана пабудова зімовага лагера. Гэта быў толькі зыходны і зборны пункт атрада, які ўвесь час знаходзіўся ў руху.

Бліжэйшымі суседзямі «міцькаўцаў» былі «камсамольцы», таксама ўжо даволі буйны, вядомы і сваім, і ворагам атрад, арганізаваны маладымі патрыётамі Пагарэлкі, Сіняўскай Слабады і Беражна, наднёманскіх вёсак, здаўна слаўных сваёй рэвалюцыйнай непрымірымасцю.

Разам з «Камсамольскім атрадам» «міцькаўцы» правялі некалькі ўдалых наступальных баёў.

Мясцоваму насельніцтву найбольш уеўся ў косці гарнізон у Турцы. Саламянае, з маляўнічай царквой

на ўзгорку, мястэчка на старым екацярынінскім гасцінцы пад канец сорак другога года былоператворана ворагам у моцны «апорны пункт». У гэтым «пункце», дарэчы, у восені сорак першага адбыўся першы ў Баранавіцкай вобласці яўрэйскі пагром. Адгэтуль у навакольныя вёскі рабілі наезды карнікі. Некалькі будынкаў мястэчка былі заняты пад буйную базу збожжа, якое абозамі, пад канвоем, адпраўлялася для падкормлівання гітлераўскіх салдат.

І вось гэта асінае гняздо, дагэтуль «непрыступнае», зімовай ноччу было растрэсена і патаптана. Праз дзоты і калючыя драты прайшла пяхота, па брукаваных вуліцах працокала кавалерыя, «Кацюша» — так ахрысцілі тым часам гарматку — біла па назіральным пункце ворага — званіцы.

Праўда, на жаль, большасць бобікаў уцалела, замкнуўшыся ў падвале сваёй камяніцы. Гарнізон назаўтра быў папоўнены значна большымі сіламі. Аднак не толькі тут, але і ў іншых гарнізонах пасля гэтай ночы вораг адчуў, што з партызанамі — благія жарты!..

Фашысты ўзмацнілі тэрор.

У адпомсту за разгром Турца яны арганізавалі чарговае знішчэнне мірнага насельніцтва. Глухой студзеньскай ноччу сорак трэцяга года буйны атрад рэгулярнага войска і паліцаяў ціха зайшоў у суседнюю з Турцом вёску Лядкі.

Замардавалі шэсцьдзесят сем'яў, партызанскіх бацькоў і дзяцей...

А ўранку наступнага дня паміж вёскамі Браносава і Пагарэлка разгарэўся бой.

Забойцы безабаронных былі акружаны ў Лядках скупымі сіламі «Камсамольскага» і «Міцькаўскага» атрадаў. Сотні паўтары партызан, у параўнанні з фашыстамі дрэнна ўзброеных, не маглі, зразумела, утрымаць у кальцы шмат мацнейшага ворага. Ён прарваўся ў напрамку гарнізона, аднак пакінуў на полі некалькі трупаў. Сам камандзір гэтай экспедыцыі, жандарскі афіцэр з Баранавіч, спынены трапнаю куляй, ляжаў на снезе з усімі сваімі крыжамі.

Трэцяй справай, пра якую пайшло далёка рэха, быў разгром гарнізона ў вёсцы Дудкі, на тракце са Стаўбцоў у Івянец. Вораг лічыў гэты «апорны пункт» настолькі бяспечным, што наладзіў там адпачынак

для групы лётчыкаў. З усёй гэтай кампаніі ў Стаўбцы здолелі прабрацца адзін-два недабіткі. Як быццам толькі для таго, каб далажыць сваім фюрэрам пра яшчэ адзін бяспланава закончаны адпачынак.

У гэтай справе, разам з «камсамольцамі» і іншымі суседнімі атрадамі «міцькаўцы» бралі ўдзел ужо як амаль поўнасцю конны «Беларускі асоба-казацкі атрад», больш вядомы пад паэтычнай, неафіцыйнай назвай «нёманскіх казакаў».

Асноўнае ядро атрада, які вясной сорак трэцяга года налічваў каля двухсот партызан, складалі мясцовыя хлопцы.

Камандзірам быў адзін з «акружэнцаў», радавы Кубана-Церскай казацкай дывізіі Міця — Дмітро Дзенісенка.

## ГЕРОЯЎ СТВАРАЕ НАРОД

Язэп Казёл, селянін з вёскі Антанёва, пакуль непасрэдна ўключыцца ў «Асоба-казацкі» атрад, захаваў ад смерці параненага чырвонаармейца і выправіў яго потым у лес з кулямётам. Ён перадаў партызанам больш дваццаці вінтовак і некалькі тысяч патронаў.

Камандзір атраднай разведкі Міхась Смалянка яшчэ ўвосені сорак першага года, жывучы ў роднай вёсцы Вялетава, зберог экіпаж падбітага над Міршчынай савецкага самалёта. Пасля перамогі Смалянка атрымаў пісьмо ад аднаго з тых лётчыкаў. Лётчык удзячна напомніў партызану цяжкі час, калі Міхась лячыў іх, а потым, цераз партызан, дапамог перайсці лінію фронту.

Падобных прыкладаў можна прывесці нямала. І былыя падпольшчыкі, і камсамольцы, і проста добрыя людзі, якім не па сэрцу было гаспадаранне ворага тут, на іх роднай зямлі. Партызанская біяграфія амаль што кожнага з іх пачыналася да ўступлення ў атрад.

Ваявалі не толькі мужчыны.

Адна цётка зрабіла для казакаў сцяг. Імя яе ёсць у атрадным архіве — Марыля Шэсцік з вёскі Крынкі. Другая беларуская маці захавала ад ворага двух міць-

каўскіх разведчыкаў, Бандарыка і Гавіну, да слёз рада была, што колькі іх фашысты ні шукалі ў вёсцы — не знайшлі. А імя гэтай цёткі хлопцы так і не памятаюць.

Зрэшты, колькі імён трэба было б запісаць, каб скласці хоць бы збольшага дакладны спісак усіх партызанскіх памочнікаў!..

Амаль ва ўсіх вёсках блізкіх і далёкіх раёнаў Баранавіцкай вобласці было па адным-два сувязных, праз разведку цесна звязаных з атрадам. Добрая палова поспехаў атрадаў грунтавалася на іх непрыкметнай падрыхтоўчай рабоце.

На самотным, запушчаным хутары каля вёскі Вялікая Слабада жыла са старым бацькам дзяўчына Валя Пратасевіч. Васемнаццаць год і ўхватка хлапецкая, не горш, чым у любога з «нёманскіх казакаў». Часта бачылі Валю то ў тым, то ў іншым з навакольных гарнізонаў. Знаёмыя людзі не раз дзівіліся, што вось дзяўчо як дзяўчо, а чагосьці ўсё ходзіць туды, дзе не след. Не бачылі, аднак, таго, як тое самае дзяўчо начамі, па гразі ці па снезе, імчалася конна ці бегла пехатой шмат кіламетраў да ўмоўленага месца, з пільнай весткай пра тое, што сёння можна, бо вось ёй нарэшце ўдалося даведацца, які гэтай ноччу будзе ў нямецкай варты пароль...

Гора і радасць насельніцтва было горам і радасцю атрада. Справа партызан была справай народа.

Улетку сорак трэцяга года ў Баранавіцкай і Наваградскай так званых «акругах» было разгорнута шырокае карнае мерапрыемства па ачыстцы пушчанскіх раёнаў ад прыхільнікаў партызанскага руху і наогул па ўгону насельніцтва ў фашысцкую няволю.

Амаль у кожную хату трапляла паперка наступнага зместу:

> «Вы з'яўляецеся прадбачаным на працу ў Нямеччыне. Вы павінны так прыгатавацца, каб у гэтым жа дні маглі быць высланымі ў далейшую дарогу. Хто не падпарадкуецца гэтым вымовам або пунктуальна не з'явіцца, павінен уважаць сябе за выключанага з беларускага саліднага грамадзянства і павінен чакаць строгай кары, якая падзе на яго дом і гаспадарку. Трэба думаць, што яго (яе) сям'я спрыяе гэтаму непаслухмянству і

таму таксама павінна чакаць адпаведнага строгага пакарання».

Гэты паскудны шматок паперы, які называўся «Дзяржаўным загадам аб з'яўленні», быў афіцыйным дакументам. Нікчэмную жменьку здраднікаў радзімы немцы лічылі «салідным беларускім грамадзянствам»...

Аднак за недарэчнай вяззю гэтых слоў, напісаных з благаславенства «Спадара Дзяржаўнага Міністра для занятых усходніх Земляў», нюрнбергскага вісельніка Розенберга, стаялі пакуты і смерць. Пакуты на чужыне, у праклятай гітлераўскай старане, або смерць тут, у сваёй вёсцы, на роднай зямлі.

...Павольна, быццам толькі гуляючы, з яснага летняга неба на шэрыя стрэхі ныралі баявыя самалёты. Разам з лістамі лопуху і кавалкамі шэрых штакет, каля якіх бесклапотна гуляла замурзанае пяском маленства, ад бомбавых разрываў узляталі дзеці. Сагнаная ў адно ці два пустых гумны гарэла адразу ўся вёска. І дзед Сымон, і цётка Ганна, і Марыліна Лідачка, якая і тут, як заўсёды, была на руках у бабулі... Усе аднолькава бездапаможныя перад кулямётамі. Гарэлі хаты, недаўменна раўлі асірацелыя каровы. Па гасцінцы, пад моцнай аховай, ішлі грузавікі з заплаканымі дзяўчатамі. А каля новага будынка бойні, наводшыбе зруйнаванага Міра, над ямай ставілі Сцяпана ці Янку, скруціўшы рукі калючым дротам. Аднаго з тых нямногіх, каму не пашанцавала дабегчы да лесу.

Так распраўляліся з непакорнымі.

«Трэба думаць, што яго (яе) сям'я спрыяе гэтаму непаслухмянству...» Каравы пераклад нямецкага тэксту «Дзяржаўнага загаду аб з'яўленні» міжвольна гучаў як сцвярджэнне таго, што свабодны народ не так лёгка скарыць. Аднак гэты выклік быў страшны: за ўсякім, хто мог не паслухаць нагайкі ці бомбы, стаяла старая матуля ці хлопчык, які толькі ўмеў усміхацца...

Калі хваля аблаў і пагромаў дакацілася да мястэчка Турца і па вёсках разышліся «загады аб з'яўленні»,— па людзях пайшла адна думка:

«А што ж партызаны? Няўжо яны не заступяцца?»

А партызаны чамусьці маўчалі. І ўвечары, і ноччу, у якую ніхто не заснуў. І ўранні, калі па дарогах

у Турэц пагналі ўсіх — ад пятнаццаці да шасцідзесяці год.

У адным з гарнізонных будынкаў за сталамі паселі вярбоўшчыкі. Мацалі мускулы рук, глядзелі на вочы, у зубы, забіралі дакументы. Звяралі іх са спіскамі падазроных. Нават акрэслівалі па карце, як далёка ад пушчы ляжыць тая ці іншая вёска. І пасміхаліся так, як калісьці купцы на негрыцянскіх рынках Амерыкі.

А потым — потым з візгам прынёсся малы, ядавіты снарад і разарваўся якраз у шчыце таго самага дома. За ім другі... «Кацюша!» Трэці... А тады зайгралі кулямёты...

Ясна стала: з'явіўся «Мічка»!.. Так вымаўлялі гэтае імя жандары і зондэрфюрэры.

Машыны іх уцякалі з мястэчка пустыя і рады былі, што ўцяклі.

...Хлопцы, якія ганарыліся сваім званнем «казакаў», гаварылі пра камандзіра, што начальнік ён толькі там, дзе патрэбна. «Тады мяняецца адразу: першы ў агонь, а мы ўсе за ім!..» Вымагальны, суровы, хітры. А потым — зноў хлопец-душа.

Сам Дзенісенка гаворыць, што ён заўсёды хацеў аднаго,— каб таварышы яму верылі. «Камандзіру трэба ўсюды быць прыкладам. Бо псіхіка, па-мойму, пераходзіць. Хоць бы мой ад'ютант: спачатку проста дрыжаў ад страху, калі часамі прыходзілася крута. А потым, як пацёрся, чорт, каля хлопцаў, дык яго ажно стрымліваць трэба было. Так і іншыя...»

І партызаны і мясцовае насельніцтва маглі б да гэтага дадаць, што камандзіра «міцькаўцаў» ніхто ніколі не бачыў п'яным, што ён нікому са сваіх хлопцаў не прапусціў граху.

І яго паважалі. Нават легенды расказвалі.

Добрую сотню кіламетраў прайшоў расказ аб тым, як аднойчы зімой, у адной з падбаранавіцкіх вёсак, у штаб атрада, які там дняваў, прыйшоў стары селянін і папрасіў, каб яму «паказалі Міцьку».

— Сынку,— сказаў стары камандзіру,— спрытны ты хлопец. Недарма пра цябе і гутарка ходзіць. Ёсць у мяне парсючок падгладжаны: хаваю ад злыдняў у гумне пад саломай. Дык вось ідзём — хай твае хлопцы возьмуць. За тое, што вы малайцы. А трасцу ж ім! Да Баранавіч ад нас — чатыры кіламетры, там іх, нем-

цаў,— гіблота, а вы вось сталі ў іх пад бокам ды стаіце!..

Які-небудзь жэўжык, на пашы ці ў вёсцы, хочучы давесці, што ён — не так сабе што, а вунь які малайчына, чапурыўся пеўнікам, страшыў:

— Я — Міцька! Я вам нябось паказу!..

У цэрквах бабулі і цёткі падавалі на клірас заздароўныя спіскі. І бывала часамі так, што ў пераліку родных Іванаў ды Ганнаў, за жыццё і здароўе якіх павінен быў уголас памаліцца поп, стаяла імя Змітрок, а то і больш выразна — «воін Дзімітры». Той самы.

Герояў стварае народ.

## ВЫПРАБАВАННЕ

У тым месцы, дзе рэчка Сервач упадае ў Нёман, ляжаць дзве блізнячыя вёсачкі — Панямонь і Занямонь. Таму, аднак, што ў іх найбольш пашырана прозвішча Каляда, абедзве яны сыходзяць за адну — Калядзіную.

У палавіне ліпеня разведчыкі «Асоба-казацкага» атрада затрымалі ў Калядзіной падазронага хлопчыка, найбольш чатырнаццаці год. Хлопчык быў прыкметна падвыпіўшы, для смеласці.

— Завядзіце мяне да Міцькі,— папрасіў ён,— я яму нешта вельмі важнае скажу.

Адзін з разведчыкаў махнуў у лагер і вярнуўся адтуль з камандзірам.

— Мой брат служыць у СД,— пачаў малы, застаўшыся з Міцькам сам-насам,— але ён памагае партызанам. І вельмі хоча сёння з вамі сустрэцца. Толькі з вамі адным, каб сказаць вам нешта вельмі важнае.

Малы быў пакінуты заложнікам, а сувязная цётка занесла ў назначанае месца лісток з камандзіравага блаконта. Дзенісенка адразу адчуў незвычайную справу.

І праўда, увечары разведчыкі пераправілі цераз Нёман цікавага дзецюка. Гэта быў адзін з тых, якія, легкадумна трапіўшы на шлях здрады, вельмі хутка адчулі ўвесь жах свайго становішча і пачалі шукаць магчымасці вярнуцца да сваіх.

— Кажу гэта першаму вам... За два дні пачнецца блакада Налібоцкай пушчы. Яны хочуць знішчыць Баранавіцкае злучэнне. Галоўны штаб — у Навагрудку. 55 тысяч рэгулярнага войска, не лічачы дапаможных груп. Самалёты. Браневікі. Шасціствольныя мінамёты. Артылерыя, нават калібр 120... Я прыйшоў першы знарок, бо заўтра прыйдуць шпіёны,— правяраць пераправы, масты і дарогі. Мне даручана сабраць звесткі аб вашым атрадзе. Што вы параіце мне сказаць ім пра вас?

Хлопец прыбіта, няёмка глядзеў цераз стол на кубанку свайго субяседніка, у чорных кудзерках якой, як дакор для яго, паблісквала сапраўдная армейская зорка.

— Што вам сказаць? — адказаў з-пад кубанкі дробны, малады казачок.— Раскажыце ім, што і пераправы, і масты зусім спраўныя, і дарогі сухія, і нас зусім няшмат, і возьмуць яны нас... напэўна, абы-толькі здолелі. Усё. А вы ідзіце да іх — там пакуль што ваша месца. Гранаты, пісталет і брата хлопцы вам аддадуць назад.

...Было некалькі дрэнных хвілін. «Спакуса брала мяне,— успамінае Міцька.— Шмыгануў бы, здаецца, пакуль не позна, у Ліпячанскую пушчу ці ў іншы які-небудзь бок. Выскачыў бы цэленькі, як цвік. Ды як жа людзі навокал, насельніцтва, і хлопцы з суседніх брыгад? А што, як ён і праўду казаў, што адкрыў гэта мне першаму?..»

Пачуўшы лагер, дамоўку і ежу, шэрая, гонкая Зося з палёгкай прыбавіла ходу. Аднак дарма: камандзір нават не сышоў з сядла. Ён выклікаў з зямлянкі камісара, і праз пару хвілін яны імчаліся ў штаб міжрайцэнтра.

Праз дзень разведка данесла, што ў вёску Вялікая Слабада, сем кіламетраў ад лагера, прыбылі немцы. Рэгулярнае войска з артылерыяй і бронемашынамі.

Атрад паднялі па трывозе. Коннікі, пяхота і «артылерыя» перайшлі Нёман па ўласным «плывуне» і доўгім вужам выцягнуліся па лугавой дарозе. Насустрач ворагу!

«Я другі дзень есці не мог,— успамінае Міцька,— сушыць, вусны гараць. Толькі ваду бясконца піў бы... А хлопцы смяюцца, нічога не ведаючы. Ды, зрэшты,

і сам час ад часу зірнеш на камісара, успомніш той лапаць — і ў смех...»

«Той лапаць» належаў аднаму з сапраўдных шпіёнаў гестапа. Хлопец спраўдзіў: назаўтра пасля яго вячэрняй гутаркі з Міцькам за Нёман прыклыпаў нібыта стары чалавек. Адзін з паліцэйскіх бацькоў. Прыкметы падышлі якраз: знарок запушчаная барада, два залатыя зубы, лата на левым калене і шукае, бачыце, каня, які, падла, чагосьці здурэў ды пераплыў сюды, за Нёман. Пакуль камандзір па-добраму гутарыў з «дзедам», новы камісар сядзеў збоку, чагосьці ў глыбокай задуме. «Дзед» гарадзіў даволі складна, датуль, пакуль камандзір не страціў цярплівасці ды не заехаў яму па залатых зубах. Тады ён лёгка кульнуўся цераз услон, зачапіўшы лапцем па носе задуманага камісара. Справа раптоўна пайшла на лад: камандзір і камісар зарагаталі, а «дзед» пачаў гаварыць толкам.

...Эх, «Кацюша» — цвік ды лапатка, а колькі спраў нарабіла яна дагэтуль!..

У сонечны, радасны дзень Першамая, пасля парада на лясной паляне, казакі — як і цяпер вось, вужам расцягнуўшыся па дарозе, ды толькі не ціха, а з песнямі і смехам — прайшлі ўрачыстым маршам па многіх вёсках ваколіцы. На радасць сваім людзям! А праходзячы каля Турца, «павіншавалі бобікаў» — пусцілі ім некалькі нечаканых і, потым людзі казалі, даволі трапных снарадаў. Каб ведаў вораг пра свята на нашай вуліцы.

І цяпер гарматка зрабіла сваё. Як толькі атрад непрыкметна заняў абарону, у размяшчэнне ворага паляцеў першы задзіра-снарад.

Неўзабаве адтуль у адказ зайгралі гарматы, завухкалі міны шасціствольных мінамётаў, упустую залапаталі кулямёты.

Немцы адразу не рушылі. Яны прастаялі ўвесь дзень на месцы, пакрываючы артагнём пустое прадполле замаскіраванага атрада.

Ашчаджаючы вельмі скупы запас снарадаў, апоўдні казакі непрыкметна зняліся з пазіцыі і адышлі за Нёман.

Вечар і ноч прайшлі ў падрыхтоўцы абароны. Мост плывун прапусціў у пушчу нямала фурманак з партызанскімі сем'ямі. Пасля палавіну яго пусцілі з вадой,

а другую, ад свайго берага, пакінулі — «фрыцам на злосць».

На досвітку ў кустах на варожым беразе загаварылі кулямёты.

Пачаўся бой.

Кіраўніцтвам абароны паўднёвай часткі Налібоцкай пушчы атраду быў даручан адказны адрэзак ляснога фронту — ад «Міцькавай пераправы» каля Добрачы да вёскі Калядзіной — добры дзесятак кіламетраў.

Спачатку вораг абрушыў на гэты адрэзак фронту гвалтоўны і моцны агонь артылерыйскай падрыхтоўкі.

Дзень быў сонечны, парны. Калі ў перапынках артагню падніmaліся шэрыя ланцугі нямецкай пяхоты, уперабежку набліжаючыся да Нёмана,— іх спатыкалі знішчальным агнём. Камандзіраў загад, цану якому партызаны добра ведалі, стрымліваў іх празмерную гарачнасць: яны то бязладна спяшаліся, то зноў стралялі спакайней, шукаючы дакладнай мішэні.

Па поўдні да берага Нёмана прарваўся першы бранявік. Нават нахабна адбіўся ў спакойнай, люстранай вадзе... Аднак «Кацюша» і тут апраўдала сябе. Непрыкметна падкаціўшы яе, артылерысты ва ўпор прыглушылі нахабніка. «Інакш і нельга было, бо гарматка — без мушкі».

У жорсткім, няроўным баі прайшоў гэты першы акопны дзень. Спроба ворага з ходу авалодаць пераправай і ўварвацца ў пушчу на гэтым участку не ўдалася.

...На досвітку прыйшла вялікая трывога.

Гарматныя стрэлы пачуліся спачатку не з захаду, адкуль наступаў вораг, а з паўночнага ўсходу, з пушчы... Камандзір недарма прадчуваў небяспеку. Атрад за ноч быў напалову абыдзены з поўначы. Там недзе немцы прарваліся цераз Нёман.

Утрымліваць пераправу далей, падводзячы саміх сябе пад небяспеку поўнага акружэння,— не мела сэнсу.

Пачаўся адыходны рэйд атрада на поўнач Налібоцкай пушчы.

Сотню коннікаў, сотню пяхоты, абоз і фурманкі з параненымі — усё гэта, як суцэльную баявую адзінку,

трэба было зберагчы ад разгрому. Паход быў цяжкі, марудны. Навокал грымеў агонь. Гулі самалёты, развозячы частыя выбухі бомбаў. Над пушчай уставалі пажары. Разведчыкі даносілі з усіх бакоў адно: абарона на поўдні і поўначы прарвана, немцы хлынулі ў пушчу. Па меры заглыблення ў лес яны разгортваюць тактыку загонаў. Далёка наперад, на пералескі, прасекі і дарогі выкідваюцца моцныя групы — засады на шляхах адыходу партызан. Наганяючы людзей на засады, па лесе ідуць густыя і бясконцыя ланцугі аўтаматчыкаў, па шыю зацягнутых у мяхі гумавых камбінезонаў. Вядуць за сабой і пушчаюць на след аўчарак. Зусім непраходныя месцы пакрываюцца агнём мінамётаў.

Паход цэлым атрадам быў нялёгкім асабліва таму, што пяхота ўвесь час замаруджвала ход конніцы, а фурманкі з параненымі наогул тармазілі рух атрада. Атрад вырушыў з лагера ўвесь, толькі «Кацюшу» схавалі на месцы, аднак, як толькі навокал пачала ўставаць пагроза поўнага акружэння, прыйшлося ўсё-такі стварыць больш пэўныя ўмовы маршу. На ахову параненых вылучылі невялічкую групу, якую ўзначаліў бадай што найлепшы ў атрадзе знаўца пушчы Язэп Казёл. Правесці ўвесь атрад узяўся другі лесавік — камсамолец Іван Валенцюкевіч.

Па нетрах і балотах, якімі ў мірны час ды ўлетку, відаць, не праходзіў дагэтуль жывы чалавек, Валенцюкевіч павёў атрад на поўнач, да возера Кромань. Ад лагера да Кромані па нармальнай дарозе не больш дваццаці кіламетраў, аднак на гэты пераход быў затрачаны доўгі летні дзень. Апроч балот і гушчараў, абыходаў ворага і чакання, пакуль ён праходзіў побач, атраду прыйшлося фарсіраваць некалькі рэчак і равоў.

«Спачатку, пакуль ён добра ведаў мясцовасць, вёў Валенцюкевіч, а потым,— успамінае Міцька,— мы нейкага дзеда ляснога знайшлі, лесніка. Называўся ён, здаецца, Браніслаў Чуйка. Той, чорт, паглядзіць на сосны ці елкі ды так, здаецца, ні з таго ні з сяго — вось сюды!» І праўда, як стрэліць туды, дзе нам трэба. Прабірацца было вельмі цяжка. Задаждзжылася раптам на цэлыя суткі, на некалькі дзён. Балоты зліліся. Да рэчкі падыдзеш — гнілое гэта, чорнае, ні берага няма, ні дна. Былі б у мяне адны конныя — уплаў, а

так пяхота... Кухня наша і тая плыла. А пяхоце шукай, дзе вузей, ды дрэвы валяй цераз ваду. З фурманкамі — таксама бяда. Эх, вось тады я пакаяўся моцна, што раней мы не націснулі як след на сваю пяхоту, не пасадзілі ўсіх у сядло. Аднак я маўчаў, не хацеў памагаць маім хлопцам сварыцца. У дарозе, бачыце, пачаўся сапраўдны разлад паміж коннікамі і пяхотай. А разлад, як вядома, пачатак панікі. Баяўся я гэтага страшна...»

У камандзіра было не толькі пачуццё страху перад панікай. Ён рабіў усё, што толькі мог, каб не даць разгарэцца нязгодзе паміж коннікамі і пяхотай, каб развеяць як-небудзь непакой па сям'і ў мясцовых партызан, неспакой, з якога мог нарадзіцца адчай. Перамагаючы ў самім сабе трывогу за лёс справы, камандзір намагаўся жартаваць і смяяцца пры кожнай нагодзе, каб толькі смяяліся хлопцы, ісці самому ў найгоршае месца, каб толькі яны ішлі, як заўсёды, за ім.

Перайшоўшы каля Кромані тракт, атрад крута павярнуў на паўночны захад, у напрамку наднёманскай вёскі Купіск. Гэтым першым адчайным рыўком ён выслізнуўся са шматлікіх учэпістых лап фашысцкай пачвары. Калі пад вечар наступнага дня атрад пачуўся вольным ад варагавых клешчаў,— ён спыніўся на прывал. Задыміла мокрая кухня, на паляне зафыркалі коні, а ў гурце хлопцаў, разганяючы тройчы заслужаны сон, ціха зайграў баян.

«Немцы Добрач, наш лагер, бамбяць з самалётаў, а ў нас — як гулянне. На камандзіра як быццам нешта такое найшло: усюды яго поўна, там і тут, і ўсюды жартуе, смяецца. Паглядзіш на яго ды падумаеш — з ім нас голай рукой не возьмеш!..»

Дайшоўшы да вёскі Бор, атрад наважыўся быў павярнуць цераз Нёман на поўдзень, у Карэліцкі раён, мяркуючы такім чынам выйсці з пушчы, у тыл сілам блакады. Але разведка данесла, што і гэты раён повен немцаў, якія таксама набліжаюцца да пушчы. Тады атрад прайшоў яшчэ далей на паўночны захад да вёскі Старая Бярэзінка. Там фарсіравалі ноччу шырокую і так і ад дажджу, што ліў і дзень і ноч, раку Бярэзіну і павярнулі на паўночны ўсход. Старанна абмацваючы шлях разведкай, прайшлі яшчэ кіламетраў дваццаць, да мястэчка Бакшты. За ім хацелі перасекчы чыгун-

ку і выйсці да горада Іўе, у вольны ад блакады раён. Аднак, наткнуўшыся на моцныя сілы ворага, які шырокім фронтам ціснуў з поўначы на поўдзень, атрад зрабіў круты і раптоўны паварот на паўднёвы ўсход, назад, у глыб пушчы.

Гэты круты паварот ледзь не стаў паваротам у лёсе атрада.

Неабходна было, згуртаваўшы ўсе сілы, кінуцца адразу далёка наперад і некуды ўбок, каб зноў уцячы ад захопу ў клешчы.

А тут пад нагамі конніцы блыталася замуленая, змучаная пяхота.

Уся кавалерыйская злосць на гэтых некалі «павольных» ды «асцярожненькіх», якія самахоць не сабраліся дагэтуль патурбавацца набыць сядло і каня, уся гэтая злосць вярнулася адразу назад і адразу сказала: годзе! Раздзяліцца, даволі ўжо цацкацца з імі! Хай ведаюць!

Справа склалася так, што лепшыя сілы атрада і штаб былі коннымі. Дагэтуль адзін камандзір утрымліваў згоду і лад. Ды вось і ён нарэшце пахіснуўся. На кароткім начным прыпынку ён выказаў згоду на тое, каб падзяліцца на дзве групы, конную і пешую, і дзейнічаць па сабе. Пяхоце, паколькі ёй будзе, магчыма, цяжэй, дазваляецца выбраць сабе камандзіра.

— Міцьку, Міцьку да нас! — загаманіла пяхота.

— Якраз вам Міцьку! Не возьмеш! — абурыліся коннікі.

Была цёмная, мокрая ноч. Пра што камандзір думаў так доўга,— цяжка сказаць. Ён ляжаў пад сасной, так, як і ўсе, нават быў меншы, шчуплейшы, маладшы за многіх сяброў. Калі ж ён потым устаў, а за ім падняліся і ўсе, ні выразу твару, ні бляску вачэй у цемры нельга было распазнаць. Чуваць быў толькі голас:

— Таварышы! Дастукаліся мы з вамі нарэшце чорт ведае да чаго... Пакінуць палавіну людзей! Напалавіну аслабіць нашы сілы. Дзеля чаго, каб лепш даваць адпор? Дзе там — нам напляваць на ўсё! Абы свая скура ўцалела. Ваякі! З такімі думкамі не варта было і з-за печы вылазіць!.. Вы мне дагэтуль верылі? Верылі. Хацеў я апраўдаць ваша давер'е? І хацеў, і хачу. Пойдзем і далей разам! Без усякіх штучак. Хто ж хоча іх

паўтараць,— расстрэл на месцы. Без розніцы, хто. Або я, або ён. Па конях, хлопцы, пайшлі!..

На гэтым кончылася ўсё.

Далейшы шлях атрада, ад Бакштаў да Клецішч, як быццам знарок дзеля таго, каб давяршыць найбольшы гарт выпрабавання, быў асабліва цяжкі. На працягу дваццаці кіламетраў атрад фарсіраваў дзесятак рэчак і каналаў, прайшоў кіламетры залітых або раскалочаных бясконцым даждком балот, перамог і нясцерпную стому, і голад, і страх.

Найгорш давялося пяхоце. Апошнія пару кіламетраў перад Клецішчамі ісці разам зрабілася зусім немагчыма. Кавалерыя паехала ў аб'езд, а пешыя і абоз, пад камандай камісара, пайшлі напрасткі. І зайшлі ў тую бездань балот, якая па-мясцоваму называецца «пра́гля». Інакш назавеш яе толькі пеклам. На працягу апошніх васьмісот метраў вельмі рэдка тарчала хісткае, ніколі не стрыжанае куп'ё. Трэба было проста брысці па дрыгве, якая няўмольна засмоктвала амаль па пахі. Дванаццаць абозных коней, выпражаных з вазоў, валілі на зямлю і — вяроўкамі за ногі — перацягвалі цераз найбольш непраходныя месцы. Дабытак і часткі разабраных вазоў неслі на сабе. І ўсё ж такі перамаглі, прыйшлі на зборны пункт, як сапраўдныя чэрці, па вушы ў балоце,— аднак гадзіны на дзве раней за конніцу...

25 ліпеня, на дзесяты дзень страшных блуканняў па пушчы, атрад надыбаў на прывал «Першамайскай» брыгады. Здалёк пачуўшы людзей, падышлі вельмі ціха. Ля кастроў гаманілі вясёлыя хлопцы, сохла мокрая вопратка, коні грызлі траву...

— Э, там, братва, як жывём?

— Гэта ж «міцькаўцы»!

— Хлопцы, па ўсім, па блакадзе!

Прыбыўшы на Добрач, у спалены лагер, засталі там раненых. Хітры Казёл захаваў іх у нейкай глушы і першы вярнуўся дахаты.

— Усё ў парадку,— далажыў ён камандзіру.— І раненыя правяцца, і доктар наш маладзец, і «Кацюша» цэленькая. А есці мы вам не зварылі таму, што не ведалі, калі прыедзеце.

# «ПОЛЬСКІ ПАЛКОЎНІК»

Расказваючы пра баявы шлях свайго атрада, многія казакі з добрай усмешкай успамінаюць украінца Паўло Сердзюка. Ён быў заўсёды пацехай, «артыстам». Успамінаюць асабліва пра тое, як ён у адну з найцяжэйшых гадзін ліпеньскай блакады, ідучы на разведку далёка наперад, прыбраўся ў спадніцу і хустку. Паклаўшы на месца жаночых грудзей па гранаце, Паўло Сямёнавіч зусім нядрэнна падманьваўся з хлопцамі, якім у той час вельмі на здароўе было пасмяяцца.

Калі адгрымела блакада і ў атрадным баявым жыцці настаў нейкі момант зацішша, у багаты эстрадны рэпертуар Паўло Сямёнавіча паступілі два новыя нумары.

Наваградскі акруговы камісар Траўб, жандарскі кат паўночнай часткі Баранавіцкай вобласці, пры ўдзеле непісьменнага перакладчыка на недарэчную мову «спадароў», выдаў «адозву да насельніцтва» пад загалоўкам «Смерць партызанам ад ліпеня 1943 года». Вялікі тыраж гэтага «твора» распаўсюджваўся з самалётаў. У ім гаварылася пра поўнае, без нечага толькі, знішчэнне «партызан і іхніх памочнікаў» і пра захоп страшнага мноства партызанскай зброі. На няпоўных пяць тысяч «партызан і памочнікаў», знішчаных шчодрым пяром жандарскага грамілы, прыходзілася 40 гармат і мінамётаў, 50 кулямётаў і аўтаматаў і толькі 500 вінтовак...

Не зусім удалае размеркаванне цяжкіх і лёгкіх відаў зброі сярод сваіх кабінетных ахвяр аўтар «адозвы» навярстаў «паведамленнем» пра тое, што, між іншым, «забіты над Нёманам і польскі палкоўнік Міцька».

Другім нумарам Сердзюковай праграмы была аператыўная зводка з Берліна, з «галоўнай гасподы фюрэра». У гэтай зводцы, побач з іншай хлуснёй — аб «эластычным скарачэнні лініі» ўсходняга фронту і бясконцых «удалых адрывак ад ворага», было афіцыйнае паведамленне аб тым, што ў аперацыях, якія ў другой палове ліпеня праводзіліся ў раёнах на захад ад Мінска, знішчана больш 10 тысяч партызан».

Адным словам, брахалі адпаведна сваім маштабам: меншы брахун — па сабе, а галоўны — у два разы больш.

Паставіўшы атрад на днёўку ў адной з чарговых вё-

сак вобласці, «забіты польскі палкоўнік» спакойна спаў або частаваўся яблыкамі ці семечкамі сланечніку.

А тым часам атрадны артыст Паўло Сямёнавіч зноў выступаў перад новаю вёскай з новай «прэм'ерай».

Паправіўшы на галаве свой неразлучны капялюш і накрыўшыся пярэстай трафейнай плашч-палаткай, ён зачытваў сялянам «адозву» Траўба і «зводку» Гітлера, даючы ім належнае тлумачэнне. Закончыўшы ўрачыстае чытанне, Паўло Сямёнавіч зацягваў сваім хрыплым, надтрэснутым голасам «вечную памяць» беднаму «польскаму палкоўніку».

Ізноў — на здароўе! — смяяліся ўсе: і «партызаны, і памочнікі партызан»!..

Баранавіцкі акруговы камісар Вернер не верыў, відаць, літаратурным практыкаванням свайго калегі Траўба. Яго разведка нястомна сачыла за рухамі таямнічага «Мічкі». Знайшоўся пасля і ахвотнік не толькі проста разбіць увесь атрад, а нават злавіць жыўцом самога камандзіра. У Баранавічы прыехала на адпачынак адна з франтавых часцей. Камандзір гэтай часці, маёр войск СС, выказаў згоду «паехаць на Мічку».

Калі чаго не мог падхапіць на ляту адборны ўзвод казацкіх разведчыкаў — там дапамагалі суседзі.

Начальнік асобага аддзела Жукаўскай брыгады, былы мінскі студэнт Пятрусь Дудкоўскі, прыехаў да Дзенісенкі з весткай:

— Сцеражыся, браток, мае разведчыкі маёра пранюхалі.

«Чорт яго знае,— успамінае Міцька,— падумаў я: можа і праўда вялікі ваяка?.. Параіўся са штабам, і паехалі мы ў лагер. Прыгледзімся, што ён за цаца, гэты маёр».

Аднак не ўседзелі. Неўзабаве разведка данесла, што грозны маёр стаў на хутары каля вёскі Браносава, на кожны выпадак бліжэй каля дзотаў у мястэчку Турцы. Акапаўся чын чынам і артылерыю прывалок. На пачатак сваёй дзейнасці ён штодня прыязджае ў спаленую вёску Новае Сяло, апошнюю перад «Міцькавай пераправай». Бярэ з сабой не ўсіх, а толькі ўзвод ці роту...

Гэтак, вядома, можна паспрабаваць наладзіць з ім сустрэчу.

Дзенісенка ўзяў кулямёты, усіх аўтаматчыкаў і звечара засеў у Новым Сяле.

На досвітку ён сам стаяў каля каменнай каплічкі ў канцы вёскі, як заўсёды, узяўшы сабе кулямёт.

«Чакаў, чакаў, і вось... На дарозе з-за ўзгорка — першы фрыц. Ідзе, дурань, свабодна, нават вінтоўкі як след не наставіў. Бліжэй, яшчэ бліжэй і вось: ідуць сабе строем, калонай. «Супернік» мой спераду, конна... Асабліва цікава было, як калона яго на месцы лягла. А потым — адны ляжаць, другія, жывыя пакуль што, паўзуць па раллі... А мы палівaем!..»

Пакуль карнікі распаўзліся, заняўшы, па ўсіх правілах франтавой тактыкі, надзейную пазіцыю, пакуль як след уселася за горкай артылерыя,— «Мічка» прапаў!..

Добрыя коні духам вынеслі з вёскі, адчайным галопам занеслі ў кусты і, перайшоўшы на рысь, пайшлі сухім лугам за Нёман.

Апёкшыся на першай хітрасці, маёр не здолеў прыдумаць нічога іншага, апроч лабавога ўдару. Назаўтра ён вырашыў узяць пераправу, і лагер, і камандзіра атакай.

Не ўлічыў аднаго таго, што тыя, хто штурмаваў гэтае месца першы раз, напачатку блакады, былі таксама ваякамі фюрэра. Да таго ж яшчэ тады іх было тут шмат больш.

Героем гэтага дня быў першы ўзвод, які з любоўю называлі «клятым». Пакуль атрад утрымліваў пераправу, ён зайшоў у абход, пераплыў цераз Нёман і з флангу, імклівай атакай, патурыў маёра ад пушчы.

## СТАЛАСЦЬ

У канцы сорак трэцяга года запаветная мара Дзенісенкі пра поўную кавалерызацыю атрада здзейснілася. Пяхота, пасля таго, што ёй давялося перанесці ў блакаду, сама, без ніякага націску зверху, вельмі хутка і спраўна «села ў сядло».

Атрад, як частка Баранавіцкага злучэння, наладзіў сувязь з Масквой. На пушчанскім аэрадроме начамі садзіліся чырваназорыя самалёты. Сялянскія фурманкі партызанскіх абозаў развозілі па ўсіх кутках пушчы розныя віды зброі. Гэта былі кулямёты, патроны, узрыўчатка, медыкаменты. Гэта было слова праўды — лістоўкі, плакаты, газеты, часопісы, кнігі...

«Беларускі асоба-казацкі атрад» вырас і набыў паўнагучнае імя — «Першай беларускай партызанскай кавалерыйскай брыгады».

Стварыўся яшчэ больш адзіны і моцны пружыністы вузел — яшчэ больш няўлоўны, загадкавы, страшны.

* * *

Вось ён — яшчэ адзін з «апорных пунктаў» фашызму, гарнізон у вёсцы Жухавічы. Акопы, дзоты, драты. Ад усходу, звыш гэтага — вадзяны рубеж — спакойная, але глыбокая рэчка Вуша.

Як толькі пачынае сутуняцца, «майстар» жандармерыі Цымерман старанна рыхтуецца да ночы. Доўгая, цёмная, страшная ноч... Лістапад. У дзоты зноў заносяцца кулямёты і скрынкі патронаў. Ля гумнаў і над рэчкай зноў расстаўляюцца фрыцы і бобікі. Перад гэтым, паклікаўшы да сябе меншых начальнікаў, «майстар» з вялікай таямнічасцю ў голасе шэпча:

— Сёння — «Браўншвайг».

— Сёння «Браўншвайг»,— не менш таямніча шэпчуць начальнічкі сваім падначаленым.

«Сёння «Браўншвайг»,— думае радавы Віллі Окс, тупаючы ўздоўж сцяны адрынкі, на загуменні.— Сёння «Браўншвайг», учора быў «Кёльн», пазаўчора «Дойч Кронэ». Назаўтра «майстар» таксама нешта прыдумае. І гэтыя цёмныя ночы... бясконца... І холадна і страшна ад думкі, што там, у глыбіні гэтай вільготнай цемры, па гразкіх дарогах варожага краю крадуцца сюды партызаны. Але нічога — яны не ведаюць аднаго сакрэтнага слова, ключа ў нямецкі абаронны круг. Не ведаюць і не ўвойдуць...»

Усё, што можа змяшчацца пад сталёвай жандарскай шапкай,— варушыцца вяла. Што ж, аднастайныя будні. Хутчэй бы зноў які-небудзь вясёлы занятак. На тым тыдні выязджалі паліць адзін хутар. За сувязь з партызанамі. Няшмат ужо і ў сялян засталося. Карову забралі ў Мір, на базу. Два кажухі і яшчэ сёе-тое. У трэці кажух маладзіца ўгарнула дзіцёнка. Сябры хацелі адабраць і той, але «майстар» сказаў, што ён здасца ёй там, у Нямеччыне. Уся сям'я паедзе туды, на працу. Сёння — «Браўншвайг»... А старую «матку», паколькі яна ўжо не здольная да працы, учора пад ве-

чар застрэлілі. Гэта таксама звычайная справа, будзённая. Холадна трохі...

— Хто ідзе?

— Свой.

«Няўжо гэтак хутка змена,— думае Віллі Окс,— глядзі ты, як хутка прайшло...»

— Пароль? — па-салдацку машынальна пытаецца ён.

— «Браўншвайг»,— бойка адказвае першы з трох, што ідуць.

«Ну, усё ў парадку,— думае Віллі,— цяпер пайду курыць і спаць...»

У тым, як яны падыходзілі, не было нічога дзіўнага. Дзіўнае пачалося з таго, што адзін з іх, падышоўшы, раптоўна кінуўся на Віллі і, быццам вялікімі, мяккімі кляшчамі, абхапіў аберуч яго пругкі, жылісты гарляк. Дзівіцца доўга не прыйшлося. Нечая рука з размаху прабіла кінжалам шынель на грудзях і дастала жалезам да мэты. Жывёльны, немы гук здзіўлення і пратэсту пачуўся навонкі зусім глуха, як быццам з-пад гаршка.

Тое, як у акопы заходзілі рухавыя постаці, адбылося ўжо без Віллі. Яшчэ разоў колькі пачулася «Пароль?» і «Браўншвайг», а потым той, што падняў партызанскі кінжал, не стрываў: замест адказу чарахнуў з аўтамата, і тады завірыла шалёная схватка.

...Сённяшні «Браўншвайг», ключ ад яшчэ аднаго фашысцкага абароннага кальца, з вечара трапіў да партызан праз спрытныя рукі сувязных. Бой пачаўся з сярэдзіны. Ён быў жорсткі, кароткі. Праз гадзіну ад разбітага гарнізона пайшоў у цемру абоз. Абапал фурманак з трафеямі смяяліся коннікі, яшчэ не супакоеныя ад баявой гарачкі.

Сёння найбольш гаварылі пра Сашку Пашкова. Таго, што здымаў пасты.

* * *

Ноч. Над бязмежным прасторам глыбокага снегу цягучымі гукамі ныюць тэлеграфныя драты. Будуць ныць аж да ранку, абы ім толькі сёння пашанцавала. Удзень іх бобікі пазвязвалі і нацягнулі на слупы. А хутка падыдуць ад пушчы партызаны, пазрэзваюць

слупы, парвуць драты. Таксама, як і кожнай ноччу. А назаўтра іх зноў будуць ладзіць і лаяцца.

Так вось яна і ідзе — бясконцая барацьба за сувязь. Ад спільвання ды ўкопвання слупы парабіліся непадобнымі адзін да другога. Адзін тырчыць з-пад снегу, уваткнуты па самыя вушы, іншы — не слуп ужо, а цэлая дзеравяка, укапаная на запас. Аднак драты на іх ныюць аднолькава сумна.

І вось яны едуць нарэшце. Коннікі, белыя маскхалаты. Спыніліся, пазлазілі. На адну пару мёрзлых ботаў начэпліваюцца жалезныя крукі. «Чап-лап, чап-лап» — палез. Ножніцы спраўна перакусваюць драціны, і, адна за адной, яны ападаюць у снег. Ныццё напалову змаўкае. Тым часам да слупа прынеслі патрэбную скрынку. Начапіўшы паміж ствалом і шомпалам вінтоўкі сваю драціну, падаюць яе «манцёру» на слуп.

— Ужо?

— Пачакай, не так хутка. За пальцы бярэ. Ну, гатова.

Мікола Шэўка, начальнік асобага аддзела, кленчыць ля скрынкі, адгортвае з шапкі белы каптур маскхалата, здымае для большай пэўнасці рукавіцы і пачынае круціць. Група белых постацей навокал яго ў момант ціхне — ніхто не пікне, нават не пераступіць на месцы нагой. Пачынаецца яшчэ адно чарговае прадстаўленне.

— Галлё! Галлё! Столёвітшэ! Столёвітшэ цум тойфель! Гір Шуховітшэ! Шу-хо-ві-тшэ! Гайль Гітлер! Яволь!..[1]

«Немец» лаецца, просіць ратунку. Бо вось ім тут, у Жухавічах, зноў бяда. «Машын чатыры салдат! Што, толькі дзве сёння дома? Давай хоць дзве. Толькі хутка, бо крута!..»

...Канаводы стаяць за гарой, каля хутара. Прызвычаеныя коні маўкліва, спакойна чакаюць, паволі парастаючы шэранню. Абапал гасцінца, зраўняўшыся са снегам, застыглі спешаныя «казакі». Дырыжор канцэрта, які можа пачацца вось-вось, Міцька гаспадарліва размясціў музыкантаў, амаль што не сам наладзіў

---

[1] Алё! Алё! Сталавічы! Сталавічы, чорт вас узяў бы. Тут Жухавічы! Жу-ха-ві-чы! Хайль Гітлер! Так!..

кожную струну, а сабе, як заўсёды, узяў бас — дзегцяроўскі, надзейны. «Мікола, ці ты хаця добра наказваў? Ці прыйдуць?» — хацеў бы яшчэ раз, для большай пэўнасці, спытаць кожны з сяброў. Але Мікола нічога не скажа: ён цярпліва маўчыць, таксама, як і ўсе, палажыўшы побач з сабой неразлучную самазарадку. «Ці будуць? ці будуць? ці будуць?» — пачынае ныць душа, таксама, як ныюць драты, як ные над снегам маўчанне, пад снегам — ногі...

І вось яны нарэшце едуць!

Марудны гул машын падпаўзаў вельмі доўга, здаецца, даўжэй, як цягнулася чаканне. Вось ён — ужо за апошнім узгоркам. Буксуюць. Ах, чэрці, хутчэй бы! Паказаліся. Дзве. Праўдзілі, значыць, фрыцы.

Дырыжор, замест таго каб узмахнуць на пачатак рукамі, адразу шарахнуўся у бас. Завірыў перакрэсны, знішчальны агонь.

...З кучы трупаў каля машыны выцягнулі аднаго жывога. Прытуліўшыся за коламі трохтонкі, гэты «трафей» нейкім цудам застаўся зусім непашкоджаны. Ён, бачыце, не толькі не фашыст, а нават і не немец. З Італіі, чыгуначны рабочы, завецца — Джыаванні Брыго, «па-вашаму — Іван». Сілай змусілі немцы — служыў. Прыгадаў нават тое, што бацькаўшчына яго, Італія, ужо не ваюе супраць Расіі і што яму вельмі б хацелася жыць...

Ну, чорт з табой, ляжачага не б'юць.

Над бязмежным прасторам глыбокага снегу больш не ныюць драты. Там, каля трупаў захопнікаў, палаюць іх машыны. Далёка свеціць адзнака яшчэ адной перамогі.

* * *

Віця Шэўка ляжыць на цвёрдай жалезнай койцы. Навокал яе — не пакатыя сцены зямлянкі лагернай «санчасці», а пабеленыя столь і сцены нейкай самотнай каморкі. Замест лагернай лямпы на століку — пад столлю тлее электрычная цьмяная груша. Шуміць спавітая бінтам галава...

Ох, як многа прайшло дагэтуль!

Спачатку ён ехаў у цемру таксама, як кожную ноч. Гэтай ноччу — наперадзе іхняе тройкі. Пасля яго зня-

чэўку ашарашыла гэтая цемра і шум. Ці чуў ён хоць першую кулямётную чаргу,— нельга ўспомніць за гэтым раптоўным шумам. Здаецца, што бачыў, як палілося зверху пранікліваe святло ракеты. Ды, відаць, гэта толькі здаецца.

Першы раз ён ачуняў на падлозе, пад ботамі. Боты настойліва, глуха таўклі, не могучы дастаць з яго нічога больш, апроч нейкага стогну. Калі пасля зноў на момант вярнулася святло, ён убачыў вось гэтыя сцены і шэрую гладзь. Паволі хлопец зразумеў, што гэтая гладзь ад грудзей да жалезных парэнчаў койкі — гэта звычайная шэрая, жорсткая коўдра. Нямецкая. А пад ёй — яго ўласныя ногі, якія чамусьці зрабіліся бясконца доўгімі.

Потым, як быццам знарок дзеля таго, каб Віця змог усё да канца зразумець,— увайшоў немец. Жывы немец, без вінтоўкі. У руках яго была, здаецца, нейкая міска, ці што.

— На, майн лібэр, іст шон ды захэ эрледыкт? [1]

Ад першых трох слоў вярнулася далёкае, назаўсёды страчанае... Шэрая торбачка з кнігамі, мама, дарога... «Майн — гэта «мой», «лібэр» — «дарагі»... А потым — чорт яго ведае што...

Потым зноў цемра і боль. А затым? Затым зноў будуць боты. І пытанні. Напэўна, па-нашаму, каб Віця ўсё зразумеў, пра ўсё сказаў. Дзеля гэтага толькі і міска стаіць. Галавы не павернеш, не глянеш. А ўсё ж відаць, хоць не бачыш, што вось яна тут побач, на століку. І нямецкая лыжка застыла ў якім-небудзь крупніку. Каб з'еў, а потым расказаў... Не, не раскажа!..

...А Мікола? Няўжо ён не прыйдзе? Няўжо і хлопцы пакінуць? Будуць толькі шкадаваць яго? Але што ж, Карэлічы ўзяць — гэта нават і для нашых вельмі цяжка. Не паспеюць так хутка...

...Зноў цьмяна тлее пад столлю лямпачка. Зноў прыйшла ноч. Хто там? Зноў гэты немец? Ці з'еў? Не, не буду. А можа ўжо цяпер пачнуць пытаць? Праз цемру і шум нехта страшна, нялюдска бярэ яго, варочае, уздымае... «Не ска-жу-у!» — хочацца крыкнуць, ды гэтая цемра і боль не даюць...

[1] Ну, мой дарагі, справа скончана?

...Пасля нехта свеціць у вочы калючым святлом. Няўжо ўсё паўтараецца зноў ад пачатку? Не, цяпер ён паправіць сваю памылку! «Шэсць ворагу, сёмая — сабе». Трэба было б, згодна з гэтым правілам, працягнуць да правага боку руку і расшпіліць мяккі раменьчык самаробнай кабуры. Ды рука чамусьці зусім непаслухмяная, цяжкая.

— Віця, браток...— як быццам нехта кажа аднекуль здалёк.

«Не ска-жу!» — зноў хочацца крыкнуць, ды цемра ніяк не дае.

— Віктар, што ты?.. Ды акажыся ты,— лезуць словы праз цемру. І цемра як быццам радзее, як быццам нешта вяртаецца адтуль, з таго боку.

— Чудзіла гарохавае! Свеціць хлопцу ў вочы... Ты сюды пасвяці, на нас. Віця, давай не ўпінацца. Во Сашка, во я, во Павел...

І праўда — цемрадзь радзее настолькі, што праз яе прабіваюцца нарэшце знаёмыя, родныя рысы. Першы — Сашка Пашкоў. Тады, здаецца, Павел Астравіч, Кеда Уладзік...

— На кусты яму пасвяці, на воз, на каня, ён зусім ачуняе.

Навошта Віцьку тыя кусты! Цемра зноў ахінае яго. Цяпер хоць з шумам, але з нейкім шырокім, бясконцым цяплом.

...Віця Шэўка ляжыць у зямлянцы «санчасці». Цяпер ужо іменна тут. Не трэба нават глядзець для пэўнасці на хваёвыя плашкі пакатай столі. Мікола, брат, сядзіць побач з ім на ўслоне. На Віцевых вачах яшчэ ўсё цёпла ад нядаўніх слёз. Іх так даўно не было! Ад верасня трыццаць дзевятага года, калі, звыш усёй радасці, іх Мікола вярнуўся героем з турмы. Ах, Мікола! Віцю хочацца гэта сказаць, аднак ён толькі крывіць сухія, гарачыя вусны першай, жывой усмешкай.

У зямлянку «санчасці» зноў сышлося шмат хлопцаў, сяброў. Вось над Віцем стаіць камандзір.

— Што, брат, Шэўка, ты ўсё ж такі наш: не аддалі цябе.

Шэрыя вочы прыязна смяюцца з-пад чорных шырокіх брывей. Трэба было б па-сапраўднаму нешта сказаць, па-сапраўднаму падзякаваць. Але Віцю хапае моцы толькі на два словы, з якіх ён мяркуе пачаць:

— Та-ва-рыш каман-дзір,— ледзь чутна шэпча ён сухімі, гарачымі вуснамі.

— Ты не хвалюйся, ляжы. Брату падзякуй і хлопцам... Ды гэта ўсё пасля.

Так, гэта ўсё будзе пасля. Пасля хлопцу раскажуць, як Міцька зноў не мог супакоіцца, як варушыліся праз усе гэтыя тры дні разведчыкі і сувязныя, якімі кіруе Віцеў брат Мікола. Чатыры смельчакі, якія, зняўшы паставых, укралі Віцю з карэліцкага гарнізона, толькі дакончылі справу, завяршылі яшчэ адзін акт партызанскай дружбы.

## НАПЯРЭДАДНІ

Сёння, 15 чэрвеня 1944 года, у малодшага наборшчыка друкарні Стаўбцоўскага міжрайцэнтра Валодзі Навумовіча — выхадны дзень. Лепш сказаць — не выхадны, а выязны. Валодзя выпрасіў нарэшце ў рэдактара дазвол паехаць на раён.

Пад паветкай лагернай канюшні стаіць адзін з запасных коней, праз дрымоту заўзята ганяючы заедзь. Звычайны гняды сялянскі цягач. Як толькі Валодзя кладзе яму на хрыбет нехлямяжае самаробнае сядло, гняды, па нядаўна набытаму ім звычаю верхавых, надзімаецца. А Валодзя, хоць коннік з яго і не вельмі, таўчэ каленам у надзьмуты жывот і лаецца, зноў-такі смеючыся.

Праз некалькі хвілін, апынуўшыся адзін у лесе, падлетак моўчкі змагаецца са спакусай. У лагерах нядаўна зноў зачытваўся загад не траціць здуру патронаў. Аднак, у выніку нядоўгай барацьбы з самім сабой, Валодзя вырашае, што для яго, хоць ён і камсамолец, можа быць зроблена пэўнае выключэнне. Калі ж яму, беднаму, стрэліць? Знай толькі — вечна карпей над шрыфтамі. Валодзя здымае цераз галаву сваё доўгае «жыга́ла», устае на страмёнах, напружвае вераўчаныя павады, і — гулкі, раскацісты стрэл парушае маўчанне духмянай пушчы.

З-за павароту лясной дарогі насустрач Валодзю пляцецца фурманка. Здаравенны хірург Левінбрук час ад часу цмокае на вялага каня і ўсміхаецца яшчэ здалёк.

— Што, не вытрымаў! Накруцяць вушы, пагля-дзіш. Дзень добры.

Валодзя, і так сабе, і як быццам хочучы падкупіць таварыша хірурга, успамінае раптам пра скрутак у сумцы.

— Вось вам газетку. Сёння — наша, Мірская. А вы ад Міцькі, таварыш хірург? Ну як ён, ці хутка па-правіцца?

...У лагеры сваёй, «Камсамольскай», брыгады Ва-лодзя, не злазячы з каня, раздае хлопцам трохі газет. А потым зноў едзе лесам, да сямейнага лагера. Гэта ўжо цэлая вёска. На шырокай дарозе, абапал якой згуртаваліся зямлянкі, гуляюць у пяску малыя. Дзед нешта стружа, дзяўчаты, пасеўшы ў засені, вяжуць. Валодзя важна спыняецца каля лагернай вітрыны і, не зыходзячы з каня, чапляе на цвічкі свежы нумар «Сцяга свабоды». Дзядзькі, цёткі, дзяўчаты сыходзяц-ца і адразу, перш чым чытаць, пытаюцца, што ж нова-га зноў, ці хутка яго, немца, пагоняць. А потым, не даўшы Валодзю да канца выказаць яго ўласныя мер-каванні наконт становішча на франтах і бліжэйшых стратэгічных перспектыў, пытаюцца:

— А як Міцька, мо чуў?

...Далёка за апошнімі прылескамі пушчы Валодзя спыняецца на беразе Нёмана і гукае на той бок пером-шчыку:

— Дзеду, а мо перавёз бы? Баюся.

— А, ваяка! Нічога табе не зробіцца, калі трохі свае цацкі і падмочыш.

Не, дзеду, не трэба парома. Ляжы сабе, куры. Якраз вось табе Валодзя адступіць такую кавалерыйскую радасць — пераехаць уброд.

Гняды пачаў нагінацца яшчэ на пяску, але коннік дагнаў яго сяк-так па калені. Тады конь з асалодай запусціў свае губы ў спакойную, празрыстую ваду.

— Цяпер улева бярыся, бо там вунь яма,— гудзе з берага дзед.

Не, брат, Валодзю не вельмі ашукаеш! Ого, дык і тут, хоць і ямы няма, а вунь як дастае. Коннік рагоча, задзірае вызваленыя са страмён боты амаль па самыя вушы каня, а потым, адчуваючы сядзеннем вельмі блізкую ваду, крычыць.

А гняды спакойна спыняецца. На злосць. Доўгі

пушысты хвост узнімаюць разварушаныя хвалі, а храпа яшчэ раз раскошна смакуе ваду. Так сабе толькі, гуляючы.

— Ну, скажы, як там Міцька? — пытае паромшчык.

Ад Нёмана Валодзя імчыцца галопам. Ніяк немагчыма ўстрымацца. Тут — зялёны, здаецца, бязмежны прастор, а за ім вунь дзе — вёскі і жыта. І там таксама будуць, між іншым, пытацца пра Міцьку.

— Што, мо паправіўся, не ведаеш?

* * *

А ён — паранены — ляжыць у штабной зямлянцы.

Горача, мухі, баліць галава. З двара патыхае густым пахам разапрэлага ельніку. Рука ў лубках гудзе надаедлівым болем. Страх як абрыдла адчуваць пры сабе гэты цяжар: не павернешся, не дакранешся. Раней яна сама вісела на плячы, а цяпер здаецца, што ўвесь ён, усё цела вісіць прымацаванае да гэтай капрызнай, укручанай бінтам «болькі».

Вось ужо хутка тры тыдні, як ён так валяецца. Пакутуе за свой грэх — бязмерную гарачку.

Апошні бой пад яго непасрэднай камандай адбыўся ноччу, у лагчыне паміж вёскамі Тударава і Стрэльнікі. Жорсткі, няроўны бой. Некалькі хлопцаў і Мікола Шэўка — забітыя. Сам ён, камандзір, у найцяжэйшы момант кінуўся ў самую кашу, забыўшыся зноў, зноў звар'яцеўшы. І вось маеш цяпер...

«Так, не было чалавека, таварыша,— думае Міцька,— які б мяне стрымліваў трохі. Начштаба — руняны, культурны Іван Андрэевіч — робіць гэта нядрэнна. Проста матам пакрые ці сілай не пусціць туды, дзе самому не след. Ды вось там яго не было паблізу...»

Найгорш баліць камандзіру тое, што гэта здарылася з ім якраз у найбольш неспакойны час. Хутка нешта павінна пачацца: ці наступленне Савецкай Арміі на беларускім напрамку, ці другая блакада. Цішыня гэтая цягнецца лішне доўга і трывожна нездарма. На фронце — гэта, безумоўна, зацішша перад новай бурай. А пакуль што разведчыкі міжрайцэнтра напалі на след падрыхтоўкі блакады. Цяпер яна будзе страш-

нейшай, чым летась: балоты высахлі, лес повен сем'яў, дзяцей... Што пачнецца раней — наступленне ці блакада,— вельмі цяжка згадаць. Аднак і тое і іншае зусім недарэчы спатыкаць з перабітай рукой...

Ад бяздзеяння, нуды і зайздрасці здаровым таварышам камандзір стаў неспакойны, прыдзірлівы. Атрад, пад камандай камісара, спраўляецца нядрэнна, аднак неспакойнаму духу гаспадара работа яго здаецца нездавальняючай. Іншая справа, каб сам! Ох ты, праклятая рана!..

— Рома!

— Я тут, камандзір!

— Паглядзі ў іх пад падушкамі. Там у іх кніжкі. Прыедуць,— зноў рассядуцца. Вазьмі схавай!

— Ага, у камісара ёсць. І тут, у Івана Андрэевіча, таксама. Вось яна якая тоўстая. «Вайна і мір». Харошая, відаць.

— А ты, чорт, не пазяхаў бы на сонцы, а сеў ды чытаў. Схавай!

На заставе паміж «ваенным» і «сямейным» лагерамі, прыпёршыся да бярозы, сумуе паставы. Такі ўжо заведзен парадак: ні адна душа з «сямейнага» лагера не мае ніякага права пераступіць мяжу «ваеннага». Нядаўна толькі начштаба сам парушыў дысцыпліну. Ён здаўся на просьбы Міцькавай жонкі і прывёў яе ноччу з сямейнага лагера ў баявы.

«Вядома, каб гэта я так зрабіў,— вяла, з нудой успамінае паставы,— дык мне нагарэла б не гэтак. А, зрэшты, у іх там усё ж такі справа жанатая, як ні кажы...»

Па дарозе ад Нёмана рыссю ідзе сувязны.

«Нешта нейкае ёсць, нездарма»,— ажывае і нуды паставы пад бярозай.

..У маленькай запісцы, якую разведчык падаў камандзіру, коратка гаварылася пра тое, што гэтай ноччу хлопцы нарэшце дабіліся выніку: ахова знята, мост спалены. Прыедуць, магчыма, увечары.

— Едзь туды і скажы — малайцы!

А пачакаўшы трохі, у выніку радасных думак:

— Ромка!

— Ёсць, камандзір!

— Талстога палажы назад, адкуль узяў. Няхай чытаюць.

Над пасцеллю з яловых лапак, на цвічку вісіць аўтамат «ППШ». А пад нарамі — ляжыць узрыўчатка: тол, капсулі, бікфордаў шнур.

Ляжыць усё гэта па сабе, ціхае і няшкоднае датуль, пакуль над ім спачывае на нарах інструктар мінёраў брыгады «Камсамолец», вясёлы хлапчына Пятро Семянюга.

Але вось яго паднялі, загадалі з'явіцца ў штаб міжрайцэнтра.

«Дзядзя Валодзя»,— упаўнаважаны ЦК КПБ і партызанскага штаба Беларусі — гаворыць спакойна і проста. Нават і заікаецца, нібы знарок, каб усё было яшчэ больш па-прасцецку! Таксама, як ён гаварыў дваццаць год таму назад у роднай наднёманскай вёсцы Вобрына, калі паднімаў моладзь на барацьбу з польскім панствам. Таксама, як ён гаварыў амаль пяць год таму назад у Мінску, выступаючы дэпутатам ад гэтай зямлі. Таксама, як ён летась гаварыў у Маскве, вылятаючы сюды дапамагаць землякам у барацьбе.

— Ты ўжо колькі эшалонаў пусціў пад адхон? — пытаецца «дзядзя Валодзя», таварыш Царук.

Пятро ўсміхаецца. Каму ж ведаць, як не начальніку, і начальнік, безумоўна, ведае. Аднак таму, што трэба ўсё ж такі адказаць, ён кажа:

— А ўжо ж трохі ёсць, таварыш упаўнаважаны...

— Дык вось, брат, трэба нам хораша закончыць. Адным словам, даём развітальны канцэрт. Такі загад перададзены. Падрыхтуйся як след. Памагатых дам. Вось яны.

У рэдкім дыме махоркі відаць: сядзіць свой, «камсамольскі», камбрыг. Сядзіць малады камандзір суседняй брыгады імя 25-годдзя БССР. Усміхаецца палкоўнік Васілевіч, з «Жукаўскай». На сінім казацкім мундзіры Дзенісенкі выразна вылучаецца забінтаваная да пляча рука. Міцька сядзіць, як заўсёды, ціха, збоку. Ён прытрымлівае пад локаць сваю параненую руку і, сумна пасміхаючыся, быццам хоча сказаць: «Выбачайце, я сам пакуль што не магу, аднак мае хлопцы памогуць».

Зразумеўшы, што дапамога збіраецца нішто сабе, Пятро ўсміхаецца таксама — найшырэй.

— Ёсць падрыхтавацца, таварыш упаўнаважаны.

Да вечара лагер варушыцца, быццам мурашнік. Узрыўчатку выцягнулі з-пад інструктаравых нараў і з брыгаднага склада. Падрыхтаваныя зарады размяркоўваюцца ў торбы мінёраў. А тады з цвічка над яловай пасцеллю здымаецца бывалы «ППШ».

...Ідуць «камсамольцы», «будзёнаўцы», «жукаўцы». Едуць «казакі». Ідуць з глыбінь лесу шматлікія, моцныя «сталінцы». Увесь поўдзень пушчы ідзе на «жалезку», на апошні, заключны канцэрт.

У лесе паміж Негарэлым і Стаўбцамі блішчаць ад месяца рэйкі. Уздоўж калючых дратоў снуюць патрулі. Не спяць у бункерах кулямёты. Сёння да іх не скрадаюцца адзіночныя групы мінёраў, з разлікам выйграць яшчэ адзін падрыў хітрым падыходам,— сёння на іх націскае шырокая сіла. Узнімаецца густы, шалёны кулямётны агонь. Рэжуцца калючыя драты. Ад трапных гранат уздрыгваюць земляныя каптуры бункераў і захлынаюцца кулямёты. Недабіткі фашысцкай аховы адыходзяць пад напорам сілы.

Падпальваючы хвосцікі шнура, уздоўж рэек, ад шашкі да шашкі, бягуць з агнём мінёры. На ўсім асяддзяланым адрэзку чыгункі над сотнямі выбухаў і прарэзлівым візгам узвіваюцца пакручаныя рэйкі.

Пад пальцамі дужых рук партызанскага музыкі чатыры струны негарэльскай двухпуткі гавораць бурным пераборам выбухаў. У адказ яму — недзе далёка ўзнімаецца падобны грукат. Потым у іншым кірунку — таксама. Бліжэйшы грукат заглушае грукат далёкі. Аднак у кожнага з іх ёсць суседзі. Не спіць уся партызанская Беларусь. Сёння даецца апошні, заключны канцэрт славутай рэйкавай вайны.

...На Спаскай вежы куранты вызваньваюць поўнач. З апошнім ударам гадзінніка тая рука, на якую глядзяць мільёны,— апускаецца: узмах на пачатак. За ёй апускаюцца тысячы іншых рук — ад Дзвіны і да Прыпяці. І тысячы жорлаў гармат з адкатам зрыгваюць першы агонь.

Пачалося!

Над палямі, лясамі, па жылах рэк коціцца на захад узбуджаны гул. У адказ яму — сплеценым рэхам гудзе зямля Беларусі, стомленая ад трохгадовага чакання.

А хлопцы ідуць пераможцамі. Ідуць «камсамольцы», «казакі», «будзёнаўцы», «жукаўцы»... Па летнім прасторы ўсёй Беларусі ідуць таксама сотні брыгад.

І хлопцы, стомленыя боем, акрыленыя перамогай, радасна смяюцца. Бо адтуль, дзе над лесам святлее ўсход,— адтуль гаворыць Масква!..

* * *

З дзвюх спраў, якія прадвяшчала трывожнае чэрвеньскае зацішша, перамагла, вядома, наша: наступленне Савецкай Арміі апярэдзіла новую блакаду Налібоцкай пушчы.

Пасля гарачых баявых сутычак з варожымі бандамі, што панічна ўцякалі на захад,— у першых днях ліпеня адбылося незабыўнае спатканне партызан з франтавікамі.

Урачыстых сустрэч не было. Ні самалёты, ні танкі з запыленай пяхотай на бране, ні носьбіты пераможнага гулу — гарматы — нават на момант не спынілі свайго імклівага маршу на захад.

Вось ён — «Міцькаў плывун»,— наладжаны за ноч, зноў ляжыць на хвалях Нёмана. А па ім, уціскаючы ў ваду маснічыны, ад ранку грукацяць запыленыя боты. Наладаваныя трохтонкі, палутаркі і куртатыя, вёрткія «вілісы» па аднаму ды асцярожна, быццам вялізныя жукі, спаўзаюць з узгорка на кволы мост. Прайшоўшы праз вузкае горла моста, бясконцы паток пяхоты разыходзіцца ад Нёмана веерам — у кірунку на вёскі, дарогі.

Акружаны групай баявых сяброў, Міцька сядзіць на тачанцы, прытрымлівае пад локаць забінтаваную да пляча руку і зайздросна глядзіць на байцоў. Да радасці ўплятаецца сум — за самога сябе...

— Пра што я, кажаце, думаў тады? — пытаецца ён у мяне. Цяпер — праз два гады, у новай, накуранай хаце сельсавета.— Пра што я думаў... Думаў, што дома ў мяне, у нашай станіцы, засталася толькі сястра. Меншы брат пайшоў ваяваць. Эх, няхай бы лепш я!..

Міцька ўсміхаецца. Нават нібы сарамліва.

*1946 г.*

# СЭРЦА КАМУНІСТА

## У РОДНЫМ НАДНЯМОННІ

Па-вясковаму няхітра, але надзейна збітая з тоўстых дошак і пафарбаваная ў цёмна-чырвоны колер трыбуна стаяла на брукаванай плошчы, як і многа падобных — на плошчах многіх райцэнтраў і сельсавецкіх пасёлкаў. Натоўп перад трыбунай быў таксама звычайны: калгаснікі, рабочыя мясцовых прадпрыемстваў, інтэлігенцыя, хто малады — амаль усе аднолькава, па-гарадскому апрануты, усюды аднолькава мілая, неспакойная дзетвара. Толькі людзей сабралася больш, чым бывае ў любое іншае свята, нягледзячы на сцюдзёны снежаньскі дзень.

У цэнтры плошчы, за трыбунай, горда ўзвышаўся гранітны абеліск, унізе абкладзены мноствам яловых вянкоў, на ўстойліва сакавітай зеляніне якіх гарэлі, змагаліся з марозам жывыя кветкі. За абеліскам у строгім парадку стаялі працавітыя грузавікі, легкавыя машыны калгасных старшыняў, гасцей з суседніх і далёкіх раёнаў, з вобласці і нават з Мінска.

Пачаўся мітынг. Духавы аркестр мясцовага калгаса зайграў дзяржаўны гімн. Многія сотні рук усхвалявалі паверхню натоўпу: ва ўрачыстым маўчанні абнажыліся лысіны, піянерскія чубчыкі, сівізна, чорнавалосыя, светлыя, русыя галовы мужнага чалавечага ўзросту.

Пасля вядучы абвясціў імя сакратара райкома, і той, не накрываючы галавы, падышоў да мікрафона.

Можа і дрэнна, што і ён, па прыкладу многіх, выняў з кішэні і разгарнуў лісты надоечы падрыхтаванай прамовы. А можа, гэта і добра? Цяжка сказаць, што ён перамог бы сваё хваляванне без гэтых лісткоў, не зачапіўшыся за іх надзейныя, прадуманыя радкі.

— Дарагія таварышы! — пачаў ён звычайнай фразай і, нібы шчасліва адштурхнуўшыся ад яе, стаў глядзець паверх паперы на сотні твараў і вачэй.— Дарагія сябры, працоўныя Любчанскага раёна! Сёння мы сабраліся сюды, каб ушанаваць светлую памяць нашых братоў і сясцёр, партызан і воінаў, якія...

Так, гэты помнік з мясцовага граніту, зроблены ўмелымі рукамі мясцовых каменячосаў, пастаўлены тут на вечны ўспамін аб тых, чыёй крывёю акуплена жыццё іх сучаснікаў і нашчадкаў.

Астанкі герояў перанесены сюды з брацкіх і адзінокіх магіл,— лясных, надрэчных і прыдарожных. Імёны герояў, яшчэ жывыя ў памяці іх сяброў, будуць высечаны на мармуры, каб навечна застацца ў народнай памяці.

Гэта вядома ўсім, хто тут сёння сабраўся, аднак ён — сакратар райкома партыі, былы камісар аднаго з мясцовых партызанскіх атрадаў, высокі, крыху ссутулены і заўчасна пасівелы чалавек,— ён, гаворачы, вельмі прыкметна змагаўся з хваляваннем.

Пасля, пакуль выступалі іншыя — былыя партызаны, цяпер партыйныя і савецкія работнікі, старшыні і брыгадзіры калгасаў, радавыя калгаснікі і рабочыя, камсамольцы і піянеры,— сакратар глядзеў на людзей, на Нёман, пакрыты несуцэльным лёдам, на аснежаную прастору лугоў, за якімі сінела Налібоцкая пушча.

Глядзеў і думаў, што вось ён развітваецца зноў...

Помнік адкрылі заўчасна. Свята гэтае намячалася на май наступнага года, калі будзе разбіты сквер, а на п'едэстале абеліска прымацавана дошка з імёнамі загінуўшых, спіс якіх пакуль што ляжыць у райкомаўскім сейфе. Ды вось збываецца тое, пра што даўно ўжо гаварылася: раён і сапраўды будзе ліквідаваны. І, вядома, раённыя таварышы вырашылі адкрыць помнік цяпер: «Мы зрабілі, мы і адкрыем». Разам з тым гэтае свята, што, разумеецца, не запісана ў рашэнні, будзе падвойным: «Адкрыем помнік і закрыем раён».

«Закрыццё» раёна адбылося ў новай, прасторнай чайной. Да стала, за якім сядзеў сакратар, падыходзілі чокнуцца і госці, былыя паплечнікі-партызаны, і свае, асабліва шумна і людна — старшыні і брыгадзіры калгасаў. «Залатыя хлопцы», як называў ён іх, упершыню далі волю пачуццям: развітваліся адны як са

старэйшым таварышам, другія — як з бацькам, дзякавалі за добрую навуку, абяцалі высока трымаць «сцяг любчанцаў», асмялеўшы і расчуліўшыся канчаткова — абнімалі яго і цалаваліся.

З чайной ён выйшаў п'яны больш ад пачуццяў, чым ад гарэлкі, бо піў звычайна мала. Па-гаспадарску развітаўшыся з гасцямі, правёўшы апошнюю машыну, ён, па прывычцы, зайшоў у райком і ўключыў святло ў сваім кабінеце.

Рабіць тут сёння не было чаго. Не распранаючыся, ён пахадзіў вакол доўгай ножкі вялікага Т, якое ўтваралі накрытыя зялёным сукном сталы з пустымі, чыстымі попельніцамі, і спыніўся, нарэшце, каля сцяны, на якой вісела карта раёна.

Акрэслены ўмоўнымі граніцамі кавалачак роднай зямлі, маленькая частка неабсяжнай краіны — частка, якая днямі далучыцца да суседняга раёна. У дакладах, справаздачах і газетных артыкулах не будуць больш гучаць два словы — «Любчанскі раён», з важкім, гордым падтэкстам — лён, мільянеры, дастатак... Што ж, карты гэтай не будзе, не будзе раёна, але застануцца людзі, якім ён дапамог паверыць у жыццёвасць, у справядлівасць калгаснага ладу...

Сакратар надзеў акуляры і, гледзячы на карту, усміхнуўся.

Прадаўгаватая, бясформенная пляма раёна, падзеленая на шаснаццаць меншых, разнаколерных плямак з чорнымі кропкамі вёсак, тонкімі і таўсцейшымі жылкамі дарог. Колькі разоў аб'езджаны і абходжаны гэтыя дарогі, колькі хат затаілася ў кожнай з гэтых кропак! І, галоўнае, колькі тут людзей, якіх ён распазнаў у працы і ў адпачынку, у смутку і ў радасці!..

Вось ён — калгас імя Варашылава, найбольшы, так сказаць, і найстарэйшы мільянер, самы прыгожы куток раёна. У старым цяністым парку былога графскага маёнтка яшчэ ўсё дужаецца са стагоддзямі пабіты громам, зноў любоўна ўмацаваны і абгароджаны трохствольны дуб, пад якім працаваў калісьці віленскі студэнт Адам Міцкевіч. Непадалёку ад гэтага дуба, у засені таксама векавых ліп, бялее сценамі нядаўна збудаваны дом праўлення калгаса — з агранамічным пакоем, багатай бібліятэкай, радыёвузлом... За дрэвамі на ўсход і поўдзень стэпам распасціраюцца ўраджайныя

лугі і коціць быстрыя, чыстыя воды рака, апетая ў сардэчных песнях працоўнага беларуса, рака, па якой і Міцкевіч тужыў задушэўнымі словамі: «Нёман, родны мой Нёман!...» У гэтым ціхім, зялёным царстве баброў, на гэтым лузе ў Нёман упадае звілістая Сервач, на якой нядаўна пабудавана калгасная ГЭС — таксама светлы домік над турбінамі. Станцыю зрабілі па праекту мясцовых хлопцаў, студэнтаў Беларускага політэхнічнага інстытута. А моцныя, лапушыстыя фікусы ў зялёных кадках пастаўлены тут каля грукатлівых машын, дзе праз вокны відаць вада, лазняк і трава, стараннем старшыні — «цар-бабы» Ганны Кумец.

Ганна Трафімаўна прымала тут ужо не адну замежную дэлегацыю. Ці зразумелі яны, пасланцы многіх краін Еўропы, што жанчына ў нас і сапраўды разняволена, больш таго — што гэтая Ганна Кумец да верасня трыццаць дзевятага года была беднай, ледзь-ледзь пісьменнай вясковаю маладзіцай? А цяпер вось кіруе лепшым калгасам раёна, адным з лепшых у рэспубліцы. Баіцца часам, хвалюецца, сварыцца з брыгадзірамі і звеннявымі, то звоніць, то прыязджае ў райком на параду, а ўсё ж кіруе ўжо восем гадоў, і не таму, што няма кім замяніць яе, а проста таму, што кіруе Трафімаўна нядрэнна. Калі калгас імя Варашылава быў адзіным у раёне мільянерам, шаптуны казалі, што яму «для прапаганды здорава дапамагаюць зверху». Цяпер ужо ўсе калгасы раёна — мільянеры, а варашылаўцы ўсё ж такі ідуць наперадзе, упарта змагаючыся за сваё першыства.

Лічбы, кажуць, не лезуць у паэзію... А вось ён, сакратар райкома, ахвотна чытае добрыя вершы, на дзяцей і кветкі глядзіць з жаночай чуласцю, ды ёсць жа ў яго адна «кніга», з якой ён не расстаецца ні дома, ні ў людзях, хоць у кнізе гэтай — тоўстым цыратовым сшытку — адны лічбы. Вясёлыя, паэтычныя лічбы, якія часта даводзіцца паказваць і паэтам, што прыязджаюць сюды даволі часта.

Вось ён, напрыклад, рост прыбыткаў ад ільну: 1951 год — 1 510 тысяч рублёў, а 1955 — 54,5 мільёна!.. А два кілаграмы хлеба і адзінаццаць рублёў на працадзень?.. Праўда, гэта — няшмат, трэба, бясспрэчна, больш, аднак гэта ж не ў адным якім-небудзь калга-

се, а ў сярэднім па раёну, у той час калі з шаснаццаці калгасаў палавіна мае пясчаныя, камяністыя землі.

Возьмем другі калгас — «Вялікі Кастрычнік»...

Тут сакратар, яшчэ ўсё гледзячы праз акуляры на карту, зноў усміхнуўся.

Старшыня «Вялікага Кастрычніка» — малы, тоўсты, рухавы ўкраінец Міхайла Сакрэта — распараджаўся сёння бяседай. Вясёлым і талковым сватам хадзіў ён паміж сталамі, застаўленымі добрай вясковай закуссю і бутэлькамі, шчыра заклапочаны, ці ўсім усяго хапае. Хлопец партызаніў тут у дні вайны і, грашыць няма чаго, любіць, як ён кажа, «абмеркаваць міжнароднае становішча» за чаркай, але сёння, як і заўсёды на працы, Міхайла Сцяпанавіч быў цвярозы. Гаспадар. Працадзень у «Вялікім Кастрычніку» і сёлета не горшы, як усе апошнія гады. А ў калгасе імя Калініна, над якім Міхайла Сцяпанавіч два гады таму назад узяў шэфства, справа выглядала зусім нявесела: грамы, трэба сказаць, і капейкі... Дарэчы, шэфства. На ім раён і выйшаў у людзі. Перад ўсім, вядома, на працы (які працавіты, дружны народ!), на лёне, які ўжо на шостым годзе калгаснага жыцця, у пяцьдзесят трэцім, зрабіў палавіну калгасаў мільянерамі. Восем мільянераў узялі шэфства над васьмю адсталымі: пачалі даводзіць ім, што можна жыць і на пяску, калі працаваць з душою, калі па-сапраўднаму падружыць з агратэхнікай... ну, і, вядома, калі суседзі прыкладуцца не толькі добрым, разумным словам, але і падзеляцца сваім дабром — пазычаць, скажам, гатунковага насення, дапамогуць купіць грузавік... Так памагаў калінінцам «Вялікі Кастрычнік». А справа спачатку ўсё ж такі не ладзілася, і калінінцы, разважаючы пра гэтыя нелады, часцей за ўсё называлі прозвішча старшыні сваіх шэфаў — Сакрэты. «Вось нам бы такога гаспадара!» — гаварылі яны, ужо ўголас выказваючы нездавальненне сваім старшынёй: «Няхай сабе і наш — таксама свой, таксама быў баявым партызанам, але ж бабнік і п'яніца!..»

«А вы, калі ўжо так, вазьміце сабе за старшыню майго намесніка,— прапанаваў ім Міхайла Сцяпанавіч.— Ідзі, Іване, і будзем з табой спаборнічаць».

Калінінцы — з дарагой душою, а Іван Клакевіч, хлопец з ураджайных палёў раёна, спалохаўся. Спалохаешся, калі тут поле — адзін пясочак, а ўся гаспадар-

ка — адзін развал. Пасля прызнаўся, што дома ажно заплакаў. Суцяшала жонка, звеннявая па льну, камсамолка Валя, нядаўна ўзнагароджаная ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. «Дзівак ты,— казала яна,— і я ж паеду з табой, буду і там звеннявою». Выбралі калінінцы за старшыню Івана Клакевіча, а нейкая цётка тут жа, на сходзе, кажа: «Ну што ж, сынок, мы будзем працаваць, а ты глядзі, каб і цябе не збілі з дарогі чарачка ды Людачка, як нашага Марцуля...» Іван не збіўся з дарогі, і калгас імя Калініна пры дапамозе шэфаў у пяцьдзесят пятым годзе выйшаў у мільянеры.

«І вось яны будуць далей спаборнічаць ужо без мяне,— думае сакратар.— Не прыйдзе больш ды не сядзе каля стала ні вясёлы, хітры Сакрэта, просячы парады і дапамогі ў нейкай новай справе, прыдуманай для дабра арцельнай гаспадаркі, ні маўклівы Глебка, старшыня харосінцаў, які ўвесь час спадцішка паказчыкамі непакоіць суседзяў, ні былы афіцэр Савіцкі, якому вельмі ж хочацца ўсіх абагнаць, ні самы малады сярод іх, можа менш вопытны і хітры, але шчыры і напорысты Аляшкевіч... Залатыя хлопцы, залатыя людзі!..»

Сціплая карта, як нейкі іерогліф, напамінае сакратару пра так добра вядомыя і ўраджайныя, і пясчаныя палі Наднямоння. Закаханым позіркам бачыць ён, як на бяскрайняй зяляніне лугоў жаўцее посціл ільну, які, як кажуць тут, «расце двойчы»: на полі і на сцелішчы». Смачна, соладка пахне высокая, густая кукуруза, якую на дзіва спраўна і люба для гаспадарскіх вачэй падкошвае і шаткуе камбайн. Далей на захад, дзе пяскі, жоўтымі свечкамі кветак стракаціць зялёны, сакавіты лубін, пасля якога добра родзіць жыта і — ад сіласу — правяцца каровы. Мядамі пахне грэчка і канюшына. Цешаць душу барозны, і асабліва бурты выдатнай бульбы. Гудуць і свецяць шэсць новых калгасных электрастанцый. Дымяць і пахнуць цёплым зернем універсальныя сушылкі. Грымяць аркестрамі і песнямі новыя калгасныя клубы, куды не сорам запрасіць нават сталічных артыстаў. Лагодна, як калаўроты, гурчаць ільнамялкі, з-пад вальцаў якіх выходзяць тоны высакаякаснага валакна. У «Камунары» будуюць вадзяны млын і «перспектыўны» гараж — на чатырнаццаць аўтамашын, хоць пакуль што іх толькі чатыры. Дзялядзіцкі калгасны хор, які, стыхійна арганізаваўшыся ў

часы панскага прыгнёту, нядаўна адсвяткаваў сваё трыццацігоддзе, збіраецца на гастролі ажно за граніцу, у Польшчу. Справіла наваселле ўдава забітага бандытамі (пяць год таму назад) актывіста Хартановіча: саманны домік, па тыпавому праекту, пабудаваў ёй калгас...

Былы сакратар... Так назваў ён сябе ў думках упершыню. Гэта пакуль што гучыць незвычайна, аднак ужо зусім рэальна: днямі ён здасць раён суседу — Наваградскаму раёну. А сам? Яго кандыдатура прапануецца карэліцкім камуністам. Калі выберуць — новы раён, новая праца, новыя людзі... А пакуль што — шкада разлучацца з людзьмі і палямі Любчаншчыны, дзе столькі працы ўкладзена і столькі яшчэ хацелася б зрабіць!.. Ну што ж, гэта — не першы і не апошні этап. Мы яшчэ папрацуем!..

Зняў акуляры, палажыў іх у верхнюю кішэню кіцеля. Рэўматычныя рукі дрыжаць, як заўсёды, калі расхвалюешся. А ў памяці ніяк не выходзяць, звоняць у ёй даўно вядомыя радкі:

...Не так цяжка мне будзе памерці,
Хоць дні згаснуць мае маладымі,
Незламанае бурамі сэрца
Дзесяць страт, дзесяць куль яшчэ прыме...

«Што ж я хацеў яшчэ сёння зрабіць?» — успамінае ён, шырока, цвёрда ступаючы па жаўтлява-чырвоных маснічынах. Ага! — успомніў. Падсеў да тэлефона і выклікаў пошту.

— Ало! Добры вечар! Гэта — Жалезняковіч. Прыміце, калі ласка, тэлеграму. Так. Баранавічы, Папова, 7, Царуку. Дарагі Валодзя...— Ён падумаў трохі, падбіраючы словы.— Так. Дарагі Валодзя,— паўтарыў.— Сёння, калі мы адкрывалі помнік нашым баявым таварышам, ты быў, як заўсёды, з намі. Павел. Калі ласка, дзяўчына, паўтарыце. Так. Так. Правільна. Толькі не трэба двойчы «Дарагі Валодзя»: адзін раз будзе лепш.— Ён усміхнуўся.— Дзякую.— Палажыў трубку і пакруціў ручку апарата, на адбой.

Ну што ж, цяпер — дахаты.

Домік сакратара стаіць недалёка ад райкома. Звычайны драўляны, пафарбаваны охрай домік на тры пакоі з кухняй і квадратным калідорчыкам. Многа такіх дамоў у нашых райцэнтрах і на ўскраінах большых га-

радоў. Чыстыя вокны іх свецяцца ўвечары неяк вельмі цёпла, асабліва калі за імі відаць кветкі, кнігі і вясёлыя вочы дзяцей. Раней тут, у доме сакратара, нейкім цудам размяшчаўся дзіцячы сад. Прыехаўшы ў Любчу пяць год таму назад, Павел Арсеньевіч пасяліўся ў значна большым доме, дзе жыў яго папярэднік, а неўзабаве — памяняўся з дзіцячым садам. Цяпер у большым доме шуміць, спявае, смяецца, заціхаючы толькі апоўдні, на «ціхую гадзіну», дзетвара, а тут, навокал меншага дома, да самых марозаў пышна цвітуць вяргіні — белыя, жоўтыя, ружовыя, чырвоныя... І гаспадар вельмі любіць паказваць іх гасцям.

На стук у дзверы неўзабаве пачулася:

— Павел, ты?

— Я, дарагая, я,— адказаў ён з вечна цёплым, шчырым пачуццём.

Гэта — жонка, ціхая, сардэчная руская жанчына, верны друг, нястомны ахоўнік яго слабога здароўя.

— Ну што ты, ай-богу? Хоць бы ўжо сёння адпачыў! — сустрэла яна яго дакорам, але не вытрымала тону і, значна маладзей, засмяялася: — Усё роўна дацягнуў да дзвюх гадзін. Норма. Ну, ідзі, я падам табе чай.

— Я сам, даражэнькая. Не трэба. Ты лажыся.

Гэта — не тое, што «цвярозыя» называюць мяшчанскай сентыментальнасцю. Паўла Арсеньевіча жыццё біла вельмі доўга і няшчадна, і простае чалавечае шчасце падпрыйшло да яго толькі на пятым дзесятку гадоў. Падпольніцкая маладосць, трынаццаць год катаржнай панскай турмы, пасля — вайна, партызаншчына, і толькі ўжо тады добры лёс схамянуўся: высакародна і заслужана падараваў яму сапраўднага сябра — Сусану, якая шчасцем увайшла ў яго жыццё. Яна, а потым і Валодзька.

Сын спаў, прыпаўшы румянай шчакой да беленькай, нібы напоўненай вясёлымі снамі, падушкі. Бацька нагнуўся да рукі малога, што ляжала на коўдры, асцярожна пацалаваў худыя цёплыя пальчыкі і асцярожна пайшоў да сябе.

Чай усё ж падала яна сама. А ён, застаўшыся адзін, узяў з бітком набітай кніжнай шафы маленькі томік і, зноў надзеўшы акуляры, разгарнуў яго. Усміхнуўся. У гэтай шафе нямала ўжо кніг з аўтографамі пісьменнікаў, з якімі ён сустракаўся і тут, і ў Мінску. А вось

такі, замежны аўтограф — толькі адзін: «Таварышу Паўлу Жалезняковічу, сабрату па польскіх турмах, герою падпольнай барацьбы — з пашанай і дружбай — Уладзіслаў Бранеўскі». А вось і тыя радкі:

Не так цяжка мне будзе памерці...

Прайшоўшы па іх вачыма, ён зноў успомніў дзіўную сустрэчу з выдатным польскім рэвалюцыйным паэтам, вершамі якога зачытваўся яшчэ ў турме. Праз дваццаць год сышліся гара ■ гарою — асабіста яны пазнаёміліся толькі пазалетась у Наваградку, на юбілеі Міцкевіча...

— Паўлік, а чай тым часам астыне,— пачуўся са спальні яшчэ не сонны, вечна вясёлы голас.

— Ужо канчаю. Перапісваю,— адказаў ён і засмяяўся, зноў успомніўшы аднаго са сваіх «залатых хлопцаў»...

Неяк у верасні, калі ў кабінеце яго сабраліся на нараду старшыні калгасаў, ён спытаўся, між іншым, чаму так зацягнулася справа ■ прадстаўленнем плана асенніх палявых работ. «У каго гатовы?» Большасць хлопцаў пакаянна прызналася кароткім словам «не». Толькі адзін Сакрэта схітраваў. «Канчаюць,— сказаў ён, нават і вокам не зморгнуўшы.— Ужо начыста перапісваюць...»

Чай яшчэ не астыў. Было б зусім ціха, радасна, добра, але... Так, зноў вось вярнулася думка пра таго, каму нядаўна перадаў тэлеграму, у сувязі ■ кім і тыя радкі настойліва звоняць у душы.

Ах, Валодзя, Валодзя! Прыстаў ты, дружа, стаміўся, а я яшчэ тупаю. Калісьці было наадварот... Памятаеш?..

Сакратар задумаўся.

## ЖЫВЫМІ ПАХАВАНЫЯ

Трыццаць гадоў таму назад быў ён здаровым, жыццярадасным хлопцам. Біў палі на будаўніцтве панскага млына, касіў у маёнтку, качаў і падымаў бярвенні на пільні, хадзіў па вёсках падручным у печніка... Рабочы дзень вымяраўся ўсходам і заходам сонца, зарплата —

няшчодрай ласкай пана і кулака. Аднак маладосці хапала на ўсё — на цяжкую працу, на холад і голад, на кнігу, на ўдзел у вясковай самадзейнасці, на бяссонныя шэпты з любімай дзяўчынай і — галоўнае — на тое, што рабіла жыццё яго значным, патрэбным і радасным,— на падпольную працу.

Мястэчка Ярэмічы, з царквой на плошчы і з карчмой над Нёманам — двума культурнымі цэнтрамі, характэрнымі для мноства такіх населеных пунктаў, не адставала ад жыцця, якім жыла ў той час уся Заходняя Беларусь. Адарваная суровым лёсам ад Савецкай Радзімы, названая «ўсходнімі крэсамі» панскай дзяржавы, Заходняя не скарылася. Непераможнымі былі ідэі ленінскай партыі, што і сюды прыйшлі ўвосень семнаццатага года; назаўсёды заселі ў народнай памяці тыя нямногія месяцы, калі і тут жыццём кіравалі Саветы. На магілах герояў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны не гаслі кветкі; не змаўкала рэвалюцыйная песня на панскіх палях і ў саламяных вёсках; на верхавінах бяроз і на тэлеграфных слупах няспынна і незлічона ўспыхвала полымя сцягоў. Начамі грозна шамацелі трава і дарожны пыл пад босымі нагамі паўстанцаў, стрэлы якіх даходзілі да каралеўскіх залаў Бельведэра, дзе хмурыў калматыя бровы і па-фельдфебельску лаяў міністраў сацыял-рэнегат Пілсудскі. «Морам узбунтаванага хамства» называлі паны свае ўсходнія калоніі, ніяк не могучы дабіцца таго, каб у жылах насельніцтва іх застыла ад жаху рэпрэсій кроў.

У Ярэмічах была кааператыўная крама «Сполэм»[1], за прылаўкам якое стаяў вясёлы гарманіст і танцор Валодзя Царук. Па абсаджаным векавымі ліпамі гасцінцы з Ярэміч у другое мястэчка, Турэц, дзе апроч царквы і карчмы былі яшчэ пастарунак, гміна і пошта, кожны дзень хадзіў з паштальёнскаю торбай высокі юнак Павел Жалезняковіч. На першы погляд усё гэта было зусім звычайна: Валодзя балагурыў у краме, каб прыдбаць грош-другі для сям'і, якой не соладка жывецца з бядняцкай гаспадаркі, а Павел — гэты наогул сірата, жыве пры братавай сям'і чужым чалавекам, і тыя паўзлота ў месяц ад кожнага, хто атрымлівае газеты, ды пяць грошаў за кожнае дастаўленае пісьмо — вялікія

[1] Сполэм — разам, супольна.

грошы для хлопца, які лета-зіма валочыцца па заработках... Толькі вельмі нямногія ведалі, што крамнік Валодзя, нядаўні ўдзельнік грамадзянскай вайны, узначальвае падпольны райком партыі, а паштальён Павел працуе тэхнікам па дастаўцы і распаўсюджванню камуністычнай літаратуры, арганізоўвае ў навакольных вёсках партыйныя ячэйкі. Для гэтай мэты крама «Сполэм» нядрэнна служыць месцам сувязі, а паштальёнская торба легальным шляхам дастаўляе для «не зусім дакладных» — фіктыўных — адрасатаў лістоўкі і пісьмы з падпольнага цэнтра. Літаратура фашысцкага крою, дзякуючы той самай торбе, не магла пранікнуць у масы нават бясплатна.

Улетку дваццаць шостага года паштальён быў западозраны і першы раз трапіў у лапы дэфензівы. Першыя катаванні не разгадалі падпольнай загадкі, а толькі дапамаглі Паўлу ўпэўніцца, што і ён — не горшы за іншых хлопцаў, што і ён можа верыць у самога сябе. Ніколі яму не забыцца таго дня, калі ён вярнуўся дахаты з падвала пастарунка: як пацiскалі руку яго сябры, як увечары цалавала яго, свайго героя, любімая дзяўчына!..

Другі арышт, праз два месяцы, быў канцом падпольнай працы Паўла Жалезняковіча, Уладзіміра Царука і некаторых іншых таварышаў ярэміцкай арганізацыі.

Пасля таго як была спынена партызанская барацьба, адзін партызан — схаваем яго пад літарай К.— прыйшоў да начальніка ваяводскай дэфензівы ў Навагрудку, вядомага ката Лабяка, і завербаваўся правакатарам. Падполле верыла гэтаму К. за яго партызанскае мінулае, і здрадніку нейкі час удавалася выступаць у многіх мясцінах «прадстаўніком падпольнага абкома». Аднак рэвалюцыйная пільнасць перамагла даволі хутка. Гаду не памаглі ні лісіныя хітрыкі, ні панскія пісталеты ў абедзвюх кішэнях штаноў. У гумне на хутары, куды «таварыша» прывялі начаваць, хлопец з суседняй вёскі, камуніст Ёсіп Н., разбудзіў яго на досвітку і, крыкнуўшы: «Смерць правакатару!», гвазданув шворнам па галаве... На сталы розум, як разважалі потым у турэмных камерах ярэміцкія таварышы, справа гэтая магла быць уладжана вельмі проста. Але падвяла маладая дурасць. Труп вырашылі ўкінуць у «Клемансаў вір», дзе Вуша ўпадае ў Нёман. І не проста ўкінуць, а

прывязаўшы да шыі бочку зацвярдзелага цэменту... Вада ў Нёмане — празрыстая і на глыбіні: рыбакі заўважылі і выцягнулі тапельца. Паліцыя апазнала ў ім «свентэй паменці» Аляксандра К.

Назаўтра Павел вярнуўся з рэпетыцыі самадзейнага спектакля вельмі позна: праводзіў сваю дзяўчыну. Доўга не спалася, а потым быў дзіўны сон: здаецца, зноў арыштавалі, зноў дапытвае яго той самы Дэрцэвіль, начальнік стаўбцоўскай павятовай дэфензівы...

На досвітку пачуўся стук у акно і ў дзверы...

Паліцыі ў Ярэмічы наехала многа, з усіх навакольных пастарункаў: прыехаў сам пан Лабяк са зграяй ваяводскіх дэфензіўшчыкаў. Значна пазней хлопцы даведаліся, што паны баяліся бунту; у той дзень Павел і іншыя сябры пераканаліся толькі, што «свентэй паменці» К. рабіў дэфензіве немалыя паслугі.

У той пагодлівы восеньскі ранак высокі, вясёлы юнак у кайданах, з клункам «рэчавых доказаў» за плячыма,— старая вопратка падзёншчыка, на якой знайшлі плямку крыві,— выйшаў у доўгі, бясконцы шлях нечалавечых пакут, каб вярнуцца дахаты, у роднае Наднямонне, праз трынаццаць гадоў, у верасні незабыўнага трыццаць дзевятага.

...Ах, Валодзя, Валодзя!.. Як усё ясна і проста было з табою, наш старэйшы, разумны, вясёлы дружа!.. Адзін толькі раз і ты разгубіўся...

Як толькі быў апазнаны тапелец, маладыя сябры спалохаліся і проста хацелі махнуць за граніцу, у СССР. Чатыры ўдзельнікі справы прыйшлі да пятага, кіраўніка: «Што цяпер будзем рабіць?» Валодзя спачатку па-свойму смяяўся: «А хто давядзе, што гэта мы?..» А пасля затужыў, разгубіўся і ён. З тугой сваёй пайшоў да старое маці. І яна адказала яму па-народнаму: «Не, не хавайся, сынок, бо людзі скажуць, што ты іх прадаў. Пачнуць другіх саджаць — пачнуць людзі наракаць на цябе... Што ўжо будзе ўсяму міру, тое і бабінаму сыну!..» У той час лютавалі «даразьныя», ваенна-палявыя суды, часта-густа па ўсёй Польшчы скрыпелі шыбеніцы. А ўсё ж ярэміцкія хлопцы не спалохаліся іх, пайшлі насустрач свайму лёсу.

Пасля жахлівых дзён і начэй паліцэйскага катавання, якім кіраваў сам пан Лабяк, прыйшла палёгка — турма. Нічога не выцiснуўшы з хлопцаў, дэфензіва ад-

дала іх у рукі астрожных стражнікаў і «пшадоўнікаў» [1]. Спачатку — у Наваградак. Да палітвязняў не пусцілі, а замкнулі, па адным, у перапоўненых камерах крымінальнікаў — з канакрадамі, забойцамі, самагоншчыкамі, цёмным і затхлым побытам якіх аднаўладна кіравалі рэцыдывісты. Юнак, які ўжо ведаў Леніна і Горкага, які ўжо меў падставу ганарыцца сабой — барацьбітом за народную справу, Павел не паддаўся і тут: не толькі сам не захацеў прайсці ўвесь ідыёцкі цыкл агідных, садысцкіх «гульняў», якія павінны былі праходзіць усе навічкі, але паўстаў у абарону іншых, вельмі хутка скарыўшы каго сваёй маральнай чысцінёй, а каго рашучасцю да канца абараняць чалавечую годнасць.

Ніколі яму не забыць таго дня, калі прыйшла першая падаянка з волі, ад таварышаў, як ён дзяліўся чорным вясковым хлебам і махоркай з сябрамі па камеры... Таварышы памятаюць яго, якая гэта сіла — таварышы-камуністы!..

Да суда прайшоў цэлы год. Жнівеньскім ранкам з наваградскай турмы іх — Паўла, Валодзю, Сеню Носа і Міколу Царука (той, хто забіў правакатара, і некалькі іншых таварышаў нейкім цудам не былі арыштаваны) — вялі пад моцным канвоем: дванаццаць паліцыянтаў пешых — спераду; як душа ўсёй справы,— шпікдэфензіўшчык у цывільнай вопратцы; ззаду — два конныя паліцыянты. Дзень быў кірмашовы, і таму ў суд вялі іх раненька, ускраіннымі вуліцамі. Летась, якраз у гэты самы дзень, на спаса, у Наваградку адбылася бурная дэманстрацыя, якая здалася мясцовым уладам пачаткам рэвалюцыі... Судзілі па царскаму кодэксу, якім пілсудчыкі карысталіся да 1932 года. Карычневыя плямкі на Паўлавай рабочай вопратцы экспертыза прызнала яго ўласнай крывёю; затое парсюкова кроў, саскрэбеная з санак у Валодзевай адрыне, была аўтарытэтна прызнана крывёю правакатара К. Падстаўныя сведкі абвінавачання блыталі як хто мог. А ўсё ж «высокі суд» справіўся са сваім заданнем і ў гэтым выпадку: Валодзю далі дзесяць год па 453-му артыкулу мікалаеўскага кодэкса (забойства), а Паўлу, Сеню і Міколу, праз два месяцы, асобна — па чатыры гады ка-

[1] Старшыя наглядчыкі.

таржнай турмы, згодна з артыкуламі 100 і 102, як членам КПЗБ і нейкім «арганізатарам узброеных баявых дружын» на Наваградчыне. На гэтым, другім, судзе і Валодзю заадно дадалі, па двух апошніх артыкулах, яшчэ чатыры гады. Пракурор апеліраваў, каб Паўлу, Сеню і Міколу дадаць артыкул 453. Яшчэ праз два месяцы варшаўскі «сонд найвыжшы» згадзіўся з віленскім апеляцыйным судом і таксама задаволіў «патрыятычную» просьбу пана пракурора: усіх чатырох «злачынцаў» прысудзілі да пажыццёвага зняволення. Апеляцыйны суд вынес сваё рашэнне на той падставе, што... Уладзімір Царук не мог адзін забіць «свентэй паменці» К., а ў даносах апошняга дэфензіве апроч Царука ўспамінаюцца і імёны трох астатніх падсудных.

На смутак свой і на спачуванні сяброў хлопцы адказвалі: «Нічога, мы — бестэрміновыя», але паны яшчэ больш не ведаюць свайго тэрміну!»

Таварышаў развезлі па розных турмах краіны, разлучыўшы, як здавалася, назаўсёды. Значна пазней Павел даведаўся, што Сеня звар'яцеў у вронкаўскай адзіночцы. Расказвалі таварышы, што 1 Мая палітвязні крычалі праз краты: «Няхай жыве сусветная рэвалюцыя! Няхай жыве народная Польшча! Няхай жыве СССР!..» Стражнік стрэліў у Сенева акно з газавага пісталета, і неўзабаве хлопца перасадзілі з адзіночкі ў адну з дзвюх камер пры турэмнай бальніцы, з таўсцейшым шклом і гусцейшымі кратамі. Пасля завезлі ў Грудзёндз, у турэмны шпіталь для псіхічна хворых, дзе ён нястомна кідаўся ў шэрым каменні чатырох сцен і дзіка крычаў: «Га-аз!..» З Валодзем Павел сустрэўся праз некалькі год, зусім нечакана.

Было гэта ў равіцкай турме, вясной трыццатага года.

Дагэтуль Павел паспытаў ужо экзотыкі трох турмаў панскай Польшчы, заваяваў сабе гордае званне моцнага, надзейнага таварыша і сур'ёзна падарваў сваё жалезнае здароўе лесаруба і касца.

Пасля Наваградка была гродзенская турма — з няспынным стукам і шоргатам ног у перапоўненай камеры, з прарэзлівым віскам піл у сталярні, паверхам ніжэй, з шэрай касцельнай сцяною перад акном, з надакучлівым гудзеннем званоў, бой якіх, здавалася,

бясконца гвазда́ў па мазгах, не даючы ні чытаць, ні думаць, ні жыць... Пасля быў Плоцк, дзе праз краты віднелася Вісла, парк з белай акацыяй і маладымі парачкамі... Усё гэта нібы знарок прынесена было пад самыя вокны камераў, каб бязлітасна напамінаць, што ты — пахаваны жывым... Як і ўсюды раней, і тут жыццём была толькі сувязь з таварышамі-палітвязнямі і надзея на перамогу сусветнай рэвалюцыі, якая і табе прынясе вызваленне. Надзею гэтую падтрымлівалі рэдкія, але, як промні сонца, жыватворчыя пісьмы ад навучэнцаў Ніжне-Ломаўскай школы другой ступені, якія адтуль — з савецкай Радзімы, з Пензенскай губерні — шэфствавалі па лініі МОПРа над плоцкімі пакутнікамі. Позняй восенню дваццаць восьмага года Паўла перавезлі ў гарадок Равіч, пад самую польска-нямецкую граніцу.

У Равічы была адна з так званых «цяжкіх турмаў», куды збіралі «найбольш небяспечных злачынцаў», зусім пазбаўленых правоў нават і пасля выхаду на волю. Тут упершыню забралі хатнюю і выдалі шэрую арыштанцкую вопратку і драўляныя выступкі, «трэпы». Адзіночка — разведзенымі рукамі лёгка дастаеш да сцен. Прагулка — дваццаць пяць мінут, пяць крокаў адзін за адным, не размаўляючы. Галодны, нішчымны паёк. Толькі і думаеш, як бы гэта, якім лякарствам забіць малады апетыт. Магільны холад, ад якога ніяк не ратуюць казённыя рызманы. Кнігі... Ну, які-небудзь рэлігійны трактат з пачатку мінулага стагоддзя, езуіцкія настаўленні айца біскупа пра тое, што пан бог стварыў адных панамі, а другіх — прыгоннымі. Чытаў і гэта. За кожную «правіннасць», хоць бы найменшую спробу абараніць сваю чалавечую годнасць — «пост» або карцэр. Каб гэтыя «пасты» залічваліся на тым свеце — давялося б, напэўна, паспытаць і раю, абяцанага біскупам за зямныя пакуты. Карцэр — каменны мяшок, гразь пад нагамі, кавалак хлеба, цемрадзь. Стаіш. Адпачываеш на кукішках. Дзень ці ноч?.. Праз два-тры дні вяртаешся ў камеру, як на волю... За акном адзіночкі — турэмная бальніца. Часта бачыш труну пад ганаровым экскортам двух стражнікаў, шэрага вязня з рыдлёўкай і спераду чорнага ксяндза. І тут, як Сеня ў Вронках, некаторыя вар'яцелі: толькі пачуецца дзікі крык або рогат, так і ведай — яшчэ адзін!..

Ранейшы начальнік равіцкай турмы, стары, спарахнелы, але няўмольна паслядоўны садыст Стэфаняк, да Першай сусветнай вайны працаваў па той самай спецыянальнасці ў кайзераўскіх калоніях. Пасля яго смерці начальнікам быў прызначаны былы лейбгвардыі ўланскі ротмістр, сын царскага генерала Юнчыс.

Праўда, гэты спачатку завёў трохі іншыя, мякчэйшыя парадкі. Была, напрыклад, арганізавана пачатковая школа для вязняў, дзе тры разы на тыдзень, у адной з большых камер, выкладаліся арыфметыка, чытанне і гісторыя Польшчы. Дарэчы, гэтую школу, як і працу ў турэмнай друкарні, сталярні і на бульбяным складзе, тыя нямногія палітвязні, што асуджаны былі па «змешаных артыкулах» і сядзелі разам з крымінальнікамі, выкарыстоўвалі для сувязі паміж сабой і для палітработы. У выніку гэтай работы, у якой Павел прымаў актыўны ўдзел, некаторыя крымінальнікі перавыхоўваліся настолькі, што пазней, праз некалькі год, вярталіся ў турму як «ворагі дзяржаўнага ладу».

Хутка, аднак, «его высокоблагородие» пан Юнчыс, якога турма называла «Уланам», пакінуў гуляць у дэмакратыю. «Школа» была закрыта, а на змену ёй прыйшоў небывалы голад, на які крымінальнікі адказалі бунтам.

У маі трыццатага года вязні, што працавалі ў сталярні, не выйшлі на працу. Стражнікі прыйшлі браць іх у карцэр, пачалі біць. З-за кратаў пачуўся стогалосы крык пратэсту, стук нагамі ў дзверы, а табурэткамі — па вокнах. Пратэст крымінальнікаў падтрымаў «другі павільён», так званы Чэрвóняк, дзе сядзелі адны палітвязні. На шум каля турмы сабраўся натоўп гараджан, прыйшло выклікanae адміністрацыяй войска. Улан-Юнчыс бегаў па турэмным двары з пісталетам, крычаў разгублена: «Буду страляць!..» Калі ў камеры прынеслі абед, у адказ пачулася: «Няхай жыве галадоўка!» Цэбры з баландою стаялі на калідорах некранутыя. Тады начальнік выклікаў на перагаворы некалькі найбольш вядомых рэцыдывістаў. Падкупленыя нейкімі абяцанкамі, яны пачалі хадзіць па калідорах, угаворваючы скарыцца: «Пан начальнік даў слова не караць!..» Адказ быў той самы: «Прэч Улана! Не біць! Няхай жыве галадоўка!..» Тады Юнчыс згадзіўся прыняць дэлегацыю.

Для перагавораў вязні выбралі Паўла і некалькі іншых, як і ён, давераных таварышаў. Дэлегацыя прыйшла да начальніка з патрабаваннямі: палепшыць харчы, не біць, дазволіць прымаць дапамогу прадуктамі з камуны палітвязняў «другога павільёна», браць кнігі з бібліятэкі камуны, свабодна пераходзіць з камеры ў камеру, пабольшыць час прагулкі з правам прысесці адпачыць і перакінуцца словам з сябрамі...

На дзіва, Юнчыс згадзіўся з усімі патрабаваннямі і паабяцаў за бунт не караць. Турма пашумела радасным крыкам і зноў заціхла. Натоўп на вуліцы паволі рассеяўся. Рота салдат пайшла ў казармы.

Назаўтра прагулка была сапраўдным трыумфам пераможцаў — таварышы віталіся паролем «Рот фронт!», збіраліся групамі, ажыўлена размаўлялі. Стражнікі і пшадоўнікі трымалі сябе на дзіва памяркоўна, як і сам Улан.

У гэты вось радасны ранак Павел, гледзячы ў акно, чакаючы свае чаргі на прагулку, убачыў на двары Валодзю.

Сагнуўшыся, моўчкі, самотна хадзіў ён па дарожцы, уздоўж высокай сцяны агароджы, і на Паўлаў радасны крык нават не азірнуўся...

Ноччу трывожна загаварыў турэмны тэлеграф — зашыфраваны перастук па трубах цэнтральнага ацяплення:

«Камера дзевяць... Камера дзевяць... Уладзімір Царук... Што з табою, Валодзя? Дзе быў?.. Чаму ты нават не азірнуўся на мой крык?.. Гэта — Жалезняковіч... Дарагі... гэта я... Гэта Павел... Ты зразумеў мяне?.. Гэта я...»

Ні кропкі, ні працяжнікі марзянкі не маглі перадаць, што па худых, бледных шчоках малодшага сябра міжвольна каціліся слёзы. Трывожны і радасны стук «тэлеграфа» перадаваў толькі прыспешанае, з перабоямі, біццё Паўлавага сэрца.

І вось пачаўся прыём.

«Гэта я, Павел, я — Валодзя Царук... Ты зразумеў мяне?.. Ноччу прывезлі са свентакшыскай турмы... Ты зразумеў?.. Там вечны холад... вечны туман... Замест дзвярэй і сцяны ад калідора — краты... У карцэры — ручныя і нажныя кайданы...»

Ты падзяліўся са мною, Валодзя, скупымі навінамі

з дому, дзе твая жонка, дзеці, старыя бацькі ўсё ж такі вераць, як верыць увесь народ, што наша няволя — не вечная, як не вечная панская ўлада. І я быў рад хоць гэтаму цёпламу подыху волі, якога не магла ні стрымаць, ні замарозіць цэнзура. Я рад быў, бо сам не меў адтуль ніводнай весткі...

Я зразумеў, чаму ты, ходзячы самотна па двары, нават не азірнуўся на мой крык. Ты, сутыкнуўшыся з жахам свентакшыскай турмы, не верыш, зусім не верыш у чалавечнасць нашых ворагаў. Не трэба лішне захапляцца поспехам, часовай перамогай, бо ў барацьбе, на якую мы выйшлі, няма найменшай шчыліны для літасці. І я паверыў табе, але не спалохаўся. Найбольшая радасць, якая ў той дзень прыйшла да мяне,— гэта ты. Абы мы толькі больш не разлучаліся ніколі!

## ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!

Яны не разлучаліся больш, прасядзелі ў адной турме да самага вызвалення.

А тая адносная свабода, пэўная палёгка, якую заваявалі бунтам, патрывала нядоўга. Праз пару месяцаў адміністрацыя зноў пачала націскáць. Галоўную небяспеку бачыла яна ў другім павільёне, дзе працавала надзейна законспіраваная партыйная арганізацыя і камуна, агульная арганізацыя палітвязняў, да якой належалі і беспартыйныя таварышы, асуджаныя за выступленні супраць сацыяльнага, нацыянальнага і рэлігійнага прыгнёту. Заручыўшыся падтрымкай падкупленых крымінальнікаў-рэцыдывістаў, начальства пачало свой наступ на турму з абмежавання правоў камуны. Перш за ўсё — скарацілі прагулкі. Аднак у першы дзень, калі стражнікі пачалі заўчасна зганяць таварышаў з двара ў камеры і аднаго з іх ударылі,— уся турма адказала тым самым крыкам праз краты: «Не біць!», тым самым стукам у дзверы і па вокнах. Адміністрацыя зноў была вымушана адступіць.

Больш таго: у мэтах «аздараўлення» першага павільёна ў другі павільён былі пераведзены не толькі пяцьдзесят палітвязняў, асуджаных па «змешаных артыкулах», але і «канчаткова распрапагандаваныя» імі крымінальнікі.

Перамога была нечакана вялікая.

Чатыры гады таму назад, у наваградскай турме, Павел дамагаўся пераводу да палітвязняў галадоўкай. Толькі на шосты дзень галадоўкі рашучасць нязломнага хлопца і ўсёй камуны, што падтрымала яго, дала свой вынік. Цяпер жа гэта здзейснілася дзякуючы дружнаму адпору ўладам амаль усёй турмы з удзелам многіх крымінальнікаў. Праца над павышэннем іх палітычнай свядомасці не прайшла дарма. Нямала гэтых хлопцаў добра працавалі сувязнымі паміж павільёнамі, а ў далейшым, у дні вызвалення, зрабілі справу яшчэ большую.

Пачалося доўгачаканае жыццё сярод сваіх, у дружнай сям'і палітвязняў, пачалася вучоба і праца, пра якую марыў, па якой тужыў гарачы, здольны хлопец.

Рэвалюцыянерам зрабіў яго Горкі. Пятнаццацігадовым падлеткам Павел прачытаў «Маці», што адкрыла яму вочы на жыццё, вывела на вялікі, галоўны шлях сучаснасці. Для справы рэвалюцыі юнак рабіў, у меру сіл сваіх, многае яшчэ тады, калі ён, як і сябры яго, не быў грунтоўна падкаваным марксістам. Цяпер прыйшоў нарэшце час узяцца за вучобу па-сапраўднаму. Павел пачаў запоем чытаць: творы класікаў марксізма-ленінізма, мастацкую літаратуру. З пісьменнікаў найбольш жыватворча ўплывалі той самы Горкі, Серафімовіч («Жалезны паток»), Купала, Колас, некаторыя вершы якіх сталі рэвалюцыйнымі песнямі, Маякоўскі, якога часта чытаў у польскіх перакладах Бранеўскага. Равіцкая камуна мела багатую бібліятэку, якая ўвесь час папаўнялася пасылкамі МОПРа. На чытанне не хапала ні дня, ні вечара. На шчасце, за кратамі, якраз насупраць акна, тырчаў слуп з ліхтаром, і, стаўшы на табурэтцы, можна было чытаць і ноччу. Гэта было, вядома, не проста чытанне дзеля цікаўнасці,— з кожнай кнігі ён нібы высмоктваў сілу для жыцця, для барацьбы. Не прыходзілася і мучыцца самотнымі пакутамі самавука,— усё незразумелае маглі вытлумачыць таварышы, многія з якіх былі не толькі глыбока свядомыя палітычна, але і ўсебакова адукаваныя. Сядзелі па трох-чатырох у адзіночцы, а рэшту рабіла сувязь: перастукванне, шыфраваныя запіскі — «грыпсы», сустрэчы на прагулцы і ў прыёмнай доктара.

З той самай прагай, з тым самым напорам, якія большую палавіну сутак трымалі яго над філасофскай ці мастацкай кнігай, былы лесаруб і памочнік вяскова-га печніка накінуўся на падручнікі. Матэматыка, палітэканомія, гісторыя, геаграфія, мовы... За параўнаўча кароткі час ён вывучыў беларускую, рускую, польскую, украінскую мовы настолькі добра, што не толькі мог правільна гаварыць на кожнай з іх, але і рабіць з адной на другую пераклады патрэбных артыкулаў, а таксама выступаць з уласнымі дакладамі.

У тым інтэрнацыянале, з якога складалася і равіцкая камуна, Павел вельмі хутка стаў патрэбным і паважаным. Таварышы выбралі яго ў «прагулачную тройку», адказным па справах прапаганды.

Таварышы...

Апроч Валодзі Царука, з якім яго лучыла даўняя дружба, колькі яшчэ імён засталося ў памяці назаўсёды, калькі вобразаў сапраўдных людзей узбагацілі яго жыццё!..

Землякі-беларусы. Нарачанскі рыбак Павел Звяруга, удвух з якім яны ваявалі супраць садысцкіх «гульняў» рэцыдывістаў з навічкамі ў наваградскай турме. Аляксандр Самсыт, які памагаў выстаяць першую галадоўку. Асуджаныя кожны на пятнаццаць год турмы браты Сяржанты, Рафаіл і Іван. Асабліва блізкі быў Паўлу Рафаіл, дужае плячо якога так добра было адчуваць ва ўсіх выпрабаваннях равіцкай турмы. Светлы, крамяны падлетак Самуіл Малька, які на допытах кідаў у вочы дэфензіўшчыкам адно: «Я — камуніст, а што і з кім рабіў — не скажу...»

Сябры-палякі. Член Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Польшчы Марыян Бучэк, разам з якім, часамі ў адной ванне, Павел лячыўся ад вострага турэмнага рэўматызму. З дваццаці гадоў, якія праіснавала дзяржава пілсудчыкаў, таварыш гэты шаснаццаць правёў за кратамі. Другі член ЦК КПП, сілезскі шахцёр Ян Ізыдорчык, Паўлаў сябар па камеры. Асуджаны на пажыццёвае зняволенне Ян Фарэмняк, супраць расправы над якім баставалі радамскія рабочыя. Другі рабочы радамскага зброевага завода — Метак Кавальскі, нястомны вынаходца іерогліфаў для турэмнага шыфру. Яшчэ адзін член ЦК КПП — Альфрэд Лямпэ...

Камуністы Заходняй Украіны. Паэт-самавук, іх ту-

рэмны бібліятэкар Косця Тацый. «Гаспадар» равіцкай камуны Грыц Пясцюк. Сардэчны разумны Трафім Марышчук, член ЦК КПЗУ. Шматгадовы сябар па камеры Радзівон Ільчук, якога за вясёлую, моцную душу Павел называў Тарасам Бульбай. Нястрымны, палкі рэвалюцыянер Паўлюк, што быў асуджаны тройчы на пажыццёвае зняволенне і, звыш таго, яшчэ пятнаццаць гадоў...

Прайшлі бясконца доўгія турэмныя гады. Прашумела вайна. Ідзе дванаццаты год мірнай, стваральнай працы. І як жа добра думаць пра тое, што многія, з кім ён пакутаваў, не сышлі са шляху, не стаміліся.

Героем Савецкага Саюза выйшаў з партызанскіх лясоў Валодзя Царук, стаўшы пасля адказным савецкім работнікам. Шчыра працуе для шчасця нашых людзей сакратар Баранавіцкага гарсавета Рафаіл Сяржант, які ў вайну баявым афіцэрам дайшоў да Берліна. Не паддаецца хваробе, усё яшчэ кратаецца ў сваім Дубне Радзівон Ільчук. Ян Ізыдорчык і Трафім Марышчук — заслужаныя дзеячы Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Ужо таксама, як і Павел, пасівеў былы светлы падлетак Самуіл Малька — палітработнік у Войску Польскім...

Некаторыя слаўна загінулі ў барацьбе з фашызмам. У верасні трыццаць дзевятага года ў грудзёндзскай турме былі захоплены і закатаваны гітлераўцамі Сеня Нос і Іван Сяржант. У тыя ж дні смерцю смелых загінуў Марыян Бучэк, які ўзначальваў групу былых равіцкіх палітвязняў — знішчальнікаў фашысцкіх парашутыстаў. У барацьбе за народную бацькаўшчыну загінулі польскі партызан Ян Фарэмняк і Метак Кавальскі — удзельнік варшаўскага паўстання. Летам сорак першага года ў наднёманскіх Шчорсах быў расстраляны захопнікамі вясковы актывіст Мікалай Пятровіч. У той жа страшны час украінскімі нацыяналістамі замардаваны быў Грыц Пясцюк. Над Бярозай-ракою загінуў партызанскі мінёр Аляксандр Самсыт, пад Сталінградам — Косця Тацый, над Нёманам — Мікола Шэўка, імя якога будзе высечана на граніце Любчанскага помніка...

Сляды другіх згубіліся ў віры гадоў...

А тады, у той незабыўны час, яны складалі дружны калектыў, членам якога так добра было адчуваць сябе

і яму, беларускаму хлопцу з бунтарскай Навагрудчыны.

...Вярнуўшыся са свентакшыскай турмы, Валодзя нездарма яшчэ раз напомніў Паўлу і іншым сябрам, што нельга верыць у нейкую, нават найменшую, чалавечнасць пілсудчыкаў. Уступкі вязням, на якія пайшла турэмная адміністрацыя, прадыктаваны былі толькі страхам перад націскам міжнароднага рэвалюцыйнага руху.

З прыходам да ўлады Гітлера, пасля разгрому нямецкай кампартыі, пілсудчыкі пачалі наступленне на рэвалюцыю шырокім фронтам, па-вучнёўску шчыра пераймаючы нямецкі фашызм. Адроджаны «Дранг нах остэн», хоць ён і быў у сваіх, не вельмі замаскіраваных, планах скіраваны ў першую чаргу супраць незалежнасці польскага народа, дапамог падняць галаву цёмным сілам польскага вялікадзяржаўнага шавінізму. Гэта добра адчулі нацыянальныя меншасці, правы якіх паступова і вельмі хутка былі зведзены да нуля. Першым папярэднікам Асвенціма — магілы польскага народа — быў гітлераўскі Саксэнгаўзен, які ў 1934 годзе паклікаў да жыцця жахлівай памяці санацыйны канцлагер Картуз-Бярозу. Людзі, што паслядоўна вялі Польшчу да катастрофы, былі асляплены адзінай са сваімі замежнымі партнёрамі і сапернікамі нянавісцю да першай краіны сацыялізма.

Пра еднасць ворагаў пралетарскай рэвалюцыі нядрэнна гаварыў і той факт, што нямецкія камуністы, якім удавалася ўцячы з гітлераўскіх канцлагераў у Польшчу, тут зноў траплялі за краты ці за драты. З такімі таварышамі Паўлу даводзілася сустракацца ў равіцкай турме. Адтуль, з фашысцкай Германіі, разам з яўрэйскімі пагромамі і гета ва універсітэтах, у турму прыйшла сегрэгацыя вязняў па нацыянальнаму прынцыпу. Пераймаючы ў сваіх нямецкіх калегаў, тэарэтыкаў расізму, польскія «вучоныя» вымяралі чэрапы палітвязняў, рабілі глыбакадумныя вывады з таго ці іншага колеру «камуністычных» вачэй і валасоў...

Гэты круты паварот у палітыцы пілсудчыкаў камуна адчула адразу пасля студзеня трыццаць трэцяга года.

Перш за ўсё была забрана бібліятэка. Шэсць тысяч

тамоў адборнай літаратуры згарэла ў кацельнай турмы. Праўда, частку кніг, найдаражэйшых, удалося схаваць. Творы класікаў марксізма-ленінізма, гісторыю партыі і некаторыя іншыя кнігі, патрэбныя для вучобы, расшывалі і па аркушу, а то і па лістку, хавалі ў матрацах з марской травы, па-майстэрску распускаючы для гэтага і сцягваючы нутраное шво. Ложкі, або хутчэй тапчаны з ножкамі на шарнірах, на дзень падымаліся да сцяны. На падлозе, у тых месцах, дзе станавіліся ножкі, прывінчаны былі бляшаныя падкладкі. Іх адвінчвалі, прарэзвалі дзірку ў падлозе і на шпагаціне, прынесенай з друкарні, апускалі пад падлогу скручаныя ў трубачку лісты з кніг, пасля чаго акуратна закаркоўвалі і закрывалі дзірку бляшкай. Лісты гэтыя даставаліся і хаваліся па меры патрэбы. Работа вельмі складаная, калі ўлічыць нядрэмнае вока адміністрацыі — «юдаш», акенца ў дзвярах. Матрацамі такім чынам карысталіся да трыццаць шостага года, пакуль не знайшоўся правакатар. Распароўшы матрацы, пшадоўнікі знайшлі ў іх апроч літаратуры, якой карысталася камуна, лісты з кніг і сшыткаў польскіх палітвязняў з часоў кайзераўскай акупацыі гэтых мясцін. Сакрэт бляшак пад ножкамі ложкаў не быў разгаданы да самага вызвалення.

Камуне забаранілі атрымліваць харчовыя пасылкі, а выпіска прадуктаў за ўласныя грошы абмежавана была да двух кілаграмаў хлеба, паўкілаграма цукру і двух пачкаў махоркі на месяц. Аднак і такая мера не апраўдала спадзяванняў адміністрацыі: няўлоўны «гаспадар» камуны дзяліў па-брацку і гэты нікчэмны харчовы запас, змагаючыся з небывалым дагэтуль голадам.

У барацьбе за свае ранейшыя правы таварышы жылі, трымаліся адзінствам, згуртаванасцю. Тых, хто паддаваўся нягодам, прасіў літасці,— выкідалі з камуны як адшчапенцаў. Аднак змагацца з кожным днём было цяжэй. Месцаў у карцэрах не хапала, непакорных зганялі ў падвал першага павільёна, на холад і «пост». Але махорка, праз спрытныя рукі крымінальнікаў-сувязных, трапляла і туды. Зноў насталі кароткія, маўклівыя прагулкі, цяпер ужо — дваццаць пяць крокаў адзін за адным...

У дзень пахавання Пілсудскага і ў Равічы галасілі

паравозныя гудкі, раўлі сірэны, гулі касцельныя званы, а Юнчыс, пшадоўнікі і дазорцы стаялі «на смірна». Вязням таксама было загадана ўстаць, аднак камуна сядзела, па-свойму выказваючы адносіны і да гэтай справы: «Няхай жыве рэвалюцыя!», «Здох крывавы дзяд!..» [1]

Правяраючы на практыцы свой «прагрэсіўны метад перавыхавання крымінальнікаў», Улан-Юнчыс арганізаваў з іх духавы аркестр і спартыўную каманду; была і «святліца», клуб, якія як сведчанні дастатку і культуры ў побыце вязняў дэманстраваліся падчас прыезду высокіх камісій, сваіх і замежных. Турма, як казарма, уставала і лажылася пад гукі горна. Калі, у выніку мюнхенскай змовы імперыялістаў, і пілсудчыкі, услед за Гітлерам, уварвалі кавалачак чэхаславацкай зямлі, аркестр Юнчыса маршыраваў вакол турмы, іграючы дзяржаўны гімн. І толькі палітвязні, прагульваючыся на двары, не спыніліся і не знялі шапак. Яны і ў той дзень крычалі: «Прэч з фашызмам!»

Пракурор Мотл, які час ад часу наведваў турму, каб выслухаць скаргі вязняў і адказаць на іх цынічнай усмешкай і жартачкамі, катэгарычна патрабаваў, каб кожны вязень, асабліва «вораг улады», уставаў перад ім і па-салдацку вернападдана дакладваў. Часцей за ўсё яго сустракалі седзячы, часамі нават... на парашы.

Асабістая справа Паўла распухла ад розных пакаранняў. У давяршэнне ўсяго, у пачатку трыццаць шостага года яго яшчэ раз судзілі — за «фальшывае абвінавачванне адміністрацыі ў збіванні палітвязняў».

Пачалося з загаду начальніка турмы: выносіць увечары ўсю вопратку на калідор. Без шэрага, вашывага рыззя, на якім ужо не змяшчаліся латкі, цяжка было вытрымліваць магільны холад адзіночак. Камуна адказала традыцыйным стукам у дзверы, па кратах і крыкам: «Холадна!» Адзін з пшадоўнікаў уварваўся ў камеру Паўла — актывісты былі на асобым уліку,— збіў яго з ног ударам ключа, пачаў таптаць нагамі. Тое самае адбылося і ў многіх іншых камерах. Назаўтра партыйны цэнтр прапанаваў таварышам пасіўнае супраціўленне. Вопратку адмовіліся здаваць. Тады прый-

---

[1] Маецца на ўвазе «дзядэк» — Пілсудскі.

шлі катаванні, не меншыя, чым у падвалах дэфензівы. За дзесяць год турма паспела выцадзіць Паўлаву маладую, вясковую сілу, а ўсё ж пшадоўнікі доўга крычалі стражнікам: «Сагнуць, сагнуць яго!» — каб біць ключамі па спіне. Сагнуць вязня маральна не ўдалося, і праз два месяцы адбылася яшчэ адна камедыя суда, у выніку якой Паўлу дадалі да пажыццёвага зняволення яшчэ тры гады турмы... Камедыянты-суддзі карысталіся ўжо не царскім, а новым, айчыннай маркі, кодэксам і пампезнымі мантыямі, нейкімі каронамі і «шарфамі» цераз плячо: у суддзяў — сінія, у пракурора — чырвоны, у адваката — блакітны. Сведкамі абвінавачвання былі, вядома, пшадоўнікі і стражнікі, якія дружна давялі, што ніякага збівання не было, а толькі «некаторае прымяненне фізічнай сілы». Пракурор, прыкметна падбадзёраны рашучасцю сваіх нямецкіх калегаў, крычаў пра бальшавіцкую небяспеку куды больш істэрычна, чым восем год таму назад, калі Паўла судзілі на «ўсходніх крэсах». Затое адвакат, наведаўшы падсуднага ў камеры, зусім не па абавязку службы і нават у прысутнасці стражніка расказаў яму, як малады камуніст Сяргей Прыцыцкі страляў у правакатара на віленскім працэсе над падпольшчыкамі. «Суддзі і паліцыя павінны былі заўчасна змяніць бялізну!..» — смяяўся ён разам са сваім падабаронным.

Так, барацьба за кратамі была жорсткая. І з волі няспынна даходзіла сюды магутнае водгулле ўсенароднай барацьбы, якая ў тыя дні шумела прыбоем антыфашысцкага Народнага фронту, натхнялася ростам магутнасці СССР, гераічнай барацьбой іспанскіх рэспубліканцаў, разам з якімі на штурм фашызму ішлі інтэрнацыянальныя брыгады. Пра гэта не маглі маўчаць нават і панскія адвакаты, сярод якіх, дарэчы, трапляліся і прагрэсіўныя людзі.

Набліжэнне вайны, у якой палітвязні адчувалі адно з двух — смерць або вызваленне, трывожыла і акрыляла іх надзеяй з кожным днём усё больш. Трагічны роспуск Камуністычнай партыі Польшчы і секцый яе, КПЗБ і КПЗУ, ударыў па таварышах вельмі балюча. Партыі больш не было, але камуністы засталіся самі сабою: яны змагаліся, як і дагэтуль, у імя ленінскіх несмяротных ідэй. Турэмная партарганізацыя была

распушчана, але камуна не перастала існаваць і дзейнічаць.

Улетку трыццаць дзевятага года Павел аслабеў і занядужаў, здавалася, канчаткова. Рукі і ногі, дашчэнту вымучаныя рэўматызмам, адмаўляліся служыць. З кожным днём цяжэй было дыхаць ад ціску ў грудзях, цяжэй думаць ад болю ў галаве... Сябры настойліва раілі прасіць дазволу на выпіску малака. Але адказ рымянага ўрача на скаргу яшчэ аднаго хворага быў вытрыманы ў агульнадзяржаўным стылі. Усе пракуроры, у кожнай з чатырох турмаў, дзе Павел сядзеў, на ўсякія скаргі адказвалі аднолькава: «У нас тут, псякрэў, турма». Намеснік «міністра справядлівасці», які нядаўна ласкава наведаў равіцкую турму, выказаўся значна танчэй: «А што вам тут, панове, гатэль «Еўропа»... Пан доктар, у сваю чаргу, паглядзеў на Паўлавы скуры ды косці і засмяяўся: «Як на пажыццёвага арыштанта, ты і так выглядаеш задобра. Зайдзі праз месяц».

Праз месяц было першае верасня 1939 года.

У апошнія перадваенныя дні камуна неаднойчы выступала з патрабаваннем: «Цяпер не час на спрэчкі, пашліце нас на фронт! Вазьміце нашы грошы ў фонд нацыянальнай абароны!» Патрабаванні гэтыя былі абумоўлены галоўнай задачай дня: гітлерызм — найбольшы вораг працоўных, неабходна выступіць супраць яго ў абарону польскага народа.

Грошы ад палітвязняў узялі, а на просьбу даць зброю адміністрацыя адказала маўчаннем.

Апроч усяго, к таму часу з цэнтральных турмаў краіны ў Равіч, пад самую нямецкую граніцу, было прывезена нямала палітвязняў, а з варшаўскай турмы — віднейшых дзеячаў камуністычнага падполля. Адступаючы, пілсудчыкі вырашылі пакінуць іх на расправу свайму нядаўняму шаноўнаму партнёру па націску на «варварскі, бязбожны ўсход»...

На досвітку першага верасня турма прачнулася ад гулу недалёкай кананады. На двары — незвычайная мітусня. У будцы, замест стражніка,— «абыватэльска страж», грамадзянская ахова з белымі павязкамі на рукавах. На стук з камер і на крык ніхто не адказваў... Пасля на калідоры другога павільёна пачулася мноства крокаў і шум... У камеры, дзе сядзеў Павел, і ва ўсіх іншых камерах таварышы пачалі развітвацца...

Гэта — або ўжо гітлераўцы, або яшчэ фашысты польскія — усё роўна смерць... Павел стаў першы, каля дзвярэй... Ды тут пачуўся звонкі, радасны голас Ванькі Рыся:

— Павел, выходзь! А дзе Валодзя Царук? Дзе Бучэк?

Дзверы камер паадчыняліся назаўсёды.

Гэта зрабілі сябры з крымінальнікаў, даўно ўжо, кажучы мовай адміністрацыі, «распрапагандаваных камуністамі». У служанкі начальніка турмы была ў першым павільёне «сімпатыя». Уранні дзяўчына прыбегла туды і перадала свайму хлопцу, што ні Улана, ні яго памагатых — нікога няма. Вязень пачаў крычаць: «Вады!» Вялы, разгублены стражнік, які не ўцёк, адчыніў камеру: «Ідзі напіся сам». Хлопец адабраў у яго ключы і перш за ўсё адамкнуў камеру, дзе быў Рысь. Любімец абодвух павільёнаў, былы кавалерыст-будзёнавец, навечна асуджаны за забойства казённага лесніка, ён быў адным з найбольш «распрапагандаваных»: не толькі дружыў з камуністамі, быў іх надзейным сувязным, але і сам вёў палітработу сярод крымінальнікаў. Першае, што зрабіў Ванька Рысь,— загадаў вызваліць палітвязняў: яны нам скажуць, як быць далей!..

...Ты памятаеш, Валодзя, той незабыўны вераснёўскі ранак — удары молата, якім мы разбівалі падвальныя дзверы, каб выпусціць на сонца нашых таварышаў, прывезеных з варшаўскай турмы; стрэл з вышкі, які паваліў на брук аднаго з сяброў, апошні, развітальны стрэл нашых катаў; хваляванне, з якім мы бралі ў рукі сваю хатнюю, вясковую вопратку, што цярпліва чакала нас на паліцы турэмнага склада; апошні наш выхад з турэмнай брамы — з палымянай рашучасцю ісці ў бой за Народную Польшчу?..

Не прынялі нас, не далі нам зброі. Дый не было каму прымаць: ахопленая панікай, у бязладдзі армія адступала на ўсход, услед за сваім «гераічным» начальствам. Пайшлі на ўсход і мы. Памятаеш мітынг у горадзе Сарнова — нашы прамовы, заклікі да барацьбы з фашызмам? У Познані нас акружыла «страж абывацельска» і зноў пасадзіла за краты. Ноччу, ахопленыя панікай, турэмшчыкі пачалі выпускаць нас праз форт-

ку жалезнай брамы — па двое. Так засталіся мы з табой адны, удвух пайшлі далей...

Не забуду ніколі той адзінокай польскай хаты каля шашы, куды я зайшоў напіцца. Над хутарам кружыўся бамбавоз з чорнымі крыжамі на крылах, а ў хаце стаяла на каленях маладзіца [redacted] малым. Яно было голенькае, нібы на руках у мадонны. І сама яна, простая, бедная польская жанчына, у сваёй безабароннай нявіннасці здалася мне святою. Усімі пакінутая, усімі ашуканая, яна рабіла адно, што магла,— малілася ўголас, і слёзы цяклі [redacted] яе ясных вачэй. І я — атэіст, я — мужчына, які ўжо не раз сустракаўся з ворагам, я таксама заплакаў...

Мы бачылі, мы адчувалі трагедыю польскага працоўнага народа, якога чакалі яшчэ калючыя драты і печы крэматорыяў. І мы не маглі нічога больш зрабіць, чым ісці, колькі сілы, на ўсход, дзе наша радзіма, дзе ўсё павінна было вырашыцца так, як трэба.

Памятаеш тую прыдарожную сцірту жытнёвых снапоў, у якой мы думалі набрацца сілы, тыя абрыўкі газетнай паперы, якімі ты абкручваў на досвітку мае акрываўленыя ногі, тую шашу, грукат салдацкіх ботаў і сялянскіх калёсаў, пад які мы ішлі насустрач сваёй невядомай будучыні?.. Я апіраўся на тваё плячо, ты вёў мяне.

А вось цяпер ты сам падбіўся, занямог. Сёння, на нашай любчанскай сустрэчы сяброў-партызан, я зноў балюча адчуваю разлуку [redacted] табою. Памятаеш, як ты казаў, што нам нельга стамляцца, што мы павінны яшчэ многа зрабіць?..

## СЦЕЖКАМІ МСЦІЎЦАЎ

Суровы ваенны лёс разлучыў іх на крывавым шляху адступлення.

Застаўшыся адзін, Павел праз два тыдні дабраўся да Варшавы, дзе вельмі хутка апынуўся ў родным асяроддзі рабочых і бежанцаў-палітвязняў. Урад пакінуў сталіцу, уцёк з краіны. Аднак дыфензіва яшчэ дзейнічала: з варшаўскіх турмаў былі выпушчаны ўсе, апроч камуністаў. Палітвязні, якія вызваліліся з іншых турмаў, у тым ліку многа дзяўчат з жаночай турмы Фар-

дон, зноў сталі тут, у неўзабаве акружаным горадзе, падпольшчыкамі.

Пры дапамозе таварышаў Паўлу ўдалося ўступіць у рабочы батальён, арганізаваны пэпэсаўцамі. Арганізатары крычалі пра тое, што Варшава, апяразаная рвамі і барыкадамі, стане другім Мадрыдам. Аднак капралы і малодшыя афіцэры рэзерву, якія абучалі добраахвотнікаў, загадвалі ім біць «вечных ворагаў Польшчы — немцаў» усіх падрад, не шкадуючы ні старых, ні жанчын, ні дзяцей. Павел і некалькі іншых камуністаў, якім таксама ўдалося атрымаць зброю, палічылі патрэбным сказаць радавым байцам батальёна, што гэта — няправільна: не кожны немец іхні вораг. Назаўтра ў «выўратоўцаў» — бунтароў — афіцэры перад строем забралі вінтоўкі.

Заставалася адно — скідаць з дахаў запальныя бомбы, ратаваць жыхароў, заваленых у бамбасховішчах, увесь час пільна асцерагаючыся старога ворага — дэфензівы.

«Чорны панядзелак» 23 верасня, калі на непакорны горад была кінута неймаверная сіла гітлераўскай авіяцыі, вырашыў лёс Варшавы. Праз тры дні па яе акрываўленых вуліцах загрукалі боты захопнікаў.

У натоўпе бежанцаў, якім было дазволена пакінуць руіны сталіцы, Павел падаўся на ўсход. Ён быў ужо значна бліжэй: над Бугам стаяла Чырвоная Армія.

Яшчэ ні разу ў жыцці — ні дагэтуль, ні пасля — Павел не адчуваў такой радасці, як у той дзень, калі ён сустрэў першых савецкіх людзей. Простыя хлопцы ў шэрых шынялях — беларусы, рускія, украінцы, казахі...— яны бралі сена ў прыдарожным маёнтку, калі да іх кінулася некалькі чалавек з радасным крыкам на беларускай, рускай і польскай мовах: «Браточкі! Таварышы! Родныя!..» Для хлопцаў з чырвонымі зоркамі на пілотках гэта было так звычайна, так проста на гэтай зямлі, якую яны днямі вызвалілі, і яны не вельмі здзіўляліся; кармілі чорным салдацкім хлебам і гэтых, і гэтых пацяшалі па-мужчынску грубаватай і па-юначы сарамлівай ласкай. А вось мужчына ў плашчы і ў капелюшы,— Паўла пераапранулі ў Варшаве,— трымае ў дрыжачых руках кавалак іхняга хлеба і так дзіўна глядзіць, і не можа вымавіць ані слова...

«Не трэба, таварыш, усё ўжо добра, усё прайшло!..»

Усё мінула, засталася нарэшце толькі радасць свабоды. На крылах яе, падганяючы час, ён дабіраўся ў Наднямонне. Вёз яго свой, савецкі цягнік, свае, ужо і тут савецкія людзі, што мякка высцілалі сенам воз, у хатах кармілі героя родным хлебам і родным словам так зразумелага яму і так заслужанага шчасця. Апошнія пяць кіламетраў — па той самай дарозе, дзе ён калісьці, цэлую вечнасць таму назад, хадзіў і з пашталь-ёнскай торбай, і ў кайданах, Павел прайшоў пехатою: хоць і спяшаўся вельмі, але не мог адмовіцца ад гэтай ціхай, даўно чаканай прыемнасці... Была хмарная кастрычніцкая ноч, калі яго на ўскраіне Ярэміч воклічам: «Стой! Хто ідзе?» — затрымаў чырвонагвардзейскі патруль. Так не хацелася адказваць,— думаў, што непрыкметна і нечакана зойдзе ў хату сябра, які ўжо, як ён даведаўся, дома... Аднак назваў сваё імя і прозвішча. Землякі не забыліся пра яго: хлопец з вінтоўкаю радасна закрычаў, на голас яго збеглася моладзь, старэйшыя, і ціхая хада яго ператварылася ў шумны, вясёлы паход да старой, маленькай Валодзевай хаты.

Толькі далёка за поўнач яны засталіся адны... А назаўтра і ў наступныя дні зноў амаль не зачыняліся дзверы, не змаўкалі воклічы прывітання, не магла закончыцца гутарка. Таварышы па быломy падполлю ішлі сюды з бліжэйшых і далёкіх вёсак, неслі ад матак і жонак сваіх падарункі — хлеб, сала, малако, ад сябе далучаючы тое, без чаго іх пачуцці былі б не менш святочнымі і хмельнымі.

І тут, у перапоўненай Валодзевай хаце, і ў ярэміцкім клубе, які — нядаўна адкрыты — звінеў песняй і музыкай, Паўлу хацелася ўшчыкнуць самога сябе і прачнуцца... Ды гэта быў не сон, а радасная, вынашаная ў марах сапраўднасць!..

Хацелася працы, аднак зусім непажадана і бязлітасна ў грудзях і ва ўсім целе дала сябе адчуць турма. Ён злёг. Як за братам, хадзіла за ім Валодзева жонка Алена, даўні іх таварыш па падпольнай рабоце, мужная і разумная беларуская жанчына. Стараліся не грукаць і не тупаць яе сыны і дачка, што спраўна павырасталі на гарапашным сірочым хлебе. Сам бацька дома бываў не часта: ён працаваў у часовым упраўленні Стаўбцоўскага павета, за трыццаць кіламетраў ад дому. У знак пашаны моладзь падаравала Паўлу радыёпры-

ёмнік; змайстраваны вясковым умельцам. Жывая чалавечая ласка і гэты самаробны апарат, з навушнікамі якога хворы не разлучаўся, у нейкай меры ўтаймоўвалі тугу па працы, па непасрэдным удзеле ў станаўленні савецкага ладу ў родных мясцінах.

У адзін з чарговых прыездаў Валодзі дахаты Павел усцешыў яго сваім бадзёрым выглядам.

«Віншую, браток! Дык што — пачнём?»

І Павел пайшоў на працу.

Спачатку ён быў загадчыкам паравога млына ў мястэчку Турэц, пасля яго абралі дэпутатам Мірскага раённага Савета, і Павел Арсеньевіч узначаліў Турэцкі сельскі Савет. Гэта была жывая, творчая праца — заўсёды з людзьмі, якія дзялілі, нарэшце, панскую зямлю, арганізоўвалі калгасы, будавалі клубы і школы... Незабыўны радасны час! Павышэнне, якое Паўлу неўзабаве прапанавалі, не вельмі ўсцешыла яго. Ды ён даўно прывык быць верным салдатам партыі — пайшоў на новую пасаду, у Мір, засеў за сакратарскі стол райвыканкома.

Калі наогул час у працы праходзіць хутка, дык тыя паўтара перадваенныя гады праляцелі, як адзін дзень, тым больш, што ён быў небывала сонечны і звонкі. Дзіўная рэч! — за гэты час Паўлу нават ні разу не прыснілася турма...

Затое ў чэрвені — ліпені сорак першага года ў памяці яго балюча ажылі ўспаміны крывавай трагедыі польскіх дарог. Цяпер ужо — зусім нечакана і незразумела — адступала Чырвоная Армія, палалі нашы вёскі і гарады, гінулі родныя людзі...

На параконным райвыканкомаўскім возе, з групай дзяўчат-медсёстраў і з новым сябрам — вечна вясёлым рускім хлопцам Васем Лапаціным, Павел дабраўся да Бярэзіны, трохі вышэй ад захопленага варожым дэсантам Бабруйска. У Магілёве яны, дарваўшыся нарэшце да вагонаў, павярнулі з Лапаціным на поўдзень: на чыгуначнай станцыі Іўкаўка, за Днепрапятроўскам, працаваў пуцевіком Васеў старэйшы брат Рыгор.

У Паўла і Васі (адзін — сакратар райсавета, другі — старшыня раённага аддзела Асаавіяхіма) была бронь, аднак хлопцы вырашылі ісці на фронт. Лапацін нават запэўніваў, што іх, добраахвотнікаў, згодзяцца паслаць у адну батарэю. Сінельнікаўскі райваенком чамусьці не

зразумеў іх, даволі бесцырымонна папрасіў ісці дахаты і чакаць. Неўзабаве былога артылерыста Васю прызвалі, а Паўла не пусцілі ў армію па здароўю.

У жніўні фронт прыйшоў і сюды, на Днепрапятроўшчыну. У перапоўненым бежанцамі вагоне, з капіталам, які налічваў сорак сем рублёў, за месяц Павел дабраўся да Сызрані, адкуль быў накіраваны ў Чкалаўскую вобласць.

Мяса-малочны саўгас «Сакмара», Зіянчурынскага раёна, меў каля дваццаці пяці тысяч гектараў ураджайнай зямлі, багатыя фермы і мала рабочых рук. Цяжкае было тое лета! У Паўле Арсеньевічу прачнуўся даўні рабацяга, які, па-народнаму забыўшыся ўлетку на нездароўе, шчыра працаваў і ў полі, і на ферме, знаходзячы час на гутаркі з людзьмі, якім ён, навучаны вопытам, расказваў, што такое фашызм. Увосень Паўла прызначылі сакратаром цэнтральнай канторы саўгаса, а ў пачатку зімы прыйшла нарэшце павестка з ваенкамата.

У лютую непагадзь за сто кіламетраў ехаў ён у Зіянчурына — з ажыўшай надзеяй... Але здароўе зноў падвяло: паслалі не ў дзеючую армію, а малодшым брыгадзірам у будрабкалону. І там, у горадзе Орску, быў фронт — адказны ўчастак агульнанароднага фронту барацьбы за перамогу над фашызмам. З заходніх раёнаў краіны сюды эвакуіраваўся вялікі завод, для якога — у прыспешаным тэмпе, не зважаючы на саракаградусны мароз,— будаваліся новыя карпусы. Суровае было жыццё будаўнікоў. Нялёгка было працаваць і загадчыкам клуба, у які, выматаўшыся за дзень на сцюжы пры няшчодрым тылавым пайку, людзі ішлі не надта ахвотна. Ды ўсё ж Павел, калі яго пасля брыгадзірства паслалі кіраваць работай клуба, выдатна спраўляўся і з гэтым абавязкам. Патрэбны былі нястомная выдумка, кемлівасць і душа. Усё гэта было, і за гэта яго палюбілі і там.

...Яшчэ з Сінельнікава Павел пісаў у Маскву, у Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі, просячы, каб яму памаглі стаць салдатам. Пасля, калі з роднага Наднямоння і на Чкалаўшчыну дайшло водгулле партызанскай барацьбы, пісаў ён яшчэ і яшчэ раз.

І вось у маі сорак другога года з Масквы прыйшла тэлеграма: з'явіцца ў распараджэнне ЦК КПБ.

* * *

Хвала і ўдзячнасць простым, шчырым людзям, самаадданая праца і некрыклівая мужнасць якіх так многа зрабіла для нашай перамогі!

У памяці партызан, якія пераходзілі лінію фронту, праваднікі іх, армейскія разведчыкі, застануцца скупымі на словы і нячутнымі ў хадзе лыжнікамі ў белых маскхалатах. Тыя разведчыкі ўспамінаюць сёння партызан, як хлопцаў і дзяўчат у салдацкіх бушлатах, наўючаных падрыўной амуніцыяй, смелых і прыгожых у сваім маўклівым імкненні на захад, у варожы тыл. Шкада, вядома, што ні адны, ні другія з іх не могуць сёння амаль нічога больш сказаць пра таварышаў, з якімі рабілі калісьці адну вялікую справу. Аднак радзіма ведае іх: імёны многіх красаваліся ў свой час у загадах, зводках і ўказах, пра некаторых напісаны песні, кнігі, карціны, некаторым пастаўлены помнікі...

А што сказаць Паўлу Арсеньевічу, дый кожнаму і яго сяброў па спецгрупе, пра таго беларускага дзядзьку, які вёў іх цэлыя суткі па заваленых снегам нетрах наддзвінскіх лясоў — без лішніх слоў, без компаса і карты, нават без імя свайго і больш-менш дакладнага адрасу? Можна толькі яшчэ раз паўтарыць тое самае слова падзякі, якім яны заплацілі яму на досвітку; можна толькі з цяплом у сэрцы яшчэ раз падумаць пра аднаго з тых безыменных герояў Вялікай Айчыннай вайны, якія сціпла называліся партызанскімі сувязнымі. Колькі іх засталося невядомымі, не адзначанымі славай, падобнымі да тысяч тых, якія на працягу стагоддзяў складалі і шліфавалі народную песню і казку,— натхнёных і бескарыслівых стваральнікаў прыгажосці народнага жыцця!.. Хвала і сардэчнае дзякуй вам за шчасце нашых дзяцей!..

Спецгрупа, у якой быў Павел, накіроўвалася ў Налібоцкую пушчу. Згінаючыся пад цяжарам зброі і амуніцыі, хлопцы і дзяўчаты з розных куткоў краіны ў пачатку суровага снежня сорак другога года перасеклі лінію фронту на поўдзень ад Вялікіх Лук і неўзабаве ўступілі на Віцебшчыну, у беларускі партызанскі край.

За плячыма ў кожнага з іх апроч аўтаматаў ды ўзрыўчаткі былі працавітыя месяцы вучобы ў Мурам-

скіх лясах, дзе яны рыхтаваліся стаць мінёрамі — гвардыяй партызанскіх атрадаў.

Вясною, на пасяджэнні ЦК КПБ, у Паўла спыталіся: «Пойдзеце ў варожы тыл? Вы нам пісалі пра гэта некалькі разоў». Стрымліваючы хваляванне, ён адказаў: «Давер'е партыі я апраўдаю».— «А як са здароўем?» — «Здароў. Навучыце толькі валодаць зброяй».

Давер'е партыі ён апраўдаў і на вучобе, якую выдатна закончыў са званнем інструктара падрыўной справы, і на інструктарскай працы ў той самай спецшколе. Апраўдае яго і там, у родным партызанскім Наднямонні.

А са здароўем усё ж такі дрэнна,— і снег здаецца заглыбокі, і рэчавы мяшок залішне цяжкі... Але што ты будзеш каму гаварыць, калі камсамолкі Паліна Осіна, Тамара Пачакаева і Вера Адзінец, маладыя дзяўчаты, ідуць вясёлыя, не ныючы. Праўда, часамі некаторую з іх хлопцы вядуць з двух бакоў пад рукі... Але ж мы — мужчыны. І чалавек ішоў, хоць часамі — больш сілай душы, чым цела...

Была такая кніжыца: «Спадарожнік партызана». Большая частка яе парад вытрымала пасля выпрабаванне практыкай. Аднак той дух звыш-асцярожнасці, якім курсанты надзейна зарадзіліся ад «Спадарожніка», тут, у варожым тыле, часта здаваўся трохі смешны. Не давялося, скажам, ні разу задам пераходзіць дарогу, і гітлераўцы не сядзелі пад кожным кустом... Яшчэ раз няхай будзе благаславёна святое імя — народ! Безыменныя сувязныя праводзілі пасланцаў Масквы патайнымі сцежкамі і глухімі дарогамі; партызанскія разведчыкі раскладалі перад імі няпісаныя, жывыя карты сваіх мясцін. Першы фашысцкі гарнізон, каля якога яны гужам прабіраліся ноччу, нават не аказаўся. Першую на сваім шляху чыгуначную лінію Віцебск — Полацк спецгрупа фарсіравала з боем пры дапамозе партызанскага атрада. Сяляне — у ацалелых хатах і ў зямлянках — усюды дзяліліся з імі скупымі запасамі хлеба, бульбы і талакна, на дарогу забяспечвалі самасадам, прагна распытвалі пра Маскву, пра Савецкую Армію, пра ўсю свабодную краіну, пра вызваленне і перамогу, якіх чакалі таксама ўпэўнена, як сонца пасля ночы.

Група ішла па «зонах пустыні» — жахлівы след фа-

шызму! — дзе на працягу дзесяткаў кіламетраў не было ні жывое душы, ні страхі, ні акна: адны пажарышчы, пакрытыя не патупаным снегам... Не раз ішлі яны па зямлі, вызваленай ад захопнікаў партызанамі. У райцэнтры Ушачы, напрыклад, працавалі савецкія ўстановы, лесапільны завод; у вёсках раёна дзеці вучыліся, штабы партызанскіх атрадаў карысталіся тэлефоннай сувяззю — са звонкімі, жывымі дратамі на новых слупах.

Беларусь змагалася.

У канцы снежня спецгрупа ўвайшла з поўначы ў Налібоцкую пушчу.

Яшчэ як толькі яны перайшлі лінію фронту і сустрэліся з групай партызан-разведчыкаў, што прабіраліся ў Маскву, у Беларускі штаб партызанскага руху, Павел пачуў доўгачаканы расказ пра дзейнасць народных мсціўцаў у яго родных мясцінах. У наднёманскіх раёнах — Стаўбцоўскім, Мірскім і Любчанскім, значна далей на поўдзень, да самай чыгункі Мінск — Баранавічы добра вядомыя былі два атрады: «Камсамольскі» і «Міцькаўскі». Першы — сваімі частымі падрывамі на жалезцы, другі — засадамі і нечаканымі налётамі «нёманскіх казакаў» на варожыя паліцэйскія гарнізоны. Як жа хацелася Паўлу хутчэй убачыць землякоў, хутчэй самому ўвайсці ў іх баявую сям'ю!..

Гэтая мара неўзабаве збылася. У тыя дні, калі і ў лясы, і ў вёскі Наднямоння найбольшай узнагародай за шчырую баявую працу даляцела вестка пра Сталінградскую перамогу, Паўла паслалі ў разведку на паўднёвую ўскраіну пушчы. Жаданым госцем пабываў ён у партызанскіх зямлянках, што хаваліся ў так знаёмым яму, былому лесарубу, гушчары, пабываў у родных Ярэмічах і ў іншых вёсках наваколля, дзе не пазарасталі яшчэ ў людской памяці яго падпольныя сцежкі, дзе, як учарашні светлы ранак, успаміналіся верасnёўскія дні вызвалення і месяцы свабоднай, раднасай працы.

Дарагія сябры-аднагодкі, таварышы па барацьбе з пілсудчынай, дарагая, цудоўная моладзь,— як непахісна, як весела верылі вы ў перамогу, як нястомна вы працавалі для справы народа! Многа звычайных драўляна-саламяных вёсак стала непрыступнымі для ворага; звычайныя, простыя мужчыны і хлопцы, нават

хлапчукі сталі грознымі падрыўнікамі і маладзецкімі кавалерыстамі. Адарваныя ад Радзімы, пакінутыя ў змрочнай, жахлівай невядомасці, толькі па закліку сэрца, што білася ў такт біццю сэрца народнага, сэрца роднай Камуністычнай партыі, выйшлі яны на змаганне з фашызмам у самыя цяжкія, чорныя дні першага перыяду вайны, выйшлі, спаліўшы за сабой усе масты, біцца не на жыццё, а на смерць. Жорсткая, суровая была барацьба. Часта палалі захопленыя гітлераўцамі вёскі: сагнаныя ў гумны, гарэлі старыя бацькі і маленькія дзеці... Так было ў Лядках, у Новым Сяле... Ды ад гэтага толькі мацней сціскаліся зубы, гартаваліся нервы, мацнела рука народных мсціўцаў. Паняцце фронту і тылу не існавала — фронт быў навокал. У партызанскім лексіконе назаўсёды было закрэслена слова палон; апошняя куля, апошняя граната — для самога сябе. Трапіўшы ў рукі ворага, моцна паранены або кантужаны юнак і пад слупамі шыбеніцы пляваў у твар фашызму. І тут, у Наднямонні, як і на ўсёй часова захопленай гітлераўцамі савецкай зямлі, быў партызанскі край, дзе гадам у блакітна-шэрых і чорных шынялях не спалася нават і за дратамі, у дзотах гарнізонаў.

Самыя блізкія для Паўла людзі — Валодзева сям'я— не здолеўшы эвакуіравацца, жылі ў роднай вёсцы. Пра лёс Валодзі, які ў гэты час працаваў па справах забеспячэння партызан пры штабе Заходняга фронту, сям'я нічога не ведала. Мясцовыя фашысты — паліцэйскія і бургамістры — здаволена запэўнівалі, што яны, Царук і Жалезняковіч, «самыя заядлыя камуністы», захоплены і знішчаны ў першыя дні вайны. Алена зноў цярпліва чакала і верыла ў перамогу. Старэйшы Валодзеў сын, юнак Шура, разам з іншымі камсамольцамі ўзяўся за зброю. Якой жа радаснай была іх сустрэча, якую вестку прынёс ім Павел з Вялікай зямлі!..

Як сустракалі, як прагна слухалі Паўла яго баявыя сябры па польскаму падполлю, з якім захапленнем і зайздрасцю глядзела моладзь на лічбу *1942*, выбітую на яго аўтамаце!.. На ўсім шляху ад лініі фронту лічба гэта была і пропускам, і доказам, што ўсе яны, сябры па спецгрупе,— *адтуль*, дзе родная Масква, дзе ўсемагутная партыя.

Вясной сорак трэцяга года Павел Арсеньевіч увай-

шоў у баявую, дружную, зямляцкую сям'ю атрада «Камсамольскі». Спачатку ён быў радавым мінёрам. Нялёгкая яна — бяссонная, страшная для ворага праца партызанскага падрыўніка. Вялікія пераходы пад грузам толу, часта выплаўленага са снарадаў, сырая, халодная зямля, якую неаднойчы даводзілася абмацваць грудзьмі,— усё гэта моцна падарвала і так небагатую Паўлаву сілу. Толькі праз месяц урач суседняй, Чкалаўскай, брыгады сяк-так справіўся з малярыяй і з агульнай слабасцю мінёра. Сябры не пусцілі больш Паўла на жалезку, прызначыўшы яго інструктарам падрыўной справы атрада.

Улетку таго самага года гітлераўцы блакіравалі Налібоцкую пушчу дзесяткамі тысяч рэгулярнага войска з намерам разлічыцца нарэшце з партызанамі канчаткова. «Камсамольскі» і «Міцькаўскі» атрады побач з іншымі атрадамі ўпарта трымалі на Нёмане абарону. Не вытрымаўшы націску самалётаў, артылерыі і браневікоў, адступілі ў пушчу і пачалі манеўраваць. Выручылі родны лес і народная кемлівасць. Стары мясцовы плытагон і лесаруб, дзядзька Андрэй Калеснік, стаўшы правадніком «Камсамольскага» атрада, перахітрыў фашыстаў з усімі іх самалётамі і аўчаркамі. Патайныя пушчанскія сцежкі і недаступная для чужынца глухамань захавалі, выратавалі народных мсціўцаў.

Разлікі і надзеі ворага не збыліся: налібоцкія партызаны выйшлі з блакады пераможцамі. Іменна ў гэты цяжкі час, пасля блакады, на дапамогу ім зноў прыйшла Вялікая зямля. З Масквы прыбылі прадстаўнікі ЦК Кампартыі Беларусі і Беларускага штаба партызанскага руху. З разрозненых атрадаў былі створаны брыгады, узмоцнена дысцыпліна, планы баявых аперацый каардынаваліся адзіным цэнтрам. Падпольны абком і райкомы ўзначалілі барацьбу. Пабольшала партызанскіх газет і лістовак. Узмацнілася сувязь з Вялікай зямлёй: стала больш карабінаў і аўтаматаў з лічбамі *1942* і *1943* на метале; цяжка параненых забіралі чырваназорыя самалёты. Сталі вядомы імёны «Платона» — сакратара Баранавіцкага падпольнага абкома і камандзіра абласнога партызанскага злучэння, і «дзядзі Валодзі», які ўзначаліў Стаўбцоўскі міжрай-

цэнтр, што аб'ядноўваў на поўдні пушчы пяць партызанскіх брыгад.

...Гэта быў ты — мой Валодзя! Шляхі нашы сышліся зноў, каб больш не разыходзіцца. Добра было адчуваць твой моцны сяброўскі локаць, чуць твае слова, заўсёды па-партыйнаму разумнае, рашучае, поўнае народнага аптымізму. І я таксама быў патрэбен табе — і ў радасці, і ў цяжкім роздуме...

У гэты час Павел Арсеньевіч быў выбраны камісарам «Камсамольскага» атрада, які ў далейшым, пасля арганізацыі брыгады «Камсамолец», стаў называцца «1-ым Камсамольскім».

У векапомны летапіс усенароднай партызанскай барацьбы «камсамольцы», як называла іх наваколле, упісалі некалькі яркіх старонак. Ва ўдзячнай памяці сучаснікаў і нашчадкаў застануцца і подзвігі сціплых людзей — наднёманскіх падрыўнікоў варожых эшалонаў і машын, начныя штурмы гарнізонаў, засады і акопныя баі — слаўныя баявыя справы непераможнай партызанскай пяхоты.

Да ліку тых, кім ганарыліся «камсамольцы», заўсёды належаў чалавек, беззапаветна закаханы ў справу Роднай партыі, разумны, чулы старэйшы таварыш Павел Жалезняковіч. Хворыя грудзі былога пажыццёвага вязня, у якіх нястомна б'ецца маладое сэрца, заслужана ўпрыгожылі два баявыя ордэны і непаўторная памятка тых дзён — медаль партызана Вялікай Айчыннай вайны.

## МАЛАДОСЦЬ НЕ КАНЧАЕЦЦА

Над Любчай позняя ноч. Асветлены бяссоннымі ліхтарамі, горда блішчыць гранітнай чырванню абеліск на брацкай магіле воінаў і партызан. І ў доміку сакратара райкома яшчэ ўсё свеціцца акно.

Многае можна ўбачыць за паўтары-дзве гадзіны на кінаэкране.

Непараўнана больш карцін і вобразаў змяшчаецца ў хвілінах начнога самотнага роздуму.

Колькі сяброў-таварышаў паўстае тады перад задуменным позіркам. І той, хто не вытрымаў жахаў панскай турмы ці ўпаў ад гітлераўскай кулі, і той, хто да-

лей ідзе па шляху змагання за народную справу,— усе ўспамінаюцца як жывыя. Можна глядзець у іх незгасальныя вочы, можна параіцца, сказаць ім сваё задушэўнае слова...

Заціснуўшы ў бледных руках учарашняга палітвязня вінтоўку, з імем Народнай Польшчы на вуснах ішоў ты на штурм гітлерызму ў верасні трыццаць дзевятага года — дружа мой, Марыян Бучэк. Ты ўпаў, як воін, на роднай зямлі, і мы — лістоўкай — расказалі пра цябе рабочым акружанай Варшавы. Цябе, Марыяне, як быццам няма, а я так часта разам з табой успамінаю нашы даўнія мары, радасна думаю пра новы, светлы дзень тваёй радзімы, пра дружбу нашых народаў...

Ты стаміўся, Валодзя, паддаўся той прыкрай прозе, што называецца словамі старасць, хвароба... А мне не верыцца, што ты і сапраўды не мог прыехаць сёння сюды, за нейкіх там семдзесят кіламетраў,— ты, хто заўсёды бачыцца мне маладым і вясёлым, хто не стаміўся і на падпольнай рабоце, і ў «вечных» камерах панскіх астрогаў, і на пасту партызанскага камандзіра, і на адказнай савецкай рабоце пасля вайны. Не, браток, мы яшчэ папрацуем, мы яшчэ пазмагаемся — разам і з аднагодкамі, і з маладымі.

Колькі іх выйшла на прасторы вольнага, мірнага жыцця з адной толькі паўднёвай часткі нашай партызанскай пушчы! Наша цудоўная змена, за шчасце якой і мы аддалі сваю маладосць. Каго з хлопцаў ні ўспомніш, да ўсякага падыходзяць словы: добры работнік. І паўтараць гэтыя словы таксама прыемна, як прыемна было гаварыць іх у дні вайны.

Кандыдатамі навук сталі твой сын Шура і сын дзядзькі Андрэя, нашага праваднїка ў блакаду, Валодзя Калеснік; афіцэрам з вышэйшай асветай — Жэня Крамко; настаўнікамі — Косця Балабановіч і Толя Цобкала; партыйнымі работнікамі — браты Мацко і Коля Буська... Гэта яны, тады яшчэ юнакі, былі аднымі з першых арганізатараў нашага «Камсамольскага» атрада. На адказнай савецкай рабоце працуюць Барыс Чубрык і Мікола Макей — былыя палітвязні, прадаўжальнікі нашай з табою справы ў давераснёўскім падполлі, у дні вайны — баявыя партызаны. У тыя дні прыйшлі сюды і засталіся з намі таварышы з розных куткоў неабсяжнай Савецкай радзімы. Старшынямі

калгасаў працуюць у Наднямонні аграном Васілій Багамазаў, рускі хлопец з-пад Невеля, былы палітрук «камсамольцаў», кубанскі ўкраінец Дзмітро Дзенісенка, калісьці — «Міцька», праслаўлены камандзір «нёманскіх казакаў». Лепшую ў Любчанскай МТС трактарную брыгаду ўзначальвае беларускі хлопец з Гомельшчыны Іван Канода, выдатны кулямётчык, з якім я разам прыйшоў у пушчу з Вялікай зямлі...

Многа іх, дружа Валодзя, і ўсе яны — добрыя, залатыя хлопцы.

Памятаеш той радасны час — гарачае лета сорак чацвёртага года, калі мы, ачысціўшы родныя мясціны ад фашысцкай погані, выйшлі на мірную працу. Яшчэ грымела вайна, яшчэ не ўзяты быў Берлін, а нам — па загаду партыі — давялося думаць пра хлеб, пра хаты для людзей, якія з лясных зямлянак прыйшлі на пажарышчы. Ты падаўся ў Баранавічы, разам з нашым «Платонам» — сакратаром абкома партыі Чарнышовым. А я... Так, сапраўды нечаканым і трывожным было тое, што мяне выбралі старшынёй Мірскага райсавета — радавала давер'е народа, трывожна было ад думкі, ці апраўдаю яго... А ўсё ж спраўляўся. Дапамагалі многа таварышы. І я, як ты, вучыўся ў народа.

...Гэта — ужо пройдзены этап.

Павел Арсеньевіч добра спраўляўся і на пасадзе старшыні райсавета, і першага сакратара Мірскага райкома партыі, якім ён быў выбраны ў канцы сорак дзевятага года. Аб гэтым сведчаць і тая павага, якой ён і далей карыстаўся ў сваіх землякоў, і ордэн Леніна, якім ён быў узнагароджаны да трыццацігоддзя БССР.

Многа працы было пасля вызвалення. Ледзь не палавіна насельніцтва раёна засталася пасля акупацыі без даху над галавой, без хлеба і жывёлы. Многа зямлі ўдзірванела за гады вайны. Запушчаны былі дарогі, разбураны масты, спалены школы, ператворан у руіны старадаўні гарадок Мір з маляўнічым замкам на ўскраіне. Хлеб быў патрэбен фронту. Палям не хапала рабочых, мужчынскіх рук. У канцы сорак шостага года арганізаваўся першы пасляваенны калгас «Перамога», які ўзначаліў, дэмабілізаваўшыся з радоў Савецкай Арміі, удзельнік даверасцёўскай падпольнай барацьбы Мікалай Куневіч. А ў пяцідзесятым годзе Мірскі раён, першы ў Баранавіцкай вобласці, завяршыў ка-

лектывізацыю. Тады ж калгасы былі ўзбуйнены і пачалі настойліва багацець.

Асабліва радавала Паўла Арсеньевіча будаўніцтва: дамы калгаснікаў, новыя фермы, школы і клубы, некаторыя — упершыню ў гэтых мясцінах — з саману. На мірскай зямлі ёсць выдатная гліна. На рыначнай плошчы райцэнтра спрадвеку чуецца ганчарскі перазвон па «вечных» гаршках і паліваных місах; здаўна вясковыя саматужнікі займаліся вырабам цэглы — у асноўным на печы і зрэдку на коміны. Творчая думка сакратара неспакойна імкнулася да большага — справе з будматэрыялам трэба даць нарэшце належны размах, тым больш што лес пасля вайны парадзеў небывала. У пяцьдзесят першым годзе ў калгасе «Перамога» была пабудавана першая ў СССР кальцавая печ без скляпення. На дым з гэтага коміна пайшлі калгасныя экскурсіі, нават з далёкіх раёнаў вобласці. Спакусіўшыся лічбай: паўтара мільёна цэглы за сезон, у наступным годзе яшчэ тры калгасы раёна пабудавалі такія заводы.

На ўзгорках і ў далінах працавітай і мужнай у дні вайны Міршчыны Паўлу хацелася бачыць мураваныя вёскі, поўны дастатак у кожнай сям'і. Для гэтага ён жыў, пра тое думаў, упарта шукаў і вучыўся, забываючыся на сваё здароўе.

Улетку пяцьдзесят другога года яго абралі сакратаром Любчанскага райкома партыі.

А вось цяпер канчаецца і гэты, яшчэ адзін жыццёвы этап. Наперадзе — зноў новае: новая праца, за якую ён гатоў узяцца з той самай настойлівасцю і хваляваннем, новыя людзі, да якіх ён таксама прыйдзе з адкрытай душою.

...Пра гэта думаў ён і на трыбуне перад помнікам, і позняй ноччу — дома.

* * *

Дарагі Павел Арсеньевіч!

Пасля поўных ваганняў дазваляю сабе ўмяшацца ў гэты расказ пра ваша жыццё са сваім аўтарскім *я*.

Памятаеце, у верасні мінулага года, калі мы разам хадзілі за кукурузным камбайнам, гутарылі з людзьмі, рукамі якіх ствараюцца багацце і прыгажосць, бяскон-

ца дымілі папяросамі, гаворачы пра жыццё, што навокал нас і ў любімых кнігах,— у адзін з тых дзён вы папрасілі:

— У Парыжы пайдзі перш за ўсё да Сцяны Камунараў, пакратай тыя камяні рукою, каб я хоць так, у тваім прывітальным поціску, ажыццявіў сваю даўнюю мару.

Парцье адной з гасцініц на бульвары Манмартр, дзе мы жылі, кішынёўскі яўрэй, што развязна «валодаў многімі мовамі», запэўніў нас, як парыжанін-старажыл, што ва ўсёй сучаснай Францыі мы не купім паштоўкі са здымкам тае сцяны. І мы з нашым сябрам, вашым і маім, напісалі вам на простай замежнай паштоўцы: «Каля Сцяны Камунараў мы палажылі кветкі».

Мы былі там у сонечны кастрычніцкі дзень, калі векавыя гмахі і раскошныя дрэвы Парыжа ахутвала лёгкая паэтычная смуга, якая прыйшла і туды, на Пер-Лашэз, у ціхі прытулак мармуру і зеляніны. Сярод дзівосных, пышных помнікаў людзям, большасць якіх дарма лічыла сябе патрэбнымі чалавецтву, позірк наш спыніўся на помніку героям Супраціўлення фашызму: дзве скаваныя ланцугамі рукі і словы на п'едэстале: «Яны памерлі, каб жыла Францыя». Другі, яшчэ больш сціплы помнік славы і бяссмерця — велічна простая сцяна, перад якою схіляе галаву ўсё прагрэсіўнае чалавецтва...

Пры ўваходзе на Пер-Лашэз, каля брамы, нам ветліва забаранілі браць з сабою фотаапараты. Не зразумеўшы гэтай неабходнасці, я схаваў свой «ФЭД» у кішэню. Суровы і непадкупны на выгляд вартаўнік, які — у чорнай накідцы, з чорнымі вусікамі пад чорным кепі — стаяў каля Сцяны Камунараў, на дзіва нам, азірнуўся навокал і дазволіў фатаграфаваць. Калі я потым падышоў падзякаваць яму за гэта, ён, яшчэ больш нечакана, тонам просьбы сказаў адно слова: Ленін. Я зразумеў яго і працягнуў яму значок з партрэтам Ільіча-дзіцяці. Той непаўторна мілы партрэт: Валодзя Ульянаў з доўгімі, як у дзяўчынкі, валасамі. Мабілізаваўшы ўсё сваё стыхійнае веданне французскай мовы, я хацеў нават растлумачыць: «Ленін — анфан... гарсон...» Ды гэта аказалася лішнім. Чорны, суровы вартаўнік паднёс партрэцік да вуснаў, пацалаваў яго і беражліва палажыў у нагрудную кішэню кіцеля. Адтуль

жа ён дастаў малую кніжыцу і, разгарнуўшы яе, паказаў партыйны білет французскага камуніста...

У той дзень у душы маёй па-асабліваму гучала песня «Слухай, хлопчык, у горадзе Парыжы», якую мы, Павел Арсеньевіч, спявалі ноччу ў машыне, едучы палямі роднага Наднямоння. Я ўспомніў адзін з вашых расказаў пра польскую турму: той момант, калі вы гаварылі пра першую пасылку з волі, пра значэнне непераможнага слова *таварышы*. Вы не маглі выказаць мне ўсяго значэння яго, а проста... заплакалі, стоячы сярод кабінета. Ёсць адно простае, празаічнае слова, якім мы ў падобных выпадках прыкрываем сваё хваляванне, і вы сказалі яго: «нервы»... Чамусьці іменна ў той дзень, каля Сцяны Камунараў, я канчаткова замацаваўся на думцы: як мне падаць ваша жыццё чытачу.

Гэта — ну, проста паэтычнае жыццё чалавека, які, нягледзячы на ўсе пакуты, не стаміўся глядзець на свет і народную справу з маладым, нягаснучым захапленнем, з маладой, натхнёнай верай у лепшае.

Цяпер, у творчым адзінокім роздуме над шляхам барацьбы і працы рэвалюцыянера з паэтычнай душою, я не толькі ішоў увесь час назіркам за вамі,— я думаў пра будучыню новых здзяйсненняў, у якую вы ўваходзіце сёння, ужо за рамкай майго сціплага расказу.

Я ўспамінаў недаступную для ворага глухамань Налібоцкай пушчы, нашу партызанскую друкарню, дзе мы — і вопытныя журналісты, і вясковыя самавукі — пісалі сатырычныя вершы, выразалі на грушавых чурках клішэ карыкатур і молада, па-запарожску смяяліся ў твар цёмным сілам, яшчэ ўсё моцным, а ўжо асуджаным на пагібель. І вы смяяліся з намі. Таксама молада,— як быццам не было ніколі турмаў, катаванняў і хвароб!..

Я ўспамінаў вас сакратаром Мірскага райкома партыі — у бурныя дні станаўлення калгаснага ладу ў заходніх абласцях Беларусі. З усмешкай клапатлівага, разумнага гаспадара, з наіўнай усмешкай паэта вы мне паказвалі, выняўшы іх з тумбачкі пісьмовага стала, свежыя цагліны — узоры першай прадукцыі новых калгасных заводаў.

Мне ўспаміналіся тыя празрыстыя жнівеньскія досвіткі, калі я ў нумары Любчанскай раённай гасцініцы прачынаўся, нібыта на святло з акна вашага домі-

ка,— каб ісці па родных палях побач з нястомным гаспадаром урадлівых ды працавітых мясцін, дзе, як вы кажаце, лёгка дыхаць калгасным паветрам.

Днямі пакінуў нас незабыўны «дзядзя Валодзя»...

Жывыя будуць змагацца, пойдуць далей.

Вам тым часам даручана кіраваць Карэліцкім раёнам, да якога далучана наша родная Міршчына.

Там ужо многае зроблена, яшчэ больш трэба зрабіць. На ўзгорках і ў далінах лягла ціхая зіма, якая дарэмна здаецца часам заслужанага адпачынку. Там зноў працуе ваша нястомная творчая думка.

*1957 г.*

# ПАРТРЭТ СТАРЭЙШАГА ТАВАРЫША

## ПЕРШЫЯ ШТРЫХІ

Яму — за шэсцьдзесят. Высокі і мажны, крыху прыгнуты пад цяжарам перажытага. Прадаўгаваты твар выразна адлюстроўвае шматгадовы роздум у нялёгкай адзіноце, энергію, яшчэ ўсё дзейсную, і волю, якую і сёння нельга было б зламаць. Гаворыць ён спакойна, глыбока хаваючы хваляванне. Смяецца разумным і чыстым смехам. Так і ўспомніш акрэсленне: «Добра смяецца — добры чалавек». Дарэчы, пахвала, якую найчасцей пачуеш ад майго героя: «Гэта — чалавек прыстойны», або, радзей: «Вельмі прыстойны таварыш». І ў шэрых, спакойных вачах яго самога відаць грунтоўна выпрабаваная прыстойнасць.

Сустракаючыся з ім на вуліцы, нават і той юнак, якому без пустахвальства хочацца подзвігу, да чаго ён шчыра рыхтуе сябе, нават і той не падумае, відаць, што ў такіх вось не вельмі прыкметных і свядома ціхіх, як гэты моцны стары, можна было б павучыцца, як спалучаць найвышэйшыя якасці — мужнасць і сціпласць.

. . . . . . . . . . . . . . . .

## НАРАДЖЭННЕ ЛЕГЕНДЫ

Малады, прыстойны таварыш, маёр Папоў, камандзір асобнага аўтабатальёна, ведаў жыццёвы шлях свайго нампаліта. І таму, калі — ранняй вясной 1945 года — іх батальён, спыніўся адпачыць на захад ад Познані і нампаліт, паважаны Рафаіл Івана-віч, сказаў, што зусім недалёка ад гэтай польскай вё-

сачкі стаяць тыя самыя Вронкі,— Папоў прапанаваў паехаць туды адразу.

Моладзь — так называў Рафаіл Іванавіч камбата і капітана-інжынера Кошалева — сядзела ззаду, а побач з няпрослым, рухавым шафёрам узвышаліся салідныя плечы старэйшага ў «вілісе», нампаліта. Цяпер ён, маёр Сяржант (не адзін усміхаўся, пачуўшы, як тут сталі побач званне і прозвішча), заўсёды цікавы і часта вясёлы субяседнік, сядзеў моўчкі, задуманы. Таму і моладзь маўчала.

...Гэта быў для яго сапраўды трыумфальны паход. Пачаўся ён улетку мінулага года, адразу за Бугам, у Бела-Падляскай.

Абветраны суровым подыхам вайны, савецкі афіцэр з ордэнам і дэпутацкім значком на выцвілай гімнасцёрцы ўзышоў на высокую, толькі што збітую трыбуну, убачыў мора галоў на плошчы, і ў вачах яго памутнела... З лёгкім надрывам у голасе пачаў ён слова свае да гэтых людзей: «Панове! Абыватэ́ле! Тавар́ышэ!..»

Гарачы і складаны час. Спаць не было калі. У Польшчы, амаль дашчэнту здратаванай гітлераўцамі, быў, як гаворыцца, поўны развал і няўстрой. А тут яшчэ заварушыліся аматары вярнуць пры выпадку пілсудчыну. Цяжка было будаўнікам народнай улады, сям-там яны плацілі за радасць сваю крывёю актывістаў, часта звярталіся па дапамогу да вызваліцеляў. Успамінаецца нампаліту просты, адкрыты твар маладога паляка-рабочага, які стаў раптам ажно павятовым старостам; стаў і ніяк не можа прывыкнуць да свойго святога права на гэта, да права, якое заваёўвалі і выпакутвалі цэлыя пакаленні. Шмат давялося паездзіць з тымі добрымі хлопцамі па гарадах і вёсках усходняй і цэнтральнай Польшчы, шмат гаварыць з людзьмі, многім даводзячы зусім, здаецца, ясную ісціну: воля прыйшла,— не проста вызваленне ад немцаў, а тая воля, якой чакаў і польскі працоўны народ, за якую змагаліся, дома і ў людзях, яго Касцюшкі і Дамброўскія!..

«Віліс» ідзе па вузкай паласе асфальту, абапал якога ружова-зеленаватымі пупышкамі ўступаюць у вясну дагледжаныя дрэвы. Спяваюць жаўранкі, варушацца па полі людзі. Сустрэнецца то параконная фу-

ра, то веласіпедыст, то вайсковая, наша, машына...

Шмат давялося паездзіць і самому. Доўгі час — у якасці кансультанта — з начальнікам тылу 1-га Беларускага фронту. Генерал-лейтэнант Анціпенка, звычайны, па-савецку просты чалавек, рабіў там, за Віслай, «цуды»... Не інакш, відаць, успрымала гэта мясцовае насельніцтва. Нампаліт усміхнуўся, успомніўшы першы «цуд». Ехалі неяк з генералам і дагналі па-інтэлігенцку апранутага мужчыну. Веласіпедыстаў там значна менш, чым тут, на багатай Познаньшчыне. Спыніліся: «Сядай, пан, падвязём!» Пан доктар (пасля даведаліся) сеў і... доўга не мог прамовіць ад здзіўлення: «Пан генерал ды падвёз?!» Калі ж, праз якую гадзіну, ён сышоў з генеральскай машыны — доўга такі кланяўся ёй капелюшом наўздагон... Або такі яшчэ «цуд». Спыніліся раз у вёсцы,— свежае пажарышча, і бабы па-польску галосяць на міжнародную тэму: «А што ж мы, бедныя, будзем цяпер рабіць?!..» — «Як загарэлася?» Чорт вазьмі! — нашы байцы вінаваты... І вось генерал паклікаў бліжэй капітана, камандзіра раскватараванага там падраздзялення, і загадаў яму далажыць праз два тыдні, што дом для пана... «Як ваша прозвішча?» Назваўшыся, пан Войцех Цвек, які загадзя зняў сваю кепку, цяпер яшчэ і пакланіўся. «Не трэба, бацька,— сказаў генерал.— Мы — свае людзі. Нашы бацькі ды дзяды наламаліся шапак, годзе!..» Легендай пойдзе па тых падляшскіх вёсках расказ пра бальшавіка ў генеральскіх пагонах, які зусім, ну, зусім не падобны да таго нялюдскага, бязбожнага страшыдла, якое так заядла размалёўвалі — ды і цяпер цішком падмалёўваюць — і пан дзедзіц, і ксёндз пробашч са сваімі памагатымі... Ды і пан доктар падумае, відаць, як жа яму, набожнаму інтэлігенту, паставіцца і да чырвоных, і да гэтай самай народнай улады...

— Вронкі!

Маёр Сяржант паказаў рукой налева.

Моладзь павярнулася туды. Убачылі шырокую, стальную стужку ракі, чарапічныя дахі і белыя сцены ў празрыстым гушчары яшчэ голага голля, некалькі старчакоў-касцёлаў і, наводшыбе, цаглявую чырвань турмы.

— Мог бы я вам, таварышы моладзь, і песню за-

спяваць пра гэтую заходнюю Бастылію пілсудчыны. Ды голас мой больш падыходзіць для дэкламацыі. Паслухайце:

Гэй, вэ Вронках стоі велькі гмах.
Сон там казэматы, карцэры і краты
І трупі запàх.
Збудовал го Бісмарк, вельмі монж,
Абы спадкаберцы — польсцы людожэрцы
Цешылі сен ўцёнж...

І гэтак далей. Напісалі — самі палітвязні, польскія камуністы. Многа было цудоўных, вельмі прыстойных таварышаў!..

Нампаліт на момант задумайся. А малады, чарнявы камбат усміхнуўся сваёй не па чыну сарамлівай усмешкай:

— Рафаіл Іванавіч, а пераклад?

— Ну, калі ласка! Я вам нават не просты, а як па Далю — талковы. На беразе Варты (рака гістарычная, і ў гімне польскім успамінаецца) было калісьці балота. Немцы завалілі яго эшалонамі зямлі і ў 1896 годзе збудавалі турму на дзевяцьсот адзіночных камер. Ёсць тут, як у песні гаворыцца, і казематы, і краты, і пах трупаў... Гніў народ, жыўцом раскладаўся — і ў камерах, і ў «цямніцах», і ў турэмным шпіталі... «Велькі монж», дакладней — «монж стану», вялікі, так сказаць, дзяржаўны дзеяч Бісмарк збудаваў гэты гмах на радасць сваім непрадбачаным спадчыннікам — польскім душыцелям рэвалюцыі... Ну, вось і Вронкі. Разбурылі ўсё ж такі многа і тут. Гарадок на тысяч пяць — набожных мяшчан, шаўцоў, краўцоў, цырульнікаў... Тут, Алёша, направа...

Неўзабаве «віліс» спыніўся каля турэмнай брамы. Афіцэры выйшлі з яго і, гутарачы, нейкі час глядзелі на няўмольна дабротныя муры. Чатыры паверхі. На чырвоным, цагляным фоне — амаль шахматная густата закратаных, замарожаных матавым шклом вокнаў. Адзіночкі, кожная — як павярнуцца. На цэнтральным, самым высокім корпусе — шпіль, нібы на вялізнай пікельгаўбэ, касцы пруcкага жандара. Побач з тым корпусам — касцёл. Шпіль без крыжа і шпіль, закончаны крыжам,— сімвал даволі красамоўны.

Калі прыезджыя падышлі да брамы, вартаўнік у

карычневым, даваенным шынялі польскага турэмшчыка з прытарнай вернападданасцю стукнуў абцасамі і, не адводзячы ад казырка двух пальцаў, схіліўся ў паклоне.

— Дзень добры,— адказаў маёр.— Проша адэмкнонць.

Два словы просьбы прагучалі для турэмшчыка загадам. Сезам паслужліва адчыніўся.

Пераступіўшы парожак жалезнай брамкі, Сяржант азірнуўся. Сустрэўшыся з Паповым вачыма, ён усміхнуўся першы. І той, таксама з усмешкаю, адказаў:

— Я разумею вас, Рафаіл Іванавіч,— такія пачуцці!..

— Пачуцці, дарагі мой, як у грэчаскага бога... Ха, ха, ха!.. Алімпійскія!..

Перад уваходам у першы корпус іх сустрэў яшчэ адзін у карычневым шынялі.

— Дзень добры, таважышэ! Чым магу служыць?

Замест адказу Сяржант упёрся праніклівым позіркам у яго поўны і румяны твар.

— Пан — хто тут?

— Пшадоўнік Гаўлячак. Дзяжурны.

Сяржант пацiснуў плячыма.

— Мы хацелі б аглядзець турму.

— Але ж проша бардзо! Я ахвотна дам панам праваднiка.

— Дзякуем. Мы і самі.

У сваю чаргу здзівіўся пшадоўнік. Ён згадзіўся з гэтым рашэннем высокіх гасцей, не паспеўшы нават выклікаць на твар ветлую ўсмешку культурнага гаспадара.

Вязняў у камерах было няшмат. Ваенныя злачынцы — зондэрфюрэры і іх мясцовыя прыслужнікі, некалькі ваўкаватых або размяклых на гніль эсэсаўцаў («Гітлер капут!..»), крымінальнікі, чалавек з пяцьдзесят. Рэшту камер займалі вронкаўскія жыхары з разбураных кварталаў гарадка.

Праз гадзіну госці вярнуліся з агляду турмы ў канцылярыю. Тым часам дзяжурны пшадоўнік сабраў у пакоі для спатканняў усіх работнікаў адміністрацыі. Зрабіў ён гэта па просьбе таго ж дзіўнага загадкавага маёра. Нават папрасіў у яго прабачэння,

што пан начальнік турмы, на жаль, адсутнічае па службовых справах. Дзіўны маёр спытаўся, як прозвішча начальніка, і, пачуўшы яго, нічога не адказаў...

Тады папрасіў на хвілінку ўвагі.

— Грамадзяне,— пачаў ён па-польску.— Шмат гаварыць, і тым больш знаёміцца — нам з вамі непатрэбна. Некаторым з прысутных тут лёгка прыпомніць мяне. Я, у сваю чаргу, з прыемнасцю пазнаю іх. Не бойцеся, пане дзяжурны,— вы былі не з найгоршых. Я быў тут у вас з трыццаць першага па трыццаць шосты. Той небяспечны выўратовец[1] з камеры № 30— гэта я, камуніст Сяржант. А вы, пане пшадоўнік, называліся тады трошкі інакш, чым цяпер,— проста стражнік Гаўлячак, з першага корпуса. Той пан, што збялеў немаведама чаго,— стражнік Фліс, той — пан Непяжыньскі... Няма, на жаль, вашага бога, панове, начальніка — «пане дзею» Дэмбіньскага... Ды справа не ў гэтым.

Вы тут трымалі калісьці чалавек пад тысячу камуністаў. Следам за вашым высокім начальствам вы пераконвалі самі сябе і другіх, што гэта былі вашы ворагі, больш таго — ворагі польскага народа. Ды вось жыццё зрабіла папраўку. Тыя, каго вашы ўлады лічылі сябрамі, ператварылі Польшчу ў лагер смерці, а тыя, каго вы лічылі ворагамі, праліваюць сёння сваю кроў за вызваленне вашай шматпакутнай радзімы, разам з сынамі новай, Народнай Польшчы ідуць на фашысцкае логава.

Дык вось, на развітанне, я хацеў бы пажадаць вам, грамадзянам новай Польшчы, у далейшым разбірацца ў сябрах і ворагах лепш, чым вы рабілі гэта да першага верасня трыццаць дзевятага года...

Так нараджалася яшчэ адна легенда.

Прамоўца пакуль што не думаў пра гэта. Ён проста гаварыў. Ён быў самім сабою, як заўсёды.

## ДЗЕНЬ, ШТО НЕ СТАЎ АПОШНІМ

Першага верасня трыццаць дзевятага года сённяшні маёр з ордэнам і дэпутацкім значком выходзіў на свет з-за турэмных муроў. Гэта было не тут, у Вронках,

[1] Бунтар.

а ў Каранове, другой турме на былой польска-нямецкай граніцы.

Праз гарлавіну страшнай брамы ён праціскаўся ў шэрым, велікавокім ад голаду і шыракаротым ад радасці натоўпе пакутнікаў-змагароў, якія раптам — нарэшце! — засталіся адны, без стражнікаў, шпадоўнікаў, пракурораў!..

На захадзе чуваць былі нямецкія гарматы... Вызваленых палітвязняў чакаў яшчэ вялікі шлях —у цэнтр краіны і на ўсход,— пад бомбамі з гітлераўскіх самалётаў, міма сініх шынеляў панскай паліцыі, якая і на бягу, уцякаючы, яшчэ будзе кусацца...

А ўсё ж гэта была ўжо воля, пачатак волі, развітанне з цэментавай магілай,— апошні этап бясконцага, жахлівага падарожжа!..

...Яно пачалося ўвосені 1925 года, у старажытным Нясвіжы.

Было іх тры таварышы, для ворагаў — тры злачынцы, найбольш небяспечныя з усёй групы падпольшчыкаў, арыштаваных тады ў навакольных вёсках.

Першы — ён, Рафаіл Сяржант, з невялікага мястэчка Гавязна̀, з працавітай і люднай серадняцкай хаты. Салдатам царскай арміі ён пабываў на ўсходзе, быў сведкам і ўдзельнікам рэвалюцыйных падзей у Віцебску і Кастраме. З уласцівай яму шчырасцю Рафаіл Іванавіч гаворыць цяпер, што толькі ў рэвалюцыю пачаў ён «упершыню асвойвацца з думкай, што можна кіравацца і без цара». Аднак дамоў, калі адтуль прагналі кайзераўскіх ваякаў, вярнуўся ён, можна сказаць, гатовым да рэвалюцыйнай працы.

Другі — Аляксандр Самсыт, бядняцкі сын з Новай Вёскі каля станцыі Гарадзея. Дванаццацігадовым хлопцам завезлі Шуру ў Пецярбург, на фабрыку курыцельнай паперы. Сам не змог бы, відаць, разабрацца ў законах таго пекла, дзе ён варыўся разам з сотнямі іншых. На шчасце яго — былі таварышы, а неўзабаве, на шчасце ўсіх нас — прыйшла рэвалюцыя. У родную вёску Самсыт вярнуўся пасля грамадзянскай вайны камуністам.

У параўнанні з гэтымі двума трэці быў ледзь не хлапчуком. Іван Сяржант, брат Рафаіла, маладзейшы на цэлых дзесяць год, яго вучань і друг.

Маляўнічы і хлебны гарадок, адзін з уладароў

якога яшчэ за бітву на Калцы трапіў у летапіс, Нясвіж добра вядомы народам, інтарэсы якіх кроўна скрыжоўваліся тут на працягу стагоддзяў. Многа польскай магнацкай раскошы і беларускага паднявольнага гора бачыла гэтая зямля, многа яна ўвабрала нявіннай крыві!..

У той лістападаўскі дзень быў кірмаш. Нясвіжская брукаваная плошча, на агульнабеларускі лад ашчаціненая процьмай задзёртых аглабель, шумела, аднак, не звычайна. І па гэтых мясцінах нядаўна пракацілася хваля пралетарскай рэвалюцыі, і тут, здавалася людзям, назаўсёды паложаны канец векавой радзівілаўшчыне!.. А вось яна зноў вярнулася...

Старадаўнюю ратушу сёння сцяной акружыла паліцыя. Там ідзе суд. І сялянская, шэрая плошча шуміць абурана і грозна не па-даўнейшаму...

Дый паны баяцца цяпер не па-даўнейшаму. За ўсякую цану яны стараюцца давесці, што кожны камуніст-падпольшчык — проста бальшавіцкі шпіён, якога, паставіўшы па-за ўсякім законам, найлепш судзіць «даразьным» — ваенна-палявым судом.

Так іх і судзяць сёння — двух узмужнелых, вопытных рэвалюцыянераў і юнака, які нядаўна пайшоў за парывам чыстага сэрца.

Хто ж суддзі? О, яны зусім дастойныя продкаў і справы, якую робяць! Яны прыехалі сюды з ваяводскага Наваградка,— тры буйнейшыя памешчыкі яго ўраджайных ваколіц: пан Вайціцкі, старшыня суда, паны Мурза-Мурзіч і Некраш — суддзі. І хоць прыехалі яны звычайным рэйсавым аўтобусам, не выключана, што ім, пасля выканання высокіх абавязкаў, давядзецца пабываць і за радзівілаўскім сталом, у замку, які прымаў не аднаго караля...

Падпольшчыкаў арыштавалі два тыдні таму назад.

Пасля катаванняў у дэфензіве семнаццаць чалавек адправілі ў наваградскую турму, а трох — самых злосных — вырашылі прыкончыць на месцы.

Рафаіла Сяржанта шпікі аднадушна называлі ініцыятарам і кіраўніком усёй гэтай групы бунтароў, асабліва небяспечных тут, каля самай граніцы з Саветамі. Апроч таго: «Езус Марыя,— як ён супраціўляўся!..» Самсыт і маладзейшы Сяржант былі выдзе-

лены з ўсёй групы, як найбольш актыўныя памочнікі Рафаіла. Удзелу ва «ўзброеным супраціўленні» гэтыя два як быццам не прымалі, але падвесці і іх пад «сонд даразьны» было не вельмі цяжка. За ўсёй пампезнаю камедыяй суда цвёрда стаяла на фашысцкім грунце звычайнае паліцэйскае самавольства.

Скаваных за рукі (старэйшы Сяржант — пасярэдзіне) падсудных раненька, пакуль была свабаднейшая плошча, прыгналі з турмы ў ратушу. Праз некалькі гадзін іх вывелі адтуль на плошчу. Па вузкаму праходу, зробленаму ў натоўпе паліцыяй, яны пайшлі, акружаныя строем салдат. Узвод спешаных уланаў у даўгаполых шынялях, з зараджанымі карабінамі на рэмені, злавесна грукатаў па мокрым бруку цяжкімі юхтовымі ботамі. Спераду, з шабляй нагала, машынальна чаканіў хромавы крок маладзенькі, збялелы, як смерць, паручнік.

Заўтра на досвітку ўсё будзе скончана.

У гліншчах за горадам загадзя, да вынясення прысуду, былі выкапаны тры ямы і каля кожнай укапаны слуп.

...Праз некалькі тыдняў, у турэмнай камеры, Рафаіл Іванавіч прачытаў аповесць са страшна простай назвай — «Апошні дзень асуджанага на смерць». «Ах, Гюго, які гэта геніяльны пісьменнік, як дакладна перадае ён перажыванні чалавека!» — ускліквае цяпер, праз трыццаць тры гады, адзін з тых нямногіх, што маюць права на такую своеасаблівую ацэнку.

Вялікі гуманіст і дэмакрат, Гюго сказаў свае слова супраць смяротнай кары з небывалай і, відаць, непаўторнай сілай бязлітаснага, месцамі проста жахлівага рэалізму. Ён гаварыў, аднак — мовай вобразаў,— пра *чалавека наогул,* пра жывую істоту, што не хоча паміраць і чапляецца за жыццё як толькі можа, нават — чакаючы цуду — становіцца на калені перад катам...

Тры сыны беларускай вёскі, вышэй сваіх вокан заваленай спрадвечнаю бядой і цемрай, трое *новых людзей,* пакліканых рэвалюцыяй да чалавечага жыцця, тры сціплыя, радавыя камуністы і ў зразумелым жаху перадсмяротных гадзін былі далёкія ад думкі пра «пакаянне», уніжэнне перад ворагамі працоўных.

«Сам арганізм не вытрымліваў таго жаху,— гаво-

рыць сёння таварыш Сяржант.— Доўга я потым усхопліваўся начамі на нарах са сну, нібы ад моцнага штуршка...

А ўсё ж нават і маладзейшы з іх — і не бывалы, і менш падкованы юнак Іван, «мой Ванюша» для Рафаіла,— ні на судзе, ні ў камеры смяротнікаў не праранiў слязы.

Яны ляжалі на голых нарах казарменнай гаўптвахты. А за дзвярыма, на гулкіх плітах калідора, чуваць былі неспакойныя крокі маладзенькага паручніка.

Старэйшы Сяржант пастукаў у дзверы і праз акенца-«юдаш» папрасіў, каб прынеслі паесці. Нават сказаў пра іхняе права на апошняе жаданне. Маўклівыя ўланы прынеслі ім тры кацялкі халоднай чорнай кавы і буханку чорнага хлеба.

«Пад'елі мы, закурылі і... раптам паснулі...»

Так расказвае сёння Рафаіл Іванавіч.

Самсыт расказваў пасля турэмным сябрам, што заснуў толькі ён, Рафаіл, а самому Шуру не спалася, бо ўсё ж ніяк не мог заснуць іх Ванюша...

Позна ноччу на калідоры пачуліся крокі, заляскаў у замку ключ, адчыніліся дзверы, і маладзенькі паручнік з нейкай паперкай у руках, не па-салдацку, а з прыплачам у голасе закрычаў:

— Панове! Жыцце! Кахані панове!..

Першага з іх, Рафаіла, які найхутчэй усхапіўся з нараў, гэты амаль юнак з такім нядаўна бледным, прыгожым тварам, гэты афіцэрык фанабэрыстай арміі абняў, помніцца, нават са слязьмі на вачах.

— Кайданы, да д'ябла кайданы! — крычаў ён.— Капраль, нясіце пілку — мы іх парэжам!..

Тэлеграма, якую прынёс паручнік, гаварыла пра тое, што «міністэр справедлівосці» не санкцыяніраваў прысуду.

Гадзіннік паручніка паказваў дзесяць мінут на трэцюю,— менш трох гадзін да канца, якога — не будзе!..

На тэлеграме быў подпіс — Тэодар Дурач.

...На судзе, у якасці сведак абвінавачання, выступала некалькі паліцэйскіх і шпікоў. І адзін сведка абароны. Стары дзядзька з Гавязны, выціраючы

кручком вялікага пальца слязіну, толькі і мог сказаць, што «Сяржантавы хлопцы — вельмі харошыя людзі... А гэтага чалавека, што з імі, не ведаю...» Мясцовы, нясвіжскі адвакат, які пры цару быў следчым, паціскаў плячыма: «Што рабіць, калі ўвесь састаў суда супраць вас?!.»

Гэта быў адзін бок справы. З другога боку, падполле дайшло сваім шляхам да слаўнага ўжо і тады, на пачатку свае дзейнасці, абаронцы рэвалюцыянераў, выдатнага юрыста і дзеяча МОПРа — адваката Дурача [1]. Напярэдадні суда, позна вечарам прыехаў з Варшавы адзін з яго памочнікаў. Не перамогшы на судзе, адвакат гэты даў свайму шэфу «вялікую, на цэлых 50 злотых», тэлеграму пра яшчэ адно беспрэцэдэнтнае самавольства, яшчэ адну магнацкую расправу над камуністамі.

Тэлеграма Дурача адрасавана была аднаму з асуджаных, Рафаілу Сяржанту, асабіста: каб часам не прыйшла яна хоць бы на некалькі мінут запозна.

Другую тэлеграму, ад самога «міністра справядлівасці», за гадзіну да выканання прысуду зачытаў у камеры смяротнікаў пан камісар паліцыі.

І ён, і яго падначаленыя засталіся зусім нездаволены, кажучы мякка, незразумелым парывам малакасоса паручніка, які да прыходу другой тэлеграмы паспеў параспілоўваць і закінуць у кут кайданы з усіх шасці рук.

...Кайданы знайшліся новыя. Неўзабаве перад дзвярыма казарменнай гаўптвахты адбылася цырымонія перадачы вязняў зноў пад ахову паліцыі.

Праз тры месяцы, у наваградскай турме, кончылася трывожная няўпэўненасць: Сяржантам далі замест смерці, па пятнаццаць гадоў турмы, Самсыту — дзесяць.

Яшчэ праз некалькі месяцаў судзілі ўсю нясвіжскую групу. Чатырох апраўдалі, шаснаццаці далі па чатыры гады, у тым ліку і тройцы «памілаваных». Для іх гэта не было яшчэ адным ударам: большы прысуд праглынуў меншы. Заставаліся ўсё тыя ж пятнаццаць і дзесяць гадоў, тая ж вера ў прыход са-

---

[1] Камуніст Тэодар Дурач, «Прафесар», загінуў геройскай смерцю падпольшчыка вясной 1943 года ў засценках варшаўскага гестапа.

вецкай улады і цвёрдае жаданне — вытрымаць, дажыць!

## «СКАЖЫ МНЕ, ХТО ТВАЕ СЯБРЫ...»

У сонцы млеюць над верасамі духмяныя сосны. На пясках адцвітае маленькая грэчка. Калоссе спалавелага, зусім празрыстага жыта вось-вось пачне, здаецца, пішчаць і скварыцца, як гарох на патэльні. На абмялеўшым бродзе незнаёмай ракі, нават не па калені ў вадзе моўчкі стаяць цярплівыя каровы. Авечкі на парыжэлым бубне пашы збіліся ў кучу і, не здымаючы кажухоў, прытаіліся ў задыханым адчаі. За машынай, калі кончыцца асфальт і брук, вяла паўзе — на бяду пешаходам — доўгая хмара жорсткага, неадчэпнага пылу.

— Тут ужо, калі чалавек памрэ, не трэба казаць: «Зямля яму пухам...» Лёгенькая яна і так. Быценьшчына, беларуская Сахара...

Загарэлы мужчына ў сонечна-саламяным капелюшы і кужэльна-белым кіцелі, чалавек з прыемным выглядам шчаслівага бацькі — дома і паважанага начальніка — на працы, Рафаіл Іванавіч, сядзіць побач са мной у службовай «Волзе» і нетаропка, грунтоўна разсказвае:

— Сюды даходзілі калісьці нашы наднёманскія хадакі. Пуда з паўтара літаратуры за плечы, і — хавай мяне, матухна ноч!.. Ужо ў канцы дваццаць другога года была ў нас з быценьцамі сувязь. Што за людзі раслі на гэтай зямлі!..

Гэта — працяг расказаў, якія я слухаю ўжо некалькі дзён: то ў ліпавым ды бярозавым цяні нясвіжскіх і стаўбцоўскіх гасцінцаў; то ва ўтульнай хатняй раскошы невялікага саду, на адной з зялёных вуліц Баранавіч; то ў нумары гасцініцы — чыстым і прахалодна ціхім, з наіўным прадуктовым нацюрмортам і непадкупным вопісам маёмасці на сцяне.

У гэтых расказах многа ўвагі і сэрца ён аддае сябрам па падполлі.

— Шура Самсыт. Чалавек, які, відаць, ніводнага дня не жыў для самога сябе, таварыш не проста вельмі прыстойны, а на рэдкасць разумны, цвёрды, сціп-

лы. Такім ён быў дома, у сваёй Новай Вёсцы, дзе карыстаўся бясспрэчным аўтарытэтам высакароднага чалавека з добрай душой і залатымі рукамі; такім ён быў у панскіх турмах і ў дні вайны, калі — падсухі, увішны, нячутны мінёр — хадзіў да самай геранчнай смерці на жалезку...

— Валодзя Царук. Расказваюць — ха, ха, ха! — як ён ляцеў з-за лініі фронту ў партызаны. Сабралі іх у ЦК, пытаюцца, хто з якім настроем паляціць? Ну, адзін кажа, што буду біць ворага да апошняга ўздыху, другі — не дам яму, фашысту, ні днём, ні ноччу спакою, трэці — паўзрываю Гітлеру ўсе масты ды дарогі... «А вы, таварыш Царук?» Бачу яго: устаў Валодзя, невялікі ростам, заікаецца: «Я спушчуся, таварыш сакратар, на сваёй зямлі і, перш за ўсё, пашукаю паблізу якога-небудзь баранчыка. Зарэжу яго, распалю агонь, напяку, наемся і лягу спаць. А там ужо, устаўшы, будзе відаць, сама справа пакажа...» Ха, ха, ха! Пазнай, хто не ведае, што гэты чалавек, як злосны вораг польскага фашызму, быў асуджаны панамі на пажыццёвую турму! Цяжка і падумаць было таму, хто мелка глядзіць, што гэты жартаўнік стане ў партызанах Героем Савецкага Саюза!..

— Быценьскі прыгажун — Васіль Гудзік... А маці, якая маці была ў яго! Гадоў пад дзевяноста было ёй, казалі, у вайну, калі яе гітлераўцы расстралялі. Тады ж, у дваццатых гадах, едучы ў горад на спатканне да свайго Васіля, ніколі бабуля не брала білета: вельмі проста — не было за што. Так дапросіцца, выкруціцца неяк і даедзе. Бывала і ў баранавіцкай, і ў навагрудскай турме, і да самых Лукішак даходзіла. Спачатку навалочыцца па панскіх кватэрах, настаіцца каля дзвярэй, а тады ўжо нясе свайму Васілю нажабраваную падаянку. Затое ж нараскажае яму, а ён ужо нам,— ну, з тыдзень жывём гэтай радасцю. Ха, ха, ха!.. Вось-вось сусветная рэвалюцыя!.. Благаслаўлёная мана! Цудоўная вера простага чалавека!..

Задумаўся ён, Рафаіл Іванавіч. Пасля ізноў:

— А што за хлопец быў Коля Кузьміч!..

...У вёсцы Козіна каля Быценя, у Ганны Лявонцьеўны Кузьміч, пажылой калгасніцы, падобнай да настаўніцы-пенсіянеркі, цудам захаваліся пісьмы ад брата Міколы. Цэлы стус патрапаных, пажаўцелых лісткоў,

запоўненых дробным, энергічным почыркам, на трох мовах — беларускай, рускай і польскай. На пісьмах — сляды турэмнай цэнзуры: чырвоныя штампы, нядбайныя росчыркі, прадаўгаватыя тушавыя плямы на месцы «крамольных» слоў. Стаяць там даты — дні і месяцы дваццатых і пачатку трыццатых гадоў, назвы многіх, вядомых у панскай Польшчы, палітычных турмаў.

Пісьмы адрасаваны бацьку, малодшаму брату, сябру, а ў пераважнай большасці — сястры Ганне, у той час — Нютачцы, любімаму, вернаму другу. Выгнаная з роднай хаты бядою, яна служыла ў гарадскіх чыноўнікаў і, з горкай працы рук, дапамагала брату-палітвязню. Калі ён сядзеў бліжэй — у Баранавічах, Наваградку, і Вільні,— яна пераязджала на службу з горада у горад следам за ім.

Вясковы самавук, інтэлектуальны рост якога заўважаецца ад пісьма да пісьма — ад турмы да турмы, так пісаў панскай служанцы: [1]

«...Не турбуйся, дарагая, думаю, што ўсё перажыву і падыхаю яшчэ чыстым паветрам Быценьшчыны. Становішча ў нейкай меры, хоць і вельмі няшмат, палепшала: сяджу ўжо не ў сутарэнні, а ў параўнаўча прыемнай камеры *з драўлянай падлогай,* перад акном якое толькі днём адчынена, за сцяною расце каштан, які напамінае мне каштан у канцы Козіна, направа бачу *дзве яблыні* [2] з чырванаватымі ўжо яблыкамі, налева — на балконе і на даху заўсёды ходзіць чародка галубоў рознай масці, а раніцамі заўсёды бачу ўсход сонца!.. Усяго гэтага я быў нейкі час пазбаўлены і цяпер, хоць праз краты, магу здаволіць свае прагныя вочы...

...Я ўжо зноў нажыў падушачку, хоць і маленькую, аднак тут яе ў мяне забралі... А галава мая *пасля аперацыі* [3], вельмі чулая да найменшай нязручнасці...

...У вачах у мяне — як быццам нехта пяском шаруе. Трэці тыдзень, як яны адмаўляюцца служыць.

---

[1] Цытую з розных пісьмаў, з поўным захаваннем асаблівасцей арыгінала або ў дакладным перакладзе з рускай ці польскай моваў.

[2] Падкрэслена М. Кузьмічом.

[3] Тут і ніжэй падкрэсленні мае.

...Ведаеш, Нютачка, неяк параўнаўча паволі цягнецца час, неяк моцна цягне на волю. У першыя гады гэта не заўважалася... Са «Стэфаньскай» [1], памятаю, пісаў што час проста бяжыць. А тады ж ён павінен быў цягнуцца: *такім я тады быў інвалідам, што самому было брыдка.* А цяпер...

...Яшчэ раз напамінаю, каб ты не адымала ў самой сябе, на скарачала свае патрэбы і не пасылала мне...

...Цікава, што, прачытаўшы «На заходнім фронце без змен», ты вынесла такое, як пішаш, уражанне. Мы тут чакалі горшага...

...Між іншым, ці чытала ты «Маці» М. Горкага? Для тых, хто пачынае знаёміцца з рабочым рухам, гэта — цудоўная рэч...

...Часта пра стан твайго духа шмат гаварыў твой выгляд, твая гутарка і перамены на твары, калі ты бывала ў мяне ў розных месцах...

...Я неаднойчы пісаў табе пра тое, як трэба глядзець на маё цяперашняе становішча, а ты ўсё ж такі глядзіш на яго як на няшчасце і мяне лічыш няшчасным, дастойным спачування... Ты нават не падазраеш, што такая ацэнка, апроч таго, што яна — зусім няправільная, не вытрымлівае ніякай крытыкі,— яна яшчэ ў пэўнай меры і абражае мяне. Гэта — рэзультат барацьбы, нашай класавай барацьбы з капіталістычным ладам... Мы змагаемся, Нютачка, і будзем змагацца... Мы наогул супраць таго, каб нас шкадавалі. Калі дапамагаць нам, дык трэба дапамагаць па абавязку... пасільнага ўдзелу ў гэтай барацьбе, аблягчаць нам цяжкія ўмовы гэтай барацьбы, а не з-за нейкага недарэчнага і непатрэбнага нам шкадавання, якога дастойны тыя, што шкадуюць нас...

...Цяпер з Быценьшчынай трымаю сувязь цераз Гудзіка. Ён параўнаўча даволі часта піша мне і кожны раз паведамляе што-небудзь каштоўнае... Вось, напрыклад, у апошнім пісьме падрабязна паведамляе пра арганізаваную імі, больш правільна — іх прафсаюзам забастоўку вазакоў, якую ў цэлым добра правялі і выйгралі... У такім закутку, у такой глухамані і раптам — прафсаюз, забастоўка, сутычка з паліцыяй у сувязі з гэтай забастоўкай!..

---

[1] «Стэфаньска» — адна з трох віленскіх турмаў.

...Віншую з наступаючым летам... Колькі розных пачуццяў нараджаецца, калі глядзіш праз краты на зеляніну або — ноччу — на месяц!..

...Калі б вы там з дзяўчатамі, цэлаю бандай, назбіралі ягад і, высушыўшы (так лепш і танней пераслаць), прыслалі нам, былі б мы невыказна рады і ўдзячныя...

...Ах, які ж ён усё ж такі цудоўны «божы свет»! Якая цікавая, бурлівая і шматфарбная эпоха, у якой мы жывём! Нашы нашчадкі па-свойму будуць нам зайздросціць, хоць на нашу долю прыйшлася цяжкая, непасільная праца, уніжэнне і пагарда з боку пануючых і, нарэшце, турмы... турмы... турмы...»

Заўвагі да пісьмаў — да гэтай мужнай і таленавітай споведзі — рабіў Рафаіл Іванавіч.

— Галава яго, піша Кузьміч, *«пасля аперацыі»... «Такім я тады быў інвалідам, што самому было брыдка...»*

Ах, Мікола, Мікола!.. Арганізатара, душу быценьскай групы, арыштаванай разам з намі, яго трымалі ў адной бялізне ў сутарэнні, зімой, паадчыняўшы вокны. Цкавалі аўчаркай. Колькі разоў яна трымала ў зяпе яго галаву!.. Такая вось «аперацыя»... Прывезлі яго ў Навагрудак — не чалавек, а руіна. А было ж яму ў той час дваццаць два. Высокі, моцны, энергічны, жыццярадасны. І сціплы... Ды што там — сціплы!.. Калі нас білі, заўсёды неяк здаралася так, што Коля прымаў першы ўдар, калі мы дзялілі хлеб, Коля заўсёды браў апошні кавалак. Яму нават, бачыце, «брыдка было, што быў такім інвалідам»! Ён яшчэ мог пісаць такія аптымістычныя пісьмы!.. З турмы ён выйшаў ад нас у трыццаць другім. З жаўтухай, з перабітымі барабаннымі перапонкамі. Пісаў мне з вёскі некалькі разоў. Пасля пайшоў за мяжу, у Савецкі Саюз — як дадому. Напісаў мне адтуль дзве паштоўкі. А потым... Потым, пасля трыццаць сёмага, змоўк. Назаўсёды... Ну, ды гэта ўжо.. трохі іншая тэма...

...Заўсёды, калі мой герой гаварыў пра сваіх сяброў, таварышаў па змаганню, калі ў яго знешне спакойным голасе я чуў задушэўныя ноткі маладога захаплення і мудрай удзячнасці долі і я ўспамінаў міжвольна першыя словы вякамі праверанай прыказкі:

«Скажы мне, хто твае сябры...»

Пра самога сябе — зусім натуральна, без позы — гаворыць ён стрымана. Пра сябе толькі факты, скупыя і нават, як для каго, арыфметычна сухаватыя.

Ну што ж, другую палавіну прыказкі выношу ў загаловак наступнага раздзела.

## «...Я СКАЖУ, ХТО ТЫ САМ»

Наваградак, Вільня, Равіч, Вронкі, Грудзёндз, Каранова...

Гэта — не проста назвы гарадоў, нават не проста пералік вядомых санацыйных турмаў, гэта этапы пачэснага і жахлівага шляху барацьбы за родную справу, па якіх ён чатырнаццаць год ішоў з узнятай галавою.

На пачатку гэтага шляху, у канцылярыі Навагрудскага акруговага суда адбылася такая размова. Тры вязні — браты Сяржанты і Самсыт — папрасілі выдаць ім копію прысуду.

— Навошта? — здзівіўся пан сакратар суда.

— Калі будуць судзіць вас, дык спатрэбяцца дакументы абвінавачання.

— Не дачакаецеся, паны!

— Нічога, у нас вытрымкі хопіць.

Замураваны ў сцюдзёнай камеры, ізаляваны нават ад сяброў нядолі, Рафаіл Сяржант з захапленнем чытаў калісьці пра жыццё і дзейнасць Луі-Агюста Бланкі. Палымяны, нястомны рэвалюцыянер двойчы прысуджаўся да пакарання смерцю, двойчы перажываў смяротны жах і... радасць пераходу ад гільятыны да пажыццёвай катаргі, некалькі разоў вызваляўся і зноў трапляў за краты, дзе прасядзеў больш трыццаці гадоў.

— У параўнанні з ім,— успамінае сёння Рафаіл Іванавіч, усміхаючыся па-свойму чыста,— я з маімі пятнаццаццю гадамі часта здаваўся самому сабе толькі бедным яго сваячком.

Бясспрэчна, ён — адзін з вядомых удзельнікаў дарэвалюцыйнага... верасьнёўскага рэвалюцыйнага падполля — добра ведае, што азначаюць чатырнаццаць год фашысцкай турмы і якога імя заслугоўвае чалавек, што прайшоў праз гэтае пекла нязломным. Гэтым імем яго называ-

лі ўжо неаднойчы. Нават і ў параўнанні свайго «скромнага ўдзелу» са слаўнай дзейнасцю такіх, як Бланкі, хаваецца пачуццё ўласнай годнасці, адчуванне ўласных заслуг. Што ж, героі маюць права на такія адчуванні. Аднак яны не павінны забывацца і на другую, не менш неабходную ўмову людской пашаны, на свой абавязак — быць скромным, глядзець не назад, а наперад.

Гэтую якасць таварыш Сяржант збярог да сённяшняга дня.

Мужнасць і сціпласць яго гартаваліся люта.

«З усіх чатырнаццаці гадоў,— піша сёння ў сваіх кароткіх успамінах Рафаіл Іванавіч,— не памятаю ніводнага, які прайшоў бы ў звычайна ціхіх абставінах, без дэманстрацый, галадовак і іншых арганізаваных выступленняў».

З наваградскай турмы,— малой, заўсёды перапоўненай, бруднай і душнай,— помніць ён першамайскую дэманстрацыю 1926 года, чырвоныя банцікі на грудзях і баявую песню, якую турэмшчыкі не маглі суняць і пры дапамозе паліцыі. Было іх, палітвязняў, няшмат, менш за сотню, але песні іх, на працягу цэлага дня, слухаў увесь дзесяцітысячны гарадок.

Пасля былі славутыя Лукішкі — Бастылія польскага фашызму на «ўсходніх крэсах». Вронкі прыйшліся ў спадчыну Пілсудскаму ад Бісмарка, Лукішкі — ад Мікалая II. І тут усё было зроблена па апошняму слову жандарскай тэхнікі. Гасудар імператар «соблаговолил» асабіста праглядзець малюнкі і чарцяжы праектаванага гмаху, прычым яму «благоугодно» было выказаць жаданне, каб храм гасподзен быў выкананы тут асабліва «благолепно». Не ведаю, на жаль, што за слова «рачыл поведзець» [1] пра Лукішкі яшчэ адзін «тытан думкі» — Пілсудскі, аднак значэнне гэтай турме, адной з 360 турмаў сваёй паліцэйскай дзяржавы, ён надаваў, відаць, асабліва. Недарма ж яна заслужыла назву «рассадніка туберкулёзу»... Агульныя камеры заўсёды былі перапоўнены. У адзіночках сядзелі па два чалавекі. Аднаму — ложак, другому — сяннік на цэментавай падлозе. Пачнеш слацца ці прыбіраць пасцель — страшэнны пыл ад спарахнелай чорт-

[1] Меў ласку сказаць.

ведама калі саломы!.. Тут і пачаў, па прыкладу многіх, харкаць крывёю Ванюша Сяржант... Апальвалася турма — абы не размарозіліся трубы паравога ацяплення. Да холаду — голад, ад касцістых лапаў якога ратавала толькі дапамога родных, МОПРа і еднасць турэмнай камуны. Выконваючы волю вышэйшай і найвышэйшай улады, лукішскія стражнікі і пшадоўнікі проста спаборнічалі ў здзеку над палітвязнямі. Многім запомніўся сівы, згорблены пшадоўнік-пенсіянер, які прыходзіў на турэмны двор амаль штодня, ужо не на службу, а па сваёй ахвоце,— каб толькі паглядзець на любыя сэрцу муры, вартаўнічыя вежы, замкі ды краты... Святам для яго было — прысутнічаць пры павешанні, угаворваць ахвяру ласым, шчаслівым шапяляннем: «Нічога, сынку, не бойся!.. Гэта не страшна, гэта ў нас робіцца чыста!..» Не забыцца і пра таго, які за сорак год працы навучыўся, не гледзячы, механічна, пападаць ключом у замочныя шчыліны камер. Трэці быў вельмі карэктны, з задаткамі гумарыста. Калі ён зімою, у люты мароз, гнаў у лазню марна апранутых пакутнікаў і чуў іх скаргі на холад, адказваў спакойна і весела: «Панове, не хвалюйцеся: у маі будзе значна цяплей...»

У гэтых умовах снежаньскім ранкам дваццаць шостага года ўспыхнула галадоўка. Яна трывала восем дзён. Голадам палітвязні Лукішак дэманстравалі сваю салідарнасць з англійскімі вуглякопамі, што забастоўкай змагаліся з наступам капіталу. На трэці дзень, спалоханая весткай пра хуткае наведанне Лукішак лейбарысцкай дэлегацыяй, адміністрацыя турмы вырашыла ліквідаваць галадоўку. У дапамогу турэмшчыкам пракурор прывёў сто пяцьдзесят паліцэйскіх.

Адзін з былых удзельнікаў галадоўкі, пажылы быценьскі калгаснік Іван Рыгоравіч Ляўчук расказвае:

— У камеры тады сядзела нас дваццаць дзевяць чалавек. Убачыўшы праз акно паліцыю, мы забарыкаваліся ложкамі. Але яна ўсё роўна ўварвалася. Мы пабраліся за рукі — яны разарвалі наша кальцо. Пагналі праз кардон паліцыі па калідоры. Білі. Я азірнуўся — далі мне нечым па скроні, я і самлеў. Ачуняў у адзіночцы. Сеў. Нешта цёплае коціцца па твары, капае на руку... Запаліў сярнічку — кроў... І ўвесь я ўкачаны, у пыле. Усё баліць... Потым толькі

даведаўся, што на калідоры, калі я ўпаў, мяне моцна білі і, непрытомнага, скацілі па сходах з другога паверха ўніз... А лейбарыстам, калі яны потым прыйшлі, стражнікі паказвалі свае знарок забінтаваныя рукі. «Нас,— кажуць,— камуністы білі трэпамі...» Такімі, ведаеце, драўлянымі сандалямі...

Пасля, сам-насам са сваім спадарожнікам, я спытаўся:

— Вас тады, Рафаіл Іванавіч, білі?

— Ну, вядома.

І ўсё. Расказана.

Эпілогам галадоўкі быў суд над групай палітвязняў, якія «пад кіраўніцтвам Мікалая Кузьміча»... збівалі адміністрацыю!.. Васьмі таварышам дадалі па тры-чатыры гады зняволення.

Тры «бунтары», якім і так хапала казённых гадоў, адпраўлены былі неўзабаве на самы захад Польшчы, у Равіч.

Расказваючы пра аднаго з найбліжэйшых сяброў майго героя, у нарысе «Сэрца камуніста», я многа гаварыў пра равіцкую турму. Калі не адзіным, дык галоўным зместам жыцця такіх, як Павел Жалезняковіч і Рафаіл Сяржант, была там вучоба, упартая праца над сабой і барацьба супраць узаконенага зверху самавольства турэмнай адміністрацыі.

І Рафаіл Іванавіч з удзячнасцю ўспамінае шэсць тысяч тамоў іх турэмнай бібліятэкі, атрыманых па лініі МОПРа і прывезеных многімі палітвязнямі з волі ў канцы дваццатых гадоў. І яму не хапала дня на адзінокую, заглыбленую гутарку з лепшымі сынамі чалавецтва, і ён прастойваў вечары на табурэце каля акна, праз якое свяціў у камеру вялікі — «каб ніхто не ўцёк»— вулічны ліхтар. І яму не забыцца тых, вельмі кароткіх гадзін «шпацыру па кругу», калі яны, па сорак чалавек за раз, ходзячы, слухалі свайго выкладчыка, які чытаў ім палітэканомію. Многа было адукаваных, разумных таварышаў, якія дапамагалі вучыцца ў гэтым, і сапраўды, у той час «народным універсітэце».

Успамінаючы свае чатыры равіцкія гады, Сяржант расказвае пра славуты «бунт» супраць наступлення адміністрацыі на іх турэмную камуну. Пачалося гэтае наступленне яшчэ да гітлераўскага перавароту ў Гер-

маніі; пілсудчыкі не менш ахвотна вучыліся і ў італьянскіх фашыстаў.

Першы дружны адпор палітвязняў нечакана прынёс ім перамогу: адміністрацыя пайшла на сякія-такія ўступкі, каб потым націснуць з новаю сілай. Другі прыбой пратэсту, у ліпені трыццаць першага года, таксама быў названы бунтам.

— І я таксама не валодаў тады нервамі,— усміхаецца гэты, здаецца, надзвычай стрыманы чалавек,— і я лупіў табурэткай па акутых жалезам дзвярах. Ха, ха, ха!.. Кананада, цэлая кананада...

Цяпер я ўжо не пытаюся: «Вас тады, Рафаіл Іванавіч, білі?» Адказ быў бы той самы, што і раней: «Ну, вядома».

Вядома ж, білі. За гэты «бунт» катавалі не горш, як у нясвіжкай дэфензіве за распаўсюджванне ў родных вёсках ленінскай праўды, як у Наваградку — за першамайскую радасць, як на Лукішках — за пралетарскую салідарнасць з англійскім рабочым класам.

Білі, а потым — у ліку семнаццаці найбольш заядлых бунтароў — ноччу, ціхенька адправілі ва вронкаўскую турму.

«Пану тут дрэнна, пан хоча ва Вронкі?» — гэтую пагрозу вельмі добра разумелі ў кожнай польскай турме, за выключэннем адной свентакшыскай, дзе ўмовы былі яшчэ больш бесчалавечныя. Ва Вронкі прывозілі з іншых турмаў самых «безнадзейных» — арганізатараў і кіраўнікоў падполля, буйнейшых тэарэтыкаў і непапраўных бунтароў.

Семнаццаць равіцкіх бунтароў адміністрацыя сустрэла з пашанай. Нягледзячы на позднюю ноч, на вакзал прыйшоў сам начальнік турмы з цэлаю світай пшадоўнікаў і стражнікаў. Маўчанне. Толькі адрывістае карканне каманды. Маўчанне і ў турме. Іх парассаджвалі па розных камерах, у розных павільёнах, аддзеленых адзін ад аднаго высокай, на шэсць метраў, сцяной, толькі з брамкамі для варты.

Больш года не чуў Рафаіл ніводнага чалавечага слова, апроч скупога крыку турэмшчыкаў. Тут ён для іх пазбыўся не толькі ўсякай годнасці чалавека, а нават і свайго чалавечага імя,— стаў толькі носьбітам нумара сваёй камеры. Камень, цэментаваная падлога,

пад самай цэментавай столлю — матавае шкло акна з маленькай форткай. Улетку адны, у камерах, што ад сонца, задыхаюцца, другія, дзе вокны на поўнач, мерзнуць. Такой была яго камера, куды «праменні сонца не заглядвалі з часоў самога Бісмарка». Нават у ліпеньскую спёку вязень № 30 ратаваўся бясконцым адмерваннем тых самых чатырох крокаў. На шпацыр выводзілі па дванаццаць чалавек, пятнаццаць метраў адзін за адным, пад пільным вокам стражнікаў — збоку і зверху, з вышкі. Ні гуку, толькі шорганне ног... Ад голаду нават і ён, калісьці проста асілак, тут неўзабаве адчуў, што не можа хадзіць.

— Саджуся на табурэт і п'ю ваду, чакаючы вячэры... Снедання за ноч дачакацца бывала лягчэй: хоць закурыш цішком, пад коўдрай...

— На шостым месяцы такога жыцця я пачуў аднойчы прарэзлівы, жудасны крык... Сеня Нос, пажыццёвы вязень, з якім я падружыўся ў Равічы, крычаў праз краты свайго акна: «Газ! Ратуйце, таварышы, газ! Мяне труцяць!..» На крык гэты збегліся стражнікі. Усё заціхла... Яму ўкруцілі коўдрамі галаву, і панеслі хлопца ў сутарэнне, адкуль там, ва Вронках, і гарматны залп не пачуеш...

— Яшчэ праз некалькі дзён сусед па камеры, таварыш Рабіновіч, не ўстаў на ранішні званок. Стражнік Экшта ўварваўся да яго і выкрычаў сваё абурэнне ўжо над мерцвяком... Заўважыўшы памылку, супакоіўся: труп для справаздачы ёсць, а рэшта нас не датычыцца. Зноў цішыня...

Цямніца, карцэр, сутарэнне...

Гэта — для самых упартых, як той, напрыклад, з трыццатай камеры.

Цямніцу Рафаіл Іванавіч ведаў яшчэ з Навагрудка. Ва Вронках яны, як і ўсё, зрэшты, прадуманы былі грунтоўна. Вузкі каменны мех з акенцам угары, сантыметраў пяць над зямлёю. Тры голыя дошкі на цэменце. Хлеб і вада. Саджалі туды толькі на двое сутак: больш чалавек не вытрымліваў, слеп. Другім этапам у карным комплексе быў карцэр — чатырнаццаць сутак. Трохі лягчэй: на трэці дзень гарачая страва, прагулка. Тады ішоў трэці этап — месяцаў два, тры, а то і ўсе шэсць у сутарэнні.

— Там мы сядзелі ў адной бялізне...

— І пацукі ж яшчэ... Брр!..

— Ну, пацукоў не было,— кажа ён і дадае з усмешкай: — Яны не вытрымлівалі.

Пасля паўзы, задумана:

— Усё гэта, зрэшты, вельмі гартуе...

Я яшчэ не стаміўся — моўчкі, глыбока ў душы — любавацца гэтым незвычайным і... такім звычайным, простым чалавекам. Аднак у апошніх словах яго мне чуецца нешта недасказанае... І праўда! Ён устае, робіць свае чатыры крокі па пакоі, паварочваецца да стала, каля якога мы сядзелі.

— Калі б тады нехта прыйшоў да мяне на спатканне, стражнікам прыйшлося б з гэтай прычыны адчыніць і зачыніць роўна дванаццаць дзвярэй...

Ён падыходзіць да акна і, гледзячы паўзверх даху суседняга дома ў блакітна-ружовую глыбіню вячэрняга неба, гаворыць:

— Ні там, ва Вронках, дзе я прабыў пяць год, і ні ў адной з усіх маіх шасці турмаў за ўвесь час ніхто да мяне не прыходзіў...

Гляджу на моцны профіль яго мужнага, зусім не па-старэчы загарэлага твару... Так, відаць, і яму, каго і сябры, хто вярнуўся з ім разам, і самі факты з яго біяграфіі называюць нязломным,— і яму хацелася часамі крыкнуць, як таму Астапу Бульбе, у смяротнай тузе:

«Бацька, дзе ты? Ці чуеш ты?..»

Заўчасна знясілены, бацька памёр, калі Рафаіл быў падлеткам. Браты — было іх у бацькі дзевяць сыноў, больш чым па аднаму на гектар,— разбрыліся па свеце. Найбольш, відаць, любімы — Віктар, які адразу, у Семнаццатым, стаў чалавекам з ружжом, басанож нахадзіўся па розных палях грамадзянскай вайны. Да яго хацелася б звярнуцца, яму б і крыкнуць тое, аблітае крывёй: «Ці чуеш?!.» Ды ён цяпер там, на Савецкай Радзіме... Тут з Рафаілам другі з найбольш любімых — Іван... Не, ужо няма і Ванюшы: яго, з кавернамі ў лёгкіх, адправілі ў грудзёндзскі турэмны шпіталь...

— Маці мая,— чуецца голас ад акна,— за ўсе свае семдзесят год ні разу не была ў Нясвіжы... Дзесяць кіламетраў!..

Ах, праўда,— маці... Там, у Наднямонні.

Прыгранічная Гавязна. От, мястэчка з дзвюма вуліцамі рагаткай, з дзвюма яўрэйскімі крамамі і царквой. Саламяна-драўляныя хаты. Непшанічнае поле — цераспалосіца. На пясчаным гасцінцы — карэлыя бярозы нахіліліся ад стогадовай барацьбы з вятрамі. За полем— сцяна казённага ельніку, куды і яго калісьці ляснік не пускаў з галоднаю каровай. Родная мясціна. Нічым асаблівым не вызначаецца. Як тая шэрая, ціхая вясковая работніца, якая ўсё ж камусьці маці — любімая, адзіная і незабыўная...

Яна памерла на пятым годзе іхняга з Іванам зняволення, не паспеўшы выплакаць вочы. І там, у сутарэннях панскай «заходняй Бастыліі», не было ўжо ў яго ніякай надзеі на тое, што здарыцца цуд,— знойдуцца неяк ці набяруцца тыя два-тры кроўныя дзесяткі злотых, і яна прыедзе. Пройдзе ціха, прыгнутая ліхалеццем, праз усе дванаццаць дзвярэй, што аддзяляюць яго ад свету, і хоць на некалькі хвілін пакажа яму праз драцяную сетку свой ненаглядны, паараны баразнамі гора твар...

— Немагчыма забыцца пра тое...— зноў чуваць ад акна яго голас.— Пра тыя, скажам, некалькі слоў на адрэзку грашовага перавода... Я — пра Стэфанію Сэмпалоўскую [1], пра цудоўную, высакародную жанчыну, якую мы называлі сваёй маці... А нас былі тысячы. Не памятаю выпадку, каб яна не адгукнулася на чыюнебудзь просьбу. Яшчэ ў Равічы я атрымаў ад яе світэр... Аж надзяваць было шкада — такі харошы. А пранасіў да самага вызвалення... І грошы прысылала некалькі разоў... Слова і ласка яе праходзілі праз усе замкі і краты. І ніколі нельга было не адказаць на гэта слязьмі расчулення...

У сутыкненні з ворагам з гэтага сэрца выкрэшваўся толькі агонь непрымірымай нянавісці і арлінай пагарды.

Уладу сваю над ім выпрабоўвалі начальнікі шасці турмаў.

Асабліва заядлым аказаўся Кухарскі, начальнік грудзёнскай турмы, куды Сяржанта перавялі пас-

---

[1] Стэфанія Сэмпалоўская (1870—1944) — польская прагрэсіўная пісьменніца, педагог і вядомая апякунка палітвязняў — прадстаўляла ў даваеннай Польшчы савецкі Чырвоны Крыж.

ля пяці год Вронак. Усе яны, зрэшты, былі садысты і хамы, якія тут жа, побач са сваімі ахвярамі ладзілі свой тупы, абжорлівы дабрабыт. Напрыклад, начальнік вронкаўскай турмы Дэмбіньскі, якому даручаны быў ганаровы абавязак забеспячэння пакутамі многіх соцень лепшых людзей краіны, займаў пры самой турме кватэру з чатырнаццаці пакояў, меў сем гектараў саду і шэсць сажалак, у якіх рэшткамі... арыштанцкай яды адкормліваліся карпы. У Кухарскага дом быў не горшы; саду, праўда, мелася трошкі менш, а рыбы не было; затое ж ён трымаў на «арыштанцкіх рэштках» цэлую птушкаферму, даволі бойка гандлюючы яйкамі. І ў яго, як усюды, усё даглядалі вязні. У адносінах да іх Кухарскі пераўзышоў усіх сваіх, вядомых Сяржанту, калегаў. Будучы намеснікам начальніка варшаўскага «Павя́ка» ў канцы дваццатых гадоў, ён вызначыўся там арганізацыяй «крывавай лазні» для палітвязняў і за гэта пайшоў на павышэнне. Патрыятызму ў гэтым было няшмат. Грудзёндзскі намеснік Кухарскага, Масалкоўскі, якога турма празвала «Смокам» (драконам), вельмі дастойна спаборнічаў са сваім шэфам у здзеках над камуністамі. А ў верасні 1939 і сам ён не ўцёк, і вязня ніводнага не выпусціў: усіх перадаў гітлераўцам, прапануючы і сябе, у якасці вопытнага спецыяліста...

Дарэчы, тады і загінулі Іван Сяржант і Сеня Нос...

Рафаіла Сяржанта Кухарскі сустрэў па-свойму. Даў яму спачатку два тыдні «каранціннага» карцэру, пасля пагартаў тоўстую справу «бунтара» і пераканаўся, што гэтага будзе, бясспрэчна, замала. Прасядзеў стольк і год і захаваў упартасць і нават здароўе? Не, гэта непарадак!.. Знайшліся правакатары, якія пачалі даносіць яму пра ўсе Сяржантавы антыдзяржаўныя выступленні.

А выступленні такія былі. Напрыклад, калі пілсудчыкі задраліся з Літвой і газеты іх затрубілі пра «марш на Коўна», вязень Сяржант, ды яшчэ спасылаючыся на Лелевеля[1], назваў гэты марш «злачынствам у квадраце». І гэта ў агульнай камеры. Было яшчэ і блюзнерства: ён гаварыў усякае на ксяндзоў...

---

[1] Іахім Лелевель (1786—1861) — выдатны польскі гісторык і прагрэсіўны грамадскі дзеяч.

Калі вязня Сержанта прыгналі ў канцылярыю, перад светлыя вочы рыжага, плюгавенькага хама з бародкай, ён — гэты бунтар — стаяў зусім спакойна. Яшчэ і ўсміхаўся, бальшавік!.. Пры чым тут Лелевель? Ды пры тым, што раздзел Польшчы трыма манархамі ў канцы васемнаццатага стагоддзя ён назваў злачынствам. А цяпер трыццацітрохмільённая Польшча хоча напасці на двухмільённую Літву — семнаццаць чалавек на аднаго! — таму і злачынства ў квадраце. А пры чым тут ксяндзы? Што ж, каб доўга не гаварыць, спашлёмся хоць бы на Бой-Жаленскага [1]. Ён называе ксяндзоў «труціцелямі», а чытаць яго нават і тут не забаронена.

Пану Кухарскаму, каб не паддацца ў гэтым няроўным паядынку, заставалася адно: выкарыстаць сваю начальніцкую прэрагатыву. Яна была выкарыстана: вязень Сяржант атрымаў поўную порцыю: двое сутак цямніцы, чатырнаццаць — карцэру і шэсць месяцаў сутарэння.

Гэта была не апошняя іх сустрэча. За тры гады прабывання ў грудзёндзскай турме Сяржант сядзеў у сутарэнні васемнаццаць месяцаў.

— Няма ліха без дабра,— усміхаецца Рафаіл Іванавіч.— У Грудзёндзы я пазнаў яшчэ аднаго цудоўнага таварыша, Браніслава Спыхая, якога мы ведалі тады як Сабчынскага, па псеўданіму. Які гэта быў чалавек! Сапраўдны тып польскага пралетарыя, рэвалюцыянера. Рабочы з металургічнага завода «Астровец». У войску афіцэр спытаў яго аднойчы, на «славеснасці»: «Спыхай, хто такія бальшавікі?» І Бронак — ха, ха, ха! — адказаў: «Гэта, пане паручнік, рабочыя і сяляне, якія б'юць буржуяў!..» У падполлі працаваў ён разам з братам, Уладкам; у радамскай турме сядзеў — толькі праз дзве ці тры камеры — разам з маці. «Грыпсы» пісалі адно аднаму, перастукваліся. У грудзёнскім сутарэнні Бронак нажыў туберкулёз пазваночніка. Ад яго пасля і памёр, на савецкай зямлі, не дажыўшы да дня вызвалення сваёй айчызны... Добра было з такімі, як ён, людзьмі!..

За чатырнаццаць год зняволення Рафаіл Сяржант

---

[1] Тадэвуш Бой-Жаленскі (1874—1941) — вядомы польскі пісьменнік.

не менш дзесяці прасядзеў у адзіночцы, каля чатырох — у цямніцы, карцэры і сутарэнні.

Там чалавек быў адзін, без баявых таварышаў, толькі з самім сабою...

Тады з ім была яго вера. Вера ў справу, дзеля якой варта жыць і змагацца, пакутаваць і паміраць.

## ЗАКАНЧЭННЕ ПЕРШАГА РАЗДЗЕЛА

...«Кажаш, многа работы. Я ведаю цябе, ты — сумленны рабацяга, для цябе работы хопіць».

Гэтыя простыя, адрасаваныя майму герою, словы з пісьма яго франтавога друга можна было б паставіць у пачатку нарыса, як эпіграф. Рафаіл Іванавіч Сяржант і ў звычайнай, не заўсёды прыкметнай працы і ў гераічнай барацьбе быў перш за ўсё сумленным работнікам.

Вярнуўшыся з турмы, перамераўшы ўсю Польшчу на знясіленых, непаслухмяных нагах, ён адпачываў у братавай хаце толькі два дні. На трэці — пайшоў у Нясвіж, у райком партыі, каб даведацца пра сваё месца ў страі будаўнікоў савецкага ладу. Быў некаторы вопыт: да белапольскай акупацыі ён працаваў старшынёй Гавязнянскага валвыканкома. Прызначылі дырэктарам нядаўна нацыяналізаванай прадзільна-ткацкай фабрыкі. Ды як толькі яна была адкапана з-пад снегу і пушчана ў рух, дырэктара паклікалі на высокае месца: вылучылі кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР па Лідскай выбарчай акрузе.

— Вазілі мяне па вёсках, як мядзведзя,— успамінае ён з добрым, умудроным гумарам.— Пасля адзіночкі, дзе мы гаварылі толькі сценам ды кратам, тут можна было нагаварыцца з людзьмі ўдосталь...

Потым — Масква, Крэмль... Разам з якімі людзьмі!.. Чалавек, раманамі якога ён зачытваўся ў камеры,— сам Аляксей Талстой, папыхваючы люлечкай, распытваў яго пра жыццё ды пра настрой у Заходняй Беларусі...

Прыехаў з першай сесіі — прапанавалі застацца ў аблвыканкоме, намеснікам старшыні. Пачаў адпрошвацца: ці не лепш яму папрацаваць яшчэ ў раёне,

больш акліматызавацца, павучыцца... Не згадзіліся таварышы. Палічылі гэта, відаць,— ат сабе! — скромнічаннем... Некаторым было, напрыклад, незразумелым і тое, чаму гэты — цалкам заслужаны — таварыш «трошкі рысуецца»: не ўзяў трохпакаёвай кватэры ў цэнтры, а пайшоў у адзін пакой, на глухую ўскраіну...

Здзівіўся таксама і разгубіўся спачатку козельскі райваенком, калі эвакуіраваны ў Калужскую вобласць член урада, ужо мужчына пад пяцьдзесят, прыйшоў да яго прасіцца на фронт...

Ёсць рэчы, якія самі за сябе гавораць дастаткова красамоўна.

Палітрук стралковай роты. Восень і пачатак зімы 1941 года. Акопы на поўнач ад Курска. Камісар палявога шпіталя. Бясконцыя крыкі, стогны, кроў. Бяссонныя ночы, суткі. Ніякага права на сум, а тым больш адчай: вера, пакуль што толькі вера ў перамогу... Першыя радасці перамогі. Нялёгкі, але трыумфальны марш ад Падмаскоўя да Патсдама. Крэмль,— сесія пераможцаў!..

Дэмабілізаваўся Рафаіл Іванавіч у верасні 1945 года. І ўжо назаўтра пасля прыезду ў Баранавічы пайшоў на працу. Неўзабаве прыйшлі бурныя месяцы калектывізацыі, нястомныя паездкі старшыні райвыканкома па родных нясвіжскіх мясцінах. Пасля — як начальнік абласнога ўпраўлення сельскага і калгаснага будаўніцтва — пабываў у сотнях маладых калгасаў, дапамагаючы былым франтавікам і партызанам. Цяпер, ад часу ліквідацыі Баранавіцкай вобласці,— непрыкметная за гарадскою рысаю пасада сакратара гарсавета.

...На зялёнай ускраіне значна пацішэлых за апошні час Баранавіч стаіць у садзе драўляны светлавокны домік. Чуваць вясёлы шчэбет трэцякласніцы; чуваць задумлівыя, нібы нават трывожныя акорды піяніна: старэйшая дзяўчынка хвалюецца, ці пройдзе яна той конкурс на фізмат... Сад малы, але багаты, асабліва калі падумаеш, што ты сам — раніцою ды вечарам — давёў яго да такой прыгажосці. Яблыні, і праўда, «сільныя, як раса»: не відаць ні ствалоў, ні галля, адна зялёная кудзеля, густа ўтыканая яблыкамі. Добра сядзіцца тут увечары, пасля шумнага гарсавецкага дня;

добра думаецца ўранні, у водары вечнай і вечна новай свежасці — пра мінулае ды пра заўтрашні дзень...

Заслужана пагодлівая старасць.

Але ж і на пенсіі ён не здаецца, працуе.

Па-народнаму кажучы, сумна было б без работы.

Бо на якой бы ты працы ні быў — ці вышэй, ці ніжэй,— усюды людзі.

А ім трэба, і радасна памагаць.

*1958*

# ЗМЕСТ

**Брыль Я.**

**Б 89** Збор твораў. У 5-ці т. Т. 3. Птушкі і гнёзды: Раман; Граніца: Раздзелы з рамана; Нарысы.— Мн.: Маст. літ., 1980.— 528 с., 4 л. іл.

У пер.: 2 р.

Трэці том складаюць раман «Птушкі і гнёзды», раздзелы з рамана «Граніца», нарысы «Нёманскія казакі», «Сэрца камуніста», «Партрэт старэйшага таварыша».

Б $\frac{70303—194}{М\ 302(05)—80}$ падпіснoе — ББК 84Бел7 — Бел 2

*Иван Антонович Брыль*
*Собрание сочинений в пяти томах*
ТОМ ТРЕТИЙ
Птицы и гнезда
Роман
Граница
Разделы из романа
Очерки
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке
Рэдактар А. А. Сляпцова. Мастак Л. Я. Прагін. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Н. А. Давыдзенка.
ІВ № 539
Здадзена ў набор 12.10.79. Падп. да друку 26.09.80. АТ 04705. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 27,72+0,42 укл. Ул.-выд. арк. 27,68. Тыраж 13 000 экз. Зак. 2619. Цана 2 р.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.
Паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.